НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ»



# МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

## кніга II






Мінск
«Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі»
2009

УДК 94(476.7)
ББК 63.3(4 Беи)
Г20



Пад навуковай рэдакцыяй члена-карэспандэнта
Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі А.І.Лакоткі

Выпуск выдання ажыццёўлены па заказу і пры фінансавай падтрымцы
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Г20 **Гарады і вёскі Беларусі** : Энцыклапедыя. Т 6. Кн. 2. Магілёўская вобласць / рэдкал. : Т.У.Бялова (дырэктар) [і інш.]. — Мінск : Беларус. Энцыкл. імя П.Броўкі, 2009. — 592 с.: іл.

ISBN 978-985-11-0440-2.

Шматтомнае энцыклапедычнае выданне, у якім на падставе навейшых архіўных і іншых крыніц адлюстраваны гісторыя і сучасны эканамічны і культурны стан усіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак Беларусі — 6 абласцей, 118 раёнаў, а таксама ўсіх населеных пунктаў кожнага раёна, уключаючы і тыя, якія зараз перасталі існаваць. Шосты том выдання прысвечаны населеным пунктам 7 раёнаў Магілёўскай вобласці.

**УДК 94(476.7)**
**ББК 63.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-11-0440-2 (т. 6, кн. 2)**
**ISBN 978-985-11-0411-2**

# КІРАЎСКІ РАЁН

Размешчаны ў паўд.-зах. частцы Магілёўскай вобл. Утвораны 12.2.1935 г. з частак тэр. Бабруйскага, Быхаўскага і Рагачоўскага р-наў, уключаў 16 сельсаветаў: Асаўніцкі, Баравіцкі, Бераснёўскі, Гарадзецкі, Грыбавецкі, Казуліцкі, Капусцінскі, Лешчанскі, Любоніцкі, Мышкавіцкі, Падрэцкі, Падсельскі, Паўлавіцкі, Старцоўскі, Харлапавіцкі, Чыгірынскі. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1935 г. ў раёне было 69 школ, у якіх атрымлівалі адукацыю 9467 вучняў. У 1936 г. ў раёне 282 населеныя пункты, у якіх пражывала 52 027 чал. З 20.2.1938 г. раён у Магілёўскай вобл. У 1939 г. тут 53,7 тыс. чал., налічвалася 106 калгасаў, 2 МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў Кіраўску і раёне 1495 чал. Дзейнічалі Кіраўскія падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ (5.10.1942–27.6.1944), Кіраўская ваенна-аператыўная група, партыз. брыгады 9-я Кіраўская, 5-я Клічаўская, 8-я Рагачоўская, 61-я; партыз. палкі 152-і, 208-ы імя Сталіна,



277-ы, 425-ы, 810-ы, асобныя партыз. атрады 25-ы, 115-ы, 225-ы, 278-ы, 435-ы, 620-ы імя Чапаева, 830-ы. Ням.-фаш. захопнікі правялі на тэр. раёна карныя аперацыі «Прыпяцкія балоты», «Рыга», «Майскі хрушч № 3–4», «Майскі хрушч», «Восеньскае паляванне», спалілі населеныя пункты Ахоцічы, Бераснёўка, Боркі, Гогаль, Гарадзец, Грыбава Слабада, Дзяржынскі, Доўгае Поле, Закрынічча, Збышын, Кабылянка, Казулічы, Кокатава, Колбава, Кострыцкая Слабодка, Кострычы, Чырвоны Араты, Нямкі, Новы Гарадок, Хватаўка, Хонава, Чыгірынка. Вы-

*Санаторый «Рассвет» у Кіраўскім раёне.*




*Пераможца фестывалю «Дажынкі-2006» камбайнер СВК «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага М.І.Белакурскі.*



*Святкаванне 70-годдзя з дня ўтварэння Кіраўскага раёна. 2005 г.*






*М.К.Анішчанка.*



*С.Дз.Баркоўскі.*

*Мемарыял па веласпорце імя К.П.Арлоўскага. 2006 г.*

*Месца адпачынку каля аўтадарогі Быхаў—Кіраўск.*

ходзіла падп. газета «Кіравец». Раён вызвалены ў канцы чэрв. 1944 г. войскамі 1-га і 2-га Бел. франтоў у ходзе Бабруйскай аперацыі 1944 г. З 20.9.1944 г. раён у Бабруйскай вобл., з 8.1.1954 г. ў Магілёўскай вобл. Пл. раёна 1,3 тыс. км$^2$. Насельніцтва 24,2 тыс. чал. (2007), гарадскога 35%. Асн. насельніцтва — беларусы (83,1%), жывуць таксама рускія (15,3%), украінцы (1%) і інш. Цэнтр раёна — г. Кіраўск. У раён уваходзяць 122 населеныя пункты. Адміністрацыйна падзяляецца на 9 сельсаветаў: Баравіцкі, Грыбавецкі, Дабаснянскі, Казуліцкі, Любоніцкі, Мышкавіцкі, Паўлавіцкі, Скрыпліцкі, Стайкаўскі.

Па тэр. раёна праходзяць аўтадарогі Магілёў—Бабруйск, Мінск—Гомель. Раён пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у 1986 г. 15 населеных пунктаў знаходзяцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. Паверхня раўнінная. Раён размешчаны ў паўд. частцы Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Пераважаюць вышыні 160—170 м над узроўнем мора. Макс. вышыня 196,4 м (на ПнЗ ад в. Казулічы). З карысных выкапняў у раёне ёсць торф, мел, пясчана-гравійны матэрыял, пяскі, гліны і суглінкі для грубай керамікі. Па тэр. раёна працякаюць рэкі: Бярэзіна з Ольсай і Алой; Друць (на якой размешчана Чыгірынскае вадасховішча) з Вепрынкай, Хмялінкай, Белай; Добасна (прыток Дняпра). Буйнейшыя азёры Бярозавае, Жывін.

42% тэр. раёна знаходзіцца пад лесам. Лясы пераважна сасновыя, яловыя, бярозавыя. Балоты і забалочаныя землі займаюць 1,6% тэр. раёна, буйнейшыя балоты: Ганчанскае, Вялікае, Заліцвінскі Мох. На тэр. раёна знаходзяцца батанічныя помнікі рэсп. значэння: участак лесу з каштоўнымі пародамі дрэў (сасна веймутава, лістоўніца сібірская) у Чыгірынскім лясніцтве, парк у в. Жылічы.

С.-г. ўгоддзі займаюць 40% тэр. раёна. Глебы с.-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, тарфяна-балотныя і інш. Развіта малочна-мясная жывёлагадоўля, свінагадоўля. Вырошчваюць збожжавыя і кармавыя культуры, бульбу, лён. Развіта садаводства. Працуюць с.-г. вытв. кааператывы, унітарныя с.-г. камунальныя прадпрыемствы, фермерскія гаспадаркі. Дзейнічаюць прадпрыемствы харч. і лёгкай прам-сці. Працуе Чыгірынская ГЭС.

У 2006 г. ў раёне прафес. ліцэй, Жыліцкі с.-г. каледж, 11 сярэдніх, 1 базавая, 6 комплексаў базавая школа-сад, 1 пач. школа, 3 школы мастацтваў, 1 муз. цэнтр пазашкольнай работы, дзіцяча-юнацкая спарт. школа, 15 дашкольных устаноў, цэнтр вольнага часу, 25 клубных устаноў, 14 кінаўстановак, 25 б-к; 2 бальніцы, 4 амбулаторыі, 20 фельч.-акушэрскіх пунктаў. Санаторый «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага, зона адпачынку рэсп. значэння Чыгірынка, мясц. значэння — Любонічы.







Дзейнічае комплекс-музей на базе Жыліцкага палацава-паркавага ансамбля. Мемарыял Перамогі ў в. Мышкавічы. У раёне 11 рэліг. абшчын, у т.л. 6 праваслаўных, 2 хрысціян веры евангельскай, 2 евангельскіх хрысціян-баптыстаў. Выдаецца газ. «Кіравец». Помнікі археалогіі: стаянкі каменнага веку (вёскі Падсёлы, Прыбар, Чыгірынка), гарадзішчы жал. веку (вёскі Гарадзец, Кострыцкая Слабодка, Любонічы, Паўлавічы), курганныя могільнікі (вёскі Валосавічы, Гарадзец, Любонічы, Пацава Слабада, Прыбар, Рудня, Чыгірынка). Брацкія магілы сав. воінаў і партызан (вёскі Грыбавец, Жылічы, Любонічы, Падсёлы, Паўлавічы, Пацава Слабада, Стаўпішча, Хвайніца), магілы ахвяр фашызму (вёскі Боркі, Збышын, Казулічы, Кострыцкая Слабодка, Любонічы, Новыя Стаўпішчы, Пясцова, Хвайніца). Помнікі: у гонар партызан (пас. Скачок), К.П.Арлоўскаму (в. Мышкавічы). У Кіраўскім р-не нарадзіліся Героі Сав. Саюза А.М.Рабцэвіч (1898—1961) і А.І.Мельнікаў (1914—43), Герой Сац. Працы Е.П.Дрозд (н. 1935).

**КІРАЎСК** — горад, цэнтр раёна, за 25 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Гомель, 87 км ад Магілёва, на аўтадарозе Магілёў—Бабруйск, на ПдЗ р. Ала (прыток Бярэзіны). 8,6 тыс. чал. (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 17 ст. Пачатак яму паклала в. Старцы — цэнтр Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. Непадалёку былі с. Качэрыцы (вядома з 16 ст., у 1621 г. 20 двароў, царква) і аднайменны маёнтак, гаспадар якога валодаў 220 га зямлі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1844 г. в. Старцы (920 двароў, 175 жыхароў) у складзе маёнтка Качэрычы. У 1845 г. засн. шклозавод (32 рабочыя). У 1847 г. 45 двароў, 245 жыхароў. У 1882 г. пачала дзейнічаць вінакурня. У 1897 г. 72 двары, 541 жыхар, хлебазапасны магазін, піцейны дом, заезны дом. У 1907 г. 93 двары, 609 жыхароў. У 1909 г. адкрыта Старцаўская земская школа (нар. вучылішча), для якой у 1913 г. пабудавана ўласнае памяшканне.

У студз. 1918 г. акупіраваны войскамі польскага корпуса ген. Доўбар-Мусніцкага, з мая 1918 г. герм. войскамі. Для барацьбы супраць акупантаў быў арганізаваны партыз. атрад (кіраўнік К.П.Арлоўскі). У пач. вер. 1918 г. пачаў дзейнічаць рэв. к-т (Т.Н.Барадуленка, браты І.М. і К.М. Русанавы, К.П.Арлоўскі, А.М.Рабцэвіч, Л.Д.Іваноў). Рэўком дапамагаў Чырвонай Арміі харчамі, абмундзіраваннем, перадаў 153-му пях. палку 200 галоў буйной рагатай жывёлы і накіраваў 150 добраахвотнікаў з ліку рэв. моладзі. 28.11.1918 г. вёска вызвалена ад акупантаў. У пач. 1920-х г. створана 4-гадовая школа (у 1923 г. 190 вучняў з вёсак Старцы, Стараселле, Селішча, Кукіна, Хамі-



*А.І.Бычкоў.*



*Ф.Ф.Дабравольскі.*



*Панарама г. Кіраўск.*






*Стэла пры ўездзе ў г. Кіраўск.*



*Я.С.Дабрынскі.*

чы). З 1921 г. дзейнічаў вадзяны млын, у 1922 г. адкрыта хата-чытальня, у 1923 г. — урачэбны ўчастак. У 1926 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі, пачало дзейнічаць паштовае аддз. У маі 1928 г. створана с.-г. арцель. На месцы былых хутароў непадалёку ад в. Старцы ў 1934 г. засн. пас. Кіраўск. 12.2.1935 г. пастановай Цэнтр. Выканаўчага К-та і Савета Нар. камісараў БССР арганізаваны Кіраўскі р-н (названы ў гонар С.М.Кірава). Раённым цэнтрам стала в. Старцы, якая 20.4.1939 г. перайменавана ў в. Кірава, а Старцаўскі с/с — у Кіраўскі. З 15.1.1938 г. раён у Магілёўскай вобл. 15.11.1955 г. в. Кірава злілася з пас. Кіраўск. У 1936 г. пабудаваны амбулаторыя, аптэка, хлебапякарня, пачала дзейнічаць МТС (у 1937 г. 51 трактар). У 1937 г. пасёлак радыёфікаваны, 7-гадовая школа пераўтворана ў сярэднюю. У гэты час у школе настаўнічаў П.Панчанка — будучы нар. паэт Беларусі.

У Вял. Айч. вайну 30.6.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў Кіраўску і раёне 1495 чал. Летам 1941 г. была створана антыфаш. група (кіраўнік Ц.С.Каржоў). У крас. 1942 г. значная частка падпольшчыкаў склала ядро партыз. атрада імя С.М.Кірава (камандзір С.І.Свірыд). 26.6.1944 г., развіваючы наступленне на З, воіны 95-й танкавай брыгады (камандзір А.І.Кузняцоў) пры падтрымцы авіяцыі вызвалілі пасёлак. 29.6.1944 г. каля пасёлка адбіла 14 варожых контратак рота пад камандаваннем А.І.Чарныша (удастоены звання Героя Сав. Саюза). Каля будынка бальніцы пахаваны 77 сав. воінаў, якія памерлі ў чэрв.—ліп. 1944 г. ад ран у палявым шпіталі. З 20.9.1944 г. ў складзе Бабруйскай вобл., з 8.1.1954 г. зноў у Магілёўскай вобл. 15.11.1955 г. вёскі Кірава і Стараселле ўвайшлі ў склад пас. Кіраўск, які 17.11.1959 г. стаў гар. пасёлкам. У хуткім часе пасля вызвалення аднавіліся тэлегр. і тэлеф. сувязь, пачалі дзейнічаць радыёвузел, МТС (рэарганізавана 31.3.1958 г.), лесапільня, млын, арцель «Зара». У 1949 г. з Бабруйска праведзена лінія электраперадач, якая паклала пачатак электрыфікацыі раёна, пачалося будаўніцтва ільнозавода, у 1954 г. ўступіў у строй агародні-

*Вуліца Кірава ў г. Кіраўск.*



*Магазін «Утульны дом» у Кіраўску.*





насушыльны з-д, у 1957 г. маслазавод і міжкалгасная будаўнічая арг-цыя. Паводле перапісу 1959 г. 2980 жыхароў. У 1971 г. 4,7 тыс. жыхароў. У 1977 г. ў склад гар. пасёлка ўключана в. Селішча. У горадзе размешчаны прадпрыемствы харч. (кансервавы з-д, філіял Магілёўскага малочнага камбіната), дрэваапрацоўчай, лёгкай (ААТ «Кіраўск-Лён») галін прам-сці, дарожныя, рамонтныя, гандл. і будаўнічыя арг-цыі, к-т каап. прам-сці. Дзейнічае раённая племянная станцыя. У Кіраўску дзейнічаюць ПТВ с.-г. вытв-сці, 2 сярэднія і дзіцяча-юнацкая спарт. школы, школа мастацтваў, 3 дзіцячыя сады. Працуюць 2 б-кі, Дом культуры, цэнтр пазашкольнай работы, стадыён, клубы ДТСААФ, тэр. цэнтр сац. абслугоўвання насельніцтва, бальніца, паліклініка, 2 аптэкі, раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. Працуюць к-т быт. абслугоўвання, гасцініца, аддз. сувязі, пункт калектыўнага карыстання і інш.

Першы ген. план забудовы распрацаваны ў 1972 г. Магілёўскім філіялам Белдзяржпраекта. Новы ген. план распрацаваны ў 1980 г. Бел. навукова-даследчым праектным ін-там горадабудаўніцтва. Рост гар. пасёлка абумоўлены развіццём прам-сці, пашырэннем функцый арганізацыйна-гасп. цэнтра раёна і памераў культурна-быт. абслугоўвання насельніцтва. Аснову планіровачнай структуры складаюць вул. Гагарына (частка аўтадарогі Магілёў—Бабруйск), якая праходзіць праз гар. пасёлак з ПнУ на ПдЗ, і вул. Валадарскага (частка аўтадарогі на г.п. Клічаў), забудаваныя 2—5-павярховымі мураванымі дамамі. На Пн размяшчаецца цэнтр. частка пасёлка з дробнаквартальнай прамавугольнай сеткай вуліц і пераважна аднапавярховай драўлянай забудовай. На ПнЗ вул. Кірава, дзе ўзведзены мураваныя грамадскія будынкі, прадпрыемствы гандлю і культурна-быт. абслугоўвання насельніцтва.

На перакрыжаванні вуліц Кірава і Першамайскай цэнтр. плошча. Прам. прадпрыемствы разгрупаваны ў розных частках пасёлка на ПдЗ і ПнУ. На Пн зоны адпачынку «Бераснёўка» і «Перасоленка». Паводле генплана 1998 г. горад развіваецца ў паўн. і ўсх. напрамках, праду-



*Кіраўскі раённы Дом культуры.*



*Г.Л.Комар.*



*Заалагічны сад у г. Кіраўск.*



*Будынак раённага аддзела МНС у Кіраўску.*

*Кіраўскі раённы цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.*

*Кіраўскі раённы вузел паштовай сувязі.*





*Крыніца ў г. Кіраўск.*

*Памятны знак воінам-інтэрнацыяналістам у г. Кіраўск.*

*Крыніца па вуліцы Арлоўскага ў г. Кіраўск.*

*Будынак Кіраўскага раённага выканаўчага камітэта.*

гледжана ператварэнне часткі вуліцы Кірава ў пешаходную зону з бульварамі, вядзецца індывідуальная забудова сядзібнага тыпу па вуліцах Будаўнікоў, Паўночнай, Навасёлаў, Ф.Скарыны і інш., рэканструкцыя і добраўпарадкаванне вуліц Пушкіна, Савецкай і інш., пабудаваны лячэбны корпус раённай бальніцы, будынкі Беларусбанка, цэнтра сац. абароны насельніцтва, Пакроўская царква. Помнік садова-паркавага мастацтва — парк, у якім пасля рэканструкцыі (2000-я г.) абсталяваны дзіцячыя пляцоўкі, фантан і інш. Выдаецца раённая газ. «Кіравец» (з















*Гасцініца ў г. Кіраўск.*

*Аддзяленне АСБ «Беларусбанк» у г. Кіраўск.*

18.3.1935 г.), вядзецца раённае радыёвяшчанне.

З 4.6.2001 г. горад. У 2001 г. зацверджаны сучасны герб Кіраўска: у блакітным полі на зялёнай зямлі стаіць залаты сноп жыта з сярэбранай перавяззю. У 2002 г. 8,8 тыс. жыхароў.

**АЛА** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 6 км на Пн ад Кіраўска, 33 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 88 км ад Магілёва, на паўн. ускраіне р. Ала (прыток Бярэзіны), якая пачынаецца непадалёку. Побач аўтадарога Магілёў—Бабруйск. 15 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

*Крыніца ў г. Кіраўск.*

*Парк у г. Кіраўск.*

*Манумент у гонар 60-годдзя з дня вызвалення Кіраўскага раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.*

*Алея Славы ў г. Кіраўск.*









У 1838 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., 10 рэвізскіх душ. У 1897 г. ў Качэрыцкай вол., 32 двары, 193 жыхары. У 1909 г. 209 жыхароў, у 1917 г. 34 двары, 239 жыхароў. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. У 1932 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 45 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. спалілі 40 двароў, загубілі 25 жыхароў. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1961 г. да вёскі далучылася в. Колас.





*Заалагічны сад у г. Кіраўск.*

Паводле перапісу 1959 г. 161 жыхар, у 1970 г. 139 жыхароў. У 1986 г. 47 двароў, 79 жыхароў, у складзе саўгаса «Бераснёўскі» (цэнтр — в. Баравіца). У 2002 г. 32 гаспадаркі, 47 жыхароў, дзейнічалі магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Планіроўка Г-падобная. Дзве ўзаемна перпендыкулярныя вуліцы блізкай да мерыдынальнай і шыротнай арыентацыі забудаваны двухбакова, пераважна драўлянымі традыц. сял. хатамі, пастаўленымі тарцом да вуліцы.

**АСАЎНІК** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 20 км на У ад Кіраўска, 30 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін, 117 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 37 гаспадарак, 79 жыхароў (2007).

У 1897 г. вёска ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ., 49 двароў, 301 жыхар. У 1909 г. 341 жыхар. З 21.8.1925 г. да 26.6.1954 г. цэнтр Асаўніцкага с/с. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 46 двароў, загубілі 63 жыхароў. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце, 6 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 226 жыхароў, у 1970 г. 199 жыхароў. У 1986 г. 49 двароў, 108 жыхароў, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Добасна), базавая школа, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 2002 г. 45 гаспадарак, 100 жыхароў. Планіроўка Т-падобная. Больш працяглая вуліца мае блізкую да шыротнай арыентацыю, забудавана з двух бакоў традыц. драўлянымі сял. хатамі. Перпендыкулярная да яе вуліца мае аднабаковую забудову.

**АХОЦІЧЫ** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 10 км на Пн ад Кіраўска, 36 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 82 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 17 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

У 1838 г. вёска ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У



1847 г. 19 двароў, 117 жыхароў, цэнтр маёнтка. У 1885 г. 29 двароў, 230 жыхароў, царква. Паводле перапісу 1897 г. ў Качэрыцкай вол., 67 двароў, 469 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом. Побач былі аднайменныя маёнтак (2 двары, 19 жыхароў), пасёлак (5 двароў, 35 жыхароў) і паштовая станцыя (1 двор, 5 жыхароў). У 1908 г. ў вёсцы 71 двор, 538 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 12 жыхароў, на хутары Ахоцічы (ён жа Грэбенскае) 2 двары, 19 жыхароў. У 1912 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. ў вёсцы 96 двароў, 549 жыхароў, на хутары 1 двор, 14 жыхароў. У 1919 г. пачала працаваць 4-гадовая школа, якой быў перададзены нацыяналізаваны будынак (у 1923 г. 50, у 1925 г. 80 вучняў). У 1921 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. адкрыта хата-чытальня. У 1932 г. арганізаваны калгас «Пуцілавец». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1944 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 70 жыхароў. Значная частка вяскоўцаў знаходзілася ў грамадз. лагерах, арганізаваных партызанамі. У ваколіцы базіравалася 9-я Кіраўская партыз. брыгада. Паводле перапісу 1959 г. 209 жыхароў, у 1970 г. 180 жыхароў. У 1986 г. 43 двары, 91 жыхар, у складзе саўгаса «Бераснёўскі» (цэнтр — в. Баравіца), магазін. У 2002 г. 25 гаспадарак, 41 жыхар. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі сял. хатамі. Двары пастаўлены шчыльна, пераважна з падзелам на чысты і гаспадарчы. На паўд. ускраіне сад.

**БАГДАНАЎКА** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 13 км ад Кіраўска, 38 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 98 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск.

У 1897 г. ў Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 15 двароў, 85 жыхароў. У 1908 г. 95 жыхароў, у 1917 г. 22 двары, 179 жыхароў. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. У 1932 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 15.12.1943 г. партызаны зрабілі налёт на паліцэйскі гарнізон акупантаў, які размяшчаўся ў вёсцы. У наваколлі дыслацыравалася 9-я Кіраўская партыз. брыгада. Ням.-фаш. карнікі спалілі 30 двароў. У 1961 г. да вёскі далучана в. Конева Ляда. Паводле перапісу 1959 г. 108 жыхароў, у 1970 г. 55 жыхароў. У 1986 г. 2 двары, 4 жыхары, у складзе саўгаса «Бераснёўскі» (цэнтр — в. Баравіца). У 2002 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**БАРАВІЦА** — вёска, цэнтр Баравіцкага с/с, за 10 км на ПнУ ад Кіраўска, 35 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 80 км ад Магілёва, на аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 250 гаспадарак, 680 жыхароў (2007).

У 1897 г. пасёлак (9 двароў, 67 жыхароў) у Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. вёска, 14 двароў, 108 жыхароў. У 1909 г. вяскоўцы звярнуліся да мінскага губернатара з просьбай адкрыць школу, але ім было адмоўлена. У 1911 г. без дазволу сяляне адкрылі школу граматы, якая ў 1913 г. была пераўтворана ў земскую. У 1917 г. 15 двароў, 133 жыхары. У пач. 1920-х г. пачала працаваць 4-гадовая школа (у 1925 г. 93 вучні). З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1929 г. арганізаваны калгас «Свет». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв.



*М.А.Леў.*



*П.С.Мароз.*



*Царква Пакрова Прасвятой Багародзіцы ў г. Кіраўск.*



*На вуліцы в. Баравіца.*



*В.Л.Нікіцін.*

1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942 г. партызаны разграмілі вал. праўленне акупантаў, якое размяшчалася ў вёсцы, і раздалі сялянам 3 т збожжа, нарабаванага фашыстамі, у маі 1944 г. разбілі паліцэйскі гарнізон. 36 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У чэрв. 1944 г. ў вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь. 18 сав. воінаў, якія памерлі ў шпіталі ад раненняў, пахаваны ў брацкай магіле каля школы. У 1957—59 гг. ў калгасе «Радзіма», цэнтр якога быў у вёсцы, выходзіла шматтыражная газ. «За заможнае жыццё». Паводле перапісу 1959 г. 312 жыхароў, у 1970 г. 330 жыхароў. У 1986 г. 284 двары, 752 жыхары. У 1946 г. да вёскі далучаны в. Карчмішча, у 1986 г. — в. Капланаўка. Цэнтр саўгаса «Бераснёўскі», машынны двор, сталярна-цяслярская майстэрня, млын, ветэрынарны пункт, сярэдняя школа, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. ашчаднага банка, аддз. сувязі, сталовая, 4 магазіны. У 2002 г. 267 гаспадарак, 711 жыхароў. У 2007 г. цэнтр СВК «Бераснёўскі», дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна- прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аптэка, аддз. сувязі і Беларусбанка, магазін, сталовая. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1976 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Больш працяглая вуліца (адрэзак аўтадарогі Бабруйск—Магілёў) арыентавана з ПнУ на ПдЗ. На ёй размешчаны мураваныя грамадскія будынкі. Перпендыкулярна да яе падыходзіць вул. Школьная, а за гандл. цэнтрам, з боку лесу — вул. Лясная. У паўн. частцы (б. в. Капланаўка), перпендыкулярна да аўтадарогі ідуць вуліцы Бабруйская, Зарэчная, Маладзёжная. Старая драўляная забудова спалучаецца з сучаснымі мураванымі 1-, 2- і 4-кватэрнымі жылымі дамамі. У зах. частцы невялікі вадаём.

**БАРКІ** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 29 км на ПдУ ад Кіраўска, 22 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 113 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 15 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

У 1897 г. фальварак у Ціхініцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ., 1 двор, 5 жыхароў. У 1909 г. 48 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 69 двароў, 495 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г.

*Будынак школы ў в. Баравіца.*



*Жылы дом у в. Баравіца.*





акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 486 жыхароў. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 216 жыхароў, у 1970 г. 186 жыхароў. У 1986 г. 83 жыхары, у складзе саўгаса-тэхнікума «Жылічы» (цэнтр — в. Жылічы). У 2002 г. 24 гаспадаркі, 44 жыхары, дзейнічаў магазін. Да працяглай шыротнай вуліцы пад вуглом з ПдУ далучаецца кароткая вуліца. Забудаваны двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**БАРСУКІ** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 28 км на У ад Кіраўска, 20 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 99 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск.

У 1909 г. ў Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 12 двароў, 53 жыхары. У 1922 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1927 г. створана с.-г. арцель «Чырвоная Беларусь». У 1934 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 8 двароў, загубілі 7 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 82 жыхары, у 1970 г. 34 жыхары. У 1986 г. 4 двары, 11 жыхароў, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Добасна). У 2002 г. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў. Традыц. драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж кароткай мерыдыянальнай вуліцы.



*Жылы дом у в. Бараўіца.*

**БАРСУКІ** — вёска ў Паўлавіцкім с/с, за 12 км на ПдУ ад Кіраўска, 31 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 103 км ад Магілёва, на ПдЗ штучны вадаём. Побач аўтадарога Кіраўск—Добасна. 110 гаспадарак, 325 жыхароў (2007).

У 1907 г. 12 двароў, 79 жыхароў, у Бортнікаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1934 г. арганізаваны калгас «XVII партз'езд». У чэрв. 1938 г. калгасніца Н.Я.Вінакурава выбрана дэпутатам Вярх. Савета БССР, а на 1-й яго сесіі — членам Прэзідыума Вярх. Савета БССР. Потым яна ўзначаліла калгас і была дэпутатам Вярх. Савета БССР трох скліканняў. За дасягнутыя поспехі калгас у 1940 г. быў удзельнікам усесаюзнай с.-г. выстаўкі. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 32 вяскоўцы загінулі на фронце. На ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі ў 1967 г. насыпаны курган са стэлай на вяршыні. Паводле перапісу 1959 г. 253 жыхары. У 1986 г. 104 двары,



*А.І.Пятруша.*

*Мемарыяльны комплекс на месцы спаленай нямецка-фашысцкімі захопнікамі в. Баркі. 2002 г.*

*Адкрыццё мемарыяльнага комплексу на месцы спаленай нямецка-фашысцкімі захопнікамі в. Баркі. 2002 г.*





344 жыхары, цэнтр калгаса імя В.У.Куйбышава, машынны двор, піларама, пач. школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, 2 магазіны, аддзяленні ашчаднага банка і сувязі. У 2002 г. 100 гаспадарак, 309 жыхароў. У 2007 г. цэнтр СВК «Калгас «Ніва», комплекс дзіцячы сад—пач. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін, сталовая. Ген. план забудовы распрацаваны ін-там «Магілёўграмадзянпраект» у 1978 г. Уздоўж працяглай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна, размешчаны аднапавярховыя мураваныя грамадскія будынкі. Амаль паралельна да яе на З праходзяць яшчэ 2 вуліцы, злучаныя на Пд невялікай шыротнай вуліцай. Забудаваны двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі і мураванымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі.



*І.М.Савіцкі.*



*С.І.Свірыд.*

**БАРЧЫЦЫ** — вёска ў Скрыпліцкім с/с, за 15 км на У ад Кіраўска, 35 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 108 км ад Магілёва, на З р. Добасна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 124 гаспадаркі, 292 жыхары (2007).

У 1816 г. вёска, 22 двары, 106 жыхароў, у Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Ціхініцкай вол., 80 двароў, 678 жыхароў, школа граматы. У 1909 г. 97 двароў, 745 жыхароў, 3 ветракі. У пач. 1920-х г. пачала працаваць 4-гадовая школа (у 1925 г. 95 вучняў). У 1931 г. арганізаваны калгас «Пяцігодка». У 1940 г. 170 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1943 г. спалілі 161 двор, расстралялі 36 жыхароў. Каля вёскі ў 1944 г. лётчык штурмавога авіяпалка малодшы лейтэнант С.А.Далінскі ў складзе шасцёркі штурмавікоў выявіў і падавіў батарэю зенітнай артылерыі ворага, за што ўдастоены звання Героя Сав. Саюза. 57 вяскоўцаў загінулі на фронце, 6 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 617 жыхароў, у 1970 г. 538 жыхароў. У 1986 г. 149 двароў, 337 жыхароў, цэнтр калгаса імя М.І.Кірава, машынны двор, піларама, базавая школа, Дом культуры, 2 магазіны, дзіцячы сад, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, спарт. пляцоўка. У 2002 г. 119 гаспадарак, 274 жыхары. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1978 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». У 2007 г. цэнтр СВК «Калгас «Беларусь», дзіцячы сад, баз. школа, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, сталовая. Асн. жылая забудова сканцэнтравана ўздоўж вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, паралельна да берага ракі. На Пд вуліцу перакрыжоўвае дарога на Кіраўск, абапал якой узведзены мураваныя і драўляныя грамадскія будынкі. Кароткая вуліца, што на Пд ад гал., забудавана мураванымі жылымі дамамі.

**БЕРАСНЁЎКА** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 17 км на ПнУ ад Кіраўска, 39 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 87 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам, на З р. Добасна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

У 1897 г. в. Бераснёўка (яна ж Задабашэнне), 30 двароў, 231 жыхар, хлебазапасны магазін.У 1907 г. ў Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 36 двароў, 238 жыхароў. У 1912 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 43 двары, 283 жыхары. У пач. 1920-х г. пачала працаваць 4-гадовая школа (у 1923 г. 49, у 1925 г. 73 вучні). З 20.8.1924 г. да 6.6.1954 г. цэнтр Бераснёўскага с/с. У 1930 г. арганізаваны калгас «Памяць Ільіча». У 1934 г. адкрыты дзіцячыя яслі. У 1940 г. 52 двары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў. У наваколлі базіраваўся Кіраўскі партыз. атрад. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 164 жыхары, у 1970 г.



114 жыхароў. У 1986 г. 36 двароў, 73 жыхары, у складзе саўгаса «Берасьнёўскі» (цэнтр — в. Баравіца), магазін. У 2002 г. 17 гаспадарак, 25 жыхароў. Крывалінейная мерыдыянальная вуліца забудавана няшчыльна, традыц. драўлянымі сял. хатамі. Радзіма бел. пісьменніка, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі У.П.Саламахі (н. 1949).

**БОРКІ** — вёска ў Грыбавецкім с/с, за 27 км на ПнУ ад Кіраўска, 26 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Магілёў—Асіповічы, 87 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Магілёў—Бабруйск. 33 гаспадаркі, 64 жыхары (2007).

У 1880 г. вёска ў Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 21 двор, 100 жыхароў. Частка вяскоўцаў апрача земляробства займалася вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. У 1897 г. 67 двароў, 498 жыхароў, 2 ветракі, школа граматы, вінная лаўка. У 1909 г. 97 двароў, 613 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Непадалёку ад вёскі ў лесе базіраваўся партыз. атрад. У чэрв. 1942 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску, загубілі 486 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахавана 1800 жыхароў в. Боркі і навакольных населеных пунктаў, якіх фашысты расстралялі 15.6.1942 г. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 263 жыхары, у 1970 г. 261 жыхар. У 1986 г. 75 двароў, 185 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Шалаёўка), клуб, б-ка, магазін. У 2002 г. 49 гаспадарак, 97 жыхароў. У 2007 г. клуб, магазін. Аснову планіроўкі складаюць 2 паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПнУ на ПдЗ і злучаныя невял. папярочнай вуліцай. Забудова няшчыльная, двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Вуліца, што на ПдУ, забудавана аднакватэрнымі муравамі жылымі дамамі.

Каля вёскі размешчана радовішча мелу (перспектыўныя запасы 64,5 млн. т).

**БУКІНО** — вёска ў Мышкавіцкім с/с, за 3 км на ПдЗ ад Кіраўска, 21 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 90 км ад Магілёва, на Пн і У р. Ала (прыток Бярэзіны). Побач аўтадарога Бабруйск—Магілёў. 111 гаспадарак, 262 жыхары (2007).

У 1907 г. вёска ў Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 20 двароў, 141 жыхар. У 1917 г. 28 двароў, 211 жыхароў. З 1926 г. працавалі паравы млын і лесазавод, з 1932 г. — ільнозавод. У 1934 г. арганізаваны калгас. У студз. 1936 г. ў вясковым клубе адбылася першая раённая камсамольская канферэнцыя. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія расстралялі 16 жыхароў. 23 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 505 жыхароў, у 1970 г. 449 жыхароў. У 1986 г. 116 двароў, 412 жыхароў, у складзе калгаса «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага (цэнтр — в. Мышкавічы), клуб, магазін, сталовая, аддз. ашчаднага банка. У 2002 г. 124 гаспадаркі, 293 жыхары. У 2007 г. магазін, сталовая. Аснову планіровачнай структуры складае вуліца (адрэзак аўтадарогі Магілёў—Бабруйск), арыентаваная з ПнУ на ПдЗ і забудаваная жылымі дамамі, пераважна буйнаблочнымі, з прысядзібнымі ўчасткамі. Драўляныя сял. хаты пастаўлены тарцовым фасадам да аўтадарогі і ўтвараюць выразную лінію забудовы. Дзве другія, больш старыя вуліцы з традыц. сядзібнай забудовай, арыентаваны да дарогі. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Магілёўскай вобл. ў Вял. Айч. вайну Г.Я.Комара [быў камісарам 9-й Кіраўскай партыз. брыгады і сакратаром Кіраўскага падп. РК КП(б)Б].

**ВАЗНЯСЕНСК** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Кіраўска, 37 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 114 км ад Магілёва, на З р. Добасна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 9 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. для пасёлка быў выдзелены вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Бальшавік». У Вял. Айч. вайну з



*Е.П.Дрозд.*



*У.П.Саламаха.*

канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У 1986 г. 25 двароў, 44 жыхары, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Добасна). У 2002 г. 12 гаспадарак, 15 жыхароў. Прамалінейная вуліца, арыентаваная мерыдыянальна, паралельна да ракі, забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі сял. хатамі.

**ВАЛОСАВІЧЫ** — вёска ў Мышкавіцкім с/с, за 10 км на Пд ад Кіраўска, 20 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 95 км ад Магілёва, на ПнУ р. Ала (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 125 гаспадарак, 278 жыхароў (2007).

На паўн.-ўсх. ускраіне захаваўся курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі (270 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядома з 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1639 г. ў Бабруйскім старостве, 15 дымоў, 25 жыхароў мужчынскага полу, 12 валок зямлі і 15 незаселеных месц. У 1647 г. 30 дымоў, шляхецкая ўласнасць. У 1786 г. ў складзе маёнтка Міхалёва Рэчыцкага павета. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. в. Валасевічы (103 рэвізскія душы) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1847 г. 39 двароў, цэнтр маёнтка. Паводле перапісу 1897 г. ў Качэрыцкай вол., 66 двароў, 399 жыхароў, хлебазапасны магазін, драўляная царква. Побач былі аднайменныя карчма (1 двор, 2 жыхары, вінная лаўка), 2 прасёлкі (па 1 двары, 20 жыхароў), фальварак (4 двары, 42 жыхары). У 1907 г. ў вёсцы 64 двары, 535 жыхароў, у фальварку 8 двароў, 58 жыхароў, на хутары 2 двары, 15 жыхароў. У 1916 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. ў вёсцы 77 двароў, 529 жыхароў, на хутары 9 двароў, 73 жыхары. У пач. 1920-х г. пачала працаваць 4-гадовая школа (у 1925 г. 69 вучняў). 2.4.1922 г. створана с.-г. т-ва. 11.4.1924 г. пачало дзейнічаць конегадоўчае т-ва. У 1927 г. для школы збудавана новае ўласнае памяшканне. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны ўсход», працавалі вадзяны млын, кузня і ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 676 жыхароў, у 1970 г. 546 жыхароў. У 1986 г. 179 двароў, 458 жыхароў, у складзе калгаса «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага (цэнтр — в. Мышкавічы), магазін, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцяча-юнацкая спарт. школа, сталовая, дзіцячы сад-яслі, б-ка. У 2002 г. 137 гаспадарак, 301 жыхар. У 2007 г. б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін.Працяглая крывалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ, уздоўж ракі. На ПН грамадскі цэнтр. На ПдЗ амаль паралельна да галоўнай праходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў антыфаш. падполля і партыз. руху ў Гомельскай вобл. ў Вял. Айч. вайну, засл. работніка культуры БССР, ген.-маёра А.Дз.Рудака і Героя Сац. Працы Ф.Ф.Кісялёвай.

**ВЕЛЕНКА** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 27 км на ПнУ ад Кіраўска, 34 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 75 км ад Магілёва, на Пн р. Чарабамірка (прыток р. Белая). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

У 1897 г. паштовая ст. Велень у Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 1 двор, 11 жыхароў. Побач быў аднайменны хутар, 2 двары, 16 жыхароў. У 1909 г. 3 двары, 18 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 106 жыхароў, у 1970 г. 65 жыхароў. У 1986 г. 9 двароў, 15 жыхароў, у складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова (цэнтр — в. Стайкі). У 2002 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў. Кароткая



прамалінейная вуліца блізкай да шыротнай арыентацыі забудавана традыц. драўлянымі сял. хатамі.

**ВІКТАРАЎКА** — вёска ў Скрыпліцкім с/с, за 8 км на ПдУ ад Кіраўска, 30 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 93 км ад Магілёва, на З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 20 гаспадарак, 34 жыхары (2007).

У 1897 г. вёска ў Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 36 двароў, 213 жыхароў. У 1917 г. 42 двары, 244 жыхары. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. 16.8.1921 г. створана с.-г. каап. т-ва, у 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Віктараўка», меліся вятрак і кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 198 жыхароў, у 1970 г. 172 жыхары. У 1986 г. 33 двары, 69 жыхароў, у складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Скрыпліца), пач. школа. У 2002 г. 21 гаспадарка, 37 жыхароў. Кароткая, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліца забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**ВІЛЕНКА** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 10 км на ПнУ ад Кіраўска, 34 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 83 км ад Магілёва, побач аўтадарога Магілёў—Бабруйск. 35 гаспадарак, 63 жыхары (2007).

У 1897 г. пасёлак у Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 23 двары, 85 жыхароў. У 1907 г. вёска, 25 двароў, 209 жыхароў. У 1917 г. 31 двор, 212 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Віленка». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі вёскі базіравалася 9-я Кіраўская партыз. брыгада. У маі 1944 г. партызаны разграмілі ў вёсцы варожы гарнізон. Ням. карнікі ў маі 1944 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 10 жыхароў. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 260 жыхароў, у 1970 г. 226 жыхароў. У 1986 г. 68 двароў, 212 жыхароў, у складзе саўгаса «Бераснёўскі» (цэнтр — в. Баравіца). У 2002 г. 51 гаспадарка, 85 жыхароў. Гал. вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Ад яе цэнтра на ПдУ перпендыкулярна адыходзіць кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВІЛЫ** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 8 км на Пн ад Кіраўска, 29 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 88 км ад Магілёва, на Пн р. Ала (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

У 1897 г. ў Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 23 двары, 144 жыхары. У 1907 г. 32 двары, 194 жыхары, у 1917 г. 39 двароў, 323 жыхары. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Клічаў». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі вёскі базіравалася 9-я Кіраўская партыз. брыгада. Ням. акупанты спалілі вёску, загубілі 60 жыхароў. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 199 жыхароў, у 1970 г. 124 жыхары. У 1986 г. 23 двары, 33 жыхары, у складзе саўгаса «Бераснёўскі» (цэнтр — в. Баравіца). У 2002 г. 11 гаспадарак, 16 жыхароў. Прамалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі, паралельная да берага ракі, забудавана двухбакова традыц. драўлянымі сял. хатамі.



*А.Дз.Рудак.*



*Ф.Ф.Кісялёва.*

**ВІНАГРАДАЎКА** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Кіраўска, 37 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 5 двароў. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага (цэнтр — в. Леўкавічы). У 2002 г. 9 гаспадарак, 14 жыхароў. Кароткая прамалінейная вулі-

ца амаль шыротнай арыентацыі забудавана няшчыльна, пераважна з паўн. боку, драўлянымі сял. хатамі.

**ВІШАНЬКА** — вёска ў Паўлавіцкім с/с, за 13 км на ПдУ ад Кіраўска, 30 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 106 км ад Магілёва, на З меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 10 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

У 1891 г. мелі месца сутыкненні сялян з адміністрацыяй памешчыцкага ўладання ў сувязі з самавольным выпасам жывёлы на памешчыцкіх лугах. У 1897 г. ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ., 21 двор, 152 жыхары. Побач быў аднайменны фальварак, 1 двор, 15 жыхароў. Мелася аднакласная школа (нар. вучылішча). У 1924 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Вішанька». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 98 жыхароў, у 1970 г. 64 жыхары. У 1986 г. 29 двароў, 35 жыхароў, у складзе калгаса імя В.У.Куйбышава (цэнтр — в. Барсукі). У 2002 г. 13 гаспадарак, 26 жыхароў. Прамалінейная, мерыдыянальнай арыентацыі вуліца забудавана двухбакова драўлянымі сял. хатамі.

**ВЫЖАРЫ** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 6 км на ПнУ ад Кіраўска, 30 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 86 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Магілёў—Бабруйск. 27 гаспадарак, 64 жыхары (2007).

У 1897 г. пасёлак у Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 5 двароў, 45 жыхароў. Побач былі аднайменныя пасёлак (3 двары, 10 жыхароў) і выселак (3 двары, 29 жыхароў). У 1907 г. вёскі: Выжары 1, 18 двароў, 169 жыхароў; Выжары 2, 9 двароў, 51 жыхар; Выжары 3, 5 двароў, 28 жыхароў. У 1917 г. ў в. Выжары 1 — 24 двары, 206 жыхароў; у в. Выжары 2 — 7 двароў, 52 жыхары; у в. Выжары 3 — 4 двары, 35 жыхароў. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. У 1922 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1932 г. арганізаваны калгас імя В.І.Чапаева. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі вёскі базіравалася 9-я Кіраўская партыз. брыгада. У маі 1944 г. партызаны разграмілі ў вёсцы варожы гарнізон. 15 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 200 жыхароў, у 1970 г. 170 жыхароў. У 1986 г. 53 двары, 103 жыхары, у складзе саўгаса «Бераснёўскі» (цэнтр — в. Баравіца), магазін. У 2002 г. 34 гаспадаркі, 61 жыхар. Планіроўка Г-падобная. Больш працяглая вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Да яе на Пн перпендыкулярна далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ВЯЗАЎКА** — вёска ў Скрыпліцкім с/с, за 11 км на ПдУ ад Кіраўска, 32 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 93 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 19 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

У 1897 г. вёска ў Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 53 двары, 324 жыхары. У 1907 г. 54 двары, 341 жыхар. У 1917 г. 62 двары, 383 жыхары. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. У 1932 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 200 жыхароў, у 1970 г. 187 жыхароў. У 1986 г. 39 двароў, 78 жыхароў, у складзе саўгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Скрыпліца), магазін. У 2002 г. 23 гаспадаркі, 39 жыхароў. Планіроўка Г-падобная. Больш працяглая вуліца арыентавана мерыдыянальна. Да яе з З далучаецца кароткая вуліца. Забудавана няшчыльна, пераважна двухбакова, драўлянымі сял. хатамі.

**ГАЛЫНАЎКА** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 31 км на ПдУ ад Кіраўска, 40 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін, 82 км ад Магілёва, на Пд р. Белая (прыток Друці). Транспартныя сувязі па пра-



сёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

У 1897 г. аколіца ў Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 9 двароў, 55 жыхароў. У 1909 г. 64 жыхары. У 1934 г. арганізаваны калгас «XVII партз'езд». У 1940 г. 26 двароў, 130 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 57 жыхароў, па перапісу 1970 г. 64 жыхары. У 1986 г. 18 двароў, 47 жыхароў, у складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова (цэнтр — в. Стайкі). У 2002 г. 17 гаспадарак, 73 жыхары. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ і забудавана двухбакова, драўлянымі сял. хатамі з традыц. гасп. дварамі.

**ГАРАДЗЕЦ** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 18 км на Пн ад Кіраўска, 50 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 88 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам, на З р. Суша (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 120 гаспадарак, 252 жыхары (2007).

За 1,7 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Суша, ва ўрочышчы Пад'ясень захаваўся курганны могільнік (12 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца пад 1560 г. ў Свіслацкай вол. ВКЛ як сяло, 27 дымоў, уласнасць казны. У 1563 г. аддадзена ў часовае карыстанне шляхціцам. У 1684 г. побач быў маёнтак. У 1789 г. ў Любоніцкім старостве Рэчыцкага павета Мінскага ваяв., 22 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1897 г. ў Любоніцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 101 двор, 816 жыхароў, вятрак, кузня, хлебазапасны магазін. У 1903 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1907 г. 121 двор, 1110 жыхароў. У 1917 г. 130 двароў. У 1920 г. пачаў дзейнічаць лесазавод. З 20.8.1924 г. да 26.6.1954 г. цэнтр Гарадзецкага с/с. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 131 вучань, б-ка і хата-чытальня). З 1926 г. ў вёску рэгулярна прыязджала кінаперасоўка. У 1929 г. створана смалакурня. У 1932 г. на лесазаводзе была абсталявана ўстаноўка па выпрацоўцы электраэнергіі і вёска была электрыфікавана. У 1933 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Гарадзец». У 1940 г. 240 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі.У вёсцы і яе ваколіцах базіраваліся партызаны 537-га партыз. палка. У крас. 1944 г. ням. акупанты спалілі вёску, загубілі 40 жыхароў. 95 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. На ўшанаванне іх памяці каля будынка праўлення калгаса ў 1979 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 812 жыхароў, у 1970 г. 714 жыхароў. У 1986 г. 123 двары, 408 жыхароў, цэнтр калгаса імя В.І.Чапаева, сталярна-цяслярская майстэрня, лясніцтва, ветэрынарны ўчастак, Дом культуры, базавая школа, б-ка, дзіцячы сад-яслі, 2 магазіны, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. ашчаднага банка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. Далёка за межамі раёна вялікай папулярнасцю карыстаецца вясковы самадзейны ансамбль «Гарадзецкія вячоркі». У 2002 г. 145 гаспадарак, 314 жыхароў. У 2007 г. Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1978 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Аснову планіроўкі складае прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПнУ на ПдЗ і забудаваная двухбакова, драўлянымі сял. хатамі. Паралельна да яе на У склалася новая вуліца, забудаваная мураванымі жылымі дамамі, а на З, па другі бок ракі — вул. Зарэчная з традыц. драўлянай сядзібнай забудовай. Адм.-грамадскі цэнтр на ПнУ. Радзіма ген.-маёра танкавых войск М.А.Кірскаўца.

**ГЛЫБОКАВІЧЫ** — вёска ў Скрыпліцкім с/с, за 13 км на У ад Кіраўска, 40

км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 104 км ад Магілёва, на У р. Добасна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 65 гаспадарак, 200 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. ў Бабруйскім старостве Рэчыцкага павета, 8 дымоў. У 1639 г. 10 валок зямлі, з якіх 4 пустыя. У 1790 г. 11 дымоў, карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., 97 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка. У 1844 г. ў складзе маёнтка Качэрыцы, 25 двароў. У 1896 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана ўласнае памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. ў Качэрыцкай вол., 93 двары, 699 жыхароў, царква. Побач былі аднайменныя карчма (2 двары, 13 жыхароў) і заезны дом. Штогод 8 мая праводзіўся таржок. У 1917 г. 94 двары, 657 жыхароў. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 95 вучняў), у 1929 г. — хата-чытальня. У 1931 г. арганізаваны калгас, меліся 2 ветракі. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 82 двары, загубілі 19 жыхароў. 44 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 393 жыхары, у 1970 г. 274 жыхары. У 1986 г. 78 двароў, 162 жыхары, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Барчыцы), клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка. У 2002 г. 66 гаспадарак, 190 жыхароў. У 2007 г. б-ка, магазін. Крывалінейная вуліца арыентавана мерыдыянальна, паралельна да берага ракі. На Пн яе перакрыжоўвае мясц. дарога. Жылая забудова драўляная, сядзібнага тыпу, двухбаковая.

**ГОГАЛЬ** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 38 км на ПнУ ад Кіраўска, 36 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін, 75 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 39 двароў, 156 жыхароў. У 1940 г. 240 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 22 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 102 жыхары, у 1970 г. 67 жыхароў. У 1986 г. 21 двор, 54 жыхары, у складзе саўгаса «Шыннік» (цэнтр — в. Чыгірынка). У 2002 г. 14 гаспадарак, 18 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ. На З, за меліярацыйным каналам, адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова.

**ГРЫБАВА СЛАБАДА** — вёска ў Грыбавецкім с/с, за 39 км на ПнУ ад Кіраўска, 23 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Асіповічы—Магілёў, 60 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 30 гаспадарак, 59 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска ў Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., 45 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 22 двары. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім і калёсным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Чыгірынскай вол., 25 двароў, 206 жыхароў, школа граматы, карчма. У 1909 г. 36 двароў, 281 жыхар. У 1929 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 67 двароў, 435 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 17 жыхароў. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 219 жыхароў. У 1986 г. 57 двароў, 126 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Шалаеўка), магазін. У 2002 г. 41 гаспадарка, 78 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных вуліц шыротнай ары-



ентацыі, забудаваных няшчыльна, традыц. драўлянымі сял. хатамі.

**ГРЫБАВЕЦ** — вёска ў Грыбавецкім с/с, за 35 км на ПнУ ад Кіраўска, 27 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Асіповічы—Магілёў, 63 км ад Магілёва, мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

У 1897 г. аколіца ў Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 11 двароў, 70 жыхароў. Побач быў пас. Грыбавец (ён жа Дзедна), 11 двароў, 61 жыхар. У 1909 г. ў аколіцы 12 двароў, 73 жыхары, у пасёлку 5 двароў, 28 жыхароў. З 2.1.1925 г. да 31.1.1966 г. цэнтр Грыбавецкага с/с. У 1929 г. арганізавана с.-г. камуна, якая ў маі 1934 г. рэарганізавана ў калгас імя К.Маркса. У 1940 г. 32 двары, 215 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1943 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 12 жыхароў. У баях каля вёскі пры выхадзе з акружэння ў жн. 1941 г. і за вызваленне вёскі ў 1944 г. загінулі 39 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). Тут жа пахаваны 11 партызан 9-й Кіраўскай партыз. брыгады, якія загінулі ў 1943—44 гг. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 174 жыхары, у 1970 г. 116 жыхароў. У 1986 г. 15 двароў, 22 жыхары, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Шалаёўка), лясніцтва, дзіцячы сад, магазін. У 2002 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў. Крывалінейная вуліца блізкай да шыротнай арыентацыі забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ГУТА** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 4 км на ПнУ ад Кіраўска, 27 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 90 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Магілёў—Бабруйск.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1797 г. вёска ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., 13 жыхароў мужчынскага полу, уладанне Д.Радзівіла. У 1838 г. 24 рэвізскія душы, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. ў Качэрыцкай вол., 10 двароў, 73 жыхары. У 1910 г. адкрыта школа (размяшчалася ў наёмнай сял. хаце), у якой вучыліся таксама дзеці з суседніх вёсак. У пач. 1920-х г. пачала працаваць 4-гадовая школа (у 1925 г. 60 вучняў). У 1934 г. арганізаваны калгас «Кіравец». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 71 жыхар, у 1970 г. 40 жыхароў. У 1986 г. 1 двор, 2 жыхары, у складзе саўгаса «Бераснёўскі» (цэнтр — в. Баравіца). Драўляная сял. сядзіба з прысядзібным участкам.

**ГУТА** — вёска ў Любоніцкім с/с, за 23 км на ПдУ ад Кіраўска, 16 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 108 км ад Магілёва, на р. Любонка (прыток р. Бярэзіна), вакол лес. Побач Бабруйская абкружная аўтадарога. 22 гаспадаркі, 28 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1773 г. засценак у Любоніцкім старостве Рэчыцкага павета Мінскага ваяв., 4 двары. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1789 г. сяло ў Любоніцкім старостве Рэчыцкага павета Мінскай губ., 8 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1847 г. ў складзе маёнтка Любонічы Бабруйскага павета, 14 двароў, 150 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Любоніцкай вол., 40 двароў, 313 жыхароў. У 1907 г. 50 двароў, 432 жыхары, у 1917 г. 55 двароў. У 1920-я г. адкрыта 4-гадовая школа, у 1934 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 33 вяскоўцы загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе, 14 — расстраляны ням.-фаш. карнікамі. Каля вёскі загінулі 13 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на вясковых могілках). Паводле перапісу 1959 г. 334 жыхары, у 1970 г. 237 жыхароў. У 1986 г. 67 двароў, 109 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Любонічы), магазін. У 2002 г. 32 гаспадаркі, 39 жыхароў. Аснову планіровачнай структуры складае

крывалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі, перпендыкулярна і паралельна да якой праходзяць кароткія вуліцы. Забудавана няшчыльна, традыц. драўлянымі сял. хатамі.

**ДАБРОЦІНА** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Кіраўска, 28 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін, 115 км ад Магілёва, на Пн р. Дабрыца (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 14 гаспадарак, 22 жыхары (2007).



*А.Т.Кузьмін.*

У 1897 г. вёска ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ., 32 двары, 231 жыхар, школа граматы. Побач быў аднайменны фальварак, 2 двары, 5 жыхароў. У 1909 г. 33 двары, 142 жыхары. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа. У 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У 1940 г. 52 двары, 307 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі 47 двароў і загубілі 8 жыхароў. 29 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 208 жыхароў, у 1970 г. 167 жыхароў. У 1986 г. 41 двор, 76 жыхароў, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Добасна), магазін. У 2002 г. 20 гаспадарак, 30 жыхароў. Планіроўка Т-падобная. Да вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі на Пн далучаецца кароткая шыротная вуліца. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. парт. і дзярж. дзеяча А.Т.Кузьміна (1918—2003).

**ДАБРЫЦА** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Кіраўска, 48 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 107 км ад Магілёва, на З р. Дабрыца (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 60 гаспадарак, 179 жыхароў (2007).

У 1897 г. вёска ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ., 47 двароў, 323 жыхары, школа граматы. У 1909 г. 43 двары, 357 жыхароў. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа. У 1931 г. арганізаваны калгас «Вызваленне». У 1940 г. 63 двары, 265 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1943 г. спалілі 61 двор, загубілі 4 жыхароў. 19.9.1943 г. каля вёскі партызаны разграмілі атрад карнікаў. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце, 13 — у партыз. барацьбе. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 4 сав. воіны і 19 партызан. Паводле перапісу 1959 г. 105 жыхароў. У 1986 г. 50 двароў, 86 жыхароў, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Барчыцы), машынны двор, клуб, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі, сталовая, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. Беларусбанка, б-ка. У 2002 г. 62 гаспадаркі, 184 жыхары. У 2007 г. клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Прамалінейная вуліца блізкай да шыротнай арыентацыі забудавана двухбакова, драўлянымі сял. хатамі.

**ДЗЕСЯЦІНЫ** — вёска ў Паўлавіцкім с/с, за 10 км на ПдУ ад Кіраўска, 30 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 101 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з пач. 20 ст. У 1909 г. вёска ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса імя В.У.Куйбышава (цэнтр — в. Барсукі). У 2002 г. 5 гаспадарак, 5 жыхароў. Кароценькая прамалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі забудавана пераважна з усх. боку традыц. драўлянымі сял. хатамі.

**ДОБАСНА** — вёска, цэнтр Дабаснянскага с/с, за 17 км на ПдУ ад Кіраўска, 37 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 110 км ад Магілёва, на З р. Добасна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 151 гаспадарка, 443 жыхары (2007).



У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1502 г. як сяло ў Бабруйскай вол., уласнасць казны. У 1639 г. шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1816 г. ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ., 33 двары, 204 жыхары. У 1839 г. пабудаваны цукровы з-д (176 рабочых, дзейнічаў да 1862 г.). У 1847 г. цэнтр Дабаснянскага маёнтка (уладальнік Булгак). 16.5.1861 г. сяляне (да 500 чал.) выступілі супраць памешчыка, адказаліся выконваць баршчыну. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1889 г. 80 вучняў). У 1900 г. для школы пабудавана ўласнае памяшканне. У 1880 г. ў фальварку засн. вінакурня (у 1881 г. 12 рабочых). У 1885 г. ў Ціхініцкай вол., 59 двароў, 437 жыхароў, царква, 2 разы ў год праводзіліся таржкі. У 1897 г. 109 двароў, 760 жыхароў, хлебазапасны магазін, 3 лаўкі, піцейны дом. У аднайменным фальварку 5 двароў. Частка вяскоўцаў займалася рагожным промыслам. У 1910 г. пабудаваны млын з паравым рухавіком. З 1911 г. пры школе дзейнічала б-ка. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 196 вучняў). 26.3.1925 г. створана с.-г. арцель. 6.6.1925 г. пачало дзейнічаць спажывецкае т-ва. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камуніст». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 62 вяскоўцы загінулі на фронце, 36 загублены акупантамі. У баях каля вёскі загінулі 11 сав. воінаў і 1 партызан (пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі). 25.11.1945 г. створана Дабаснянская МТС. З 2.8.1954 г. цэнтр Дабаснянскага с/с. У 1986 г. 135 двароў, 385 жыхароў, цэнтр калгаса «Камуніст», машынны двор, млын, сярэдняя школа, філіял Жыліцкай муз. школы, Дом культуры, б-ка, бальніца, дзіцячы сад-яслі, 2 магазіны, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. ашчаднага банка, аптэка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя (з 1967 г.), спарт. пляцоўка, радыёвузел. У 2002 г. 160 гаспадарак, 462 жыхары. У 2007 г. цэнтр СВК «Добасна-Агра», дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі і Беларусбанка, магазін, сталовая. Ген. план забудовы распрацаваны Магілёўскім філіялам Белкалгаспраекта ў 1976 г., праект дэталёвай планіроўкі жылога спектра ў паўд.-ўсх. частцы вёскі — тым жа інстытутам у 1982 г. Цэнтр склаўся на скрыжаванні адрэзка дарогі Кіраўск—Жылічы і працяглай вуліцы імя Р.М.Саўчанкі. У непасрэднай блізкасці да цэнтра ўзведзены мураваныя і драўляныя грамадскія будынкі. У паўд.-ўсх. частцы 2 новыя вуліцы забудаваны мураванымі 1—2-павярховымі дамамі. Астатняя жылая забудова драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка, аднаго з пачынальнікаў бел. прозы Ядвігіна Ш. (А.І.Лявіцкага), бел. пісьменнікаў В.Дз. і У.І. Савіцкіх.

**ДУБАВОЕ** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 28 км на ПдУ ад Кіраўска, 28 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін, 117 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 27 гаспадарак, 58 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1924 г. пасёлку быў выдзелены вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. 4.7.1924 г. створана меліярацыйнае т-ва. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 90 жыхароў, у 1970 г. 101 жыхар. У 1986 г. 40 двароў, 105 жыхароў, у складзе саўгаса-тэхнікума «Жылічы» (цэнтр — в. Жылічы), магазін. У 2002 г. 34 гаспадаркі, 82 жыхары. Прамалінейная вуліца блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі забудавана з двух бакоў драўлянымі жылымі дамамі з гасп. дварамі і прысядзібнымі ўчасткамі.

**ДУБНЯКІ** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 18 км на Пн ад Кіраўска, 35 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 89 км ад Магілёва, на У, Пд і З р. Суша (пры-



*Ядвігін Ш.*



*В.Дз.Савіцкі.*



*У.І.Савіцкі.*

ток Ольсы). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск–Магілёў.

Па пісьмовых крыніцах вядомы з пач. 20 ст. У 1908 г. хутар у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 3 двары, 22 жыхары. У 1917 г. 5 двароў, 34 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты». У 1940 г. 20 двароў, 78 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія поўнасцю спалілі вёску і загубілі 6 жыхароў. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 68 жыхароў, у 1970 г. 59 жыхароў. У 1986 г. 6 двароў, 9 жыхароў, у складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Гарадзец). Драўляныя дамы сядзібнага тыпу пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.



*Палац у Жыліцкім палацава-паркавым ансамблі.*



*Жыліцкі дзяржаўны сельскагаспадарчы каледж.*

**ДУБРОВА** — вёска ў Казуліцкім с/с, за 6 км на З ад Кіраўска, 30 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 95 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск.

Засн. ў 1928 г., калі жыхары в. Пацава Слабада пасля пажару ўтварылі тут пасёлак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 3 двары, 5 жыхароў, у складзе калгаса «3-і з'езд Саветаў» (цэнтр — в. Пацава Слабада). Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**ДУБЦЫ** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 44 км на ПнУ ад Кіраўска, 25 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Магілёў—Жлобін, 85 км ад Магілёва, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Магілёў. 23 гаспадаркі, 36 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1934 г. арганізаваны калгас «Парыжскі камунар». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 24—28.6.1944 г. каля вёскі вяліся цяжкія баі пры прарыве ням. абароны на зах. беразе р. Друць, загінулі 27 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на паўн. ускраіне). 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 122 жыхары, у 1970 г. 136 жыхароў. У 1986 г. 52 двары, 92 жыхары, у складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова (цэнтр — в. Стайкі), магазін. У 2002 г. 31 гаспадарка, 50 жыхароў. Вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі з традыц. гасп. дварамі.

**ЖЫЛІЧЫ** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 30 км на ПдУ ад Кіраўска, 28 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін, 114 км ад Магілёва, на З р. Добасна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 31 гаспадарка, 48 жыхароў (2007).



Па пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. як сяленне ў Мінскім ваяв. ВКЛ. У 1567 г. сяло Жыліца, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 229 жыхароў, у 1970 г. 340 жыхароў. У 1986 г. 60 двароў, 134 жыхары, у складзе саўгаса-тэхнікума «Жылічы» (цэнтр — пас. Жылічы), сярэдняя школа, магазін. У 2002 г. 40 гаспадарак, 63 жыхары. Прамалінейная мерыдыянальная вуліца забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка Я.М.Замерфельда.

**ЖЫЛІЧЫ** — пасёлак у Дабаснянскім с/с, за 28 км на ПдУ ад Кіраўска, 27 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін, 115 км ад Магілёва, на р. Добасна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 315 гаспадарак, 1398 жыхароў (2007).

У 1816 г. сотня Жыліцкая ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ., 180 жыхароў, уладанне памешчыка Булгака, які ў 1830-я г. пабудаваў тут палац і валодаў 12 тыс. дзес. зямлі. Палацава-паркавы ансамбль, ад якога зберагліся мураваны палац (архітэктар К.Падчашынскі), некалькі мураваных гасп. пабудоў і службовых флігеляў, пейзажны парк з рэшткамі штучных насыпных валоў, з'яўляецца помнікам архітэктуры позняга класіцызму. Апрача земляробства частка вяскоўцаў займалася шыццём абутку, кавальскім і адыходным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Ціхініцкай вол., 68 двароў, 489 жыхароў. Побач быў аднайменны фальварак, 2 двары, 54 жыхары. Дзейнічаў вінзавод (засн. ў 1897 г., закрыты ў маі 1915 г.). У 1909 г. 73 двары, 492 жыхары. У 1909 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1920 г. створаны саўгас «Жылічы». У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 66 вучняў). Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У былым панскім маёнтку ў 1925 г. была арганізавана с.-г. арцель. Вясной 1927 г. створаны калгас, працавала школа сельскай моладзі. У 1928 г. аднавілася работа вінакурні. У 1930 г. адкрыты с.-г. тэхнікум. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У баях каля пасёлка загінулі 28 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле ў скверы). 33 вяскоўцы загінулі на фронце ці былі загублены акупантамі. На ўшанаванне памяці студэнтаў і выкладчыкаў саўгаса-тэхнікума, якія загінулі на фронце, у 1973 г. каля будынка канторы саўгаса пастаўлены абеліск. У 1947 г. пачаў дзейнічаць радыёвузел. У 1965 г. ў выніку аб'яднан-

*Фрагменты парку ў пас. Жылічы.*





ня саўгаса «Жылічы» і с.-г. тэхнікума з яго вучэбна-вытв. гаспадаркай узнік саўгас-тэхнікум «Жылічы» (навучалася 1200 студэнтаў на стацыянары і 700 завочна). Паводле перапісу 1959 г. 440 жыхароў, у 1970 г. 1109 жыхароў. У 1986 г. 277 двароў, 707 жыхароў, вінзавод, машынны двор, хлебапякарня, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 7 магазінаў, дзіцячая муз. і сярэдняя школы, студыя выяўл. мастацтва, амбулаторыя, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аўтаматычная тэлеф. станцыя (з 1968 г.), сталовая, грамадская лазня, аддз. ашчаднага банка, 2 спарт. пляцоўкі. У 2002 г. 293 гаспадаркі, 749 жыхароў, у будынку былога палаца размешчаны гісторыка-краязнаўчы музей. У 2007 г. цэнтр рэсп. с.-г. УП «Жылічы», дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзярж. с.-г. каледж, гіст.-культурны комплекс, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, бальніца, аптэка, аддз. сувязі і Беларусбанка, 2 магазіны, кафэ, сталовая. Першы праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1973 г. Магілёўскім філіялам Белдзяржпраекта, другі — у 1983 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачная структура абумоўлена рэльефам, які ўключае пойму р. Добасна, шляхамі зносін і наяўнасцю стараж. планіровачнага ядра — палацава-паркавага ансамбля 19 ст. Перад гал. фасадам палаца, у якім размясціліся вучэбныя кабінеты, адміністрацыя і музей саўгаса-тэхнікума, арганізаваны рэгулярны парк. На тэр. былой сядзібы ўзведзены 5-павярховы вучэбна-лабараторны корпус з актавай і спарт. заламі, сталовая, Дом культуры, шматпавярховыя будынкі інтэрнатаў, спарт. комплекс, жылыя дамы для педагогаў, дзіцячы сад-яслі, буйнае гароднінасховішча, майстэрні, грамадская лазня і іншыя будынкі. На Пн больш працяглая вуліца (адрэзак аўтадарогі Бабруйск—Рагачоў), уздоўж якой узведзены сучасныя мураваныя 1—2-павярховыя грамадскія будынкі і шматкватэрныя жылыя дамы. Пераважная частка жылой забудовы традыц., драўляная, сядзібнага тыпу. На У, на процілеглым беразе р. Добасна, сярод жылой забудовы, зберагліся мураваныя гасп. пабудовы канца 19 — пач. 20 ст., якія выкарыстоўваюцца пад склады.

**ЗАБУДНЯНСКІЯ ХАТУРЫ** — вёска ў Скрыпліцкім с/с, за 23 км на ПнУ ад Кіраўска, 48 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 95 км ад Магілёва, на З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1933 г. арганізаваны калгас «Новы свет». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 31 вясковец загі-



*Жыліцкі палацава-паркавы ансамбль.*



нуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 314 жыхароў, у 1970 г. 241 жыхар. У 1986 г. 41 двор, 68 жыхароў, у складзе саўгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Хвайніца), магазін. У 2002 г. 13 гаспадарак, 17 жыхароў. Планіроўка Г-падобная. Дзве ўзаемна перпендыкулярныя кароценькія вуліцы мерыдыянальнай і шыротнай арыентацыі няшчыльна забудаваны традыц. драўлянымі сял. хатамі.

**ЗАРУБІН ВУГАЛ** — вёска ў Паўлавіцкім с/с, за 14 км на ПдУ ад Кіраўска, 28 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 106 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Магілёў. 12 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. вёсцы выдзелены вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса «Чырвоны баец» (цэнтр — в. Паўлавічы). У 2002 г. 16 гаспадарак, 36 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі забудавана пераважна з паўн. боку традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**ЗАЦІШША** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 31 км на ПдУ ад Кіраўска, 27 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін, 120 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў.

У 1897 г. фальварак Зацішша (ён жа Субяцін) у Ціхініцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ., 1 двор, 9 жыхароў. У 1925 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе саўгаса-тэхнікума «Жылічы» (цэнтр — пас. Жылічы). У 2002 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары. Драўляная сял. сядзіба пастаўлена каля мясц. дарогі.

**ЗБЫШЫН** — вёска ў Грыбавецкім с/с, за 34 км на ПнУ ад Кіраўска, 30 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Магілёў—Асіповічы, 60 км ад Магілёва, на р. Вепрынка (прыток Друці). Побач аўтадарога Бабруйск—Магілёў. 50 гаспадарак, 124 жыхары (2007).

У 1821 г. вёска ў Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., уладанне памешчыка, мелася царква. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога з 1867 г. валодаў 442 дзес. зямлі. У 1858 г. 64 жыхары мужчынскага полу. У 1861 г. адбыліся хваляванні сялян, якія адказаліся плаціць павіннасці, і мясц. ўлады вымушаны былі выклікаць салдат. У 1880 г. 25 двароў, 128 жыхароў. У 1882 г. гаспадар маёнтка меў 5090 дзес. зямлі і карчму. У 1885 г. 28 двароў, 181 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары, сталярным і адыходным промысламі. У 1888 г. адкрыта царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. ў Чыгірынскай вол., 49 двароў, 305 жыхароў, вадзяны млын, сукнавальня, 3 разы ў год праводзіліся таржкі. Побач быў аднайменны хутар, 11 двароў, 49 жыхароў, вятрак. У 1905 г. адкрыта казённая вінная лаўка. У 1909 г. ў сяле 56 двароў, 308 жыхароў, на хутары 16 двароў, 95 жыхароў. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа, якая размясцілася ў нацыяналізаваным памяшканні (у 1925 г. 79 вучняў). Дзейнічала хата-чытальня. У 1929 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна. У 1940 г. 84 двары, 535 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія 21.6.1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 224 жыхароў. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 286 вяскоўцаў і жыхароў суседніх вёсак, закатаваных акупантамі. Паводле перапісу 1959 г. 210 жыхароў, у 1970 г. 195 жыхароў. У 1986 г. 84 двары, 214 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Шалаеўка), магазін. У 2002 г. 58 гаспадарак, 135 жыхароў. Рака падзяляе вёску на ўсх. (прамалінейная вуліца мерыдыянальнай

арыентацыі) і зах. (будынкі пастаўлены адвольна, з улікам рэльефу) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, традыц. драўлянымі сял. хатамі.

**ЗЕЛЯНІЦА** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 34 км на ПнЗ ад Кіраўска, 55 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 72 км ад Магілёва, на Пн, У і Пд мяжуе з лесам, на З р. Суша (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

У 1867 г. маёнтак, гаспадар якога валодаў 443 дзес. зямлі. У 1897 г. 3 двары, 27 жыхароў. У 1909 г. 24 двары, 101 жыхар. У канцы 1918 г. адкрыта школа (у 1925 г. 53 вучні). Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Ільіча. У 1940 г. 612 двары, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала падп. патрыят. група (сакратар М.Ігнаценка). У вёсцы і наваколлі базіраваўся партыз. атрад. 30.3.1944 г. ням.-фаш. карнікі поўнасцю спалілі вёску і загубілі 9 жыхароў. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 249 жыхароў, у 1970 г. 162 жыхары. У 1986 г. 26 двароў, 52 жыхары, у складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Гарадзец), магазін. У 2002 г. 9 гаспадарак, 13 жыхароў. Жылая забудова пераважна аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Радзіма засл. настаўніка Беларусі М.М.Кандраценкі.

**ЗЯЛЁНАЯ РОШЧА** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 38 км на ПнУ ад Кіраўска, 30 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Магілёў—Жлобін, 82 км ад Магілёва, на З р. Чарабамірка (прыток р. Белая). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 92 жыхары, у 1970 г. 57 жыхароў. У 1986 г. 13 двароў, 23 жыхары, у складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова (цэнтр — в. Стайкі). У 2002 г. 9 гаспадарак, 14 жыхароў. Кароценькая прамалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі забудавана няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі з традыц. гасп. дварамі.

**ІГНАЦОЎКА** — вёска ў Любоніцкім с/с, за 26 км на З ад Кіраўска, 28 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 110 км ад Магілёва, на З р. Ольса (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей Бабруйскай абкружной дарозе. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

У 1897 г. засценак у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 5 двароў, 32 жыхары. Побач быў аднайменны фальварак, 2 двары, 15 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 7 двароў, 22 жыхары, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Любонічы). У 2002 г. 8 гаспадарак, 56 жыхароў. Забудова абапал сельскай дарогі традыц. драўлянымі сял. хатамі.

**ІЗАБЕЛІНА** — вёска ў Паўлавіцкім с/с, за 15 км на ПдУ ад Кіраўска, 39 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 96 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Магілёў. 5 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

У 1897 г. засценак Ізабелін у Ціхініцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ., 32 двары, 194 жыхары. У 1909 г. 37 двароў, 220 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя С.М.Кірава. У 1940 г. за поспехі ў вырошчванні льну старшыня калгаса Л.М.Вінаградава была ўдзельніцай Усесаюзнай с.-г. выстаўкі ў Маскве (расстраляна гітлераўцамі ў 1942 г.). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 120 жыхароў, у 1970 г. 94 жыхары. У 1986 г. 13 двароў, 57 жыхароў, у складзе калгаса імя В.У.Куйбышава (цэнтр — в. Барсукі). У 2002 г. 6 гаспадарак, 12 жыхароў. Пра-



малінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі няшчыльна забудавана традыц. драўлянымі сял. хатамі. Радзіма Героя Сав. Саюза Р.А.Худалеева і бел. хірурга, засл. ўрача Беларусі і засл. дзеяча навукі Беларусі І.Б.Аляшкевіча.

**КАЗУЛІЧЫ** — вёска, цэнтр Казуліцкага с/с, за 11 км на З ад Кіраўска, 22 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 98 км ад Магілёва, на аўтадарозе Клічаў—Кіраўск, каля вёскі пачынаецца р. Кострычка (прыток р. Ольса). 166 гаспадарак, 250 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1518 г. як сяло ў Свіслацкай вол. ВКЛ, уласнасць казны. У 1560 г. ў Бабруйскай вол. Паводле інвентару Бабруйскага староства 1639 г. 40 валок зямлі, з іх 21 пустая. У 1773 г. ў Любоніцкім старостве Рэчыцкага павета Мінскага ваяв., 28 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1789 г. 40 двароў. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., 110 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка. У снеж. 1881 г. вяскоўцы правялі высечку панскага лесу. У 1885 г. 540 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў сяле 109 двароў, 979 жыхароў, крупарушка, кузня, заезны дом, смалакурня, у аднайменным выселку 1 двор, 7 жыхароў. У 1908 г. 184 двары. У 1911 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1917 г. 205 двароў, 1293 жыхары. У 1919—20 гг., у час польскай акупацыі дзейнічалі партыз. групы (кіраўнікі Ігнат і Сцяпан Герасімовічы, Фядос Міхалап). У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1923 г. 58, у 1925 г. 92 вучні). Каля вёскі працавала смалакурня. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1929 г. адкрыта хата-чытальня. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камуніст». 16.10.1935 г. старшыня ЦВК БССР А.Р.Чарвякоў уручыста ўручыў калгасу Дзяржаўны акт на вечнае карыстанне зямлёй. У 1940 г. 336 двароў, 1470 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія 11.6.1942 г. спалілі 180 двароў і загубілі ў будынку млына 318 жыхароў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 54 вяскоўцы. Паводле перапісу 1959 г. 1101 жыхар, у 1970 г. 1049 жыхароў. У 1986 г. 289 двароў, 589 жыхароў, у складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Стаўпішча), базавая школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, 2 магазіны, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, 2 спарт. пляцоўкі, ветэрынарны ўчастак. У 2002 г. 176 гаспадарак, 324 жыхары. У 2007 г. клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункет, аддз. сувязі, магазін, сталовая. Працяглая прамалінейная вуліца арыентавана шыротна. На ёй сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. Перпендыкулярна да яе размешчаны вуліцы Кастрычніцкая і Першамайская. Жылая забудова пераважна драўляная. Дамы пастаўлены ўасн. тарцом да вуліцы. Радзіма ген.-лейт. артылерыі У.П.Свірыдава.

На ПнУ ад вёскі знаходзіцца радовішча пясчана-жвіровага матэрыялу (разведаныя запасы 3,5 млн. $м^3$).



*Р.А.Худалееў.*

**КАЛАДЗІНО** — вёска ў Казуліцкім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Кіраўска, 26 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 96 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Кіраўск—Клічаў. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў 1928 г., калі жыхары в. Пацава Слабада пасля пажару ўтварылі тут пасёлак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. ў складзе калгаса «3-і з'езд Саветаў» (цэнтр — в. Пацава Слабада). У 2002 г. 8 гаспадарак, 11 жыхароў. Кароценькая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана няшчыльна, традыц. драўлянымі сял. хатамі.



*У.П.Свірыдаў.*

За 0,4 км на З ад вёскі знаходзіцца Каладзіноўскае радовішча пяскоў (разведаныя запасы 1,03 млн. $м^3$).

**КАМЕРАВА** — вёска ў Скрыпліцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Кіраўска, 33 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 94 км ад Магілёва, на Пн меліярацыйны канал, злучаны з р. Добасна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па пра-

сёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 21 гаспадарка, 34 жыхары (2007).

У 1897 г. ў Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 36 двароў, 229 жыхароў. У 1907 г. 253 жыхары. У 1917 г. 48 двароў, 272 жыхары. У 1933 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 328 жыхароў, у 1970 г. 273 жыхары. У 1986 г. 47 двароў, 111 жыхароў, у складзе саўгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Скрыпліца), магазін. У 2002 г. 28 гаспадарак, 49 жыхароў. Планіроўка Г-падобная. Працяглая вуліца мае шыротную арыентацыю. Забудова двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**КАПАЧОЎКА** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Кіраўска, 29 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін, 112 км ад Магілёва. на З р. Добасна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 16 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

У 1858 г. на хутары Капычыўка пачала працаваць сукнавальня. У 1897 г. ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ., 8 двароў, 54 жыхары. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 140 жыхароў, у 1970 г. 189 жыхароў. У 1986 г. 32 двары, 69 жыхароў, у складзе саўгаса-тэхнікума «Жылічы» (цэнтр — пас. Жылічы). У 2002 г. 20 гаспадарак, 24 жыхары. Прамалінейная, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліца забудавана двухбакова, нямчыльна, традыц. драўлянымі сял. хатамі.



*Царква Узвіжання Крыжа Гасподняга ў в. Капусціна.*

**КАПУСЦІНА** — вёска ў Скрыпліцкім с/с, за 5 км на У ад Кіраўска, 30 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 98 км ад Магілёва, перакрыжавана двума меліярацыйнымі каналамі. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 148 гаспадарак, 347 жыхароў (2007).

У 1882 г. сяляне аказалі супраціўленне ўладам пры абмеры зямель, якія яны арэндавалі. У 1888 г. вяскоўцы не дапусцілі да работы на памешчыка наёмных рабочых, а ў 1891 г. аказалі супраціўленне ўладам пры вопісе маёмасці і адказаліся ад унясення выкупных плацяжоў. Выступленне было задушана з дапамогай войск. Паводле перапісу 1897 г. ў Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. 166 двароў, 999 жыхароў, 5 лавак, піцейны дом, малельня. Побач быў пасёлак, 50 жыхароў. У 1907 г. 177 двароў, 1042 жыхары. З 20.8.1924 г. да 26.6.1954 г. цэнтр Капусцінскага с/с. 1.10.1924 г. адкрыта школа (у 1925 г. 84 вучні, б-ка). У 1927 г. для школы пабудавана ўласнае памяшканне, у 1928 г. адкрыта хата-чытальня. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», меліся 3 млыны і кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях каля вёскі загінулі 12 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). 52 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 644 жыхары, у 1970 г. 670 жыхароў. У 1986 г. 188 двароў, 477 жыхароў, у складзе саўгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Скрыпліца), базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, спарт.



пляцоўка, аддз. сувязі. У 2002 г. 159 гаспадарак, 388 жыхароў. У 2007 г. клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Аснову планіроўкі складае шыротная вуліца, да цэнтр. часткі якой перпендыкулярна далучаецца другая вуліца. Жылая забудова драўляная, сярэдняй шчыльнасці, двухбаковая, сядзібнага тыпу. Двары няпоўныя вянковыя з падзелам на чысты і гаспадарчы. На злучэнні вуліц — грамадскі цэнтр.

**КАРШУКІ** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 28 км на ПнУ ад Кіраўска, 53 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 73 км ад Магілёва, вакол лес, на У і Пд р. Суша (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Магілёў. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з пач. 20 ст. У 1907 г. ўрочышча ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 2 двары, 26 жыхароў. У 1921 г. 4 двары, 28 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 58 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і наваколлі базіраваўся партыз. атрад. У крас. 1944 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і разрабавалі маёмасць. У баях супраць акупантаў загінулі 7 вяскоўцаў. Паводле перапісу 1959 г. 98 жыхароў, у 1970 г. 45 жыхароў. У 1986 г. 4 двары, 6 жыхароў, у складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Гарадзец). У 2002 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары. Драўляныя сял. хаты пастаўлены каля мясц. дарогі.

**КІСЦЯНІ** — вёска ў Скрыпліцкім с/с, за 16 км на ПдУ ад Кіраўска, 40 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 106 км ад Магілёва, на З р. Добасна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Магілёў.

У 1897 г. фальварак у Ціхініцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ., 2 двары, 14 жыхароў. У 1909 г. 25 жыхароў. У 1933 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце, 7 — расстраляны ням. акупантамі. Паводле перапісу 1959 г. 107 жыхароў, у 1970 г. 83 жыхары. У 1986 г. 10 двароў, 19 жыхароў, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Барчыцы). У 2002 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары. Забудавана драўлянымі традыц. сял. хатамі.

**КОЛАС** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 7 км на Пн ад Кіраўска, 33 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 88 км ад Магілёва, на Пд р. Ала (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 10 двароў, 27 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 17 жыхароў. 2 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Берасвёўскі» (цэнтр — в. Баравіца). У 2002 г. 8 гаспадарак, 17 жыхароў. Забудаваны традыц. драўлянымі сял. хатамі.

**КОСТРЫЦКАЯ СЛАБОДКА** — вёска ў Казуліцкім с/с, за 8 км на З ад Кіраўска, 26 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 90 км ад Магілёва, на р. Кострычка (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Клічаў—Кіраўск. 71 гаспадарка, 100 жыхароў (2007).

Упершыню ў пісьмовых крыніцах пазначана ў інвентары Бабруйскага староства 1639 г. як с. Слабодка. У 1738 г. ў Любоніцкім старостве Рэчыцкага павета Мінскага ваяв., 4 дымы, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. ў Любоніцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 112 двароў, 715 жыхароў, 2 ветракі, кузня. У 1900 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1908 г. 133 двары, 1044 жыхары. У 1917 г. 137 двароў. У 1918 г. засн. вапнавы з-д. На базе земскай ў пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1923 г. 53, у 1926 г. 90 вучняў). 28.3.1924 г. створана масларобчае

т-ва «Чырвоны араты», у 1925 г. — смалакурная арцель. У 1927 г. збудавана памяшканне для школы. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пяцігодка». У 1940 г. 227 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1941 г. на базе падп. патрыят. груп М.Міхалапа і В.Сырцова, якія дзейнічалі ў вёсцы, створаны партыз. атрад № 620. 11.6.1942 г. ням.-фаш. карнікі спалілі 224 двары і 137 жыхароў. 51 вясковец загінуў на фронце, 10 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 728 жыхароў, у 1970 г. 579 жыхароў. У 1986 г. 147 двароў, 278 жыхароў, у складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Стаўпішча), хімічны цэх Кіраўскага вытв. дрэваапрацоўчага аб'яднання, клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, 8-гадовая школа. У 2002 г. 92 гаспадаркі, 167 жыхароў. Працяглая прамалінейная вуліца арыентавана мерыдыянальна, паралельна да ракі і перакрыжавана завулкамі. На супрацьлеглым беразе ракі — другая вуліца. Забудавана пераважна драўлянымі традыц. сял. хатамі.


*Я.Казека.*


*А.І.Мельнікаў.*

Непадалёку ад вёскі знаходзіцца радовішча мелу (разведаныя запасы 0,08 млн. т).

**КОСТРЫЧЫ** — вёска ў Любоніцкім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Кіраўска, 24 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Бабруйск, 98 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам, на У р. Кострычка (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Клічаў—Кіраўск. 80 гаспадарак, 129 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. Паводле інвентару Бабруйскага староства 1639 г. сяло, 20 валок зямельных угоддзяў, з якіх 9 пуставалі. У 1738 г. ў Любоніцкім старостве, 16 дымоў. У 1773 г. 22 дымы, у 1789 г. 26 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1857 г. с. Кастрыцы, уласнасць памешчыка. У 1865 г. сяляне зрабілі недазволеную высечку лесу. У 1897 г. ў Любоніцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 71 двор, 476 жыхароў, вятрак, кузня. У 1907 г. 91 двор, 620 жыхароў. У 1911 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 104 двары, 672 жыхары. У пач. 1920-х г. на базе земскай пачала працаваць 4-гадовая школа (у 1925 г. 54 вучні). У 1934 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Кострычы». Для школы ў 1938 г. пабудавана новае памяшканне. У 1940 г. 190 двароў, 793 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1942 спалілі 172 двары, загубілі 51 жыхара. Значная частка вяскоўцаў размяшчалася ў грамадз. лагеры, які стварылі партызаны. 21 вясковец загінуў на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 754 жыхары, у 1970 г. 618 жыхароў. У 1986 г. 144 двары, 307 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Любонічы), пач. школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2002 г. 107 гаспадарак, 159 жыхароў. У 2007 г. клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіроўка квартальная. Аснову яе складаюць 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы мерыдыянальнай і шыротнай арыентацыі. Да іх далучаюцца кароткія вуліцы і завулкі. Забудаваны пераважна драўлянымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі. У цэнтры сярод жылой забудовы грамадскія будынкі. Радзіма бел. крытыка і літаратуразнаўца, засл. работніка культуры Беларусі, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі Я.Казекі.

**КОЎБАВА** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 31 км на ПнУ ад Кіраўска, 34 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін, 69 км ад Магілёва, на З р. Вепрынка (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 33 гаспадаркі, 45 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска ў Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., 180 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 66 вяскоўцаў апрача земляробства займаліся вырабам розных рэчаў з лыка і кары, 12 чал. — кравецкім, кавальскім і адыходным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Чыгірынскай



вол., 82 двары, 624 жыхары, У 1908 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у 1909 г. 111 двароў, 731 жыхар. У пач. 1920-х г. створана 4-гадовая школа (у 1925 г. 69 вучняў), для якой у 1930 г. пабудавана новае памяшканне. У 1933 г. арганізаваны калгас «Перамога». У 1940 г. 140 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 56 жыхароў. У ліп. 1943 г. партызаны разграмілі каля вёскі вял. атрад карнікаў. 31 вясковец загінуў на фронце, 6 — у партыз. барацьбе. У 1945 г. да вёскі далучаны вёскі Рэзкі і Харошкаў. Паводле перапісу 1959 г. 214 жыхароў, у 1970 г. 306 жыхароў. У 1986 г. 41 двор, 164 жыхары, у складзе саўгаса «Шыннік» (цэнтр — в. Чыгірынка), магазін, клуб. У 2002 г. 50 гаспадарак, 83 жыхары. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ, перпендыкулярна да прасёлачнай дарогі, забудавана двухбакова традыц. драўлянымі сял. хатамі. Радзіма Героя Сав. Саюза А.І.Мельнікава.

**КРАСНАЯ ГАРА** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 29 км на ПдУ ад Кіраўска, 27 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін, 116 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

У 1897 г. пасёлак у Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 2 двары, 18 жыхароў. У 1917 г. в. Горка Чырвоная, 7 двароў, 44 жыхары. У 1924 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1943 г. спалілі 15 двароў. Паводле перапісу 1959 г. 40 жыхароў. У 1986 г. 10 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе саўгаса-тэхнікума «Жылічы» (цэнтр — в. Жылічы). У 2002 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў. Забудова драўляная сядзібнага тыпу.

**КРАСНЫ БЕРАЖОК** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Кіраўска, 25 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін, 121 км ад Магілёва, на З р. Добасна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў (2007).

У 1897 г. ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ., 3 двары, 32 жыхары. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 15 жыхароў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 118 жыхароў, у 1970 г. 109 жыхароў. У 1986 г. 24 гаспадаркі, 44 жыхары, у складзе саўгаса-тэхнікума «Жылічы» (цэнтр — пас. Жылічы). У 2002 г. 10 гаспадарак, 18 жыхароў. Кароткая крывалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі няшчыльна забудавана драўлянымі сял. хатамі.

**КРАСНІЦА** — вёска ў Казуліцкім с/с, за 5 км на ПнЗ ад Кіраўска, 29 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 94 км ад Магілёва, на У р. Ала (прыток Бярэзіны). Побач аўтадарога Кіраўск—Клічаў. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў 1928 г., калі пасля пажару жыхары в. Пацава Слабада стварылі тут пасёлак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. ў складзе калгаса «3-і з'езд Саветаў» (цэнтр — в. Пацава Слабада). У 2002 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**КУРГАНЫ** — вёска ў Любоніцкім с/с, за 16 км на З ад Кіраўска, 21 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 103 км ад Магілёва, на аўтадарозе Кіраўск—Клічаў. 36 гаспадарак, 58 жыхароў (2007).

У 1857 г. вёска, уладанне памешчыка С.Паца. У 1897 г. в. Курганы (яна ж Сяліба) у Любоніцкай вол. Бабруйскага павета Магілёўскай губ., 32 двары, 260 жыхароў. У 1907 г. 44 двары, 333 жыхары. У 1917 г. 65 двароў, 364 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Курганы», меліся кузня і вятрак. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 24 вяскоў-

цы загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Любонічы). У 2002 г. 42 гаспадаркі, 63 жыхары. Прамалінейная працяглая вуліца (адрэзак дарогі Клічаў—Кіраўск) арыентавана шыротна. На Пн, амаль паралельна да яе размешчана кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі. Радзіма Героя Сац. Працы В.І.Баркоўскай і ген.-палкоўніка А.Р.Бацюні.


*В.І.Баркоўская.*


*А.Р.Бацюня.*

**ЛЕСНІЧОЎКА** — пасёлак у Грыбавецкім с/с, за 26 км на ПнУ ад Кіраўска, 38 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 74 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Магілёў—Бабруйск. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я гг. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 55 жыхароў. У 1986 г. 12 гаспадарак, 27 жыхароў, дзейнічае Грыбавецкае лясніцтва, магазін. Асн. занятак пасялкоўцаў — ахова і вырошчванне лесу. У 2002 г. 4 гаспадаркі, 11 жыхароў. Традыц. драўляныя сял. хаты пастаўлены рэдка, уздоўж сельскай дарогі.

**ЛЕЎКАВІЧЫ** — вёска ў Дабасн...нскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Кіраўска, 46 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 110 км ад Магілёва, на У р. Добасна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 123 гаспадаркі, 333 жыхары (2007).

У 1816 г. ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка, 22 двары, 164 жыхары. Частка вяскоўцаў апрача земляробства займалася шавецкім і кавальскім промысламі. У 1847 г. в. Ляўкі (59 двароў, 277 жыхароў) у складзе маёнтка Церабуты Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага павета, 64 двары, 441 жыхар, школа граматы, піцейны дом. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Запаветы Ільіча». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. акупанты спалілі 10 двароў, загубілі 18 жыхароў. 37 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 370 жыхароў, у 1970 г. 338 жыхароў. У 1986 г. 107 гаспадарак, 255 жыхароў, цэнтр калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага, машынны двор, піларама, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, магазін, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2002 г. 129 гаспадарак, 363 жыхары. У 2007 г. Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, раённы дзіцячы сац. прытулак. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1979 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Аснову планіроўкі складаюць 3 паралельныя паміж сабой вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з двухбаковай забудовай. На Пн перпендыкулярна да іх ідзе вул. Цэнтральная, забудаваная з аднаго боку. Жылая забудова змешаная: традыц. драўляныя хаты з гасп. дварамі і сучасныя тыпавыя 2-кватэрныя мураваныя дамы. Адм.-грамадскі цэнтр сфарміраваны на У, на перакрыжаванні вуліц Цэнтральнай і Дзяржынскага. У 1990—93 гг. узведзены мураваныя дамы на 50 кватэр, у якіх размясціліся перасяленцы з месц, забруджаных радыяцыяй пасля чарнобыльскай катастрофы.

**ЛЕШЧАНКА** — вёска ў Паўлавіцкім с/с, за 17 км на ПдУ ад Кіраўска, 37 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 98 км ад Магілёва, на Пн і Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Добасна, на З штучная сажалка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 35 гаспадарак, 95 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1621 г. як с. Лошчавічы (21 дым) у Бабруйскім старостве Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1897 г. ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ., 68 двароў, 427 жыхароў, школа граматы. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай



зямлі. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 106 вучняў). З 20.8.1924 г. да 24.6.1960 г. цэнтр Лешчанскага с/с. У 1927 г. для школы пабудавана ўласнае памяшканне. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новы быт». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 42 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 340 жыхароў, у 1970 г. 218 жыхароў. У 1986 г. 63 гаспадаркі, 162 жыхары, у складзе калгаса імя В.У.Куйбышава (цэнтр — в. Барсукі), клуб, магазін. У 2002 г. 41 гаспадарка, 116 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой шыротных вуліц, забудаваных двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЮБОНІЧЫ** — вёска, цэнтр Любоніцкага с/с, за 18 км на З ад Кіраўска, 20 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 105 км ад Магілёва, на аўтадарозе Клічаў—Кіраўск, на Пд невялікі штучны вадаём. 371 гаспадарка, 825 жыхароў (2007).

Каля вёскі быў курганны могільнік дрыгавічоў (153 насыпы, не захаваўся), які сведчыў аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Мінскага ваяв., уласнасць казны. У 1674 г. побач быў маёнтак. У 1738 г. цэнтр староства Рэчыцкага павета, 10 дымоў, царква. З 1772 г. мястэчка, цэнтр воласці Рагачоўскага павета, уладанне магната С.Паца. У 1773 г. 19 двароў. У 1776 г. сяляне паўсталі супраць свайго ўладальніка. У 1789 г. мястэчка (36 двароў) і сяло (23 двары) у Любоніцкім старостве Рэчыцкага павета, дзярж. уласнасць. У 1792 г. пабудавана драўляная царква. У 1842 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у 1906 г. пабудаваны 2 памяшканні і ў 1910 г. — яшчэ адно. У 1849 г. ўзведзена яшчэ адна царква. Вясной 1861 г. сяляне правялі самавольную вырубку казённага лесу. У 1888—89 гг. збудаваны 3 млыны, на якіх у 1890 г. працавалі 20 рабочых. У 1897 г. меліся паравы млын, заезны дом, школа, 2 лаўкі. Побач былі аднайменныя сядзіба (2 двары, 9 жыхароў, вал. лячэбніца, 2 хлебазапасныя магазіны), сядзіба лесніка (1 двор, 4 жыхары), выселак (3 двары, 17 жыхароў), сяло (114 двароў, 950 жыхароў, цагельня). Аднакласная школа, што была ў мястэчку (у 1891 г. 46 вучняў), ператворана ў 1916 г. ў двухкласную. З 1916 г. дзейнічала паштова-тэлегр. аддз. У 1917 г. ў мястэчку 69 двароў, 515 жыхароў, у сяле 210 двароў, 1191 жыхар. У 1918 г. створаны Любоніцкі вал. рэўком, па ініцыятыве якога ў вер. 1920 г. вяскоўцы сабралі і накіравалі рабочым Бабруйска 900 пудоў жыта і 12 галоў буйной рагатай жывёлы. У 1918 г. школа пераўтворана ў вышэйшае пач. вучылішча, а ў 1921 г. — у сямігодку (у 1923 г. 229 вучняў), дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1922 г. адкрыта хата-чытальня, у 1923 г. — урачэбны ўчастак. 22.9.1922 г. засн. спажывецкі кааператыў. 23.4.1924 г. арганізавана масларобчая арцель «Прагрэс». У выніку пажару, які адбыўся 9.5.1924 г., згарэлі 732 пабудовы (121 двор). З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1925 г. засн. смалакурня, у 1926 г. цагельная і шавецкая арцелі, пачало дзейнічаць паштовае аддз., вёска атрымала тэлегр. сувязь з Бабруйскам. У 1934 г. арганізаваны калгас. У 1939 г. пабудавана новае школьнае памяшканне, 7-гадовая школа пераўтворана ў сярэднюю. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны



*Царква святых Касьмы і Даміяна ў в. Любонічы.*

ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1942 г. ням. карнікі пасля жорсткіх катаванняў расстралялі 150 жыхароў Любоніч і навакольных вёсак (пахаваны ў магіле каля бальніцы). У баях каля вёскі загінулі 116 сав. воінаў і 16 партызан (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 80 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У пасляваенны час у вёсцы размяшчаўся дзіцячы дом. Паводле перапісу 1959 г. 1482 жыхары, у 1970 г. 1294 жыхары. У 1986 г. 396 гаспадарак, 936 жыхароў, цэнтр калгаса «Радзіма», машынны двор, сталярна-цяслярская майстэрня, млын, лясніцтва, філіял Бабруйскага лясгаса з пітомнікам, сярэдняя і муз. школы, Дом культуры, бальніца, аптэка, дзіцячы сад-яслі, сталовая, 4 магазіны, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя (з 1967), аддз. ашчаднага банка, 2 спарт. пляцоўкі, б-ка. Шырокай папулярнасцю карыстаўся вясковы самадзейны этнаграфічны ансамбль «Любоніцкія вячоркі». У 2002 г. 400 гаспадарак, 884 жыхары. У 2007 г. дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддзяленні сувязі і Беларусбанка, сталовая, магазін. Ген. план забудовы распрацаваны ін-там «Магілёўграмадзянпраект» у 1976 г., скарэкціраваны ў 1981 г. На гал. вул. Цэнтральнай, арыентаванай шыротна, размешчаны грамадскія будынкі. Перпендыкулярна да яе падыходзяць другарадныя вуліцы. На ўсх. і зах. ускраінах, а таксама на Пн ад цэнтра ўзведзены секцыйныя 2-кватэрныя 1—2-павярховыя мураваныя дамы. Астатняя забудова пераважна драўляная. За ўдалую забудову вёска ў 1982 г. ўзнагароджана дыпломам 2-й ступені ВДНГ СССР. Радзіма бел. вучонага П.І.Пінчука (1895—1962).


*П.І.Пінчук.*

**ЛЯСКІ** — вёска ў Казуліцкім с/с, за 7 км на З ад Кіраўска, 30 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 95 км ад Магілёва, на У р. Ала (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Клічаў—Кіраўск. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

У 1897 г. в. Іжара-Ляскі ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Магілёўскай губ., 3 двары, 44 жыхары. У 1908 г. 14 двароў, 195 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. ў складзе калгаса «3-і з'езд Саветаў» (цэнтр — в. Пацава Слабада). У 2002 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў. Забудавана няшчыльна драўлянымі сял. хатамі ўздоўж кароценькай шыротнай вуліцы.

**МАЗУРАЎКА** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 15 км на ПнУ ад Кіраўска, 36 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 85 км ад Магілёва, на ПдЗ меліярацыйны канал злучаны з р. Добасна. Побач аўтадарога Магілёў—Бабруйск. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

У 1897 г. вёска ў Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 18 двароў, 108 жыхароў. У 1907 г. 25 двароў, 166 жыхароў, у 1917 г. 167 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас імя Я.М.Свярдлова. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі вёскі дыслацыравалася 9-я Кіраўская партыз. брыгада. 7 вяскоўцаў загінулі ў баях супраць акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 199 жыхароў, у 1970 г. 135 жыхароў. У 1986 г. 23 гаспадаркі, 52 жыхары, у складзе саўгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Хвайніца). У 2002 г. 23 гаспадаркі, 33 жыхары. Прамалінейная кароткая вуліца, арыентаваная з ПнЗ на ПдУ, забудавана няшчыльна, двухбакова, драўлянымі сял. хатамі.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Казуліцкім с/с, за 5 км на З ад Кіраўска, 27 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 92 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 9 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Засн. ў 1928 г., калі жыхары в. Пацава Слабада стварылі тут пасёлак, якому быў выдзелены вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1930-я г. вяскоўцы



ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. ў складзе калгаса «3-і з'езд Саветаў» (цэнтр — в. Пацава Слабада). У 2002 г. 9 гаспадарак, 19 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**МАШОК** — вёска ў Паўлавіцкім с/с, за 15 км на ПнУ ад Кіраўска, 28 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 104 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 9 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса «Чырвоны баец» (цэнтр — в. Паўлавічы). У 2002 г. 11 гаспадарак, 31 жыхар. Планіровачна ўяўляе сабой кароткую прамалінейную вуліцу мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваную няшчыльна традыц. сял. хатамі.

**МОРХАВІЧЫ** — вёска ў Любоніцкім с/с, за 18 км на З ад Кіраўска, 20 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 102 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей Бабруйскай абкружной аўтадарозе. 53 гаспадаркі, 76 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. Пазначаны пад 1639 г. ў інвентары Бабруйскага староства. У 1738 г. ў Любоніцкім старостве, 10 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. Вясной 1865 г. сяляне правялі самавольную высечку казённага лесу. Паводле перапісу 1897 г. ў Любоніцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 71 двор, 554 жыхары. У 1907 г. 90 двароў, 707 жыхароў. У 1917 г. 95 двароў. У 1918 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце (у 1925 г. 84 вучні). У 1934 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія расстралялі 18 жыхароў. 47 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 602 жыхары, у 1970 г. 110 жыхароў. У 1986 г. 117 гаспадарак, 231 жыхар, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Любонічы), магазін, клуб, б-ка. У 2002 г. 69 гаспадарак, 103 жыхары. Аснову планіроўкі складаюць 2 амаль паралельныя паміж сабой вуліцы шыротнай арыентацыі. На ПдУ размешчаны 2 кароткія вуліцы — прамалінейная і крывалінейная. Забудаваны пераважна аднабакова драўлянымі хатамі з прысядзібнымі ўчасткамі.

**МЫШКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Мышкавіцкага с/с, за 6 км на ПдУ ад Кіраўска, 25 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 93 км ад Магілёва. Праз вёску праходзіць канал, злучаны з р. Ала, на якім утворана вадасховішча. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 768 гаспадарак, 2071 жыхар (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1560 г. як с. Мышкавічы ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. сяло, млын, аднайменны фальварак. У 1647 г. 13 дымоў, пякарня, карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., 89 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся шавецкім і кравецкім промысламі. У 1863 г. адкрыта царк.-прыход-




*Уезд у в. Мышкавічы.*



*К.П.Арлоўскі.*

ская школа. У 1907 г. ў Качэрыцкай вол., 90 двароў, 678 жыхароў. У пач. 1920-х г. на базе старой была адкрыта 4-гадовая школа. У 1921 г. працаваў вадзяны млын. У 1922 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. З 30.8.1924 г. да 26.6.1954 г. цэнтр Мышкавіцкага с/с. У 1931 г. арганізаваны калгас (у 1935 г. аб'ядноўваў 130 гаспадарак). У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У баях каля вёскі загінулі 26 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на вясковых могілках). 132 жыхары вёсак калгаса «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. На ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі ў 1983 г. пастаўлены абеліск. У 1948 г. да вёскі далучана в. Лазавая Буда. Адразу пасля вайны калгас узначаліў Герой Сав. Саюза К.П.Арлоўскі, удастоены затым звання Героя Сац. Працы. Пасля яго смерці з студз. 1968 г. калгас узначальваў двойчы Герой Сац. Працы В.К.Старавойтаў. У 1956—59 гг. ў калгасе выходзіла шматтыражка. Паводле перапісу 1959 г. 1082 жыхары, у 1970 г. 1086 жыхароў. У 1986 г. 360 гаспадарак, 1143 жыхары, дзейнічалі машынны двор, гароднінны з-д, швейны, малочны і каўбасны цэхі, сталярна-цяслярскія майстэрні, млын, цэх па разліве мінеральнай вады, сярэдняя школа, б-ка, дзіцячы сад-яслі, гандл. цэнтр, стадыён, рэстаран, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, грамадская лазня, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, аўтаматычная тэлеф.



*Мемарыял Славы ў в. Мышкавічы.*



*Помнік К.П.Арлоўскаму.*





*Забудова в. Мышкавічы.*



станцыя (з 1970 г.), Палац культуры, дзіцячая муз. школа. У 2002 г. 755 гаспадарак, 1998 жыхароў. У 2007 г. цэнтр СВК «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага, дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддзяленні сувязі і Беларусбанка, 3 магазіны, кафэ, сталовая. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1970 г. БелНДІдзіпрасельбудам, у 1980—82 гг. скарэкціраваны. У планіровачнай структуры вылучаюцца паўд. і паўн. часткі, злучаныя з гал. планіровачнай воссю — вул. Цэнтральнай (адрэзак аўтадарогі Кіраўск—Добасна), арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. У паўд. частцы сядзібная зона мае рэгулярную планіроўку, утвораную шэрагам паралельных (Кавальская, Народная, Шырокая, Лугавая, Механізатараў і інш.) і перпендыкулярных (Прыазёрная і Алянская) да галоўнай вуліц. Забудова пераважна традыц., драўляная, сядзібнага тыпу. На перакрыжаванні вуліц Цэнтральнай і Алянскай у 1960-я г. ўзведзена некалькі двухпавярховых мураваных адм. і жылых будынкаў. Сучаснае жыллёвае і грамадскае будаўніцтва вядзецца ў паўн. частцы. На перакрыжаванні вуліц Цэнтральнай і Палацавай склаўся новы адм.-грамадскі цэнтр. Яго кампазіцыйным ядром з'яўляецца плошча на беразе вадаёма, на якой узведзены Палац культуры, гандл. цэнтр, гасцініца, адм. будынкі (аўтарскі калектыў пад кіраўніцтвам архітэктара Г.В.Заборскага). Перад палацам у 1977 г. ўстаноўлены помнікі землякам і быламу старшыні калгаса Герою



*В.К.Старавойтаў.*





*Ферма СВК «Рассвет».*

*Новая тэхніка ў СВК «Рассвет».*





*Цяпліца СВК «Рассвет» у в. Мышкавічы.*





*Дзіцячы сад СВК «Рассвет» у в. Мышкавічы.*

*Дом культуры СВК «Рассвет» у в. Мышкавічы.*



*А.М.Рабцэвіч.*

Сав. Саюза і Герою Сац. Працы К.П.Арлоўскаму (скульптар М.Рыжанкоў, архітэктар Ю.Казакоў). Сядзібная зона гэтай часткі вёскі мае сетку кварталаў, забудаваных двухпавярховымі муравымі блочнымі, секцыйнымі і тыпу катэджаў (з кватэрамі на 2 узроўнях) жылымі дамамі. Забудова вызначаецца высокім узроўнем добраўпарадкавання. Ёсць каналізацыя, водаправод, газавае забеспячэнне. Радзіма Героя Сав. Саюза і Героя Сац. Працы К.П.Арлоўскага, Героя Сав. Саюза А.М. Рабцэвіча (былая в. Лазавая Буда), Героя Сац. Працы Х.Ц.Міхнёвай.

**НАНДАТКІ** — вёска ў Паўлавіцкім с/с, за 14 км на П ад Кіраўска, 28 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 102 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Магілёў. 16 гаспадарак, 42 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1922 г. выдзелены вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 99 жыхароў, у 1970 г. 75 жыхароў. У 1986 г. 23 гаспадаркі, 46 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны баец» (цэнтр — в. Паўлавічы). У 2002 г. 17 гаспадарак, 33 жыхары. Кароткая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**НЕГАЎЛЯ** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 16 км на ПнУ ад Кіраўска, 38 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 86 км ад Магілёва, на Пн канал, злучаны з р. Добасна. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 39 гаспадарак, 95 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1857 г. вёска ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У канцы 1891 г. сяляне аказалі супраціўленне ўладам пры вопісе маёмасці і адмовіліся ад пагашэння выкупных плацяжоў. Выступленне было падаўлена з да-

*Магазін харчовых прадуктаў СВК «Рассвет».*

*У зале музея К.П.Арлоўскага ў в. Мышкавічы.*







памогай войск. Паводле перапісу 1897 г. ў Качэрыцкай вол., 45 двароў, 274 жыхары. У 1907 г. 52 двары, 360 жыхароў, у 1917 г. 74 двары, 513 жыхароў. У 1934 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Негаўля». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 70 двароў і загубілі 30 жыхароў. У наваколлі базіравалася 9-я Кіраўская партыз. брыгада. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 381 жыхар, у 1970 г. 338 жыхароў. У 1986 г. 91 гаспадарка, 220 жыхароў, у складзе саўгаса «Берасьнёўскі» (цэнтр — в. Баравіца), пач. школа, клуб, б-ка, магазін. У 2002 г. 51 гаспадарка, 120 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПнУ на ПдЗ і злучаных завулкамі. Забудова пераважна драўляная, сядзібнага тыпу, няшчыльная. На Пн сярод жылой забудовы — грамадскія будынкі.

**НОВАЕ ЗАЛІЦВІННЕ** — вёска ў Скрыпліцкім с/с, за 24 км на У ад Кіраўска, 48 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 96 км ад Магілёва, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 14 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 19 ст. У 1897 г. в. Заліцвінне Малое (21 двор, 143 жыхары) у Ціхініцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 38 двароў, 290 жыхароў. У 1933 г. арганізаваны калгас імя А.В.Луначарскага. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 252 жыхары, у 1970 г. 197 жыхароў, у 1986 г. 42 гаспадаркі, 68 жыхароў. У складзе саўгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Хвайніца), магазін. У 2002 г. 20 гаспадарак, 28 жыхароў. Прамалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі, забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі.

**НОВАЯ ДОБАСНА** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Кіраўска, 37 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 110 км ад Магілёва, на У р. Добасна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 53 гаспадаркі, 151 жыхар (2007).

У 1897 г. фальварак ў Бортнікаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 3 двары, 63 жыхары, вінакурны і цагельны з-ды, кузня. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 38 вяскоўцаў загінулі на фронце, у партыз. барацьбе і расстраляны акупантамі. Паводле перапісу 1959 г. 274 жыхары, у 1970 г. 215 жыхароў. У 1986 г. 50 гаспадарак, 108 жыхароў, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Добасна), машынны двор, электрастанцыя (на р. Добасна), магазін, бальніца, аптэка. У 2002 г. 55 гаспадарак, 167 жыхароў. На У да працяглай шыротнай вуліцы далучаецца кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**НОВЫ ГАРАДОК** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 12 км на ПнУ ад Кіраў-



*Х.Ц.Міхнёва.*



*Царква ў в. Мышкавічы.*

ска, 36 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 76 км ад Магілёва, на У р. Добасна (прыток Дняпра). Побач аўтадарога Магілёў—Бабруйск. 32 гаспадаркі, 45 жыхароў (2007).

У 1897 г. ў Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 96 жыхароў. У 1907 г. ў вёсцы 18 двароў, 148 жыхароў, на аднайменным хутары 3 двары, 19 жыхароў, у 1917 г. ў вёсцы 24 двары, 167 жыхароў, на хутары 1 двор, 15 жыхароў. У пач. 1930-х г. адкрыта 4-гадовая школа, дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1934 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Гарадок». У 1940 г. 47 двароў, 180 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 27 жыхароў. Паводле перапісу 1959 г. 161 жыхар, у 1970 г. 158 жыхароў. У 1986 г. 42 двары, 93 жыхары, у складзе саўгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Хвайніца). У 2002 г. 34 гаспадаркі, 66 жыхароў. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ і забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**НОВЫ ЮЗІН** — вёска ў Грыбавецкім с/с, за 42 км на ПнУ ад Кіраўска, 30 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Магілёў—Асіповічы, 58 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск.

У 1897 г. ў Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета Мінскай губ., 18 двароў, 132 жыхары. У 1909 г. 25 двароў, 220 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік». У 1940 г. 30 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 7 жыхароў. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 76 жыхароў, у 1970 г. 42 жыхары. У 1986 г. 17 гаспадарак, 54 жыхары, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Шалаёўка). Прамалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі забудавана пераважна з паўн. боку драўлянымі сял. хатамі.

**НОВЫЯ ДВАРАНІНАВІЧЫ** — вёска ў Паўлавіцкім с/с, за 19 км на Пд ад Кіраўска, 22 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 106 км ад Магілёва, вакол лес. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з пач. 20 ст. У 1917 г. вёска ў Бабруйскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 9 двароў, 78 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чэлюскінец». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 72 жыхары. У 1986 г. 10 гаспадарак, 12 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны баец» (цэнтр — в. Паўлавічы). У 2002 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары. Драўляныя сял. хаты рэдка пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**НОВЫЯ СТАЎПІШЫ** — вёска ў Мышкавіцкім с/с, за 5 км на ПдЗ ад Кіраўска, 20 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 93 км ад Магілёва, на З меліярацыйны канал, злучаны з р. Ала (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 35 гаспадарак, 59 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1934 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 21 вясковец загінуў на фронце. На паўн.-ўсх. ускраіне 24.5.1944 г. ням.-фаш. карнікі спалілі жывымі больш за 100 жыхароў (пахаваны ў магіле ахвяр фашызму). Паводле перапісу 1959 г. 316 жыхароў, у 1970 г. 231 жыхар. У 1986 г. 68 гаспадарак, 134 жыхары, у складзе калгаса «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага (цэнтр — в. Мышкавічы), магазін. У 2002 г. 41 гаспадарка, 71 жыхар. Да працяглай шыротнай вуліцы (адрэзак дарогі Букіно—Стаўпішча) з Пн перпендыкулярна далучаецца кароткая вуліца. Забудаваны двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі сял. хатамі.



**НЯМКІ** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 39 км на ПнУ ад Кіраўска, 33 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін, 77 км ад Магілёва, на р. Хмялінка (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 18 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

У 1858 г. ў Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., 103 жыхары. У 1870 г. засн. сукнавальня і гарбарня. Гаспадар аднайменнага маёнтка валодаў у 1859 г. 10 503 дзес. зямлі, 2 вадзянымі млынамі, 3 корчмамі. У 1880 г. 40 двароў, 186 жыхароў. 40 вяскоўцаў апрача земляробства займаліся вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары, 35 чал. — кравецкім, кавальскім і адыходным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Чыгірынскай вол. 73 двары, 450 жыхароў. Побач быў фальварак Нямкі (ён жа Чыгірынка), 6 двароў, 51 жыхар. У 1909 г. 79 двароў, 463 жыхары. Дзейнічала земская школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце. З пач. 1920-х г. дзейнічала 4-гадовая школа (у 1925 г. 63 вучні) і пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1933 г. арганізаваны калгас «КІМ». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1942 г. спалілі 138 двароў і загубілі 36 жыхароў. 27 вяскоўцаў загінулі на фронце, 9 — у партыз. барацьбе. У 1945 г. да вёскі далучана в. Зарэчча. Паводле перапісу 1959 г. 80 жыхароў, у 1970 г. 240 жыхароў. У 1986 г. 46 гаспадарак, 94 жыхары, у складзе саўгаса «Шыннік» (цэнтр — в. Чыгірынка), магазін. У 2002 г. 28 гаспадарак, 38 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ вуліц, падзеленых ракой і шырокім выганам. Адна вуліца забудавана з двух бакоў, другая — пераважна з аднаго боку. Забудова шчыльная, драўляная. Хаты арыентаваны да вуліцы адвольна, гасп. двары розных тыпаў.

Каля вёскі ёсць участак лесу пл. 8 га, які аб'яўлены ў 1963 г. помнікам прыроды. Тут расце хвоя веймутава, завезеная ў 1894 г. з Паўд. Амерыкі.

**НЯПТУН** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Кіраўска, 45 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін, 112 км ад Магілёва, на У р. Добасна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 51 гаспадарка, 115 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. для вёскі выдзелены вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. ў складзе саўгаса-тэхнікума «Жылічы» (цэнтр — пас. Жылічы). У 2002 г. 48 гаспадарак, 101 жыхар. Працяглая прамалінейная вуліца арыентавана мерыдыянальна, паралельна да берага ракі. На У і З да яе далучаюцца кароткія вуліцы. Забудова пераважна аднабаковая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАДВІШАННЕ** — вёска ў Паўлавіцкім с/с, за 13 км на ПдУ ад Кіраўска, 36 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 97 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 7 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1925 г. для вёскі выдзелены вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1934 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе калгаса імя В.У.Куйбышава (цэнтр — в. Барсукі). У 2002 г. 8 гаспадарак, 16 жыхароў. Традыц. сял. хаты пастаўлены ўздоўж мясц. дарогі. Радзіма Героя Сац. Працы У.А.Макаранка.

**ПАДЛЕШЧАНКА** — вёска ў Паўлавіцкім с/с, за 19 км на ПдУ ад Кіраўска, 44 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 87 км ад Магілёва, на З і Пд меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Добасна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 25 гаспадарак, 54 жыхары (2007).





У канцы 1891 г. сяляне адмовіліся ад выкупных плацяжоў і аказалі супраціўленне ўладам пры вопісе іх маёмасці. Выступленне вяскоўцаў было падаўлена з дапамогай войск. У 1897 г. ў Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 40 двароў, 268 жыхароў. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 17 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 199 жыхароў, у 1970 г. 146 жыхароў. У 1986 г. 39 гаспадарак, 78 жыхароў, у складзе калгаса імя В.У.Куйбышава (цэнтр — в. Барсукі ). У 2002 г. 31 гаспадарка, 85 жыхароў. Прамалінейная шыротная вуліца забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ПАДЛІПКІ** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 41 км на ПнУ ад Кіраўска, 33 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін, 74 км ад Магілёва, на ПдУ р. Хмялінка (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

У 1908 г. хутар у Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 2 двары, 9 жыхароў. У 1917 г. 4 двары, 23 жыхары. У 1933 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Кастрычнік». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. 13 двароў, 31 жыхар, у складзе саўгаса «Шыннік» (цэнтр — в. Чыгірынка). У 2002 г. 7 гаспадарак, 12 жыхароў. Кароценькая вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ і забудавана рэдка драўлянымі сял. хатамі.

**ПАДЛУЖЖА** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 34 км на ПнУ ад Кіраўска, 40 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін, 70 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

У 1847 г. ў складзе маёнтка Згода Бабруйскага павета Мінскай губ, 20 двароў, 171 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1933 г. арганізаваны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 81 жыхар. У 1986 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе саўгаса «Шыннік» (цэнтр — в. Чыгірынка). У 2002 г. 4 гаспадаркі, 4 жыхары. Забудавана няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**ПАДРЭЧЧА** — вёска ў Казуліцкім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Кіраўска, 18 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 97 км ад Магілёва. Побач Бабруйская абкружная дарога, на У ручай (прыток р. Ала). 59 гаспадарак, 101 жыхар (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. сяло ў Бабруйскім старостве Рэчыцкага павета. Паводле інвентару Бабруйскага староства 1639 г. 12 валок зямлі, з якіх 5 пустых. У 1738 г. 6 дымоў, у Любоніцкім старостве, у 1773 г. 8 дымоў, у 1789 г. 13 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1857 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1889 г. адкрыта школа граматы. Паводле перапісу 1897 г. ў Любоніцкай вол., 79 двароў, 512 жыхароў, ветраны млын, кузня. У 1908 г. 89 двароў, 699 жыхароў. У 1909 г. школа граматы пераўтворана ў земскую, што размясцілася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 117 двароў, 735 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 26.6.1954 г. цэнтр Падрэцкага с/с. На базе ранейшай у пач. 1920-х г. створана 4-гадовая школа (у 1925 г. 116 вучняў). У 1925 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1934 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З першых дзён акупацыі дзейнічала падп. патрыят. група (40 чал.). У снеж. 1941 г. яна склала аснову партыз. атрада № 537, які ўзначаліў С.І.Свірыд. 24.6.1942 г. ням.-фаш. карнікі спалілі 23 двары і расстралялі 21 жыхара. 37 вяскоўцаў загінулі на фронце, 3 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 437 жыхароў, у 1970 г. 367 жыхароў. У 1986 г. 116



гаспадарак, 242 жыхары, у складзе калгаса імя С.М.Кірава (цэнтр — в. Стаўпішча), дзейнічаюць аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, магазін. У 2002 г. 67 гаспадарак, 150 жыхароў. Аснову планіровачнай структуры складаюць 3 паралельныя паміж сабой кароткія вуліцы блізкай да мерыдыянальнай арыентацыі, злучаныя часткай мясц. дарогі. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі сял. хатамі. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Магілёўскай вобл. ў Вял. Айч. вайну Ф.Ф.Дабравольскага (быў камісарам 537-га партыз. палка).

**ПАДСЁЛЫ** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 42 км на ПнУ ад Кіраўска, 22 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Магілёў—Жлобін, 85 км ад Магілёва, на У р. Друць, на Пн — яе прыток р. Белая. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 49 гаспадарак, 100 жыхароў (2007).

На 1-й надпоймавай тэрасе правага берага Друці, за 0,5 км на Пд ад вёскі размешчана стаянка каменнага веку, за 1 км на Пд ад вёскі — стаянка позняга неаліту (3-е — пач. 2-га тысячагоддзя да н.э.). Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1631 г., калі вёска была падаравана К.Хадкевічам Быхаўскаму лютэранскаму кляштару. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1797 г. 294 жыхары, у валоданні Азяранскага лютэранскага кляштара. У 1880 г. мелася кузня. Паводле перапісу 1897 г. ў Ціхініцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ. 106 двароў, 767 жыхароў, школа граматы, піцейны дом. У 1905 г. адкрыта казённая вінная лаўка. У 1909 г. 135 двароў, 911 жыхароў. У 1910 г. школа граматы пераўтворана ў земскую, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У пач. 1920-х г. стала працаваць 4-гадовая школа (у 1925 г. 62 вучні). У 1926 г. 957 жыхароў, дзейнічала хата-чытальня. З 20.8.1924 г. да 26.6.1954 г. цэнтр Падасельскага с/с. У 1934 г. створаны калгас імя Э.Тэльмана. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У баях каля вёскі загінулі 140 сав. воінаў (пахаваны ў брацкіх магілах у цэнтры вёскі і на паўд. ускраіне). 30 вяскоўцаў загінулі на фронце, 26 — у партыз. барацьбе і ад рук акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 212 жыхароў, у 1970 г. 386 жыхароў. У 1986 г. 88 гаспадарак, 176 жыхароў, у складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова (цэнтр — в. Стайкі), дзейнічаюць машынны двор, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, магазін, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, грамадская лазня. У 2002 г. 67 гаспадарак, 129 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і адасобленага ўчастка на Пд. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу з гасп. дварамі розных тыпаў.

**ПАПОЎШЧЫНА** — вёска ў Кіраўскім пас. Савеце, за 5 км на ПдЗ ад Кіраўска, 25 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 92 км ад Магілёва, на Пд Мышкавіцкае вадасховішча. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 17 ст. У 1647 г. ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1840 г. пабудавана драўляная царква. У 1857 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., царк. ўласнасць. У 1864 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. ў Качэрыцкай вол., 29 двароў, 235 жыхароў. У 1907 г. 33 двары, 251 жыхар, у 1917 г. 38 двароў, 316 жыхароў. У пач. 1920-х г. стала працаваць 4-гадовая школа, якой быў перададзены нацыяналізаваны будынак (у 1925 г. 144 вучні). У 1932 г. арганізаваны калгас. У 1939—40 гг. у вёску перасялены 63 хутарскія сядзібы. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях каля вёскі загінулі 25 сав. воінаў (пахаваны ў брацкай магіле на могілках). 16 вяскоўцаў загінулі на фрон-

це. У 1955 г. да вёскі далучана в. Аляксандраўка, у 1957 г. — в. Перагоны. Паводле перапісу 1959 г. 435 жыхароў, у 1970 г. 378 жыхароў. У 1986 г. 232 гаспадаркі, 759 жыхароў, у складзе калгаса «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага (цэнтр — в. Мышкавічы), сталовая. У 1990-я г. далучана да в. Мышкавічы. Забудова склалася ўздоўж дарогі і 2 перпендыкулярных да яе вуліц. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі і буйнаблочнымі індывідуальнымі дамамі з гасп. дварамі розных тыпаў.

**ПАРХІМКАВІЧЫ** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Кіраўска, 27 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін, 40 км ад Магілёва, на Пд меліярацыйны канал, злучаны з р. Добасна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 56 гаспадарак, 109 жыхароў (2007).

У 1838 г. мястэчка (44 рэвізскія душы) і вёска (107 рэвізскіх душ), у Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка І.Г.Булгака. У 1885 г. 56 двароў, 460 жыхароў, царква. У 1889 г. адкрыта школа граматы, пераўтвораная ў 1909 г. ў царк.-прыходскую, для якой у 1892 г. збудавана ўласнае памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. сяло (28 двароў, 246 жыхароў) і вёска (68 двароў, 524 жыхары), млын, маслабойня, хлебазапасны магазін, лаўка. Раз у год, 11 вер., праводзіўся кірмаш. Побач былі аднайменныя пасёлак (4 двары, 19 жыхароў, заезны дом) і сядзіба (38 двароў, 250 жыхароў). У 1909 г. 111 двароў, 872 жыхары, у 1917 г. ў вёсцы 142 двары, у слабадзе 43 двары. У пач. 1920-х г. створана 4-гадовая школа (у 1925 г. 86 вучняў). Да вёскі ў 1923 г. далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны працаўнік». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, 34 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 408 жыхароў, у 1970 г. 454 жыхары. У 1986 г. 91 гаспадарка, 181 жыхар, у складзе калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага (цэнтр — в. Леўкавічы). У 2002 г. 58 гаспадарак, 128 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Сярод жылых пабудоў вылучаюцца мураваныя аднакватэрныя дамы.

**ПАЎЛАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Паўлавіцкага с/с (з 20.8.1924), за 13 км на ПдУ ад Кіраўска, 25 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 99 км ад Магілёва, на З р. Ала, на Пн меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 149 гаспадарак, 443 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. 28 дымоў. У 1639 г. 18 валок зямлі, з якіх 6 пустых, 76 жыхароў мужчынскага полу. У 1786 г. ў складзе маёнтка Міхалёва, 46 двароў, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1811 г. сяло ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., царква. У 1884 г. адкрыта царк.-прыходская школа (у 1902 г. 49 вучняў). З 1885 г. працаваў млын. Паводле перапісу 1897 г. 151 двор, 1283 жыхары, хлебазапасны магазін, заезны дом, царква. Побач аднайменнае ўрочышча, 1 двор, 6 жыхароў, 2 вадзяныя і 1 ветраны млыны. У 1907 г. 187 двароў. У хуткім часе пасля выгнання ў ліп. 1920 г. польскіх акупантаў пачала працаваць 4-гадовая школа, якой быў перададзены нацыяналізаваны будынак (у 1925 г. 119 вучняў). Дзейнічаў вадзяны млын. У студз. 1922 г. адкрыта хата-чытальня, 5.2.1923 г. створана с.-г. т-ва «Паўлавічы». З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Бабруйскага 2-га, з 4.8.1927 г. Бабруйскага, з 12.2.1935 г. Кіраўскага р-наў Бабруйскай (да 26.7.1930 г.) акругі, з 20.2.1938 г. Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей. У 1925 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1929 г. арганізаваны калгас. Меліся шавецкая арцель і кузня. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г.



акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. спалілі жывымі 23 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 56 сав. воінаў (пахаваны ў брацкіх магілах у цэнтры вёскі). У 1960 г. да вёскі далучана в. Забач. Паводле перапісу 1959 г. 377 жыхароў, у 1970 г. 324 жыхары. У 1986 г. 126 гаспадарак, 305 жыхароў, цэнтр калгаса «Чырвоны баец», дзейнічаюць машынны двор, піларама, млын, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, муз. школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, сталовая, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя (з 1976 г.), грамадская лазня, аддз. ашчаднага банка, 2 спарт. пляцоўкі. У 2002 г. 140 гаспадарак, 407 жыхароў. У 2007 г. цэнтр СВК «Чырвоны барацьбіт», дзіцячы сад, сярэдняя школа, цэнтр культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддзяленні сувязі і Беларусбанка, сталовая, магазін. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1975 г. БелНДІдзіпрасельбудам. Аснову планіроўкі складае прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ і забудаваная драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Перпендыкулярна да яе размешчаны 2 кароткія вуліцы, а на Пд, паралельна да асноўнай — новая вуліца, дзе ўзведзены мураваныя грамадскія будынкі.

**ПАЦАВА СЛАБАДА** — вёска ў Казуліцкім с/с, за 6 км на З ад Кіраўска, 28 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 93 км ад Магілёва, на аўтадарозе Клічаў—Кіраўск, на У р. Ала (прыток Бярэзіны). 198 гаспадарак, 430 жыхароў (2007).

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца пад 1738 г. як сяло (8 дымоў) у Любоніцкім старостве Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. У 1773 г. с. Пацаўка, 18 дымоў, уласнасць казны. У 1789 г. 34 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1838 г. 55 рэвізскіх душ. Вясной 1865 г. сяляне правялі самавольную высечку казённага лесу. У 1884 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у 1905 г. збудавана ўласнае памяшканне. У 1885 г. ў Любоніцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 45 двароў, 604 жыхары. У 1887 г. пабудавана драўляная царква. Паводле перапісу 1897 г. 144 двары, 1044 жыхары, 2 ветракі, крупарушка, кузня, 2 лаўкі. У 1907 г. 196 двароў, 1412 жыхароў, у 1917 г. 227 двароў, 1455 жыхароў. У 1918 г. пачала працаваць шавецкая арцель. У 1923 г. адкрыты фельч.-акушэрскі пункт. На базе ранейшай пачала працаваць 4-гадовая школа (у 1925 г. 150 вучняў). Пасля пажару 1928 г. з вёскі былі выдзелены пасёлкі Дубнікі, Падлессе, Дальні Сугроб, Дуброва, Цэнтральны, Новыя Сядзібы, Новы Гарадок, Калодзіна, Яўменаўскі, Пралетарскі, Красніца, Красноўка, Узнога, Малінаўка, Чырвоны Араты. Большасць з іх затым паступова зліліся ў адну вёску. Перасяленцы з вёскі былі таксама ў ліку заснавальнікаў пасёлкаў Інвалідскі, Сядзімая, Новы Церабеж, Ляскі, Пацава Слабада, Малыя Лучкі, Курганне, Мельнікі, Рагожынка. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1942 г. спалілі 68 двароў, загубілі 77 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 63 сав. воіны (пахаваны ў брацкай магіле каля Дома культуры). 103 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У 1953 г. да вёскі далучаны вёскі Новы Церабеж, Труд, Рагожынка, Рылаўка, Чырвоны Араты, Падлессе, Узнога. Паводле перапісу 1959 г. 735 жыхароў, у 1970 г. 1306 жыхароў. У 1986 г. 269 гаспадарак, 636 жыхароў, дзейнічаюць машынны двор, піларама, млын, базавая школа, гісторыка-краязнаўчы музей пры школе, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад-яслі, 2 магазіны, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддзяленні сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя (з 1970 г.), спарт. пляцоўка. У 2002 г. 216 гаспадарак, 334 жыхары. У 2007 г. дзіцячы сад, баз. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддзяленні сувязі і Беларусбанка, аптэка, сталовая, магазін. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны

ў 1982 г. ін-там «Белкалгаспраект». Асно- ву планіровачнай структуры складаюць 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы. Больш працяглая з іх (адрэзак дарогі Клічаў—Кіраўск) арыентавана шыротна, забудавана традыц. драўлянымі дамамі з гасп. дварамі розных тыпаў. На перакрыжаванні вуліц адм. і культурна-быт. цэнтр. На З вядзецца забудова 2 новых вуліц мураванымі жылымі дамамі.

За 3—4 км на З і ПдЗ размешчана радовішча пясчана-жвіровага матэрыялу (перспектыўныя запасы 1,18 млн. м³).

**ПЕРУНОВА** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Кіраўска, 48 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 71 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск.

У 1897 г. аколіца ў Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 5 двароў, 35 жыхароў. Побач быў аднайменны хутар (1 двор, 6 жыхароў, смалярня). У 1933 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 22 двары, 113 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 1 жыхара. 10 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 86 жыхароў, у 1986 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе саўгаса «Шыннік» (цэнтр — в. Чыгірынка). Традыц. сял. сядзібы размешчаны абапал кароткай сельскай дарогі.

**ПІЛЬНІКІ** — вёска ў Грыбавецкім с/с, за 45 км на ПдУ ад Кіраўска, 28 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Магілёў—Асіповічы, 59 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Клічаў—Чачэвічы. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

У 1850 г. вёска, 14 двароў, 96 жыхароў, уласнасць казны. Паводле перапісу 1897 г. в. Пільнікі (яна ж Маліннікі) у Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 4 двары, 26 жыхароў. У 1909 г. 5 двароў, 35 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 25 двароў, 163 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і расстралялі 2 жыхароў. 3 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 62 жыхары, у 1970 г. 67 жыхароў. У 1986 г. 13 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Шалаёўка). У 2002 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў. Сял. сядзібы няшчыльна пастаўлены абапал мясц. дарогі шыротнай арыентацыі.

**ПОЛЬКАВІЧЫ** — вёска ў Паўлавіцкім с/с, за 15 км на ПдУ ад Кіраўска, 28 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 101 км ад Магілёва, на У р. Ала (прыток Бярэзіны), на Пн штучная сажалка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 51 гаспадарка, 124 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1560 г. як с. Полкавічы ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. сяло, 5 дымоў. У 1639 г. 8 валок зямлі, 5 з якіх пуставалі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1897 г. 2 аднайменныя вёскі (у адной 22 двары, 226 жыхароў, у другой — 12 двароў, 77 жыхароў) у Бортнікаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 49 двароў, 307 жыхароў, у 1917 г. 332 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны маяк». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Акупанты спалілі жывымі ў вясковай хаце 30 жыхароў. У баях каля вёскі загінулі 20 сав. воінаў (пахаваны на вясковых могілках). 36 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 318 жыхароў, у 1970 г. 275 жыхароў. У 1986 г. 66 гаспадарак, 150 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны баец» (цэнтр — в. Паўлавічы), магазін. У 2002 г. 50 гаспадарак, 128 жыхароў. Крывалінейная вуліца шыротнай арыентацыі забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. хатамі.

**ПРАЖЭКТАР** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 29 км на ПдУ ад Кіраўска, 46 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 108 км ад Магілёва, на Пд меліярацыйны канал, злучаны з р. Дабрыца (прыток Друці). Транспартныя сувязі па



прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 10 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пражэктар». У 1940 г. 36 двароў, 212 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліст. 1943 г. спалілі 31 двор і расстралялі 5 жыхароў. 20 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У баях каля вёскі загінулі 27 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле на паўн. ускраіне вёскі). У 1986 г. 28 гаспадарак, 63 жыхары, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Добасна). У 2002 г. 16 гаспадарак, 30 жыхароў. Планіровачна ўяўляе крывалінейную вуліцу мерыдыянальнай арыентацыі з двухбаковай няшчыльнай драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ПРЫБАР** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 26 км на ПнУ ад Кіраўска, 22 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Магілёў—Жлобін, 78 км ад Магілёва, на У р. Друць (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

На паўд. ускраіне вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага Друці захавалася стаянка каменнага веку, за 1 км на Пд — стараж. курганны могільнік (3 насыпы), якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Вядомы з 19 ст. У 1816 г. ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ., 16 двароў, 90 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1934 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Прыбар». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 86 жыхароў, у 1970 г. 35 жыхароў. У 1986 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў, у складзе калгаса імя Я.М. Свярдлова (цэнтр — в. Стайкі). У 2002 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары. Драўляная сял. хата размешчана каля мясц. дарогі.

**ПЯСЦОВА** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Кіраўска, 39 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 109 км ад Магілёва, перакрыжоўвае меліярацыйны канал, злучаны з р. Добасна (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 35 гаспадарак, 86 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1924 г. для вёскі вылучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 63 двары, 344 жыхары. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Партызаны 19.9.1943 г. разграмілі каля вёскі атрад карнікаў. Акупанты ў вер. 1943 г. спалілі 59 двароў і загубілі 35 жыхароў. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 183 жыхары, у 1970 г. 205 жыхароў. У 1986 г. 50 гаспадарак, 123 жыхары, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Добасна), магазін. У 2002 г. 44 гаспадаркі, 102 жыхары. Прамалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАГОЎКА** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 9 км на ПнУ ад Кіраўска, 34 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 83 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Магілёў—Бабруйск. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Вядома з пач. 20 ст., у 1907 г. ў Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 174 жыхары. У 1917 г. 16 двароў. У 1932 г. арганізаваны калгас імя Г.Дзімітрава. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У наваколлі базіравалася 9-я Кіраўская партыз. брыгада. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 71 жыхар, у 1970 г. 48 жыхароў. У 1986 г. 6 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе саўгаса «Бераснёўскі» (цэнтр — в. Баравіца). У 2002 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў. Забудова традыц., драўляная, няшчыльная, сядзібнага тыпу.

**РОГ** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Кіраўска, 38 км ад чыг.

ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 113 км ад Магілёва, на ПнЗ штучны вадаём. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 10 гаспадарк, 16 жыхароў (2007).

У 1897 г. пас. Рогі (12 двароў, 81 жыхар) у Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1925 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 8 жыхароў. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 122 жыхары, у 1970 г. 101 жыхар. У 1986 г. 25 гаспадарак, 55 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага (цэнтр — в. Леўкавічы), магазін. У 2002 г. 14 гаспадарак, 23 жыхары. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ і забудавана пераважна з паўн. боку традыц. драўлянымі сял. хатамі.


*А.А.Хацкевіч.*

**РОШЧА** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 33 км на ПнУ ад Кіраўска, 20 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Магілёў—Жлобін, 84 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 81 жыхар, у 1970 г. 91 жыхар. У 1986 г. 13 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе калгаса імя Я.М. Свярдлова (цэнтр — в. Стайкі).


*Ф.М.Языковіч.*

**РУДНЯ** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Кіраўска, 42 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 98 км ад Магілёва, з трох бакоў мяжуе з лесам, на ПнУ р. Суша (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

За 0,3 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Бярозавае Балота, каля могілак захаваўся курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі (12 насыпаў), за 2,1 км на У ад вёскі — другі курганны могільнік (50 насыпаў), якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У пісьмовых крыніцах упершыню вёска ўпамінаецца ў 1684 г. як сяло (13 дымоў) у Бабруйскім старостве Рэчыцкага павета Мінскага ваяв., уласнасць казны. У 1765 г. меліся карчма і млын. У 1897 г. ў Качэрыцкай вол. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 21 двор, 35 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 6.4.1944 г. спалілі 15 двароў і разрабавалі маёмасць. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 74 жыхары, у 1970 г. 65 жыхароў. У 1986 г. 13 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Гарадзец). У 2002 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў. Забудова драўляная, сядзібнага тыпу.

**САМАДУМАЎКА** — вёска ў Скрыпліцкім с/с, за 22 км на ПнУ ад Кіраўска, 46 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 99 км ад Магілёва, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 27 гаспадарак, 63 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1938 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 11 жыхароў загінулі ў баях супраць акупантаў. Паводле перапісу 1959 г. 196 жыхароў, у 1970 г. 24 жыхары. У 1986 г. 50 двароў, 109 жыхароў, у складзе саўгаса «50 гадоў БССР» (цэнтр — в. Хвайніца). У 2002 г. 36 гаспадарак, 79 жыхароў. Крывалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі сял. хатамі з гасп. дварамі розных тыпаў.

**СЕЛІЦА** — вёска ў Паўлавіцкім с/с, за 11 км на ПдУ ад Кіраўска, 27 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 97 км ад Магілёва, на Пд меліярацыйны канал, злучаны з р. Ала (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 21 гаспадарка, 45 жыхароў (2007).



Вядома з пач. 19 ст. У 1816 г. в. Сяліцк у Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ., 28 двароў, 126 жыхароў. У 1844 г. ў складзе маёнтка Коўчара Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1922 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. 28 гаспадарак, 78 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны баец» (цэнтр — в. Паўлавічы). У 2002 г. 22 гаспадаркі, 57 жыхароў. Прамалінейная вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ і забудавана пераважна аднабакова драўлянымі хатамі. Гасп. двары пераважна няпоўныя вянковыя.

**СКАЧОК** — пасёлак у Баравіцкім с/с, за 13 км на ПнУ ад Кіраўска, 40 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 87 км ад Магілёва, на Пд р. Добасна (прыток Дняпра), на аўтадарозе Магілёў—Бабруйск, на У, Пн і З мяжуе з лесам. 164 гаспадаркі, 366 жыхароў (2007).

У 1897 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 3 двары, 22 жыхары. У 1908 г. хутар Скачок (ён жа Пераброднае). У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паблізу вёскі базіравалася Кіраўская партыз. брыгада. 9.7.1943 г. партызаны разграмілі ў вёсцы ням.-паліцэйскі гарнізон, а ў 1944 г. выдавалі ў вёсцы сваю падп. газ. «Кировец». У 1948 г. абсталяваны радыёвузел. У 1960 г. да вёскі далучана в. Сяліба. Паводле перапісу 1959 г. 625 жыхароў, у 1970 г. 756 жыхароў. У 1986 г. 214 гаспадарак, 516 жыхароў, размешчаны Бабруйскі леспрамгас, Гарадзецкае лясніцтва і цэх дрэваапрацоўкі леспрамгаса, базавая школа, б-ка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, спарт. пляцоўка, грамадская лазня, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, аўтастанцыя. У 2002 г. 188 гаспадарак, 416 жыхароў. У 2007 г. клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, сталовая. Планіроўка блізкая да прамавугольнай. Гал. вуліца (адрэзак аўтадарогі) арыентавана з ПнУ на ПдЗ. Паралельна і перпендыкулярна да яе праходзяць другарадныя вуліцы, утвараючы сетку кварталаў. Забудаваны пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу з гасп. дварамі.

У паўн.-ўсх. частцы грамадскі цэнтр. За 0,5 км на Пн ад пасёлка размешчана радовішча пяскоў (перспектыўныя запасы 7,81 млн. м$^3$).

**СКРЫПЛІЦА** — вёска, цэнтр Скрыпліцкага с/с, за 13 км на У ад Кіраўска, 43 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 100 км ад Магілёва, перакрыжоўвае ручай (прыток р. Добасна), на Пд — штучны вадаём. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 194 гаспадаркі, 495 жыхароў (2007).

У 1850 г. слабада Скрыпліца (24 двары, 217 жыхароў) у складзе маёнтка Качэрыцы Бабруйскага павета Мінскай губ. Пераважная частка жыхароў займалася земляробствам у маёнтку. У лютым 1867 г. 80 вяскоўцаў палявалі без дазволу ў памешчыцкім лесе, 1.3.1867 г. было аказана супраціўленне пры дазнанні аб самавольным паляванні. У канцы 1891 г. вяскоўцы адказаліся ад выплаты выкупных плацяжоў. Паводле перапісу 1897 г. ў Качэрыцкай вол., 117 двароў, 696 жыхароў, карчма. У 1909 г. 123 двары, 707 жыхароў, у 1917 г. 124 двары. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1933 г. арганізаваны калгас «Памяць Ільіча». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 58 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 644 жыхары, у 1970 г. 796 жыхароў. З 4.6.1965 г. цэнтр сельсавета. У 1986 г. 233 гаспадаркі, 702 жыхары, цэнтр саўгаса імя С.М.Кірава, дзейнічалі сталярна-цяслярская майстэрня, машынны двор, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання на-


А.К.Шомін.


Ф.М.Стралец.

сельніцтва, дзіцячы сад, 4 магазіны, грамадская школа, 2 спарт. пляцоўкі, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя (з 1982 г.), сталовая. Шырокую вядомасць набылі 2 вясковыя самадзейныя харавыя калектывы, якія ўдастоены звання народных. У 2002 г. 203 гаспадаркі, 547 жыхароў. У 2007 г. цэнтр РУСП «Саўгас імя Кірава», дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 3 шыротных вуліц, якія забудаваны традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. Перпендыкулярна да іх на З праходзіць гал. вуліца, на якой склаўся адм.-грамадскі цэнтр, узведзены мураваныя грамадскія будынкі, 1—2-кватэрныя мураваныя жылыя дамы. Ген. план забудовы распрацаваны ін-там «Магілёўграмадзянпраект» у 1979 г. На тэр. Скрыпліцкага с/с у в. Старое Заліцвінне (у 2007 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары) нарадзіліся бел. дзярж. і парт. дзеячы, арганізатары партыз. руху ў Беларусі ў Вял. Айч. вайну А.А.Хацкевіч (1909—76) і Ф.М.Языковіч (1903—43). За подзвіг, здзейснены ў Вял. Айч. вайну ў баях за вызваленне вёскі, званне Героя Сав. Саюза атрымаў А.К.Шомін (1906—44). У баях каля вёскі ў чэрв. 1944 вызначыўся Герой Сав. Саюза Ф.М.Стралец (1910—44).

**СКУБЯЦІНА** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 32 км на ПдУ ад Кіраўска, 26 км ад чыг. ст. Рагачоў на лініі Магілёў—Жлобін, 122 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

У 1897 г. хутар у Ціхініцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ., 3 двары, 24 жыхары. У 1909 г. 26 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. ў складзе саўгаса-тэхнікума «Жылічы» (цэнтр — пас. Жылічы).

**СТАЙКІ** — вёска, цэнтр Стайкаўскага с/с, за 40 км на ПнУ ад Кіраўска, 27 км ад чыг. ст. Тошчыцы на лініі Мінск—Жлобін, 80 км ад Магілёва, на Пд р. Белая (правы прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 118 гаспадарак, 305 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска ў Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., 65 жыхароў мужчынскага полу. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога валодаў 678 дзес. зямлі, мелася карчма. У 1897 г. ў Чыгірынскай вол., 20 двароў, 148 жыхароў. У 1901 г. адкрыта школа граматы. У 1909 г. 24 двары, 157 жыхароў. У 1934 г. арганізаваны калгас «Стайкі». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У баях каля вёскі загінулі 21 сав. воін і 3 партызаны (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). З 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. Паводле перапісу 1959 г. 81 жыхар, у 1970 г. 241 жыхар. У 1986 г. 271 жыхар, машынны двор, базавая школа, б-ка, клуб, урачэбная амбулаторыя, дзіцячы сад-яслі, магазін, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, аддз. ашчаднага банка, грамадская лазня, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя (з 1979 г.), 2 спарт. пляцоўкі. У 2002 г. 122 гаспадаркі, 344 жыхары. У 2007 г. цэнтр СВК «Калгас імя Свярдлова», дзіцячы сад, баз. школа, клуб, б-ка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін. Аснову планіровачнай структуры складае вуліца, арыентаваная з ПнЗ на ПдУ. Да яе перпендыкулярна далучаюцца другарадныя вуліцы (былыя вёскі Гунік і Пахараўка). Забудаваны двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі сял. сядзібамі з гасп. дварамі розных тыпаў. У цэнтры сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. Сучасная забудова ажыццяўляецца на ПнУ адпаведна ген. плану, распрацаванаму ін-там «Белкалгаспраект» у 1982 г. Тут паралельна да галоўнай склаліся 2 новыя вуліцы, забудаваныя 1—2-кватэрнымі мураванымі жылымі дамамі.

**СТАРЫ ЮЗІН** — вёска ў Грыбавецкім с/с, за 40 км на ПнУ ад Кіраўска, 30 км ад



чыг. ст. Мілое на лініі Асіповічы—Магілёў, 56 км ад Магілёва. Побач аўтадарога Клічаў—Чачэвічы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

У 1897 г. ў Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 18 двароў, 132 жыхары. У 1909 г. 25 двароў, 220 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая». У 1940 г. 35 двароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 12 жыхароў. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 60 жыхароў, у 1970 г. 47 жыхароў. У 1986 г. 10 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Шалаёўка). У 2002 г. 4 гаспадаркі, 4 жыхары. Забудавана рэдка традыц. драўлянымі сял. хатамі.

**СТАРЫЯ ДВАРАНІНАВІЧЫ** — вёска ў Паўлавіцкім с/с, за 18 км на ПдУ ад Кіраўска, 28 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 104 км ад Магілёва, на ПдЗ меліярацыйны канал, на У р. Ала (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 69 гаспадарак, 163 жыхары (2007).

Вядомы з 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1621 г. с. Дваранінавічы, 14 дымоў, з 1639 г. дзейнічала царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1885 г. 33 двары, 330 жыхароў, вятрак, царква. Паводле перапісу 1897 г. ў Бортнікаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 85 двароў, 587 жыхароў. Побач аднайменны пасёлак (3 двары, 11 жыхароў). У 1907 г. 104 двары, 728 жыхароў, дзейнічала земская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1917 г. 112 двароў, 732 жыхары. У пач. 1920-х г. на базе ранейшай створана 4-гадовая школа (у 1923 г. 103 вучні). У 1926 г. адкрыта хата-чытальня. У 1929 г. арганізаваны калгас «Прамень Савета». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў маі 1944 г. спалілі жывымі ў вясковай лазні 23 жыхароў. 19 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 586 жыхароў. У 1986 г. 120 гаспадарак, 234 жыхары, у складзе калгаса «Чырвоны баец» (цэнтр — в. Паўлавічы), клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 2002 г. 83 гаспадаркі, 195 жыхароў. У 2007 г. фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Аснову планіроўкі складае арыентаваная з ПнЗ на ПдУ прамалінейная вуліца. Паралельна да яе на Пн праходзіць кароткая вуліца. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, з адвольнай расстаноўкай сядзіб. Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы Р.М.Міткевіча.



*Р.М.Міткевіч.*

**СТАЎПІШЧА** — вёска ў Казуліцкім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Кіраўска, 20 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 93 км ад Магілёва, на У меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Ала (прыток Бярэзіны). Побач аўтадарога Магілёў—Бабруйск. 184 гаспадаркі, 408 жыхароў (2007).

Вядома з 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. Паводле інвентару Бабруйскага староства ў 1639 г. тут 6 дымоў і 17 пустых участкаў. У 1674 г. побач быў маёнтак. У 1738 г. ў Любоніцкім старостве, 27 дымоў. Сяляне неаднаразова адмаўляліся выконваць павіннасці, а ў 1766 г. пад кіраўніцтвам вяскоўца П.Лагойкі адбылося ўзброенае выступленне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У снеж. 1881 г. сяляне правялі самавольную высечку памешчыцкага лесу. Паводле перапісу 1897 г. ў Любоніцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 100 двароў, 724 жыхары, 2 ветракі, 2 крупарушкі, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 147 двароў, 948 жыхароў. У 1907 г. адкрыта земская школа. У 1917 г. 179 двароў, 1226 жыхароў. У пач. 1920-х г. стала працаваць 4-гадовая школа (у 1925 г. 156 вучняў). У 1927 г. для яе пабудавана новае памяшканне. У 1933 г. арганізаваны калгас імя С.М.Кірава. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. за-

хопнікамі. Ужо ў першыя дні акупацыі пачала дзейнічаць падп. патрыят. група. У снеж. 1941 г. партызаны разграмілі вал. ўправу акупантаў. 7.1.1944 г. 537-ы партыз. полк разбіў ням.-паліцэйскі гарнізон, а 27.4.1944 г. партызаны знішчылі ў вёсцы ням.-фаш. вайск. часць. 54 вяскоўцы загінулі на фронце, 17 — у партыз. барацьбе. У баях каля вёскі загінулі 48 сав. воінаў і 6 партызан (пахаваны ў брацкіх магілах на могілках і на паўд. ускраіне). Паводле перапісу 1959 г. 982 жыхары, у 1970 г. 798 жыхароў. У 1986 г. 268 гаспадарак, 579 жыхароў, цэнтр калгаса імя С.М.Кірава, дзейнічалі машынны двор, сталярна-цяслярская майстэрня, базавая школа, Дом культуры, муз. школа, дзіцячы сад-яслі, 3 магазіны, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, грамадская лазня, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя (з 1976 г.), б-ка. У 2002 г. 195 гаспадарак, 461 жыхар. У 2007 г. дзіцячы сад, баз. школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддзяленні сувязі і Беларусбанка, аптэка, магазін, сталовая. Ген. план забудовы распрацаваны ў 1981 г. БелНДІдзіпрасельбудам. Гал. вуліца арыентавана шыротна і мае некалькі выгінаў адпаведна рэльефу. Паралельна да яе, у нізіне — вул. Лугавая, а перпендыкулярна — вуліцы Калгасная і Савецкая. Забудавана індывідуальнымі, драўлянымі і мураванымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі. На Пд адм. цэнтр.

**СТРАЖА** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 26 км на ПнУ ад Кіраўска, 41 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 88 км ад Магілёва, на З р. Суша (прыток р. Ольса), на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 17 гаспадарак, 31 жыхар (2007).

На вясковых могілках захаваўся крыж з чырвонага граніту 17—18 ст. Прыкладна да гэтага часу адносіцца заснаванне вёскі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1797 г. ў Бабруйскім павеце Магілёўскай губ., 60 жыхароў мужчынскага полу, уладанне Д.Радзівіла. У 1934 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 50 двароў, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і наваколлі ў 1943—44 гг. базіраваўся партыз. атрад. Ням.-фаш. акупанты ў крас. 1944 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 3 жыхароў. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 202 жыхары, у 1970 г. 175 жыхароў. У 1986 г. 42 гаспадаркі, 82 жыхары, у складзе калгаса імя В.І.Чапаева (цэнтр — в. Гарадзец). У 2002 г. 25 гаспадарак, 54 жыхары. Планіроўка Г-падобная. Забудова двухбаковая, пераважна драўляная, сядзібнага тыпу.

**СУЯНЕЦ** — вёска ў Мышкавіцкім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Кіраўска, 18 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 89 км ад Магілёва, на З мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Магілёў—Бабруйск. 25 гаспадарак, 48 жыхароў (2007).

Вядомы з пач. 20 ст. У 1907 г. ў Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 15 двароў, 145 жыхароў. У 1917 г. 24 двары. У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 8 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 139 жыхароў, у 1970 г. 109 жыхароў. У 1986 г. 37 гаспадарак, 86 жыхароў, у складзе калгаса «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага (цэнтр — в. Мышкавічы). У 2002 г. 30 гаспадарак, 62 жыхары. Прамалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі шчыльна забудавана з 2 бакоў традыц. сял. хатамі і буйнаблочнымі жылымі дамамі з гасп. пабудовамі.

**СЯЛІБА** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 34 км на ПнУ ад Кіраўска, 41 км ад чыг. ст. Быхаў на лініі Магілёў—Жлобін, 84 км ад Магілёва, на З, Пн і У р. Белая (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 12 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

У 1897 г. Феліксполле, сяліба яўрэяў-земляробаў (32 двары, 258 жыхароў, малітоўны дом) у Ціхініцкай вол. Рагачоў-



скага павета Магілёўскай губ. У 1934 г. арганізаваны калгас «XV партз'езд». У 1940 г. 24 двары, 96 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1942 г. спалілі 23 двары і загубілі 13 жыхароў. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 77 жыхароў, у 1970 г. 93 жыхары. У 1986 г. 21 гаспадарка, 45 жыхароў, у складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова (цэнтр — в. Стайкі). У 2002 г. 13 гаспадарак, 24 жыхары. Планіровачна ўяўляе кароткую вуліцу, арыентаваную з ПнУ на ПдЗ і забудаваную традыц. драўлянымі сял. хатамі.

**СЯРГЕЕВІЧЫ** — вёска ў Любоніцкім с/с, за 24 км на З ад Кіраўска, 24 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, на аўтадарозе Клічаў—Кіраўск, 106 км ад Магілёва, на У вадаём, мяжуе з лесам. 133 гаспадаркі, 207 жыхароў (2007).

У пісьмовых крыніцах упершыню пазначаны пад 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. Паводле інвентару Бабруйскага староства 1639 г. 20 валок зямлі, з якіх 8 пустых. У 1738 г. ў Любоніцкім старостве, 15 дымоў, у 1773 г. 21 дым. У 19 ст. ўладанне С.Паца. У 1789 г. 25 дымоў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1847 г. 25 двароў, 273 жыхары, у складзе маёнтка Любонічы. У 1865 і 1882 гг. сяляне правялі самавольную высечку лесу. У 1897 г. с. Сяргеевічы 1 (82 двары, 560 жыхароў, кузня) і выселак Сяргеевічы 2 (5 двароў, 33 жыхары) у Любоніцкай вол. У 1907 г. 107 двароў, 756 жыхароў. У 1908 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У 1917 г. 149 двароў, 911 жыхароў. У пач. 1920-х г. на базе ранейшай створана 4-гадовая школа (у 1925 г. 56 вучняў). У 1932 г. арганізаваны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія расстралялі 22 жыхароў. 73 вяскоўцы загінулі на фронце, 9 — у партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 111 жыхароў, у 1970 г. 1019 жыхароў. У 1986 г. 248 гаспадарак, 508 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Любонічы), пач. школа, клуб, б-ка, магазін. У 2002 г. 171 гаспадарка, 267 жыхароў. У 2007 г. клуб, магазін. Гал. вуліца (адрэзак аўтадарогі) арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Побач з ёй на У крываліНейная вуліца. Забудова пераважна двухбаковая, драўляная, сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі на гал. вуліцы сярод жылой забудовы.

**УЛАСАВІЧЫ** — вёска ў Любоніцкім с/с, за 19 км на З ад Кіраўска, 24 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 102 км ад Магілёва, на У мяжуе з лесам. Побач аўтадарога Клічаў—Кіраўск. 54 гаспадаркі, 90 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. Паводле інвентару Бабруйскага староства 1639 г. 16 валок зямлі, з якіх 6 пустых. У 1738 г. 12 дымоў, у 1789 г. ў Любоніцкім старостве, 21 дым. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 19 ст. ўладанне С.Паца. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., 40 рэвізскіх душ. У 1847 г. 21 двор, 289 жыхароў, у складзе маёнтка Любонічы. Вясной 1865 г. сяляне правялі самавольную высечку казённага лесу. У 1907 г. 70 двароў, 510 жыхароў, у 1917 г. 92 двары, 555 жыхароў. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях жыцця». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1942 г. ням.-фаш. акупанты расстралялі 43 жыхароў. 30 вяскоўцаў загінулі на фронце, 13 — у партыз. барацьбе. У 1960 г. да вёскі далучана в. Дварэц. Паводле перапісу 1959 г. 435 жыхароў, у 1970 г. 365 жыхароў. У 1986 г. 113 двароў, 191 жыхар, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Любонічы), клуб, магазін, б-ка. У 2002 г. 71 гаспадарка, 118 жыхароў. Аснову планіроўкі складае вуліца, арыентаваная мерыдыянальна і забудаваная пераважна двухбакова драўлянымі сял. хатамі з пры-

сядзібнымі ўчасткамі. З У перпендыкулярна да галоўнай размешчаны 2 кароткія вуліцы з традыц. драўлянай жылой забудовай. Радзіма ген.-маёра медыцынскай службы М.Н.Краўчанкі.

**ХАМІЧЫ** — вёска ў Баравіцкім с/с, за 2 км на Пн ад Кіраўска, 27 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 92 км ад Магілёва, на Пн меліярацыйны канал, злучаны з р. Ала. Побач аўтадарога Магілёў—Бабруйск.

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв., уласнасць казны, 30 валок зямлі, з якіх 14 пустых. У 1639 г. 34 дымы. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у Рас. імперыі. У 1897 г. ў Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 60 двароў, 537 жыхароў, карчма і заезны дом. У 1907 г. 90 двароў, 654 жыхары. У 1916 г. адкрыты 2 аднакласныя школы (нар. вучылішчы). У 1917 г. 96 двароў, 686 жыхароў. У пач. 1920-х г. на базе ранейшай была створана 4-гадовая школа. У 1929 г. арганізаваны калгас «2-я пяцігодка». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 23 вяскоўцы загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 437 жыхароў, у 1970 г. 416 жыхароў. У 1986 г. 263 гаспадаркі, 643 жыхары, у складзе саўгаса «Бераснёўскі» (цэнтр — в. Баравіца), магазін. У 1990 г. далучаны да Кіраўска. Аснову прамавугольнай планіроўкі складаюць 2 паралельныя паміж сабой вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, якія на Пн злучаны кароткай вуліцай. Забудаваны двухбакова, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. Хаты ў большасці арыентаваны да вуліц параднымі фасадамі, двары падзяляюцца на чысты і гаспадарчы.

**ХАРЛАПАВІЧЫ** — вёска ў Дабаснянскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Кіраўска, 41 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 102 км ад Магілёва, на З р. Добасна (прыток Дняпра), на У штучны вадаём. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 44 гаспадаркі, 90 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з пач. 19 ст. У 1816 г. ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ., 18 двароў, 96 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Ціхініцкай вол., 63 двары, 451 жыхар, школа граматы. У 1910 г. адкрыта казённая вінная лаўка. У пач. 1920-х г. створана 4-гадовая школа. Дзейнічаў гуртох па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1932 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 17 вяскоўцаў загублены акупантамі, 20 — загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 248 жыхароў, у 1970 г. 178 жыхароў. У 1986 г. 54 гаспадаркі, 106 жыхароў, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Добасна), магазін, Дом жывёлавода. У 2002 г. 47 гаспадарак, 100 жыхароў. Жылая забудова сканцэнтравана ўздоўж прамалінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна, паралельна да ракі. Сярод традыц. драўляных сял. хат узведзены 2-кватэрныя мураваныя жылыя дамы.

**ХІМАРАДЗЬ** — вёска ў Паўлавіцкім с/с, за 11 км на ПдУ ад Кіраўска, 29 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 94 км ад Магілёва. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1922 г. быў выдзелены вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. 7 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе калгаса імя В.У.Куйбышава (цэнтр — в. Барсукі). У 2002 г. 6 гаспадарак, 14 жыхароў. Планіровачна ўяўляе сабой сял. сядзібы, размешчаныя абапал кароценькай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ. Забудова рэдкая, драўляная, сядзібнага тыпу.

**ХВАЙНІЦА** — вёска ў Скрыпліцкім с/с, за 24 км на ПнУ ад Кіраўска, 60 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін,



84 км ад Магілёва, на З р. Добасна (прыток Дняпра), на У сажалка. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 92 гаспадаркі, 316 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. в. Хвайніца (яна ж Хвайніцкая Буда) у Ціхініцкай вол. Рагачоўскага павета Магілёўскай губ., 29 двароў, 206 жыхароў. У пач. 1920-х г. адкрыты 4-гадовая школа і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Хвайніца». За поспехі ў развіцці жывёлагадоўлі малочна-таварная ферма калгаса ў 1940 г. была ўдзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі ў Маскве. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях каля вёскі загінулі 25 сав. воінаў і партызан (пахаваны ў брацкай магіле каля школы). Сярод пахаваных Герой Сав. Саюза А.К.Шомін, які 26.6.1944 г. ў рашаючы момант бою за в. Старое Заліцвінне закрыў сваім целам амбразуру варожага дота. 25 вяскоўцаў загублены ням.-фаш. карнікамі ў маі 1944 г. 56 вяскоўцаў загінулі ў барацьбе супраць фашызму. З 26.6.1954 г. да 24.6.1960 г. цэнтр Хвайніцкага с/с. Паводле перапісу 1959 г. 256 жыхароў, у 1970 г. 215 жыхароў. У 1986 г. 141 гаспадарка, 365 жыхароў, цэнтр саўгаса «50 гадоў БССР», дзейнічалі машынны двор, піларама, базавая школа, б-ка, клуб магазін, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад-яслі, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. ашчаднага банка, грамадская лазня, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя (з 1975 г.), спарт. пляцоўка, ветэрынарны ўчастак. У 2002 г. 120 гаспадарак, 379 жыхароў. У 2007 г. дзіцячы сад, базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 частак. У зах. частцы шыротная прамалінейная вуліца, забудаваная шчыльна, традыц. драўлянымі сял. хатамі з гасп. пабудовамі. Ва ўсх. частцы (былая в. Буда) гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ і забудавана пераважна мураванымі жылымі дамамі сядзібнага тыпу. Перпендыкулярна да галоўнай размешчана вуліца з грамадскімі будынкамі.

**ЦЕЙКАВІЧЫ** — вёска ў Мышкавіцкім с/с, за 8 км на ПдЗ ад Кіраўска, 18 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 89 км ад Магілёва, на З і Пн меліярацыйны канал, злучаны з р. Ала (прыток Бярэзіны). Побач аўтадарога Магілёў—Бабруйск. 83 гаспадаркі, 162 жыхары (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. Рэчыцкага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, уласнасць казны. У 1639 г. 8 дымоў, 10 валок зямлі, з якіх 6 пуставалі, у 1647 г. 14 дымоў, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. 31 рэвізская душа, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 18 двароў, 152 жыхары. Побач быў аднайменны засценак (19 двароў, 154 жыхары). У 1907 г. 42 двары, 227 жыхароў, у 1917 г. ў вёсцы 27 двароў, 173 жыхары, на хутары 19 двароў, 155 жыхароў. Каля вёскі 4.6.1919 г. адбыўся бой 35-га бронеатрада 16-й арміі з белапольскімі акупантамі, у час якога загінулі 17 воінаў, 3 з іх пасмяротна ўзнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга. У 1919 г. адкрыта 4-гадовая школа, якая размясцілася ў наёмнай сял. хаце (у 1923 г. 41, у 1925 г. 78 вучняў). У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», які ў 1940 г. быў удзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі ў Маскве. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 18 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 367 жыхароў, у 1970 г. 329 жыхароў. У 1986 г. 106 гаспадарак, 277 жыхароў, у складзе калгаса «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага (цэнтр — в. Мышкавічы), дзейнічалі філіял Бабруйскай швейнай ф-кі, клуб, магазін, сталовая, аддз. ашчаднага банка. У 2002 г. 87 гаспадарак, 181 жыхар. Прамалінейная вуліца амаль мерыдыянаць-

най арыентацыі шчыльна забудавана драўлянымі і мураванымі індывідуальнымі дамамі з прысядзібнымі ўчасткамі. Сярод традыц. сядзіб размешчаны двухпавярховы 6-кватэрны мураваны дом секцыйнага тыпу і грамадскія мураваныя будынкі.

**ЦЕСА** — вёска ў Кіраўскім пас. Савеце, за 6 км на ПдУ ад Кіраўска, 26 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 86 км ад Магілёва, на Пд меліярацыйны канал, злучаны з р. Ала (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск.

У 1897 г. вёска ў Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 23 двары, 157 жыхароў. У 1917 г. 158 жыхароў. У 1927 г. пачаў працаваць паравы млын, у 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 121 жыхар. У 1986 г. 45 гаспадарак, 122 жыхары, у складзе калгаса «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага (цэнтр — в. Мышкавічы), дзейнічалі жалезабетонны з-д, цэх па разліве мінеральнай вады. У 1990-я г. далучана да в. Мышкавічы. Планіровачна ўяўляе 2 кароткія, паралельныя паміж сабой вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, злучаныя мясц. дарогай. Забудавана двухбакова, пераважна традыц. драўлянымі сял. хатамі.

**ЧАРАБАМІР** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 27 км на ПнУ ад Кіраўска, 30 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Магілёў—Жлобін, 77 км ад Магілёва, на Пн і У р. Чабаміра (прыток р. Белая). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 13 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядомы з пач. 19 ст. У 1816 г. вёска (6 двароў, 42 жыхары) у Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. У 1842 г. памешчык В.І.Булгак валодаў тут па спадчыне 265 дзес. зямлі і карчмой. З 1850 г. ў маёнтку працаваў шклозавод. У 1897 г. ў Ціхініцкай вол., 50 двароў, 364 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін. Побач фальварак (1 двор, 12 жыхароў). У 1909 г. 370 жыхароў. У 1911 г. школа граматы пераўтворана ў земскую (размяшчалася ў наёмнай сял. хаце). У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 67 вучняў). У 1934 г. арганізаваны калгас імя А.С.Пушкіна. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце, 12 — загублены ням.-фаш. карнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 303 жыхары, у 1970 г. 187 жыхароў. У 1986 г. 46 гаспадарак, 78 жыхароў, у складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова (цэнтр — в. Стайкі), магазін. У 2002 г. 22 гаспадаркі, 29 жыхароў. Планіроўка Т-падобная. Забудова няшчыльная, драўляная. Хаты арыентаваны да вуліцы тарцовымі фасадамі.

**ЧЫГІРЫНКА** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 45 км на ПнУ ад Кіраўска, 30 км ад чыг. ст. Тошчыца на лініі Магілёў—Жлобін, 70 км ад Магілёва, на р. Хмялінка (прыток Друці), на Пн Чыгірынскае вадасховішча. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 185 гаспадарак, 471 жыхар (2007).

На паўд.-зах. беразе Чыгірынскага вадасховішча захавалася стаянка грэнскай культуры, на паўд. ускраіне вёскі — курганны могільнік. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. У пісьмовых крыніцах вядома з 16 ст. як сяло ў складзе Азяранскага маёнтка, які належаў Кіева-Пячэрскай лаўры. З 1772 г. цэнтр воласці, уладанне памешчыка. У 1796 г. пабудавана драўляная царква. У 1858 г. 107 жыхароў мужчынскага полу. У 1864 г. адкрыта нар. вучылішча (у 1902 г. 50 вучняў). У 1880 г. цэнтр Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 45 двароў, 229 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары, 40 чал. — шавецкім, кравецкім і іншымі промысламі, нарыхтоўкай лясных матэрыялаў для вытв-сці драўляных вырабаў. У 1885 г. 50 двароў, 285 жыхароў,



хлебазапасны магазін. У 1908 г. ў выніку пажару згарэла 37 двароў. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 483 жыхары, вятрак, кузня, школа, хлебазапасны магазін, лаўка, карчма, царква. У 1909 г. 92 двары, 490 жыхароў, лячэбніца. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 96 вучняў). Цэнтр сельсавета ў 1924—31 гг. Чачэвіцкага, у 1931—35 гг. Клічаўскага, у 1935—55 гг. Кіраўскага р-наў. У 1924 г. створана с.-г. крэдытнае т-ва. Працаваў вінзавод. У 1925 г. адкрыты нар. дом, б-ка. У 1928 г. арганізаваны спажывецкае т-ва і калгас «Кастрычнік», які ў 1940 г. быў удзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. У 1940 г. 117 двароў, 587 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Непадалёку, ва ўрочышчы «Люстра», дыслацыраваўся партыз. атрад № 537. У жн. 1942 г. ням. карнікі поўнасцю спалілі вёску і расстралялі 14 жыхароў. У ліп. 1943 г. каля вёскі партызаны разграмілі атрад карнікаў. 27 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У баях каля вёскі загінулі 14 партызан і сав. воін (пахаваны каля школы). Паводле перапісу 1970 г. 37 жыхароў. У 1986 г. 139 гаспадарак, 376 жыхароў, цэнтр саўгаса «Шыннік», дзейнічалі машынны двор, лясніцтва, лесапільня, непадалёку ад вёскі, на р. Друць — Чыгірынская ГЭС (пабудавана ў 1960 г.), цэх Бабруйскай футравай ф-кі, сярэдняя школа імя Героя Сав. Саюза А.І.Мельнікава, Дом культуры, дзіцячы сад, б-ка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны, грамадская лазня, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка, аўтаматычная тэлеф. станцыя (з 1969 г.), спарт. пляцоўка, прафілакторыі калгасаў «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага і «Камуніст», піянерлагер, Дом адпачынку Бабруйскай футравай ф-кі. У 2002 г. 177 гаспадарак, 475 жыхароў. У 2007 г. цэнтр с.-г. філіяла «Чыгірынка» РУП «Магілёўаблнафтапрадукт», дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддзяленні сувязі і Беларусбанка, сталовая, магазін. Рака падзяляе вёску на паўн. і паўд. часткі. Гал. вуліца крывалінейнага абрысу ў паўн. частцы мае шыротную арыентацыю. Да яе пад вуглом з ПнЗ далучаецца другая вуліца. Паўд. частка складаецца з 2 узаемна перпендыкулярных вуліц. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі сял. сядзібамі. Сучасная забудова вядзецца адпаведна ген. плану, распрацаванаму ў БелНДІдзіпрасельбудзе ў 1980 г. Адм.-грамадскія і вытв. будынкі разгрупаваны ўздоўж гал. вуліцы. На паўн.-зах. ускраіне 1—2-кватэрныя жылыя мураваныя дамы. Радзіма чэмпіёнкі і рэкардсменкі СССР па канькабежным спорце Л.І.Касцюкевіч.

**ШАЛАЁЎКА** — вёска, цэнтр Грыбавецкага с/с (з 31.1.1966), за 36 км на ПнУ ад Кіраўска, 30 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Асіповічы—Магілёў, 62 км ад Магілёва, на Пн і З меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вепрынка (прыток Друці). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 67 гаспадарак, 160 жыхароў (2007).

У 1880 г. 21 двор, 100 жыхароў. 9 вяскоўцаў апрача земляробства займаліся вырабам розных рэчаў з лыка і кары. У 1897 г. ў Чыгірынскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 29 двароў, 254 жыхары. У 1909 г. 42 двары, 301 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Барацьба». У 1940 г. авечкагадоўчая ферма калгаса была ўдзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі ў Маскве. У 1940 г. 64 двары, 368



*Жылы дом у в. Чыгірынка.*

жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску і загубілі 8 жыхароў. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. На ўшанаванне памяці 128 жыхароў Грыбавецкага с/с, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму, у цэнтры вёскі ў 1977 г. пастаўлены абеліск. Паводле перапісу 1959 г. 240 жыхароў, у 1970 г. 249 жыхароў. У 1986 г. 71 гаспадарка, 180 жыхароў, цэнтр калгаса імя Ільіча, дзейнічалі машынны двор, піларама, ветэрынарны ўчастак, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя (з 1981 г.), гандлёвы цэнтр. У 2002 г. 82 гаспадаркі, 200 жыхароў. У 2007 г. дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, сталовая, магазін. Аснову планіровачнай структуры вёскі складае шыротная вуліца, забудаваная двухкватэрнымі мураванымі жылымі дамамі. На зах. ускраіне адм.-грамадскі цэнтр. На Пн размешчана старая вуліца, з двух бакоў забудаваная традыц. драўлянымі сял. сядзібамі. Радзіма Героя Сав. Саюза, ген.-лейт. Я.У.Дабравольскага.


*Я.У.Дабравольскі.*

На тэр. сельсавета былі спалены 26.6.1942 г. ням.-фаш. карнікамі разам з жыхарамі і не адрадзіліся вёскі Доўгае Поле (20 двароў, 135 жыхароў), Закрынічча (19 двароў, 137 жыхароў), Хватаўка (42 двары, 285 жыхароў), Чырвоны Араты (28 двароў, 222 жыхары), Кокатава (20 двароў), Кабылянка (40 двароў), Хонава (120 двароў, 17 жыхароў), пас. Пралетарскі (31 двор, 226 жыхароў).

**ШМАКІ** — вёска ў Стайкаўскім с/с, за 36 км на ПнУ ад Кіраўска, 22 км ад чыг. ст. Тошчына на лініі Магілёў—Жлобін, 79 км ад Магілёва, на ПнУ р. Друць (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 28 гаспадарак, 47 жыхароў (2007).

У 1850 г. вёска (44 жыхары мужчынскага полу, карчма) у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога ў 1856 г. валодаў 870 дзес. зямлі, меў 2 млыны і карчму. Неаднаразова вяскоўцы выступалі супраць панскага прыгнёту. У 1880 г. 21 двор. Апрача земляробства 18 вяскоўцаў займаліся калёсным, кавальскім і адыходным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Чыгірынскай вол., 73 двары, 793 жыхары, вятрак, крупарушка, 2 кузні, карчма, школа граматы. У 1900 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмнай сял. хаце. У пач. 1920-х г. адкрыта 4-гадовая школа (у 1925 г. 68 вучняў). Дзейнічалі хата-чытальня і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1934 г. арганізаваны калгас «Праца». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 11 вяскоўцаў загінулі на фронце, 11 — у партыз. барацьбе, 45 — загублены акупантамі. Паводле перапісу 1959 г. 243 жыхары, у 1970 г. 215 жыхароў. У 1986 г. 40 гаспадарак, 97 жыхароў, у складзе калгаса імя Я.М.Свярдлова (цэнтр — в. Стайкі), фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, магазін. У 2002 г. 35 гаспадарак, 59 жыхароў. Крывалінейная вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ і забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі сял. хатамі.

**ШПІЛЁЎШЧЫНА** — вёска ў Паўлавіцкім с/с, за 16 км на Пд ад Кіраўска, 28 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 98 км ад Магілёва, на ПнУ р. Ала (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

У 1838 г. вёска (57 рэвізскіх душ), былое езуіцкае, а затым памешчыцкае ўладанне. Паводле перапісу 1897 г. ў Бортнікаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 9 двароў, 98 жыхароў. Побач быў фальварак (3 двары, 11 жыхароў, вадзяны млын). У 1907 г. ў вёсцы 12 двароў, 102 жыхары, у маёнтку 24 жыхары. У 1917 г. ў вёсцы 16 двароў, 104 жыхары, у маёнтку 19 жыхароў. У 1922 г. да вёскі



далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны маяк». У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 13 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. Паводле перапісу 1959 г. 127 жыхароў, у 1970 г. 70 жыхароў. У 1986 г. 19 гаспадарак, 27 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны баец» (цэнтр — в. Паўлавічы). У 2002 г. 8 гаспадарак, 9 жыхароў. Кароценькая прамалінейная вуліца арыентавана з ПнЗ на ПдУ, паралельна да берага ракі і няшчыльна забудавана драўлянымі сял. хатамі. Радзіма Героя Сав. Саюза Ф.П.Нікіціна (1913—79).

**ШЫРОКАЕ** — пасёлак у Паўлавіцкім с/с, за 10 км на ПдУ ад Кіраўска, 27 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 97 км ад Магілёва, на ПдЗ р. Ала (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяскоўцаў загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У 1986 г. 23 гаспадаркі, 53 жыхары, у складзе калгаса «Чырвоны баец» (цэнтр — в. Паўлавічы). У 2002 г. 19 гаспадарак, 33 жыхары. Кароткая прамалінейная вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ, перпендыкулярна да мясц. дарогі і забудавана няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**ЮЗАФІН** — вёска ў Паўлавіцкім с/с, за 15 км на ПдУ ад Кіраўска, 30 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 106 км ад Магілёва, на З р. Ала (прыток Бярэзіны). Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Бабруйск—Рагачоў. 30 гаспадарак, 78 жыхароў (2007).

У 1897 г. фальварак (1 двор, 7 жыхароў) у Бортнікаўскай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 27 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 23 вяскоўцы загінулі на фронце. Паводле перапісу 1959 г. 180 жыхароў, у 1970 г. 217 жыхароў. У 1986 г. 55 гаспадарак, 114 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоны баец» (цэнтр — в. Паўлавічы), магазін. У 2002 г. 38 гаспадарак, 83 жыхары. Планіроўка Г-падобная. Больш працяглая вуліца мае мерыдыянальную арыентацыю. Забудавана няшчыльна драўлянымі сял. хатамі.

**ЯСНЫ** — пасёлак у Дабаснянскім с/с, за 30 км на ПдУ ад Кіраўска, 48 км ад чыг. ст. Бярэзіна на лініі Мінск—Жлобін, 118 км ад Магілёва, на Пд меліярацыйны канал, злучаны з р. Добасна. Транспартныя сувязі па прасёлачнай і далей аўтадарозе Магілёў—Бабруйск. 7 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак на былых памешчыцкіх землях. У 1921 г. пасёлку выдзелены вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца чэрв. 1941 г. да канца чэрв. 1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Паводле перапісу 1959 г. 81 жыхар, у 1970 г. 66 жыхароў, У 1986 г. 14 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе калгаса «Камуніст» (цэнтр — в. Добасна). У 2002 г. 10 гаспадарак, 19 жыхароў. Кароткая прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі забудавана пераважна з паўн. боку драўлянымі сял. хатамі.



*Ф.П.Нікіцін.*

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 28, спр. 67, 574; ф.6, воп. 1, спр. 1009; ф. 30, воп. 1, спр. 161; воп. 2, спр. 3332; воп. 5, спр. 6753, 6758, 6760; воп. 9, спр. 2392; ф. 31, воп. 1, спр. 843; ф. 34, воп. 1, спр. 744; ф. 42, воп. 1, спр. 492, 658, 687, 942, 1007, 1127, 1746, 1782, 1833, 4321; воп. 2, спр. 33, 82, 85, 92, 94, 98, 2032 - 2034, 2036— 2039, 2041, 2043, 2044, 2047, 2048, 2050, 2053, 2055—2060, 2063, 2064, 2067, 4312, 4315, 4318, 4323, 4326, 4327; ф. 46, воп. 18, спр. 421; ф. 48,

воп. 1, спр. 540, 659, 2135, 2881, 2962, 3412, 3933, 4024, 5408; ф. 53, воп. 1, спр. 15; ф. 93, воп. 1, спр. 1235; ф. 141, воп. 1, спр. 177; ф. 142, воп. 1, спр. 74, 75, 77, 178; ф. 258, воп. 1, спр. 36, 39; ф. 333, воп. 2, спр. 31, 2185; ф. 334, воп. 1, спр. 470, 500; ф. 1024, воп. 1, спр. 697; ф. 3500, воп. 4, спр. 98.
Нацыянальны гістарычны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 150, воп. 1, спр.2669, 2992; ф. 183, воп. 2, спр. 5128; ф. 649, воп. 1, спр. 54; ф. 694, воп. 2, спр. 745; воп. 5, спр. 605; воп. 7, спр. 936; ф. 1294, воп. 1, спр. 1844б; ф. 1783, воп. 1, спр. 10; ф. 2001, воп. 1, спр. 490; ф. 2014, воп. 1, спр. 254 ; ф. 2151, воп. 1, спр. 159; воп. 2, спр. 4; ф. 2254, воп. 1, спр. 66; воп. 4, спр. 14; ф. КМФ-5, воп. 1, спр. 10.
Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці ў г. Бабруйск, ф. 613, воп. 2, спр. 6.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 577, воп. 19, спр. 12; ф. 1290, воп. 11, спр. 1294, 1341, 1355, 1366.
Архіў Расійскай акадэміі навук у Санкт-Пецярбургу, ф. 30, воп. 2, спр. 29, 30.
Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 4, воп. 2, спр. 65; ф. 11, воп. 2, спр. 65, 2477; ф. 459, воп. 1, спр. 594; ф. 577, воп. 1, спр. 19; ф. ДА, воп. 1, спр. 3378, 3774, 3876, 4025.
Историческое описание Минской епархии. СПб., 1864.
Памятная книжка Минской губернии на 1874 г. Мн., 1874.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874 г. Вильна, 1874.
Статистические сведения о церквях и причтах Минской епархии. Мн., 1880.
Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 1—3. Могилев, 1882—84.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Памятная книжка Минской епархии на 1886 г. Мн., 1887.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889—1890 учебный год. Могилев, 1889.
Любавский М. Областное деление и местное управление Литовско-Русского государства ко времени издания первого Литовского статута: ист. очерки. Мн., 1892.
Указатель фабрик и заводов Европейской России. 3 изд. СПб., 1894.
Акты, издаваемые Виленскою археологическою комиссиею для разбора древних актов. Т. 25. Вильна, 1898.
Календарь для духовенства Могилевской епархии на 1899 г. Могилев, 1899.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1902—03 учебный год. Могилев, 1902.
Список фабрик и заводов Европейской России. СПб., 1903.
Россия. Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. СПб., 1905.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1905 г. Могилев, 1905.
Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1917—1918 учебный год. Мн., 1917.
Список населенных мест Б.С.С.Р. (б. Минская губерния). Мн., 1924.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Мн., 1935.
Кіравец. 1937. 24 крас.
Крестьянское движение в Белоруссии после отмены крепостного права (1861—1862). Мн., 1959.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861). Мн., 1966.
Магілёўская праўда. 1967. 28 кастр.
Мелешко В.И. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII—XVIII вв. Мн., 1982.
Нацистская политика геноцида и выжженной земли в Белоруссии. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.

# КЛІМАВІЦКІ РАЁН

Знаходзіцца ва ўсх. частцы Магілёўскай вобл. Утвораны 17.7.1924 г. ў складзе Калінінскай акругі. З 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. ўваходзіў у Магілёўскую акругу. З 20.2.1938 г. ўключаны ў Магілёўскую вобл. Раён існуе ў сучасных межах з 17.4.1962 г. Пл. 1,6 тыс. км$^2$. Насельніцтва 28,3 тыс. чал. (2007). Цэнтр раёна — г. Клімавічы. У раён уваходзіць 161 сельскі населены пункт. Адміністрацыйна падзяляецца на 10 сельсаветаў: Высокаўскі, Галіцкі, Гусаркаўскі, Дамамерыцкі, Кісялёва-Будскі, Лабжанскі, Лазовіцкі, Мілаславіцкі, Раднянскі, Ціманаўскі.

Праз тэр. раёна праходзяць чыгункі Орша—Унеча (Расія), Магілёў—Рослаў (Расія). Аўтадарогі звязваюць цэнтр раёна з Касцюковічамі, Крычавам, Хоцімскам.

У выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС у 1986 г. раён знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю, 15 населеных пунктаў адселены.

Тэр. раёна ляжыць у межах Аршанска-Магілёўскай раўніны. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Найвышэйшы пункт раёна (214 м) знаходзіцца каля в. Галічы. З карысных выкапняў ёсць мел, торф, пяскі, гліны. Па тэр. раёна цякуць р. Сож і яе прытокі Іпуць, Лабжанка, Асцёр, у паўд. частцы — рэкі Жадунька і Сураў. На р. Іпуць створана Мілаславіцкае вадасховішча. Лясы займаюць 34% тэр. раёна, пад балотамі — 4% плошчы раёна. Найбуйнейшыя балотныя масівы Булгакаўскае, Фаміно, Саўскае, Вялікі Мох і інш. Як помнікі прыроды мясц. значэння ў раёне ахоўваюцца яловы лес Гірэевічы ў Клімавіцкім лясніцтве, бярозавы лес Пянькоўка ў Гусаркаўскім лясніцтве.

Агульная пл. с.-г. угоддзяў 82,8 тыс. га, з іх асушаных 13,9 тыс. га. Сельская гаспадарка спецыялізуецца на мясамалочнай жывёлагадоўлі, свінагадоўлі, бульбаводстве. Вырошчваюць збожжавыя і кармавыя культуры. Працуюць с.-г.





*Рака Асцёр у Клімавіцкім раёне.*

*Возера Лазовіца ў Клімавіцкім раёне.*



*Памятны знак у гонар заснавання г. Клімавічы.*

вытв. каапературы «Рабочы», «Галіцкі», «Сасноўка», «Герой працы», унітарныя с.-г. прадпрыемствы, у т.л. племзавод «Ціманава», эксперыментальная база «Раднянская» і інш., а таксама фермерскія гаспадаркі.

Прам. прадпрыемствы выпускаюць мясныя і малочныя вырабы, спірт, торфабрыкет, будаўнічыя матэрыялы і інш. Яны размешчаны пераважна ў Клімавічах.

Праз раён праходзіць адгалінаванне Унеча—Полацк нафтаправода «Дружба».

У сістэме адукацыі тэхнікум, СПТВ, 16 сярэдніх, 7 базавых, 6 пач. школ. Ёсць 2 муз., дзіцяча-юнацкая спарт. школы, раённы Цэнтр культуры, 8 дамоў культуры, 26 клубаў, 35 б-к.

**КЛІМАВІЧЫ** — горад, раённы цэнтр, чыг. ст. на лініі Орша—Унеча, за 124 км на У ад Магілёва, аўтадарогамі злучаны з Крычавам, Касцюковічамі. Дзейнічае аэрапорт. Праз горад цячэ р. Калініца (прыток р. Лабжанка). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Насельніцтва 14,7 тыс. чал. (2007).

Месца, якое зараз займае г. Клімавічы, было ў стараж. часы заселена плямёнамі радзімічаў, аб гэтым сведчаць выяўленыя каля горада бескурганныя могільнікі, а таксама 5 паселішчаў позняга этапа зарубінецкай культуры (2—5 ст.) і раннефеад. часу. Пазней гэта мясцовасць уваходзіла ў Смаленскае і Мсціслаўскае княствы, з 1569 г. ў Мсціслаўскае ваяв. Рэчы Паспалітай. У пісьмовых крыніцах упершыню Клімавічы ўпамінаюцца ў 1-й пал. 17 ст. як паселішча ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ. У 1626 г. засн. кляштар дамініканцаў. З 1720 г. належалі Бяляўскім, з 1758 г. — роду Галынскіх. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, дзярж. ўласнасць. З 22.3.1777 г. горад, цэнтр павета Магілёўскай губ. Яго архіт.-планіровачная структура мела ў той час лінейную

*Панарама горада.*



*Знак пры ўездзе ў г. Клімавічы.*









*Свята-Міхайлаўская царква ў г. Клімавічы.*

*Помнік воінам-інтэрнацыяналістам у г. Клімавічы.*

ны характар. Драўляная забудова размяшчалася невялікімі сядзібнымі ўчасткамі па абодва бакі ракі. Мелася мураваная царква.

У 1778 г. быў распрацаваны план, які прадугледжваў перанос горада на свабодную тэр. на У ад існуючай забудовы. Новы горад, адпаведна гэтаму праекту, павінен быў уяўляць сабой прамавугольны ўчастак, падзелены геаметрычнай сеткай вуліц на невялікія кварталы. У цэнтры, на скрыжаванні гал. вуліц, размяшчалася плошча, а на процілеглых ускраінах — яшчэ 2 плошчы. На цэнтр. плошчы — 2 мураваныя царквы і парк. Гэты праект быў ажыццёўлены ў 19 ст. У пач. 20 ст. тут ужо дзейнічала 15 прадпрыемстваў, а сярод драўлянай забудовы вылучаліся некалькі мураваных дамоў з крамамі.

У жн. 1781 г. Клімавічы атрымалі герб: пчала на залатым фоне (у гэтых краях было развіта пчалярства). У канцы 18 ст. было 198 дамоў. З 1796 г. заштатны горад. З 1802 г. зноў пав. горад Магілёўскай губ. У 1804 г. ў горадзе знойдзены скарб, які складаўся з 1815 бронзавых і сярэбраных дзінараў першых рымскіх імператараў, што сведчыла аб яго даўніх шырокіх гандл. сувязях. Гэта быў самы буйны на тэр. Беларусі скарб антычных манет. У вайну 1812 г. акупіраваны французамі, якія нанеслі гораду шмат страт і разбурэнняў. Калі напярэдадні вайны тут жыло звыш 1200 чал., то ў 1825 г. толькі каля 1 тыс. чал. У 1837 г. адкрыта мужчынскае, у 1903 г. жаночае прыходскія вучылішчы. Рэформа 1861 г. актывізавала гандл.-прам. дзейнасць. У 1855 г. засн. прадпрыемства па апрацоўцы скуры. Адкрываліся іншыя прадпрыемствы, расло насель-



*Святкаванне Дня Перамогі ў г. Клімавічы.*



*Фантан па вуліцы К.Маркса ў г. Клімавічы.*



*Філіял «Беларусбанка» ў г. Клімавічы.*



*Будынак аддзялення Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва ў г. Клімавічы.*



*Раённы цэнтр культуры ў г. Клімавічы.*

ніцтва. Калі ў 1863 г. ў Клімавічах было 1819 жыхароў, то ў 1883 г. — 3241 жыхар, а ў 1897 г. — 4714 жыхароў. У 1861 г. адкрыта прыватная духоўная школа. У 1863 г. адкрыта аднакласнае вучылішча, а ў 1865 г. — жаночая змена пры ім. У 1865 г. адкрыта двухкласнае пав. вучылішча. У 1844 г. пабудавана драўляная царква. Да нашага часу захаваліся такія помнікі архітэктуры, як драўляны дом купца (вул. Савецкая), пабудаваны ў 1867 г., і мураваная царква (вул. Пралетарская, 7), пабудаваная ў 1866 г. і ператвораная ў 1881 г. ў саборную. У 1880-я г. ў Клімавічах былі 2 мураваныя і 534 драўляныя дамы, 102 лаўкі, 2 царквы, двухкласнае пав. і прыходскае вучылішчы. Дзейнічалі 3 гарбарні (адкрыты ў 1855, 1865 і 1875 гг.). У 1883 г. пачалі дзейнічаць тытунёвае, у 1897 г. спіртаачышчальнае прадпрыемствы. На тракце Орша—Клімавічы—Касцюковічы была паштовая станцыя,



*Брацкая магіла савецкіх воінаў у Гарадскім парку.*



*Памятны знак ахвярам нацызму ў г. Клімавічы.*







*Фантан каля аграрнага каледжа ў г. Клімавічы.*

*Цэнтр фізкультурна-аздараўленчай работы ў г. Клімавічы.*





*Вуліца Савецкая.*

*Сярэдняя школа № 3 у г. Клімавічы.*

якая ў 1880 г. мела 6 коней. Дзейнічалі 102 гандл. кропкі. У 1883 г. адкрыта бальніца (6 ложкаў) і аптэка. 1.9.1881 г. пачала дзейнічаць тэлегр. станцыя. У 1904 г. ў горадзе было 718 дамоў (4 мураваныя, 714 драўляных), 21 дробнае прадпрыемства, бальніца, аптэка, друкарня, фатаграфія, б-ка, чытальня, 8 тракціраў і чайных, 9 заезных дамоў.

У рэвалюцыю 1905—07 гг. адбыліся масавыя хваляванні. Неаднаразова спынялі работу прадпрыемствы. У студз. 1906 г. сяляне навакольных вёсак рашуча выступілі супраць памешчыцкага прыгнёту, аказалі супраціўленне паліцыі і нават абяззброілі паліцэйскіх. Улады жорстка расправіліся з удзельнікамі выступленняў.

У пач. 20 ст. ў Клімавічах пачалі працаваць электрастанцыя, кінатэатр, пошта, гасцініца, аптэка, нар. дом. Галоўнай была вул. Свірэльная, якая цягнулася ад базар-

*Фантан каля будынка рэдакцыі раённай газеты ў г. Клімавічы.*

*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў у г. Клімавічы.*









най плошчы праз увесь горад. Кожную пятніцу на плошчы адбываўся кірмаш. У горадзе на 19 вуліцах быў 51 мураваны і 838 драўляных дамоў, 6830 жыхароў. Асвятлялі вуліцы 35 газавых ліхтароў, а на базарнай плошчы былі электрычныя ліхтары, якія сілкаваліся ад кінематографа. Пераважалі дробныя рамесныя майстэрні — пераплётныя, слясарныя, кавальскія, цяслярскія, шавецкія. Да найбольш буйных адносіліся друкарня, млын, гільзавае прадпрыемства, цагельны з-д. У 1907 г. прыватнае жаночае аднакласнае вучылішча пераўтворана ў прагімназію, а ў 1913 г. пав. пач. вучылішча — у вышэйшае пач. вучылішча. У 1908 г. адкрыта 3-класная агульнаадукац. вучэбная ўстанова з праграмай гімназіі, у 1911 г. — 5-класная гімназія. У 1910 г. пачало дзейнічаць аддз. пед. т-ва. 3.10.1912 г. адкрыта жаночая гімназія. Меліся таксама гар. вучылішча, ніжэйшая рамесная школа, мужчынская і жаночая школы (вучылішчы), царк.-прыходская школа. У 1913 г. было 7100 жыхароў. Дзейнічалі б-ка, чытальня, кніжная лаўка, друкарня, фатаграфія, гар. бальніца. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. створаны Савет рабочых і сял. дэпутатаў. У маі 1917 г. адбылася двухтыднёвая забастоўка краўцоў, да якіх далучыліся рабочыя іншых майстэрняў. На плошчы адбыўся шматлюдны мітынг. 23.5.1917 г. на пав. з'ездзе было выказана патрабаванне перадаць усю зямлю сялянам у бясплатнае карыстанне.

Актыўным змагаром за Сав. уладу быў былы марак, дэлегат 3-га з'езда Саветаў С.І.Жбанкоў, першы старшыня пав. Клімавіцкага Савета дэпутатаў. У снеж. 1917 г. былыя паліцэйскія з дапамогай эсэраў і меншавікоў арганізавалі ў горадзе свой Савет нар. дэпутатаў, які быў ліквідаваны атрадам чырвонагвардзейцаў з Магілёва. Сав. ўлада ўстаноўлена 22.1.1918 г. За ўмацаванне Сав. улады змагаўся ўраджэнец в. Бяседавічы Хоцімскага р-на І.З.Сурта, які ў сак. 1918 г. быў выбраны старшынёй Клімавіцкага пав. выканкома. 5 з'езд Саветаў Клімавіцкага павета (1918) вырашыў накіраваць у Чырвоную Армію 4200 добраахвотнікаў. У сак. 1918 г. зрабіў першыя крокі ў сваёй дзейнасці Савет нар. гаспадаркі. У 1918 г. адкрыты дзіцячы сад (65 дзяцей). 28.7.1918 г. адбыўся І з'езд РКП(б) Клімавіцкага павета, на якім былі вырашаны пытанні арганізацыі ў павеце парт. ячэек, камбедаў і камун. У сувязі з наступленнем войск кайзераўскай Германіі быў створаны партыз. атрад (100 чал.). 2.6.1918 г. пачаў дзейнічаць Клімавіцкі пав. рэўком. 1.7.1919 г. створана крэдытнае с.-г. т-ва «Камуніст». Восенню 1918 г. ўзнікла камсамольская арг-цыя. У 1922 г. адкрыты пракатны пункт с.-г. машын. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1918 г. было 44 вучні. 24.7.1923 г.



*Вуліца К.Маркса.*



*Цэнтральная раённая бальніца ў г. Клімавічы.*



арганізаваны с.-г. крэдытнае т-ва, у 1924 г. — с.-г. каап. аб'яднанне, у лютым 1923 г. — пчалаводчае т-ва. З сяр. студз. 1919 г. дзейнічаў пав. камісарыят па ваенных справах. У 1923 г. пачаў дзейнічаць філіял літ. аб'яднання «Маладняк», у 1924—26 гг. выходзіў часопіс «Маладняк Калінінпічыны» — орган акружнога к-та камсамола і філіяла «Маладняка».

З 17.7.1924 г. Клімавічы — цэнтр Калінінскай акругі і Клімавіцкага р-на. З 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Магілёўскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У горадзе дзейнічалі вучэбна-паказальныя майстэрні, у якіх у 1924 г. быў 21 навучэнец. У 1925 г. арганізаваны дзіцячы дом і дзіцячая кансультацыя. У наступным годзе была ўведзена ў строй электрастанцыя магутнасцю 50 кВт, а затым пачаў дзейнічаць радыёвузел. Агульная пл. забудовы горада ў 1925 г. склала каля 320 дзес. У 1925 г. выйшаў зборнік твораў М.Горкага, які быў першай кнігай мастацкага перакладу ў Беларусі ў паслякастрычніцкі перыяд. Насельніцтва паводле перапісу 1926 г. складала звыш 7,6 тыс. чал., у 1939 г. — звыш 9,5 тыс. чал. Дзейнічалі парт.-рабочы, камсамольскі і піянерскі клубы, школа прац. моладзі, вячэрняя партшкола, нар. дом, Дом селяніна, Дом асветы, школа рабочай моладзі, акруговая б-ка, 2 гар. пункты па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1928 г. ў Клімавіцкай сямігодцы была адкрыта спецгрупа па падрыхтоўцы каап.-бухгалтарскіх і сав. работнікаў. Пры школе меўся інтэрнат.

Росту Клімавіч садзейнічала будаўніцтва ў 1929—30 гг. чыгункі, якая пралягла праз горад. З сак. 1930 г. да студз. 1932 г. працаваў фасфарытны з-д. У 1924—27 гг. выдавалася акруговая газ. «Наш працаўнік» (з 12.12.1924 г.), у 1925—26 гг. выходзіў дадатак да гэтай газ. «Малады камуніст» — орган Калінінскага акруговага к-та камсамола. У 1926—27 гг. выходзіў штомесячны літ.-мастацкі дадатак акруговай газеты — «Світанне». Пасля ліквідацыі акругі выйшаў 5.3.1930 г. 1-ы нумар раённай газ. «Камуна» (цяпер «Новае жыццё»), адной з першых раённых газет БССР. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Маркса (у 1932 г. аб'ядноўваў 167 гаспадарак, меў 773 га ворыва).

У 1931 г. пачала працаваць Клімавіцкая МТС (у студз. 1932 г. 44 трактары), якая адразу ж была электрыфікавана (рэарганізавана 31.3.1958 г.). МТС з'яўлялася доследна-паказальнай, абслугоўвала ў 1934 г. 69 калгасаў. Пры МТС у 1932 г. пачала працаваць майстэрня па рамонце трактароў і іншай с.-г. тэхнікі. Яна абслугоўвала таксама Крычаўскую, Мсціслаўскую, Чавускую і Касцюковіцкую МТС, калгасы і саўгасы Клімавіцкага, Крычаўскага, Прапойскага і Чэрыкаўскага р-наў. У 1933—34 гг. пры МТС дзейнічаў паліт-



*Алея парку ў г. Клімавічы.*



*Зона адпачынку ў гарадскім парку.*



*Раённы краязнаўчы музей у г. Клімавічы.*

аддзел, выходзіла шматтыражка «За бальшавіцкія калгасы».

У жн. 1928 г. даў першую прадукцыю першы ў рэспубліцы Клімавіцкі з-д сілікатнай цэглы. Працавалі ў горадзе майстэрня «Чырвоны металіст», маслабойня, арцелі «Чырвоны ткач» і «Праца», дзейнічала бальніца. У 1931—35 гг. выходзіла газ. «Ударнік прамкааперацыі» (з 12.4.1931 г.). У 1933 г. адкрыты ветэрынарны тэхнікум, які да 1941 г. выпусціў звыш 550 спецыялістаў. Дзейнічала двухгадовая медыцынская школа. У 1940 г. ў горадзе ўжо 4 школы, 4 дзіцячыя сады, 2 гасцініцы, бальніца, паліклініка, радзільны дом. У 1941 г. прынята рашэнне аб арганізацыі пчалаводчага тэхнікума.

У пач. Вял. Айч. вайны Клімавічы з сярэдзіны ліп. 1941 г. знаходзіліся ў прыфрантавой паласе (фронт праходзіў па р. Сож). У жн. 1941 г. каля горада разгарнуліся жорсткія баі супраць ням.-фаш. захопнікаў, якія вялі 132-я стралк. дывізія, 4-ы паветр.-дэсантны, 45-ы стралк. карпусы, Ленінградскі камуністычны батальён і іншыя часці. У Клімавічах у гэты час працавала перасовачная майстэрня па рамонце танкаў і трактароў. 10.8.1941 г. горад быў акупіраваны. Гітлераўцы стварылі тут канцлагер. Толькі ў жн.—ліст. 1941 г. ў ім было загублена больш за 800 чал. У горадзе супраць акупантаў дзейнічала падполле, арганізатарамі якога былі выкладчык Магілёўскага педінстытута І.М.Пяроўскі і малады журналіст А.А.Гардзіевіч. Падпольшчыкі распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі, падтрымлівалі сувязь з партызанамі, перадавалі ім бланкі дакументаў, медыкаменты, зброю і боепрыпасы, звесткі аб руху паяздоў, дыслакацыі ням.-фаш. войск, падрыхтоўцы карных аперацый. Летам 1942 г. падпольшчыкі правялі паспяховую аперацыю па захопе рэзідэнта ням. разведкі барона фон Файта. У ліст. 1942 г. адзін з кіраўнікоў падполля А.А.Гардзіевіч быў схоплены і павешаны гітлераўцамі. Акупанты разбурылі прадпрыемствы, установы культуры, шмат жылых і грамадскіх будынкаў. 28.9.1943 г. горад быў вызвалены часцямі 238-й стралк. дывізіі 50-й арміі Бранскага фронту ва ўзаемадзеянні з партыз. атрадамі. У цэнтры горада, у скверы, у брацкай магіле пахавана 19 воінаў, якія загінулі ў баях супраць акупантаў. У іх ліку камандзір 45-га стралк. корпуса ген.-маёр Э.Я.Магон, які загінуў 11.8.1941 г. каля в. Малашкавічы. Звыш 300 воінаў пахаваны ў брацкай магіле на гар. могілках. Тут жа —

*Вуліца Першамайская.*



*Вуліца Камуністычная.*





магіла Героя Сав. Саюза С.В.Раманца, які вызначыўся ў баях на тэр. Германіі ў крас. 1945 г. (пасля вайны жыў у Клімавічах, памёр 10.12.1977 г.). Па вул. Сацыялістычнай, на тэр. саўгаса-тэхнікума, у брацкай магіле пахаваны 28 сав. воінаў, якія загінулі ў вер. 1943 г. Адразу пасля вызвалення была адноўлена тэлегр. і тэлеф. сувязь, якая з кожным годам пашыралася. У вер. 1944 г. былі адноўлены ветэрынарны тэхнікум, радыёвузел, зноў стала выходзіць раённая газета. У жн. 1946 г. ўступіў у строй і пачаў выпускаць прадукцыю з-д сілікатнай цэглы. У хуткім часе пасля вызвалення былі адноўлены лікёра-гарэлачны з-д, бальніца, паліклініка, электрастанцыя. У пасляваенны час тут размяшчаўся дзіцячы дом.

Цэнтр. частка сучасных Клімавіч размешчана на правабярэжжы р. Калініца. Галоўнымі з'яўляюцца паралельныя паміж сабой вуліцы Камуністычная і Сацыялістычная, якія праходзяць праз увесь горад з З на У. Паралельна да галоўных ідуць вуліцы Інтэрнацыянальная, К.Маркса, Пралетарская і інш. Іх перакрыжоўваюць вуліцы Савецкая, Першамайская, Магона і інш. На скрыжаванні вуліц у цэнтры размешчана плошча са стараж. паркам, дзе ўстаноўлены помнік воінам і партызанам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. На плошчы ўзведзены будынак райвыканкома, насупраць — Дом культуры, перад якім устаноўлены помнік У.І.Леніну. Цэнтр. частка забудавана муравaнымі і драўлянымі жылымі дамамі, вул. Савецкая — 2—4-павярховымі жылымі дамамі секцыйнага тыпу. Прам.-складская зона размешчана каля чыгункі. Асноўныя прам. прадпрыемствы: з-д металічных вырабаў, рамонтна-механічныя майстэрні, рамонтнае аб'яднанне Сельгастэхнікі, камбінат будаўнічых матэрыялаў, лікёра-гарэлачны з-д, з-д сухога абястлушчанага малака, хлебазавод, ПМК-21, МПМК-9. У горадзе размешчана лясніцтва, ёсць камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, ПТВ механізацыі сельскай гаспадаркі, агр. каледж, 4 сярэднія, муз. і дзіцячаюнацкая спарт. школы, дапаможная школа-інтэрнат, 7 дашкольных устаноў, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання, Дом культуры, кінатэатр, 6 клубаў, 2 б-кі, бальніца, паліклініка, цэнтр фізкультурна-аздараўленчай работы, краязнаўчы музей, філіял «Беларусбанка». Помнік архітэктуры — Свята-Міхайлаўская царква (сяр. 19 ст.). Выдаецца газ. «Новае жыццё», дзейнічае рэдакцыя раённага радыёвяшчання. З 1996 г. праходзіць фестываль дзіцячай творчасці «Залатая пчолка», які ў 2001 г. атрымаў статус міжнароднага. У 2002 г. ў цэнтры горада ўстаноўлены памятны знак воінам-інтэрнацыяналістам.



*І.С.Нікалаеў.*

Клімавічы — радзіма Героя Сав. Саюза І.С.Нікалаева (21.5. 1916—11.4.1945), Героя Сац. Працы, засл. работніка сельскай гаспадаркі А.А.Мацкоўскага (20.7. 1917—12.11.1978), бел. пісьменніка У.Ц. Бурсава (н. 19.12.1927 г.), бел. кінарэжысёра, засл. артыста Беларусі Ю.М. Стальмакова (24.10.1902—9.3.1958).



*А.А.Мацкоўскі.*

За 1,5 км на Пд ад горада размешчана Клімавіцкае радовішча мелу (разведаныя запасы 5,3 млн. т), якое распрацоўваецца Клімавіцкім камбінатам будаўнічых матэрыялаў. За 3,5 км на ПдУ ад горада — радовішча пяскоў і мелу Пясчаная гара (разведаныя запасы пяскоў 1,5 млн. м$^3$, мелу 1,39 млн. т), распрацоўваецца Клімавіцкім камбінатам будаўнічых матэрыялаў.

*Фестываль «Залатая пчолка» ў г. Клімавічы.*



**АЗЕРЦЫ** — вёска ў Лазовіцкім с/с, за 7 км на У ад Клімавіч, 131 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Мілаславічы, якая праходзіць праз вёску. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 11 двароў, 80 жыхароў, у 1796—1802 гг. у Чэрыкаўскім павеце Беларускай губ. У 1857 г. вёска ў Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 55 рэвізскіх душ. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, 34 двары, 237 жыхароў. У 1909 г. 34 двары, 251 жыхар. Мелася школа граматы. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Лазовіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1923 г. частка вяскоўцаў перасялілася і ўтварыла непадалёку пас. Печары (цяпер не існуе). На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 46 двароў, 246 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны меліярацыйнае т-ва «Азёрскае» (43 гаспадаркі) і калгас імя А.Р.Чарвякова (12 гаспадарак). У жн. 1930 г. арганізаваны яшчэ адзін калгас — «Згода», у які першапачаткова ўвайшло 25 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да вер. 1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 22 гаспадаркі, 50 жыхароў. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне гасп. сектар. Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Мінскай вобл. ў Вял. Айч. вайну, камісара партыз. брыгады «Полымя» І.П.Шаршнёва (26.8.1915—20.4. 1976).

**АРЦЁМАЎКА** — вёска ў Галіцкім с/с, за 36 км на У ад Клімавіч, 160 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Шарсцёўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На зах. ускраіне цячэ р. Рэкта (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Галічы—Клімавічы. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. вёска ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 9 двароў, 54 жыхары. У 1850 г. 14 двароў, 79 жыхароў, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1860 г. 398 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Забялышынскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 31 двор, 212 жыхароў. У аднайменным фальварку, што знаходзіўся побач, 22 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 31 двор, 276 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 5 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Галіцкім с/с Мілаславіцкага р-на, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-на Калінінскай, потым Магілёўскай акруг БССР (9.6.1927—26.7.1930), з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1918 г. ў б. маёнтку «Арцёмаўка» па ініцыятыве вяскоўца Я.К.Вараб'ёва арганізавана с.-г. т-ва «Набат» (18 гаспадарак). У 1924 г. адкрыта пач. школа (у 1926 г. 45 вучняў). У 1926 г. ў вёсцы 39 двароў, 244 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Бальшавіцкі шлях», які з 1937 г. абслугоўвала Мілаславіцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. быў створаны і дзейнічаў першы на Клімаўшчыне партыз. атрад, якім камандаваў былы камандзір 110-й стралк. дывізіі В.А.Хлябцоў. У склад атрада ўваходзілі парт., сав. работнікі, мясц. жыхары (170 чал.). Вёска вызвалена 28.9.1943 г. воінамі 50-й арміі Бранскага фронту. У 1970 г. 24 гаспадаркі, 54 жыхары. Планіровачна складаецца з ламанага абрысу вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**АЎТУХОЎКА** — вёска ў Высокаўскім с/с, за 12 км на Пд ад Клімавіч, 136 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в.



Сямёнаўка і далей па шашы Савінічы—Клімавічы. 9 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. вёска ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 5 двароў, 33 жыхары, у 1796—1802 гг. ў Чэрыкаўскім павеце Беларускай губ. У 1850 г. 3 двары, 34 жыхары, у 1858 г. 5 двароў, 60 жыхароў. У 1880 г. 25 двароў, 112 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася калёсным, бандарным і адыходным промысламі, вырабам розных быт. рэчаў з дрэва. У 1889 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1897 г. ў Міманаўскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 37 двароў, 303 жыхары. Мелася маслабойня. Побач быў аднайменны хутар (1 двор, 1 жыхар). У 1909 г. 45 двароў, 288 жыхароў. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені (у 1924 г. 45 вучняў). З 20.8.1924 г. да 1960 г. цэнтр Артухоўскага с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 57 двароў, 361 жыхар. У 1929 г. 17 гаспадарак арганізавалі с.-г. т-ва «Свабода». У ліп. 1929 г. створаны калгас «Чырвоная змена», які з 1937 г. абслугоўвала Высокаўская МТС, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 11 вяскоўцаў. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск. З 1960 г. ў складзе саўгаса «Высокаўскі» (цэнтр — в. Высокае). Дзейнічаюць магазін, аддз. сувязі. У 1960 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1970 г. 37 гаспадарак, 51 жыхар. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх (адна прамалінейная, другая — плаўна выгнутая) вуліц, арыентаваных з ПнУ на ПдЗ, да якіх з З падыходзіць кароткая, плаўна выгнутая вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі, на паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**АСМОЛАВІЧЫ** — вёска і чыг. ст. на лініі Орша—Унеча, у Лазовіцкім с/с, за 8 км на Пд ад Клімавіч, 132 км ад Магілёва. Рэльеф раўнінны. На ПнУ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Лабжанка (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мядзведаўка і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 207 гаспадарак, 469 жыхароў (2007).

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 16 ст. У 1586 г. сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ. Упамінаецца таксама ў крыніцах перыяду вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць, меліся млын, шынок. У 1784 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 46 двароў, 175 жыхароў. Дзейнічала царква, раз у год (9 мая) праводзіўся таржок. Апрача земляробства сяляне займаліся кушнерскім, кравецкім, калёсным, маслабойным і кавальскім промысламі. У 1887 г. 162 двары, 958 жыхароў, ветраны млын, кузня, 4 маслабойні, царк.-прыходская школа, царква, піцейны дом. У аднайменным фальварку быў 1 двор, 7 жыхароў. У 1905 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1909 г. сяло (35 двароў, 226 жыхароў) і аднайменная аколіца (126 двароў, 704 жыхары) у Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 72 вучні, дзейнічаў драмгуртох. З 20.8.1924 г. да 11.4.1960 г. цэнтр с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. З 3.4.1925 г. створана закупачна-збытавое т-ва. У 1926 г. 218 двароў, 1177 жыхароў, адкрыта хата-чытальня, працаваў ветраны млын. У пач. 1930-х г. пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую. 2.3.1930 г. арганізаваны калгас «III Інтэрнацыянал» (у першы год было 102 гаспадаркі). Мелася кузня. У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 365 гаспадарак, меў 2590 га ворыва. У Вял.

Айч. вайну ў пач. жн. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі дзейнічаў партыз. атрад «За Радзіму». Вызвалена 28.9.1943 г. часцямі 50-й арміі. На ўшанаванне памяці 147 землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у цэнтры вёскі ў 1969 г. пастаўлены абеліск. У 1959 г. да вёскі далучыўся пас. Чырвоная Зара, у 1976 г. — пас. Андрэеўскі. З 1960 г. ў Яноўскім, з 1962 г. ў Лазовіцкім сельсаветах. З 1960 г. ў складзе саўгаса «Высокаўскі», з 1961 г. — цэнтр саўгаса «Асмолавіцкі». У 1980-я г. ў вёсцы былі 2 вытв. фермы, майстэрні па рамонце тэхнікі, парнікі, пасека, 8-гадовая школа (13 настаўнікаў), Дом культуры, б-ка з фондам больш за 11 тыс. кніг, дзіцячы сад, Дом быту, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны, аддз. сувязі. У 1986 г. 227 гаспадарак, 617 жыхароў. Дзейнічаюць дзіцячы сад, базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, комплексна-прыёмны пункт, аддз. сувязі, 2 магазіны. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1982 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Плніровачна складаецца з 3 прамалінейных і адной плаўна выгнутай, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, да якіх на Пн далучаецца працяглая крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, уздоўж чыгункі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі і ўзведзены мураваныя аднапавярховыя аднакватэрныя і двухпавярховыя 6-кватэрныя дамы. На Пд адасоблена размешчана чыг. станцыя. На паўд.-зах. ускраіне гасп. сектар.

**БАГДАНАЎКА** — вёска ў Раднянскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Клімавіч, 136 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Касцюковічы, якая праходзіць непадалёку.

Вядома з 18 ст. У 1784 г. вёска ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 40 двароў, 315 жыхароў. У 1816 г. 10 двароў, 47 жыхароў, уласнасць памешчыка. Гаспадар аднаго маёнтка меў у 1860 г. 286 дзес. зямлі, другога — у 3 вёсках у 1877 г. 12 860 дзес. зямлі, піцейны дом, 6 млыноў, дзягцярны з-д. У 1897 г. ў Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 7 двароў, 54 жыхары. Побач была аднайменная сядзіба (1 двор, 8 жыхароў), вадзяны млын. У 1909 г. ў вёсцы 7 двароў, 59 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 10 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Раднянскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 28 двароў, 163 жыхары. Дзейнічала прац. школа 1-й ступені (у 1926 г. 54 вучні). У пач. 1930 г. вяскоўцы арганізавалі калгас. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена часцямі 50-й арміі Бранскага фронту. У 1970 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў. Аснову планіроўкі складалі 2 паралельныя паміж сабой, плаўна выгнутыя вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваныя аднабакова, шчыльна, трады. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАЛЕШЫНА** — вёска ў Ціманаўскім с/с, за 6 км на Пд ад Клімавіч, 130 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. На ПнУ праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 13 гаспадарак, 31 жыхар (2007).

Вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1784 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 33 двары, у 1858 г. 24 рэвізскія душы, мелася карчма, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1877 г. 138 дзес. зямлі. У 1897 г. аднайменныя вёска (6 двароў, 40 жыхароў) і аколіца (24 двары, 163 жыхары) у Ціманаўскай вол. У 1909 г. ў вёсцы 5 двароў, 31 жыхар, у аколіцы 23 двары, 141 жыхар. Міністэрства нар. асветы адкрыла ў 1909 г. школу, якая



размясцілася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 37 вучняў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Асмолавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 49 двароў, 224 жыхары. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 11.4.1960 г. ў Ціманаўскім с/с. У 1970 г. 31 гаспадарка, 89 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд гасп. сектар. Радзіма Героя Сав. Саюза М.Ф. Рабчэўскага (3.1.1912—31.3. 1979), камандзіра эскадрыллі штурмавікоў у Вял. Айч. вайну.

**БАРСУКІ** — вёска ў Дамамерыцкім с/с, за 15 км на Пн ад Клімавіч, 109 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Масква, якая праходзіць праз вёску. 326 гаспадарак, 704 жыхары (2007).

Засн. ў сярэдзіне 1920-х г. як пас. Барсуковішча ў Дамамерыцкім с/с Клімавіцкага р-на. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Праца» (у 1932 г. аб'ядноўваў 31 гаспадарку, меў 157 га ворыва). У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 42 гаспадаркі, 120 жыхароў. Дзейнічаюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай шыротна, уздоўж шашы і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАРЫСАВІЧЫ** — вёска ў Лабжанскім с/с, за 17 км на З ад Клімавіч, 140 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На паўн.-зах. ускраіне цячэ р. Сож (прыток Дняпра), па якой уніз па цячэнні ад вёскі пачынаецца (пры высокіх узроўнях вады) суднаходства. Транспартныя сувязі па дарозе Барысавічы—Клімавічы. 110 гаспадарак, 253 жыхары (2007).

Упершыню ў рукапісных крыніцах упамінаецца ў 1727 г., у 1747 г. ў Крычаўскім старостве ВКЛ, 21 двор, дзярж. уласнасць, пасесія, меліся карчма, млын. У Паўн. вайну (1700—21) у жн. 1708 г. ў вёсцы быў з войскам Пётр І. У 1784 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 46 двароў, 301 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1816 г. 43 двары, 302 жыхары, у 1834 г. 419 жыхароў, у 1885 г. ў Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 86 двароў, 563 жыхары. У 1897 г. 123 двары, 889 жыхароў, мелася школа граматы. Побач быў піцейны дом (1 двор, 14 жыхароў). У 1909 г. 53 двары, 1060 жыхароў. У 1919 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, для якой у 1922 г. пабудавана памяшканне (у 1925 г. 158 вучняў, мелася б-ка). З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Івандарскім (з 21.8.1925 г. Дубровіцкі) с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Герой працы», у які першапачаткова ўваходзіла 21 гаспадарка, у 1932 г. меў 723 га ворыва, абслугоўваўся Клімавіцкай МТС. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі ў 1969 г. ў памяць аб 169 земляках, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, пастаўлены абеліск. З 1960 г. ў Лабжанскім с/с. У 1980-я г. ў вёсцы вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, рамонтныя майстэрні, Дом культуры, стацыянарная кінаўстаноўка, пач. школа, сталовая, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін, фельч.-акушэрскі



*М.Ф.Рабчэўскі.*

пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1986 г. 161 гаспадарка, 350 жыхароў. Дзейнічаюць дзіцячы сад-школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1968 г. Магілёўскім філіялам Белкалгаспраекта. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПнУ на ПнЗ, ад якой на Пд адыходзіць на З крывалінейная вуліца з завулкамі, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ўсх. ускраіне. Радзіма Героя Сав. Саюза, доктара гіст. навук, праф. Дз.П.Жмуроўскага (н. 10.1.1918 г.), які вызначыўся ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў пры фарсіраванні р. Прут 26.3.1944 г., а таксама аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. ў Вял. Айч. вайну Я.П.Васілевіч (4.2.1901—16.9.1965).


*Дз.П.Жмуроўскі.*

**БАРЫСАЎКА** — вёска ў Дамамерыцкім с/с, за 10 км на Пн ад Клімавіч, 114 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Сасноўка (прыток р. Асцёр). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Клімавічы, якая праходзіць праз вёску. 24 гаспадаркі, 58 жыхароў (2007).

Упершыню ў рукапісных крыніцах упамінаецца ў 1604 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, казённая ўласнасць. У 1747 г. ў Крычаўскім старостве, 10 двароў. У 1784 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 10 двароў, 52 жыхары. У 1796—1802 гг. ў Чэрыкаўскім павеце Беларускай губ. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, 9 двароў, 64 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1785 г. 12 двароў, 68 жыхароў. У 1897 г. пры паштовым тракце Клімавічы—Хатовіж, у Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 32 двары, 246 жыхароў. Побач быў аднайменны фальварак (1 двор, 8 жыхароў, ветраны млын). У 1909 г. ў сяле 34 двары, 253 жыхары, у фальварку 1 двор, 17 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Дамамерыцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1918 г. перасяленцы з в. Барысаўка ўтварылі побач пас. Паніzоўка (цяпер не існуе). У жн. 1918 г. створана т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі «Брацкі вугалок» (6 гаспадарак). У 1926 г. 41 двор, 251 жыхар. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новы свет», у якім першапачаткова было 15 гаспадарак, у 1932 г. аб'ядноўваў 41 гаспадарку, меў 255 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 38 гаспадарак, 89 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі (частка шашы) з завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц., драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне, каля ракі — гасп. сектар.

**БЛІУНГ** — вёска ў Гусаркаўскім с/с, за 7 км на Пн ад Клімавіч, 130 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На У цячэ ручай (прыток р. Сасноўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Свішчава і далей па шашы Клімавічы—Магілёў. 15 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Засн. ў 1919 г., калі побач з в. Селішча была арганізавана с.-г. арцель «Бліунг» (у 1927 г. аб'ядноўвала 10 гаспадарак). У хуткім часе тут склаўся пасёлак пад такой жа назвай. З 20.8.1924 г. ў Гусаркаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Праўда» (цэнтр — в. Канахоўка). У 1940 г. 13 двароў, 70 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі 11 двароў, загубілі 9 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. У 1970 г. 21 гас-



падарка, 56 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, якую на У перакрыжоўвае кароткая, прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БУДЛАЎКА** — вёска ў Раднянскім с/с, за 24 км на У ад Клімавіч, 147 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам і цячэ р. Сабалёўка (прыток р. Лабжанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Патараўка, Родня і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы.

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1784 г. як вёска ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 3 двары, 13 жыхароў. У 1857 г. в. Будлаўшчына, у Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. Частка вяскоўцаў займалася вырабам з дрэва розных быт. рэчаў і посуду. У 1897 г. в. Будлаўка (яна ж Слабодка), 13 двароў, 101 жыхар. У 1909 г. 21 двор, 115 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Судзілаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 32 двары, 179 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Бальшавік Беларусі» (цэнтр — в. Родня). У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Зараз у складзе птушкафабрыкі «Сабалёўка» (цэнтр — в. Сабалёўка). З 1960 г. ў Раднянскім с/с. У 1970 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Традыц. сял. сядзіба з гасп. пабудовамі пастаўлена каля прасёлачнай дарогі.

**БУХОЎКА** — вёска ў Гусаркаўскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Клімавіч, 136 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гусарка і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

За 0,2 км на У ад паўд. ускраіны, у лесе, абапал дарогі ў в. Кашаноўка захаваўся курганны могільнік з 3 насыпаў, які сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з 18 ст. У 1747 г. ў Крычаўскім старостве ВКЛ, 23 двары, дзярж. ўласнасць, пасесія. У 1779 г. ўласнасць памешчыка. У 1785 г. 22 двары, 142 жыхары. Гаспадар аднаго маёнтка меў тут у 1867 г. 180 дзес. зямлі, другога — 105 дзес. У 1880 г. 17 двароў, 35 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У 1897 г. вёска каля тракта Клімавічы—Рослаў, у Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 18 двароў, 109 жыхароў. Мелася кузня. Побач былі аднайменны фальварак (2 двары, 14 жыхароў) і хутар Бухаўка (ён жа Іван-Поле, 1 двор, 5 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 23 двары, 149 жыхароў, у фальварку 1 двор, 9 жыхароў, на хутары 2 двары, 20 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8. 1924 г. ў Гусаркаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 39 двароў, 227 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Калектывіст», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 45 гаспадарак, меў 274 га ворыва. У 1940 г. 28 двароў, 120 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.8.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўскія карнікі поўнасцю спалілі вёску, загубілі 3 жыхароў. Пасля вызвалення адбудавана. У 1970 г. 26 гаспадарак, 50 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з У амаль пад прамым вуглом далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАЗНЯСЕНСК** — вёска ў Ціманаўскім с/с, за 7 км на ПдЗ ад Клімавіч, 131 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ціманава і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў маі 1926 г. на былых памешчыцкіх землях, дзе перасяленцы з суседніх вёсак арганізавалі сельгасарцель «Свабодны араты». У 1927 г. 22 двары, 119 жыхароў, у Ціманаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 11 гаспадарак, 33 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

На ўсх. ускраіне Вазнясенскае радовішча суглінкаў (разведаныя запасы 318 тыс. $м^3$).

**ВАРАШЫЛАЎКА** — вёска ў Мілаславіцкім с/с, за 15 км на ПнУ ад Клімавіч, 139 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Тарасавічы і далей па шашы Клімавічы—Макеевічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў 1930-я г. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАСІЛЁЎКА** — вёска ў Галіцкім с/с, за 21 км на У ад Клімавіч, 145 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Галічы, якая праходзіць праз вёску. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. як пасёлак у Галіцкім с/с Мілаславіцкага (з 4.8.1927 г. Клімавіцкага) р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1927 г. 42 двары, 209 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. 37 гаспадарак, 74 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой з ПнУ далучаюцца пад прамым вуглом 2 прамалінейныя, кароткія вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне гасп. сектар.

**ВАСЬКОЎКА** — вёска ў Раднянскім с/с, за 28 км на ПдУ ад Клімавіч, 150 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Родня і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы. 4 гаспадаркі, 11 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1784 г. вёска ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 9 двароў, 38 жыхароў. У 1811 г. 1 двор, 4 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 8 двароў, 65 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 27 двароў, 205 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 10 двароў, 66 жыхароў, у аколіцы 19 двароў, 101 жыхар. 1.11.1919 г. адкрыта школа, якой у 1923 г. быў перададзены нацыяналізаваны будынак (у 1936 г. 44 вучні, мелася б-ка). З 20.8.1924 г. ў Малашкавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай губ., з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 43 двары, 285 жыхароў. 3.5.1930 г. жыхары вёсак Васькоўка і Сураў арганізавалі калгас «Іскра» (цэнтр — в. Васькоўка), у якім спачатку былі 42, а ў 1932 г. — 124 гаспадаркі, 680 га ворыўнай зямлі, дзейнічалі ветраны млын, кузня. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Непадалёку ад вёскі партызаны разграмілі атрад паліцыі, забілі бургаміістра. У 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1970 г. 22 гаспадаркі, 47 жыхароў. Планіровачна



складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з З падыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**ВОСТРАЎ** — вёска ў Лазовіцкім с/с, за 9 км на У ад Клімавіч, 133 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Галічы—Клімавічы, якая праходзіць праз вёску. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Гаспадар маёнтка меў тут у 1855 г. 100 дзес. зямлі. У 1850 г. 18 двароў, 62 жыхары мужчынскага полу. У 1857 г. ўласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 43 двары, 284 жыхары. Побач быў аднайменны хутар, 2 двары, 12 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 51 двор, 299 жыхароў, на хутары 2 двары, 8 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Лазовіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 68 двароў, 337 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.К.Блюхера (у 1932 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак, меў 100 га ворыва), абслугоўваўся Клімавіцкай МТС. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 15 гаспадарак, 21 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЫСОКАЕ** — вёска, цэнтр Высокаўскага сельсавета (з 3.7.1965 г.), за 10 км на ПдЗ ад Клімавіч, 134 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. На Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Жадунька (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 176 гаспадарак, 458 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1746 г. ў Крычаўскім старостве ВКЛ, 38 двароў, дзярж. ўласнасць, пасесія. У 1779 г. 33 двары, 210 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1785 г. 34 двары, 311 жыхароў. У 1880 г. 39 двароў, 202 жыхары. Апрача земляробства сяльчане займаліся калёсным і бандарным промысламі. Памешчык меў тут у 1850 г. 1483 дзес. зямлі. У 1882 г. засн. вінакурны з-д, дзе ў 1895 г. працавалі 9 рабочых. У 1893 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая ў 1906 г. пераўтворана ў земскую. У 1907 г. ў школе навучаліся 47 хлопчыкаў. У 1897 г. ў Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 48 двароў, 332 жыхары. Побач быў аднайменны фальварак, 1 двор, 12 жыхароў, вінакурны з-д. У 1909 г. ў сяле 53 двары, 374 жыхары, у маёнтку 1 двор, 43 жыхары. Мясц. багачу К.І.Зубовічу, які жыў у маёнтку, належала 1821 дзес. зямлі, а ўсім вяскоўцам — толькі 486 дзес. У 1919 г. ў былым маёнтку арганізаваны саўгас «Высокае», які ў 1930 г. меў 462 дзес. зямлі, уваходзіў у Аршанскі свінагадоўчы трэст. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 95 вучняў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Красавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 80 двароў, 476 жыхароў. Дзейнічалі вінаробчы з-д (25 рабочых), ветраны млын, кузня, дзіцячыя яслі. У 1937 г. створана МТС, якая абслугоўвала 18 калгасаў. У Вял. Айч. вайну ў пач. жн. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.9.1943 г. войскамі 50-й арміі Бранскага фронту. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 27 вяскоўцаў. У цэнтры вёскі каля будынка выканкома сельсавета ў 1967 г. ў памяць аб 351 земляку з вёсак Высокаўскага с/с, якія загінулі ў баях супраць гітлераўскіх акупантаў, пастаўлены абеліск. З 1960 г. ў




Яноўскім с/с, з 1965 г. цэнтр сельсавета. У 1986 г. 149 гаспадарак, 413 жыхароў. У 1980-я г. ў вёсцы былі машынны парк, рамонтныя майстэрні, трактарная брыгада, свінагадоўчая ферма, магазін, пач. школа, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка з фондам больш за 5780 кніг, дзіцячы сад. Цэнтр КСУП «Племсаўгас «Высокаўскі». Дзейнічаюць дзіцячы сад-школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт, магазін, аддз. сувязі. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1984 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 4 прамалінейных кароткіх вуліц, якія ўтвараюць прамавугольнік, гал. вуліца (частка шашы) арыентавана з ПдЗ на ПнУ. На ПдЗ да іх далучаецца кароткая, дугападобная вуліца, а з ПдУ — Г-падобная вуліца з завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне гал. вуліцы ўзводзяцца мураваныя двухпавярховыя 4-кватэрныя і побач на другой вуліцы — мураваныя аднапавярховыя аднакватэрныя дамы. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы гал. вуліцы. Гасп. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

У склад Высокаўскага с/с уваходзяць 11 вёсак і пасёлак.

**ВЫСОКАЯ БУДА** — вёска ў Высокаўскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Клімавіч, 138 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Высокае і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 29 гаспадарак, 55 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1747 г. вёска ў Крычаўскім старостве ВКЛ, 7 двароў, дзярж. уласнасць, пасесія. У 1785 г. ў Клімавіцкім павеце, 104 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1777 г. в. Высокая Буда ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1834 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 106 жыхароў. Памешчык меў тут у 1872 г. 440 дзес. зямлі. У 1880 г. 23 двары, 188 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам. У 1894 г. Міністэрствам нар. асветы адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У ліп. 1917 г. сяляне воласці захапілі і падзялілі паміж сабой 200 дзес. памешчыцкай зямлі. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, для якой у 1924 г. пабудавана памяшканне. У 1925 г. было 29 вучняў, мелася б-ка. З 20.8.1924 г. ў Красавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 9 двароў, 52 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў Яноўскім, з 1965 г. ў Высокаўскім сельсаветах. У 1980-я г. былі размешчаны ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, клуб, магазін. У 2002 г. 70 гаспадарак, 171 жыхар. Планіроўка Г-падобная. Да крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ далучаецца з ПнЗ плаўна выгнутая вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне гасп. сектар.

**ВЯЛІКІ МОХ** — пасёлак і чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў, у Кісялёва-Будскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Клімавіч, 144 км ад Магілёва. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам, на Пн праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Масква. 130 гаспадарак, 263 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г., калі сюды перасяліліся некалькі гаспадарак з суседніх вёсак. 16.9.1925 г. створана меліярацыйнае т-ва, а ў 1928 г. пачалося будаўніцтва торфапрадпрыемства. Былі пабудаваны баракі, лазня, сталовая. Паступова рос рабочы пасёлак. Уваходзіў у Склімінскі с/с Клімавіцкага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1931 г. пачала працаваць першая торфаздабываючая машына, а ў 1932 г. на прадпрыемстве было ўжо 218 рабо-



чых. Торф накіроўваўся ў якасці паліва на Крычаўскі цэментны з-д. У 1935 г. пасёлак быў электрыфікаваны. У 1940 г. 72 двары, 217 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1941 г. тут каля 2 тыдняў вёў жорсткія абарончыя баі корпус ген. У.Пліева. У пасёлку ў 1943 г. загінулі сав. разведчыкі-дэсантнікі Русакоў і Табольцаў. Каля клуба ў брацкай магіле пахавана 17 воінаў, сярод іх воіны 153-й і 212-й стралк. дывізій, якія загінулі ў баях за вызваленне пасёлка. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак. Пасля вайны адбудаваны і значна вырас. У 1948 г. абсталяваны радыёвузел, пасёлак быў радыёфікаваны. Зараз цэнтр торфапрадпрыемства «Клімавіцкае». З 16.7.1954 г. ў Мілаславіцкім, з студз. 1965 г. ў Кісялёва-Будскім сельсаветах. У 1980-я г. былі філіял Магілёўскага электрарамонтнага з-да, сярэдняя школа (15 настаўнікаў), бальніца, аддз. сувязі, аптэка, сталовая, грамадская лазня, б-ка з фондам звыш 9 тыс. кніг, дзіцячы сад. У 1986 г. 202 гаспадаркі, 450 жыхароў. Дзейнічаюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 3 (галоўная прамалінейная, 2 другія — плаўна выгнутыя) вуліц, перакрыжаваных ў цэнтры. Паралельна і пад вуглом да іх падыходзяць кароткія другарадныя вуліцы. Забудаваны двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гал. вуліца забудавана мураванымі двухпавярховымі 2- і 12-кватэрнымі дамамі. Гасп. сектар на паўд.-ўсх. ускраіне. Чыг. ст. Шасцёраўка (да 1967 г. асобны населены пункт) размешчана на паўн. ускраіне.

**ГАЛІЦКАЯ МЫЗА** — вёска ў Галіцкім с/с, за 31 км на У ад Клімавіч, 155 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Галічы—Клімавічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Вядома з 19 ст. У 1880 г. вёска (55 двароў, 180 жыхароў) у Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У 1900 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 53 вучні. З 20.8.1924 г. да 5.1.1938 г. цэнтр Галіцка-Мызенскага с/с Мілаславіцкага р-на (з 24.9.1926 г. да 5.7.1938 г. цэнтр нац. латышскага с/с) Калінінскай, з 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі, з 4.8.1927 г. ў Клімавіцкім р-не Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. 5.7.1938 г. вёска ўвайшла ў склад Галіцкага с/с. У 1926 г. 88 двароў, 537 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Звязда Беларусі», дзейнічалі машыннае таварыства, кузня. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 23 гаспадаркі, 51 жыхар. Была размешчана ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд далучаецца з У кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**ГАЛІЧЫ** — вёска, цэнтр Галіцкага сельсавета (з 20.8.1924 г.), за 28 км на У ад Клімавіч, 152 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны. За 0,5 км на Пд ад вёскі найвышэйшы пункт раёна (211,7 м). Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Галічы. 123 гаспадаркі, 311 жыхароў (2007).

Па рукапісных крыніцах вядома з 1604 г. як с. Чыста Поле-Галічы ў Крычаўскай вол. ВКЛ, казённая ўласнасць. У 1737 г. пабудавана царква. У 1779 г. 26 двароў, 231 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1784 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 31 двор, 229 жыхароў. Сяло вельмі пацярпела ў час напалеонаўскага нашэсця 1812 г., у 1816 г. тут быў толькі 1 двор, 6 жыхароў. У 1850 г. 15 двароў, 73




жыхары, у 1885 г. 21 двор, 119 жыхароў, дзейнічалі вінакурны з-д, вадзяны і ветраны млыны, раз у год праводзіўся кірмаш. Гаспадар маёнтка меў у 1858 г. 4123 дзес. зямлі і ветраны млын. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 2-й пал. 19 ст. пабудавана мураваная царква, якая зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры. У 1886 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1897 г. ў сяле 36 двароў, 280 жыхароў, у аднайменным фальварку 1 двор, 46 жыхароў. У час 1-й рус. рэвалюцыі сяльчане 1.1.1906 г. разграмілі кантору лесапільні. У 1909 г. 35 двароў, 253 жыхары. Была адкрыта казённая вінная лаўка. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. цэнтр с/с Мілаславіцкага (з 4.8.1927 г. Клімавіцкага) р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 58 вучняў. Школе быў перададзены дом памешчыка. Меліся б-ка, хата-чытальня. У 1926 г. 74 двары, 476 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях да сацыялізму» (у 1932 г. аб'ядноўваў 75 гаспадарак, меў 368 га ворыва). Працавалі калгасны млын і кузня. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны ліп. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Партызаны атрада «За Савецкую Беларусь» (пазней 5-я Клятнянская брыгада) 30.12.1942 г. разграмілі ў вёсцы паліцэйскі гарнізон. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 252 землякоў з вёсак сельсавета, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск. У 1980-я г. ў вёсцы былі ферма буйной рагатай жывёлы, рамонтныя майстэрні, сталовая, магазін, клуб, б-ка з фондам больш за 11,9 тыс. кніг, стацыянарная кінаўстаноўка, сярэдняя школа (14 настаўнікаў), бальніца, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, дзіцячы сад. У 1986 г. 104 гаспадаркі, 283 жыхары. Дзейнічаюць дзіцячы сад, сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт, магазін, аддз. сувязі. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў Магілёўскім філіяле Белкалгаспраекта ў 1968 г. Планіровачна складаецца з 4 прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, злучаных крывалінейнай вуліцай і завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры забудова вядзецца мураванымі жылымі дамамі. На ўсх. ускраіне гасп. сектар.

У склад Галіцкага с/с ўваходзіць 21 населены пункт. Пас. Набат, які быў у складзе сельсавета, спалены ням.-фаш. акупантамі ў вер. 1943 г. (17 двароў) і не адрадзіўся.

**ГАННАЎКА** — вёска ў Раднянскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Клімавіч, 144 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам. На З цячэ р. Сабалёўка (прыток р. Лабжанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Родня і далей па шашы Клімавічы—Касцюковічы.

Вядома з 19 ст. Гаспадар маёнтка меў у 1867 г. ў вёсках Ганнаўка і Енаполле 2788,5 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны. У 1880 г. вёска, 5 двароў, 46 жыхароў. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 7 двароў, 45 жыхароў. У аднайменным маёнтку, што знаходзіўся побач, 1 двор, 17 жыхароў. 20.1.1906 г. вяскоўцы разграмілі сядзібу памешчыка. У 1909 г. 9 двароў, 63 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Судзілаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 10 двароў, 69 жыхароў. У 1930-я г. сяляне ўступілі ў калгас. Меўся ветраны млын. У 1937 г. каля вёскі была арганізавана Раднянская МТС, якая ў 1938 г. мела 10 трактароў і іншую с.-г. тэхніку. У 1940 г. 10 двароў, 65 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 1960 г.



ў Раднянскім с/с. У 1970 г. 18 гаспадарак, 43 жыхары. Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ГАННАЎКА** – вёска ў Дамамерыцкім с/с, за 16 км на Пн ад Клімавіч, 112 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Масква. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 19 ст., калі тут быў засн. вінакурны з-д, які належаў памешчыку. У 1819 г. на з-дзе працавала 5 рабочых. У 1850 г. вёска ў Клімавіцкім павеце, 26 двароў, 81 жыхар мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1896 г. частка вяскоўцаў перасялілася на жыхарства ў Томскую губ. У 1897 г. 57 двароў, 372 жыхары, у 1909 г. 48 двароў, 371 жыхар. У 1912 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 43 вучні. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Хатовіжскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 70 двароў, 400 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя раённай газеты «Камуна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 79 гаспадарак, меў 155 га ворыва. У 1940 г. 79 двароў, 306 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 5 жыхароў. Вызвалена 28.9.1943 г. воінамі 50-й арміі Бранскага фронту. З крас. 1960 г. ў Дамамерыцкім с/с. У 1970 г. 21 гаспадарка, 41 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**ГАННАЎКА** – вёска ў Лабжанскім с/с, за 21 км на З ад Клімавіч, 143 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысавічы—Клімавічы. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Па рукапісных крыніцах вядома з 1604 г. як с. Ганнаўка Крычаўскай вол. ВКЛ, казённая ўласнасць. У 1858 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 22 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. ў Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 14 двароў, 88 жыхароў. У 1909 г. 14 двароў, 109 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Івандарскім, з 21.8.1925 г. ў Дубравіцкім сельсаветах Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас імя С.М.Кірава, які абслугоўвала Клімавіцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З крас. 1960 г. ў Лабжанскім с/с. У 1970 г. 25 гаспадарак, 69 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне гасп. сектар.

**ГАРАДОК** – вёска ў Лабжанскім с/с, за 16 км на З ад Клімавіч, 140 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На З цячэ р. Палыная (прыток р. Бароўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лобжа і далей па шашы Барысавічы—Клімавічы.

Вядома з пач. 20 ст. як пасяленне Левандаршчына. З 20.8.1924 г. пасёлак Гарадок у Дубравіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў Лабжанскім

с/с. У 1970 г. 7 гаспадарак, 14 жыхароў. Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гаспадарчымі пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай, дугападобнай вуліцы шыротнай арыентацыі.

**ГІРЭЕВІЧЫ** — вёска ў Цiманаўскім с/с, за 9 км на Пд ад Клімавіч, 133 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Паравалочня). Транспартныя сувязі па шашы Савінічы—Клімавічы, якая праходзіць праз вёску. 32 гаспадаркі, 66 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1768 г. сяло ў складзе маёнтка Цiманава Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 12 двароў, 89 жыхароў. У 1811 г. 21 двор, 65 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1840 г. 113 дзес. зямлі, ветраны млын і карчму. У 1880 г. 51 двор, 206 жыхароў. У 1897 г. размешчаныя побач аднайменныя вёска (25 двароў, 200 жыхароў) і аколіца (32 двары, 143 жыхары) у Цiманаўскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. Частка вяскоўцаў займалася маслабойным і кавальскім промысламі. У 1909 г. ў вёсцы 24 двары, 194 жыхары, у аколіцы 25 двароў, 128 жыхароў. У 1922 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 54 вучні. Сяляне пабудавалі для школы памяшканне. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Цiманаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 63 двары, 370 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Прафінтэрн», у які ўвайшла 41 гаспадарка. У 1930 г. створаны яшчэ адзін калгас — «12 гадоў Кастрычніка». Дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 59 гаспадарак, 162 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых, амаль паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГЛІНЧЫНА** — былая вёска ў Раднянскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Клімавіч, 135 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам і праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Крупня (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Леанполле і далей па шашы Клімавічы—Касцюковічы.

Вядома з 19 ст. У 1857 г. в. Глінкіна ў Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 32 рэвізскія душы, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, 20 двароў, 134 жыхары. У 1909 г. 21 двор, 183 жыхары. У 1920 г. працавалі маслабойня, ветраны млын. З 20.8.1924 г. ў Раднянскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 43 двары, 200 жыхароў. У пач. 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Бальшавік Беларусі» (цэнтр — в. Родня). У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 11 двароў, 24 жыхары. Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне гасп. сектар.

**ГРАЗІВЕЦ** — вёска ў Лабжанскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Клімавіч, 116 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн і У мяжуе з лесам. На Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лабжанка (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1727 г. вёска, 18 дымоў. У 1747 г. ў Крычаўскім старостве ВКЛ, 30 двароў, пасесія, дзярж. ўласнасць,



меліся млын, карчма. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, 35 двароў, 192 жыхары, уласнасць памешчыка. У пач. 20 ст. пачаў працаваць вінакурны з-д (у 1819 г. 6 рабочых). У 1811 г. 27 двароў, 79 жыхароў мужчынскага полу. Памешчык меў тут у 1879 г. 1095 дзес. зямлі і заезны дом. У 1880 г. 25 двароў, 132 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася адыходным, кравецкім і шавецкім промысламі. У 1885 г. царк. ведамствам адкрыта школа. У 1897 г. ў Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета, 40 двароў, 315 жыхароў. Побач былі 2 аднайменныя фальваркі (па 1 двару), пасёлак (2 двары, 15 жыхароў) і заезны дом (1 двор, 7 жыхароў). У 1909 г. 50 двароў, 365 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якую ў 1925 г. наведвала 48 вучняў. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр Гразівецкага с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 66 двароў, 383 жыхары, дзейнічалі хата-чытальня. У 1929 г. сяляне в. Гразівец і навакольных вёсак аб'ядналіся ў калгас «Ленінец». У 1930 г. быў арганізаваны калгас імя М.М.Ліцвінава (у 1932 г. 86 гаспадарак, 545 га зямлі). У 1940 г. 46 двароў, 242 жыхары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Улетку 1942 г. партызаны атрада «Валянціна Маёрава» разграмілі ў вёсцы паліцэйскі ўчастак. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 40 двароў, загубілі 8 жыхароў. На ўшанаванне памяці 85 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1969 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. У пасляваенны час у выніку ўзбуйнення гаспадарак вёска з 1950 г. — цэнтр калгаса імя А.А.Жданава, затым у складзе калгаса імя Я.Купалы, цэнтр вучэбнай гаспадаркі Клімавіцкага СПТВ-214. З 1954 г. ў Лапатавацкім, з 1960 г. ў Лабжанскім сельсаветах. У 1970 г. 26 гаспадарак, 42 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне гасп. сектар.

**ГРЫШЫН** — вёска ў Раднянскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Клімавіч, 139 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. На паўд. ускраіне цячэ р. Лабжанка (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па шашы Касцюковічы—Клімавічы, якая праходзіць праз вёску. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ; шляхецкая ўласнасць. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 10 двароў, 58 жыхароў. У 1811 г. 7 двароў, 14 жыхароў мужчынскага полу. Гаспадар маёнтка Грышын (ён жа Зарай) меў у 1870 г. ў вёсках Грышын і Зарай 309,5 дзес. зямлі. У 1880 г. 22 двары, 140 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, 25 двароў, 213 жыхароў. У фальварку 1 двор, 12 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 30 двароў, 214 жыхароў, у фальварку 3 двары, 18 жыхароў. У 1920 г. дзейнічаў вадзяны млын. З 20.8.1924 г. ў Раднянскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2. 1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 40 двароў, 266 жыхароў. У пач. 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 18 гаспадарак, 46 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд далучаецца кароткая, дугападобная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГУЛЬКІ** — вёска ў Мілаславіцкім с/с, за 42 км на У ад Клімавіч, 168 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. На Пд цячэ р. Іпуць (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па





мясц. дарозе праз в. Іллюхіна і далей па шашы Макеевічы—Клімавічы.

За 6 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Іпуць захаваўся курганны могільнік, які сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Па рукапісных крыніцах вядома з 1604 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, казённая ўласнасць. У 1747 г. с. Гуркі ў Крычаўскім старостве, 9 двароў, дзярж. ўласнасць, пасесія. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 2 двары, 19 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1834 г. 21 двор, 120 жыхароў. У 1878 г. засн. дзягцярна-берасцяное прадпрыемства (у 1881 г. 4 рабочыя). У 1880 г. 26 двароў, 97 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася нарыхтоўкай лясных матэрыялаў для вытв-сці драўляных вырабаў. У 1897 г. ў Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 55 двароў, 365 жыхароў. Меліся царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1909 г. 58 двароў, 448 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Макеевіцкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. 1.10.1924 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 47 вучняў. Дзейнічала хата-чытальня. У 1926 г. 96 двароў, 543 жыхары. У пач. 1930-х г. створаны калгас «Кастрычнік», меўся ветраны млын. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў Мілаславіцкім с/с. У 1970 г. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў. Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі. На зах. ускраіне гасп. сектар.

**ГУСАРКА** — вёска, цэнтр Гусаркаўскага сельсавета (з 20.8.1924 г.), за 7 км на ПнУ ад Клімавіч, 131 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На Пд цячэ ручай (прыток р. Сасноўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Свішчова, Міхалін і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 31 гаспадарка, 68 жыхароў (2007).

Засн. ў 1723 г. ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв., у 1727 г. 19 дымоў, дзярж. ўласнасць. У 1747 г. 6 двароў. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, 19 двароў, 107 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1785 г. 21 двор, 142 жыхары, у 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 27 двароў, 205 жыхароў. Паблізу была лясная вартоўня (1 двор, 2 жыхары). У 1921 г. ў былым маёнтку створана с.-г. арцель «Навінка», якая аб'ядноўвала 23 гаспадаркі. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 33 двары, 202 жыхары. Была адкрыта прац. школа 1-й ступені (у 1926 г. 46 вучняў). У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас «Соцземляробства» (у 1932 г. аб'ядноўваў 63 гаспадаркі, меў 374 га зямлі). Працавалі 3 кузні. У 1940 г. 31 двор, 162 жыхары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 3 жыхароў. У памяць аб 310 земляках з вёсак сельсавета, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1969 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. У 1980-я г. былі размешчаны вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, 8-гадовая школа, б-ка з фондам звыш 10 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, лясніцтва. Дзейнічаюць базовая школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Планіроўка крыжападобная. Гал. вуліца арыентавана амаль шыротна. У цэнтры яе перакрыжоўвае вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны на гал. вуліцы сярод жылой забудовы. Гасп. сектар — на ўсх. ускраіне.

**ГУТА** — вёска ў Лабжанскім с/с, за 16 км на З ад Клімавіч, 143 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Бароўка (пры-



ток Сожа). Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Барысавічы, якая праходзіць праз вёску. 33 гаспадаркі, 56 жыхароў (2007).

У 1834 г. ў Клімавіцкім павеце, 3 двары, 19 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 35 рэвізскіх душ. У 1897 г. в. Барысавіцкая Гута ў Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 27 двароў, 210 жыхароў. Побач быў хутар Гута (4 двары, 20 жыхароў). Дзейнічаў вадзяны млын. У 1909 г. ў вёсцы 35 двароў, 234 жыхары, на хутары Гутка 6 двароў, 38 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Івандарскім, з 21.8.1925 г. ў Дубравіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 20 двароў, 98 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Запаветы Леніна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 38 гаспадарак, меў 155 га ворыва. У пач. 1930-х г. адкрыта пач. школа, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў Лабжанскім с/с. У 1970 г. 53 гаспадаркі, 132 жыхары. У 1980-я г. дзейнічалі ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, стацыянарная кінаўстаноўка, б-ка з фондам звыш 6,3 тыс. кніг, магазін. Планіровачна складаецца з 2 вуліц (адна працяглая, амаль мерыдыянальнай арыентацыі, другая кароткая, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ), размежаваных ракой і злучаных завулкам з мастом праз раку. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

**ДАМАМЕРЫЧЫ** — вёска, цэнтр Дамамерыцкага с/с (з 20.8.1924 г.), за 14 км на Пн ад Клімавіч, 138 ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На зах. ускраіне цячэ р. Сасноўка (прыток р. Асцёр). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Масква, якая праходзіць праз вёску. 52 гаспадаркі, 95 жыхароў (2007).



*Будынак паштовай станцыі ў в. Дамамерычы.*

Упершыню ў рукапісных крыніцах упамінаецца ў 1604 г. ў Крычаўскай вол. ВКЛ, казённая ўласнасць. У 1724 г. ў Крычаўскім старостве, уладанне А.Радзівіла. У 1747 г. 40 двароў, меліся карчма і млын. У 1737 г. пабудавна драўляная царква. У 1779 г. 47 двароў, 301 жыхар, у Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, уласнасць памешчыка, меліся царква, вадзяны млын, сукнавальня. У вёсцы апрацоўваліся і рыхтаваліся да прадзення пянька і кудзеля. У 1785 г. 56 двароў, 391 жыхар. Дзейнічаў вінакурны з-д, на якім у 1819 г. працавала 8 рабочых. Гаспадар маёнтка меў у 1845 г. 3119 дзес. зямлі, вадзяны млын, крупарушку і вінакурню. У 1858 г. 99 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка. Дзейнічала карчма. У 1864 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), дзе ў 1889 г. навучаліся 39 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. З 1872 г. пачала працаваць яшчэ адна крупарушка, прадукцыя якой у значнай ступені вывозілася ў Рослаў. У 1881 г. засн. шкляны з-д, які выраблЯў аконнае шкло (у 1895 г. 142 рабочыя, паравая машына). У 1884 г. з Клімавіч у вёску была пераведзена бальніца. У 1884 г. 43 двары, 304 жыхары, штогод 9 мая праводзіўся таржок. У 1897 г. 73 двары, 515 жыхароў, дзейнічалі кузня, бальніца, паштовая станцыя, заезны і піцейны дамы, хлебазапасны магазін. Апрача таржка кожны год праводзіўся кірмаш. Побач быў аднайменны фальварак (1 двор, 16 жыхароў, вадзяны млын). У 1909 г. ў вёсцы 73 двары, 487 жыхароў, у фальварку 1 двор, 23 жыхары. Пачало працаваць паштовае аддз. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й сту-





пені, у якой у 1925 г. было 157 вучняў. У жн. 1918 г. арганізаваны культ.-асвет. гурток. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 116 двароў, 663 жыхары, фельч.-акушэрскі пункт. 12.10.1930 г. 36 гаспадарак, арганізаваны калгас «Барацьба», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 110 гаспадарак, меў 622 га ворыва, абслугоўваўся Клімавіцкай МТС. Працавалі вадзяны млын, кузня, урачэбная амбулаторыя. У 1940 г. 88 двароў, 433 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 10 жыхароў. Вызвалена 28.9.1943 г. войскамі 50-й арміі Бранскага фронту. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў баях супраць гітлераўскіх акупантаў. З 1950 г. ў складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Палошкава). У 1980-я г. ў вёсцы ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, б-ка з фондам больш за 10 400 кніг, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 1986 г. 84 гаспадаркі, 215 жыхароў. Дзейнічаюць б-ка, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (адрэзак шашы) амаль шыротнай арыентацыі, ад якой адыходзяць на Пд 2 вуліцы (адна працяглая, плаўнавыгнутая, другая — кароткая, прамалінейная). Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне гасп. сектар.

У Дамамерыцкі с/с уваходзяць 11 вёсак.

**ДАНІЛАЎКА** — вёска ў Мілаславіцкім с/с, за 13 км на ПнУ ад Клімавіч, 137 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На паўн. ускраіне цячэ р. Сасноўка (прыток р. Асцёр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Тарасавічы і далей па шашы Макеевічы—Клімавічы. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 6 гаспадарак, 16 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і забудаванай аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАРАГІНЬ** — вёска ў Ціманаўскім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Клімавіч, 130 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне цячэ р. Пераралочня (прыток р. Лабжанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ціманава і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 21 гаспадарка, 52 жыхары (2007).

Засн. ў 1725 г. ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, у 1727 г. 15 дымоў, дзярж. ўласнасць. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, 10 двароў, 91 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1780 г. 14 двароў, 130 жыхароў. У 1880 г. 23 двары, 102 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася калёсным, бандарным і адыходным промысламі. У 1897 г. ў Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета, 28 двароў, 178 жыхароў. У 1909 г. 195 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Ціманаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 37 двароў, 213 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 48 гаспадарак, 148 жыхароў. У 1980-я г. дзейнічалі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, якія ў цэнтры перакрыжоўваюцца трэцяй прамалінейнай вуліцай. Забудавана двухба-



кова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд ад жылой забудовы гасп. сектар.

**ДУБРАВІЦА** — вёска ў Лабжанскім с/с, за 20 км на З ад Клімавіч, 136 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На паўд.-ўсх. ускраіне цячэ р. Баброўка (прыток р. Лабжанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысавічы—Клімавічы. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Засн. ў 1723 г. ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв., у 1727 г. 15 дымоў, дзярж. уласнасць. У 1748 г. адкрыта маслабойня. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, 13 двароў, 91 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1834 г. 137 жыхароў. У 1847 г. ў складзе маёнтка Госліў, у Чэрыкаўскім павеце, 21 двор, 141 жыхар. У 1866 г. адкрыта школа, у якой у 1889 г. навучаліся 23 хлопчыкі і 2 дзяўчынкі. У 1885 г. ў Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 37 двароў, 220 жыхароў. Меліся вадзяны млын, школа, драўляная царква (адкрыта не пазней 1880 г.). Частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам. У 1897 г. 49 двароў, 422 жыхары, пачалі дзейнічаць фельч. ўчастак, хлебазапасны магазін. Побач была карчма (1 двор, 11 жыхароў). У 1909 г. сяло, 68 двароў, 436 жыхароў. Працавалі млын, паштовае аддз., казённая вінная лаўка. У пач. 20 ст. ўзведзены новы будынак царквы, які цяпер з'яўляецца помнікам драўлянага дойлідства. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Івандарскім с/с, з 21.8.1925 г. да 1960 г. цэнтр сельсавета Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 77 вучняў, мелася б-ка. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1925 г. створана с.-г. каап. т-ва. У 1926 г. адкрыты фельч.-акушэрскі пункт. У сак. 1929 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях», які аб'ядноўваў 145 гаспадарак вёсак Дубравіца, Папехіна і навакольных хутароў. У тым жа годзе



*Магазін у в. Дубравіца.*

гаспадарка атрымала трактар, грузавы аўтамабіль, дзейнічалі кузня, дзіцячыя яслі. У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 166 гаспадарак, меў 867 га ворыва. Абслугоўвала калгас Клімавіцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі дзейнічалі партыз. атрады «Алеся», «Валянціна Маёрава», «Чапая», «Качубей». У ліп. 1942 г. атрад «Валянціна Маёрава» сумесна з 720-м атрадам разграмілі ў вёсцы паліцэйскі ўчастак. З крас. 1960 г. ў Лабжанскім с/с. У 1970 г. 50 гаспадарак, 113 жыхароў. У 1980-я г. дзейнічалі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, 8-гадовая школа (7 настаўнікаў), б-ка з фондам больш за 11 тыс. кніг, магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. На паўд. ускраіне гасп. сектар. Радзіма дзярж. дзеяча БССР, старшыні Савета Міністраў БССР, засл. будаўніка БССР М.В.Кавалёва (н. 16.8.1925 г.).

**ЖАДУНЬКА** — вёска ў Ціманаўскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Клімавіч, 136 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ціманава і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Па рукапісных крыніцах вядома з 1604 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, казённая ўласнасць. У 1747 г. ў Кры-

чаўскім старостве, 11 двароў. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 5 двароў, 42 жыхары, у 1811 г. 14 двароў, 42 жыхары мужчынскага полу. У 1897 г. ў Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 22 двары, 137 жыхароў. У 1909 г. 33 двары, 148 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Ціманаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1930-я г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 36 гаспадарак, 91 жыхар, дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкамі. Забудова двухбаковая, шчыльная, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*М.І.Трусаў.*

**ЖАЛЕЕЎКА** — былая вёска ў Раднянскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Клімавіч, 140 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Родня і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы.

Вядома з 18 ст. У 1766 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 14 двароў, 80 жыхароў. У 1880 г. 17 двароў, 123 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім і адыходным промысламі. У 1897 г. 24 двары, 189 жыхароў, у Раднянскай вол. Клімавіцкага павета. У 1909 г. 29 двароў, 258 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Раднянскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 45 двароў, 275 жыхароў. У пач. 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 8 гаспадарак, 10 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных аднабакова, нявшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЖЭЎЖЫК** — вёска ў Высокаўскім с/с, за 17 км на Пд ад Клімавіч, 149 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. На З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Крупянка (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Тарчанка і далей па шашы Савінічы—Клімавічы. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

У 1897 г. ў Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 24 двары, 168 жыхароў. У 1909 г. 24 двары, 198 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Аўтухоўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 32 двары, 225 жыхароў. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас, пабудавана школа. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 вяскоўцы. З 1960 г. ў Яноўскім, з 1965 г. ў Высокаўскім сельсаветах. У 1962 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1970 г. 21 гаспадарка, 42 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных на Пн трэцяй кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАВІДАЎКА** — вёска ў Галіцкім с/с, за 26 км на У ад Клімавіч, 150 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Галічы—Клімавічы. 11 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

У 1850 г. вёска ў Клімавіцкім павеце, 13 двароў, 94 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 19 двароў, 128 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Забялышынскай



вол. Клімавіцкага павета, 28 двароў, 191 жыхар. У 1909 г. 223 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Галіцкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 42 двары, 246 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камуніст», у які першапачаткова ўвайшло 10 гаспадарак, у 1932 г. ён аб'ядноўваў 26 гаспадарак, меў 166 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 23 гаспадаркі, 48 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 амаль прамалінейных вуліц (адна працяглая, другая кароткая), паралельных паміж сабой, злучаных завулкамі і арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**ЗАВІДАЎКА** — вёска ў Кісялёва-Будскім с/с, за 21 км на ПнУ ад Клімавіч, 146 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сялец і далей па шашы Магілёў—Масква. 8 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Засн. ў 1923 г. перасяленцамі з в. Іванаўск. У 1924 г. пасёлкі Завідаўка 1 і Завідаўка 2. З 20.8.1924 г. ў Звянчацкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1927 г. ў Завідаўцы 1 10 двароў, 65 жыхароў, у Завідаўцы 2 8 двароў, 39 жыхароў. У пач. 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У 1930-я г. пасёлкі зліліся і ўтварылі вёску. З жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. да вёскі далучана в. Ялуга. З 1965 г. ў Кісялёва-Будскім с/с. У 1970 г. 36 гаспадарак, 80 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд далучаецца кароткая вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Дамамерыцкім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Клімавіч, 137 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На паўд. ускраіне праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Чырвоная Буда і далей па шашы Магілёў—Масква. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў сярэдзіне 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак, у Дамамерыцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2002 г. 23 гаспадаркі, 59 жыхароў. Планіровачана складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАРОЙ** — вёска ў Лазовіцкім с/с, за 10 км на ПдУ ад Клімавіч, 134 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Касцюковічы, якая праходзіць каля вёскі.

Вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 7 двароў, 38 жыхароў. Гаспадар маёнтка меў у 1870 г. ў вёсках Грышын і Зарой 309,5 дзес. зямлі. У 1880 г. 16 двароў, 119 жыхароў. Апрача земляробства сяльчане займаліся кравецкім, калёсным, бандарным і такарным па дрэве промысламі. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, 18 двароў, 149 жыхароў. Побач была аднайменная слабодка (4 двары, 23 жыхары). У 1909 г. вёскі Зарой 1 (16 двароў, 110 жыхароў), Зарой 2 (2 двары, 10 жыхароў) і Слабодка (5 двароў, 39 жыхароў). З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ.

РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Лазовіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 26 двароў, 167 жыхароў. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 18 гаспадарак, 48 жыхароў. Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**ЗАРУЧЧА** — вёска ў Лабжанскім с/с, за 12 км на З ад Клімавіч, 135 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На паўн.-ўсх. ускраіне цячэ р. Калінка (прыток р. Бароўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лобжа і далей па шашы Барысавічы—Клімавічы. 15 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ёсць ветэрынарны ўчастак. У 1970 г. 24 гаспадаркі, 68 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАХОДЫ** — вёска ў Раднянскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Клімавіч, 149 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Сураў (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Леанполле і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1740 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1811 г. 29 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка, у Клімавіцкім павеце. У 1816 г. 11 двароў, 70 жыхароў. Гаспадар маёнтка меў тут у 1873 г. 130 дзес. зямлі. У 1897 г. 19 двароў, 161 жыхар, у Раднянскай вол. Клімавіцкага павета. У 1909 г. 22 двары, 203 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Малашкавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 36 двароў, 195 жыхароў. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, уздоўж ракі, ад якой на ПдЗ адыходзіць другая, кароткая вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы аднапавярховыя, драўляныя, сядзібнага тыпу. Радзіма В.Д.Лобарава (н. 19.8.1910 г.), аднаго з кіраўнікоў партыз. руху ў Віцебскай вобл. ў Вялікую Айч. вайну (камісар Бел. партыз. дыверсійнай брыгады імя У.І.Леніна).

**ЗВЯНЧАТКА** — вёска ў Кісялёва-Будскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Клімавіч, 149 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Масква, якая праходзіць праз вёску. 148 жыхароў, 434 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1768 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 40 двароў, 260 жыхароў. У 1816 г. 34 двары, 196 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1834 г. 46 двароў, 189 жыхароў. Пасля пракладкі ў 1851 г. Маскоўска-Варшаўскай шашы ў вёсцы размясцілася паштовая станцыя, якая мела 9 коней. У 1880 г. 44 двары, 131 жыхар. У 1889 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1897 г. ў Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета, 70 двароў, 499 жыхароў. Побач былі паштовая станцыя, казарма дзярж. майстра, этапны дом (3 двары, 17 жыхароў) і карчма (1 двор, 10 жыхароў). У 1909 г. вёска (81 двор, 596 жыхароў), аднайменныя паштовая станцыя (2 двары, 15 жыхароў), карчма (1 двор, 7 жыхароў). У 1911 г. адкрыта паштовае аддз. З 20.8.1924



г. цэнтр с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 48 вучняў. У 1924 г. перасяленцы з вёскі ўтварылі пасёлкі Гарадок, Падрэчча, Завідаўка 1, Завідаўка 2, Інтэрнацыянал, Баявы, Круглы Вугал (цяпер не існуюць). У 1926 г. 133 двары, 740 жыхароў. 31.5.1930 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 282 гаспадаркі, меў 2338 га ворыўнай зямлі. У 1931 г. пабудавана новае памяшканне для школы. Працавала калгасная кузня. З 1937 г. калгас абслугоўвала Мілаславіцкая МТС. У 1940 г. 127 двароў, 607 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. поўнасцю спалена гітлераўцамі. Пасля вызвалення адбудавана. На ўшанаванне памяці 249 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1967 г. ў скверы пастаўлены абеліск. З 1960 г. ў Мілаславіцкім, з 1965 г. ў Кісялёва-Будскім сельсаветах. У 1949 г. да вёскі далучаны пас. Інтэрнацыянал, у 1967 г. — пас. Юзэфова. У 1980-я г. ў вёсцы паляводчая брыгада, свінагадоўчая ферма, рамонтныя майстэрні, машынны двор, 8-гадовая школа, клуб, б-ка з фондам звыш 11 тыс. кніг, дзіцячы сад-яслі, сталовая, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання, гандл. цэнтр. У 1986 г. пабудаваны прыход у гонар святога Васіля Вялікага. У 2002 г. 151 гаспадарка, 399 жыхароў. Цэнтр КСУП «Звянчацкі». Дзейнічаюць дзіцячы сад-яслі, базавая школа, б-ка, клуб, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, аддз. сувязі. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1980 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Ад гал. прамалінейнай вуліцы (частка шашы), арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, адыходзяць на ПдУ 3 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, злучаныя на Пд кароткай прамалінейнай вуліцай. Паралельна і пад вуглом да іх праходзяць кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На гал. вуліцы размешчаны асн. мураваныя грамадскія будынкі, а таксама мураваныя 2-павярховыя 2-кватэрныя дамы. Адна з вуліц на З забудоўваецца мураванымі аднапавярховымі аднакватэрнымі дамамі. На паўд. ускраіне гасп. сектар.



*Царква святога Васіля Вялікага ў в. Звянчатка.*

**ЗІМНІЦЫ** — вёска ў Гусаркаўскім с/с, за 5 км на ПнУ ад Клімавіч, 129 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На паўн. ускраіне цячэ р. Сасноўка (прыток р. Асцёр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Засн. ў 1727 г. ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, 7 дымоў, казённая уласнасць. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 21 двор, 160 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1847 г. ў складзе Свірэльскага маёнтка, 24 двары, 183 жыхары. У 1880 г. 35 двароў, 201 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У 1897 г. 53 двары,

322 жыхары. У 1905 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1909 г. 54 двары, 374 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Гусаркаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 47 вучняў. У 1926 г. 63 двары, 388 жыхароў. 1.1.1931 г. арганізаваны калгас «Пралетарый», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 63 гаспадаркі, меў 469 га ворыўнай зямлі, абслугоўваўся Клімавіцкай МТС. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд ад жылой забудовы гасп. сектар.

**ЗЯЛЁНЫ КЛІН** — вёска ў Гусаркаўскім с/с, за 7 км на Пн ад Клімавіч, 117 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 27 гаспадарак, 64 жыхары (2007).

Засн. ў 1923 г. як невялікі пасёлак перасяленцамі з в. Свірэль. З 20.8.1924 г. ў Гусаркаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 31 двор, 170 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 26 двароў, 133 жыхары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. Пасля вызвалення адбудавана. У 2002 г. 41 гаспадарка, 101 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ІВАНАЎСК** — вёска ў Кісялёва-Будскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Клімавіч, 154 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На паўн.-зах. ускраіне цячэ р. Асцёр (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Завідаўка і далей па шашы Магілёў—Масква. 19 гаспадарак, 33 жыхары (2007).

Каля паўд. ускраіны вёскі, уздоўж левага берага р. Асцёр, захаваўся курганны могільнік (79 насыпаў), які належаў радзімічам, адносіцца да 11—12 ст. Гэты помнік археалогіі сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай мінуўшчыне. У 1768 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1880 г. 43 двары, 358 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным і бандарным промысламі. У 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 67 двароў, 548 жыхароў. Мелася школа граматы, а ў 1907 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1909 г. 68 двароў, 886 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 67 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Звянчацкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1923 г. перасяленцы з вёскі ўтварылі пасёлкі Нова-Іванаўск, Дубрава, Белая Гара, Краснае, Навінка, Арцёмаўка, Завідаўка, Антонаўка. Амаль усе яны цяпер не існуюць. У 1926 г. 101 двор, 713 жыхароў. 11.2.1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарская дыкататура», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 136 гаспадарак, меў 754 га ворыва. З 1937 г. калгас абслугоўвала Мілаславіцкая МТС. Працавалі кузні і ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1949 г. да вёскі далучаны пас. Чырвоны. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, перакрыжаванай у цэнтры кароткай прамалінейнай вуліцай. На ПнУ размешчаны 2 адасобленыя ўчасткі забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзіб-



нага тыпу, пастаўлены двухбакова, шчыльна. На паўд. ускраіне гасп. сектар.

Каля вёскі радовішча мелу Мелавая гара (разведаныя запасы 5,12 млн. т).

**ІВАНАВА СЛАБАДА** — вёска ў Галіцкім с/с, за 28 км на У ад Клімавіч, 152 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З і У мяжуе з лесам. На У цячэ р. Лядзешня (прыток р. Іпуць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Васілёўка і далей па шашы Галічы—Клімавічы. 49 гаспадарак, 129 жыхароў (2007).

У 1850 г. ў Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета, 11 двароў, 114 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. 19 двароў, 133 жыхары, у 1909 г. 19 двароў, 152 жыхары. З 26.4.1913 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Мілаславіцкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. разам з пас. Ясная Паляна налічвала 48 двароў, 261 жыхара. У канцы 1920-х г. адкрыта пач. школа. У 1931 г. арганізаваны калгас «Маяк рэвалюцыі», які ў 1932 г. аб'яднаўваў 58 гаспадарак, меў 214 га ворыва. З 1937 г. калгас абслугоўвала Мілаславіцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена воінамі 50-й арміі Бранскага фронту. У цэнтры вёскі, у сквсры, каля клуба, на ўшанаванне памяці 158 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму, у 1967 г. пастаўлены абеліск. У 1980-я г. ў вёсцы ферма буйной рагатай жывёлы, паляводчая і трактарная брыгады, аўтагараж, рамонтныя майстэрні, Дом культуры, б-ка з фондам больш за 7,4 тыс. кніг, стацыянарная кінаўстаноўка, сталовая, дзіцячы сад, пач. школа, магазін, аддз. сувязі. У 1986 г. 57 гаспадарак, 166 жыхароў. Дзейнічаюць б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1971 г. ў Магілёўскім філіяле ін-та «Белкалгаспраект». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, перакрыжаванай у цэнтры кароткай, прамалінейнай вуліцай мерыдыянальнай арыентацыі. На Пн размешчаны адасобленыя ўчасткі забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, шчыльна. Грамадскія мураваныя будынкі размешчаны на гал. вуліцы, сярод жылой забудовы. На ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**ІГНАТАЎКА** — былая вёска ў Лабжанскім с/с, за 22 км на З ад Клімавіч, 136 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Крычаў на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. На паўн. ускраіне цячэ р. Сож (прыток Дняпра). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Барысавічы—Клімавічы.

Вядома з 18 ст. У 1752 г. сяло (8 двароў) у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, уласнасць памешчыка. У 1780 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 5 двароў, 27 жыхароў. У 1816 г. 7 двароў, 63 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 37 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. ў Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 20 двароў, 146 жыхароў. У 1909 г. 26 двароў, 149 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8. 1924 г. ў Івандарскім, з 21.8.1925 г. ў Дубравіцкім сельсаветах Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 16 гаспадарак, 38 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі, і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ІЛЛЮХІНА** — вёска ў Мілаславіцкім с/с, за 37 км на ПнУ ад Клімавіч, 148 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На паўд. ускраі-

не цячэ р. Іпуць (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Макеевічы—Клімавічы. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1747 г. ў Крычаўскім старостве, 10 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 5 двароў, 54 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 41 рэвізская душа, меўся заезны дом. З 1897 г. ў Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета, 17 двароў, 115 жыхароў. Побач быў аднайменны фальварак (2 двары, 17 жыхароў). 8.11.1905 г. каля 600 сялян з маёнтка Мілаславічы, вёсак Якімавічы, Цімошкі, Макеевічы, Іллюхіна, Пераналочная, Лядзешня разбурылі плаціну і млын у памешчыцкім маёнтку Макеевічы. У 1909 г. 20 двароў, 158 жыхароў. На хутары, які знаходзіўся побач, у гэты час было 2 двары, 21 жыхар. У ноч на 9 ліст. 1909 г. ў вёсцы адбылася ўзброеная сутычка сялян з паліцыяй. З 20.8.1924 г. ў Макеевіцкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 35 двароў, 224 жыхары. У пач. 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Кастрычнік» (цэнтр — в. Макеевічы). У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 19 гаспадарак, 28 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Электрыфікавана і радыёфікавана.

**КАВАЛЁЎКА** — вёска ў Кісялёва-Будскім с/с, за 32 км на ПнУ ад Клімавіч, 156 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Звянчатка і далей па шашы Магілёў—Масква. 42 гаспадаркі, 83 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1724 г. слабада Кавалёўская, у Крычаўскім старостве ВКЛ, уладанне А.Радзівіл. У 1747 г. ў Крычаўскім старостве, 49 двароў, пасесія, дзярж. ўласнасць. У 1772 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 53 двары, 322 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, 52 двары, 339 жыхароў. Мясцовы памешчык меў у 1878 г. ў вёсках Кавалёўка і Перавольня 872 дзес. зямлі. У 1897 г. вёскі Кавалёўка 1 (53 двары, 334 жыхары) і Кавалёўка 2 (22 двары, 163 жыхары) у Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета. Дзейнічалі ніцейны дом, царк.-прыходская школа. У 1909 г. ў Кавалёўцы 1 — 53 двары, 355 жыхароў, у Кавалёўцы 2 — 27 двароў, 183 жыхары. У 1921 г. створана т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі «Усход» (16 гаспадарак), 27.4.1923 г. меліярацыйнае т-ва. З 20.8. 1924 г. ў Звянчацкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 60 вучняў, у 1926 г. 84 вучні. У 1926 г. ў в. Кавалёўка 1 — 89 двароў, 490 жыхароў, у в. Кавалёўка 2 — 45 двароў, 270 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Піянер», у які ўвайшлі 96 двароў абедзвюх вёсак. У 1940 г. ў в. Кавалёўка 1 — 58 двароў, 257 жыхароў, у в. Кавалёўка 2 — 57 двароў, 246 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі в. Кавалёўка 1 і 54 двары ў в. Кавалёўка 2, загубілі 11 жыхароў. Пасля вайны адбудаваны. У 1970 г. 80 гаспадарак, 186 жыхароў. У 1976 г. вёскі аб'ядналіся ў адзін населены пункт — в. Кавалёўка. У 1980-я г. дзейнічалі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, пач. школа, магазін. Планіровачна складаецца з 2 частак: усх. (2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ і злучаныя на Пн завулкам) і зах. (да больш працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаецца з Пд і кароткая прамалінейная вуліца). Забудова двухбако-



вая, шчыльная. Жылыя дамы традыц., драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**КАЗУСЁЎКА** — вёска ў Раднянскім с/с, за 29 км на ПдУ ад Клімавіч, 152 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пд і У мяжуе з лесам. На З цячэ р. Сураў (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Леанполле і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы. 20 гаспадарак, 42 жыхары (2007).

У 1858 г. ў Клімавіцкім павеце, 1 двор, 5 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Забялышынскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 25 двароў, 174 жыхары. У 1909 г. 26 двароў, 193 жыхары. Побач знаходзіўся аднайменны маёнтак, 1 двор, 5 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Малашкавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 42 двары, 266 жыхароў. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 37 гаспадарак, 83 жыхары. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ, да якой на Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы традыц., драўляныя.

**КАНАХОЎКА** — вёска ў Гусаркаўскім с/с, за 7 км на У ад Клімавіч, 131 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Сасноўка (прыток р. Асцёр). Транспартныя сувязі па шашы Макеевічы—Клімавічы, якая праходзіць праз вёску. 40 гаспадарак, 90 жыхароў (2007).

За 0,5 км на ПнУ ад вёскі, у хваёвым лесе, захаваўся курганны могільнік (15 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 18 ст. У 1746 г. ў Крычаўскім старостве ВКЛ, 19 двароў, дзярж. ўласнасць, пасесія, меліся карчма і млын. У 1772 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 22 двары, 133 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1779 г. 27 двароў, 124 жыхары. Працавала вінакурня (у 1819 г. 6 рабочых). У 1850 г. 24 двары, 79 жыхароў. Гаспадар маёнтка меў тут у 1871 г. 133 дзес. зямлі. У 1873 г. засн. вадзяны млын і сукнавальня. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 42 двары, 291 жыхар. Дзейнічала школа граматы. У 1909 г. ў вёсцы 47 двароў, 355 жыхароў, у фальварку, што знаходзіўся побач, 1 двор, 17 жыхароў. У 1911 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Гусаркаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1918 г. ў б. маёнтку Карпачы створана с.-г. т-ва (11 гаспадарак). На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені з с.-г. ухілам (у 1926 г. 97 вучняў). У 1926 г. 52 двары, 336 жыхароў. 29.6.1929 г. арганізаваны калгас «Праўда», які ў 1932 г. аб'яднаўваў 183 гаспадаркі, меў 1495 га ворыўнай зямлі. Абслугоўвала калгас Клімавіцкая МТС. Мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1976 г. да вёскі далучана в. Карпачы. У 1980-я г. дзейнічалі вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 1986 г. 62 гаспадаркі, 135 жыхароў. Рака падзяляе вёску на 2 часткі: усх. (прамалінейная вуліца — частка шашы, арыентаваная з ПнУ на ПдЗ) і зах. (плаўна выгнутая вуліца амаль шыротнай арыентацыі з завулкамі). Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Ва ўсх. частцы сярод жылой забудовы размяшчаюцца мураваныя грамадскія будынкі. На паўд.-ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**КАСПЕРКА** — вёска ў Галіцкім с/с, за 33 км на У ад Клімавіч, 158 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Рэкта (прыток р. Лабжанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Фядотава Буда і далей па шашы Галічы—Клімавічы. 7 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. сяльцо ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1811 г. 2 двары, 5 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1816 г. 4 двары, 25 жыхароў. Гаспадар маёнтка меў тут у 1820 г. 364 дзес. зямлі. У 1880 г. 30 двароў, 135 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім і кушнерскім промысламі. У 1897 г. вёска (35 двароў, 275 жыхароў) і аднайменны хутар (1 двор, 9 жыхароў) у Забялышынскай вол. Клімавіцкага павета. У 1909 г. вёска, 30 двароў, 235 жыхароў і 4 аднайменныя маёнткі па 1 двару. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Галіцкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 65 двароў, 361 жыхар. У крас. 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 80 гаспадарак, меў 457 га ворыва. Працаваў млын. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 22 гаспадаркі, 55 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 вуліц (адна працяглая, другая кароткая) амаль шыротнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне гасп. сектар.

**КІСЯЛЁВА БУДА** — вёска, цэнтр Кісялёва-Будскага с/с (з 20.8.1924 г.), за 18 км на ПнУ ад Клімавіч, 142 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на паўн. ускраіне цячэ р. Бязусця (прыток р. Асцёр). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Масква, якая праходзіць паблізу вёскі. 114 гаспадарак, 309 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. сяло (34 двары, 217 жыхароў) у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1816 г. 35 двароў, 208 жыхароў, уласнасць памешчыка, у 1834 г. 41 двор, 271 жыхар. У 1885 г. с. Кісялёва Буда (яно ж Янава) у Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 53 двары, 328 жыхароў, дзейнічала царква. Частка вяскоўцаў займалася адыходным і бандарным промысламі. У 1897 г. 85 двароў, 559 жыхароў, меліся ветраны млын, кузня, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, піцейны дом. Штогод 10 ліп. праводзіўся таржок. Побач былі вартоўня (1 двор, 5 жыхароў) і былы заезны дом (1 двор, 3 жыхары). У 1898 г. для школы пабудавана памяшканне. У 1909 г. ў сяле 78 двароў, 670 жыхароў, у вартоўні 1 двор, 5 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 80 вучняў. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай губ. У 1918 г. ў маёнтку, што быў непадалёку, арганізавана камуна «Яноўская». У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 135 двароў, 762 жыхары. У кастр. 1929 г. арганізаваны калгас «Рабочы», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 420 гаспадарак, у т.л. з суседніх вёсак, меў 2486 га ворыва. Працавала кузня. У 1940 г. ў вёсцы 71 двор. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 68 двароў, загубілі 1 жыхара. Пасля вайны адбудавана. У памяць аб 151 земляку, якія загінулі на фронце, у 1977 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. У 1980-я г. ў вёсцы вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, лесапільня, школа, клуб, б-ка з фондам звыш 13 тыс. кніг, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 1986 г. 81 гаспадарка, 230 жыхароў. Дзейнічаюць сярэдняя школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт, магазін, аддз. сувязі. Пра-



ект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1977 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, злучанай на З з кароткай прамалінейнай вуліцай шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На гал. вуліцы сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія мураваныя будынкі. Пры зліцці 2 гал. вуліц узведзена 10 мураваных двухпавярховых 2-кватэрных дамоў. На паўд.-ўсх. ускраіне гасп. сектар.

У склад Кісялёва-Будскага с/с уваходзяць 19 населеных пунктаў.

**КЛОЎ** — вёска ў Высокаўскім с/с, за 23 км на Пд ад Клімавіч, 154 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мяжэні, Красавічы і далей па шашы Савінічы—Клімавічы. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 5 двароў, 31 жыхар, у 1796—1802 гг. ў Чэрыкаўскім павеце Беларускай губ. У 1850 г. 9 двароў, 48 жыхароў. Гаспадар маёнтка меў тут у 1860 г. 517 дзес. зямлі і ветраны млын. У 1880 г. 10 двароў, 50 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета, 19 двароў, 113 жыхароў. Побач быў аднайменны хутар (1 двор, 6 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 16 двароў, 108 жыхароў, на хутары 1 двор, 10 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Ціманаўскай, з 9.5.1923 г. Касцюковіцкай валасцях Клімавіцкага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Аўтухоўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 25 двароў, 139 жыхароў. У пач. 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 вяскоўцы. З 1960 г. ў Яноўскім, з 1965 г. ў Высокаўскім сельсаветах. У 1962 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1970 г. 9 гаспадарак, 13 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСАВІЧЫ** — вёска ў Высокаўскім с/с, за 20 км на Пд ад Клімавіч, 128 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Жадунька (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Савінічы—Клімавічы. 75 гаспадарак, 127 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 39 двароў, 226 жыхароў, у 1796—1802 гг. у Чэрыкаўскім павеце Беларускай губ. У 1834 г. мястэчка, уласнасць памешчыка. У 1858 г. засн. сукнавальня, у 1881 г. — вінакурня. 4 мясц. памешчыкі мелі тут у 1862 г. 200 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальню і вінакурны з-д. У 1880 г. ў мястэчку 14 двароў, 98 жыхароў, у сяле 48 двароў, 275 жыхароў. Апрача земляробства жыхары мястэчка і сяла займаліся кравецкім, кавальскім, калёсным, бандарным і адыходным промысламі, выраблялі посуд і іншыя быт. рэчы з дрэва. У 1897 г. ў Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета, 71 двор, 540 жыхароў. Побач быў аднайменны фальварак, 1 двор, 11 жыхароў, працаваў вадзяны млын. У 1909 г. 77 двароў, 582 жыхары. Мясц. памешчыку належала 966 дзес. зямлі, а ўсе сяляне мелі толькі 585 дзес. зямлі. У пач. 20 ст. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1907 г. навучаліся 47 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой быў перададзены нацыяналізаваны будынак, у 1925 г. было 96 вучняў,

дзейнічала б-ка. 23.6.1919 г. ў былым памешчыцкім фальварку арганізавана с.-г. арцель «Праўда». З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. да 11.4.1960 г. цэнтр сельсавета Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. ў сяле 57 двароў, 301 жыхар, у вёсцы 119 двароў, 744 жыхары. Дзейнічала с.-г. крэдытнае т-ва. У сак. 1930 г. арганізаваны калгас імя газеты «Беларуская вёска», працавала кузня. З 1927 г. дзейнічала метэаралагічная ст. У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 285 гаспадарак, меў 1638 га ворыва. У Вял. Айч. вайну ў пач. жн. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях супраць гітлераўцаў загінулі 37 вяскоўцаў. У памяць аб іх каля школы ў 1972 г. пастаўлена стэла. Вызвалена 29.9.1943 г. войскамі 50-й арміі Бранскага фронту. У 1958 г. электрыфікавана і радыёфікавана. З 1960 г. ў Яноўскім, з 1965 г. ў Высокаўскім сельсаветах. У 1967 г. да вёскі далучаны пас. Красавічы. У 1980-я г. дзейнічалі вытв. ўчастак, машынны двор, жывёлагадоўчая ферма, сярэдняя школа (19 настаўнікаў), клуб, б-ка з фондам больш за 12 тыс. кніг, аддз. сувязі, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 1986 г. 178 гаспадарак, 389 жыхароў. Дзейнічаюць сярэдняя школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, аддз. сувязі. Рака падзяляе вёску на 2 часткі: паўд.-ўсх. (2 прамалінейныя вуліцы ўтвараюць Г-падобную планіроўку). Больш працяглая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі і ПнЗ (2 прамалінейныя, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы на Пд злучаны кароткімі завулкамі). Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**КРАСОЎКА** — вёска ў Кісялёва-Будскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Клімавіч, 142 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне цячэ р. Янава (прыток р. Бязусце). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Масква, якая праходзіць праз вёску. 19 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. сяло ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 16 двароў, 104 жыхары. У 1816 г. 19 двароў, 151 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1834 г. 19 двароў, 149 жыхароў. У 1880 г. 36 двароў, 200 жыхароў. Частка сяльчан займалася адыходным, кавальскім і кравецкім промысламі. У 1881 г. засн. сукнавальня. У 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 43 двары, 282 жыхары. Мелася кузня. Побач былі заезны дом (1 двор, 8 жыхароў) і вадзяны млын. У 1909 г. ў сяле 47 двароў, 352 жыхары, у заезным доме 1 двор, 12 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Кісялёва-Будскім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 66 двароў, 383 жыхары. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Рабочы» (цэнтр — в. Кісялёва Буда), а ў 1930 г. арганізавалі калгас імя ГПУ. З 1932 г. працаваў мелавы з-д «Чырвоная Дуброва». У 1940 г. 59 двароў, 263 жыхары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 1 жыхара. Пасля вызвалення адбудавана. У 1970 г. 48 гаспадарак, 95 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай працяглай вуліцы (частка шашы) амаль шыротнай арыентацыі, ад ўсх. канца якой адыходзіць на Пн, уздоўж ракі, завулак. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне гасп. сектар.

За 2,5 км на Пн ад вёскі радовішча мелу Перлаўка (разведаныя запасы 11,4 млн. т), за 0,5 км на Пд ад вёскі Мурашкінскае радовішча глін і суглінкаў (разведаныя запасы 565 тыс. т).



**КРАСТОЎСКІ** — пасёлак у Мілаславіцкім с/с, за 27 км на ПнУ ад Клімавіч, 140 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мілаславічы і далей па шашы Макеевічы—Клімавічы. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Мілаславіцкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 20 двароў, 106 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 17 двароў. Пасля вайны адбудаваны. У 1951 г. да пасёлка далучаны пас. Ліпавы Холм. У 1970 г. 16 гаспадарак, 31 жыхар. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Мілаславіцкі» (цэнтр — в. Мілаславічы). Планіровачна складаецца з адной прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРУГЛАЕ** — вёска ў Клімавіцкім гарсавеце, за 5 км на Пн ад Клімавіч, 129 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Крычаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 17 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. Гаспадар маёнтка меў тут у 1876 г. 143 дзес. зямлі, вадзяны млын. У 1909 г. пасёлак у Цімanaўскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 13 двароў, 106 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Дамамерыцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 59 вучняў. У 1926 г. 29 двароў, 153 жыхары. У ліст. 1930 г. арганізаваны калгас імя 13-й гадавіны Кастрычніка, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 31 гаспадарку, меў 195 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле на могілках пахаваны 15 сав. воінаў, якія загінулі ў 1941—43 гг. Тут жа знаходзіцца і магіла 16-гадовага патрыёта, партызана атрада № 45 «За Радзіму» П.Гайдука (ураджэнец в. Круглае), які ў баі 26.6.1943 г. цаною свайго жыцця забяспечыў выхад з акружэння баявых таварышаў. У 1970 г. 32 гаспадаркі, 88 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных (адна працяглая, другая кароткая), паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне гасп. сектар.

**КРУПНЯ** — вёска ў Раднянскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Клімавіч, 150 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне цячэ р. Крупня (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Леанполле і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. вёска (11 двароў, 83 жыхары) у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. Гаспадар маёнтка меў тут у 1855 г. 309,5 дзес. зямлі. У 1867 г. памешчык меў у вёсках Крупня, Забялышын і Сураў 3169,5 дзес. зямлі, 3 вадзяныя млыны, 3 сукнавальні. У 1858 г. 32 рэвізскія душы, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 15 двароў, 135 жыхароў. У студз. 1906 г. тут адбыліся сял. выступленні супраць мясц. улад. У ліп. таго ж года па загаду губернатара былі спалены 3 гасп. пабудовы і пакараны некалькі сялян. У 1909 г. 16 двароў, 142 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Малашкавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 27 двароў, 171 жыхар. У 1930 г.

жыхары вёсак Крупня і Пслякоўка арганізавалі калгас «Чырвоны партызан», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 70 гаспадарак, меў 470 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 20 гаспадарак, 41 жыхар. Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі і перакрыжаванай на Пн кароткай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**КРЫВАЯ** — вёска ў Раднянскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Клімавіч, 143 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Асмолавічы, на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Касцюковічы, якая праходзіць побач з вёскай. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1767 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 18 двароў, 106 жыхароў. У 1880 г. 24 двары, 182 жыхары. 12 вяскоўцаў займаліся адыходным промыслам. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, 33 двары, 264 жыхары, меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 39 двароў, 308 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Раднянскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 54 двары, 315 жыхароў. У пач. 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас імя С.М.Будзённага, працаваў ветраны млын. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. да 28.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы расстралялі 3 жыхароў. У 1970 г. 19 гаспадарак, 24 жыхары. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КУКУЕЎКА** — вёска ў Цімanаўскім с/с, за 12 км на Пд ад Клімавіч, 130 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гірэевічы і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 23 гаспадаркі, 39 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1768 г. сяло ў складзе маёнтка Ціманава, у Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 25 двароў, 89 жыхароў. У 1811 г. 26 двароў, 116 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Цімanаўскай вол. Клімавіцкага павета, 25 двароў, 164 жыхары. У 1909 г. 28 двароў, 189 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Асмолавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «III Інтэрнацыянал» (цэнтр — в. Асмолавічы). У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 43 гаспадаркі, 104 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне гасп. сектар.

**КУЛЯШОЎКА** — вёска ў Кісялёва-Будскім с/с, за 25 км на Пн ад Клімавіч, 150 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на Пд і У мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Хрынавец (прыток р. Асцёр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Стары Дзедзін і далей па шашы Магілёў—Масква. 15 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

За 2 км на З ад вёскі, на правым беразе р. Асцёр захаваўся курганны могільнік (87 курганоў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па рукапісных крыніцах вядома з 18 ст. У 1771 г. тут былі сяло і маёнтак Куляшоўка. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 20 двароў, 120 жыхароў. У 1816 г. 26 двароў, 173 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1864 г. засн. сукнавальня. Мелася драўляная царква (адкрыта не



пазней 1880 г.). У 1893 г. пабудаваны новы драўляны будынак царквы, якая зараз з'яўляецца помнікам драўлянага дойлідства. У 1885 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 41 двор, 287 жыхароў. Раз у год 20 ліп. праводзіўся таржок. Частка вяскоўцаў займалася ганчарным промыслам. У 1884 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1897 г. 64 двары, 424 жыхары, вадзяны млын, кузня. Побач быў аднайменны фальварак (1 двор, 6 жыхароў, вадзяны млын). У 1903 г. частка сяльчан перасялілася на жыхарства ў Сібір. У 1909 г. ў сяле 64 двары, 554 жыхары, у фальварку 1 двор, 15 жыхароў. У 1918 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 55 вучняў. У чэрв. 1918 г. ў былым маёнтку арганізавана с.-г. камуна «Куляшоўская», якая ў 1925 г. мела 47 га зямлі. Старшынёй камуны быў абраны Я.Я.Паўлючэнка. З 20.8.1924 г. ў Хатовіжскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 83 двары, 470 жыхароў. У кастр. 1930 г. арганізаваны калгас «Ільіч», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 70 гаспадарак, меў 393 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 41 гаспадарка, 74 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, размежаваных ракой. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне гасп. сектар. У вёсцы нарадзіўся поўны кавалер ордэна Славы А.В. Кляцко (31.1.1911—8.7.2001), які будучы сапёрам вызначыўся ў Вял. Айч. вайну на тэр. Польшчы і Германіі.

**ЛАЗОВІЦА** — вёска, цэнтр Лазовіцкага с/с (з 20.8.1924 г.), за 6 км на ПдУ ад Клімавіч, 130 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Касцюковічы, якая праходзіць побач з вёскай. 54 гаспадаркі, 106 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1752 г. засн. Лазовіцкая езуіцкая рэзідэнцыя з фальваркам Стайкі. У 1777 г. мястэчка, штогод праводзіліся 2 вялікія кірмашы. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. 23 двары, 115 жыхароў. У статыстычным апісанні губерні 1784 г. ўпамінаецца як мястэчка. Дзейнічаў францысканскі касцёл. У 1816 г. мястэчка і сяло, уласнасць памешчыка, у 1861 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. 32 двары, 236 жыхароў. Меліся вадзяны млын, сукнавальня (з 1873 г.), драўляная царква, касцёл, малітоўны дом. Гаспадар маёнтка меў тут у 1864 г. 160,5 дзес. зямлі, млын і сукнавальню. У 1885 г. 41 двор, 238 жыхароў, штогод 29 чэрв. і 1 кастр. праводзіліся таржкі. У 1897 г. ў мястэчку 24 двары, 148 жыхароў, у аднайменным сяле 40 двароў, 264 жыхары. У пач. 20 ст. пабудавана царква, якая зараз з'яўляецца помнікам драўлянага дойлідства. У 1909 г. ў мястэчку 24 двары, 202 жыхары, у сяле 42 двары, 269 жыхароў. Дзейнічала казённая вінная лаўка. У гэтым жа годзе адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у хуткім часе было пабудавана памяшканне. У 1918 г. быў створаны сельсавет (старшыня Ф.М.Пруднікаў). На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 70 вучняў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 91 двор, 465 жыхароў. 6.8.1929 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», у які першапачаткова ўвайшлі 52 гаспадаркі, у 1932 г. аб'ядноўваў 262 гаспадаркі, меў 2203 га ворыва. У 1931 г. пабудавана школа. Працавалі ветраны млын і кузня. Абслугоўваўся калгас Клімавіцкай МТС. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы часткова спалілі вёску. У 1967 г. ў цэнтры вёскі



*А.В.Кляцко.*

ўзведзены абеліск у памяць аб 118 земляках, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму. У пасляваенны час у вёсцы размяшчаўся дзіцячы дом. У 1980-х г. дзейнічалі вытв. брыгада, механічная майстэрня, ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, клуб, б-ка з фондам больш за 9200 кніг, стацыянарная кінаўстаноўка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. У 1986 г. 62 гаспадаркі, 167 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры сярод жылой забудовы размешчаны мураваныя і драўляныя грамадскія будынкі. На Пд пабудаваны мураваныя аднапавярховыя аднакватэрныя і двухпавярховыя 4-кватэрныя дамы. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

У склад Лазовіцкага с/с ўваходзяць 13 населеных пунктаў.

**ЛАПАТАВІЧЫ** — вёска ў Лабжанскім с/с, за 9 км на З ад Клімавіч, 135 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Лабжанка (прыток Сожа). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Клімавічы—Барысавічы, якая праходзіць праз вёску. 33 гаспадаркі, 63 жыхары (2007).

Упершыню ў рукапісных крыніцах упамінаецца пад 1604 г. як сяло Крычаўскай вол. ВКЛ, казённая ўласнасць. У 1727 г. ў



*На лузе каля в. Лазовіца.*

Крычаўскім старостве. У 1779 г. 19 двароў, 158 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1785 г. 20 двароў, 191 жыхар. У 1816 г. 31 двор, 141 жыхар. У 1834 г. 34 двары, 250 жыхароў. У 1880 г. 49 двароў, 205 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам і вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. У 1897 г. ў Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета, 78 двароў, 553 жыхары. Меўся школа граматы і кузня. У пач. 20 ст. школа граматы пераўтворана ў нар. вучылішча, у якім ў 1907 г. навучалася 68 хлопчыкаў. 29.12.1905 г. сяляне вёсак Лобжа, Лапатавічы і Рудня спалілі памешчыцкі вадзяны млын і разбурылі плаціну ў в. Рудня на р. Лабжанка, забралі памешчыцкае збожжа і маёмасць. У 1907 г. для школы пабудавана памяшканне. У 1909 г. 86 двароў, 583 жыхары. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 76 вучняў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Гразівецкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 108 двароў, 677 жыхароў. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас імя В.М.Молатава, які першапачаткова аб'ядноўваў 26 гаспадарак. Абслугоўвала калгас Клімавіцкая МТС. Працавалі кузня, смалакурня, ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. партызаны разграмілі ў вёсцы паліцэйскі ўчастак. У цэнтры вёскі ў 1967 г. ўзведзены абеліск у памяць аб 152 земляках з вёсак калгаса, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе. У 1970 г. 66 гаспадарак, 164 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных на Пд і Пн завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Сярод забудовы размешчаны грамадскія



мураваныя будынкі. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**ЛЕАНПОЛЛЕ** — вёска ў Раднянскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Клімавіч, 147 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. Па паўд.-ўсх. ускраіне цячэ р. Крупня (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Родня і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1764 г. тут быў маёнтак Леанполле. У 1858 г. сяло ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 94 рэвізскія душы, уласнасць памешчыка. Дзейнічаў млын. Гаспадар маёнтка меў тут у 1850 г. 663 дзес. зямлі, вадзяны млын і карчму. З 1868 г. дзейнічала сукнавальня, затым былі адкрыты школа, хлебазапасны магазін, карчма. У 1880 г. 39 двароў, 264 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім, кравецкім і адыходным промысламі. Для школы ў 1903 г. пабудавана памяшканне. У 1909 г. 48 двароў, 363 жыхары. У 1918 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 42 вучні, дзейнічала б-ка. З 20.8.1924 г. ў Раднянскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», працаваў вадзяны млын. У 1940 г. 40 двароў, 160 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія спалілі 38 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1957 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1970 г. 28 гаспадарак, 59 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 (адна працяглая, другая кароткая) амаль прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛОБЖА** — вёска, цэнтр Лабжанскага с/с (з 11.4. 1960 г.), за 10 км на З ад Клімавіч, 134 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Калінка (прыток р. Лабжанка). Транспартныя сувязі па шашы Барысавічы—Клімавічы, якая праходзіць праз вёску. 133 гаспадаркі, 374 жыхары (2007).

Вядома з пач. 18 ст. як сяло ў Крычаўскім старостве ВКЛ. У час Паўн. вайны (1700—21) у жн. 1708 г. тут з войскам быў Пётр І. У 1727 г. 17 з 19 сямей вымушаны былі з-за прыгнёту мясц. улад уцячы ў суседнія староствы ў пошуках лепшай долі. У 1743—44 гг. вёска і наваколле былі месцам падзей антыфеад. паўстання сялян пад кіраўніцтвам В.Вашчылы. У 1747 г. ў Крычаўскім старостве, 32 двары, дзярж. ўласнасць, пасесія. У 1779 г. 29 двароў, 233 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1785 г. 33 двары, 319 жыхароў. У 1834 г. 42 двары, 267 жыхароў, у 1858 г. меліся заезны дом і карчма. У 1880 г. 60 двароў, 265 жыхароў. Апрача землеробства сяльчане займаліся пашывам абутку і адыходным промыслам, вырабам розных быт. рэчаў з ільну і кары. У 1897 г. ў Цімаҥаўскай вол. Клімавіцкага павета, 80 двароў, 594 жыхары. Меліся школа граматы, піцейны дом. Жыхары Лобжы і суседніх вёсак Лапатавічы і Рудня ў 1900 і 1904 гг. палілі памешчыцкі млын. 23.12.1905 г. сяльчане зноў спалілі млын і разбурылі плаціну на р. Лабжанка, забралі хлеб і маёмасць памешчыка. У 1909 г. 99 двароў, 646 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Клімавівіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Гразівецкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1921 г. створана меліярацыйнае т-ва. На базе дарэв. пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. 65 вучняў). У 1926 г. 134 двары, 857 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях да камунізму». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі каля школы ў 1968 г. пастаўлена стэла ў памяць аб земляках, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў. Каля будынка праўлення калгаса ў 1982 г. пастаўлены бюст нар. паэта Беларусі Я.Купа-

лы. У 1980-я г. ў вёсцы дзейнічалі паляводчая брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, рамонтныя майстэрні, сярэдняя школа (14 настаўнікаў), клуб, б-ка з фондам больш за 12 тыс. кніг, аддз. сувязі, 2 магазіны, стацыянарная кінаўстаноўка, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт. У 1986 г. 139 гаспадарак, 326 жыхароў. Цэнтр СПК «Калгас «Герой працы». Дзейнічаюць фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 магазіны, аддз. сувязі. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1984 г. ў Магілёўскім філіяле ін-та «Белкалгаспраект». Планіровачна складаецца з 3 вуліц шыротнай арыентацыі (паўн. — плаўна выгнутая, працяглая, паўд. — прамалінейная, працяглая), а паміж імі на З праходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Гал. (паўн.) вуліца забудавана мураванымі аднапавярховымі аднакватэрнымі дамамі сядзібнага тыпу. Забудова іншых вуліц драўляная, двухбаковая, шчыльная, сядзібнага тыпу. Сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. Гасп. сектар — на паўн. і паўд. ускраінах. Радзіма Васіля Вашчылы (1690—1744), кіраўніка антыфеад. паўстання сялян Крычаўскага староства.

У склад Лабжанскага с/с уваходзяць 18 вёсак і пасёлак.

**ЛУБЯНКА** — вёска ў Ціманаўскім с/с, за 11 км на Пд ад Клімавіч, 126 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. На У праходзіць меліярацыйны канал, ад якога пачынаецца і цячэ праз вёску р. Першалочня (прыток р. Лабжанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кукуеўка і далей па шашы Савінічы—Клімавічы. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1768 г. сяло, у складзе маёнтка Ціманава, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. Мелася карчма. Частка сяльчан займалася калёсным промыслам. У 1897 г. ў Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета, 11 двароў, 63 жыхары. Побач была аднайменная аколіца, 16 двароў, 99 жыхароў. У 1909 г. ў сяле 12 двароў, 757 жыхароў, у аколіцы 15 двароў, 113 жыхароў. Дзейнічала школа (нар. вучылішча). На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. ў Асмолавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 41 двор, 210 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 22 гаспадаркі, 47 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, уздоўж абодвух берагоў ракі і забудаваных аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЫТКАЎКА** — вёска ў Мілаславіцкім с/с, за 16 км на ПнУ ад Клімавіч, 140 м ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Сасноўка (прыток р. Асцёр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Цітаўка і далей па шашы Макеевічы—Клімавічы.

Вядома з 18 ст. У 1780 г. вёска ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. 7 двароў, 48 жыхароў. У 1816 г. 9 двароў, 63 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 15 двароў, 115 жыхароў. У 1909 г. 18 двароў, 158 жыхароў. У 1923 г. частка вяскоўцаў утварыла пас. Навінкі, хутары Падазер'е і Аўчыннікава (цяпер не існуюць). З 20.8.1924 г. ў Склімінскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.0.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 32 двары, 174 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны лётчык», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 41 гаспадарку, меў 156 га ворыва. У 1940 г. 24 двары, 167 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поў-



насцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1970 г. 7 гаспадарак, 11 жыхароў. Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены па абодва бакі ракі.

**ЛЯДЗЕШНЯ** — вёска ў Галіцкім с/с, за 29 м на У ад Клімавіч, 150 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Лядзешня (прыток р. Іпуць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мілаславічы і далей па шашы Макеевічы—Клімавічы. 15 гаспадарак, 29 жыхароў (2007).

Засн. ў 1718 г. ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ. У 1747 г. 33 двары, у 1780 г. у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. 35 двароў, 302 жыхары. У 1897 г. ў Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. 47 двароў, 386 жыхароў. Дзейнічала царк.-прыходская школа. 8.11.1905 г. каля 600 сялян з мяст. Мілаславічы, вёсак Якімавічы, Цімошкі, Макеевічы, Іллюхіна, Пераваложня, Лядзешня разбурылі плаціну і млын у маёнтку Макеевічы. У 1909 г. 62 двары, 468 жыхароў. У 1918 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені з с.-г. ухілам (у 1926 г. 68 вучняў, дзейнічала б-ка). З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Мілаславіцкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілеўскай вобл. У 1926 г. 105 двароў, 563 жыхары. У 1929 г. арганізавана машыннае т-ва «Кастрычніцкае», затым — калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1953 г. абсталяваны радыёвузел, вёска была радыёфікавана, а затым і электрыфікавана. У 1970 г. 50 гаспадарак, 113 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 амаль прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, па абодва берагі ракі, забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-ўсх. ускраіне гасп. сектар. Радзіма Героя Сац. Працы С.Я.Кіслячэнкі (н. 10.1.1931), старшыні калгаса «1 Мая» Мсціслаўскага р-на, з 1979 г. намесніка гал. дзярж. інспектара па закупках і якасці с.-г. прадукцыі ў Магілёўскай вобл.

**МАКЕЕВІЧЫ** — вёска ў Мілаславіцкім с/с, за 33 км на У ад Клімавіч, 150 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на З і У мяжуе з лесам. На паўд. ускраіне цячэ р. Іпуць (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па шашы Макеевічы—Клімавічы. 155 гаспадарак, 372 жыхары (2007).



С.Я.Кіслячэнка.

За 1,5 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Іпуць захаваўся курганны могільнік (12 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па рукапісных крыніцах вядома з 1604 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, казённая ўласнасць У 1780 г. у Клімавіцкім павеце, 23 двары, 146 жыхароў, уласнасць памешчыка. У пач. 19 ст. пачаў працаваць вінакурны з-д (у 1819 г. 15 рабочых). У 1858 г. ў Клімавіцкім павеце, 68 рэвізскіх душ, меўся заезны дом. У 1867 г. ў фальварку пачалі дзейнічаць вадзяны млын і сукнавальня. Гаспадар маёнтка меў тут у 1876 г. 1450 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1894 г. адкрыта школа, для якой сяляне на свае сродкі купілі будынак. У 1897 г. ў Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. 42 двары, 255 жыхароў. У аднайменным фальварку былі 23 жыхары, вадзяны млын і сукнавальня. Улетку 1905 г. тут адбыліся сял. хваляванні. 8.11.1905 г. каля 600 сялян з мяст. Мілаславічы, вёсак Якімавічы, Цімошкі, Макеевічы, Іллюхіна, Пераваложня, Лядзешня разбурылі плаціну і млын ў маёнтку Макеевічы. Важакі хваляванняў былі арыштаваны. У 1909 г. ў сяле 43 двары, 329 жыхароў, у фальварку 1 двор, 8 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 76 вучняў. З 20.8.1924 г. цэнтр Макеевіцкага с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёў-

скай вобл. У 1926 г. 49 двароў, 290 жыхароў. У 1924 г. створана т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі (18 гаспадарак). У 1926 г. адкрыты фельч.-акушэрскі пункт. У 1930 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 460 гаспадарак, меў 3173 га зямлі. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, працавалі паравы млын, кузня. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1941 г. ў навакольных лясах дзейнічала дыверсійная камсамольская група на чале з Ф.Літвінавым. Зімой 1942 г. мясц. жыхар, 14-гадовы Шура Піліпенка паўтарыў подзвіг І.Сусаніна. Дом яго маці быў явачнай кватэрай партызан. Гітлераўцы арыштавалі хлопчыка і заставілі весці да партызан. Юны патрыёт завёў акупантаў у балота і мужна загінуў. Гітлераўцы спалілі хату, расстралялі маці і брата Шуры. У памяць аб іх земляках, якія загінулі ў вайну, у цэнтры вёскі ў 1967 г. пастаўлены абеліск. У 1980-я г. ў вёсцы фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, механічныя майстэрні, 8-гадовая школа (11 настаўнікаў), клуб, б-ка з фондам каля 9 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, дзіцячыя яслі, комплексна-прыёмны пункт, магазін. У 1986 г. 145 гаспадарак, 369 жыхароў. Цэнтр КСУП «Саўгас «Макеевічы». Дзейнічаюць дзіцячы сад, базавая школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт, магазін, аддз. сувязі. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1980 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Планіроўка прамавугольная. Складаецца з 3 кароткіх прамалінейных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных на Пд і Пн кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудова драўляная, шчыльная. Жылыя дамы пераважна драўляныя, аднапавярховыя, сядзібнага тыпу. У цэнтры сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. На паўн. ускраіне гасп. сектар.



*Аграгарадок у в. Малашкавічы.*

**МАЛАШКАВІЧЫ** — вёска ў Раднянскім с/с, за 30 км на ПдУ ад Клімавіч, 154 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Асмолавічы, на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пд і У мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне цячэ р. Сураў (пыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Родня і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы. 136 гаспадарак, 451 жыхар (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. сяльцо ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. 13 двароў, 96 жыхароў. У пач. 19 ст. стала працаваць вінакурня (у 1819 г. 4 рабочыя). У 1850 г. 14 двароў, 74 жыхары, уласнасць памешчыка. Побач была аднайменная аколіца (2 двары, 6 жыхароў). 5 памешчыкаў мелі ў вёсцы ў 1855 г. 647 дзес. зямлі. У 1880 г. 21 двор, 143 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася промыслам. У 1897 г. вёскі Малашкавічы 1 (37 двароў, 276 жыхароў) і Малашкавічы 2 (3 двары, 28 жыхароў). У 1907 г. адкрыта земская школа, у 1910 г. — казённая вінная лаўка. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якая атрымала нацыяналізаваны будынак, у 1925 г. было 88 вучняў. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. З 1.12.1923 г. дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 73 двары, 424 жыхары. Працавалі паравы і ветраны млыны. 15.6.1930 г. арганізаваны калгас «Полымя», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 120 гаспадарак, меў 789 га ворыва. Працавалі маслабойня і кузня. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да



28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1941 г. каля вёскі вёў цяжкія абарончыя баі 45-ы стралк. корпус 13-й арміі. Тут загінуў 11.8.1941 г. камандзір корпуса ген.-маёр Э.Я.Магон (пахаваны ў брацкай магіле ў г. Клімавічы). У цэнтры вёскі ў 1968 г. яму пастаўлены помнік. У ноч. на 7.1.1943 г. партызаны атрада «За Савецкую Беларусь» разграмілі ў вёсцы паліцэйскі гарнізон. У цэнтры вёскі, у скверы, у памяць аб 183 земляках, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1968 г. пастаўлены абеліск. У 1980-я г. ў вёсцы вытв. брыгада, жывёлагадоўчы комплекс, ферма буйной рагатай жывёлы, рамонтна-механічныя майстэрні, лесапільня, зернясховішча, Раднянскае лясніцтва, 8-гадовая школа (13 настаўнікаў), клуб, б-ка з фондам звыш 11,5 тыс. кніг, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, магазін. У 1986 г. 95 гаспадарак, 292 жыхары. Цэнтр КСУП «Саўгас «Малашкавічы». Дзейнічаюць дзіцячы сад, сярэдняя школа, б-ка, клуб, амбулаторыя, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, аддз. сувязі. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1982 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне гасп. сектар.

**МАЦЕЕЎКА** — вёска ў Раднянскім с/с, за 29 км на ПдУ ад Клімавіч, 152 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Малашкавічы, Родня і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

У 1768 г. сяло, у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1850 г. ў Клімавіцкім павеце, 9 двароў, 73 жыхары, уласнасць царквы. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. 22 двары, 139 жыхароў. У 1909 г. 24 двары, 169 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Малашкавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 36 двароў, 204 жыхары. У пач. 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Раднянскім с/с. У 1970 г. 11 гаспадарак, 22 жыхары. Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІКАЛАЕЎКА** — вёска ў Галіцкім с/с, за 27 км на У ад Клімавіч, 155 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мілаславічы і далей па шашы Макеевічы—Клімавічы. 10 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

У 1897 г. хутар (1 двор, 10 жыхароў) у Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 1 двор, 6 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8. 1924 г. ў Мілаславіцкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. на сродкі вяскоўцаў пабудавана школа, у якой у 1926 г. было 52 вучні. У 1931 г. арганізаваны калгас імя ЦК ВКП(б), у якім першапачаткова было 18, у 1932 г. — 55 гаспадарак, 286 га ворыва. З 1937 г. калгас абслугоўвала Мілаславіцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З крас. 1960 г. ў Галіцкім с/с. У 1970 г. 27 гаспадарак, 62 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц амаль шыротнай арыентацыі, злучаных на У мясц. дарогай. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне гасп. сектар.



*Пакроўская царква ў в. Мілаславічы.*

**МІЛАСЛАВІЧЫ** — вёска, цэнтр Мілаславіцкага с/с (з 20.8.1924 г.), за 23 км на ПнУ ад Клімавіч, 136 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Іпуць (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Макеевічы, якая праходзіць праз вёску. 258 гаспадарак, 702 жыхары (2007).

Вядома з 17 ст. У 1604 г. сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, казённая ўласнасць У 1727 г. мяст. Мілаславічы (яно ж Скрылінава) у Крычаўскім старостве. У 1737 г. мелася царква. З 1773 г. пав. горад Мілаславіцкай правінцыі. Пасля змен у адм. падзеле, праведзеных у 1777 г., у ліку гарадоў не значыліся. У 1779 г. мястэчка у Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, 51 двор, 382 жыхары, уласнасць памешчыка. Паводле статыстычнага апісання губерні 1784 г. 54 двары, 355 жыхароў. У 1858 г. 88 двароў, 422 жыхары, дзярж. ўласнасць. У гэтым жа годзе засн. вінакурны з-д (у 1884 г. пастаўлена паравая машына). У 1897 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), якая ў 1885 г. стала двухкласнай. Затым былі адкрыты 2 царк.-прыходскія школы. Гаспадар маёнтка меў тут у 1873 г. 3390 дзес. зямлі, вадзяны і ветраны млыны, вінакурны з-д, маслабойню, 4 карчмы. У 1830 г. цэнтр воласці, працавалі 3 вадзяныя млыны, маслабойня, 4 карчмы, хлебазапасны магазін. Частка жыхароў займалася кавальскім промыслам. Двойчы ў год праводзіліся кірмашы. У крас. 1884 г. ў выніку пажару згарэла каля 70 двароў, царква, будынак вал. праўлення, нар. вучылішча. Страты склалі звыш 41 тыс. руб. У 1897 г. 205 двароў, 1403 жыхары, двухкласная земская і аднакласная царк.-прыходская школы, прыёмны пакой, хлебазапасны магазін, 23 лаўкі, піцейны дом, царква, малітоўны дом. 8.11.1905 г. каля 600 чал. з мяст. Мілаславічы і вёсак Якімавічы, Цімошкі, Макеевічы, Іллюхіна, Перавалочня, Лядзешня разбурылі плаціну і памешчыцкі млын у в. Макеевічы. У 1909 г. 199 двароў, 1561 жыхар. Побач каля р. Іпуць быў фальварак, 3 двары, 21 жыхар. У 1917 быў створаны рэўком, які ўзначаліў Я.Ф.Дуброўскі. Прыхільнікі Часовага ўрада арганізавалі ўзброенае выступленне з мэтай ліквідацыі рэв. к-та. Рэўкомаўцы тэлеграфавалі У.І.Леніну з просьбай аб дапамозе зброяй, якая ў хуткім часе была атрымана з г. Рослаў. Выступленне было падаўлена. Летам 1918 г. арганізаваны к-т беднаты. 16.8.1921 г. створаны с.-г. т-ва «Усход» (у 1925 г. мела 95 га зямлі), крэдытнае т-ва, т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі і масларобчая арцель. З снеж. 1923 г. пачаў працаваць пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 1925 г. дзейнічалі с.-г. т-вы «Веккер» і «Вызваленне». У 1924 г. адкрыта хата-чытальня, у 1926 г. — урачэбны ўчастак. З 20.8.1924 г. цэнтр Мілаславіцкага р-на і сельсавета Калінінскай акругі. 14.10.1925 г. адбылася с.-г. выстаўка, якая прадэманстравала першыя поспехі ў аднаўленні і развіцці с.-г. вытв-сці. У 1926 г. 224 двары, 1119 жыхароў. З 1926 г. пачала дзейнічаць кінаўстаноўка. Працавалі паштова-тэлегр. аддз., лясніцтва, 2 каап. лаўкі, 7-гадовая школа (10 настаўнікаў). У 1928 г. для школы пабудавана новае памяшканне,



меўся інтэрнат. 8.5.1930 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна, які ў студз. 1932 г. аб'ядноўваў 141 гаспадарку, меў 630 га ворыўнай зямлі. У 1929 г. пачала працаваць шавецкая арцель «Новая праца», былі адкрыты ўрачэбная амбулаторыя, аптэка, дзейнічалі 3 кузні. У 1937 г. створана МТС, якая ў 1938 г. мела 44 трактары і інш. тэхніку. У гэтым жа годзе пабудавана новая школа. У 1940 г. 121 двор, 533 жыхары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1941 г. ў наваколлі вяла жорсткія абарончыя баі 137-я стралк. дывізія. Тут загінула група бел. парт. работнікаў, у памяць аб якіх на будынку сельсавета ў 1970 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 88 двароў, загубілі 116 жыхароў. У цэнтры вёскі, каля будынка канторы саўгаса, на ўшанаванне памяці 380 землякоў з вёсак сельсавета, якія загінулі на франтах і ў партыз. барацьбе, у 1968 г. пастаўлены абеліск. За 1 км на ПнЗ ад вёскі ў брацкай магіле пахаваны 14 сав. воінаў, якія загінулі ў 1941—43 гг. Пасля вызвалення адбудавана. У 1956 г. да вёскі далучаны пас. Атрашэнкава. У 1980-я г. у вёсцы былі ферма буйной рагатай жывёлы, рамонтныя майстэрні, сярэдняя школа (21 настаўнік) імя Героя Сав. Саюза М.А. Старавойтава (ураджэнец в. Якімавічы), Дом культуры, бальніца, паштовае аддз., дзіцячы сад-яслі, гандл. цэнтр, аптэка, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, б-ка з фондам каля 15 тыс. кніг. У 1986 г. 293 гаспадаркі, 767 жыхароў. У 2004 г. адкрыта Свята-Узнясенская царква. Цэнтр КСУП «Саўгас «Мілаславіцкі». Дзейнічаюць дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, б-ка, цэнтр культуры, бальніца, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазіны. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1985 г. ў БелНДІдзіпрасельбудзе. Планіроўка прамавугольная. Рака падзяляе вёску на паўн. (ад гал. прамалінейнай вуліцы — часткі шашы — на ПнЗ адыходзяць 2 прамалінейныя кароткія вуліцы, злучаныя на Пн крывалінейнай вуліцай з завулкам) і паўд. (2 крывалінейныя вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, злучаныя ў цэнтры плаўна выгнутай вуліцай з завулкамі) часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На гал. вуліцы размяшчаюцца асн. мураваныя грамадскія будынкі. Частку забудовы складаюць двухпавярховыя 4-кватэрныя дамы. Гасп. сектар — на паўн. і ўсх. ускраінах. Радзіма дзярж. дзеяча БССР Ф.Л.Коханава, які ў 1965—78 гг. быў старшынёй Дзяржплана БССР, нам. старшыні Савета Міністраў БССР.

У склад Мілаславіцкага с/с уваходзяць 19 вёсак і 2 пасёлкі.

**МУРАВЕЦ** — пасёлак у Лабжанскім с/с, за 8 км на З ад Клімавіч, 132 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне цячэ ручай (прыток р. Лабжанка). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па шашы Клімавічы—Барысавічы, якая праходзіць побач з вёскай. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

За 1,1 км на З ад паўн. ускраіны вёскі захаваўся могільнік (9 курганоў), за 0,2 км на ПдЗ ад паўн. ускраіны вёскі — яшчэ адзін курганны могільнік. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. У 1857 г. хутар у Клімавіцкім павеце. У 1909 г. ў Цімanaўскай вол. Клімавіцкага павета, 1 двор, 10 жыхароў. З 20.8.1924 г. пасёлак у Гразівецкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 19 двароў, 118 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 23 гаспадаркі, 65 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна ўздоўж берага ракі і забудаванай двухбакова, шчыльна, тра-

дыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Электрыфікавана і радыёфікавана.

**МЫСЛЕЎШЧЫНА** — вёска ў Раднянскім с/с, за 18 км на У ад Клімавіч, 142 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Сідараўка, Родня і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы. 20 гаспадарак, 40 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць, меўся шынок. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. 10 двароў, 61 жыхар. У 1811 г. ўласнасць памешчыка. У 1880 г. 17 двароў, 115 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, 19 двароў, 138 жыхароў. Побач былі 2 аднайменныя хутары па 1 двары. У 1909 г. ў сяле 20 двароў, 150 жыхароў, на 2 хутарах 3 двары, 18 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Судзілаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 39 двароў, 230 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Хваля рэвалюцыі», у якім першапачаткова было 26, у 1932 г. — 37 гаспадарак, 204 га ворыўнай зямлі. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў Раднянскім с/с. У 1970 г. 42 гаспадаркі, 81 жыхар. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, паралельна да якой на З праходзіць кароткая вуліца, злучаная з асноўнай завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МЯДЗВЁДАЎКА** — вёска ў Ціманаўскім с/с, за 6 км на Пд ад Клімавіч, 130 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ціманава і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 17 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. вёска (13 двароў, 98 жыхароў) у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1850 г. 15 двароў, 98 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1875 г. пачала дзейнічаць крупарушка. У 1897 г. ў Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета, 21 двор, 125 жыхароў. У 1920 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні (у 1925 г. 26 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Асмолавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 27 двароў, 169 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 40 гаспадарак, 105 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 злучаных завулкам прамалінейных вуліц, адна з якіх арыентавана з ПдУ на ПнЗ, другая — амаль мерыдыянальна. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МЯЖЭНІН** — вёска ў Высокаўскім с/с, за 18 км на Пд ад Клімавіч, 150 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Крупянка (прыток р. Альшанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Красавічы і далей па шашы Савінічы—Клімавічы. 16 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. вёска, 12 двароў, 73 жыхары. У 1880 г. 34 двары, 149 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім, калёсным і бандарным промысламі. У 1893 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1897 г. ў Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. 40 двароў, 319 жыхароў. У 1909 г. 49 двароў, 299 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 66 вучняў. Дзейнічаў драмгурток. З 26.4.1919 г. ў Ціманаўскай, з 9.5.1923 г. ў Клімавіцкай валасцях Клімавіцкага павета Гомельскай губ.



РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Аўтухоўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 71 двор, 412 жыхароў. У 1929 г. 17 гаспадарак арганізавалі калгас «Чырвоны прамень». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінула 12 вяскоўцаў. З 1960 г. ў Яноўскім, з 1965 г. ў Высокаўскім сельсаветах. У 1962 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1970 г. 48 гаспадарак, 109 жыхароў. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПнЗ на ПдУ і злучаных кароткімі папярочнымі вуліцамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**НЕДЗВЕДЗЬ** — вёска ў Галіцкім с/с, за 21 км на У ад Клімавіч, 146 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Хацершчына (прыток р. Іпуць). Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Галічы, якая праходзіць праз вёску. 53 гаспадаркі, 117 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. Мясц. памешчык меў тут у 1856 г. 2548 дзес. зямлі і ветраны млын. У 1858 г. вёска, 153 рэвізскія душы, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., дзейнічала карчма. У 1880 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, 67 двароў, 492 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім, калёсным і адыходным промысламі, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1885 г. адкрыта царк.-прыходская школа, пераўтвораная ў 1910 г. ў земскую. У 1893 г. засн. вінакурны з-д (у 1895 г. 5 рабочых, была ўстаноўлена паравая машына). У 1897 г. ў вёсцы 81 двор, 582 жыхары, у фальварку 1 двор, 73 жыхары. У 1909 г. 82 двары, 600 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 1954 г. цэнтр Пуцімельскага с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2. 1938 г. Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 60 вучняў. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, працавалі млын і кузня. 16.5.1921 г. ў былым маёнтку арганізавана с.-г. камуна «Чырвоная паляна», якая ў 1924 г. аб'ядноўвала 20 гаспадарак, мела ў 1925 г. 104 га зямлі. 12.5.1929 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», у які спачатку ўвайшло 40, а ў 1932 г. — 150 гаспадарак, меўся 1001 га ворыва. У 1930-я г. працавалі нафтавы млын, цагельны з-д, кузня. У 1929 г. гаспадарка атрымала грузавы аўтамабіль, у 1933 г. — трактар. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У памяць аб 204 земляках, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у цэнтры вёскі ў 1969 г. пастаўлены абеліск. З 16.7.1954 г. ў Галіцкім с/с. У 1980-я г. ў вёсцы былі размешчаны вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, лесапільня, механічныя майстэрні, зерняховішча, 8-гадовая школа, клуб, б-ка з фондам больш за 10,5 тыс. кніг, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання, магазін. У 1986 г. 96 гаспадарак, 434 жыхары. Дзейнічаюць базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1977 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 3 плаўна выгнутых, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных у цэнтры шашой, а на Пд — кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. На Пн будаўніцтва вядзецца муравымі 2-павярховымі 2-кватэрнымі дамамі. На паўд. ускраіне гасп. сектар.

**НОВЫ ДЗЕДЗІН** — вёска ў Кісялёва-Будскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Клімавіч, 145 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны. На З мяжуе з лесам. На паўд. ускраіне праходзяць ме-

ліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Асцёр (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Стары Дзедзін і далей па шашы Магілёў—Масква. 28 гаспадарак, 45 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. вёска (24 двары, 175 жыхароў) у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. Памешчык меў тут у 1853 г. 240 дзес. зямлі. У 1880 г. 42 двары, 303 жыхары. 22 вяскоўцы займаліся ганчарным і адыходным промысламі, шыццём абутку. У 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 60 двароў, 431 жыхар. Меліся царк.-прыходская школа, піцейны дом. Побач быў аднайменны хутар (1 двор, 2 жыхары). У 1909 г. ў вёсцы 54 двары, 423 жыхары, у фальварку 1 двор, 11 жыхароў. У 1913 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе было пабудавана памяшканне. 16.9.1923 г. створана меліярацыйнае т-ва. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. былі 64 вучні. З 20.8.1924 г. ў Кісялёва-Будскім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 83 двары, 601 жыхар. У 1929 г. была арганізавана арцель па перасяленні на жыхарства ў Сібір (16 сем'яў) і с.-г. т-ва «Новая Праца» (11 гаспадарак). У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы Дзедзін». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 54 гаспадаркі, 131 жыхар. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, на ПдУ ад якой праходзіць другая, кароткая вуліца, злучаная з асноўнай завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**НОВЫЯ ЖАРКІ** — вёска ў Лабжанскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Клімавіч, 132 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Палыная (прыток р. Бароўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Гарадок, Лобжа і далей па шашы Барысавічы—Клімавічы. 47 гаспадарак, 93 жыхары (2007).

У 1858 г. в. Жаркі (100 рэвізскіх душ) у Чэрыкаўскім павеце. Мелася карчма. У 1880 г. 49 двароў, 322 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. У 1897 г. вёскі Вялікія Жаркі (1 двор, 9 жыхароў) і Жаркі (64 двары, 448 жыхароў, школа граматы) у Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. ў в. Жаркі 1 было 62 двары, 380 жыхароў, у в. Жаркі 2 — 20 двароў, 147 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Івандарскім (з 21.8.1925 г. Дубравіцкі) с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зара», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 48 гаспадарак, меў 579 га ворыўнай зямлі. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі, каля будынка клуба, на ўшанаванне памяці 111 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1968 г. пастаўлены абеліск. У 1970 г. 96 гаспадарак, 163 жыхары. У 1980-я г. былі размешчаны ферма буйной рагатай жывёлы, механічная майстэрня, пач. школа, клуб, магазін, аптэка. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПнЗ на ПдУ і злучаных на Пд кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, аднапавярховыя, сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. На паўд.-зах. ускраіне гасп. сектар.

**НОВЫЯ ПРАНІЧКІ** — вёска ў Кісялёва-Будскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Клімавіч, 144 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Масква, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

У 1850 г. вёска Пранічкі (2 двары, 7 жыхароў) у Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. У 1897 г. пас. Пранічкі,



4 двары, 31 жыхар. У 1909 г. 3 двары, 33 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 25 двароў, 127 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1970 г. 12 гаспадарак, 28 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВЫ СТРОЙ** — пасёлак у Высокаўскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Клімавіч, 140 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Жадунька (прыток р. Дзяражня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Высокая Буда і далей па шашы Савінічы—Клімавічы. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў сярэдзіне 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. Уваходзіў ў Красавіцкі с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы строй». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў Яноўскім, з 1965 г. ў Высокаўскім сельсаветсах. У 1970 г. 7 гаспадарак, 16 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, уздоўж якой пастаўлены двухбакова, няшчыльна традыц. драўляныя сял. сядзібы.

**НОВЫЯ ДАМАМЕРЫЧЫ** — вёска ў Дамамерыцкім с/с, за 12 км на Пн ад Клімавіч, 140 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Сасноўка (прыток р. Асцёр). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Клімавічы, якая праходзіць праз вёску. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак, у Дамамерыцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1929 г. арганізаваны машыннае т-ва «Новадамамерыцкае» і калгас імя І.В.Сталіна. У хуткім часе 3 суседнія невялікія калгасы аб'ядналіся ў адну гаспадарку «Звязда» з цэнтрам у в. Новыя Дамамерычы. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі 19 грамадскіх пабудоў і 30 дамоў калгаснікаў. Пасля вызвалення адбудавана. У 1970 г. 28 гаспадарак, 68 жыхароў. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаецца кароткая, прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі. Забудова пераважна двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**НЯЗНАНЬ** — вёска ў Кісялёва-Будскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Клімавіч, 140 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Каля вёскі пачынаецца р. Рагожынка (прыток р. Сасноўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кісялёва-Буда і далей па шашы Магілёў—Масква. 17 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

У 1834 г. у Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка, 39 двароў, 249 жыхароў. У 1880 г. 60 двароў, 387 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім і кравецкім промысламі. У 1897 г. вёска пры тракце Клімавічы—Рослаў, у Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 86 двароў, 603 жыхары. Меліся кузня, царк.-прыходская школа, лаўка, піцейны дом. У 1909 г. 79 двароў, 639 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Кісялёва-Будскім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У пач. 1920-х г. адкрыта прац. школа 1-й ступені (у 1926 г. 85 вучняў). У 1926 г. ў вёсцы 121 двор, 698 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «За бальшавіцкія

калгасы». У 1940 г. 110 двароў, 439 жыхароў. З жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1970 г. 54 гаспадаркі, 112 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 вуліц (адна плаўна выгнутая, другая прамалінейная) амаль шыротнай арыентацыі, злучаных у цэнтры кароткай, прамалінейнай вуліцай. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд.-зах. ускраіне. Радзіма бел. пісьменніка, журналіста, засл. дзеяча культуры Беларусі І.Р.Новікава (26.1. 1918—22.2.2001).

**ПАД'ЕЛЛЕ** — пасёлак у Лабжанскім с/с, за 9 км на З ад Клімавіч, 134 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Клімавічы, на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Барысавічы—Клімавічы, якая праходзіць побач з вёскай. 16 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1927 г. 19 двароў, 108 жыхароў, у Гразівецкім с/с Клімавіцкага р-на Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Лапатавіцкім, з 1960 г. ў Лабжанскім сельсаветах. У 1970 г. 29 гаспадарак, 81 жыхар. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПнЗ на ПдУ і злучаных на У завулкам. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПАЛЯ** — вёска ў Лазовіцкім с/с, за 11 км на ПдУ ад Клімавіч, 135 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. На паўд.-зах. ускраіне цячэ р. Лабжанка (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Касцюковічы, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

У 1780 г. вёска, 11 двароў, 74 жыхары. У 1897 г. 24 двары, 159 жыхароў. У 1909 г. вёскі Паля 1 (18 двароў, 133 жыхароў) і Паля 2 (5 двароў, 23 жыхары) у Раднянскай вол. Клімавіцкага павета. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Лазовіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. вёска, 26 двароў, 141 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Паля», які абслугоўваўся Клімавіцкай МТС. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАЛОШКАВА** — вёска ў Дамамерыцкім с/с, за 12 км на Пн ад Клімавіч, 136 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на ўсх. ускраіне цячэ р. Сасноўка (прыток р. Асцёр). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Масква, якая праходзіць праз вёску. 125 гаспадарак, 345 жыхароў (2007).

Вядома з 1727 г. як вёска ў Крычаўскім старостве ВКЛ. У 1747 г. 29 двароў, дзярж. ўласнасць, пасесія. У 1779 г. 24 двары, 148 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 99 рэвізскіх душ. У 1880 г. 56 двароў, 389 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся шавецкім, кравецкім, бандарным, кавальскім і адхожым промысламі. У 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 50 двароў, 513 жыхароў. Мелася кузня. У 1909 г. 64 двары, 512 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Дамамерыцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 88 двароў, 538 жыхароў. У 1931 г. 28 сямей арганізавалі калгас «Соцударнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 38 гаспадарак, меў 188 га ворыва. Працавала



кузня. Абслугоўвала калгас Клімавіцкая МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. жн. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. гітлераўцы часткова спалілі вёску. Вызвалена 28.9.1943 г. воінамі 369-й Карачаеўскай стралк. дывізіі 50-й арміі Бранскага фронту. У памяць аб 176 земляках, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у цэнтры вёскі ў 1968 г. пастаўлены абеліск. У 1970 г. 93 гаспадаркі, 238 жыхароў. Цэнтр СПК «Калгас «Сасноўка». Дзейнічаюць сярэдняя школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазані. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1983 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (участак шашы), арыентаванай шыротна, ад якой на ПдУ адыходзіць кароткая, прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка гал. вуліца забудавана мураванымі двухпавярховымі 4-кватэрнымі і аднапавярховымі аднакватэрнымі дамамі. Грамадскія мураваныя будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Каля будынка праўлення калгаса ў 1980 г. пастаўлены помнік М.І.Калініну. На зах. ускраіне гасп. сектар.

**ПАТАРОНАЎКА** — вёска ў Раднянскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Клімавіч, 146 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. На У мяжуе з лесам. На зах. ускраіне цячэ р. Сабалёўка (прыток р. Лабжанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Судзілы і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы. 12 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

Вядома з 1780 г. як вёска ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, 16 двароў, 89 жыхароў. У 1909 г. 16 двароў, 129 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Судзілаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 23 двары, 138 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны працаўнік», у якім першапачаткова было 18 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З крас. 1960 г. ў Раднянскім с/с. У 1970 г. 21 гаспадарка, 40 жыхароў. Планіровачна складаецца з адной дугападобнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне гасп. сектар.

**ПАПАРАТКА** — вёска ў Кісялёва-Будскім с/с, за 29 км на ПнУ ад Клімавіч, 153 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Сялянка (прыток р. Асцёр). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Масква, якая праходзіць побач з вёскай. 15 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1742 г. слабада (18 двароў) у Крычаўскім старостве ВКЛ, дзярж. ўласнасць, пасесія. У 1780 г. вёска ў Клімавіцкім павеце, 31 двор, 177 жыхароў. У 1785 г. 30 двароў, 217 жыхароў, у Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1834 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 34 двары, 172 жыхары. У 1890 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая ў 1910 г. пераўтворана ў земскую. У 1897 г. 51 двор, 377 жыхароў. У 1909 г. 53 двары, 407 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 47 вучняў. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. ў Звянчацкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 81 двор, 441 жыхар. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 50 двароў, 190 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 48 двароў. Пасля вайны адбудавана. З 1960 г. ў складзе Мілаславіцкага, з 1965 г. Кісялёва-Будскага сельсаветаў. У 1970 г. 25 гаспадарак, 59 жыхароў. Планіровачна

складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, да якіх з Пд на Пн далучаюцца кароткія, прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ПАПЕХІНКА** — вёска ў Лабжанскім с/с, за 18 км на З ад Клімавіч, 108 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лобжа і далей па шашы Барысавічы—Клімавічы. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1834 г. 99 жыхароў. У 1858 г. 52 жыхары мужчынскага полу. У 1880 г. 23 двары, 205 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. У 1897 г. ў Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 31 двор, 170 жыхароў. У 1909 г. 40 двароў, 312 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Івандарскім (з 21.8.1925 г. Дубравіцкі) с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магіёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 24 двары, 292 жыхары. У крас. 1929 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях», у які ўвайшло 47 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 28 гаспадарак, 55 жыхароў. Планіровачна складаецца з адной прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне гасп. сектар.

**ПАЎЛАВІЧЫ** — вёска ў Лазовіцкім с/с, за 7 км на У ад Клімавіч, 131 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Рэкта (прыток р. Лабжанка). Транспартныя сувязі па шашы Галічы—Клімавічы, якая праходзіць праз вёску. 132 гаспадаркі, 370 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. Меўся млын. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 31 двор, 255 жыхароў. Дзейнічаў вінакурны з-д (у 1819 г. 12 рабочых) і мукамольнае прадпрыемства (у 1894 г. 4 рабочыя), з 1872 г. працавала сукнавальня. У 1880 г. 61 двор, 431 жыхар. 10 вяскоўцаў займаліся адыходным промыслам. Гаспадар аднаго маёнтка меў у 1880 г. 140 дзес., другога — 107 дзес., трэцяга — 116,5 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, 80 двароў, 549 жыхароў. Дзейнічалі царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. Побач быў аднайменны фальварак (1 двор, 8 жыхароў). У 1909 г. ў сяле 98 двароў, 609 жыхароў, у фальварку 1 двор, 4 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Лазовіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 57 вучняў. У 1926 г. 148 двароў, 754 жыхары. У 1929 г. створана садова-агароднае т-ва «Чырвоны Кастрычнік». 23.3.1931 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна, першапачаткова аб'ядноўваў 65, у 1932 г. — 128 гаспадарак, меў 833 га ворыва. У сярэдзіне 1930-х г. адноўлены вінакурны з-д (42 рабочыя). У Вял. Айч. вайну ў 1-й пал. жн. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.9.1943 г. 238-й стралк. дывізіяй 50-й арміі. У памяць аб 125 земляках, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у цэнтры вёскі ў 1968 г. пастаўлены абеліск. У пасляваенны час у вёсцы размяшчаўся дзіцячы дом. У 1980-я г. ў вёсцы дзейнічалі паляводчая брыгада, механічныя майстэрні, сінагадоўчая і 2 жывёлагадоўчыя фермы, 8-гадовая школа (12 настаўнікаў), клуб, стацыянарная кінаўстаноўка, б-ка (фонд 5700 кніг), дзіцячы сад, магазін, аддз. сувязі. У 1986 г. 122 гаспадаркі, 263 жыхары. Дзейнічаюць дзіцячы сад, базавая школа, б-ка, клуб, фельч.-



акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1965 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Рака падзяляе вёску на 2 часткі: паўд. (2 кароткія, прамалінейныя вуліцы арыентаваны з ПдЗ на ПнУ; адасоблена на У праходзіць прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ) і паўн. (2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, да якіх з У далучаецца прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ). Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частку забудовы складаюць 2-павярховыя 2-кватэрныя і аднапавярховыя аднакватэрныя мураваныя дамы. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. На паўн. ускраіне гасп. сектар. Радзіма дзярж. дзеяча БССР, міністра мясной і малочнай прам-сці БССР А.А.Ганчарова.

**ПЕРАВАЛОЧНЯ** — вёска ў Мілаславіцкім с/с, за 40 км на У ад Клімавіч, 164 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На паўн. ускраіне цячэ р. Струг (прыток р. Іпуць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Макеевічы—Клімавічы. 58 гаспадарак, 115 жыхароў (2007).

Засн. ў 1720 г. ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, 26 двароў, 216 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1784 г. 28 двароў, 224 жыхары. Гаспадар маёнтка меў у 1878 г. ў вёсках Пераналочня і Кавалёўка 872 дзес. зямлі. У 1880 г. 65 двароў, 214 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся нарыхтоўкай лясных матэрыялаў для розных вырабаў з дрэва. У 1897 г. ў Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета, 85 двароў, 552 жыхары. Мелася школа граматы. 8.11.1905 г. каля 600 сялян з мяст. Мілаславічы, вёсак Якімавічы, Цімошкі, Макеевічы, Іллюхіна, Пераналочня, Лядзешня разбурылі плаціну і млын у маёнтку Макеевічы. У 1909 г. 105 двароў, 717 жыхароў. Дзейнічала царк.-прыходская школа. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 80 вучняў. Дзейнічалі хата-чытальня, гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. ў Макеевіцкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1930 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2. 1938 г. Магілёўскай вобл. 20.6.1924 г. створана меліярацыйнае т-ва. У 1926 г. 154 двары, 848 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны меліяратар», у які першапачаткова ўваходзілі 32 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1941 г. непадалёку ад вёскі базіраваўся партыз. атрад (170 чал.), арганізаваны былым камандзірам 110-й стралк. дывізіі В.А.Хлябцовым. У 1980-я г. дзейнічалі вытв. ўчастак, ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, клуб, б-ка з фондам больш за 7,3 тыс. кніг, магазін. У 1986 г. 107 гаспадарак, 231 жыхар. Дзейнічаюць б-ка, клуб, магазін. Планіровачна складаецца з 6 кароткіх, прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных завулкамі. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне гасп. сектар.

**ПІСЛЯКОЎКА** — былая вёска ў Раднянскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Клімавіч, 150 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Крупня (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Леанполле і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы.

У 1857 г. вёска ў Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 27 двароў, 178 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. Побач быў аднайменны хутар, 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 28 двароў, 212 жыхароў, на хутары 1 двор, 8 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Ма-

лашкавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 29 двароў, 179 жыхароў. У 1930 г. жыхары вёсак Післякоўка і Крупня арганізавалі калгас «Чырвоны партызан». У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1957 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 2002 г. 11 гаспадарак, 21 жыхар. Планіровачна складалася з плаўна выгнутай з завулкам вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна ўздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПІСЛЯЦІНА** — вёска ў Галіцкім с/с, за 32 км на У ад Клімавіч, 156 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На зах. ускраіне цячэ р. Сураў (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Галічы—Клімавічы. 10 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Вядома з 8 ст. У 1747 г. в. Цеслякі (яна ж Цясляціна, Післяціна) у Крычаўскім старостве ВКЛ, 9 двароў, дзярж. ўласнасць, пасесія. У 1785 г. 10 двароў, 75 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1871 г. пачала працаваць сукнавальня. У 1779 г. меўся млын. У 1780 г. в. Післяцін (16 двароў, 136 жыхароў) у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1850 г. вёскі Старое Післяціна (24 двары, 61 жыхар мужчынскага полу) і Новае Післяціна (24 двары, 173 жыхары). Гаспадар маёнтка меў тут у 1873 г. 763,5 дзес. зямлі і вадзяны млын. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1880 г. 45 двароў, 253 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім і кушнерскім промысламі. У 1897 г. ў Забялышынскай вол., 63 двары, 428 жыхароў. Меліся школа граматы, піцейны дом. У 1909 г. ў вёсцы 63 двары, 531 жыхар, у маёнтку 1 двор, 10 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Галіцкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 123 двары, 709 жыхароў. 4.10.1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 85 гаспадарак, меў 498 га ворыва. Працавалі ветраны млын, кузня. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 27.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 35 гаспадарак, 59 жыхароў. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкамі. Забудавана аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПІЦЕР** — вёска ў Мілаславіцкім с/с, за 38 км на ПнУ ад Клімавіч, 160 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, абкружана лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Макеевічы—Клімавічы. 3 гаспадаркі, 10 жыхароў (2007).

У 1857 г. хутар у Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. У 1865 г. фальварак Піцер (1 двор, 8 жыхароў), гаспадар якога меў тут 213 дзес. зямлі. У 1897 г. в. Піцер (яна ж Звярынец) у Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 8 двароў, 46 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 13 двароў, 54 жыхары, на хутары 10 двароў, 90 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Макеевіцкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 24 двары, 50 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 31 гаспадарку, меў 157 га ворыўнай зямлі. У 1940 г. 40 двароў, 196 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. акупанты поўнасцю спалілі вёску, загубілі 11 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1970 г. 23 гаспадаркі, 44 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінеЙ-



най вуліцы шыротнай арыентацыі з завулкам, ад якой на З адыходзіць на Пн другая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі з завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЛЮШЧАВА** — вёска ў Ціманаўскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Клімавіч, 134 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пн, Пд і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ціманава і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 6 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з канца жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 17 гаспадарак, 48 жыхароў. Планіровачна складаецца з адной прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**ПОЖАР** — былая вёска ў Гусаркаўскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Клімавіч, 137 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Краснае і далей па шашы Галічы—Клімавічы.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак, у Судзілаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2. 1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 17 двароў, 98 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны маяк». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З крас. 1960 г. ў Гусаркаўскім с/с. У 2002 г. 14 гаспадарак, 21 жыхар. Планіровачна складалася з Г-падобнай вуліцы, больш працяглая частка якой мае мерыдыянальную арыентацыю. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПОЖАР** — вёска ў Галіцкім с/с, за 20 км на У ад Клімавіч, 145 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Галічы, якая праходзіць каля вёскі. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1756 г. вёска ў Крычаўскім старостве ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце, 8 двароў, 49 жыхароў. У 1850 г. 15 двароў, уласнасць памешчыка. Частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, 17 двароў, 119 жыхароў. Побач была аднайменная вёска, 11 двароў, 56 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 22 двары, 133 жыхары, у аколіцы 13 двароў, 111 жыхароў, на хутары 3 двары, 25 жыхароў. Дзейнічала школа граматы. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Пуцімельскім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. 27.12.1924 г. створана меліярацыйнае т-ва. У 1926 г. 33 двары, 199 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Рассвет», у якім першапачаткова было 17, у студз. 1932 г. — 46 гаспадарак, 235 га ворыўнай зямлі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 11 гаспадарак, 23 жыхары. Планіровачна складаецца з зігзагападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРУДОК** — вёска ў Раднянскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Клімавіч, 143 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Сабалёўка (прыток р. Лабжанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Родня і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1766 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая

ўласнасць. У 1780 г. 9 двароў, 60 жыхароў. У 1850 г. 25 двароў, 161 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, 23 двары, 133 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1909 г. 23 двары, 195 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Судзілаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 32 двары, 183 жыхары. У пач. 1930-х г. вяскоўцы арганізавалі калгас. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў Раднянскім с/с. У 1970 г. 24 гаспадаркі, 49 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых вуліц, якія размешчаны па абодва бакі ракі і арыентаваны з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнУ гасп. сектар.

**ПУЦІМЕЛЬ** — вёска ў Галіцкім с/с, за 25 км на У ад Клімавіч, 149 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Хацершчына (прыток р. Іпуць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Селішча і далей па шашы Галічы—Клімавічы. 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1727 г. вёска, 11 гаспадарак. У 1756 г. ў Крычаўскім старостве ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 14 двароў, 128 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1816 г. 29 двароў, 185 жыхароў. У 1880 г. 35 двароў, 123 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кушнерскім і кравецкім промысламі, вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва. У 1897 г. 50 двароў, 334 жыхары, у Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета. Меліся царк.-прыходская школа, карчма. У 1909 г. 47 двароў, 393 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. да 1927 г. цэнтр с/с Мілаславіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. Магілёўскай акруг, з 4.8.1927 г. да 26.7.1930 г. Клімавіцкага р-на Магілёўскай акругі БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. З 1927 г. ў Пуцімельскім с/с (цэнтр — в. Недзведзь). У 1926 г. 74 двары, 411 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 42 гаспадаркі, меў 247 га ворыўнай зямлі. У Вял. Айч. вайну з 10.8.1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Галіцкім с/с. У 1970 г. 39 гаспадарак, 92 жыхары. Планіроўка Т-падобная. Гал. вуліца амаль прамалінейная, арыентавана з Пд на Пн. Ад яе цэнтра на У адыходзіць прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**ПЯНЬКОЎКА** — вёска ў Дамамерыцкім с/с, за 19 км на ПнУ ад Клімавіч, 129 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Лютня (прыток р. Асцёр). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Масква, якая праходзіць праз вёску. 49 гаспадарак, 92 жыхары (2007).

У 1834 г. ў Клімавіцкім павеце, 35 двароў, 254 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 76 двароў, 455 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным і бандарным промысламі. У 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 83 двары, 610 жыхароў. Побач былі аднайменныя заезны дом (1 двор, 5 жыхароў), фальварак (1 двор, 8 жыхароў), вартоўня (1 двор, 5 жыхароў). У 1900 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1902 г. частка вяскоўцаў перасялілася на жыхарства ў Сібір. У 1909 г. 88 двароў, 710 жыхароў. Побач знаходзіўся памешчыцкі маёнтак, гаспадару якога належала 520 дзес. зямлі, у той час як усім вяскоўцам — 701 дзес. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Хатовіжскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. 1.12.1923 г. пачаў працаваць пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1924 г. створана масларобчая ар-



цель, 4.11.1924 г. — меліярацыйнае т-ва. У 1926 г. 134 двары, 819 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. былі 74 вучні. У 1930 г. арганізаваны калгас «Маяк». У 1940 г. 118 двароў, 576 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 гітлераўцы спалілі 114 двароў, загубілі 2 вяскоўцаў. Вызвалена 30.9.1943 г. З красавіка 1960 г. ў Дамамерыцкім с/с. У 1970 г. 107 гаспадарак, 233 жыхары. Дзейнічае клуб. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. На Пн ад іх праходзіць кароткая, прамалінейная вуліца (участак шашы) амаль шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЯТРОЎКА** — вёска ў Галіцкім с/с, за 33 км на У ад Клімавіч, 146 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне цячэ р. Струг (прыток р. Іпуць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дудараўка і далей па шашы Галічы—Клімавічы. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

У 1857 г. хутар Пятрава ў Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. У 1909 г. хутар Пятроўск (6 двароў, 38 жыхароў) у Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. У пач. 1920-х г. тут, на былых памешчыцкіх землях, была створана с.-г. арцель «Пятроўка». З 20.8.1924 г. ў Галіцкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 6 двароў, 31 жыхар. У 1929 г. арганізаваны калгас «Пятроўка». Мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 20 гаспадарак, 43 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, ад паўд. боку якой на У адыходзіць завулак. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне гасп. сектар.

**РОДНЯ** — вёска, цэнтр Раднянскага с/с (з 20.8. 1924 г.), за 17 км на ПдУ ад Клімавіч, 141 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. На У размешчана штучнае вадасховішча, зробленае запрудай на р. Лабжанка (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Касцюковічы, якая праходзіць праз вёску. 308 гаспадарак, 769 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1727 г. сяло ў Крычаўскім старостве ВКЛ. У 1747 г. 20 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1777 г. мястэчка. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 76 двароў, 289 жыхароў. Дзейнічала драўляная царква. У 1816 г. ўласнасць памешчыка. З пач. 19 ст. працаваў вінакурны з-д (у 1819 г. 8 рабочых). У 1861 г. 617 жыхароў. У 1866 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. навучалася 80 хлопчыкаў. Дзейнічала мураваная царква (адкрыта не пазней 1880 г.). Гаспадар маёнтка меў тут у 1867 г. 1342 дзес. зямлі, 2 вадзяныя млыны, піцейны дом. У 1880 г. 78 двароў, 455 жыхароў, меліся вадзяны млын, школа (нар. вучылішча), 9 лавак, мураваная царква, малітоўная школа. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім, кавальскім і кушнерскім промысламі. Штогод 18 студз., 2 мая і 6 жн. праводзіліся таржкі. У 1897 г. 122 двары, 834 жыхары, пачала працаваць крупарушка. Побач знаходзіўся аднайменны фальварак (2 двары, 7 жыхароў). У 1906 г. для школы ўзведзены будынак. У час 1-й рус. рэвалюцыі 1.12.1905 г. сяляне на валасным сходзе патрабавалі бязвыплатнага надзялення іх зямлёй, адмовіліся ад выплаты падаткаў. 28.12.1905 г. яны сілай вызвалілі арыштаванага агітатара, студэнта Маскоўскага ун-та. У 1909 г. мястэчка, цэнтр воласці, 127 двароў, 916 жыхароў, дзейнічала казённая вінная лаўка. На базе дарэв. створана прац. школа 2-й ступені, у якой у 1925 г. было 198 вучняў, дзейнічалі драмгурток, б-ка, гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарос-

лых. У снеж. 1918 г. арганізавана с.-г. т-ва імя Р.Люксембург (22 гаспадаркі, 125 га зямлі), у 1920 г. — т-вы па сумеснай апрацоўцы зямлі «Прагрэс» (50 гаспадарак, 125 га зямлі), «Рэспубліка» (31 гаспадарка). З снеж. 1923 г. працаваў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1923 г. перасяленцы з вёскі стварылі непадалёку пас. Аляксеева (цяпер не існуе). З 20.8.1924 г. цэнтр Раднянскага с/с у Клімавіцкім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1925 г. пачала функцыяніраваць хата-чытальня. У 1926 г. 88 двароў, 471 жыхар, адкрыты фельч.-акушэрскі пункт. Затым пачалі працаваць паштовае аддз., урачэбная амбулаторыя, 7-гадовая школа (248 вучняў, 6 настаўнікаў), б-ка. У 1929 г. створана арцель саматужнікаў (7 чал.). У снеж. 1929 г. арганізаваны калгас «Бальшавік Беларусі», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 622 гаспадаркі з Родні і суседніх вёсак, меў 3584 га ворыўнай зямлі, абслугоўваўся Клімавіцкай МТС. Працавалі нафтавы млын і кузня. У 1932 г. абсталявана стацыянарная кінаўстаноўка, а ў 1934 г. пабудавана ветэрынарная лячэбніца. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі, у скверы, на ўшанаванне памяці 104 жыхароў з вёсак сельсавета, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1969 г. пастаўлена стэла. У 1957 г. электрыфікавана і радыёфікавана.У 1980-я г. ў вёсцы былі фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, механічныя майстэрні, гараж, лясніцтва, лесапільня, ветэрынарны ўчастак, сярэдняя школа (17 настаўнікаў), Дом культуры, б-ка з фондам больш за 14,6 тыс. кніг, бальніца, аддз. сувязі, яслі-сад, сталовая, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, 3 магазіны. У 1967 г. да вёскі далучана в. Пачаеўка. У 1986 г. 235 гаспадарак, 694 жыхары. Цэнтр РСУП «Эксперыментальная база «Раднянскае». Дзейнічаюць дзіцячы сад, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, амбулаторыя, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазіны, аддз. сувязі. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1983 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там горадабудаўніцтва. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц (адна з іх — участак шашы), арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і 2 плаўна выгнутых вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Паралельна і пад вуглом да гэтых падыходзяць другарадныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Забудова на Пн вядзецца мураванымі двухпавярховымі 8-кватэрнымі дамамі. Вакол невялікай плошчы са скверам у цэнтры ўзведзены асн. грамадскія будынкі. На ўсх. ускраіне адасоблена ад забудовы размяшчаецца гасп. сектар. Радзіма лётчыка, малодшага лейтэнанта Л.Г.Бутэліна, які на світанні 22.6.1941 г. адзін з першых у Вял. Айч. вайну тараніў варожы самалёт.

У склад Раднянскага с/с ўваходзяць 30 населеных пунктаў.

**РОСЬКАЎ** — вёска ў Кісялёва-Будскім с/с, за 20 км на Пн ад Клімавіч, 143 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны. На Пн мяжуе з лесам. Па паўд. ускраіне цячэ р. Асцёр (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Стары Дзедзін і далей па шашы Магілёў—Масква. 27 гаспадарак, 52 жыхары (2007).

У 1771 г. вёска ў складзе маёнтка Куляшоўка, уласнасць памешчыка. У 1834 г. ў Клімавіцкім павеце, 22 двары, 158 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 50 двароў, 304 жыхары, адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 54 двары, 440 жыхароў. У 1909 г. 58 двароў, 480 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 36 вучняў. У 1923 г. частка вяскоўцаў перасялілася на былыя памешчыцкія землі і ўтварыла пасёлкі Торчана, Калінін, Ганнаўшчына (цяпер не існуюць). З 20.8.1924 г. ў Хатовіжскім с/с Клімавіцкага р-на Калі-



нінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 81 двор, 521 жыхар. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас «Чырвоны Асцёр». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З крас. 1960 г. ў Кісялёва-Будскім с/с. У 1970 г. 49 гаспадарак, 108 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, уздоўж ракі, ад зах. боку якой на Пн адыходзяць 2 кароткія амаль прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне гасп. сектар.

**РУДНЯ** — вёска ў Лабжанскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Клімавіч, 114 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Лабжанка (прыток Сожа), на Пд праходзяць меліярацыйныя каналы. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лобжа і далей па шашы Барысавічы—Клімавічы. 9 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1747 г. вёска (4 двары) у Крычаўскім старостве ВКЛ, дзярж. ўласнасць, пасесія, меліся карчма, млын. У 1779 г. 7 двароў, 48 жыхароў, уласнасць памешчыка. З 1840 г. дзейнічала сукнавальня. У 1850 г. 13 двароў, 31 жыхар мужчынскага полу. У 1897 г. ў Цімanaўскай вол. Клімавіцкага павета, 25 двароў, 179 жыхароў. Меўся вадзяны млын, дзе быў 1 двор, 10 жыхароў. 29.12.1905 г. сяляне вёсак Лобжа, Лапатавічы і Рудня спалілі памешчыцкі вадзяны млын, разбурылі плаціну на р. Лабжанка ў в. Рудня, забралі памешчыцкае збожжа і маёмасць. У 1909 г. 32 двары, 198 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Гразівецкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 37 двароў, 217 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная горка», які першапачаткова аб'ядноўваў 17 гаспадарак. У 1940 г. 40 двароў, 194 жыхары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 37 двароў, загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1970 г. 23 гаспадаркі, 64 жыхары, свінагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з працяглай, прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар. Радзіма Героя Сац. Працы Г.Г. Нікульскай, якая ў 1952—61 гг. працавала свінаркай саўгаса імя Ф.Э.Дзяржынскага Капыльскага р-на Мінскай вобл.

**РЫСІН** — вёска ў Цімaнаўскім с/с, за 32 км на Пд ад Клімавіч, 156 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Жадунька (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Красавічы і далей па шашы Савінічы—Клімавічы. 19 гаспадарак, 34 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 20 двароў, 133 жыхары. У 2-й пал. 19 ст. непадалёку былі маёнтак, вадзяны млын, сукнавальня. У 1850 г. пачала працаваць крупарушка. 4 памешчыкі мелі ў сяле ў 1877 г. 721 дзес. зямлі, вадзяны млын і сукнавальню. У 1880 г. 28 двароў, 130 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным і сталярным промысламі. У 1897 г. ў сяле 38 двароў, 270 жыхароў, у фальварку 1 двор, 6 жыхароў. У 1900 г. пачаў дзейнічаць вінакурны з-д. У 1909 г. ў сяле 39 двароў, 300 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 28 жыхароў. У 1910 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У жн. 1918 г. створаны культ.-асв. гурток. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 53 вучні. З 20.8.1924 г. вёска ў Красавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 77 двароў, 494 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў Яноўскім, з




1965 г. ў Савініцкім сельсаветах. У 1970 г. 70 гаспадарак, 170 жыхароў. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне гасп. сектар.

**РЭКТА** — вёска ў Гусаркаўскім с/с, за 11 км на У ад Клімавіч, 135 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на У і Пд мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Рэкта (прыток р. Лабжанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Галічы—Клімавічы. 7 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

За 0,4 км на Пн ад вёскі захаваўся курганны могільнік (8 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв., меўся шынок. У 1834 г. ў Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка. З 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, 13 двароў, 78 жыхароў. У 1909 г. 17 двароў, 125 жыхароў. У 1918 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 47 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Судзілаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 32 двары, 140 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, які першапачаткова аб'ядноўваў 29 гаспадарак, меў 207 га ворыўнай зямлі. Працавалі ветраны млын, кузня. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 25 гаспадарак, 55 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, да ўсх. боку якой далучаюцца 2 кароткія вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. На паўн. ускраіне, каля дарогі гасп. сектар.


*Страусавая ферма ў в. Сабалёўка.*

**РЭУТ** — вёска ў Клімавіцкім гарсавеце, за 2 км на З ад Клімавіч, 126 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пд і З мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Лабжанка (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па шашы Барысавічы—Клімавічы, якая праходзіць каля вёскі. 48 гаспадарак, 80 жыхароў (2007).

У 1857 г. в. Рэут (яна ж Вядзернае) у Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. У пач. 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 75 гаспадарак, 189 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд гасп. сектар.

Каля вёскі размешчана Рэуцкае радовішча мелу (разведаныя запасы 10,8 млн. т).

**САБАЛЁЎКА** — вёска ў Раднянскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Клімавіч, 146 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На зах. ускраіне цячэ р. Сабалёўка (прыток р. Лабжанка), на якой зроблена вадасховішча. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Родня і далей па шашы Клімавічы—Касцюковічы. 99 гаспадарак, 270 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1747 г. в. Сабалёўка (яна ж Сабораўка) у Крычаўскім старостве ВКЛ, дзярж. ўласнасць, пасесія. У 1762 г. меўся шынок. У 1785 г. 9 двароў, 54 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1815



г. 19 двароў, 167 жыхароў, у 1858 г. 66 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 24 двары, 161 жыхар. 8 вяскоўцаў займаліся адыходным промыслам. У 1909 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, 30 двароў, 184 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Судзілаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 44 двары, 203 жыхары. У пач. 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Бальшавік Беларусі» (цэнтр — в. Родня). У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З крас. 1957 г. ў складзе саўгаса «Раднянскі» (цэнтр — в. Родня). З 1960 г. ў Раднянскім с/с. У вёсцы размяшчалася птушкафабрыка, якая ў 1971 г. выдзелена з саўгаса ў асобную гаспадарку. У 1970 г. 74 гаспадаркі, 229 жыхароў. Дзейнічаюць філіял Прыдняпроўскай птушкафабрыкі, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Вадасховішча падзяляе вёску на 2 часткі: паўд.-ўсх. (амаль прамалінейная вуліца з завулкамі, арыентавана з ПдЗ на ПнУ уздоўж вадасховішча) і паўд.-зах., дзе размешчаны гасп. і адм. пабудовы птушкафабрыкі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы І.К.Купрыенкі, які будучы камандзірам аддзялення, вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў баях у 1945 г. ва Усх. Прусіі.

**САБАЛЁЎКА** — вёска ў Галіцкім с/с, за 22 км на У ад Клімавіч, 146 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На зах. ускраіне цячэ р. Сабалёўка (прыток р. Лабжанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Стайкі, Недзведзь і далей па шашы Галічы—Клімавічы. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1779 г. вёска (8 двароў, 49 жыхароў) у Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, уласнасць памешчыка. У 1811 г. 25 двароў, 69 жыхароў мужчынскага полу. У 1858 г. пачала дзейнічаць сукнавальня. У 1880 г. 30 двароў, 212 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1887 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1897 г. в. Дзмітрыеўская Сабалёўка (22 двары, 165 жыхароў) у Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, меўся хлебазапасны магазін. Побач былі 2 аднайменныя хутары (па 1 двару) і сяльцо Сабалёўка (яно ж Юзэфава), 1 двор, 12 жыхароў. У 1909 г. ў Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета, у вёсцы 28 двароў, 192 жыхары, на хутары 1 двор, 7 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Пуцімельскім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 45 вучняў. Размяшчалася школа ў нацыяналізаваным будынку. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. в. Дзмітрыеўская Сабалёўка, 43 двары, 229 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Страла», які першапачаткова аб'ядноўваў 17 гаспадарак, у студз. 1932 г. 52 гаспадаркі, меў 515 га ворыўнай зямлі. Працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З ліп. 1954 г. ў Галіцкім с/с. У 1970 г. 17 гаспадарак, 39 жыхароў. Плановачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, нешчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.


*І.К.Купрыенка.*

**САВІНІЧЫ** — былая вёска, у 1965—94 гг. цэнтр Савініцкага с/с (1965—94), за 25 км на ПдЗ ад Клімавіч, 149 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Дзяражня (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Савінічы.

У цэнтры вёскі, за 0,2 км на Пд ад будынка канторы саўгаса, у саўгасным садзе захаваўся курганны могільнік (8 насыпаў). Другі курганны могільнік знаходзіцца за 0,4 км на У ад вёскі, на ўскраіне могілак (2 насыпы). Гэтыя помнікі археа-

логіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Па рукапісных крыніцах вядома з 1552 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, дзярж. уласнасць. У 1777 г. ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1834 г. 129 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. меўся вадзяны млын. У 1880 г. 21 двор, 160 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1897 г. ў Брацькаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, 36 двароў, 239 жыхароў. У 1909 г. 42 двары, 404 жыхары. У гэтым жа годзе была адкрыта земская школа. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў нацыяналізаваным памяшканні, у 1925 г. было 63 вучні. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. ў Студзянецкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.1.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 63 двары, 420 жыхароў. У 1929 г. адкрыта хата-чытальня. 18.6.1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны прамень», працавала маслабойня. 18.6.1929 г. навакольныя невялікія калгасы аб'ядналіся ў калгас «Камунар Магілёўшчыны» з цэнтрам у в. Савінічы, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 546 гаспадарак, меў 2750 га ворыва. Працавалі паравы млын, кузня, мелася ўрачэбная амбулаторыя. У 1929 г. калгас атрымаў грузавы аўтамабіль, у 1933 г. — трактар. Над калгасам шэфствавала Бел. с.-г. акадэмія. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. гітлераўцы загубілі 90 жыхароў в. Савінічы і навакольных вёсак. У 1952 г. абсталяваны радыёвузел і вёска была радыёфікавана, а затым электрыфікавана. У цэнтры, каля будынка канторы саўгаса, на ўшанаванне памяці 238 жыхароў з вёсак сельсавета, якія загінулі на фронце, у 1967 г. пастаўлены абеліск. У 1980-я г. ў вёсцы былі 2 жывёлагадоўчыя фермы, вытв. брыгада, ветэрынарны ўчастак, сярэдняя школа (17 настаўнікаў), клуб, б-ка з фондам звыш 9,5 тыс. кніг, бальніца, аптэка, аддз. сувязі, сталовая, магазін, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, дзіцячы сад. У 1970 г. 130 гаспадарак, 364 жыхары. Адселена пасля катастрофы на ЧАЭС. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1983 г. ў БелНДІдзіпрасельбудзе. Планіровачна складалася з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой падыходзяць з Пн і ПнУ кароткія прамалінейныя вуліцы. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, шчыльна. На З адасоблены ўчастак, забудаваны мураванымі аднапавярховымі аднакватэрнымі дамамі. На вуліцы, якая адыходзіць на Пн, узведзены двухпавярховы 16-кватэрны дом. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Гасп. сектар — на У.

**САКАЛОЎКА** — вёска ў Галіцкім с/с, за 25 км на ПдУ ад Клімавіч, 149 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На Пн і З мяжуе з лесам. За 2 км на ПнУ ад вёскі пачынаецца і праз вёску цячэ р. Крупня (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Завідаўка і далей па шашы Галічы—Клімавічы. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Упершыню ўпамінаецца ў 1727 г. як вёска ў Крычаўскім старостве ВКЛ. У 1747 г. 27 двароў, дзярж. ўласнасць, пасесія. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 19 двароў, 108 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 37 двароў, 225 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. 47 двароў, 307 жыхароў, у 1909 г. 48 двароў, 347 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Галіцкім с/с Мілаславіцкага, з 8.4.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 65 двароў, 408 жыхароў. У канцы 1920-х г. адкрыта пач. школа. У 1930-я г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 26 гаспадарак, 45 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых вуліц, размешчаных на абодвух берагах



ракі і арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, злучаных у цэнтры завулкам. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**СВІРЭЛЬ** — вёска ў Гусаркаўскім с/с, за 4 км на Пн ад Клімавіч, 128 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Праз вёску цячэ р. Сасноўка (прыток р. Асцёр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 42 гаспадаркі, 98 жыхароў (2007).

Засн. ў 1722 г. ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, у 1727 г. было 22 дымы, у 1747 г. 34 дымы, дзярж. уласнасць. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, 40 двароў, 210 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1785 г. 43 двары, 201 жыхар. З пач. 19 ст. працаваў вінакурны з-д (у 1819 г. 12 рабочых). Непадалёку знаходзіўся маёнтак, дзейнічаў вадзяны млын. У 1834 г. 235 жыхароў. У 1847 г. ў вёсцы 33 двары, 240 жыхароў, у фальварку 6 дваравых, цэнтр маёнтка. У 1845 г. засн. сукнавальня. У 1880 г. 43 двары, 358 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходнымі промысламі. Гаспадар маёнтка меў тут 1863 дзес. зямлі, вадзяны млын. У 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 64 двары, 414 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 66 двароў, 494 жыхары, у фальварку 47 жыхароў. У 1910 г. адкрыта царк.-прыходская школа. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Гусаркаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. 10.5.1924 г. створана меліярацыйнае т-ва, дзейнічала масларобчая арцель. У 1923 г. частка вяскоўцаў перасялілася на былыя памешчыцкія землі, утварылі пасёлак і хутар, якія атрымалі назву Свірэль. У пач. 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Праўда» (цэнтр — в. Канахоўка). У 1940 г. 47 двароў, 234 жыхары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 33 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1970 г. 62 гаспадаркі, 149 жыхароў. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1978 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СВІШЧОВА** — вёска ў Гусаркаўскім с/с, за 7 км на Пн ад Клімавіч, 125 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На У мяжуе з лесам. На паўд. ускраіне цячэ р. Сасноўка (прыток р. Лабжанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 25 гаспадарак, 61 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1927 г. пасёлак (26 двароў, 117 жыхароў) у Гусаркаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. Магілёўскай акруг (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 36 гаспадарак, 98 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі з завулкам, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Гусаркаўскім с/с, за 9 км на Пн ад Клімавіч, 133 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На Пд і Пн мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Рагожынка (прыток р. Сасноўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гусарка і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 25 гаспадарак, 47 жыхароў (2007).

За 0,5 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Рагожынка, захаваўся курганны могільнік (3 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 18 ст. У 1780 г. вёска (14 двароў, 102 жыхары) у Хатовіжскай вол.

Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. У 1867 г. ў фальварку, які быў побач, засн. вінакурны з-д (у 1890 г. 9 рабочых), меўся млын. З 20.8.1924 г. ў Гусаркаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 26 гаспадарак, 63 жыхары. Рака падзяляе вёску на 2 часткі: паўн. (кароткая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі) і паўд. (ад прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі адыходзяць на Пд 3 завулкі). Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Галіцкім с/с, за 26 км на У ад Клімавіч, 150 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. На паўн. ускраіне цячэ р. Хацершчына (прыток р. Іпуць). Транспартныя сувязі па шашы Галічы—Клімавічы, якая праходзіць каля вёскі. 11 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

У 1850 г. вёска, 11 двароў, 42 жыхары, у Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. З 20.8.1924 г. ў Пуцімельскім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У снеж. 1918 г. ў былым маёнтку Селішча створана с.-г. т-ва «Усход» (22 гаспадаркі), у крас. 1921 г. — с.-г. арцель «Навінка», якая ў 1925 г. мела 130 га зямлі, аб'ядноўвала 23 гаспадаркі. У 1926 г. 17 двароў, 92 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 20 гаспадарак, 57 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных у цэнтры завулкам. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне гасп. сектар.

**СІДАРАЎКА** — вёска ў Раднянскім с/с, за 14 км на ПдУ ад Клімавіч, 147 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Праз вёску цячэ р. Лабжанка (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Судзілы, Родня і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы. 48 гаспадарак, 110 жыхароў (2007).

У 1816 г. вёска (1 двор, 4 жыхары) у Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. У 1897 г. 44 двары, 239 жыхароў, у Раднянскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 45 двароў, 649 жыхароў. У 1923 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. было 38 вучняў, дзейнічала б-ка. З 20.8.1924 г. ў Судзілаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 41 двор, 297 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Прагрэс», які першапачаткова аб'ядноўваў 46 гаспадарак, у 1932 г. 53 гаспадаркі, меў 238 га ворыўнай зямлі. Працавалі кузня, ветраны млын. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 92 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1967 г. пастаўлены абеліск. Рака падзяляе вёску на 2 часткі: паўд. (амаль прамалінейная вуліца з завулкамі арыентавана з ПдЗ на ПнУ) і паўн. (тры прамалінейныя вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі злучаны завулкамі). Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры паўн. часткі сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**СІНЕЖ** — вёска ў Лабжанскім с/с, за 15 км на З ад Клімавіч, 132 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На зах. ускраіне цячэ р. Бароўка (прыток р. Лабжанка), на У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Лабжанка (прыток Сожа). Транспартныя сувязі



па мясц. дарозе праз в. Лобжа і далей па шашы Барысавічы—Клімавічы. 13 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з суседніх вёсак. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас імя М.Горкага. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.8.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 21 гаспадарка, 54 жыхары. Планіроўка Г-падобная. Да працяглай, плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, на Пн далучаецца з З кароткая, прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне гасп. сектар.

**СКЛІМІН** — вёска ў Мілаславіцкім с/с, за 22 км на ПнУ ад Клімавіч, 146 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Праз вёску на Пд і У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Іпуць (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Макеевічы, якая праходзіць праз вёску. 35 гаспадарак, 67 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1756 г. вёска ў Крычаўскім старостве ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1779 г. 31 двор, 239 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. сяло ў Клімавіцкім павеце, 103 рэвізскія душы, заезны дом. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета, 75 двароў, 482 жыхары. У 1909 г. 81 двор, 553 жыхары, мелася школа граматы. У 1921 г. створана меліярацыйнае т-ва. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. былі 84 вучні. У 1926 г. ў вёсцы разам з хутарамі Кацярэўшчына і Аўчыннікава налічвалася 157 двароў, 949 жыхароў. У сак. 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 120 гаспадарак, меў 622 га ворыўнай зямлі. У 1940 г. 102 двары, 280 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вясковец І.А.Пралыгін быў адным з кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Лідскага р-на ў гады Вял. Айч. вайны, камандаваў партыз. атрадам. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 60 двароў, загубілі 1 жыхара. За 0,5 км на ПдЗ ад вёскі, на вясковых могілках, у брацкай магіле пахаваны сав. воіны, якія загінулі пры вызваленні вёскі. У 1970 г. 90 гаспадарак, 184 жыхары. Аснову планіровачнай структуры складае плаўна выгнутая вуліца амаль шыротнай арыентацыі (адрэзак шашы), ад якой адыходзяць на ПдУ 2 прамалінейныя вуліцы, злучаныя на Пд кароткай прамалінейнай вуліцай, і на ПнЗ 2 прамалінейныя вуліцы, злучаныя ў цэнтры завулкам. На З, за каналам, праходзіць прамалінейная вуліца з завулкам, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры гал. вуліцы сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. На ўсх. ускраіне гасп. сектар. Радзіма бел. пісьменніка, засл. работніка культуры Беларусі П.Н.Кавалёва.

**СЛАБАДА** — вёска ў Высокаўскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Клімавіч, 141 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На Пн і З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Жадунька (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Савінічы, якая праходзіць праз вёску. 24 гаспадаркі, 42 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. як в. Красавіцкая Слабада. З 20.8.1924 г. ў Красавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 43 двары, 276 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 18 вяскоўцаў. З 1960 г. ў Яноўскім, з 1965 г. ў Высокаўскім сельсаветах. У 1957 г. да вёскі далучана в. Гнядзькі. У 1960 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. У 1970 г. 79 гаспадарак, 165 жыхароў. Планіровачна склада-

ецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне гасп. сектар.

**СЛАБАДА** — вёска ў Раднянскім с/с, за 14 км на У ад Клімавіч, 135 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Судзілы і далей па шашы Клімавічы—Касцюковічы. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. в. Слабодка (21 двор, 115 жыхароў) у Раднянскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. З 20.8.1924 г. в. Судзілаўская Слабада ў Судзілаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 19 двароў, 119 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны маяк» (цэнтр — в. Судзілы). У 1931 г. арганізаваны калгас «Іскра», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 22 гаспадаркі, меў 176 га ворыва. У 1940 г. 9 двароў, 18 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 1960 г. ў Раднянскім с/с. У 1970 г. 16 гаспадарак, 28 жыхароў. Планіроўка Г-падобная. Да прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі далучаецца на З кароткая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАЙКІ** — вёска ў Ціманаўскім с/с, за 11 км на Пд ад Клімавіч, 135 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Савінічы, якая праходзіць праз вёску. 15 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, уласнасць езуіцкага касцёла, меўся млын. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 15 двароў, 27 жыхароў, у валоданні каталіцкай царквы. У 1850 г. ў Клімавіцкім павеце, 19 двароў, 124 жыхары, дзярж. уласнасць. Частка вяскоўцаў займалася кушнерскім, калёсным і адыходным промысламі. У 1873 г. непадалёку размясціўся маёнтак. У 1880 г. 22 двары, 143 жыхары. У 1897 г. ў Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета, 34 двары, 232 жыхары. Побач былі піцейны дом і ветраны млын. У гэтым жа годзе адкрыта царк.-прыходская школа. У 1909 г. 36 двароў, 234 жыхары. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. У 1918 г. сяляне вёсак Стайкі і Сямёнаўка сумесна збудавалі памяшканне для школы, у якой у 1925 г. былі 54 вучні. З 20.8.1924 г. ў Ціманаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 49 двароў, 275 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Планіровачна складаецца з працяглай амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне гасп. сектар.

**СТАЙКІ** — вёска ў Галіцкім с/с, за 23 км на У ад Клімавіч, 147 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На З мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне цячэ р. Сабалёўка (прыток р. Лабжанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Недзведзь і далей па шашы Галічы—Клімавічы. 18 гаспадарак, 35 жыхароў (2007).

У 1857 г. вёска ў Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1873 г. 604 дзес. зямлі. У 1880 г. 12 двароў, 68 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 13 двароў, 83 жыхары. Побач быў фальварак (1 двор, 19 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 12 двароў, 114 жыхароў, у фальварку 30 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Пуцімельскім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў



Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 34 двары, 199 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны колас». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1967 г. да вёскі далучылася в. Зялёны Сад. У 1970 г. 40 гаспадарак, 106 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якая на Пд раздвойваецца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**СТАРЫ ДЗЕДЗІН** — вёска ў Кісялёва-Будскім с/с, за 32 км на ПнУ ад Клімавіч, 143 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. На З мяжуе з лесам. На У вёску агінае р. Асцёр (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Масква. 77 гаспадарак, 199 жыхароў (2007).

За 0,1 км на З ад вёскі захаваўся курганны могільнік (10 насыпаў), які належыў радзімічам, адносіцца да 11—13 ст. У 1926 г. каля вёскі быў знойдзены скарб манет, які адносіцца да 980 г. н.э. Усё гэта сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай мінуўшчыне. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 18 ст. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 30 двароў, 218 жыхароў. У 1880 г. 35 двароў, 263 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася адыходнымі промысламі. З 1881 г., калі каля вёскі былі адкрыты запасы мелу, вяскоўцы сталі займацца яго здабычай. У 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 49 двароў, 377 жыхароў. 6.2.1899 г. 40 вяскоўцаў аказалі супраціўленне ўладам пры спробе абмераць вырублены і вывезены імі памешчыцкі лес. Меўся вадзяны млын. У 1909 г. 54 двары, 423 жыхары. Дзейнічала школа граматы. З 20.8.1924 г. ў Кісялёва-Будскім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 57 вучняў. У 1926 г. 85 двароў, 508 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Дзедзін», працаваў вадзяны млын. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. спалена гітлераўцамі. Пасля вайны адбудавана. У цэнтры вёскі, у скверы, на ўшанаванне памяці 136 воінаў-землякоў, якія загінулі ў 1941—45 гг., у 1970 г. пастаўлены абеліск. У 1950 г. пабудавана гідраэлектрастанцыя. У 1951 г. абсталяваны радыёвузел і вёска была радыёфікавана. У 1980-я г. ў вёсцы дзейнічалі паляводчая брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, машынны двор, клуб, б-ка з фондам больш за 9,5 тыс. кніг, 8-гадовая школа (12 настаўнікаў), фельч.-акушэрскі пункт, шавецкая і швейная майстэрні, магазін. У 1986 г. 80 гаспадарак, 131 жыхар. Дзейнічаюць базавая школа, б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1967 г. ў Магілёўскім філіяле Белкалгаспраекта. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай амаль мерыдыянальна і забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Уздоўж паўд. ускраіны ўзведзена 10 мураваных 2-павярховых 2-кватэрных дамоў. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Гасп. сектар — на З. Радзіма бел. пісьменніка П.У.Пруднікава і бел. вучонага, доктара ветэрынарных навук У.Я.Дземідзенкі.

**СТАРЫ СТАН** — вёска ў Мілаславіцкім с/с, за 20 км на ПнУ ад Клімавіч, 145 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На Пд мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Іпуць (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мілаславічы і далей па шашы Макеевічы—Клімавічы. 41 гаспадарка, 98 жыхароў (2007).

Вядома з 1604 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, казённая ўласнасць. У 1779 г. 19 двароў, 120 жыхароў, уласнасць

памешчыка. У 1880 г. 37 двароў, 135 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У 1897 г. ў Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета, 54 двары, 394 жыхары. Мелася царк.-прыходская школа. У 1909 г. 59 двароў, 456 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Мілаславіцкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. У 1926 г. 112 двароў, 674 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Краіна Саветаў», які першапачаткова аб'ядноўваў 39 гаспадарак, у 1932 г. 127 гаспадарак, меў 512 га ворыўнай зямлі. У 1940 г. 136 двароў, 420 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 21 двор, загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У цэнтры вёскі ў 1967 г. ў памяць аб 58 земляках, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, пастаўлены абеліск. У 1970 г. 81 гаспадарка, 180 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 (адна плаўна выгнутая, другая прамалінейная) вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, якія перакрыжаваны кароткімі, прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**СТАРЫЯ ЖАРКІ** — вёска ў Лабжанскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Клімавіч, 134 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На Пд і У мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Палыная (прыток р. Бароўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Новыя Жаркі, Гарадок і далей па шашы Барысавічы—Клімавічы. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. в. Жаркі (15 двароў, 131 жыхар) у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. Мясц. памешчык меў у 1879 г. 1296 дзес. зямлі і карчму. У 1897 г. вёскі Вялікія Жаркі (1 двор, 9 жыхароў, заезны дом) і Жаркі (64 двары, 448 жыхароў, школа граматы) у Дубравіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1902 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая ў 1916 г. пераўтворана ў земскую, размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. ў в. Жаркі 1 62 двары, 380 жыхароў, у в. Жаркі 2 20 двароў, 147 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 60 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Івандарскім, з 21.8.1925 г. Дубравіцкім сельсаветах Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. адна вёска, 63 двары, 230 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пяцігодка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 31 гаспадарку, меў 211 га ворыва. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942 г. каля вёскі партызаны атрада «Алеся» вялі жорсткі бой супраць гітлераўцаў. У 1970 г. 23 гаспадаркі, 49 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай, амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАРЫЯ ПРАНІЧКІ** — вёска ў Кісялёва-Будскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Клімавіч, 147 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. На Пд мяжуе з лесам. На ПнЗ цячэ р. Асцёр (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Новыя Пранічкі і далей па шашы Магілёў—Масква. 14 гаспадарак, 34 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. сяльцо (46 двароў, 106 жыхароў) у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. Памешчык меў тут у 1853 г. 126 дзес. зямлі. У 1897 г. аколіца Пранічкі (58 двароў, 347 жыхароў) у Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета. Меўся піцейны дом. У 1898 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 73 двары, 415 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 48 вучняў. Дзейнічала хата-чытальня. Вёска была падзелена на дзве: Старыя Пранічкі і Новыя Пранічкі. З 20.8.1924 г. ў Кісялёва-Будскім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927



г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1927 г. 17 двароў, 85 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Рабочы» (цэнтр — в. Кісялёва Буда). У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 29 гаспадарак, 81 жыхар. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, амаль прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных на ПнЗ кароткай вуліцай мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне гасп. сектар.

**СУДЗІЛЫ** — вёска ў Раднянскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Клімавіч, 145 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. На ўсх. ускраіне цячэ р. Лабжанка (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Родня і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы. 83 гаспадаркі, 205 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1630 г. сяло, меўся гаспадарскі двор. У 1684 г. с. Судзілавічы ў Мсціслаўскім ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Меўся вадзяны млын. У 1737 г. замест старой пабудавана новая царква. У 1780 г. 25 двароў, 93 жыхары, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1815 г. сяло было ўласнасцю памешчыка. 12 вяскоўцаў у 1880 г. займаліся маслабойным промыслам. У 1881 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1897 г. 124 двары, 654 жыхары, дзейнічаў піцейны дом. Штогод 8 вер. праводзіўся таржок. У 1909 г. 831 жыхар. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 53 вучні. З 20.8.1924 г. да 11.4.1960 г. цэнтр сельсавета Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 139 двароў, 760 жыхароў. 20.5.1929 г. вяскоўцы арганізавалі калгас «Чырвоны Маяк», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 112 гаспадарак, меў 717 га ворыва, працавалі ветраны млын і кузня. У 1931 г. для школы пабудавана памяшканне. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 100 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1967 г. ў цэнтры вёскі, у скверы, пастаўлены абеліск. У 1980-я г. былі размешчаны ферма буйной рагатай жывёлы, 8-гадовая школа (9 настаўнікаў), клуб, магазін, б-ка з фондам больш за 11 тыс. кніг, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. У 1970 г. 101 гаспадарка, 246 жыхароў. Дзейнічаюць базавая школа, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 3 вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ (зах. — прамалінейная, цэнтр. — плаўна выгнутая з завулкамі, усх. — крывалінейная), злучаных завулкамі і мясц. дарогай. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры знаходзіцца сквер. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Гасп. сектар на паўн.-зах. ускраіне. Радзіма Героя Сац. Працы П.М.Судзілоўскага.



*П.М.Судзілоўскі.*

**СУРАЎ** — вёска ў Раднянскім с/с, за 27 км на ПдУ ад Клімавіч, 145 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. На зах. ускраіне цячэ р. Сураў (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Глінчына, Родня і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы. 5 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў 1723 г. ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, у 1727 г. 9 дымоў. У 1762 г. меўся млын. У 1850 г. вёскі Сураў Вялікі (13 двароў, 86 жыхароў) і Сураў Малы (2 двары, 5 жыхароў). У 1854 г. на аднайменным хутары пачала дзейнічаць сукнавальня. Памешчык меў у 1867 г. ў вёсках Сураў, Забялышын і Крупня 3169,5 дзес. зямлі, 3 вадзяныя млыны і 3 сукнавальні. У 1897 г. в. Сураў (24 двары, 204 жыхары) у Раднянскай вол. Клімавіцкага павета. З 20.8.1924 г. ў Малашкавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1927 г. ў вёсцы 33 двары, 218 жы-

хароў, а на хутары, які знаходзіўся непадалёку, 2 двары, 12 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Іскра» (цэнтр — в. Васькоўка). У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 23 гаспадаркі, 53 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне гасп. сектар.

**СЯЛЕЦ** — вёска ў Кісялёва-Будскім с/с, за 29 км на ПнУ ад Клімавіч, 130 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Праз вёску цячэ р. Сялянка (прыток р. Асцёр). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Масква, якая праходзіць праз вёску. 20 гаспадарак, 58 жыхароў (2007).

У 1897 г. аколіца пры Маскоўска-Варшаўскай шашы, у Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 23 двары, 136 жыхароў. У пач. 20 ст. адкрыта школа, у якой у 1907 г. навучаліся 30 хлопчыкаў і 22 дзяўчынкі. У 1909 г. 30 двароў, 207 жыхароў, у заезным доме, які знаходзіўся побач, 3 двары, 20 жыхароў. Меліся драўляная царква (адкрыта не пазней 1880 г.) і казённая вінная лаўка. З 20.8.1924 г. Звянчацкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 35 двароў, 172 жыхары. У 1929 г. арганізавана пчалярская арцель «Пчолка», якая аб'ядноўвала 5 гаспадарак. У пач. 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У 1940 г. 34 двары, 138 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1960—65 гг. у Мілаславіцкім, з 1965 г. ў Кісялёва-Будскім с/с. У 1970 г. 19 гаспадарак, 38 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (частка шашы) з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**СЯМЁНАЎКА** — вёска ў Ціманаўскім с/с, за 11 км на Пд ад Клімавіч, 130 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. На ПнУ цячэ р. Паравалочня (прыток р. Лабжанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ціманава і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. вёска (11 двароў) у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. Гаспадар маёнтка меў у 1834 г. ў вёсках Сямёнаўка і Сабалёўка 589,5 дзес. зямлі, вадзяны млын і сукнавальню. Працаваў вінакурны з-д. У 1880 г. 12 двароў, 55 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам. У 1897 г. ў Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета, 17 двароў, 118 жыхароў. У 1905 г. ў вёсцы адбыліся хваляванні. Вяскоўцы стварылі Савет, вакол якога гуртавалася моладзь. У 1909 г. 16 двароў, 105 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Асмолавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1924 г. створана с.-г. арцель. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 21 гаспадарка, 47 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ уздоўж ракі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Радзіма бел. пісьменніка і кінарэжысёра П.С.Васілеўскага.

**СЯМЁНАЎКА 1** — вёска ў Раднянскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Клімавіч, 148 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Касцюковічы, якая праходзіць праз вёску. 18 гаспадарак, 29 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1766 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, уласнасць памешчыка. У 1780 г. 21 двор, 82 жыхары, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1811 г. 22 двары, 102 жыхары, уласнасць



памешчыка. У 1880 г. 35 двароў, 239 жыхароў. 12 вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У 1897 г. сяло (53 двары, 342 жыхары) і аднайменны хутар (1 двор, 7 жыхароў) у Раднянскай вол. Клімавіцкага павета. У 1909 г. 62 двары, 403 жыхары. У гэтым жа годзе адкрыта царк.-прыходская школа. З 20.8.1924 г. ў Раднянскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 83 двары, 381 жыхар, дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 68 вучняў. У пач. 1930-х г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас, які абслугоўвала Раднянская МТС. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 38 гаспадарак, 86 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, ад якой на З адыходзяць 2 кароткія, прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд адасоблена размешчаны гасп. сектар.

**СЯННАЯ** — вёска ў Лазовіцкім с/с, за 12 км на ПдУ ад Клімавіч, 126 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Уздзеевічы і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

У 1858 г. вёска ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 27 рэвізскіх душ. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, 21 двор, 153 жыхары. У 1909 г. 23 двары, 161 жыхар. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Лазовіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 28 двароў, 151 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, які абслугоўвала Клімавіцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 14 гаспадарак, 28 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТАРАСАВІЧЫ** — вёска ў Мілаславіцкім с/с, за 12 км на ПнУ ад Клімавіч, 136 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Макеевічы, якая праходзіць праз вёску. 14 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Упершыню ўпамінаецца з 1604 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, казённая ўласнасць. У 1727 г. ў Крычаўскім старостве. У 1747 г. 26 двароў, у 1779 г. 24 двары, 178 жыхароў, мелася карчма, з'яўлялася ўласнасцю памешчыка. У 1897 г. 51 двор, 315 жыхароў. У 1900 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1909 г. 57 двароў, 399 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 47 вучняў. Дзейнічаў гуртok па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. ў Склімінскім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 96 двароў, 537 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 105 гаспадарак, меў 528 га ворнай зямлі. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 41 гаспадарка, 99 жыхароў. Ёсць ферма буйной рагатай жывёлы, 8-гадовая школа, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, да якой з Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТОРЧАНКА** — вёска ў Высокаўскім с/с, за 17 км на Пд ад Клімавіч, 140 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На Пд і З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Жадунька (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Высокае і далей па шашы Савіні-

чы—Клімавічы. 26 гаспадарак, 43 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. вёска (14 двароў, 104 жыхары) у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., у 1796—1802 гг. у Чэрыкаўскім павеце Беларускай губ. У 1880 г. 23 двары, 118 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся бандарным і кушнерскім промысламі. У 1897 г. ў Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета, 30 двароў, 238 жыхароў. У 1909 г. 33 двары, 282 жыхары. З 25.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Красавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 55 двароў, 304 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 13 вяскоўцаў. У 1958 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 1960 г. ў Яноўскім, з 1965 г. ў Высокаўскім сельсаветах. У 1970 г. 58 гаспадарак, 140 жыхароў. Планіровачна складаецца з адной дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне гасп. сектар.

**ТОШНА** — вёска ў Высокаўскім с/с, за 15 км на Пд ад Клімавіч, 139 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Аўтухоўка, Красавічы і далей па шашы Савінічы—Клімавічы.

Вядома з 18 ст. У 1780 г. вёска (8 двароў, 42 жыхары) у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., у 1796—1802 гг. у Чэрыкаўскім павеце Беларускай губ. У 1858 г. 7 двароў, 47 жыхароў, дзярж. ўласнасць. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, 16 двароў, 123 жыхары. У 1909 г. 134 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Аўтухоўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 28 двароў, 137 жыхароў. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 2 вяскоўцы. У 1962 г. радыёфікавана, у 1963 г. электрыфікавана. З 1960 г. ў Яноўскім, з 1965 г. ў Высокаўскім сельсаветах. У 1970 г. 9 гаспадарак, 14 жыхароў. Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены двухбакова, няшчыльна, уздоўж кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ.

**ТРАТНЫ КУТ** — вёска ў Мілаславіцкім с/с, за 28 км на ПнУ ад Клімавіч, 152 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На У цячэ р. Магіленя (прыток р. Іпуць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Якімавічы і далей па шашы Макеевічы—Клімавічы. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

У 1858 г. ў Клімавіцкім павеце, 2 двары, 17 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета, 10 двароў, 66 жыхароў. У 1909 г. 9 двароў, 56 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Мілаславіцкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 19 двароў, 95 жыхароў. У пач. 1930-я г. арганізаваны калгас. У 1940 г. да вёскі далучаны пас. Кастрычнік. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 7 гаспадарак, 12 жыхароў. Традыц. драўляныя сял. сядзібы пастаўлены пераважна аднабакова, няшчыльна, уздоўж Г-падобнай вуліцы, арыентаванай шыротна і мерыдыянальна. На паўд. ускраіне гасп. сектар.

**УЗДЗЕЕВІЧЫ** — вёска ў Лазовіцкім с/с, за 10 км на ПдУ ад Клімавіч, 134 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Касцюковічы, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 21 гаспадарка, 28 жыхароў (2007).



Вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Меўся шынок. У 1850 г. ў Клімавіцкім павеце, 27 двароў, 165 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, 40 двароў, 291 жыхар. У 1909 г. 48 двароў, 349 жыхароў. У 1910 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Лазовіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 50 вучняў, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 66 двароў, 392 жыхары. 16.2.1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны прамень», які першапачаткова аб'ядноўваў 34 гаспадаркі. Абслугоўвала калгас Клімавіцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 32 гаспадаркі, 72 жыхары. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных завулкам і забудаваных двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**ФЁДАРАЎКА** — вёска ў Кісялёва-Будскім с/с, за 47 км на ПнУ ад Клімавіч, 170 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Кавалёўка, Звянчатка і далей па шашы Магілёў—Масква. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Вядома з 19 ст. Памешчык меў тут у 1855 г. 996 дзес. зямлі. У 1897 г. фальварак каля ўрочышча Пусташ, у Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. вёска (28 двароў, 229 жыхароў) і аднайменны фальварак (1 двор, 5 жыхароў). З 20.8.1924 г. ў Звянчацкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У пач. 1920-х г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 46 вучняў. 23.10.1923 г. створана меліярацыйнае т-ва. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», які першапачаткова аб'ядноўваў 16, а ў 1932 г. 36 гаспадарак, меў 274 га ворнай зямлі. Працаваў ветраны млын. З 1937 г. калгас абслугоўвала Мілаславіцкая МТС. У 1940 г. 35 двароў, 125 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1942 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1960—65 гг. у Мілаславіцкім, з 1965 г. ў Кісялёва-Будскім сельсаветах. У 1970 г. 14 гаспадарак, 18 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ФЯДОТАВА БУДА** — вёска ў Галіцкім с/с, за 32 км на У ад Клімавіч, 157 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Галічы і далей па шашы Касцюковічы — Клімавічы. 30 гаспадарак, 67 жыхароў (2007).

Засн. ў 1718 г. ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ. У 1748 г. пачала працаваць маслабойня. У 1780 г. 48 двароў, 312 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 44 двары, 294 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім і адыходным промысламі. У 1897 г. ў Забялышынскай вол. Клімавіцкага павета, 63 двары, 445 жыхароў. Мелася школа граматы, якая ў 1906 г. пераўтворана ў земскую. Для школы ў 1911 г. пабудавана памяшканне. У 1909 г. 65 двароў, 504 жыхары. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 68 вучняў. Дзейнічалі б-ка, хата-чытальня. З 20.8.1924 г. ў Галіцкім с/с Мілаславіцкага (з 8.4.1927 г. Клімавіцкі) р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1925 г. створана т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі. У 1929 г. арганізаваны калгас

«Чырвоны пуцілавец», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 76 двароў, меў 688 га ворыўнай зямлі, працавалі кузня і млын. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1941 г. каля вёскі базіраваўся першы партыз. атрад, які быў створаны на Клімаўшчыне (камандзір В.А.Хлябцоў). Ураджэнец вёскі І.С.Салдаценка быў адным з кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Клімавіцкага і Краснапольскага р-наў у Вял. Айч. вайну (камісар 45-га асобнага партыз. атрада «За Радзіму», у чэрв.—вер. 1943 г. сакратар Клімавіцкага падп. райкома КП(б)Б). У 1970 г. 60 гаспадарак, 135 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, перакрыжаваных 3 папярочнымі вуліцамі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне гасп. сектар. Радзіма Героя Сав. Саюза А.З.Петушкова (22.4.1918—25.7.1976), які вызначыўся ў 1943 г. ў баях за вызваленне Кіева.


А.З.Петушкоў.

**ФЯДОТАЎКА** — вёска ў Лазовіцкім с/с, за 13 км на ПдУ ад Клімавіч, 137 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Багданаўка, Грышын і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. вёска (10 двароў, 56 жыхароў) у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1811 г. ўласнасць памешчыка, які меў тут у 1820 г. 112 дзес. зямлі. У 1880 г. 16 двароў, 98 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета, 28 двароў, 174 жыхары. Меўся ветраны млын. У 1909 г. ў вёсцы 24 двары, 154 жыхары, на хутары 2 двары, 21 жыхар. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Аўтухоўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 28 двароў, 180 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас, які абслугоўвала Клімавіцкая, а з 1937 г. — Высокаўская МТС. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў Яноўскім, з крас. 1962 г. ў Лазовіцкім сельсаветах. У 1970 г. 16 гаспадарак, 46 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль шыротна і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне гасп. сектар.

**ХАДУНЬ** — вёска ў Дамамерыцкім с/с, за 19 км на Пн ад Клімавіч, 125 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. На Пн мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне цячэ р. Сасноўка, якая каля цэнтра вёскі ўпадае ў р. Асцёр. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Хатовіж і далей па шашы Магілёў—Масква. 30 гаспадарак, 39 жыхароў (2007).

На паўн. ускраіне вёскі, на левым беразе р. Асцёр, захаваўся курганны могільнік (10 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Па пісьмовых крыніцах вёска вядома з 18 ст. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 50 двароў, 339 жыхароў. У 1880 г. 89 двароў, 497 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным і бандарным промысламі. У 1897 г. 117 двароў, 771 жыхар. Меліся кузня, піцейны дом. У пач. 20 ст. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1907 г. навучаліся 59 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі. У 1909 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 127 двароў, 817 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Хатовіжскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 141 двор, 914 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Серп і молат», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 72 гаспадаркі. Працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1941 г. каля вёскі вяла



ўпартыя абарончыя баі 6-я стралк. дывізія. У 1950 г. ўстаноўлены радыёвузел, вёска была радыёфікавана, а затым і электрыфікавана. У 1970 г. 95 гаспадарак, 155 жыхароў. У 1980-я г. дзейнічалі паляводчая брыгада, фермы свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы, клуб, б-ка з фондам больш за 5700 кніг, магазін. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна ўздоўж рэк, якая на Пн разгаліноўваецца на 3 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

**ХАЛДЗЕЎКА** — вёска ў Раднянскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Клімавіч, 146 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. На З мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне цячэ р. Крупня (прыток р. Жадунька). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Родня і далей па шашы Клімавічы—Касцюковічы. 13 гаспадарак, 35 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1766 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, уласнасць памешчыка. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 12 двароў, 56 жыхароў. У 1850 г. 16 двароў, 126 жыхароў, дзярж. ўласнасць. У 1880 г. 45 двароў, 289 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім і адыходным промысламі. У 1897 г. былі вёскі Халдзееўка 1 (38 двароў, 274 жыхары, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін) і Халдзееўка 2 (15 двароў, 112 жыхароў) у Раднянскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. ў в. Халдзееўка 1 — 44 двары, 306 жыхароў, у в. Халдзееўка 2 — 17 двароў, 137 жыхароў. У гэтым жа годзе адкрыта школа, для якой было адразу пабудавана памяшканне. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 37 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Раднянскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў в. Халдзееўка 1 — 51 двор, 206 жыхароў, у в. Халдзееўка 2 — 22 двары, 105 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камуніст», які першапачаткова аб'ядноўваў 28 гаспадарак. У 1931 г. для школы пабудавана новае памяшканне. У канцы 1930-х г. вёскі Халдзееўка 1 і Халдзееўка 2 склалі адзін населены пункт. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 32 гаспадаркі, 77 жыхароў. Дзейнічалі магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых вуліц (паўд. — працяглая, паўн. — кароткая), арыентаваных з ПнУ на ПдЗ і злучаных у цэнтры завулкам. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне вытв. сектар.

**ХАТОВІЖ** — вёска ў Дамамерыцкім с/с, за 17 км на Пн ад Клімавіч, 125 км ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На У мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Сасноўка (прыток р. Асцёр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Масква. 74 гаспадаркі, 157 жыхароў (2007).

На зах. ускраіне вёскі, каля школы, ва ўрочышчы Курганне, справа ад дарогі на в. Ганнаўка, захаваўся курганны могільнік (7 насыпаў), які належаў радзімічам і датуецца 10—13 ст. За 0,2 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Канчар, каля дарогі на в. Пянькоўка знаходзіцца другі курганны могільнік (11 насыпаў), а на ўсх. ускраіне вёскі — яшчэ адзін (10 курганоў). Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Вядома з 18 ст. У 1771 г. вёска ў складзе аднайменнага маёнтка ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, уласнасць памешчыка. У 1780 г. сяло (50 двароў, 339 жыхароў) у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., у 1796—1802 гг. у Чэрыкаўскім павеце Беларускай губ. Пасля пракладкі ў 1851 г. Маскоўска-Варшаўскай шашы ў сяле размясцілася паштовая станцыя, якая мела 12 коней. У 1858 г. мястэчка, 70 двароў, 249 жыхароў, дзярж. ўласнасць. У 1867 г. засн. вінакурны з-д, на якім у 1819 г. працавалі 12 рабочых. Меліся школа граматы, драўляная царква, малітоўная школа, з 1870 г. дзейнічала крупарушка. Гаспа-

дар маёнтка меў тут у 1879 г. 3530 дзес. зямлі, крупарушку, млын, вінакурны з-д, карчму. У 1880 г. цэнтр воласці. Апрача земляробства местачкоўцы займаліся кавальскім і адыходным промысламі. Побач з мястэчкам знаходзілася аднайменнае сяло, у якім у 1895 г. было 49 двароў, 313 жыхароў, паштовая ст., на сядзібе — вінакурны і піваварны з-ды. У 1895 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1902 г. навучаліся 43 хлопчыкі і 1 дзяўчынка. Дзейнічала таксама царк.-прыходская школа. У 1897 г. ў мястэчку 53 двары, 353 жыхары, 2 кузні, вадзяны млын, 2 заезныя дамы, школа (нар. вучылішча), піцейны дом, 11 лавак, малітоўны дом, 2 разы ў год праводзіліся кірмашы, па нядзелях — таржкі; у сяле 76 двароў, 520 жыхароў, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, царква, у фальварку 1 двор, 10 жыхароў, вінакурны з-д. Мелася паштовае аддз. У 1-ю рус. рэвалюцыю сяляне 4.1.1906 г. прагналі рабочых з вінакурнага з-да і спынілі яго работу. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. да 11.4.1960 г. цэнтр с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 62 вучні. У 1926 г. ў мястэчку 41 двор, 320 жыхароў, у сяле 133 двары, 859 жыхароў. Дзейнічалі 2 вадзяныя млыны, крупарушка. У ліп. 1929 г. арганізаваны калгас «Пралетарская свабода», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 102 гаспадаркі, меў 809 га ворыва. Працавалі калгасная кузня і ваўначоска. У канцы 1930-х г. мястэчка і сяло сталі адным населеным пунктам. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1941 г. каля вёскі вяла ўпартыя абарончыя баі 6-я стралк. дывізія. На ўшанаванне памяці 288 землякоў з вёсак сельсавета, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1967 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. У 1953 г. абсталяваны радыёвузел, вёска была радыёфікавана, а затым і электрыфікавана. У 1980-я г. ў вёсцы дзейнічалі фермы свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы, ветэрынарны ўчастак, лесапільня, клуб, б-ка з фондам у 9448 кніг, фельч.-акушэрскі пункт, паштовае аддз., магазін. У 1986 г. 120 гаспадарак, 275 жыхароў. Дзейнічаюць б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Рака падзяляе вёску на 2 часткі: усх. (працяглая, крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі) і зах. (кароткая крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі, у цэнтры перакрыжавана кароткай прамалінейнай вуліцай). Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**ХАЦЕНЬ** — вёска ў Клімавіцкім гарсавеце, за 3 км на Пн ад Клімавіч, 127 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На ўсх. ускраіне праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Сасноўка (прыток р. Асцёр). Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Крычаў, якая праходзіць праз вёску. 135 гаспадарак, 411 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1747 г. вёска (10 двароў) у Крычаўскім старостве ВКЛ, дзярж. уласнасць, пасесія. У 1785 г. 9 двароў, 67 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1847 г. ў складзе Свірэльскага маёнтка Клімавіцкага павета, 11 двароў, 59 жыхароў. У 1897 г. ў Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета, 25 двароў, 189 жыхароў. У 1909 г. 206 жыхароў. З 20.1.1924 г. ў Дамамерыцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.1.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 39 двароў, 248 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 52 гаспадаркі, 253 жыхары. Дзейнічае ААТ «Клімавіцкі камбінат хлебапрадуктаў». Аснову планіровачнай структуры складае прамалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі (частка шашы), да якой з З далучаюцца завулкі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На



Пд узведзены 4 мураваныя двухпавярховыя 8-кватэрныя дамы.

**ЦАРКОВІШЧА** — вёска ў Дамамерыцкім с/с, за 7 км на Пн ад Клімавіч, 117 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Праз вёску цячэ р. Царкоўка (прыток р. Сасноўка). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Клімавічы, якая праходзіць праз вёску. 25 гаспадарак, 53 жыхары (2007).

Упершыню ўпамінаецца пад 1604 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1747 г. с. Царковічы, 9 двароў, дзярж. ўласнасць, пасесія. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 17 двароў, 103 жыхары, уласнасць памешчыка, у 1796—1802 гг. у Чэрыкаўскім павеце Беларускай губ. Памешчык меў тут у 1873 г. 382 дзес. зямлі і ветраны млын. У 1880 г. 41 двор, 263 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася сталярным і такарным па дрэве промысламі. Мелася драўляная царква (адкрыта не пазней 1880 г.). У 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 42 двары, 275 жыхароў. Мелася школа граматы. У 1909 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 52 двары, 313 жыхароў. Побач былі аднайменныя фальварак (1 двор, 9 жыхароў) і хутар (5 двароў, 36 жыхароў). У 1912 г. адкрыта царк.-прыходская школа, і ў гэтым жа годзе для яе пабудавана памяшканне. З 27.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Дамамерыцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 27 вучняў. Дзейнічалі гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых і б-ка. У 1924 г. створана с.-г. камуна. У 1926 г. 71 двор, 398 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 29 гаспадарак, меў 214 га ворыва. Абслугоўвала калгас Клімавіцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пасля вызвалення, восенню 1943 г. ў вёсцы размяшчаўся вайск. шпіталь. У 1970 г. 63 гаспадаркі, 176 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых вуліц амаль шыротнай арыентацыі, па абодва берагі ракі, злучаных завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне гасп. сектар.

**ЦІМАНАВА** — вёска, цэнтр Ціманаўскага с/с (з 20.8.1924 г.), за 4 км на ПдЗ ад Клімавіч, 130 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. Праз вёску цячэ р. Пераналочная (прыток р. Лабжанка), на якой зроблена вадасховішча. Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Крычаў, якая праходзіць побач з вёскай. 684 гаспадаркі, 1794 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1768 г. сяло і маёнтак у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 71 двор, 517 жыхароў, уласнасць памешчыка. Тут былі драўляная царква, млын. У 1811 г. 92 двары, 340 жыхароў мужчынскага полу. У маёнтку працаваў вінакурны з-д (у 1819 г. 12 рабочых, з 1900 г. паравая машына). Гаспадар маёнтка меў у 1857 г. ў вёсках Ціманава і Муравец 5562,5 дзес. зямлі, 2 млыны і карчму. У 1878 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), для якой у 1912 г. пабудавана памяшканне. Пры школе з 1892 г. функцыяніраваў рамесны клас, рэарганізаваны ў 1908 г. ў ніжэйшую рамесную школу. У 1885 г. цэнтр Клімавіцкага павета, 123 двары, 722 жыхары. Раз у год праводзіўся таржок. У 1897 г. 146 двароў, 997 жыхароў, вятрак, маслабойня, царк.-прыходская школа, 2 хлебазапасныя магазіны, піцейны дом, царква. На сядзібе працаваў вадзяны млын. Апрача земляробства сяльчане займаліся кравецкім, калёсным, сталярным, бандарным, такарным па дрэве, масларобчым і адыходным промысламі. У 1909 г. 140 двароў, 1009 жыхароў. У крас. 1918 г. ў былым маёнтку была арганізавана культурная племянная гаспадарка (саўгас) «Ціманава», якая спецыялізавалася на мясамалочнай жывёлагадоўлі. Займалася яна і пчалярствам. Частка памяшканняў маёнтка была выка-



*Лазня аграгарадка ў в. Ціманава.*

рыстана пад дзіцячы дом, які ў 1920 г. быў пераведзены ў г. Клімавічы. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 90 вучняў, дзейнічаў драмгурток. У маёнтку Амеліна, які быў непадалёку, у 1924 г. была створана с.-г. камуна «Спартак». З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Клімавіцкім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 202 двары, 1172 жыхары. У 1930-я г. пабудаваны інтэрнат, сталовая, клуб, дзіцячыя яслі. Адначасова з саўгасам былі арганізаваны калгас «12 гадоў Кастрычніцкай рэвалюцыі», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 173 гаспадаркі, меў 937 га ворыва, і ў 1931 г. — калгас «Першамайскі», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 195 гаспадарак, меў 1220 га ворыва. Працавалі вадзяны і ветраны млыны, кузня. У 1934 г. ў вёсцы была ўстаноўлена радыёкропка ад Клімавіцкага радыёвузла. У 1940 г. 151 двор, 791 жыхар. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Племянная жывёла з саўгаса (118 галоў) была вывезена ў Тамбоўскую вобл. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 34 двары, загубілі 11 жыхароў. У саўгасе з 23 двароў было спалена 20, загінулі 5 жыхароў. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 328 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1968 г. пастаўлены абеліск. Пасля вызвалення адбудавана, саўгас адноўлены, у 1944 г. атрымаў з усх. раёнаў краіны 120 галоў буйной рагатай жывёлы. У 1956 г. да саўгаса былі далучаны суседнія калгасы «1 Мая», «Радзіма». У 1959 г. да вёскі далучаны пас. Іванаўскі, у 1967 г. — пасёлак саўгаса «Ціманава». У 1970 г. 63 гаспадаркі, 176 жыхароў. У 1980-я г. ў вёсцы апрача цэнтр. сядзібы саўгаса былі размешчаны фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, механічныя майстэрні, Дом культуры, б-ка з фондам больш за 11 тыс. кніг, сярэдняя школа (20 настаўнікаў), сталовая, дзіцячыя сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, гандл. цэнтр, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва. Цэнтр РСУП «Племянны завод «Ціманава». Дзейнічаюць дзіцячы сад, сярэдняя школа, б-ка, Дом культуры, амбулаторыя, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазіны, аддз. сувязі. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1984 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ уздоўж абодвух берагоў вадасховішча. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. вуліцы сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. Гасп. сектар — на зах. і паўн. ускраінах.

У склад Ціманаўскага с/с уваходзіць 15 населеных пунктаў.

**ЦІМОШКІ** — вёска ў Мілаславіцкім с/с, за 30 км на ПнУ ад Клімавіч, 154 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Праз вёску цячэ р. Майленя (прыток р. Іпуць). Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Макеевічы, якая праходзіць праз вёску. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Упершыню ўпамінаецца ў 1604 г. як сяло Крычаўскай вол. ВКЛ, казённая ўласнасць. У 1747 г. 27 двароў. У 1779 г. 28 двароў, 217 жыхароў, дзейнічала сукнавальня, уласнасць памешчыка. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 25 двароў, 205 жыхароў, пачаў працаваць млын. У пач. 19 ст. пабудаваны вінзавод (у 1819 г. 5 рабочых). Гаспадар маёнтка меў тут у 1872 г. 2485 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 15 двароў, 110 жыхароў. У аднайменным фальварку 1 двор, 10 жыхароў. 8.11.1905 г. каля 600 сялян з мяст.



Мілаславічы, вёсак Якімавічы, Цімошкі, Макеевічы, Іллюхіна, Пераваlочня, Лядзешня разбурылі плаціну і млын у маёнтку Макеевічы. У 1909 г. 16 двароў, 108 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Мілаславіцкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1921 г. створана меліярацыйнае т-ва. У 1922 г. ў былым маёнтку створаны с.-г. т-вы па сумеснай апрацоўцы зямлі «Равенства» (14 гаспадарак) і «Чырвоны звон» (27 гаспадарак). У 1926 г. 36 двароў, 201 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас імя СНК БССР. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 17 гаспадарак, 31 жыхар. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі (частка шашы), да якой з Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЦІТАЎКА** — вёска ў Мілаславіцкім с/с, за 14 км на ПнУ ад Клімавіч, 140 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. На Пд і З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Сасноўка). Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Макеевічы, якая праходзіць праз вёску. 26 гаспадарак, 51 жыхар (2007).

Засн. ў 1724 г. ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ. У 1747 г. 40 двароў, дзярж. ўласнасць, пасесія. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, 31 двор, 182 жыхары, меўся млын, уласнасць памешчыка. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 33 двары, 207 жыхароў. У 1834 г. ўласнасць памешчыка. У 1858 г. 61 рэвізская душа. У 1880 г. 20 двароў, 116 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 38 двароў, 249 жыхароў. Дзейнічала царк.-прыходская школа. Побач быў аднайменны фальварак (25 жыхароў, вадзяны млын, сукнавальня). У 1909 г. ў вёсцы 38 двароў, 276 жыхароў, у фальварку 1 двор, 28 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 45 вучняў. З 1920 г. дзейнічала хата-чытальня. З 20.8.1924 г. ў Склімінскім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1919 г. ў былым маёнтку створана камуна «Першамайская», якая ў 1925 г. мела 114 га зямлі. У 1924 г. было створана т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі, якое аб'ядноўвала 22 гаспадаркі. У сак. 1930 г. арганізаваны калгас «Юны камунар», які ў студз. 1932 г. аб'ядноўваў 110 гаспадарак, меў 633 га зямлі, дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 69 гаспадарак, 146 жыхароў. Размешчана ферма буйной рагатай жывёлы, ёсць клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 4 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкамі. Больш працяглая (галоўная) вуліца з'яўляецца часткай шашы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На гал. вуліцы сярод жылой забудовы размяшчаюцца мураваныя грамадскія будынкі. На паўд. ускраіне гасп. сектар. Радзіма Героя Сав. Саюза Дз.М.Цырубіна, які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў баі на тэр. Польшчы ў вер. 1944 г.



*Дз.М.Цырубін.*

**ЧЭПЕЛЬКІ** — вёска ў Гусаркаўскім с/с, за 15 км на У ад Клімавіч, 129 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рэкта і далей па шашы Галічы—Клімавічы. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

У 1897 г. хутар (1 двор, 5 жыхароў) у Раднянскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 5 двароў, 41 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Студзілаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 12 двароў, 81 жыхар. У лютым 1931 г. арганізаваны калгас імя 4-га раённага з'езда

Саветаў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 13 гаспадарак, 34 жыхары. Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай вуліцы шыротнай арыентацыі.

**ШАСЦЁРАЎКА** — вёска ў Кісялёва-Будскім с/с, за 27 км на ПнУ ад Клімавіч, 150 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. На паўд. ускраіне праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Масква, якая праходзіць паблізу ад вёскі. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1780 г. вёска (9 двароў, 51 жыхар) у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. Гаспадар маёнтка меў тут у 1872 г. 156 дзес. зямлі. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся адыходным і ганчарным промысламі. У 1897 г. ў Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета, 23 двары, 117 жыхароў. Побач была аднайменная аколіца, 6 двароў, 46 жыхароў. У 1907 г. адкрыта земская школа. У 1909 г. ў вёсцы 22 двары, 177 жыхароў, у аднайменных фальварках — 2 двары, 9 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 32 вучні. Размяшчалася школа ў нацыяналізаваным памяшканні. З 1924 г. ў Званчацкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6. 1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 42 двары, 234 жыхары. У пач. 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 33 двары, 151 жыхар. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1970 г. 15 гаспадарак, 41 жыхар. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, забудаваных аднабакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШУМОЎКА** — вёска ў Лазовіцкім с/с, за 8 км на ПнУ ад Клімавіч, 132 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. На паўд.-зах. ускраіне цячэ р. Лабжанка (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лазовіца і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць, меўся млын. У 1780 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 21 двор. У 1850 г. 15 двароў, 109 жыхароў, уласнасць памешчыка. Гаспадар аднаго маёнтка меў у 1852 г. 485,5 дзес. зямлі, заезны дом, другога — 116 дзес. зямлі. Дзейнічала драўляная царква (адкрыта не пазней 1880 г.). У 1897 г. ў сяле 4 двары, 24 жыхары, у аднайменнай аколіцы 16 двароў, 80 жыхароў, у фальварку 1 двор, 9 жыхароў, у Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета. У ліп. 1897 г. сяляне аказалі супраціўленне ўладам пры размежаванні зямель на карысць памешчыцы. У 1909 г. ў сяле 5 двароў, 33 жыхары, у аколіцы 16 двароў, 91 жыхар, у фальварку 1 двор, 9 жыхароў. Дзейнічала школа (нар. вучылішча). З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Лазовіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 28 двароў. 147 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны бор», які першапачаткова аб'ядноўваў 12 гаспадарак, абслугоўвала яго Клімавіцкая МТС. У Вял. Айч. вайну ў 1-й пал. жн. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.9.1943 г. 413-й стралк. дывізіяй 50-й арміі Бранскага фронту. У 1970 г. 16 гаспадарак, 38 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**ЮР'ЕВІЧЫ** — вёска ў Мілаславіцкім с/с, за 38 км на У ад Клімавіч, 153 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. На Пд мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Іпуць (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і



далей па шашы Макеевічы—Клімавічы. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Вядома з 1604 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, казённая ўласнасць. У 1780 г. 14 двароў, 130 жыароў, у Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ. У 1897 г. с. Юр'евічы (яно ж Аржаўка), 39 двароў, 216 жыхароў, у Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета. Мелася школа граматы. У 1909 г. 37 двароў, 269 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. ў Макеевіцкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 63 двары, 331 жыхар. У 1929 г. арганізаваны калгас «Працаўнік», які першапачаткова аб'ядноўваў 31 гаспадарку. У 1940 г. 49 двароў, 202 жыхары. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 30.9.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 8 двароў, загубілі 4 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1970 г. 41 гаспадарка, 80 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, працяглай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, ад паўд. канца якой адыходзіць на У другая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне гасп. сектар.

**ЯКІМАВІЧЫ** — вёска ў Мілаславіцкім с/с, за 28 км на ПнУ ад Клімавіч, 138 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Шасцёраўка на лініі Магілёў—Рослаў. Па паўд. ускраіне цячэ р. Іпуць (прыток Сожа). Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Макеевічы, якая праходзіць праз вёску. 12 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1779 г. вёска (22 двары, 186 жыхароў) у Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета, 36 двароў, 233 жыхары. Дзейнічала царк.-прыходская школа. 9.11.1905 г. каля 600 сялян з мяст. Мілаславічы, вёсак Якімавічы, Цімошкі, Макеевічы, Іллюхіна, Пераналочня, Лядзешня разбурылі ў маёнтку Макеевічы плаціну і млын. У 1909 г. 37 двароў, 308 жыхароў у Мілаславіцкай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. З 20.8.1924 г. ў Мілаславіцкім с/с Мілаславіцкага, з 4.8.1927 г. Клімавіцкага р-наў Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 69 двароў, 395 жыхароў. Побач знаходзіліся 2 хутары (28 і 12 двароў, 179 і 55 жыхароў). Дзейнічала пач. школа. 14.1.1931 г. арганізаваны калгас «Рэўваенсавет», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 110 гаспадарак, меў 687 га ворыва, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 37 гаспадарак, 73 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай шыротна, уздоўж шашы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне гасп. сектар. Радзіма Героя Сав. Саюза М.А. Старавойтава (7.6.1923—6.4.1944), які вызначыўся ў баях супраць гітлераўскіх акупантаў у сак. 1944 г. пры фарсіраванні Паўд. Буга ў Адэскай вобл. Украіны.



*М.А.Старавойтаў.*

**ЯКУБАЎКА** — вёска ў Раднянскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Клімавіч, 150 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Асмолавічы на лініі Орша—Унеча. На ўсх. ускраіне цячэ р. Сураў (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Леанполле, Родня і далей па шашы Касцюковічы—Клімавічы. 13 гаспадарак, 29 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць, меўся млын. У 1858 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 111 рэвізскіх душ. У 1880 г. 43 двары, 307 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным і кравецкім промысламі. У 1897 г. ў Раднянскай вол. Клімавіцкага павета, 55 двароў, 397 жыхароў. Меліся царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 67 двароў, 421 жыхар. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 35 вучняў, дзейнічала хатачытальня. З 20.8.1924 г. ў Руднянскім с/с

Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 72 двары, 362 жыхары. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас «Новы шлях». У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1970 г. 46 гаспадарак, 96 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, ад якой на У і З адыходзяць кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне гасп. сектар.

**ЯНОЎКА** — вёска ў Высокаўскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Клімавіч, 140 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На паўн.-ўсх. ускраіне праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Жадунька (прыток р. Дзяражня). Транспартныя сувязі па шашы Клімавічы—Савінічы, якая праходзіць праз вёску. 24 гаспадаркі, 51 жыхар (2007).

Вядома з 18 ст. У 1767 г. мяст. Янаў у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, 26 двароў, дзярж. ўласнасць, меліся царква і карчма. У 1880 г. 23 двары, 168 жыхароў. Частка жыхароў займалася бандарным промыслам. У 1897 г. ў Ціманаўскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., меўся вадзяны млын. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Красавіцкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 58 двароў, 370 жыхароў. У кастр. 1930 г. 14 гаспадарак арганізавалі калгас «Падарунак 12-му Кастрычніку». У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 11 вяскоўцаў. У 1958 г. радыёфікавана, у 1959 г. электрыфікавана. У 1960—65 гг. цэнтр сельсавета. У 1970 г. 45 гаспадарак, 121 жыхар. Планіровачна складаецца з адной прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне гасп. сектар.

**ЯРАШОЎКА** — вёска ў Гусаркаўскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Клімавіч, 135 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Рагажынка (прыток р. Сасноўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пянькоўка і далей па шашы Магілёў—Масква. 12 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Вядома з 1604 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, казённая ўласнасць. У 1722 г. ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ. У 1727 г. налічвала 10 дымоў, у 1747 г. 14 дымоў. Гаспадар аднаго маёнтка меў тут у 1873 г. 1083,3 дзес. зямлі, другога маёнтка ў 1879 г. — 207 дзес. зямлі. У 1880 г. 29 двароў, 187 жыхароў. Частка сяльчан займалася шавецкім і адыходным промысламі. У 1884 г. ў маёнтку адкрыта прадпрыемства па вырабе экіпажаў (у 1900 г. 40 рабочых). У 1895 г. пачаліся заняткі ў царк.-прыходскай школе. У 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 40 двароў, 273 жыхары. Побач былі 3 аднайменныя фальваркі (1 двор, 4 жыхары; 1 двор, 5 жыхароў; 1 двор, 4 жыхары). У 1909 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, у сяле 39 двароў, 342 жыхары, у 3 фальварках 6 двароў, 26 жыхароў. Уладальнікам фальваркаў належалі 373 дзес., усім вяскоўцам — 308 дзес. зямлі. З 26.4.1919 г. ў Клімавіцкім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Гусаркаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой быў перададзены нацыяналізаваны будынак (у 1926 г. 62 вучні). У б. маёнтку Селішча ў 1918 г. створана с.-г. т-ва «Усход» (22 гаспадаркі). Дзейнічала хата-чытальня (адкрыта 15.11.1925 г.). У 1930 г. арганізаваны калгас «Соцземляробства», працавала кузня. У 1940 г. 30 двароў, 126 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захоп-



нікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 3 жыхароў. За 2 км на ПнЗ ад вёскі ў брацкай магіле пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў летам 1941 г. Пасля вайны адбудавана. У 1967 г. да вёскі далучаны пас. Слабада. У 1970 г. 49 гаспадарак, 115 жыхароў. Планіровачна складаецца з зігзагападобнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай мерыдыянальна і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-усх. ускраіне гасп. сектар.

**ЯСНАЯ ПАЛЯНА** — вёска ў Ціманаўскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Клімавіч, 133 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Клімавічы на лініі Орша—Унеча. На З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ціманава і далей па шашы Клімавічы—Крычаў. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1922 г. як пасёлак на месцы былога маёнтка перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1924 г. 14 двароў, 69 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Ціманаўскім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1955 г. да вёскі далучана в. Дзераўшчына. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА


Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 3, воп. 1, спр. 2377; ф. 6, воп. 1, спр. 894, 896, 1350, 1878, 2477; ф. 30, воп. 1, спр. 1324; воп. 2, спр. 1468, 1472, 1623, 1797, 4689, 4693, 6120; ф. 31, воп. 1, спр. 23/19, 75; воп. 2, спр. 60; воп. 3, спр. 11; ф. 34, воп. 2, спр. 37; ф. 42, воп. 1, спр. 730, 942, 1124, 1399, 1756; воп. 2, спр. 3246, 3250—3255, 3259—3261, 3277, 3281, 3283, 3287, 3297, 3402—3405, 3412, 3418; ф. 48, воп. 1, спр. 250, 470, 2123, 2137, 2926, 2928, 5382, 5408; ф. 60, воп. 3, спр. 78; ф. 141, воп. 1, спр. 177; воп. 21, спр. 144; ф. 258, воп. 1, спр. 111; ф. 300, воп. 1, спр. 1; ф. 334, воп. 1, спр. 292, 470, 500, 621; воп. 2, спр. 37, 38; ф. 338, воп. 1, спр. 77, 140, 221, 323; ф. 393, воп. 3, спр. 54; ф. 1024, воп. 1, спр. 831.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 694, воп. 2, спр. 3981, 3982; ф. 1729, воп. 1, спр. 78; ф. 1772, воп. 1, спр. 19; ф. 2014, воп. 1, спр. 102, 1561; ф. 2151, воп. 1, спр. 107—110, 113, 114, 177, 178, 182, 212; ф. 2212, воп. 1, спр. 6, 72.

Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 1355, воп. 1, спр. 713, 714.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу, ф. 30, воп. 2, спр. 30; ф. 577, воп. 19, спр. 246, 262; ф. 822, воп. 11, спр. 873, 884; ф. 1290, воп. 11, спр. 1350, 1375.

Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 459, воп. 1, спр. 2305, 3569.

Городские поселения в Российской империи. Т. 3. СПб., 1863.

Семенов-Тян-Шанский П.П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 3. СПб., 1866.

Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874 г. Вильна, 1874.

Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 2. Могилев, 1884.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889—1890 учебный год. Могилев, 1890.

Фабрично-заводская промышленность России: перечень фабрик и заводов. СПб., 1897.

Памятная книжка Могилевской губернии на 1901 г. Могилев, 1901.

Список фабрик и заводов Европейской России. СПб., 1903.

Россия: полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. СПб., 1905.

Памятная книжка Могилевской губернии на 1905 г. Могилев, 1905.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1905–1906 учебный год. Могилев, 1906.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1907 г. Могилев, 1907.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1909 г. Могилев, 1909.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1911 г. Могилев, 1911.
Ярославцев С.И. Город Климовичи Могилевской губернии. Вильна, 1914.
Статистический ежегодник России 1914 г. Пг., 1915.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1915 г. Вильна, 1915.
Звязда. 1918. 13 жн.
Савецкая Беларусь. 1930. 24 кастр.
БССР: эканоміка-стат. давед. Мн., 1931.
Усе раёны БССР. Мн., 1933.
Матэрыялы да гісторыі мануфактуры Беларусі ў часы распаду феадалізму (1796–1840). Мн., 1934.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР: Вып. 1–2. Мн., 1935.
Сообщения Советского Информбюро. Т. 5. Мн., 1944.
Молот. 1947. 21 окт.
Разгром немецких захватчиков в 1918 году в Белоруссии. Мн., 1949.
Документы и материалы по истории Белоруссии (1900–1917 гг.). Т. 3. Мн., 1953.
Крестьянское движение в России в 1890–1900 гг. М., 1960.
Революционные комитеты БССР: сб. док. и материалов. Мн., 1961.
Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883–1918 гг.). Мн., 1962.
Почанин С.З. Историей обреченные. Мн., 1967.
Борьба за Советскую власть в Белоруссии, 1918–1920 гг. Ч. 1. Мн., 1968.
Рабцэвіч В.Н. Аб чым расказваюць манеты. Мн., 1968.
Польскі С.А. Нарысы геаграфіі гарадоў Беларускай ССР (1917–1941 гг.). Мн., 1973.
Гісторыя Беларускай ССР. Т. 4. Мн., 1975.
Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII–XVIII в.). Мн., 1975.
Беларуская ССР: кароткая энцыкл. Т. 1. Мн., 1978.
Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии 1860–1900. Мн., 1978.
Вишневский А.Ф. Рост численности населения городов Белоруссии во второй половине XIX в. // Вопросы истории. Мн., 1978. Вып. 5.
Чепко В.В. Города Белоруссии в первой половине XIX в. Мн., 1981.
Мелешко В.И. Классовая борьба в Белоруссии во второй половине XVII–XVIII вв. Мн., 1982.
Храналогія гісторыі Беларусі. Мн., 1982.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1. Мн., 1983.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии. Мн., 1984.
Навечно в сердце народном. 3 изд. Мн., 1984.
Административно-территориальное устройство БССР. Т. 1. Мн., 1985.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Могилевская область. 3 изд. Мн., 1988.
Памяць: Клімавіцкі р-н. Мн., 1995.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Мн., 1997.
Республика Беларусь. Т. 4. Мн., 2007.

# КЛІЧАЎСКІ РАЁН

Размешчаны на ПдЗ вобласці. Пл. 1,8 тыс. км². Насельніцтва (2008) 17,8 тыс. чал.; гарадскога 40%. У складзе насельніцтва беларусы (94,1%), рускія (4,1%), украінцы (1%) і інш. Сярэдняя шчыльнасць 10,4 чал. на 1 км². Цэнтр — г. Клічаў. У складзе раёна 139 сельскіх населеных пунктаў, 8 сельсаветаў: Акцябрскі, Бацэвіцкі, Віркаўскі, Ганчанскі, Доўгаўскі, Каўбчанскі, Нясяцкі, Патоцкі. Па тэр. раёна праходзяць чыг. Асіповічы—Магілёў, аўтадарогі Чашнікі—Бобр—Бабруйск, Клічаў—Чачэвічы. Раён пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі 1986 г., у зоне радыяцыйнага кантролю 17 населеных пунктаў.

Утвораны 17.7.1924 г. ў Бабруйскай акрузе. 20.8.1924 г. падзелены на 12 сельсаветаў: Бацэвіцкі, Ваевіцкі, Ганчанскі, Запольскі, Кабылянскі, Каўбчанскі, Клічаўскі, Новамаксімавіцкі, Нясяцкі, Убалацкі, Уладзіміраўскі, Усакінскі. 8.7.1931 г. далучаны Астраўскі, Віркаўскі, Сялібскі, Якшыцкі сельсаветы скасаванага Свіслацкага р-на і Грыбавецкі, Доўгаўскі, Дубнянскі, Ядранаслабодскі сельсаветы скасаванага Чачэвіцкага р-на. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На 1.1.1941 г. ўключаў г.п. Клічаў і 18 сельсаветаў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі 1797 чал., спалілі вёскі Вязень, Дубно, Сялец. У кастр. 1941 — сак. 1942 г. на тэр. раёна створана Клічаўская партыз. зона, адноўлена сав. ўлада. Дзейнічалі Клічаўскі аператыўны цэнтр, Клічаўская ваенна-аператыўная група, Магілёўскі падп. абком КП(б)Б, клічаўскія падп. райкомы КП(б)Б і райвыканком, 2, 4 і 5-я Клічаўскія, 8-я Рагачоўская, 11-я Быхаўская, 61-я партыз. брыгады, 15, 113, 152, 208-ы імя Сталіна, 255, 277, 537-ы партыз. палкі, 25, 115, 252, 257, 258, 260-ы імя Чапаева, 720, 760-ы імя М.Беразоўскага асобныя партыз. атрады; выдавалася падп. газ. «Голас партызана». Вызвалены ў чэрв. 1944 г. воінамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту ў ходзе Бабруйскай аперацыі 1944 г. З 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. ў Магілёўскай абласцях. 25.12.1962 г. раён скасаваны, тэр. далучана да Кіраўскага р-на. 6.1.1965 г. раён адноўлены.

Тэр. раёна ў межах Цэнтральнабярэзінскай раўніны. Пераважаюць высоты 150—165 м, самы высокі пункт — 176 м (за 6 км на ПнЗ ад в. Дубно). Карысныя выкапні: торф, будаўнічыя пяскі, гліны. Сярэдняя тэмпература студз. -7 °С, ліп. 17,9 °С. Ападкаў выпадае 653 мм у год. Найбольшыя рэкі: Бярэзіна і яе прыток Ольса з Нясетай, Друць з прытокам Даўжанка. Глебы дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, тар-

*Уборка кукурузы ў Клічаўскім раёне.*





*Будынак аддзела адукацыі Клічаўскага раёна.*

фяна-балотныя і інш. Каля 58% тэр. раёна займаюць лясы. Пад балотамі 4,2% пл. Заказнікі рэсп. значэння: Астравы Дулебы, ландшафтны — Свіслацка-Бярэзінскі. Помнік прыроды рэсп. значэння — дубова-грабавы лес у Бёрдаўскім лясніцтве.

Сельгасугоддзі займаюць 32% тэр. раёна. Развіваецца малочна-мясная жывёлагадоўля, вырошчваюць збожжавыя і кармавыя культуры. Дзейнічаюць прадпрыемствы харч., лясной і дрэваапрацоўчай, паліўнай прам-сці. Ёсць метэастанцыя. У раёне (2006) агр.-тэхн. каледж, 12 сярэдніх, 6 базавых, 2 пач. школы, 3 муз., 2 школы мастацтваў, дзіцяча-юнацкая спарт. школа, міжшкольны вучэбна-вытв. камбінат, цэнтр пазашкольнай работы, карэкцыйна-развіваючы цэнтр, дзіцячы сац. прытулак, 10 дашкольных, 22 клубныя ўстановы, 18 кінаўстановак, 21 б-ка, 3 бальніцы на 149 ложкаў, 2 амбулаторыі, 20 фельч.-акушэрскіх пунктаў. У раёне 5 рэліг. абшчын, у т.л. 3 праваслаўныя. Выдаецца газ. «Сцяг Саветаў». Ёсць мемарыяльны комплекс у в. Усакіна. Помнікі археалогіі — курганныя могільнікі (вёскі Віркаў, Заполле, Лянёўка, Нясята, Пераколь, Усакіна).

*Клічаўскі тэатр мод «Цукеркі».*



У в. Калінаўка нарадзіўся рэвалюцыянер-нарадаволец І.Я.Грынявіцкі (1856—81), у в. Бацэвічы — вучоны ў галіне геаграфіі, палітычны і дзярж. дзеяч А.А. Смоліч (1891—1938), у в. Альхоўка — Герой Сав. Саюза (1945) П.А.Крыванос (1920—44), у в. Старое Курганне — Герой Сац. Працы А.М.Кудзін (нар. ў 1930).

**КЛІЧАЎ** — горад, цэнтр раёна, за 91 км на ПдЗ ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы, на У цячэ р. Ольса (левы прыток р. Бярэзіна). 7,3 тыс. жыхароў (2008).





*Святочная калона ў г. Клічаў у Дзень Перамогі. 2008 г.*

Знаходкі крамянёвых прылад працы і каменных сякер сведчаць аб тым, што першабытны чалавек жыў на гэтай тэр. яшчэ ў эпоху каменнага веку. З 6 ст. Клічаўшчына была заселена ўсходнеслав. плямёнамі дрыгавічоў, з 12 ст. ў Мсціслаўскім княстве, з 1-й пал. 14 ст. ў складзе ВКЛ. Упершыню ў пісьмовых крыніцах Клічаў упамінаецца як сяло ў акце «Обмена имений Дречих-Лук и Верховья, принадлежавших князю Друцкому-Соколинскому, на имение Соколинское, принадлежавшее Льву Сапеге, с ограничением того и другого» (1592). У гэтым дакуменце гаворыцца: «В селе Кличовъ Васько Никипорович, под ним пулъ службы, платить пулъ копы грошей широких». У 1738 г. сяло (20 гаспадарак) у Любашанскім старостве Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У 1775 г. мястэчка (25 двароў) у Мацеевіцкім войтаўстве Любашанскага староства Аршанскага павета. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1801 г. ў Ігуменскім павеце Мінскай губ.

Пад час вайны 1812 г. жыхары Клічава актыўна ўдзельнічалі ў партыз. барацьбе супраць французскіх войск. Асабліва вызначыўся партыз. атрад пад кіраўніцтвам селяніна Тараса. Мінскі губернатар у справаздачы за 1812—13 гг. пісаў: «Нашэсцем варожых войск хлеб быў патраўлены і патаптаны. Беднасць сялян... яшчэ больш абвастрылася». Каб пракарміцца, сяляне Клічава сплаўлялі лес, выраблялі

*Пры ўездзе ў г. Клічаў.*







*Будынак Белаграпрамбанка ў г. Клічаў.*

*Будынак Клічаўскага лясгаса.*

клёпку, калёсы, шавецкія цвікі з дрэва, распрацоўвалі паклады вапнянку. У 1865 г. ў мястэчку 79 двароў, 427 жыхароў, дзейнічала царква. У 1875 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1891 г. было 29, а ў 1894 г. — 37 вучняў. У 1886 г. ў Даўжанскай вол., 50 двароў, 390 жыхароў, меліся царква, капліца, сінагога, школа, крама, вадзяны млын. У 1894 г. ўзведзены драўляны будынак для царквы. У 1897 г. ў мястэчку 53 двары, 360 жыхароў, вадзяны і 2 ветраныя млыны, школа (нар. вучылішча), царква, піцейны дом, 4 крамы, 2 разы ў год праводзіліся таржкі. У аднайменным сяле — 79 двароў, 539 жыхароў, хлебазапасны магазін, у фальварку — 3 двары, 36 жыхароў. У 1901 г. засн. шклозавод, які вырабляў бутэлькі, аптэчны, хімічны і фарфоравы посуд, меў паравую машыну. Са справаздачы фабрычнага інспектара вядома, што ў 1904 г. на шклозаводзе працавалі 82 чал. У 1913 г. было 90 рабочых. У 1914 г. рабочыя спалілі шклозавод. У 1917 г. ў сяле было 117 двароў, 2550 жыхароў, у фальварку — 1 двор, 55 жыхароў, у мястэчку — 238 двароў, 1130 жыхароў, у маёнтку — 1 двор, 81 жыхар.

Пасля ўстанаўлення сав. улады быў створаны атрад Чырвонай Гвардыі. З лют. да ліст. 1918 г. акупіраваны герм. войскамі. У крас. 1920 г. на тэр. Клічаўшчыны праходзілі жорсткія баі паміж 16-й арміяй Зах. фронту і 4-й польскай арміяй. Каля Клічава размяшчаўся штаб 16-й арміі (камандуючы М.В.Салагуб). З 17.7.1924 г. Клічаў — раённы цэнтр Баб-



*Паляўнічая брыгада Клічаўскага лясгаса.*



*Будынак Клічаўскага райвыканкома.*







Мікрараён Клічава.

Дом культуры ў г. Клічаў.

руйскай акругі. У жн. 1924 г. адбылася 1-я раённая парт. канферэнцыя, якая абрала Клічаўскі райком КП(б)Б. У хуткім часе адбыўся раённы з'езд Саветаў, які выбраў першы склад райвыканкома. 8.12.1924 г. створана с.-г. крэдытнае т-ва «Чырвоная Беларусь». У гэтым жа годзе пачаў дзейнічаць нар. дом. На базе дарэв. створана прац. школа 2-й ступені, для якой у 1927 г. пабудавана памяшканне. З 1927 г. пачала дзейнічаць метэаралагічная станцыя. У 1930 г. на базе дробных прадпрыемстваў створаны райпрамкамбінат, у які ўваходзілі Клічаўская піларама, цэх ганчарных вырабаў у Бацэвічах, паравы і вадзяны млыны ў Доўгім і іншыя прадпрыемствы. У 1930 г. арганізаваны калгас «Наша праца». У 1931 г. адкрыты вячэрняя школа для дарослых і дзіцячая пляцоўка. У 1933 г. ў склад прам. камбіната быў уключаны торфазавод «1 Мая». У 1932 г. арганізаваны леспрамгас з цэнтрам у Клічаве. З 27.9.1938 г. гар. пасёлак у Магілёўскай вобл. У 1940 г. працавалі маслазавод, 2 хлебазаводы, райпрамкамбінат, шавецкая, кравецкая і кандытарская арцелі, з-д безалкагольных напіткаў, меліся тэлеф.-тэлегр. станцыя, пошта, радыёвузел, Дом культуры, раённая б-ка, леспрамгас, лясгас, сталовая, сярэдняя школа, паліклініка. У Вял. Айч. вайну 5.7.1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Патрыёты, пакінутыя для падп. работы, ужо 14.7.1941 г. на адкрытым парт. сходзе выбралі бюро падп. райкома на чале з Я.І.Зайцам і парт. тройку па кіраўніцтве партыз. рухам (Я.І.Заяц,



Сярэдняя школа № 1 у г. Клічаў.



Клічаўская гарадская бібліятэка.

П.М.Вікторчык, І.З.Ізох). У канцы 1941 — пач. 1942 г. партызаны знішчылі ўсе гітлераўскія паліцэйскія гарнізоны ў раёне, а 20.3.1942 г. сіламі 128, 277, 620 і 752-га партыз. атрадаў быў вызвалены г.п. Клічаў. Для кіраўніцтва Клічаўскім партыз. злучэннем быў утвораны Клічаўскі аператыўны цэнтр. Яго афармленне пачалося 3.4.1942 г., калі камандаванню 208-га партыз. атрада (камандзір У.І.Нічыпаровіч) былі падпарадкаваны 128, 277, 620, 757, 760-ы партыз. атрады і фактычна ўзнікла Клічаўскае партыз. злучэнне. На працягу 1942 г. да яго былі далучаны і іншыя атрады. 27.9.1942 г. выйшаў першы нумар клічаўскай падп. раённай газ. «Голас партызана». У ліст. 1942 г. партыз. атрады аб'ядналіся ў 6 брыгад, у лют. 1943 г. сфарміраваны яшчэ 4 брыгады. У ліп. 1943 г. на базе 277, 278, 115, 25-га (Клічаўскага) партыз. атрадаў была створана Клічаўская ваенна-аператыўная група. Кіраўнікі групы: сакратары Клічаўскага падп. райкома партыі Я.І.Заяц і П.М.Вікторчык, камандзір І.З.Ізох, нач. штаба І.А.Баранаў. З чэрв. 1942 г. партызаны падтрымлівалі пастаянную радыёсувязь, а з ліп. 1942 г. і авіясувязь з Вялікай зямлёй. Дзейнічаў партыз. аэрадром. У ліп.—жн. 1942 г. пад час правядзення буйных карных аперацый гітлераўцы стварылі ў некалькіх вёсках раёна свае гарнізоны і захапілі Клічаў. Акупанты поўнасцю спалілі і зруйнавалі раённы цэнтр, загубілі 504 жыхароў. Канчаткова вызвалены 28.6. 1944 г. 348-й стралк. дывізіяй Чырвонай Арміі і 537-м партыз. палком у ходзе Бабруйскай аперацыі. З 1944 г. ў Бабруйскай, з 1954 г. ў Магілёўскай абласцях. У 1962—65 гг. у складзе Кіраўскага р-на. Адразу пасля вызвалення была адноўлена тэлеф. і тэлегр. сувязь. Да пач. 1945 г. былі адноўлены райпрамкамбінат, кравецкая і шавецкая арцелі, бандарна-сталярны цэх і млын пры Клічаўскім лясгасе. Аднавіла выхад раённая газ. «Сталінская праўда», пачалі працаваць раённая бальніца, жаночая і дзіцячая кансультацыі. У вер. 1951 г. адкрыты Дом культуры. Пачалі дзейнічаць музей нар. славы (з 10.8.1969), сярэдняя школа № 2, дзіцячы сад-яслі, гасцініца. У 1963 г. адкрыты тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі, на базе якога, а таксама саўгасаў «Зара» і



*Будынак Клічаўскага аграрна-тэхнічнага каледжа.*



*Курган Славы ў г. Клічаў.*





*Гарадскі парк у г. Клічаў.*

«Красінскі», у 1974 г. створаны Магілёўскі саўгас-тэхнікум. У 1968 г. ў склад гар. пасёлка ўвайшлі вёскі Яўсцешына і Маркаўшчына. У 2000 г.п. Клічаў стаў горадам. У 2006 г. ў горадзе прадпрыемствы харч. (кансервавы з-д, філіял Асіповіцкага малочнага камбіната), дрэваапрацоўчай галін прам-сці; лясгас, леспрамгас, камбінат каап. прам-сці, райплемстанцыя, дарожныя, рамонтныя і будаўнічыя арг-цыі, метэастанцыя; Клічаўскі агр.-тэхн. каледж, 3 сярэднія і 1 пач. шко-



*Вучні профільнага класа Міністэрства па надзвычайных сітуацыях адной з сярэдніх школ горада.*



Г.А.Васілеўская.

ла, школы мастацтваў і дзіцяча-юнацкая спарт., 3 дзіцячыя сады, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, 2 б-кі, Дом культуры, кінатэатр, цэнтр пазашкольнай работы, стадыён, камп'ютэрны клуб; тэр. цэнтр сац. абслугоўвання насельніцтва, бальніца, паліклініка, 2 аптэкі, цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, гасцініца, камбінат быт. абслугоўвання, аддз. сувязі, Клічаўскі краязнаўчы музей, царква. Брацкая магіла чырвонаармейцаў, якія загінулі ў грамадз. вайну; брацкая магіла сав. воінаў і партызан, загінуўшых у Вял. Айч. вайну, магілы ахвяр фашызму. Помнікі: у гонар партызан, на месцы першага ў Беларусі партыз. аэрадрома, курган Славы ў гонар партызан і воінаў-вызваліцеляў.

Кафэ «Усяслаў» у г. Клічаў.



Вуліца Ленінская ў г. Клічаў.



Архіт.-планіровачная структура горада вызначаецца прамавугольнай сеткай кварталаў, дзе дамінуюць аднапавярховыя драўляныя жылыя дамы сядзібнага тыпу. Забудову цэнтр. часткі горада складаюць вуліцы Ленінская (галоўная), Крываноса, Савецкая (забудаваны 2—5-павярховымі жылымі дамамі). На скрыжаванні вуліц Ленінскай і Крываноса склалася цэнтр. плошча. На З ад цэнтра размешчана вучэбная база Магілёўскага саўгаса-тэхнікума са стадыёнам. Зона адпачынку — лесапарк імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка. Генплан 1979 г. прадугледжвае развіццё горада ў паўд.-зах. напрамку, функцыянальнае заніраванне тэр., стварэнне ў цэнтры горада мемарыяльнай зоны.

Радзіма бел. пісьменніцы Г.А.Васілеўскай (нар. ў 1927 г.).

**АКЦЯБРСК** (да 30.7.1964 г. Кабылянка) — вёска ў Акцябрскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Клічава, 110 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Нясета (прыток р. Ольса), на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Нясета. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Чаравач, Дзмітраўка 2 і далей па шашы Клічаў—Беразіно. 59 гаспадарак, 140 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 19 ст. купцом Кабыліным. У 1814 г. пабудавана драўляная царква. У 1885 г. сяло (21 двор, 222 жыхары) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Меўся вінакурны з-д. У 1894 г. адкрыта царк.-прыходская школа, да якой у 1901 г. пабудавана памяшканне. У 1897 г. 77 двароў, 408 жыхароў, дзейнічалі хлебазапасны магазін, крама, 2 разы ў год праводзіліся таржкі. Побач былі аднайменны выселак (7 двароў, 50 жыхароў, заезны дом) і маёнтак (46 жыхароў, вінакурны з-д). У 1908 г. ў сяле 63 двары, 499 жыхароў, у маёнтку 38 жыхароў. У 1917 г. ў сяле 60 двароў, 344 жыхары, у маёнтку 74 жыхары. У пач. 1920-х г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. быў 41 вучань. Дзейнічаў віна-



курны з-д. У 1925 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 96 двароў, 697 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Іскра». У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вёска і яе наваколле былі месцам базіравання партыз. атрадаў. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У пасляваенны час да 1965 г. цэнтр сельсавета. У 1950—80-я г. ў складзе калгаса імя Э.Тэльмана (цэнтр — в. Стары Востраў). У 1990 г. 70 гаспадарак, 182 жыхары, размешчаны базавая школа, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, злучаных 2 завулкамі. На У размешчана яшчэ адна прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі, на Пн — гасп. сектар.

**АЛЬХОЎКА** — вёска ў Патоцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад Клічава, 110 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Суша на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам, на зах. ускраіне цячэ р. Ваданоска (прыток р. Сушанка), на Пд праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Суша, Патока і далей па шашы Клічаў—Беразіно. 14 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 20 ст. У 1921 г. хутар (5 двароў, 26 жыхароў) у Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. З 20.8. 1924 г. ў Клічаўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі, з 10.7.1938 г. ў Дзмітраўскім с/с Клічаўскага р-на Магілёўскай вобл., з 1958 г. ў Патоцкім с/с. Вяскоўцы актыўна ўдзельнічалі ў будаўніцтве чыгункі Асіповічы—Магілёў, якое вялося ў 1926—31 гг. У 1930 г. сяляне вёсак Суша і Альхоўка арганізавалі калгас «Аўрора». У 1940 г. 25 двароў, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вяскоўцы ўдзельнічалі ў партыз. барацьбе, дапамагалі нар. мсціўцам здабываць разведвальныя звесткі, вопратку і харчаванне. У жн. 1942 г. ў час карнай экспедыцыі «Арол» акупанты поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў, маёмасць разрабавалі. Вызвалена 28.6.1944 г. Пасля вайны адбудавана. У 1950—80-я г. ў складзе саўгаса «Клічаўскі» (цэнтр — в. Патока). У 1990 г. 26 гаспадарак, 47 жыхароў. Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма Героя Сав. Саюза П.А.Крываноса (1920—44), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў баях па ліквідацыі варожай групіроўкі пад Віцебскам. Яго імем названа вуліца і сярэдняя школа ў Клічаве.



*П.А.Крыванос.*

**АЛЯКСАНДРАЎКА** — вёска ў Ганчанскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Клічава, 72 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Вонічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, абкружана лесам. Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Чачэвічы, якая праходзіць побач з вёскай. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Засн. ў канцы 19 ст., калі выхадцы з в. Цейкавічы пасяліліся тут на выкупленай у памешчыка зямлі. Ад імя першага пасяленца — Аляксандра Трацэўскага і паходзіць назва вёскі. У 1897 г. хутар Аляксандраўка (ён жа Аўдзюха) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 4

*Пчальнік у в. Альхоўка.*






двары, 31 жыхар. У пач. 1920-х г. створана т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі, у 1933 г. — калгас імя Р.Люксембург. З 20.8.1924 г. ў Ганчанскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі, з 26.7.1930 г. ў Клічаўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1934 г. адкрыты яслі. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вяскоўцы актыўна ўдзельнічалі ў партыз. руху. Паблізу вёскі працяглы час базіраваўся 538-ы партыз. атрад. Гітлераўцы спалілі вёску, разрабавалі маёмасць. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1950—80-я г. ў складзе саўгаса «Ганчанскі» (цэнтр — в. Гонча). У 1990 г. 19 гаспадарак, 31 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, паралельна да шашы і забудаванай аднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЛЯКСЕЕЎКА** — вёска ў Патоцкім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Клічава, 101 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Турчанка (прыток р. Нясета). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дзмітраўка 1, Дзмітраўка 2 і далей па шашы Клічаў — чыг. ст. Нясета. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў канцы 19 ст. перасяленцамі з навакольных вёсак, якія купілі тут у памешчыка зямлю. У 1897 г. засценак (20 двароў, 129 жыхароў) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1907 г. 11 двароў, 99 жыхароў, у 1917 г. 12 двароў, 93 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.8.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 10.7. 1939 г. ў Дзмітраўскім с/с. У 1921 г. адкрыта 4-гадовая школа. У 1926 г. 22 двары, 113 жыхароў. У 1933 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Зорка» (цэнтр — в. Дзмітраўка 1). Калгас абслугоўвала Красінская МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 29.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. З 1965 г. ў Патоцкім с/с. У 1950—80-я г. ў складзе саўгаса «Клічаўскі» (цэнтр — в. Патока). У 1990 г. 23 гаспадаркі, 37 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

*Аграгарадок у в. Арэхаўка.*



**АРЭХАЎКА** (да 17.7.1967 г. Старая Арэхаўка і Новая Арэхаўка) — вёска ў Нясяцкім с/с, за 13 км на З ад Клічава, 105 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Нясята, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Беразіно. 362 гаспадаркі, 1019 жыхароў (2007).

У 1838 г. вёска (142 рэвізскія душы) у Бабруйскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 74 двары, 477 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. Раз у год, 9 мая, праводзілася вясковае свята. Побач былі аднайменныя маёнтак (38 жыхароў) і фальварак (1 двор, 5 жыхароў). У 1908 г. вёскі Арэхаўка (81 двор, 636 жыхароў) і Новая Арэхаўка (32 двары, 218 жыхароў). У 1911 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1917 г. ў Старой Арэхаўцы 86 двароў, 533 жыхары, у Новай Арэхаўцы 38 двароў, 312 жыхароў. Найбольш урад-





*Дом культуры ў в. Арэхаўка.*

лівыя землі належалі памешчыку Іодку (1726 дзес.).

У 1919 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 89 вучняў. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 4.9.1923 г. арганізавана с.-г. арцель «Дубрава». У 1926 г. ў Старой Арэхаўцы 128 двароў, 683 жыхары, у Новай Арэхаўцы 64 двары, 357 жыхароў. У 1927 г. вяскоўцы пабудавалі для школы новае памяшканне. У 1940 г. 117 двароў, 365 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Многія вяскоўцы адразу ўключыліся ў партыз. барацьбу. У пач. 1942 г. гітлераўскі гарнізон, які размясціўся ў вёсцы, быў разгромлены. У вер. 1943 г. ў час карнай экспедыцыі акупанты спалілі 110 дамоў, расстралялі 9 жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. У 1950—80-я г. цэнтр саўгаса «Добраахвотнік». У 1990 г. 357 гаспадарак, 952 жыхары. У 2007 г. цэнтр КСУП «Саўгас «Добраахвотнік»; магазін, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, муз. школа, аддз. ашчаднага банка, бальніца, аддз. сувязі, бутэрбродная. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых, амаль паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных на Пд завулкам. На Пн



*Школа мастацтваў у в. Арэхаўка.*

ад гал. вуліцы адыходзіць прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы на паўд.-зах. ускраіне, каля шашы. Тут жа, адасоблена, размешчаны гасп. сектар, за 1,5 км на ПдЗ ад вёскі — жывёлагадоўчы комплекс.

**АСАВЫ** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Клічава, 110 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПдУ мяжуе з лесам. На З цячэ р. Лень (прыток р. Бярэзіна). 17 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Знаходкі каменных прылад працы і рэшткаў ляпнога глінянага посуду сведчаць аб тым, што гэта тэр. была заселена яшчэ ў эпоху каменнага веку. З 8 ст. тут жылі слав. плямёны дрыгавічоў, ад якіх засталіся курганныя могільнікі. Вёска вядома з 19 ст. У 1897 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 29 двароў, 241 жыхар. Меўся ветраны млын. Штогод 1 кастр. праводзілася вясковае свята. Побач быў фальварак Асавы (ён жа Заякуб'е), 1 двор, 19 жыхароў. У 1908 г. 49 двароў, 340 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 55 двароў, 434 жыхары, у фальварку 1 двор, 44 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Бацэвіцкім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоны партызан». У 1940 г. 91 двор, 231 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 8 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны партызаны, якія загінулі ў баях супраць акупантаў; на зах. ускраіне пахаваны 79 жыхароў вёскі, якіх жывымі спалілі гітлераўскія карнікі летам 1942 г. У час вайны загінуў кожны другі жыхар вёскі. Пасля вайны адбудавана. У 1950—80-я г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы). У 1991 г. 52 гаспадаркі, 75 жыхароў. Планіровачна складаецца з 3 узаемна перпендыкулярных вуліц, гал. з якіх арыентавана з ПдЗ на ПнУ. На Пн адасоблена праходзіць яшчэ адна невялікая вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АСІНАЎКА** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Клічава, 108 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Нясета (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Селішча, чыг. ст. Нясета і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 73 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Дзмітраўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай, з 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Магілёўскай абласцях. З 25.12. 1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах, з 20.9.1944 г. ў Нясяцкім с/с. У 1933 г. арганізаваны калгас «Камунар», які з 1934 г. абслугоўваўся Нясяцкай МТС. Дзейнічалі пач. школа, хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы разрабавалі маёмасць, разбурылі і спалілі амаль палову будынкаў. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана, у 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1950—80-я г. ў складзе саўгаса «Добраахвотнік». У 1990 г. 14 гаспадарак, 20 жыхароў. У 2007 г. ў складзе КСУП «Саўгас «Добраахвотнік». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай пераважна аднабакова індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АСТАПАЎКА** — былая вёска ў Клічаўскім пас. Савецe, за 7 км на ПдУ ад



Клічава, 99 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На ПдУ цячэ р. Перасека (прыток р. Перасопенка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Бёрда, Клічаўскія Пасёлкі і далей па шашы Клічаў—Бабруйск.

Засн. ў 1919 г. перасяленцамі з в. Бёрда. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Да 16.7.1954 г. ў Ваевіцкім, з 16.7.1954 г. ў Бёрдаўскім сельсаветах. У 1940 г. 12 двароў, 39 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Уваходзіла ў зону актыўных дзеянняў партыз. атрадаў. У жн. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў. Вызвалена 30.6. 1944 г. часцямі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. У 1950—80-я г. ў складзе калгаса «Уперад да камунізму» (цэнтр — в. Бёрда). У 1990 г. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў. Сял. сядзібы традыц., драўляныя.

**БАБОЎКА** (да 1917 г. Дварэц) — вёска ў Ганчанскім с/с, за 18 км на ПнУ ад Клічава, 74 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Вонічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. На У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Суша (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Чачэвічы, якая праходзіць побач з вёскай. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў 1907 г., калі на выкупленай у памешчыка зямлі пасяліліся некалькі сямей з суседніх вёсак. У 1908 г. пасёлак у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 7 двароў, 49 жыхароў. У 1917 г. 11 двароў, 63 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. вёска, 13 двароў, 54 жыхары. У жн. 1931 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Барэц». У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вяскоўцы актыўна ўдзельнічалі ў партыз. руху. Вызвалена 30.6.1944 г. часцямі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1950—80-я г. ў складзе саўгаса «Ганчанскі» (цэнтр — в. Гонча). У 1990 г. 20 гаспадарак, 32 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАРКІ** — вёска ў Ганчанскім с/с, за 16 км на У ад Клічава, 76 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Суша на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн і У мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Суша (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Убалацце і далей па шашы Клічаў—Гарадзец. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Утворана ў 2-й пал. 19 ст. выхадцамі з Пагосцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., якія купілі зямлю ў памешчыка і перасяліліся сюды. У 1897 г. вёска ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 30 двароў, 193 жыхары. У 1908 г. 37 двароў, 453 жыхары. У 1911 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1917 г. 41 двор, 242 жыхары. Да 1924 г. ў складзе Даўжанскай вол. Ігуменскага павета. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой у 1924 г. быў перададзены нацыяналізаваны будынак. У 1923 г. ў школе 31, у 1925 г. — 49 вучняў. У 1926 г. ў вёсцы 41 двор, 263 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новы свет». У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вяскоўцы актыўна ўдзельнічалі ў партыз. руху. Вызвалена 30.6.1944 г. У 1950 г. абсталяваны радыёвузел, вёска радыёфікавана, затым электрыфікавана. У 1950—80-я г. ў складзе саўгаса «Ганчанскі» (цэнтр — в. Гонча). У 1990 г. 26 гаспадарак, 36 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАЦЭВІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета (з 20.8.1924), за 15 км на ПдЗ ад Клічава, 117 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст.

Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна), а праз вёску — яе прыток р. Нясета. Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Бабруйск, якая праходзіць праз вёску. 307 гаспадарак, 788 жыхароў (2007).

З 8 ст. тут жылі дрыгавічы, аб чым сведчыць курганны могільнік каля вёскі. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца пад 1560 г. як сяло ў Свіслацкай вол. ВКЛ, 46 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1689 г. ў складзе маёнтка Свіслач Мінскага павета Мінскага ваяв. У 1743 г. сяло ў Аршанскім павеце, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі, цэнтр воласці Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1844 г. цэнтр маёнтка ў Бабруйскім павеце, 51 двор, 283 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1865 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1891 г. навучалася 47 хлопчыкаў. Для школы ў 1907 г. пабудавана памяшканне. У 1885 г. меліся 2 млыны, царква. У 1892 г. ў маёнтку засн. вінакурны і лесапільны з-ды (у 1895 г. 13 рабочых, дзейнічала паравая машына). У 1897 г. 87 двароў, 629 жыхароў, прыёмны пакой, хлебазапасны магазін, 3 крамы, заезны дом, штогод 29 чэрв. праводзіўся таржок. У маёнтку ў гэты час было 7 двароў, 57 жыхароў, вінакурны з-д. У час рэвалюцыі 1905 г. ўзнікла падп. с.-д. група, якой кіраваў рабочы Гарэлік з Бабруйска. Гэта група была раскрыта, а яе члены Хруцкі, Пятровіч, Гарэлік і інш. арыштаваны. У 1908 г. ў сяле 77 двароў, 668 жыхароў, у маёнтку 64 жыхары. У 1915 г. адкрыта земская бальніца. У 1917 г. ў сяле 139 двароў, 903 жыхары. Усе прадпрыемствы і да 1500 дзес. зямлі належалі памешчыку. Вял. зямельны надзел быў у валоданні царквы. Сяляне займаліся саматужнымі промысламі і дробным гандлем. У 1920 г. ў маёнтку была створана нар. гаспадарка, якая мела 358 га зямлі. Працавалі паравы млын, вінакурны з-д, лесапільня. У 1921 г. арганізаваны саўгас імя К.Маркса, які ў 1924 г. атрымаў першы трактар. У 1930-я г. палітаддзел саўгаса выпускаў шматтыражку «Сцяг ударніка». У 1922 г. адкрыта хата-чытальня. Да вёскі ў 1923 г. быў далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі, а 4.9.1923 г. створана с.-г. арцель. 27.12.1923 г. ў маёнтку пачала дзейнічаць масларобчая арцель. У 1928 г. працавалі невялікая электрастанцыя, лакамабіль на торфе, млын, вінзавод, маслабойня. Мелася бальніца. У 1931 г. ў саўгасе (уваходзіў у Магілёўскі свінагадоўчы трэст) было 14 трактароў. Працавалі 4-гадовая і 7-гадовая школы. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1932 г. абсталявана стацыянарная кінаўстаноўка. Пад час падзелу памешчыцкай і царк. зямлі каля Бацэвічаў узніклі пасёлкі Культура і Вялікае Ляда, дзе ў 1927 г. былі створаны т-вы па сумеснай апрацоўцы зямлі, на базе якіх узнік калгас «Культура». У 1929 г. вёска атрымала электраасвятленне. У 1931 г. адкрыты вячэрняя школа для дарослых і дзіцячая пляцоўка. У 1934 г. пачалі дзейнічаць дзіцячыя яслі. Пасля ліквідацыі саўгаса ў 1937 г. яго зямля была перададзена калгасу, а на саўгаснай сядзібе створана МТС, у якой у 1938 г. было 15 трактароў (рэарганізавана 31.3.1958). У 1940 г. 312 двароў, 1214 жыхароў, меліся б-ка, клуб, сярэдняя школа, бальніца, аддз. райпрамкамбіната, пошта, магазіны.

У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Групу патрыётаў, якія разгарнулі барацьбу супраць акупантаў, узначаліў старшыня сельсавета М.І.Александровіч. Падпольшчыкі вялі агітацыйна-масавую работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, лячылі параненых чырвонаармейцаў. У лесе каля в. Бярозавае Балота на сходзе, у якім удзельнічалі і жыхары Бацэвічаў, было прынята рашэнне аб стварэнні партыз. атрада. Група М.І.Александровіча ў студз. 1942 г. ўтварыла ядро партыз. атрада № 620, а кіраўнік групы М.І.Александровіч стаў яго камісарам. Гітлераўцы ў пач. 1942



г. загубілі 44 вяскоўцаў, стварылі ў вёсцы гарнізон і камендатуру. Вясной 1942 г. партызаны разграмілі варожы гарнізон, спалілі 250 т збожжа, прызначанага для адпраўкі ў Германію. У вёсцы размясціўся райвыканком, які арганізоўваў барацьбу супраць гітлераўцаў і наладжваў жыццё сялян ў той цяжкі час. На дзвярах выканкома вісела аб'ява: «Райвыканком прымае кругласутачна». У канцы чэрв. 1944 г. акупанты спалілі 179 двароў, загубілі 71 жыхара. Вызвалена 28.6.1944 г. У цэнтры вёскі ў брацкай магіле пахаваны 29 воінаў і 26 партызан, якія загінулі ў баях супраць фашыстаў. У ліку пахаваных воіны 928-га і 298-га асобных сапёрных батальёнаў 55-й стралк. дывізіі 61-й арміі 1-га Бел. фронту, якія загінулі пры вызваленні вёскі, і партызаны 208-га асобнага імя Сталіна і 277-га партыз. палкоў. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 133 вяскоўцы, 127 — расстраляны гітлераўцамі. У пасляваенны час адбудавана. У 1955 г. здадзены ў эксплуатацыю радыёвузел, вёска радыёфікавана і электрыфікавана. У 1950—80-я г. цэнтр калгаса імя Леніна. У 1967 г. да вёскі далучаны вёскі Зарэчча, Вусце. У 1990 г. 411 гаспадарак, 977 жыхароў. У 2007 г. цэнтр СПК «Калгас імя Леніна»; аптэка, муз. школа, аддз. сувязі, сярэдняя школа-сад, магазін, цэнтр культуры, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, урачэбная амбулаторыя, б-ка, бутэрбродная. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых р. Ольса плаўна выгнутых вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Гал. вуліца (на зах. беразе Ольсы) падзелена р. Нясета на паўн. і паўд. часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. Паўн. ўскраіна забудавана муравамымі двухпавярховымі дамамі. Гасп. сектар — на Пн і Пд. Радзіма бел. дзярж дзеяча А.Смоліча.



*А.А.Смоліч.*

**БЁРДА** — вёска, падпарадкавана Клічаўскаму раённаму Савету дэпутатаў і выканаўчаму к-ту. За 5 км на ПдУ ад Клічава, 97 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. На З цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Клічаўскія Пасёлкі і далей па шашы



*Вакальны ансамбль «Весялуха» з в. Бацэвічы.*

Клічаў—Бабруйск. 70 гаспадарак, 199 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. ВКЛ, дзярж. уласнасць. У 1639 г. ў Бабруйскім старостве, 21 двор, 62 жыхары мужчынскага полу. У 1647 г. ў Рэчыцкім павеце, 38 двароў, шляхецкая ўласнасць. З канца 18 ст. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Многія жыхары займаліся лесасплавам. У 1846 г. цэнтр маёнтка, 30 двароў, 179 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1860 г. 30 двароў, 227 жыхароў. У 1897 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 58 двароў, 447 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. Штогод 1 кастр. праводзілася вясковае свята. Побач былі аднайменныя маёнтак (1 двор, 18 жыхароў) і выселак (2 двары, 12 жыхароў). У 1907 г. ў вёсцы 62 двары, 521 жыхар, у маёнтку 1 двор, 10 жыхароў. У 1911 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1917 г. ў вёсцы 73 двары, 556 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 16 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Ваевіцкім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 20.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 81 вучань. 12.6.1925 г. створана масларобчая арцель, у 1926 г. вяскоўцы пабудавалі новае памяшканне для школы. У 1926 г. ў вёсцы 117 двароў, 620 жыхароў, у фальварку 3 двары, 14 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Колас», які з 1937 г. абслугоўваўся Бацэвіцкай МТС. У 1940 г. 73 двары, 219 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1941 г. партызаны разграмілі гітлераўскі гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы, была створана група самаабароны, якая затым увайшла ў 277-ы партыз. атрад. У сак. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 37 жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. да 21.10.1960 г. цэнтр сельсавета, потым у Клічаўскім пас. Савеце, з 2000 г. ў падпарадкаванні Клічаўскага раённага Савета дэпутатаў і выканаўчага к-та. У 1950—80-я г. цэнтр калгаса «Уперад да камунізму». У вёсцы размешчаны с.-г. вытв. ўчастак «Зарэчны», базавая школа, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, аддз. сувязі, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц амаль шыротнай арыентацыі, злучаных у цэнтры завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.

**БРУСЫ** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Клічава, 67 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Развадава на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Доўгае, Малінне і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 10 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920 г. ў выніку перасялення сялян з хутароў і з в. Доўгае на былыя землі памешчыка, сядзіба якога знаходзілася ва ўрочышчы Церахаў Бор. З 20.8.1924 г. ў Доўгаўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1933 г. арганізаваны калгас «Брусы», які ў 1937 г. аб'яднаўся з калгасам імя С.М.Кірава (в. Церахаў Бор). У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 29.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай вобл., з 8.1.1954 г. ў Магілёўскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1950—80-я г. ў складзе саўгаса «Доўгаўскі» (цэнтр — в. Доўгае). У 1990 г. 14 гаспадарак, 29 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БРЫЛЁЎКА** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 40 км на ПнУ ад Клічава, 52 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, абкружана лесам. На ўсх. ускраіне цячэ р. Друць (прыток р. Дняпро), на Пд — яе прыток р. Даўжанка. Транспартныя сувязі



па мясц. дарозе праз вёскі Веснік, Доўгае, Малінне і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. На ўскраіне вёскі захаваліся развалiны печаў (гуты) з рэшткамі паліванага посуду і бітага каляровага шкла, якое тут выраблялася ў 16—17 ст. У 16 ст. сяло Брылевічы ў Магілёўскім павеце ВКЛ, 33 двары, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце, 26 рэвізскіх душ. У 1880 г. 15 двароў, 60 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета, 18 двароў, 143 жыхары. У 1909 г. 19 двароў, 188 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Ядранаслабодскім с/с Чачэвіцкага р-на Магілёўскай акругі. З 8.7.1931 г. ў Клічаўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Друць». У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Доўгаўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах Магілёўскай вобл. У 1950—80-я г. ў складзе саўгаса «Доўгаўскі» (цэнтр — в. Доўгае). У 1990 г. 32 гаспадаркі, 63 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, забудаванай аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БУДНЕВА** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Клічава, 102 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПнУ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Нясята, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 93 гаспадаркі, 227 жыхароў (2007).

Наяўнасць курганных могільнікаў у ваколіцах сведчыць аб тым, што гэта тэр. была заселена яшчэ ў 8—10 ст. У 1847 г. вёска ў складзе маёнтка Нясята Бабруйскага павета Мінскай губ., 30 двароў, 120 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1875 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета, пабудавана царква. Раз у год, 8 вер., праводзіўся таржок. У 1907 г. 72 двары, 563 жыхары. У 1908 г. адкрыта земская школа, для якой у 1915 г. пабудавана памяшканне. У 1917 г. 87 гаспадарак, 553 жыхары. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. З 20.8. 1924 г. ў Нясяцкім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 30 вучняў. У 1926 г. 85 двароў, 605 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас «Будаўнік», які з канца 1930-х г. абслугоўвала Нясяцкая МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Знаходзілася ў зоне дзеяння клічаўскіх партызан. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1990 г. 155 гаспадарак, 227 жыхароў, у складзе племзавода «Нясята» (цэнтр — в. Нясята). У 2007 г. ў вёсцы фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, амаль паралельных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У і Пн — гасп. сектар.

**БУХАЎКА** — былая вёска ў Доўгаўскім с/с, за 40 км на ПнУ ад Клічава, 52 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, абкружана лесам. На Пн цячэ р. Даўжанка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Закупленне, Доўгае, Малінне і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы.

Засн. ў пач. 20 ст. сялянамі з в. Закупленне, якія пасяліліся тут ва ўрочышчы Бухаўка. Уваходзіла ў Гарадзішчанскую вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. З 20.8.1924 г. ў Ядранаслабодскім с/с Чачэвіцкага р-на Магілёўскай акругі, з 8.7.1931 г. ў Клічаўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 17 двароў,

48 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, знаходзілася ў зоне актыўных дзеянняў партызан. Гітлераўцы ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе саўгаса «Доўгаўскі» (цэнтр — в. Доўгае). У 1990 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары. Забудова традыц. драўляная, сядзібнага тыпу, уздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі.

**БЯРОЗАЎКА** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Клічава. 107 км ад Магілёва. 12 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Бабруйск, якая праходзіць побач з вёскай. 15 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на месцы былога маёнтка. Уздоўж дарогі, што вяла ад маёнтка і была абсаджана бярозамі, сяліліся былыя батракі, якія атрымалі памешчыцкую зямлю. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7. 1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 23 двары, 130 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Дзяржынскага. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пад час блакады восенню 1942 г. гітлераўцы спалілі вёску (20 дамоў), расстралялі 10 жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. 17 вяскоўцаў загінулі на фронце, 6 — у партыз. барацьбе. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы). У 1992 г. 28 гаспадарак, 59 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАЕВІЧЫ** — вёска, падпарадкавана Клічаўскаму раённаму Савету дэпутатаў і выканаўчаму к-ту. За 7 км на Пд ад Клічава, 99 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Бабруйск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 25 гаспадарак, 41 жыхар (2007).

Па пісьмовых крыніцах вядома з 1560 г. як прыватнае ўладанне ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета ВКЛ, 21 двор, 270 жыхароў. Мелася царква. У 1651 г. вёска ў складзе маёнтка Свіслач Мінскага павета Мінскага ваяв. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) увайшла ў склад Рас. імперыі. У 1844 г. ў складзе маёнтка Бацэвічы Бабруйскага павета, 34 двары, 220 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. 58 двароў, 378 жыхароў, хлебазапасны магазін, 2 крамы. Раз у год праводзілася вясковае свята. У 1907 г. 65 двароў, 482 жыхары, у 1917 г. 69 двароў, 455 жыхароў. У 1926 г. 105 двароў, 535 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 1939 г. ў Бёрдаўскім с/с. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пераможац», які з 1937 г. абслугоўвала Бацэвіцкая МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1941 г. партызаны разграмілі гітлераўскі гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. Жорсткія баі за пераправу праз р. Ольса вялі партызаны летам 1942 г. ў час блакады карнікамі Клічаўскай партыз. зоны. Два разы вёска пераходзіла з рук у рукі. Ноччу 22.6.1942 г. яна была адбіта ў акупантаў партызанамі 760-га атрада, і толькі на трэці дзень пасля таго, як на партыз. аэрадром, што размяшчаўся побач, былі з Вялікай зямлі дастаўлены боепрыпасы і зброя, партызаны пакінулі вёску і прарвалі блакаду. Акупанты знішчылі вёску. Вызвалена 30.6.1944 г. часцямі 3-й арміі



1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Уперад да камунізму» (цэнтр — в. Бёрда). У 1992 г. 49 гаспадарак, 90 жыхароў. Размешчаны магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЕСНІК** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 37 км на ПдУ ад Клічава, 55 км ад г. Магілёў, 8 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Даўжанка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Закупленне, Доўгае, Малінне і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Засн. ў 1921 г. сялянамі з вёскі Закупленне, якія пасяліліся на месцы былога памешчыцкага маёнтка і арганізавалі калгас «Веснік» (8 гаспадарак). Дзейнічалі вадзяны млын і лесапільня. З 20.8.1924 г. ў Ядранаслабодскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1933 г. калгас «Веснік» аб'яднаўся з калгасам «Чапаеў» (в. Закупленне). Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1940 г. 23 двары, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, знаходзілася ў зоне актыўных дзеянняў партызан. У вер. 1943 г. карнікі поўнасцю спалілі вёску, загубілі 7 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. зноў у Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 18 гаспадарак, 36 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх (прамалінейных і выгнутай) вуліц, якія ўтвараюць квартал сядзібнай забудовы традыц. драўлянымі дамамі з гасп. будынкамі.

**ВІРКАЎ** — вёска, цэнтр сельсавета (з 20.8.1924), за 22 км на ПдЗ ад Клічава, 114 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Пераколь, Арэхаўка, Нясята, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 157 гаспадарак, 408 жыхароў (2007).

У канцы 19 ст. ў вёсцы была знойдзена бронзавая фібула, упрыгожаная каляровымі квадратамі, а таксама выяўлены 2 курганныя могільнікі (1892). Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц яшчэ ў эпоху бронзы. У 8—10 ст. тут жылі дрыгавічы. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 17 ст. У 1651 г. ў складзе прыватнага ўладання Свіслач Мінскага павета Мінскага ваяв. ВКЛ. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце, 165 рэвізскіх душ мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1847 г. ў складзе маёнтка Свіслач Бабруйскага павета, 48 двароў, 258 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1884 г. адкрыта школа граматы, якая ў 1916 г. ператворана ў земскую. У 1897 г. ў Свіслацкай вол., 112 двароў, 696 жыхароў, меліся хлебазапасны магазін, заезны дом. У 1908 г. 101 двор, 946 жыхароў, у 1917 г. 121 двор, 807 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. было 49 вучняў. У 1927 г. для школы ўзведзены будынак. 23.11. 1922 г. створана с.-г. арцель «Прагрэс». У 1930 г. арганізаваны калгас імя Молатава, які аб'ядноўваў 7 гаспадарак. У 1940 г. 23 гаспадаркі, 72 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пач. 1942 г. ў вёсцы быў разгромлены гітлераўскі гарнізон і адноўлена Сав. ўлада, дзейнічалі група самаабароны і сельсавет (старшыня І.Ф.Заяц). У час блакад 1942—43 гг. гітлераўскія карнікі спалілі вёску, загубілі 5 жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У партыз. атрадах і на

франтах загінулі 82 вяскоўцы. Пасля вайны адбудавана. З 20.8.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.11.1954 г. Магілёўскай абасцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1980-я г. цэнтр калгаса імя К.Маркса. У 1990 г. 193 гаспадаркі, 428 жыхароў. У вёсцы (2007) базавая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, дзіцячы сад, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы з завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Гасп. сектар — на ўсх. ускраіне цэнтр. часткі вёскі.

**ВІШНЁЎКА** (да 1938 г. Ужывец) — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Клічава, 62 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдЗ мяжуе з лесам. На У цячэ р. Даўжанка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Доўгае, Малінне і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2007).

Курганны могільнік, які знаходзіцца каля вёскі, сведчыць аб тым, што, пачынаючы з 8 ст., тут жылі дрыгавічы. Сучасная вёска ўтворана ў канцы 19 ст. сялянамі, якія купілі зямлю ў памешчыка і пасяліліся тут. У 1897 г. сядзіба Ужывец (2 двары, 24 жыхары) у Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 2 двары, 13 жыхароў, у 1917 г. 4 гаспадаркі, 38 жыхароў. Апрача заняткаў на сваіх гаспадарках вяскоўцы працавалі на смалакурным з-дзе, які знаходзіўся за 1 км ад вёскі і спецыялізаваўся на выпуску шкіпінару. З 20.8.1924 г. ў Доўгаўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». У 1940 г. 18 двароў, 47 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 11 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей. З 25.12.1952 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. зноў ў Клічаўскім р-не. У 1992 г. 19 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе саўгаса «Доўгаўскі» (цэнтр — в. Доўгае). Планіровачна складаецца з вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВОНІЧЫ** (да 1940 г. Мяжно) — чыг. станцыя на лініі Магілёў—Асіповічы, у Патоцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад Клічава, 74 км ад Магілёва. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гонча і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Утворана ў 1927 г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З часу заснавання да 1990 г. ў Ганчанскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі, з 1931 г. чыг. станцыя, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, знаходзілася ў зоне актыўных дзеянняў партызан. У 1947 г. электрыфікавана. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж чыгункі, і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне — станцыйныя будынкі. У 1990 г. 16 гаспадарак, 35 жыхароў.

**ВОРЛІНА** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Клічава, 112 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. На У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Пабеда і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 47 гаспадарак, 93 жыхары (2007).

Курганны могільнік 8—10 ст., што захаваўся за 0,2 км на ПнЗ ад вёскі, сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых кры-



ніц вядома з 1513 г. як сяло ў Свіслацкай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1560 г. 20 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1797 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., 41 жыхар мужчынскага полу, уладанне Д.Радзівіла. У 1838 г. вёска Ворлін (87 рэвізскіх душ) у Бабруйскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1844 г. вёска Ворліны ў складзе маёнтка Бацэвічы Бабруйскага павета, 22 двары, 187 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. вёска Ворлін (67 двароў, 456 жыхароў) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Меліся хлебазапасны магазін, вінная крама, штогод 15 жн. праводзілася вясковае свята. У 1908 г. 79 двароў, 532 жыхары, у 1917 г. 100 двароў, 677 жыхароў.

Да 1924 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета. 26.11.1924 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні (у 1925 г. 59 вучняў). У 1926 г. 129 двароў, 707 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас «Ворліна». Плошча яго ворыўнай зямлі ў той час складала 450 дзес., сенажаці — 210 дзес., мелася 85 кароў, больш за 80 коней. У 1940 г. ў вёсцы 176 двароў, 598 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 3 жыхароў, а маёмасць разрабавалі. Пасля вайны адбудавана. У 1965 г. радыёфікавана і электрыфікавана. У 1992 г. 93 гаспадаркі, 171 жыхар, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы), размешчаны магазін, б-ка. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых, паралельных паміж сабой вуліц, злучаных завулкам і арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВОСАЎ** — вёска, падпарадкавана раённаму Савету дэпутатаў і выканаўчаму к-ту. За 7 км на ПдУ ад Клічава, 99 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Перасека (прыток р. Перасопенка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Бёрда, Клічаўскія Пасёлкі і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

У 1857 г. вёска ў Бабруйскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1917 г. 15 двароў, 109 жыхароў. Побач быў хутар, 3 двары, 21 жыхар. З 20.4.1924 г. ў Ваевіцкім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 1939 г. ў Бёрдаўскім с/с. У 1926 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 8 двароў, 27 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пад час карнай экспедыцыі «Арол» восенню 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 3 жыхароў. Вызвалена 29.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Уперад да камунізму» (цэнтр — в. Бёрда). У 1990 г. 7 гаспадарак, 8 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯЛЕНІК** — вёска ў Каўбчанскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Клічава, 112 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Старыя Максімавічы, Селішча і далей па шашы чыг. ст. Нясета—Клічаў. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст., калі памешчык пасля адмены прыгоннага права пачаў тут здаваць сялянам зямлю ў арэнду ці за выкуп. Сяляне выкарчавалі лес, распрацавалі ўчасткі зямлі і пабудавалі хаты. У 1897 г. засценак у Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 14 двароў, 81 жыхар. У 1908 г. 13 двароў. 80 жыхароў, у 1917 г. 19 двароў, 104 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Максімавіцкім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 21 двор, 117 жыхароў. У 1929 г. вяскоўцы

ўступілі ў калгас «Чырвоны маяк». У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, уваходзіла ў зону актыўных дзеянняў партызан. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 1958 г. ў Каўбчанскім с/с. З 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1980-я г. ў складзе калгаса імя А.А.Жданава (цэнтр — в. Новыя Максімавічы). У 1990 г. 14 гаспадарак, 34 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКАЯ СТАРЫНА** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 12 км на Пд ад Клічава, 104 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Перасопня, Ваевічы і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Наяўнасць каля вёскі курганнага могільніка сведчыць аб тым, што гэта тэр. была заселена яшчэ ў 6—8 ст. У 1897 г. хутар у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 77 жыхароў. У 1917 г. 12 гаспадарак, 64 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 44 двары, 209 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Прамзара», які з 1937 г. абслугоўвала Бацэвіцкая МТС. У 1940 г. 40 гаспадарак, 158 жыхароў, дзейнічала пач. школа. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і паблізу базіраваўся партыз. атрад. Летам 1942 г. ў час карнай аперацыі «Майскі жук» тут вёў цяжкі бой супраць батальёна карнікаў 760-ы партыз. атрад. У вер. 1943 г. акупанты поўнасцю спалілі вёску і загубілі 26 жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. На вясковых могілках пахаваны 30 воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні раёна. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 8.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах, да 1950 г. ва Усохскім, з 1950 г. ў Бацэвіцкім сельсаветах. У 1980-я г. ў складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы). У 1992 г. 12 гаспадарак, 22 жыхары. Планіроўка П-падобная. Ад абодвух канцоў гал. непрацяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, адыходзяць на ПнЗ 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАНАРАТАЎ** — вёска ў Каўбчанскім с/с, за 15 км на Пн ад Клічава, 107 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. Побач цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Беразіно, якая праходзіць праз вёску. 26 гаспадарак, 51 жыхар (2007).

У 1897 г. вёска ў Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 17 двароў, 115 жыхароў. У 1908 г. 16 двароў, 118 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 24 двары, 108 жыхароў. У 1929—30 гг. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Новы шлях» (цэнтр — в. Рэпішча). У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Уваходзіла ў зону актыўных дзеянняў партызан. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1935 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1980-я г. ў складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Коўбча). У 1967 г. да вёскі далучана в. Галішчына. У 1990 г. 64 гаспадаркі, 121 жыхар. Размешчаны магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драў-



лянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**ГАНЧАНСКІ** (да 21.1.1969 г. пасёлак торфапрадпрыемства «Ганчанскае») — пасёлак, цэнтр Ганчанскага с/с, за 21 км на ПнУ ад Клічава, 71 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Вонічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На ПдЗ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Суша (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Тачышча і далей па шашы Чачэвічы—Клічаў. 139 гаспадарак, 292 жыхары (2007).

Першыя пасяленцы паявіліся тут у 1869 г. Гэта былі выхадцы з суседняй в. Гонча, якія заснавалі невялікую в. Гуры на купленых у памешчыка землях. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас і ў 1939 г. амаль усе перасяліліся ў суседнюю в. Рагі. У 1953 г. на месцы былой в. Гуры размясцілася Будаўніча-мантажнае ўпраўленне-5 і пачалося асушэнне балота, а ў 1954 г. — забудова пасёлка. У 1957 г. торфапрадпрыемства дало першую прадукцыю, атрымала назву «Ганчанскае», а гэтак жа стаў называцца пасёлак. Да канца 1950-х г. пасёлак у асн. быў забудаваны, электрыфікаваны і радыёфікаваны. У 1990 г. 184 гаспадаркі, 480 жыхароў. З 1995 г. цэнтр сельсавета. Ёсць сярэдняя школа-сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, сталовая, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. Вуліцы шыротнай і мерыдыянальнай арыентацыі перакрыжоўваюцца і ўтвараюць дробныя прамавугольныя кварталы. Цэнтр. частка забудавана сучаснымі мураванымі катэджнымі дамамі. Астатняя забудова драўляная. Сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. На паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ГОНЧА** — вёска ў Ганчанскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Клічава, 77 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Вонічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн і Пд мяжуе з лесам. На паўн. ускраіне цячэ р. Ганчанка (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Чачэвічы, якая праходзіць праз вёску. 55 гаспадарак, 105 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. У 1589 г. сяло ў Свіслацкай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1651 г. ў складзе прыватнага ўладання Свіслач у Мінскім павеце Мінскага ваяв. У 1847 г. ў складзе маёнтка Драні Бабруйскага павета Мінскай губ., 9 двароў, 46 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 16 двароў, 136 жыхароў. Раз у год, 8 вер., праводзілася вясковае свята. У 1908 г. 21 двор, 201 жыхар, у 1917 г. 23 двары. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета (да 1995) у Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 30 двароў, 213 жыхароў. Была адкрыта школа, у 1927 г. для яе пабудавана памяшканне, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1933 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік», які аб'яднаў 66 гаспадарак, абслугоўваўся Нясяцкай МТС. У 1940 г. 66 двароў, 310 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Адразу пачала дзейнічаць адна з першых у раёне патрыят. падп. груп, якую ўзначаліў старшыня Ганчанскага с/с П.Б.Букаты. Ужо ў канцы ліп. група правяла першую баявую аперацыю — арганізавала засаду на шашы Клічаў—Гонча, абстраляла калону нямецкіх аўтамашын. Другой аперацыяй было знішчэнне аховы і прадухіленне вывазу з Клічава абсталявання маслазавода. У жн. 1941 г. група П.Б.Букатага ўлілася ў Клічаўскі партыз. атрад. Пасля разгрома ў кастр. 1941 г. гітлераўскага гарнізона, які размясціўся ў вёсцы, быў адноўлены сельсавет, які зноў узначаліў П.Б.Букаты. Адначасова пачала дзейнічаць група самаабароны. У жн. 1942 г. ў час карнай аперацыі «Арол» гітлераўцы спалілі 59 двароў, загубілі 9 жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. На зах. ускраіне вёскі ў брацкай магіле пахаваны 38 сав. воінаў і

партызан, якія загінулі ў баях супраць фашызму. У 1990 г. 109 гаспадарак, 264 жыхары, цэнтр саўгаса «Ганчанскі». У вёсцы (2007) Дом культуры, б-ка, муз. школа, комлексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (участак шашы), арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Гасп. сектар — на паўн.-ўсх. ускраіне.

**ГРАДКІ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 16 км на З ад Клічава, 108 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Акцябрск, Чаравач і далей па шашы Клічаў—чыг. ст. Нясета. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Вядома з канца 19 ст. У 1897 г. маёнтак Градкі (ён жа Марыянполь) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 1 двор, 9 жыхароў. У 1917 г. 15 двароў, 103 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Кабылянскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 20 двароў, 102 жыхары, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая». У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1990 г. 15 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе калгаса імя Э.Тэльмана (цэнтр — в. Стары Востраў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГУЛЫ** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 49 км на ПнУ ад Клічава, 43 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам, на У цячэ р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Брылёўка, Бухаўка, Закупленне, Доўгае і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Утворана выхадцамі з в. Калічонка — Г.Ф.Макаравым, З.Цімашковым і Ф.Цімашковым, якія ў 1932 г. пасяліліся тут. У 1933 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас імя Свярдлова (цэнтр — в. Калічонка). Уваходзіла ў Ядранаслабодскі с/с Клічаўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Кіраўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 14 гаспадарак, 32 жыхары, у складзе саўгаса «Доўгаўскі» (цэнтр — в. Доўгае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАКЛОНЬ** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Клічава, 104 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Буднева, Нясята, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Утворана ў 1923 г. на былых памешчыцкіх землях выхадцамі з суседніх вёсак. Назва ад урочышча, каля якога ўзнікла вёска. Уваходзіла ў склад саўгаса «Нясята». З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 20.9.1944 г. ў Клічаўскім Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай аб-



ласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1926 г. 11 двароў, 63 жыхары. У 1937 г. ў складзе калгаса «Будаўнік» (цэнтр — в. Буднева). У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. У 1965 г. радыёфікавана і электрыфікавана. У 1986 г. 8 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе племзавода «Нясята» (цэнтр — в. Нясята.). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАЎЖАНКА** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 36 км на ПнУ ад Клічава, 56 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам, на У цячэ р. Друць (прыток р. Дняпро), на Пн — яе прыток р. Даўжанка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Закупленне, Доўгае, Малінне і далей па шашы Чачэвічы—Клічаў. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

У зах. частцы вёскі знойдзены рэшткі паліванай керамікі і разваліны печаў (гут), дзе выраблялі посуд, што сведчыць аб дзейнасці тут рамеснікаў ў 16—17 ст. У вусці р. Даўжанка прасочваюцца рэшткі прыстані, дзе рабілі прыпынак баржы і плыты з лесам. На Пд ад вёскі быў драўляны мост праз р. Друць. У 1857 г. вёска ў Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 27 двароў, 186 жыхароў. Меўся піцейны дом. У 1909 г. 55 двароў, 208 жыхароў. 25.7.1920 г. адкрыта школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. ў Ядранаслабодскім с/с Чачэвіцкага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Чырвоная Друць» (цэнтр — в. Брылёўка). У 1940 г. 76 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 15 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Доўгаўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 15 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе саўгаса «Доўгаўскі» (цэнтр — в. Доўгае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДЗМІТРАЎКА 1** — вёска ў Патоцкім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Клічава, 99 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ цячэ р. Турчанка (прыток р. Нясета). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дзмітраўка 2 і далей па шашы Клічаў—чыг. ст. Нясета. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

У 2-й чвэрці 19 ст. вёска ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., уладанне Радзівіла, мелася царква. У 1908 г. 16 двароў, 158 жыхароў. У 1917 г. 21 двор, 128 жыхароў. Значная частка вяскоўцаў займалася нарыхтоўкай і сплавам лесу. У 1919 г. адкрыта школа (у 1925 г. было 64 вучні). У 1926 г. 21 двор, 121 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Наталоўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 10.7. 1939 г. цэнтр сельсавета. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 227-ы партыз. атрад пад камандаваннем І.З.Ізоха восенню 1941 г. разграміў варожы гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы, і аднавіў работу сельсавета (старшыня П.А.Кушнер), пачаў дзейнічаць атрад самаабароны. Вялізныя страты панеслі вяскоўцы ў час блакад 1942—43 гг., калі іх маёмасць была разрабавана карнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. часцямі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, каля б-кі, пахаваны сав. воіны і партызаны, якія загінулі пры вызваленні раёна. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954



*Л.М.Дайнека.*

г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах, з 19.8.1966 г. ў Патоцкім с/с. У 1990 г. 12 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе саўгаса «Клічаўскі» (цэнтр — в. Патока). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПдУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДЗМІТРАЎКА 2** — вёска, падпарадкавана Клічаўскаму раённаму Савету дэпутатаў і выканаўчаму к-ту. За 5 км на ПнЗ ад Клічава, 97 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—чыг. ст. Нясета, якая праходзіць праз вёску. 278 гаспадарак, 676 жыхароў (2007).

У ваколіцах вёскі знойдзены крамянёвыя прылады эпохі мезаліту і неаліту, сякера эпохі бронзы, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў канцы 19 ст. выхадцамі з Клічава і суседніх вёсак. У 1897 г. засценак Дзмітраўка ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 24 двары, 232 жыхары. У 1907 г. вёска, 16 двароў, 194 жыхары. У 1917 г. 28 двароў, 216 жыхароў. У 1919 г. ў адной з вясковых хат арганізавана школа, у якой у 1923 г. было 33 вучні. У 1926 г. 38 двароў, 242



*Рака Ольса.*

жыхары. У 1921 г. арганізавана т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі, а ў 1930 г. — калгас «Пяцігодка», які з 1935 г. абслугоўвала Нясяцкая МТС. У Вял. Айч. вайну ў канцы чэрв. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы размясціўся гітлераўскі гарнізон, які ў снеж. 1941 г. быў разгромлены партыз. атрадам І.З.Ізоха. У хуткім часе аднавіў дзейнасць сельсавет (старшыня А.П.Кушнер), была створана група самаабароны, якая потым улілася ў партыз. атрад. Вясной 1942 г. ў вёсцы размяшчаліся раённыя арг-цыі, якія дзейнічалі ва ўмовах акупацыі. Вызвалена 30.6.1944 г. часцямі 39-га корпуса 50-й арміі 2-га Бел. фронту. У 1990 г. 278 гаспадарак, 676 жыхароў, у складзе Магілёўскага саўгаса-тэхнікума (цэнтр — г.п. Клічаў). Размешчаны ААТ «Клічаўрайаграпрамтэхзабеспячэнне», Дом культуры, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, комлексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сярэдняя і муз. школы. Планіровачна складаецца з 3 амаль паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, якія на Пд злучаны прамалінейнай вуліцай шыротнай арыентацыі (адрэзак шашы). Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

Радзіма бел. пісьменніка і паэта Л.М. Дайнекі (нар. ў 1940 г.).

**ДОЎГАЕ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 25 км на ПнУ Клічава, 67 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам, на поўначы цячэ р. Даўжанка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Малінне і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 172 гаспадаркі, 414 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 1560 г. як сяло ў Любашанскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1738 г. 10 гаспадарак. У 1775 г. сяло Доўга ў Падзевіцкім войтаўстве Любашанскага староства Аршанскага павета, 35 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас.



імперыі. У 1863 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1891 г. навучалася 20 хлопчыкаў і 3 дзяўчынкі. У 1885 г. цэнтр воласці Ігуменскага павета Мінскай губ., 67 двароў, 566 жыхароў. Меліся вадзяны млын, царква. У 1892 г. пабудавана новая царква. У 1897 г. 109 двароў, 904 жыхары, хлебазапасны магазін, піцейны дом. Побач быў фальварак (2 двары, 13 жыхароў) і смалярна-шкіпінарны з-д. У 1908 г. ў сяле 146 двароў, у маёнтку 1 двор, 8 жыхароў. У 1917 г. цэнтр воласці Ігуменскага павета, 179 двароў, 1101 жыхар. Апрача земляробства сяляне займаліся вырубкай і сплавам лесу. На р. Даўжанка працаваў вадзяны млын, дзейнічалі сукнавальня і ваўначоска. У 1921 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Чачэвіцкага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7. 1930). З 8.7.1931 г. ў Клічаўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1938 г. 4-гадовая школа ператворана ў сямігодку, у 1939 г. — у дзесяцігодку, першы выпуск якой адбыўся ў чэрв. 1941 г. У 1925 г. адкрыта хата-чытальня. У 1930 г. арганізаваны калгасы імя Калініна і «Ударнік». У 1940 г. 199 двароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У канцы 1941 г. партызаны разграмілі ў вёсцы гітлераўскі гарнізон, аднавілі дзейнасць сельсавета, арганізавалі вясковую групу самаабароны. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 97 жыхароў. Вызвалена 29.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. У 1954 г. ўступіў у строй радыёвузел і вёска была радыёфікавана, а затым электрыфікавана. У 1990 г. 190 гаспадарак, 457 жыхароў, цэнтр саўгаса «Доўгаўскі». У 2007 г. вёска — цэнтр КСУП «Саўгас «Доўгаўскі», дзейнічаюць яслі-сад, магазіны, аддз. ААТ «Беларусбанк», сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, бальніца, сталовая, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, амаль паралельных вуліц шыротнай арыентацыі з завулкамі, забудаваных двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Невялікі, адасоблены ўчастак забудовы на У. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы, гасп. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

**ДРАНІ** — вёска ў Ганчанскім с/с, за 10 км на ПнУ ад Клічава, 82 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Суша на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Ганчанка (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гонча і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 13 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Каля вёскі знаходзіцца курганны могільнік, што сведчыць аб засяленні гэтых месц яшчэ ў 8—10 ст. У 1847 г. цэнтр маёнтка ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., 12 двароў, 91 жыхар, прыватнае ўладанне. У 1857 г. вёска ў Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. в. Драні ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета, 25 двароў, 212 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. Раз у год, 9 ліст., праводзілася вясковае свята. Побач быў аднайменны выселак (1 двор, 10 жыхароў). У 1908 г. 34 двары, 300 жыхароў. У 1911 г. адкрыта школа (аднакласнае нар. вучылішча). У

*Брацкая магіла ў в. Доўгае.*



1917 г. 37 двароў, 321 жыхар. У 1921 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. было 28 вучняў, дарослыя вучыліся ў гуртку па ліквідацыі непісьменнасці. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 20.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 50 двароў, 340 жыхароў. Непадалёку ў лесе дзейнічала смалакурня. Вяскоўцы арганізавалі т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі, на базе якога ў 1931 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які абслугоўвала Клічаўская МТС. У 1940 г. 66 двароў, 310 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У канцы 1941 г. партызаны аднавілі Сав. ўладу, была арганізавана група самаабароны, якая ўваходзіла ў склад групы П.К.Букатага (в. Гонча). 23 жыхары загінулі ў час карных аперацый акупантаў. У жн. 1942 г. гітлераўцы спалілі 59 двароў, загубілі 9 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 34 гаспадаркі, 70 жыхароў, у складзе саўгаса «Ганчанскі» (цэнтр — в. Гонча). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і размежаваных ракой. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБНО** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 43 км на ПнУ ад Клічава, 49 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, вакол лес, на Пн цячэ р. Даўжанка (прыток р. Друць), на Пд — яе прыток р. Лічынка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Мілое, Доўгае, Малінне і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 44 гаспадаркі, 66 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1738 г. як сяло (7 гаспадарак) у Любашанскім старостве Аршанскага павета ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1775 г. ў Падзевіцкім войтаўстве Любашанскага староства Аршанскага павета, 10 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1884 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 76 двароў, 561 жыхар. Меліся хлебазапасны магазін, царква. У 1908 г. 87 двароў, 1150 жыхароў. У 1917 г. 114 двароў, 638 жыхароў. Вяскоўцы займаліся земляробствам, гандлем і рамяством, працавалі на смалакурным з-дзе, сплаўлялі лес па Даўжанцы. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1932 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Чырвоная ніва», якому вял. дапамогу аказвалі чырвонаармейцы, лагер якіх знаходзіўся побач з вёскай. Непадалёку дзейнічала смалакурня. У 1940 г. 117 двароў, 293 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пач. 1942 г. партызаны разграмілі паліцэйскі ўчастак, які размяшчаўся ў вёсцы. 3.5.1942 г. аднавіў работу сельсавет (старшыня П.С.Манянок). У жн. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 120 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Доўгаўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1992 г. 81 гаспадарка, 140 жыхароў, у складзе саўгаса «Доўгаўскі» (цэнтр — в. Доўгае). Размешчаны аптэка, магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ — адасоблены ўчастак забудовы. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**ДУБРАЎКА** — былая вёка ў Нясяцкім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Клічава, 100 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ р. Турчанка (прыток р. Нясета). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дзмітраўка 1, Дзмітраўка 2 і далей па шашы Клічаў—чыг. ст. Нясета.

У 1897 г. хутар (2 двары, 39 жыхароў) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета



Мінскай губ. Побач быў яшчэ адзін хутар з такой жа назвай (2 двары, 16 жыхароў). У 1908 г. 3 двары, 34 жыхары, у 1917 г. на хутары 10 двароў, 90 жыхароў, ва ўрочышчы Дубраўка 8 двароў, 51 жыхар. У 1920 г. адкрыта школа, для якой у 1922 г. пабудавана памяшканне (у 1928 г. 99 вучняў). З 20.8.1924 г. ў Дзмітраўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1926 г. хутары Дубраўка 1 (8 двароў, 68 жыхароў) і Дубраўка 2 (12 двароў, 70 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас імя Варашылава з цэнтрам у в. Хадзечын, пачала дзейнічаць хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 1957 г. ў Нясяцкім с/с. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1990 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у складзе племзавода «Нясята» (цэнтр — в. Нясята). Planіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБРОВА** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 18 км на Пд ад Клічава, 110 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Кострычка (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Усохі, Бацэвічы і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 24 гаспадаркі, 48 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. хутар у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 2 двары, 26 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.8.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 4.9.1923 г. створана с.-г. арцель, якая ў 1925 г. аб'ядноўвала 15 гаспадарак. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Дуброва», які з 1937 г. абслугоўвала Бацэвіцкая МТС. У калгасе дзейнічалі малочна-таварная і свінагадоўчая фермы, працавала кузня. У 1930-я г. адкрыта пач. школа. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах, да 1950 г. ва Усохскім, затым у Бацэвіцкім сельсаветах. У 1990 г. 46 гаспадарак, 589 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы). Размешчаны магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц шыротнай арыентацыі, злучаных на З кароткай прамалінейнай вуліцай мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на зах. ускраіне.

**ДУБРОВА** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 13 км на З ад Клічава, 105 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, па паўд.-ўсх. ускраіне праходзіць чыгунка, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Арэхаўка, Нясята, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 26 гаспадарак, 58 жыхароў (2007).

У 1907 г. засценак Дуброва-Вольгіна і хутар Дуброва (па назве ўрочышча, дзе ён знаходзіўся). У 1917 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., у засценку Дуброва-Вольгіна 12 двароў, 79 жыхароў, на хутары Дуброва 2 двары, 26 жыхароў. У 1917 г. засценак і хутар зліліся і ўзнікла в. Дуброва. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. З 20.8. 1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 20.9. 1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1926 г. арганізавана сельгасарцель, адкрыты 4-гадовая школа і хата-чытальня. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў пач.




ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З першых дзён акупацыі ў вёсцы дзейнічала падп. група, якая затым улілася ў партыз. атрад. Гітлераўцы разрабавалі маёмасць вяскоўцаў, частку вёскі спалілі, а частку выкарысталі для будаўніцтва ваенных умацаванняў. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. З 1973 г. ў складзе племзавода «Нясята» (цэнтр — в. Нясята). У 1990 г. 50 гаспадарак, 114 жыхароў. Размешчаны магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПдУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ўскраіне цэнтр. часткі вёскі.

**ДУЛЕБНЯ** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Клічава, 102 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Гарадзечанка (прыток р. Нясета). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы чыг. ст. Нясеты—Клічаў. 50 гаспадарак, 94 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1738 г. сяло Дулебы (11 двароў) у Любашанскім старостве ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1847 г. 28 двароў, 248 жыхароў, у складзе маёнтка Арэхаўка Бабруйскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай (з 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г. ў Бабруйскай) вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. было 48, у 1925 г. — 63 вучні. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Барэц», які з 1934 г. абслугоўвала Нясяцкая МТС. Дзейнічала хатачытальня. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За час блакад гітлераўцы разрабавалі маёмасць, спалілі вёску. Летам 1942 г. каля вёскі базіраваліся 208-ы і 752-і партыз. атрады. Працавала друкарня, выпускаліся лістоўкі. Вызвалена 28.6. 1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. З 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. Зараз у складзе племзавода «Нясята» (цэнтр — в. Нясята). Размешчаны клуб, магазін, аддз. сувязі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**ЖЭРДЗІШЧА** — былая вёска ў Ганчанскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Клічава, 78 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Вонічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Чачэвічы, якая праходзіць побач з вёскай.

Засн. ў 1900 г. выхадцамі з в. Суша. У 1908 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. 11 двароў, 88 жыхароў. У 1917 г. 34 двары, 121 жыхар. У 1920—24 гг. ў складзе Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 20.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 23 двары, 119 жыхароў, дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1933 г. арганізаваны калгас «Камунар». У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1992 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе саўгаса «Ганчанскі» (цэнтр — в. Гонча). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, перпендыкулярна да шашы, забудаванай аднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАГАЦЦЕ** (да 1938 г. Каіры) — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 41 км на ПнУ ад Клічава, 51 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На паўн. ускраіне праходзіць чыгунка. На З цячэ р. Рудка (прыток р. Даўжанка). Транспартныя сувязі па



мясц. дарозе праз вёскі Доўгае, Малінне і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 43 гаспадаркі, 71 жыхар (2007).

Паводле мясц. падання ўтворана ў 1708—09 гг. у час Паўн. вайны, калі шведамі была знішчана в. Подліны, і яе жыхары ратаваліся ў балоцістай мясцовасці за ракой. Адсюль назва — Загацце. У 1738 г. сяло Загайцы (5 гаспадарак) у Любашанскім старостве Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. уласнасць. У 1775 г. сяло Загацце (18 двароў) у Падзевіцкім войтаўстве Любашанскага староства. У 2-й чвэрці 19 ст. 471 жыхар, у валоданні Радзівіла. Мелася царква (пабудавана ў 1847 г.). У 1885 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Ігуменскага павета, 61 двор, 501 жыхар. У 1908 г. 69 двароў, 569 жыхароў, у 1917 г. 85 двароў, 591 жыхар. Праз вёску праходзіла дарога з в. Дубно ў вёскі Ядраная Слабада, Гарадзішча і далей у Быхаў. Паўд. частка, перасечаная гэтай дарогай, насіла назву Быхаўскай. Тут знаходзілася карчма, хаты рамеснікаў і гандляроў. Вяскоўцы займаліся рознымі промысламі, выраблялі дубовую клёпку і бочкі з яе. З 20.8.1924 г. ў Дубнянскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1932 г. арганізаваны калгас імя Молатава. У гэтым жа годзе пач. школа ператворана ў 7-гадовую. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы расстралялі старшыню калгаса Х.Н.Клепчу з сям'ёй. Многія вяскоўцы змагаліся супраць акупантаў ў партыз. атрадах. Вызвалена 30.6. 1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Доўгаўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 101 гаспадарка, 171 жыхар, у складзе саўгаса «Доўгаўскі» (цэнтр — в. Доўгае). Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, пад вуглом да чыгункі. Забудавана двухбакова, шчыльна пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд.-ўсх. ускраіне.

**ЗАКОРКІ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Клічава, 122 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Стары Востраў, Акцябрск, Чаравач і далей па шашы чыг. ст. Нясета—Клічаў. 7 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

У 1897 г. вёска Закоркі (69 двароў, 416 жыхароў) у Якшыцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1914 г. вёска падзелена на дзве: Закоркі 1 і Закоркі 2. У 1917 г. 5 двароў, 30 жыхароў. Да 1924 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Кабылянскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі, дзе размясціліся новыя пасяленцы. Восенню 1930 г. арганізаваны калгас «Прабуджэнне», старшынёй якога быў мясц. жыхар Р.Ц.Князік, а затым М.К. Койпіш — удзельнік грамадз. вайны, камандзір аддз. палкавой разведкі Разінскага палка 25-й Чапаеўскай стралк. дывізіі, партызан у Вял. Айч. вайну. Дзейнічалі электрастанцыя, ваўначоска, крупарушка, маслабойня. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1990 г. 19 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе калгаса імя Э.Тэльмана (цэнтр — в. Стары Востраў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдУ, за меліярацыйным каналам — адасоблены ўчастак забудовы.

**ЗАКОРКІ 2** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 28 км на З ад Клічава, 120 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны.

На Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Стары Востраў, Акцябрск, Чаравач і далей па шашы чыг. ст. Нясета—Клічаў. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў 1914 г. ў выніку падзелу в. Закоркі на дзве: Закоркі 1 і Закоркі 2. Да 1924 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Кабылянскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Авангард», першым старшынёй якога быў Д.М.Вікторчык. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6. 1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1992 г. 16 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе калгаса імя Э.Тэльмана (цэнтр — в. Стары Востраў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАКУПЛЕННЕ** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 37 км на ПнУ ад Клічава, 55 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На паўн. ускраіне цячэ р. Даўжанка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Доўгае, Малінне і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 47 гаспадарак, 76 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1745 г. вёска ў Быхаўскім графстве ВКЛ, прыватнае ўладанне. У 1758 г. 22 двары, 56 жыхароў мужчынскага полу, меліся карчма, млын. У 1858 г. вёска (164 жыхары мужчынскага полу) і аднайменны фальварак у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ. Гаспадар маёнтка меў у 1873 г. 1980 дзес. зямлі і 2 млыны. У 1880 г. 59 двароў, 380 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім і кавальскім промысламі, сплавам лесу па р. Даўжанка. Мелася драўляная царква (адкрыта не пазней 1880 г.). У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 83 двары, 555 жыхароў, школа граматы. У фальварку — 7 двароў, 18 жыхароў, вадзяны млын. У 1909 г. ў вёсцы 93 двары, 578 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Ядранаслабодскім с/с Чачэвіцкага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці. У крас. 1921 г. створана с.г. арцель «Веснік», у 1931 г. — калгас «Перамога», арганізатарам і першым кіраўніком якога быў Н.С.Краўцоў. У 1940 г. 143 двары, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас блакады ў жн. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 64 жыхары. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. зноў у Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 100 гаспадарак, 208 жыхароў, у складзе саўгаса «Доўгаўскі» (цэнтр — в. Доўгае). Размешчаны магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, да якой на У далучаецца крывалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на зах. ускраіне.

**ЗАКУЦЦЕ** — вёска ў Каўбчанскім с/с, за 12 км на Пн ад Клічава, 104 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна), а на Пд — яе прыток р. Цімень. Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Беразіно, якая праходзіць праз вёску. 35 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).

У 1890 г. ў вёсцы адкрыта школа граматы, якая ў 1912 г. ператворана ў земскую, размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1897 г. ў Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 39 двароў, 267 жыхароў, меліся ветраны млын, хлебаза-



пасны магазін. У 1908 г. 40 двароў, 270 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам розных быт. рэчаў, працавалі на лесараспрацоўках. З 20.8. 1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 70 вучняў, дзейнічаў драматычны гурток. У 1926 г. хутары, 23 двары, 123 жыхары. У кастр. 1930 г. арганізаваны калгас «Іскра Камуны», які з 1937 г. абслугоўваўся Красінскай МТС. У 1939—40 гг. з хутароў у вёску пераселена 87 двароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 77 гаспадарак, 145 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Коўбча). Размешчаны магазін. Планіровачна складаецца з 4 амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, уздоўж шашы і злучаных на Пд перавулкамі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАКУЦКІ ДВАРОК** — вёска ў Каўбчанскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Клічава, 105 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Беразіно, якая праходзіць праз вёску. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

У 1897 г. сядзіба Закуцце (26 жыхароў), ветраны млын і засценак (9 двароў, 59 жыхароў), у 1917 г. фальварак Закуцце (13 двароў, 105 жыхароў). З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У кастр. 1930 г. арганізаваны калгас «Іскра камуны». У пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1958 г. ў Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.7.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Коўбча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАЛІЧЫНКА** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Клічава, 62 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам і праходзіць чыгунка, на У цячэ р. Даўжанка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вішнёўка, Доўгае, Малінне і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з в. Дубно. З 20.8.1924 г. ў Дубнянскім с/с Чачэвіцкага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. ў Клічаўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ніва», цэнтрам якога была в. Дубно. У 1940 г. 32 двары, 81 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 17 жыхароў. Каля вёскі базіраваўся 113-ы партыз. атрад. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9. 1944 г. ў Доўгаўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 18 гаспадарак, 27 жыхароў, у складзе саўгаса «Доўгаўскі» (цэнтр — в. Доўгае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАЛАГ** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 12 км на З ад Клічава, 104 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пн і Пд

праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Булнева, Нясята, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў 19 ст. выхадцамі з суседніх вёсак, якія пасяліліся ва ўрочышчы Залог. У 1897 г. хутар, у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 26 жыхароў. З 1922 г. ў складзе саўгаса «Нясята». У 1932 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Будаўнік» (цэнтр — в. Буднева). З 20.8. 1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1992 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў, у складзе племзавода «Нясята» (цэнтр — в. Нясята). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАМІКІТКА** — вёска ў Патоцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Клічава, 77 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Вонічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На ПнЗ цячэ р. Сушанка (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Суша, Патока, Стаялава і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 16 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Засн. ў 1920-я г. выхадцамі з суседніх вёсак на месцы хутара. З 20.8.1924 г. ў Ганчанскім с/с Клічаўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Прамень Саветаў», які ў 1935 г. аб'яднаўся з калгасам імя Э.Тэльмана (в. Усакіна). З 1937 г. калгас абслугоўвала Красінская МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 25 гаспадарак, 61 жыхар, у складзе саўгаса «Клічаўскі» (цэнтр — в. Патока), размешчана вытв. брыгада. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАПОЛЛЕ** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Клічава, 112 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ўсх. ускраіне цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Бабруйск, якая праходзіць праз вёску. 215 гаспадарак, 559 жыхароў (2007).

Курганныя могільнікі каля вёскі сведчаць аб тым, што гэта тэр. была заселена яшчэ ў 8—10 ст. славянскімі плямёнамі дрыгавічоў. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. як сяло ў Бабруйскай вол. ВКЛ, дзярж. уласнасць. У 1639 г. 45 двароў, меўся млын, паблізу быў фальварак, у 1773 г. — 34 двары. У 18 ст. пабудавана драўляная царква. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1845 г. ў складзе маёнтка Ольса Бабруйскага павета Мінскай губ., 26 двароў, 191 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1897 г. вёска Заполле (яна ж Вял. Ольса), 65 двароў, 481 жыхар, заезны дом, крама, царква, штогод 6 снеж. праводзілася вясковае свята. У 1909 г. адкрыта земская школа, для якой у 1912 г. пабудавана памяшканне. У 1917 г. 97 двароў, 635 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 115 вучняў, дзейнічаў драматычны гурток. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. 2.2.1925 г. арганізавана рыбалоўная арцель, затым — меліярацыйнае т-ва, адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 122 двары, 762 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Парыжская камуна». У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941



г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі базіраваўся партыз. атрад. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. 50 вяскоўцаў загінулі ў баях супраць акупантаў. У 1990 г. 167 гаспадарак, 459 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы). У 2007 г. ў складзе СПК «Калгас імя Леніна». У вёсцы размешчаны Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, сярэдняя школа, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне, уздоўж вул. Садовай узведзены двухпавярховыя мураваныя катэджныя дамы. У цэнтры вёскі, каля шашы, размешчаны грамадскія будынкі. На паўн.-зах. і паўн. ускраінах — гасп. сектар.

**ЗВАЛЬНЯ** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Клічава, 62 км ад г. Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Свёкрава, Малінне і далей па шашы Чачэвічы—Клічаў. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў сярэдзіне 19 ст. стараабрадцамі, якія перасяліліся сюды з Расіі. У 1917 г. хутар Звальніца ў Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 58 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Доўгаўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7. 1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1933 г. арганізаваны калгас «Чырвоны калёснік». Дзейнічала пач. школа. Вяскоўцы апрача земляробства займаліся калёсным промыслам (адсюль назва калгаса). У 1940 г. 20 двароў, 47 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1942 г. ў час карнай аперацыі «Арол» гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 16 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 8 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе саўгаса «Доўгаўскі» (цэнтр — в. Доўгае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗЕМЛЯНІЦА** — вёска ў Віркаўскім с/с, за 14 км на З ад Клічава, 106 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, па паўд.-ўсх. ускраіне праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дуброва, Залаг, Буднёва, Нясята, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў 1923 г. на былых памешчыцкіх землях у асноўным былымі батракамі і малазямельнымі сялянамі з вёсак Віркаў, Лянёўка, Міхалоў. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 20.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Свабодная праца» (цэнтр — в. Лянёўка). У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 19 гаспадарак, 32 жыхары, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Віркаў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай з завулкам вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, перпендыкулярна да чыгункі, і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ІВАНАЎКА** — вёска, падпарадкавана Клічаўскаму раённаму Савету дэпутатаў і выканаўчаму камітэту. За 5 км на З ад Клічава, 97 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З праходзіць мелія-

рацыйны канал, злучаны з р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 15 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

У 1897 г. засценак у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 20 двароў, 129 жыхароў. У 1921 г. 6 двароў, 40 жыхароў. У 1924 г. да засценка быў далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. хутары, 17 двароў, 58 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Дзмітраўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1936 г. арганізаваны калгас «8-ы з'езд Саветаў», які з 1937 г. абслугоўваўся Красінскай МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9. 1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12. 1964 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 24 гаспадаркі, 41 жыхар, у складзе Магілёўскага саўгаса-тэхнікума (цэнтр — г.п. Клічаў). Планіровачна складаецца з плаўнавыгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАВЯЗА** — вёска, падпарадкавана Клічаўскаму раённаму Савету дэпутатаў і выканаўчаму камітэту. За 8 км на ПдУ ад Клічава, 100 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ р. Перасека (прыток р. Перасопенка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Бёрда, Клічаўскія Пасёлкі і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў 1918 г. выхадцамі з в. Бёрда. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Да 1939 г. ў Ваевіцкім, з 1939 г. ў Бёрдаўскім сельсаветах. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камунар». У 1940 г. 26 двароў, 73 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1942 г. ў час карнай экспедыцыі «Арол» гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску і расстралялі 11 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. 3-й арміяй 1-га Бел. фронту. За 1 км на ПнЗ ад вёскі, на вайск. могілках, у брацкай магіле пахаваны 27 сав. воінаў і 27 партызан, якія загінулі ў чэрв. 1944 г. пры вызваленні раёна. Сярод пахаваных воіны 348-й стралк. дывізіі 35-га стралк. корпуса 3-й арміі 1-га Бел. фронту. Тут пахаваны таксама Герой Сав. Саюза партызан П.І.Кавалёў, які загінуў 17.3.1944 г. ў баі каля былой в. Перунова. У 1990 г. 17 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе калгаса «Уперад да камунізму» (цэнтр — в. Бёрды). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЗЛЫ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Клічава, 110 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На У праходзіць меліярацыйна канал, злучаны з р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Пярэкаль, Арэхаўка, Нясята, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 24 гаспадаркі, 41 жыхар (2007).

У 1897 г. засценак у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 7 двароў, 51 жыхар. У 1908 г. 9 двароў, 97 жыхароў. У 1917 г. вёска, 19 двароў, 129 жыхароў. У 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. было 30 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 25 двароў, 142 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Колас», які першапачаткова аб'ядноўваў 7 гаспадарак. У хуткім часе ў калгас аб'ядналіся ўсе гаспадаркі. Старшынёй праўлення калгаса быў вясковец А.П.Хруцкі, які ў Вял. Айч. вайну ў 1943 г. па даносе здрадніка трапіў у рукі акупантаў і пасля доўгіх катаванняў быў расстраляны. У



пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1990 г. 39 гаспадарак, 86 жыхароў, у складзе калгаса імя Э.Тэльмана (цэнтр — в. Стары Востраў). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЛІНАЎКА** — вёска ў Віркаўскім с/с, за 17 км на З ад Клічава, 109 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Пярэкаль, Арэхаўка, Нясята, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 45 гаспадарак, 83 жыхары (2007).

Засн. ў 1923 г. на месцы былога фальварка і хутара Басін, якія ўваходзілі ў Свіслацкую вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Дзейнічалі пач. школа і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1934 г. арганізаваны калгас «Калінаўка». У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе супраць гітлераўцаў загінуў кожны чацвёрты жыхар вёскі. Вызвалена 29.6.1944 г. войскамі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. З 20.4.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1967 г. далучаны вёскі Басін, Свабода. У 1992 г. 76 гаспадарак, 149 жыхароў, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Віркаў). Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных вуліц. Да вуліцы шыротнай арыентацыі на У далучаецца другая, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, а на З — вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне — гасп. сектар. Вёска (б. фальварак Басін) — радзіма І.Я.Грынявіцкага, рэвалюцыянера-нарадавольца, аднаго з 4 выканаўцаў даручэння «Народнай волі» забіць цара Аляксандра II. 1.3.1881 г. І.Я.Грынявіцкі кінуў бомбу, якой забіў цара і смяротна параніў сябе.



*І.Я.Грынявіцкі.*

**КАЛІЧОНКА** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 40 км на ПнУ ад Клічава, 52 км ад Магілёва, 1 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн, З і У мяжуе з лесам, на У цячэ р. Друць (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ядраная Слабада, Новая Слабодка, Закупленне, Доўгае, Малінне і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 43 гаспадаркі, 68 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1747 г. ў Быхаўскім графстве ВКЛ, 27 двароў, прыватнае уладанне. У 1757 г. мелася карчма. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., 107 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 54 двары, 355 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходнымі промысламі. У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета, 77 двароў, 570 жыхароў. Мелія школа граматы, піцейны дом. У крас. 1906 г. сяляне падпалілі лес у памешчыцкім маёнтку. У 1909 г. 81 двор, 636 жыхароў. У 1911 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 48 вучняў. 18.7.1920 г. пачала дзейнічаць школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, у якой навучаліся 23 вяскоўцы. З 20.8.1924 г. ў Ядранаслабодскім с/с Чачэвіцкага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. ў Клічаўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1933 г. арганізаваны калгас імя Свярдлова. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі базіраваўся 113-ы партыз. атрад. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 113 гаспа-

дарак, 208 жыхароў, у складзе саўгаса «Доўгаўскі» (цэнтр — в. Доўгае). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц шыротнай арыентацыі, злучаных на У і З перавулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — гасп. сектар.

**КАНСТАНТОЎ** — вёска, падпарадкавана Клічаўскаму раённаму Савету дэпутатаў і выканаўчаму камітэту. За 4 км на ПдЗ ад г. Клічава, 96 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартыня сувязі па шашы Клічаў—Бабруйск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 15 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Узнікла на месцы б. фальварка Канстанцінава ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., у якім у 1897 г. было 34, а ў 1907 г. 30 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 7 двароў, 48 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Зорка», які з 1937 г. абслугоўвала Красінская МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1941 г. партыз. атрад пад камандаваннем І.З.Ізоха разграміў варожы гарнізон, які размясціўся ў вёсцы. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 38 гаспадарак, 70 жыхароў, у складзе Магілёўскага саўгаса-тэхнікума (цэнтр — г.п. Клічаў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЎБЧАНСКАЯ СЛАБОДКА** — вёска ў Каўбчанскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Клічава, 113 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Беразіно, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 21 гаспадарка, 49 жыхароў (2007).

Каля вёскі размешчаны стараж. курган, які захаваўся ад вял. курганнага могільніка дрыгавічоў (8—10 ст.), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 1850 г., калі мясц. памешчык Ванковіч купіў у памешчыка з в. Азярышча Сеніцкай вол. Мінскага павета 6 прыгонных сялян-майстроў і пасяліў іх на лясной паляне правага берага р. Ольса. Тут сяляне з бліжэйшых вёсак пад кіраўніцтвам гэтых майстроў пабудавалі ветраны млын, гарбарную майстэрню, кузню, жылыя дамы. Перасялілася сюды і частка сялян з в. Коўбча. Новае пасяленне атрымала назву Слабада Каўбчанская. Пасля адмены прыгоннага права вяскоўцы апрача земляробства займаліся нарыхтоўкай і сплавам лесу ў г. Бабруйск. У 1897 г. вёска ў Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 15 двароў, 152 жыхары. Меліся ветраны і вадзяны млыны. У 1908 г. 16 двароў, 192 жыхары, у 1917 г. 26 двароў, 150 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1930 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 34 двары, 212 жыхароў. У 1927 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Слабада». У 1938—39 гг. вёска значна павялічылася за кошт гаспадарак, якія былі пераселены з хутароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пач. 1942 г. з дапамогай партызан адноўлена сав. ўлада, частка жыхароў увайшла ў групу самаабароны. У час блакад 1942—44 гг. вёска была разрабавана акупантамі. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім раёнах. У 1990 г. 42 гаспадаркі, 97 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Коўбча). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай ву-



ліцы шыротнай арыентацыі з завулкам, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КЛІЧАЎСКІЯ ПАСЁЛКІ** — вёска, падпарадкавана Клічаўскаму раённаму Савету дэпутатаў і выканаўчаму камітэту. За 11 км на Пд ад Клічава, 96 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Ольса (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Бабруйск, якая праходзіць побач з вёскай. 22 гаспадаркі, 60 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. у сувязі з перасяленнем на былыя памешчыцкія землі сялян з Клічава і бліжэйшых вёсак. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 36 двароў, 205 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы быт», які з 1937 г. абслугоўвала Красінская МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 22 гаспадаркі, 60 жыхароў, у складзе Магілёўскага саўгаса-тэхнікума (цэнтр — г.п. Клічаў). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных на Пн прасёлкавай дарогай. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КОЎБЧА** — вёска, цэнтр сельсавета (з 20.8.1924 г.), за 20 км на ПнЗ ад Клічава, 112 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. На У цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Беразіно, якая праходзіць праз вёску. 169 гаспадарак, 425 жыхароў (2007).

За 1 км на ПнЗ ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік, які сведчыць аб тым, што ўжо ў 6—8 ст. тут сяліліся дрыгавічы. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1513 г. як сяло Кабла (37 гаспадарак) у Свіслацкай вол. ВКЛ. У 1563 г. 30 гаспадарак, у часовым карыстанні полацкага шляхціча. У 1589 г. сяло Кобча, дзярж. ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. З 1794 г. ў Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1806 г. пабудавана з дрэва царква. Каля вёскі ў крас. 1863 г. адбыўся бой атрада паўстанцаў пад камандаваннем Свентаржэцкага з царскімі войскамі. У 1863 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1891 г. ў ёй навучалася 47 хлопчыкаў. У 1870 г. 60 двароў (2 вуліцы), меліся царква, крама, карчма. У 1885 г. ў Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 73 двары, 608 жыхароў, меліся ветраны млын, школа, царква. У 1897 г. 144 двары, 941 жыхар, 2 ветраныя млыны, хлебазапасны магазін, крама, піцейны дом. У 1908 г. 140 двароў, 930 жыхароў, у 1917 г. 165 двароў, 1089 жыхароў. У 1920 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой у 1924 г. перададзены царк. будынак. У 1925 г. ў школе было 124 вучні, дзейнічала б-ка. У 1926 г. 230 двароў, 1309 жыхароў. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У кастр. 1930 г. арганізаваны калгас «Беларусь», у якім у 1931 г. было 57 гаспадарак, дзейнічала кузня. З 1937 г. калгас абслугоўвала Красінская МТС. У 1939—40 гг. 187 хутароў, што знаходзіліся побач, былі пераселены ў вёску. Да вёскі далучаны пасёлкі Крушыннік і Пагарэлае, а пач. школа рэарганізавана ў 7-гадовую, а затым у сярэднюю (1-ы выпуск 10-га класа адбыўся ў 1941 г.). Для школы быў узведзены новы будынак. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942 г. партызаны разграмілі гітлераўскі гарнізон, які размясціўся ў вёсцы. У чэрв. 1942 г. аднавіў сваю дзейнасць сельсавет, была арганізавана група самаабароны. У час блакад 1942—43 гг. вёска разбурана і разрабавана акупантамі. Вызвалена 28.6.

1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У цэнтры вёскі, каля будынка школы, у брацкай магіле пахаваны 33 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў. У іх ліку воіны 394-й асобнай аўтатранспартнай роты, партызаны 208-га асобнага імя Сталіна і 277-га партыз. палкоў. На могілках пахавана разведчыца 25-га асобнага партыз. атрада Ж.П.Кардымон, схопленая ў час выканання баявога задання і закатаваная фашыстамі ў маі 1942 г. У баях супраць ням.-фаш. захопнікаў загінуў кожны чацвёрты жыхар вёскі. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1953 г. ўступіў у строй радыёвузел, вёска была радыёфікавана, а ў 1965 г. — электрыфікавана. У 1990 г. 187 гаспадарак, 425 жыхароў, цэнтр калгаса «Савецкая Беларусь». У 2007 г. — цэнтр СПК «Калгас «Савецкая Беларусь», дзейнічаюць сярэдняя школа-сад, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін. Тэр. вёскі размежавана ручаямі на паўн., паўд. і зах. часткі. Узаемна перпендыкулярныя вуліцы ўтвараюць дробную сетку кварталаў. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц., пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы паўд. часткі, дзе ўзведзена шмат мураваных жылых дамоў. На паўд.-зах. і паўн.-ўсх. ускраінах — гасп. сектар. Радзіма бел. вучонага ў галіне оталарынгалогіі, доктара медыцынскіх навук, прафесара М.П.Кнігі.



*М.П.Кніга.*

**КРАСНЫ БЕРАГ** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Клічава, 102 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На зах. ускраіне цячэ р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бацэвічы і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

У 1897 г. засценак (10 двароў, 74 жыхары) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 14 двароў, 76 жыхароў. У 1916 г. адкрыта паштова-тэлегр. аддзяленне. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 13 двароў, 35 жыхароў. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Бальшавік» (цэнтр — в. Вусце). У 1940 г. 22 двары, 81 жыхар. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, расстралялі 3 жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1964 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 11 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, размешчанай уздоўж усх. берага ракі.

**КУЦІН** — вёска ў Каўбчанскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Клічава, 117 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ліпніца, Масцішча, Коўбча і далей па шашы Клічаў—Беразіно. 17 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

У 1857 г. вёска ў Магілёўскім павеце, 51 жыхар мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 30 двароў, 197 жыхароў. Меліся ветраны млын, хлебазапасны магазін. У 1908 г. ў в. Куцін 29 двароў, 197 жыхароў, у в. Уложжа (яна ж Куцін 2) 12 двароў, 66 жыхароў. У 1917 г. ў в. Куцін 20 двароў, 129 жыхароў, у в. Куцін 2 26 двароў, 193 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Максімавіцкім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. вёскі Куцін (32 двары, 187 жыхароў) і Куцін 2 (29 двароў, 170 жыхароў). У



1920-я г. перасяленцы з вёсак Куцін 1 і Куцін 2 утварылі побач невял. вёску Куцін 3. У 1933 г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас «Новае жыццё». Дзейнічалі пач. школа, хата-чытальня, гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. Да 1937 г. калгас абслугоўвала Нясяцкая, а з 1937 г. — Красінская МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час блакад 1942—44 гг. спалена і разрабавана гітлераўцамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. З 20.9. 1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12. 1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. З 1958 г. ў Каўбчанскім с/с. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1967 г. вёскі Куцін 1, Куцін 2, Куцін 3 аб'яднаны ў адну вёску Куцін. У 1992 г. 24 гаспадаркі, 66 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Новыя Максімавічы). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛАЗЗЁ** — вёска, падпарадкавана Клічаўскаму раённаму Савету дэпутатаў і выканаўчаму камітэту. За 7 км на ПдУ ад Клічава, 99 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам і цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Бёрда, Клічаўскія Пасёлкі і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Курганны могільнік крывічоў (8—10 ст.), які знаходзіцца за 2,2 км на З ад вёскі, сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска засн. ў 1925 г. выхадцамі з в. Бёрда, якія пасяліліся тут на былых памешчыцкіх землях. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Колас» і склалі яго паляводчую брыгаду. У 1940 г. 21 двор, 63 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1942 г. падчас блакады поўнасцю спалена карнікамі, якія загубілі 9 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 18 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе калгаса «Уперад да камунізму» (цэнтр — в. Бёрда). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛІПНІЦА** (да 7.3.1975 г. Старая Ліпніца і Новая Ліпніца) — вёска ў Каўбчанскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Клічава, 117 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Нясета (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Масцішча, Коўбча і далей па шашы Клічаў—Беразіно. 22 гаспадаркі, 31 жыхар (2007).

У 1885 г. вёска Ліпніца ў Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. 25 двароў, 255 жыхароў. Мелася царква. У 1897 г. 54 двары, 372 жыхары, дзейнічаў хлебазапасны магазін. Побач была аднайменная ферма (1 двор, 7 жыхароў). У 1908 г. ў вёсцы 57 двароў, 372 жыхары, на ферме 1 двор, 7 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 76 двароў, 484 жыхары. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі, якая была раздадзена бяднейшым вяскоўцам і батракам. На месцы колішняга маёнтка ўзнік хутар Новая Ліпніца, які потым быў ператвораны ў вёску. У 1926 г. хутары, 100 двароў, 506 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Максімавіцкім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі, з 26.7.1930 г. ў Клічаўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1932 г. арганізаваны калгас «Вольная праца», які з 1935 г. абслугоўвала Нясяцкая, а з 1937 г. — Красінская МТС. Дзейнічалі хата-чытальня і пач. школа. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы падчас блакад 1942—44 гг. спалілі вёску, разрабавалі маёмасць. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. Пасля вай-

ны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. З 1958 г. ў Каўбчанскім с/с. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1975 г. вёскі Старая Ліпніца і Новая Ліпніца аб'ядналіся ў адну в. Ліпніца. У 1990 г. 42 гаспадаркі, 95 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Новыя Максімавічы). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЮБІЧЫ** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Клічава, 107 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З і Пд мяжуе з лесам, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бацэвічы і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 18 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Засн. ў канцы 19 ст. на ўчастку выкарчаванага лесу, які памешчык аддаў у арэнду сялянам. У 1897 г. засценак Любічы (ён жа Брыцалавічы) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета, 10 двароў, 62 жыхары. У 1908 г. 7 двароў, 73 жыхары, у 1917 г. 13 двароў, 104 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 26 двароў, 124 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей. У 1992 г. 38 гаспадарак, 53 жыхары, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЮЦІНА** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Клічава, 112 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Лень (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Чырвоная Ніва, Любічы, Бацэвічы і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 24 гаспадаркі, 37 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1684 г. ў Бабруйскім старостве ВКЛ, дзярж. ўласнасць, 30 двароў. У 1689 г. вёска Луцін-Слабада ў складзе прыватнага ўладання Свіслач, у Мінскім павеце Мінскага ваяв. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце, 68 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка. У 1844 г. ў складзе маёнтка Бацэвічы Бабруйскага павета, 19 двароў, 145 жыхароў. Гаспадар маёнтка меў у 1850 г. 595,5 дзес. зямлі. У 1897 г. вёска Люцін у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 58 двароў, 395 жыхароў. Меліся вадзяны млын, хлебазапасны магазін. У 1908 г. 72 двары, у 1917 г. 77 двароў, 399 жыхароў. У 1910 г. пабудавана драўляная царква. Высокія падаткі вымушалі сялян наймацца ў заробкі на лесасплаў і да купцоў. У 1910 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1920 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. было 36 вучняў. З 1924 г. ў Бацэвіцкім с/с Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.8.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Гігант». У 1936 г. пабудавана новае памяшканне для школы. У 1930-я г. на Лютнянскім балоце пачало дзейнічаць торфапрадпрыемства «Новы мост», якое належала шклозаводу «Кастрычнік». У 1940 г. 95 двароў, 312 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 80 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 61 гаспадарка, 106 жыхароў, у складзе



калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы). Размешчаны магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 (прамалінейнай і плаўна выгнутай) вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, размежаваных ракой і злучаных на Пд прасёлачнай дарогай. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЯНЁЎКА** — вёска і чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы, у Віркаўскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Клічава, 108 км ад Магілёва. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Лень). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Таценка 2, Буднева, Нясята, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 35 гаспадарак, 47 жыхароў (2007).

Два курганныя могільнікі, размешчаныя каля вёскі, сведчаць аб засяленні гэтых месц яшчэ ў 6—8 ст. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 17 ст. У 1651 г. ў складзе прыватнага ўладання Свіслач Мінскага павета Мінскага ваяв. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1857 г. 142 жыхары. У 1897 г. ў Свіслацкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 59 двароў, 455 жыхароў, у 1917 г. 86 двароў, 520 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Свіслацкім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. ў Клічаўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. была створана прац. школа 1-й ступені. У 1932 г. арганізаваны калгас «Свабодная праца», у 1930-я г. працавала смалакурня. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.9.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1982 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1992 г. 85 гаспадарак, 149 жыхароў, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Віркаў). Складаецца з 3 плаўна выгнутых вуліц, якія ад моста праз ручай адыходзяць на З, ПнУ і ПдУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-ўсх. ускраіне — чыг. станцыя.

**МАЛАЯ ОЛЬСА** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Клічава, 109 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Бабруйск, якая праходзіць праз вёску. 49 гаспадарак, 84 жыхары (2007).

Курганны могільнік, размешчаны каля вёскі, сведчыць аб засяленні гэтых месц плямёнамі дрыгавічоў яшчэ ў 8—10 ст. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1-й трэці 17 ст., калі тут быў пабудаваны бровар. У 1621 г. сяло, 3 гаспадарскія і 45 сял. двароў, млын і паблізу — фальварак. У 1647 г. сяло Ольса (57 двароў) у Рэчыцкім павеце Мінскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1684 г. ў Бабруйскім старостве, 25 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1765 г. 22 двары, карчма. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1897 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета, 53 двары, 405 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. Побач быў маёнтак, 1 двор, 12 жыхароў. У 1908 г. ў вёсцы 64 двары, 457 жыхароў, у маёнтку 16 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 81 двор, 499 жыхароў, у фальварку 97 жыхароў. У канцы 1919 — пач. 1920 г. вёска знаходзілася ў зоне ваенных дзеянняў Чырвонай Арміі супраць польскіх войск. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. З 1924 г. ў Бацэвіцкім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.8.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 6.2.1925 г. створана рыбалавецкая прам. арцель. У 1926 г. 89 двароў, 638 жыхароў. У 1934 г. арганізаваны калгас «7-ы з'езд Саветаў». У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1990 г. 97 гаспадарак, 206 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы).

Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж берага ракі і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. і паўд.-зах. ускраінах — гасп. сектар.

**МАЛІНАВАЕ** (да 30.7.1964 г. Язвы) — вёска ў Патоцкім с/с, за 8 км на Пн ад Клічава, 100 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Турчанка (прыток р. Нясета), на У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Слабодка і далей па шашы Клічаў—Беразіно. 16 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. хутар Маліннік, 13 гаспадарак, 81 жыхар. У 1930 г. сюды перасяліліся 6 гаспадарак з іншых хутароў, і Маліннік быў ператвораны ў вёску. З 26.7.1930 г. ў Клічаўскім с/с Клічаўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 10.7.1939 г. ў Дзмітраўскім, з 19.8.1966 г. ў Патоцкім сельсаветах Клічаўскага р-на. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны маяк». У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.6. 1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1990 г. 31 гаспадарка, 76 жыхароў, у складзе саўгаса «Клічаўскі» (цэнтр — в. Патока). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных на Пн прасёлачнай дарогай. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛІННЕ** — вёска ў Ганчанскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Клічава, 67 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Развадава на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Чачэвічы, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Засн. ў 1908 г. ў выніку перасялення сюды сялян з Качэрыцкай вол. Бабруйскага павета. У 1917 г. ў Даўжынскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 13 двароў, 81 жыхар. У 1933 г. арганізаваны калгас імя Будзённага. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1990 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе саўгаса «Ганчанскі» (цэнтр — в. Гонча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАСНІЦКАЕ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Клічава, 112 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З і У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Акцябрск, Чаравач і далей па шашы чыг. ст. Нясета—Клічаў. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў канцы 19 ст. выхадцамі з суседніх вёсак. У 1897 г. засценак, у Якшыцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 93 жыхары. У 1917 г. вёска, 14 двароў, 112 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Кабылянскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах, з 10.9.1964 г. ў Акцябрскім с/с. У 1931 г. арганізаваны калгас імя О.Ю.Шміта. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1990 г. 13 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе калгаса імя Э.Тэльмана (цэнтр — в. Стары Востраў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАСНОЕ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Клічава, 115 км ад



Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пн і З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Новае Сяло, Акцябрск, Чаравач і далей па шашы чыг. ст. Нясета—Клічаў. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Утворана ў 1914 г. жыхарамі навакольных вёсак і хутароў, якія перасяліліся сюды. У 1917 г. ўрочышча Масное ў Якшыцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 11 двароў, 79 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Кабылянскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах, з 10.9.1964 г. ў Акцябрскім с/с. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвонаармеец», які ў 1935 г. аб'яднаўся з калгасам «Авангард» (в. Закоркі 2). У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1990 г. 13 гаспадарак, 27 жыхароў, у складзе калгаса імя Э.Тэльмана (цэнтр — в. Стары Востраў). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, гал. з якіх арыентавана з ПдЗ на ПнУ, на Пд ад яе адыходзіць другая кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІЛОЕ** — вёска і чыг. станцыя на лініі Магілёў—Асіповічы, у Доўгаўскім с/с, за 25 км на Пн ад Клічава, 67 км ад Магілёва. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Рудка (прыток р. Даўжанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Залічынка, Вішнёўка, Доўгае, Малінне і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 22 гаспадаркі, 41 жыхар (2007).

Засн. ў 1928 г. ў сувязі з будаўніцтвам чыг. Асіповічы—Магілёў. Да 1936 г. тут быў раз'езд, праходзіла вузкакалейная чыгунка, якая перасякала лясістую мясцовасць. Уздоўж вузкакалейкі вялася нарыхтоўка лесу, на станцыі быў лесасклад. З часу заснавання ў Доўгаўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай, з 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Магілёўскай абласцях, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Чыгунка кантралявалася партызанамі і не дзейнічала. У сярэдзіне ліп. 1941 г. воіны Чырвонай Арміі, якія не змаглі выйсці з акружэння, разам з мясц. жыхарамі стварылі падп. групу (кіраўнік Г.К.Паўлаў). Гэта група папаўнялася і ў хуткім часе склала ядро партыз. атрада. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У брацкай магіле каля вёскі пахаваны воіны, партызаны і мірныя жыхары, якія загінулі ў 1941—44 гг. У 1990 г. 46 гаспадарак, 77 жыхароў. Ёсць фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ паралельна да чыгункі, забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне — чыг. станцыя.

**МІЛАЖАНЬ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Клічава, 112 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З і У мяжуе з лесам. На У цячэ р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Акцябрск, Чаравач і далей па шашы чыг. ст. Нясета—Клічаў. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

У 1857 г. засценак Мілошына ў Бабруйскім павеце Мінскай губ. Пасля адмены прыгоннага права (1861) сяляне — выхадцы з вёсак Віркаў (па прозвішчу Лапаціны) і Кабылянка (па прозвішчу Якшонкі) купілі ў памешчыка зямлю і паклалі тут пачатак вёсцы. У 1897 г. засценак Мілажна ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 11 двароў, 85 жыхароў. У 1917 г. вёска Мілажня Новая (37 двароў, 169 жыхароў) і засценак Мілажня Старая (5 двароў, 27 жыхароў). У 1917 г. ў Мілажні Старой 5 двароў, 27

жыхароў, у Мілажні Новай 33 двары, 189 жыхароў.

З 20.8.1924 г. ў Кабылянскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У сярэдзіне 1920-х г. засценак Мілажань Старая і вёска Мілажань Новая аб'ядналіся ў адну вёску Мілажань. У 1926 г. 43 двары, 188 жыхароў. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны лістапад». У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1990 г. 12 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе калгаса імя Э.Тэльмана (цэнтр — в. Стары Востраў). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІХАЛОЎ** — вёска ў Віркаўскім с/с, за 20 км на З ад Клічава, 112 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Пярэкаль, Арэхаўка, Нясята, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

У 1857 г. вёска Міхалова, уласнасць памешчыка. У 1897 г. вёска Міхалова (яна ж Міжвострае), у Свіслацкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 32 двары, 232 жыхары. Мелася лаўка. У 1917 г. 48 двароў, 328 жыхароў. Многія вяскоўцы працавалі па найме ў купцоў і памешчыка. З 20.8.1924 г. ў Свіслацкім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 8.7.1931 г. ў Клічаўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Бярэзіна», які з 1937 г. абслугоўвала Бацэвіцкая МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы разрабавалі вёску. Асабліва вялікія страты нанесены ёй у час блакад 1942—43 гг. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім раёнах. У 1990 г. 17 гаспадарак, 41 жыхар, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Віркаў). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных перавулкам.

**МІХАЛОЎКА** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Клічава, 109 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Бабруйск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1772 г. вёска ў Кажуховіцкім старостве Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць, меўся шынок. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце, 26 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка. У 1917 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ.,4 двары, 37 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Запольскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 20.7. 1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 10 двароў, 69 жыхароў. У 1933 г. арганізаваны калгас імя Будзённага, які з 1937 г. абслугоўвала Бацэвіцкая МТС. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.6. 1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Запольскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 16.7.1954 г. ў Бацэвіцкім с/с. У 1990 г. 11 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы). Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МЯЖНОЕ** — вёска ў Ганчанскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Клічава, 72 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Вонічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз чыг. ст. Вонічы,



в. Гонча і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Утворана ў 1901 г. выхадцамі з в. Гонча, якія пасяліліся тут на выкупленых у памешчыка землях. У 1917 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 31 двор, 193 жыхары. Многія вяскоўцы апрача земляробства займаліся сплавам лесу. З 20.8.1924 г. ў Ганчанскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 34 двары, 190 жыхароў, было арганізавана т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі, на базе якога ў 1930 г. створаны калгас «Сталінскі шлях». З 1934 г. калгас абслугоўвала Бацэвіцкая МТС. Дзейнічалі пач. школа, гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1940 г. 45 двароў, 154 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У канцы 1941 г. з удзелам партызан адноўлена сав. ўлада, вялася сумесная апрацоўка зямлі, дзейнічала група самаабароны. У жн. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 8 жыхароў. Вызвалена 30.6. 1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 26 гаспадарак, 39 жыхароў, у складзе саўгаса «Ганчанскі» (цэнтр — в. Гонча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЕ СЯЛО** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Клічава, 112 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Нясета (прыток р. Ольса), на Пд — канал, злучаны з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Акцябрск, Чаравач і далей па шашы чыг. ст. Нясета—Клічаў. 15 гаспадарак, 23 жыхары (2007). У 1897 г. вёска Новае Сяло (яна ж Людское) у Якшыцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 67 двароў, 365 жыхароў. Меліся кузня, карчма. У 1908 г. 76 двароў, 510 жыхароў. У 1913 г. адкрыта школа (нар. вучылішча). У 1917 г. 83 двары, 492 жыхары. Да 1924 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. З 20.8. 1924 г. ў Кабылянскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1928 г. арганізаваны калгас «Усход». У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1992 г. 43 гаспадаркі, 80 жыхароў, у складзе калгаса імя Э.Тэльмана (цэнтр — в. Стары Востраў). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ СЛАБОДКА** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Клічава, 57 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам, на У цячэ р. Друць (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Закупленне, Доўгае, Малінне і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 39 гаспадарак, 71 жыхар (2007).

Выяўленыя археолагамі разваліны печаў, рэшткі паліванай распісной керамікі, сплавы каляровага шкла сведчаць аб існаванні тут у 16—17 ст. цэнтра рамесніцкай вытв-сці. У 1858 г. вёска ў Быхаўскім павеце Магілёўкай губ., 90 рэвізскіх душ. У 1880 г. 36 двароў, 263 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета, 58 двароў, 411 жыхароў. Меліся школа граматы, царква, піцейны дом. У 1909 г. 74 двары, 474 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Ядранаслабодскім с/с Чачэвіцкага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 8.7.1931 г. ў Клічаўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1920-я г. адкрыта 4-гадовая школа, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1933 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях», першым старшынёй якога быў М.Пінчукоў (закатаваны

гітлераўцамі ў 1942 г.). У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 29.6.1944 г. войскамі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Доўгаўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1990 г. 79 гаспадарак, 178 жыхароў, у складзе саўгаса «Доўгаўскі» (цэнтр — в. Доўгае). Размешчаны магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — гасп. сектар.

**НОВЫ ВОСТРАЎ** — вёска ў Акцябрскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Клічава, 114 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бярэзіна (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Новае Сяло, Акцябрск, Чаравач і далей па шашы чыг. ст. Нясета—Клічаў. 61 гаспадарка, 144 жыхары (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. вёска Востраў Новы ў Якшыцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 22 двары, 151 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Кабылянскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Світанне». У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6. 1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1967 г. да вёскі далучаны вёскі Запруддзе і Галубок. У 1990 г. 98 гаспадарак, 255 жыхароў, у складзе калгаса імя Э.Тэльмана (цэнтр — в. Стары Востраў). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з Г-падобнай вуліцы, шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — гасп. сектар.

**НОВЫ СПОР** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Клічава, 109 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З і У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Юзафін і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Узнікла ў 1920-я г. ў сувязі з перасяленнем сюды, на былыя памешчыцкія землі, сялян з вёсак Стары Спор, Дуброва. З 8.10.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Дуброва», які з 1937 г. абслугоўвала Бацэвіцкая МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вёска знаходзілася ў раёне актыўных дзеянняў партыз. атрадаў. Вызвалена 29.6.1944 г. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. Да 1950 г. ва Усохскім, затым у Бацэвіцкім сельсаветах. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1992 г. 10 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВЫЯ МАКСІМАВІЧЫ** — вёска ў Каўбчанскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Клічава, 112 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На ПнЗ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Старыя Максімавічы, Селішча і далей па шашы чыг. ст. Нясета—Клічаў. 134 гаспадаркі, 404 жыхары (2007).

Засн. ў 1-й пал. 19 ст., калі сяляне са Случчыны купілі ў памешчыка зямлю і пасяліліся тут, каля в. Максімавічы. У 1897 г. засценак Максімавічы ў Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ.,



29 двароў, 205 жыхароў. У 1907 г. 30 двароў, 205 жыхароў. У 1908 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1917 г. вёска Максімавічы Новыя, 36 двароў, 245 жыхароў. З 20.8.1924 г. цэнтр Максімавіцкага с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 72 вучні. У 1926 г. 47 двароў, 309 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны маяк», які з 1935 г. ўваходзіў у зону абслугоўвання Нясяцкай, а з 1937 г. — Красінскай МТС. У 1935 г. для школы пабудавана новае памяшканне, у 1940 г. пач. школа ператворана ў сямігодку. Працавалі паравы млын і кузня. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ужо ў канцы лета 1941 г. была адноўлена работа Максімавіцкага с/с, створана група самаабароны, у якую ўвайшлі прадстаўнікі ўсіх вёсак сельсавета. На базе гэтай групы затым быў арганізаваны партыз. атрад. Вызвалена 30.6. 1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. Каля вясковых могілак у брацкай магіле пахаваны 23 сав. воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць акупантаў. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1. 1954 г. Магілёўскай абласцей, з 21.10.1960 г. ў Каўбчанскім с/с, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1990 г. 63 гаспадаркі, 192 жыхары, цэнтр калгаса «Радзіма». У 2007 г. вёска — цэнтр СПК «Калгас «Радзіма», сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пн далучаецца кароткі завулак. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц., пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У паўд. частцы вядзецца новае мураванае будаўніцтва ў асноўным аднакватэрнымі жылымі дамамі. На Пд — гасп. сектар.

**НОВЫЯ НАБАРКІ** — вёска ў Каўбчанскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Клічава, 117 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Новыя Максімавічы, Старыя Максімавічы, Селішча і далей па шашы чыг. ст. Нясета—Клічаў. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў 2-й пал. 19 ст. сялянамі з в. Старыя Набаркі, якія купілі ці арэндавалі тут у памешчыка зямлю. У 1897 г. засценак Набаркі ў Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 20 двароў, 158 жыхароў, меўся ветраны млын. У 1917 г. вёска Набаркі Новыя, 23 двары, 153 жыхары.

Памешчыцкая зямля была перададзена бяднейшым вяскоўцам і батракам. З 20.8.1924 г. ў Максімавіцкім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7. 1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 29 двароў, 143 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Праўда», у 1935 г. для пач. школы, якая дзейнічала ў вёсцы, пабудавана новае памяшканне. Да 1937 г. калгас абслугоўвала Нясяцкая, а затым — Красінская МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы разрабавалі і спалілі вёску. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 21.10.1960 г. ў Каўбчанскім с/с, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1990 г. 13 гаспадарак, 27 жыхароў, у складзе калгаса імя Жданава (цэнтр — в. Новыя Максімавічы). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НЯСЕТА** — пасёлак і чыг. станцыя на лініі Магілёў—Асіповічы, у Нясяцкім с/с, за 7 км на З ад Клічава, 99 км ад Магілёва. Рэльеф раўнінны, на У і З мяжуе з лесам. На ПнЗ цячэ р. Турчанка (прыток р.

Нясета). Транспартныя сувязі па шашы чыг. ст. Нясета—Клічаў. 85 гаспадарак, 211 жыхароў (2007).

Засн. ў 1927 г. ў сувязі з будаўніцтвам чыгункі Клічаў—Асіповічы. Вяскоўцы працавалі ў саўгасе «Нясета», а таксама на будаўнічых работах на чыгунцы. З часу заснавання ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час блакад 1942—43 гг. гітлераўцы разбурылі чыг. станцыю. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У хуткім часе пасля вызвалення была адноўлена работа чыг. станцыі. У 1990 г. 140 гаспадарак, 287 жыхароў, у складзе племзавода «Нясята» (цэнтр — в. Нясята). Ёсць аддз. сувязі, 2 магазіны, сталовая. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж чыгункі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы, чыг. станцыя — у цэнтры пасёлка.

**НЯСЯТА** — вёска, цэнтр сельсавета (з 20.8.1924), за 8 км на З ад Клічава, 100 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПнУ цячэ р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 262 гаспадаркі, 706 жыхароў (2007).

Каля зах. ускраіны захаваўся курганны могільнік 8—10 ст., які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. У 1650 г. сяло Нясята, шляхецкая ўласнасць у ВКЛ. У 2-й пал. 18 ст. ўзведзена царква, перабудаваная ў 1874 г. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1839 г. ў Бабруйскім павеце, 94 рэвізскія душы, уласнасць памешчыка, меўся хлебазапасны магазін. У 1885 г. сяло (200 жыхароў) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., меліся гарбарны з-д і царква. У 1897 г. 52 двары, 376 жыхароў, дзейнічалі царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, раз у год, 6 жн., праводзіўся таржок. Побач былі аднайменныя выселак (6 двароў, 41 жыхар, вадзяны млын, заезны дом) і маёнтак (3 двары, 18 жыхароў). У 1904 г. засн. вінакурны з-д (напярэдадні 1-й сусветнай вайны 8 рабочых). У 1908 г. ў сяле 61 двор, 395 жыхароў, у маёнтку 41 жыхар. У 1916 г. адкрыта школа (1-класнае нар. вучылішча). У 1917 г. ў сяле 73 двары, 462 жыхары. У былым панскім маёнтку ў 1919 г. была створана нар. гаспадарка «Нясята», якая мела 358 га зямлі, а ў 1926 г. — саўгас, які налічваў 543 га зямлі. Дзейнічаў вінакурны з-д. У 1922 г. адкрыта хата-чытальня. Працавалі паравы млын і сукнавальня. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., 1.10.1924 г. адкрыта 4-гадовая школа, якой быў перададзены нацыяналізаваны будынак. У 1925 г. ў школе было 65 вучняў, дзейнічалі драматычны і харавы гурткі. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Ф.Энгельса, адкрыта дзіцячая пляцоўка. У 1933 г. саўгас «Нясята», які ўваходзіў у Магілёўскі свінагадоўчы трэст, меў 5 трактароў і інш. тэхніку. На месцы былога памешчыцкага маёнтка, побач з вёскай, ва

*Чыгуначная станцыя Нясета.*





урочышчы Кладзішча, дзе раней быў саўгас «Колас», у 1934 г. была арганізавана Нясяцкая МТС (у 1938 г. 53 трактары), рэарганізаваная 31.3.1958 г. У 1938 г. ў майстэрні МТС была зманціравана электраўстаноўка, якая дала святло вёсцы. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лют. 1942 г. гітлераўцы расстралялі 10 жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. На фронце загінула 47, у партыз. барацьбе — 10 жыхароў, 18 вяскоўцаў расстраляны гітлераўцамі. У студз. 1945 г. пры Нясяцкай МТС пачалі працаваць 4-месячныя курсы трактарыстаў. У тым жа годзе ў вёсцы быў адкрыты дзіцячы дом (дзейнічаў да 1969 г.). Саўгас «Нясята» 1.1.1973 г. пераўтвораны ў племзавод Магілёўскага аблплемтрэста. У 1990 г. 287 гаспадарак, 706 жыхароў, цэнтр племзавода «Нясята». У вёсцы размешчаны сярэдняя школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, б-ка, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, 3 магазіны, сталовая, аддз. ААТ «Беларусбанк». Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ уздоўж берага ракі, паралельна да якой на ПнУ праходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы, злучаныя прасёлачнай дарогай. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі і гасп. сектар размешчаны сярод жылой забудовы на ПдУ.

**ПАБЕДА** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Клічава, 112 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Бабруйск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. выхадцамі з навакольных хутароў і вёсак. З 1924 г. ў Бацэвіцкім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.8.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1934 г. арганізаваны калгас «Дружба». У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1990 г. 15 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудова двухбаковая, няшчыльная, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДГОР'Е** — вёска ў Патоцкім с/с, за 25 км на ПнУ ад Клічава, 67 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Вонічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, абкружана лесам. На ПнЗ праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вонічы, Гонча і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. ў Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 10 гаспадарак, 90 жыхароў. У 1922 г. ўвайшла ў склад арганізаванага тут саўгаса імя Красіна з цэнтрам у в. Развадава. З 20.8.1924 г. ва Усакінскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 16 двароў, 114 жыхароў. У 1937 г. саўгас рэарганізаваны, вёска ўвайшла ў склад калгаса імя Э.Тэльмана. У 1940 г. 24 двары, 110 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1942 г. ў час карнай экспедыцыі «Арол» гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, разрабавалі маёмасць, расстралялі 16 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. З 20.8.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 19.8.1966 г. ў Патоцкім с/с, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. З 1965 г. ў складзе саўгаса «Клічаўскі» (цэнтр — в. Патока). У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1990 г. 19 гаспадарак, 36 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудава-

най двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДСТРУЖЖА** — вёска ў Ганчанскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Клічава, 72 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Вонічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Чачэвічы, якая праходзіць побач з вёскай. 10 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Засн. ў канцы 19 ст. перасяленцамі з в. Зарэчча Даўжанскай вол. Ігуменскага павета, якія купілі тут зямлю ў памешчыка. Першапачаткова мела назву Застарынне. У 1908 г. вёска ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 16 двароў, 116 жыхароў. У 1917 г. 23 двары, 142 жыхары. Меўся невял. з-д па вырабе гонту. У вёсцы назбіралася вялікая колькасць стружкі ад апрацоўкі гонту. За вёскай у сувязі з гэтым замацавалася назва Падстружжа. Да 20.8.1924 г. ў Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. 1.1.1925 г. адкрыта школа (у першы год было 58 вучняў). У 1926 г. 28 двароў, 158 жыхароў. У 1928 г. для школы пабудавана памяшканне. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1933 г. арганізаваны калгас імя Варашылава. У 1940 г. 35 двароў, 122 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вясной 1942 г. партызаны разграмілі гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. Восенню 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 9 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. У 1965 г. радыёфікавана і электрыфікавана. У 1990 г. 19 гаспадарак, 40 жыхароў, у складзе саўгаса «Ганчарскі» (цэнтр в. Гонча). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАД'ЯБЛЫНЬКА** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Клічава, 107 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Таچанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бацэвічы і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2007).

Засн. ў канцы 19 ст. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1897 г. засценак Пад'яблыняй у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 6 двароў, 34 жыхары. У 1923 г. да пасёлка далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. З 20.8. 1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 10 двароў, 43 жыхары. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12. 1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 8 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАЛАМ** — вёска ў Каўбчанскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Клічава, 114 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ліпніца, Новыя Максімавічы, Старыя Максімавічы, Селішча і далей па шашы Клічаў—Стары Востраў. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Вядома з пач. 19 ст. Першымі яе пасяленцамі былі выхадцы з в. Тальчык Кліноцкай вол. Ігуменскага павета. У 1811 г. вёска, 18 двароў, 68 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1897 г. засценак Палам (ён жа Ліпніца) у Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 20 двароў, 158 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Максімавіцкім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7. 1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 40 двароў, 208 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя М.М.Галадзеда. З 1934 г. калгас абслугоўваўся Нясяц-



кай, а з 1937 г. — Красінскай МТС. Дзейнічалі пач. школа, хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах, з 1958 г. ў Каўбчанскім с/с. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1990 г. 20 гаспадарак, 37 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Новыя Максімавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАЛОСЫ** — вёска, падпарадкавана Клічаўскаму раённаму Савету дэпутатаў і выканаўчаму камітэту. За 4 км на ПдУ ад Клічава, 96 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам і цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў сярэдзіне 1920-х г. выхадцамі з в. Бёрда, якія пасяліліся тут на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. арганізаваны калгас «Уперад». Да 1939 г. ў складзе Ваевіцкага, з 1939 г. Бёрдаўскага сельсаветаў, з 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 20 двароў, 65 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1942 г. падчас карнай экспедыцыі «Арол» гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 14 жыхароў. Вызвалена 29.6.1944 г. Пасля вайны адбудавана. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1992 г. 18 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе калгаса «Уперад да камунізму» (цэнтр — в. Бёрда). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай пераважна аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАПЛАВЫ** — вёска, падпарадкавана Клічаўскаму раённаму Савету дэпутатаў і выканаўчаму камітэту. За 5 км на ПнУ ад Клічава, 87 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Чачэвічы, якая праходзіць праз вёску. 57 гаспадарак, 125 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1579 г. як сяло Паплаўцы, валоданне Ю.Хадкевіча. У 1738 г. ў Любашанскім старостве ВКЛ, 8 двароў, дзярж. уласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1857 г. сяло ў Ігуменскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 47 двароў, 380 жыхароў. 2.4.1906 г. сяляне з вёсак Паплавы, Стаялы і мяст. Клічаў разбурылі плаціну ў маёнтку Беразіно, якая належала графу Патоцкаму, а 8.4.1906 г. аказалі супраціўленне паліцыі пры арышце зачыншчыкаў. У 1907 г. 65 двароў, 469 жыхароў. З 1916 г. дзейнічала земская школа. У 1917 г. 67 двароў, 461 жыхар.

На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені (у 1925 г. было 52 вучні), для якой у наступным годзе вяскоўцы пабудавалі памяшканне. У 1926 г. 67 двароў, 447 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты», які ў 1930 г. меў 486 га сельгасугоддзяў, у тым ліку 280 га ворыўнай зямлі, 60 коней. З 1934 г. калгас абслугоўвала Бацэвіцкая МТС. Дзейнічалі смалакурня. У 1938 г. пабудавана новае памяшканне для школы. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 14.11.1941 г. гітлераўцы расстралялі ва ўрочышчы Завуголле 300 жыхароў. У снеж. 1941 г. 277-ы партыз. атрад пад камандаваннем І.З.Ізоха пры актыўным удзеле вяскоўцаў разграміў гітлераўскі гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. На ўсх. ускраіне, дзе 28.6.1944 г. партыз. палкі

15-ы, 277-ы, асобныя партыз. атрады 25-ы, 115-ы, 278-ы злучыліся з часцямі 3-й арміі 1-га Бел. фронту, пастаўлена стэла.

У 1992 г. 95 гаспадарак, 236 жыхароў, у складзе саўгаса-тэхнікума (цэнтр — г.п. Клічаў). Размешчаны дом сац. паслуг, магазін. Планіроўка рэгулярная. Дзве прамалінейныя вуліцы шыротнай арыентацыі злучаны 2 прамалінейнымі вуліцамі амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы гал. вуліцы (адрэзак шашы). Забудова двухбаковая, шчыльная, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАТОКА** — вёска, цэнтр сельсавета (з 19.8.1966), за 7 км на Пн ад Клічава, 99 км ад Магілёва, 1 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Стаялава і далей па шашы Клічаў—Беразіно. 43 гаспадаркі, 93 жыхары (2007).

За 0,2 км на У ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік 8—11 ст., што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У 1897 г. сядзіба Патокі ў Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 1 двор, 6 жыхароў. У 1908 г. засценак (1 двор, 5 жыхароў) і аднайменны хутар (12 двароў, 60 жыхароў).

Засценак і хутар за кошт перасяленцаў хутка раслі, у 1922 г. аб'ядналіся і атрымалі статус вёскі. З 1922 г. ў складзе саўгаса імя Л.Б.Красіна, які ў 1933 г. меў 4 трактары, уваходзіў у Магілёўскі свінагадоўчы трэст, дзейнічалі кузня і шорная майстэрня. З 20.8.1924 г. ва Усакінскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 6 двароў, 20 жыхароў. У 1934 г. ў саўгасе адкрыта дзіцячая пляцоўка. На базе скасаванага саўгаса ў 1937 г. створана МТС імя Красіна, якая ў 1938 г. мела 14 трактароў (рэарганізавана 31.3.1958 г.). У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы разрабавалі маёмасць МТС, разбурылі будынкі, загубілі 8 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1948 г. адноўлена Красінская МТС, пасля ліквідацыі якой у 1958 г. створаны саўгас «Красінскі» (цэнтр — в. Патока). У 1990 г. 49 гаспадарак, 140 жыхароў, цэнтр саўгаса «Клічаўскі».

У 2007 г. цэнтр КСУП «Саўгас «Клічаўскі», пач. школа-сад, б-ка, аддз. сувязі, Дом культуры, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Дзве прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі злучаны 2 прамалінейнымі завулкамі шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. На ПнУ — гасп. сектар.

**ПЕРАСОПНЯ** — вёска, падпарадкавана Клічаўскаму раённаму Савету дэпутатаў і выканаўчаму камітэту. За 9 км на Пд ад Клічава, 101 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ мяжуе з лесам. На ПдЗ цячэ р. Суша, на Пд — яе прыток р. Перасопенка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ваевічы і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

У 1846 г. вёска (30 жыхароў) у Бабруйскім павеце Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1857 г. засценак у Ігуменскім павеце Мінскай губ. У 1897 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета, 20 двароў, 164 жыхары. Побач быў аднайменны выселак (1 двор, 9 жыхароў). У 1907 г. 23 двары, у 1917 г. 28 двароў, 167 жыхароў. У 1926 г. 37 двароў, 165 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Араты». Да 1939 г. ў Ваевіцкім, затым у Бёрдаўскім сельсаветах, з 17.7.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 29 двароў, 89 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупі-



равана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 10 жыхароў. Вызвалена 30.6. 1944 г. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 14 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе калгаса «Уперад да камунізму» (цэнтр — в. Бёрда). Да цэнтра гал. прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з зах. боку далучаецца прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЛОСКАЕ** — былая вёска ў Нясяцкім с/с, за 5 км на З ад Клічава, 97 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ і ПдУ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Стары Востраў.

Вядома з 19 ст. У 1897 г. засценак (14 двароў, 89 жыхароў) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1916 г. 5 двароў, 44 жыхары. З 1922 г. ў складзе саўгаса «Нясята». З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1937 г., калі саўгас быў ліквідаваны, вёска стала вытв. брыгадай калгаса «8-ы з'езд Саветаў» (цэнтр — в. Іванаўка). У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў, у складзе племзавода «Нясята» (цэнтр — в. Нясята). Драўляныя сял. сядзібы пастаўлены ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі.

**ПЯРЭКАЛЬ** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 16 км на З ад Клічава, 108 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Арэхаўка, Нясята, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 76 гаспадарак, 149 жыхароў (2007).

За 1 км на З ад вёскі захаваўся курганны могільнік 8—10 ст., што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажыт-



*Вучні сярэдняй школы ў в. Пярэкаль.*

насці. Вёска вядома з 1-й пал. 19 ст. У 1838 г. ў Бабруйскім павеце Мінскай губ., 27 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Свіслацкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 23 двары, 182 жыхары. Меліся хлебазапасны магазін і крама. Побач былі аднайменны маёнтак (2 двары, 16 жыхароў) і выселак (2 двары, 5 жыхароў). У 1908 г. ў вёсцы 28 двароў, 259 жыхароў, у маёнтку 26 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 39 двароў, 236 жыхароў, у маёнтку 34 жыхары. У 1920 г. пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені. 14.8.1923 г. на былых землях маёнтка Пярэкаль створана с.-г. арцель «Чырвоны араты». З 20.8.1924 г. ў Максімавіцкім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7. 1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які з 1934 г. абслугоўвала Нясяцкая МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вяскоўцы вялі актыўную барацьбу супраць акупантаў на франтах і ў партыз. атрадах. Вызвалена 30.6. 1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 1957 г. ў Нясяцкім с/с, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1990 г. 110 гаспадарак, 243 жыхары, у складзе саўгаса «Дабраахвотнік» (цэнтр — в. Арэхаўка). Размешчаны сярэдняя школа, бутэрбродная, магазін. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных 3 перавулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Гасп. сектар — на паўн.-ўсх. ускраіне.

**РАВОК** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Клічава, 105 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам, там жа праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Таценка 1, Буднева, Нясята, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

У 1925 г. ва ўрочышчы Равок пасяліліся на былых памешчыцкіх землях сяляне з навакольных вёсак. Так былі паступова ўтвораны пасёлкі Равок 1, Равок 2, Равок 3, якія пазней аб'ядналіся ў адну вёску. Уваходзіла ў Максімавіцкі с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас, які з 1934 г. абслугоўвала Нясяцкая МТС. Дзейнічалі пач. школа, хата-чытальня. У 1940 г. 35 двароў, 118 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 1 гаспадарка, 3 жыхары, у складзе племзавода «Нясята» (цэнтр — в. Нясята). Сял. сядзіба традыц. драўляная.

**РАЗВАДАВА** — вёска і чыг. станцыя на лініі Магілёў—Асіповічы, у Патоцкім с/с, за 20 км на ПнУ ад Клічава, 72 м ад Магілёва. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Сушанка (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Усакіна, Суша, Патока, Стаялава і далей па шашы Клічаў—Беразіно. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

У 1895 г. сядзіба (13 двароў, 85 жыхароў) у Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1908 г. засценак, 15 двароў, 75 жыхароў. У 1917 г. вёска Развадаў, 12 двароў, 71 жыхар. У 1922 г. арганізаваны саўгас імя Красіна з цэнтрам у в. Развадава. З 20.8.1924 г. ва Усакінскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 17 двароў, 112 жыхароў. У 1937 г. саўгас скасаваны, вёска ўвайшла ў склад калгаса імя Э.Тэльмана



(цэнтр — в. Усакіна). У 1940 г. 38 двароў, 152 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 60 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. Пасля вызвалення адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 1958 г. ў Патоцкім с/с, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1992 г. 14 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе саўгаса «Клічаўскі» (цэнтр — в. Патока). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАГІ** — вёска ў Ганчанскім с/с, за 17 км на ПнУ ад Клічава, 75 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Вонічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз пас. Ганчанскі, в. Гонча і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 20 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

Курганы, якія захаваліся ў вёсцы, сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У 1897 г. хутар (3 двары, 18 жыхароў) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1908 г. пасёлак, 19 двароў, 86 жыхароў. У 1917 г. вёска, 20 двароў, 123 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Ганчанскім с/с Клічаўскага р-на, з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 20 двароў, 135 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас «Чырвоны востраў», які з 1934 г. абслугоўвала Бацэвіцкая МТС. Дзейнічалі пач. школа і пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1941 г. ў вёсцы размясціўся гітлераўскі гарнізон, які ў хуткім часе быў разгромлены партызанамі. Большая частка дарослых жыхароў уступіла ў групу самаабароны, вяскоўцы сумесна праводзілі палявыя работы і збор ураджаю, частка якога перадавалася партызанам. Некаторы час у вёсцы і паблізу базіраваўся 538-ы партыз. атрад. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1990 г. 37 гаспадарак, 84 жыхары, у складзе саўгаса «Ганчарскі» (цэнтр — в. Гонча). Да гал. плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі далучаецца з усх. боку прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РУБЕЖ** — вёска, падпарадкавана Клічаўскаму раённаму Савету дэпутатаў і выканаўчаму камітэту. За 3 км на ПдУ ад Клічава, 95 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам, цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 8 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Засн. ў 1926 г. выхадцамі з в. Бёрда, якія пасяліліся тут на былых памешчыцкіх землях. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 15 двароў, 45 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 5 жыхароў. Вызвалена 30.6. 1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 14 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе калгаса «Уперад да камунізму» (цэнтр — в. Бёрда). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РЭПІШЧА** — вёска ў Каўбчанскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Клічава, 109 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Беразіно, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Засн. ў 2-й пал. 1920-х г. у выніку перасялення сюды сялян з бліжэйшых хутароў. З 20.8.1924 г. ў складзе Клічаўска-

га р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», які з 1937 г. абслугоўвала Красінская МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Некаторы час у вёсцы і паблізу базіраваўся партыз. атрад. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 23.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 17 гаспадарак, 34 жыхары, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Коўбча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнУ — гасп. сектар.

**СВАБОДА** — былая вёска ў Нясяцкім с/с, за 12 км на З ад Клічава, 104 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ ручай (прыток р. Нясета). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Буднева, Нясята, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск.

Засн. ў 1923 г. на былых памешчыцкіх землях перасяленцамі з вёсак Таценка 1 і Таценка 2. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай, з 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Магілёўскай абласцях, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1920-я г. ў складзе саўгаса «Нясята», з 1937 г. — калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Таценка 1). У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1990 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у складзе племзавода «Нясята» (цэнтр — в. Нясята). Сял. сядзіба традыц. драўляная з гасп. пабудовамі.

**СВЁКРАВА** — былая вёска ў Ганчанскім с/с, за 24 км на ПнУ ад Клічава, 68 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Вонічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Малінне і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы.

Засн. ў 1921 г. выхадцамі з в. Доўгае, якія пасяліліся на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 20.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1933 г. арганізаваны калгас «Вепрынка». У 1940 г. 19 двароў, 78 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. Вызвалена 29.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. У 1992 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе саўгаса «Ганчанскі» (цэнтр — в. Гонча). Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Клічава, 108 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Гарадзечанка (прыток р. Нясета). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Клічаў — чыг. ст. Нясета. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

У 1844 г. вёска (6 двароў, 46 жыхароў) у складзе маёнтка Качарыцы Бабруйскага павета Мінскай губ., уласнасць памешчыка. У 1917 г. 37 двароў, 258 жыхароў. У 1919 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 67 вучняў. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. З 20.8.1924 г. ў Максімавіцкім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай, з 20.9.1944 г. ў Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў у Магілёўскай абласцях, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1926 г. 62 двары, 379 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас імя Будзённага, які з 1934 г. абслугоўвала Нясяцкая МТС, дзейнічала хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш.



захопнікамі. 6.4.1944 г. поўнасцю спалена гітлераўцамі. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 12 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе племзавода «Нясята» (цэнтр — в. Нясята). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СІМАНАЎКА** — вёска ў Ганчанскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Клічава, 70 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Вонічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Аляксандраўка і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў 1912 г. ў сувязі з пачаткам работы прадпрыемства па вырабе дзёгцю ва ўрочышчы Байдан. У 1917 г. вёска (12 двароў, 82 жыхары) у Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Да 1924 г. ў Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Восенню 1930 г. арганізаваны калгас «2-я пяцігодка». У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі працяглы час базіраваўся 538-ы партыз. атрад. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. У 1990 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў, у складзе саўгаса «Ганчанскі» (цэнтр — в. Гонча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЛАБОДКА** (да 1936 г. Дубраўка) — вёска ў Патоцкім с/с, за 11 км на Пн ад Клічава, 103 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ мяжуе з лесам. На У цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Беразіно, якая праходзіць праз вёску. 92 гаспадаркі, 228 жыхароў (2007).

У 1897 г. вёска Слабодка (яна ж Дубраўка) у Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 24 двары, 215 жыхароў. У 1908 г. 26 двароў, 260 жыхароў, у 1917 г. 37 двароў, 247 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1936 г. арганізаваны калгас «Свабода», які абслугоўвала Красінская МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 79 гаспадарак, 189 жыхароў, у складзе саўгаса «Клічаўскі» (цэнтр — в. Патока). Размешчаны базавая школа, магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на ПнУ далучаецца перпендыкулярна прамалінейная вуліца (адрэзак шашы). Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма аднаго з кіраўнікоў партыз. руху на тэр. Магілёўскай і Гомельскай абласцей у Вял. Айч. вайну Ф.С.Тарасевіча.

**СМАЛЯРНЯ** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 5 км на ПдЗ ад Клічава, 97 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Плоскае, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Вядома з канца 19 ст., калі выхадцы з Клічава і навакольных вёсак пасяліліся каля ўрочышча Смалярня на арандаваных ці купленых у памешчыка землях. У 1897 г. засценак (15 двароў, 109 жыхароў) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. Побач былі аднайменныя хутар (2 двары, 17 жыхароў) і смалярны з-д (1 двор, 11 жыхароў). З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г.

Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. З 1922 г. ў складзе саўгаса «Нясета». У 1926 г. хутары Старая Смалярня (7 двароў, 44 жыхары) і Смалярня (8 двароў, 52 жыхары).У 1932 г. арганізаваны калгас «Светлы шлях», які абслугоўвала Нясяцкая МТС. У Вял. Айч. вайну, у пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 277-ы партыз. атрад пад камандаваннем І.З.Ізоха ў снеж. 1941 г. разграміў гітлераўскі гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. Пры Нясяцкім с/с была створана група самаабароны. Падчас блакад 1942—44 гг. гітлераўскія карнікі разрабавалі маёмасць, спалілі ці вывезлі для ваенных патрэб большасць будынкаў. Вызвалена 30.6. 1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1990 г. 20 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе племзавода «Нясята» (цэнтр — в. Нясята). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*Г.М.Кудзін.*

**СТАРОЕ КУРГАННЕ** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Клічава, 107 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Гарадзечанка (прыток р. Нясета). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Селішча і далей па шашы чыг. ст. Нясета—Клічаў. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Курганны могільнік, які тут быў да нядаўняга часу, датаваўся 10—12 ст. і сведчыў аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. вёскі Старое Курганне (25 двароў, 159 жыхароў) і Новае Курганне (34 двары, 179 жыхароў). З 20.8.1924 г. ва Уладзіміраўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1926 г. ў в. Старое Курганне 39 двароў, 213 жыхароў, у в. Новае Курганне 39 двароў, 213 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Авангард», які з 1935 г. абслугоўвала Нясяцкая МТС. У 1930-я г. вёскі Старое Курганне і Новае Курганне аб'ядналіся ў адну вёску з назвай Старое Курганне. Дзейнічалі пач. школа, хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту з удзелам партызан. З 1957 г. ў Нясяцкім с/с. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1992 г. 11 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе саўгаса «Дабраволец» (цэнтр — в. Арэхаўка). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма Героя Сац. Працы Г.М.Кудзін.

**СТАРОЕ СЯЛО** — вёска ў Віркаўскім с/с, за 25 км на З ад Клічава, 117 м ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, абкружана лесам. На З цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Віркаў, Пярэкаль, Арэхаўка, Нясята, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Свіслацкім, з 8.7.1931 г. ў Клічаўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Прагрэс». У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.6. 1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1967 г. да вёскі далучана в. Вольніцкі Бор. У 1990 г. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Віркаў). Сялянскія сядзібы традыц. драўляныя, пастаўлены ўздоўж кароткай вуліцы.



**СТАРЫ ВОСТРАЎ** — вёска, цэнтр Акцябрскага (з 20.9.1944 г. да 10.9.1964 г. Кабылянскага) с/с, за 30 км на ПнЗ ад Клічава, 122 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Бярэзіна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Стары Востраў—Клічаў. 142 гаспадаркі, 346 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1499 г. як сяло ў Свіслацкай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1560 г. 33 гаспадаркі, у 1561 г. перададзена ў валоданне шляхціцу ў якасці замены за маёнтак Сакаўшчына. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1802 г. пабудавана драўляная царква. У 1885 г. сяло Востраў (42 двары, 340 жыхароў) у Якшыцкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. Меліся вінакурны з-д, вадзяны млын, школа. У 1897 г. 107 двароў, 608 жыхароў, пачалі дзейнічаць кузня, хлебазапасны магазін. У аднайменным маёнтку, што быў паблізу, 86 жыхароў, вінакурны з-д, карчма. У 1917 г. ў сяле 152 двары, 870 жыхароў, у маёнтку 61 жыхар. Першым старшынёй сельсавета быў В.А.Каўко, затым П.М.Віктарчык — актыўны ўдзельнік і арганізатар партыз. руху на Клічаўшчыне ў Вял. Айч. вайну. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Востраў». У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пач. 1942 г. партызаны разграмілі ў вёсцы ням.-фаш. гарнізон, была адноўлена работа сельсавета (старшыня С.І.Заяц). У час блакад 1942—43 гг. і на франтах загінулі 144 вяскоўцы. У 1969 г. ў памяць аб іх у цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1967 г. да вёскі далучана в. Вольніцкі Бор. У 1990 г. 152 гаспадаркі, 348 жыхароў, цэнтр калгаса імя Э.Тэльмана. У 2007 г. цэнтр СПК «Калгас імя Тэльмана», сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, сталовая, магазін, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аддз. ААТ «Беларусбанк». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, ад якой на У адыходзяць 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы ў цэнтры вёскі. На паўн., зах. і ўсх. ускраінах — гасп. сектар.

**СТАРЫ СПОР** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 15 км на Пд ад Клічава, 107 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На З цячэ р. Кострычка (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Усохі, Бацэвічы і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. хутар Спор Стары (7 гаспадарак, 42 жыхары) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. З 8.10.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. хутары, 17 двароў, 103 жыхары. У 1930 г. арганізаваны саўгас «Стары Спор», у 1931 г. — калгас «Прамзара», які з 1937 г. абслугоўвала Бацэвіцкая МТС. У 1934 г. адкрыты дзіцячыя яслі, вёска атрымала тэлеф. сувязь. За кошт перасялення з хутароў вёска расла і ў 1940 г. налічвала 25 двароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі базіраваўся партыз. атрад. У маі 1942 г. адбыўся бой партызан супраць гітлераўцаў. У час карнай аперацыі восенню 1942 г. акупанты поўнасцю спалілі вёску, загубілі 10 жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах.

Да 16.7.1954 г. ва Усохінскім, з 16.7.1954 г. ў Бацэвіцкім с/с. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1992 г. 10 гаспадарак, 10 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, прамалінейных вуліц шыротнай і мерыдыянальнай арыентацыі. Забудова двухбаковая, няшчыльная, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма доктара юрыдычных навук, прафесара І.В.Гушчына.


*І.В.Гушчын.*

**СТАРЫЯ МАКСІМАВІЧЫ** — вёска ў Каўбчанскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Клічава, 115 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам, на З цячэ р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Селішча і далей па шашы чыг. ст. Нясета—Клічаў. 43 гаспадаркі, 94 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1499 г. як сяло, шляхецкая ўласнасць. У 1560 г. сяло ў Свіслацкай вол. ВКЛ. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1885 г. адкрыта школа граматы, якая ў 1910 г. пераўтворана ў земскую, размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1897 г. сяло Максімавічы ў Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 96 двароў, 628 жыхароў, меліся 2 ветраныя млыны, хлебазапасны магазін, царква. У 1917 г. вёска Максімавічы Старыя, 92 двары, 560 жыхароў. У 1924 г. створана аддз. с.-г. т-ва «Перамога». З 20.8.1924 г. ў Максімавіцкім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 95 вучняў. У 1926 г. 95 двароў, 536 жыхароў, для школы пабудавана новае памяшканне. У 1932 г. арганізаваны калгас «Камуніст», які з 1935 г. абслугоўвалі Нясяцкая, а з 1937 г. — Красінская МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Падчас блакад 1942—44 гг. маёмасць вяскоўцаў была разрабавана, многія будынкі спалены. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 1958 г. ў Каўбчанскім с/с, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1990 г. 75 гаспадарак, 154 жыхары, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Новыя Максімавічы). Размешчаны магазін. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ручаём (прыток р. Нясета) і злучаных прасёлачнай дарогай з мостам рознавялікіх, прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАРЫЯ НАБАРКІ** — вёска ў Каўбчанскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Клічава, 115 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Старыя Максімавічы, Селішча і далей па шашы чыг. ст. Нясета—Клічаў. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

У 1885 г. вёска Набаркі (15 двароў, 165 жыхароў) у Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., мелася царква. У 1897 г. 25 двароў, 203 жыхары, 2 ветраныя млыны, хлебазапасны магазін. У 1917 г. вёска Набаркі Старыя, 35 двароў, 231 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Максімавіцкім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 47 двароў, 240 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які з 1934 г. абслугоўвалі Нясяцкая, а з 1937 г. — Красінская МТС. Дзейнічала пач. школа. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі вёску, маёмасць разрабавалі. Вызвалена 30.6. 1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту з удзелам партызан. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 21.10.1962 г. ў Каўбчанскім



с/с, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1990 г. 15 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе калгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Новыя Максімавічы). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАЯЛАВА** — вёска і чыг. станцыя на лініі Магілёў—Асіповічы, падпарадкавана Клічаўскаму раённаму Савету дэпутатаў і выканаўчаму камітэту. За 4 км на Пн ад Клічава, 96 км ад Магілёва. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Беразіно, якая праходзіць праз вёску. 102 гаспадаркі, 194 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1500 г. як с. Стаялы ў Любашанскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1738 г. 20 двароў. У 1775 г. ў Мацеевіцкім войтаўстве Любашанскага староства Аршанскага павета, 25 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1897 г. ў Даўжанскай воласці Ігуменскага павета Мінскай губ., 77 двароў, 676 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. У час 1-й рус. рэвалюцыі сяляне з вёсак Стаялы, Паплавы і мяст. Клічаў разбурылі 2.4.1906 г. плаціну ў маёнтку Беразіно, а 8.4.1906 г. аказалі супраціўленне паліцыі пры арышце зачыншчыкаў. У 1907 г. 108 двароў, 892 жыхары. У 1912 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1917 г. 117 двароў, 843 жыхары. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 59 вучняў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Асвета», які з 1937 г. абслугоўваўся Бацэвіцкай МТС. У 1940 г. 104 двары. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1941 г. 227-ы партыз. атрад пад кіраўніцтвам І.З.Ізоха разграміў гітлераўскі гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. Была створана група самаабароны, якая потым увайшла ў склад партыз. атрада. У жн. 1942 г. вёска поўнасцю спалена акупантамі, якія расстралялі 80 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. 36 вяскоўцаў загінулі на фронце, 5 — у партыз. барацьбе. Пасля вызвалення некаторы час у вёсцы размяшчаліся раённыя арг-цыі, бо райцэнтр быў дашчэнту разбураны. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. З 1974 г. ў складзе Магілёўскага саўгаса-тэхнікума (цэнтр — г.п. Клічаў). У 1992 г. 157 гаспадарак, 326 жыхароў. Размешчаны пач. школа, клуб, б-ка, магазін. Тры прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы арыентаваны з ПдЗ на ПнУ і злучаны 4 прамалінейнымі завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, мураванымі і драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы на паўд. ускраіне. На Пн — чыг. станцыя, на паўд.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**СУША** — вёска і чыг. станцыя на лініі Магілёў—Асіповічы, у Патоцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Клічава, 78 км ад Магілёва. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Сушанка (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Патока, Стаялава і далей па шашы Клічаў—Беразіно. 64 гаспадаркі, 124 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 15 ст. У 1500 г. сяло ў Любашанскай вол. ВКЛ. У 1738 г. 9 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1775 г. ў Мацеевіцкім войтаўстве Любашанскага староства, 20 двароў. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 66 двароў, 561 жыхар. Мелася царква. У 1903 г. адкрыта школа, для якой у 1914 г. пабудавана памяшканне. У 1908 г. 78 двароў, 657 жыхароў. У 1917 г. 76 двароў, 575 жыхароў. Дзейнічаў вадзяны млын. Апрача земляробства сяляне займаліся сплавам лесу, працавалі па найму ў памешчыцкім маёнтку. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7. 1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 10.7.1939 г. ў Дзмі-

траўскім, з 19.8.1966 г. ў Патоцкім сельсаветах. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. былі 42 вучні, дзейнічалі гурткі драматычны і па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1925 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 98 двароў, 676 жыхароў. У 1926—28 гг. вяскоўцы працавалі на будаўніцтве чыгункі Магілёў—Асіповічы. У 1930 г. арганізаваны калгас «Аўрора». У 1940 г. 98 двароў, 509 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1941 г. 277-ы партыз. атрад пад камандаваннем І.З.Ізоха выбіў з вёскі варожы гарнізон, была адноўлена сав. ўлада. У жн. 1942 г. ў час карнай экспедыцыі «Арол» гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, расстралялі 53 жыхары. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. З 1965 г. ў складзе саўгаса «Клічаўскі» (цэнтр — в. Патока). У 1990 г. 101 гаспадарка, 191 жыхар. Размешчаны клуб, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы, на зах. ускраіне — гасп. сектар.

**ТАЦЕНКА 1** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 11 км на ПдЗ ад Клічава, 103 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Буднева, Нясята, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 23 гаспадаркі, 41 жыхар (2007).

У 1897 г. засценак Таценка (ён жа Залессе) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 13 двароў, 107 жыхароў. У 1908 г. 24 двары, 226 жыхароў. У 1917 г. ў вёсцы 12 двароў, 88 жыхароў, у аднайменным фальварку 9 двароў, 64 жыхары. З 30.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. З 1922 г. ў складзе саўгаса «Нясята» (цэнтр — в. Нясята), 4.11.1924 г. арганізавана масларобчая арцель. У 1926 г. 18 двароў, 111 жыхароў. З 1937 г., калі саўгас «Нясята» быў ліквідаваны, вёска стала цэнтрам калгаса «Камінтэрн». Дзейнічалі пач. школа і хата-чытальня. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. У 1965 г. радыёфікавана і электрыфікавана. У 1990 г. 54 гаспадаркі, 113 жыхароў. Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліц, злучаных на Пн прамалінейным завулкам. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне адасоблена размешчаны гасп. сектар.

**ТАЦЕНКА 2** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Клічава, 102 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Буднева, Нясята, Іванаўка і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

У 1897 г. вёска Таценка 2 (яна ж Янкаўшчына, Печкуры) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 4 двары, 37 жыхароў. У 1908 г. 8 двароў, 71 жыхар. У 1917 г. 10 двароў, 57 жыхароў. За 0,5 км на З ад вёскі ў брацкай магіле пахаваны чырвонаармейцы, якія загінулі ў грамадз. вайну. У 1922 г. ў складзе саўгаса «Нясята» (цэнтр — в. Нясята), а пасля яго ліквідацыі ў 1937 г. — вытв. брыгада калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Таценка 1). З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не, з 20.2.1938 г. Магілёўскай, з 20.9.1944 г. Бабруйскай, з 8.1.1954 г. зноў Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1926 г. 7 двароў, 76 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вай-



ну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час блакад 1942—44 гг. гітлераўцы загубілі 9 жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1990 г. 10 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе племзавода «Нясята» (цэнтр — в. Нясята). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, ад якой на Пн адыходзіць завулак. Забудавана пераважна аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТУРЧАНКА** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Клічава, 103 км на ПдЗ ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПдУ цячэ р. Турчанка (прыток р. Нясета). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў — чыг. ст. Нясета, якая праходзіць паблізу вёскі. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1917 г. хутар (2 двары, 14 жыхароў) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Дзмітраўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.3.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1929 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Барацьбіт» (цэнтр — в. Турэц). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1990 г. 9 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе племзавода «Нясята» (цэнтр — в. Нясята). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТУРЧЫЛОЎ** — вёска ў Патоцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Клічава, 104 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Турчанка (прыток р. Нясета). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Аляксееўка, Дзмітраўка 1, Дзмітраўка 2 і далей па шашы Клічаў — чыг. ст. Нясета. 35 гаспадарак, 70 жыхароў (2007).

У 1897 г. сядзіба Турчылава (19 двароў, 112 жыхароў) у Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1908 г. засценак, 20 двароў. У канцы 1918 г. беднейшыя сяляне арганізавалі т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.3.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 10.7.1939 г. ў Дзмітраўскім с/с. У 1926 г. хутары, 16 двароў, 77 жыхароў. У 1930—32 гг. хутаране ссяліліся ў вёску. У 1933 г. арганізаваны калгас «Калектывіст», які з 1937 г. абслугоўвала Красінская МТС. Дзейнічала 7-гадовая школа. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пач. 1942 г. адноўлена дзейнасць сельсавета (старшыня П.А.Кушнер), арганізавана група самаабароны. У час карных экспедыцый 1942—43 гг. гітлераўцы разрабавалі вёску. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 19.8.1966 г. ў Патоцкім с/с. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1990 г. 51 гаспадарка, 129 жыхароў, у складзе саўгаса «Клічаўскі» (цэнтр — в. Патока). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТАЧЫШЧА** — вёска ў Ганчанскім с/с, за 22 км на ПнУ ад Клічава, 70 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Вонічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Чачэвічы, якая праходзіць побач з вёскай. 14 гаспадарак, 31 жыхар (2007).

Вядома з пач. 20 ст., калі выхадцы з вёсак Каменічы (Бярэзінскі р-н) і Востраў (Клічаўскі р-н) пасяліліся каля ўрочышча Тачышча на выкупленых у памешчыка землях. У 1908 г. вёска (25 двароў,

219 жыхароў) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 30 двароў, 197 жыхароў.

З 20.8.1924 г. ў Ганчанскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 20.7.1930 г.), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 42 двары, 230 жыхароў. Была адкрыта 4-гадовая школа, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1933 г. на базе т-ва па апрацоўцы зямлі арганізаваны калгас «Бавік». Пасля 1934 г. калгас абслугоўвала Клічаўская МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У канцы 1941 г. партызаны разграмілі гітлераўскі гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. Падчас блакад 1942—44 гг. вёска спалена. Вызвалена 29.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1965 г. радыёфікавана і электрыфікавана. У 1990 г. 32 гаспадаркі, 67 жыхароў, у складзе саўгаса «Ганчанскі» (цэнтр — в. Гонча). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТУРЭЦ** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Клічава, 104 км ад Магілёва, 1 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На ПнЗ цячэ р. Турчанка (прыток р. Нясета). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў — чыг. ст. Нясета, якая праходзіць паблізу вёскі. 47 гаспадарак, 96 жыхароў (2007).

У 1838 г. вёска (90 рэвізскіх душ) у Бабруйскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 55 двароў, 315 жыхароў. Меліся ветраны млын, заезны дом. Раз у год, 9 мая, праводзіўся таржок. У 1908 г. 47 двароў, 369 жыхароў. У 1913 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1917 г. 53 гаспадаркі, 309 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Дзмітраўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. 10.3.1924 г. створана с.-г. каап. т-ва. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. былі 52 вучні, дзейнічаў драматычны гурток. У наступным годзе вяскоўцы пабудавалі для школы новае памяшканне. У 1926 г. 68 двароў, 301 жыхар. У 1929 г. арганізаваны калгас «Барацьбіт», мелася кузня. З 1934 г. калгас абслугоўвала Нясяцкая МТС. Дзейнічала хата-чытальня. У 1940 г. 118 двароў, 315 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час карнай аперацыі «Арол» у пач. восені 1942 г. гітлераўцы спалілі 90 двароў, расстралялі 19 жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1990 г. 83 гаспадаркі, 152 жыхары, у складзе племзавода «Нясята» (цэнтр — в. Нясята). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Ганчанскім с/с, за 10 км на У ад Клічава, 82 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Стаялава на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У і Пд мяжуе з лесам. На Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Перасопенка (прыток р. Суша). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гонча і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў 19 ст. выхадцамі з вёсак Брадзец і Капланец Ігуменскага павета і в. Бёрда Бабруйскага павета. У 1897 г. вёска (22 двары, 146 жыхароў) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1917 г. 2 аднайменныя вёскі, у адной 22 двары, 143 жыхары, у другой — 12 двароў, 83 жыхары. У 1926 г. вёскі аб'ядналіся ў адну (43 двары, 219 жыхароў). У 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік»,



дзейнічала лесапільнае прадпрыемства. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1941 г. партыз. атрад І.З.Ізоха разграміў гітлераўскі гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. У маі 1942 г. аднавіў работу сельсавет, створана група самаабароны. У час блакад 1942—44 гг. маёмасць жыхароў разрабавана акупантамі, большасць хат спалена. Па-зверску былі закатаваны ў 1942 г. захопленыя карнікамі разведчыцы 277-га партыз. атрада Ульяна Бандарчык і Надзея Сай. Яны пахаваны на вясковых могілках. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1992 г. 9 гаспадарак, 12 жыхароў, у складзе саўгаса «Ганчанскі» (цэнтр — в. Гонча). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УЛАДЗІМІРАЎКА** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Клічава, 106 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Гарадзечанка (прыток р. Нясета). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дулебня і далей па шашы чыг. ст. Нясета—Клічаў. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

У 1897 г. вёска Уладзіміраўка (яна ж Ожава) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 7 двароў, 73 жыхары. У 1904 г. вяскоўцы на свае сродкі адкрылі школу. У 1908 г. 20 двароў, 111 жыхароў. У 1917 г. 25 двароў, 158 жыхароў. У 1923 г. ў вясковай школе было 22, у 1925 г. — 60 вучняў. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 26 двароў, 154 жыхары. У гэтым жа годзе вяскоўцы пабудавалі для школы новае памяшканне, дзейнічала камсамольская ячэйка. У 1930 г. арганізаваны калгас «Уладзіміраўка», які з 1934 г. абслугоўвала Нясяцкая МТС. У Вял. Айч вайну ў пач. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вяскоўцы актыўна ўключыліся ў барацьбу супраць гітлераўцаў. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. З 16.7.1954 г. ў Нясяцкім с/с. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1967 г. да вёскі далучаны вёскі Новае Курганне, Ожава. У 1992 г. 53 гаспадаркі, 72 жыхары, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы). Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, адасобленых вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УСАКІНА** — вёска ў Патоцкім с/с, за 20 км на ПнУ ад Клічава, 72 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Вонічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Ваданоска (прыток р. Сушанка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Суша, Стаялава і далей па шашы Клічаў—Беразіно. 77 гаспадарак, 145 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1738 г. сяло (11 гаспадарак) у Любашанскім старостве ВКЛ, дзярж. уласнасць. У 1775 г. ў Мацеевіцкім войтаўстве Любашанскага староства, 14 двароў. Да сял. рэформы 1861 г. належала графу Патоцкаму, які жыў у Варшаве і наведваў вёску толькі ў час палявання. У

*Мемарыяльны комплекс каля в. Усакіна.*



1886 г. адкрыта школа граматы. У 1897 г. ў Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ., 41 двор, 334 жыхары. Меліся хлебазапасны магазін і царква. У 1908 г. 50 двароў, 485 жыхароў. У 1917 г. 64 двары, 452 жыхары. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (20.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924—27 гг. вялося будаўніцтва лесапільнага з-да (30 рабочых, 6 станкоў). У 1925 г. ў вясковай школе было 54 вучні, дзейнічалі гурткі драматычны і па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 75 двароў, 312 жыхароў. У 1928 г. вяскоўцы пабудавалі для школы новае памяшканне. У жн. 1929 г. пачала працаваць смалакурня (12 рабочых). У гэтым жа годзе арганізаваны калгас імя Э.Тэльмана. У 1940 г. 107 двароў, 314 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Партызаны ў пач. 1942 г. разграмілі гітлераўскі гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы, адноўлена дзейнасць сельсавета (старшыня С.І.Заяц), створаны атрад самаабароны. 20.3.1942 г. ў вёсцы, у невял. зале мясц. школы, адбыўся сход клічаўскай раённай парт. арг-цыі, на якім быў выбраны падп. райком КП(б)Б у складзе Я.І.Зайца, П.М.Вікторчыка, У.П.Раманенкі, С.А.Мазура, І.П. Крыскаўца. Сход прыняў пастанову «Аб аднаўленні Савецкай улады ў раёне» і Зварот РК КПБ(б), райвыканкома і камандавання партыз. атрадаў да працоўных Клічаўскага р-на. Усакінскія лясы сталі цэнтрам партыз. руху на Клічаўшчыне. У жн. 1942 г. гітлераўцы спалілі 104 двары, загубілі 80 жыхароў. У канцы сак. 1943 г. ў лесе, каля вёскі, адбылося пасяджэнне парт. актыву, на якім прысутнічала больш за 100 прадстаўнікоў з усіх раёнаў Магілёўскай вобл. Быў створаны Магілёўскі падп. абком партыі ў складзе Дз.С.Маўчанскага, І.М.Кардовіча, П.В.Яхантава, І.А.Матыля, І.П.Сакалоўскага. 6.3.1943 г. на пасяджэнні падп. абкома партыі створана ваенна-аператыўная група. Каля вёскі дзейнічаў партыз. аэрадром. У доме сялянкі М.В.Шагойна размяшчаўся партыз. шпіталь, працавала друкарня. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. У гонар падп. абкома КП(б)Б і штаба ваенна-аператыўнай групы ў 1985 г., напярэдадні 40-годдзя Перамогі над фашысцкай Германіяй, за 0,5 км на З ад вёскі ўзведзены мемарыяльны комплекс Усакіна. Непадалёку, ва ўрочышчы Цераболь, знаходзяцца вайсковыя могілкі. Пасля вайны адбудавана. З 19.8.1966 г. ў Патоцкім с/с. У 1990 г. 100 гаспадарак, 180 жыхароў, у складзе саўгаса «Клічаўскі» (цэнтр — в. Патока). Размешчаны базавая школа, клуб, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, ад якой на У адыходзяць 2 завулкі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**УСОХІ** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Клічава, 107 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Кострычка (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бацэвічы і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 86 гаспадарак, 240 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1689 г. вёска ў складзе маёнтка Свіслач Мінскага павета Мінскага ваяв. ВКЛ, прыватнае ўладанне. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1844 г. вёска Усох (24 двары, 165 жыхароў) у складзе маёнтка Бацэвічы Бабруйскага павета, уласнасць памешчыка. У 1897 г. 57 двароў, 477 жыхароў. Побач быў аднайменны хутар, 1 двор, вадзяны млын. У 1908 г. 64 двары, 458 жыхароў. У 1917 г. 74 двары, 557 жыхароў. Да 1919 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., з 29.8.1919 г. да 10.8.1920 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. З 8.10.1924 г. цэнтр сельсавета ў Клічаўскім



р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 1.4.1922 г. створана каап. т-ва. У 1923 г. да вёскі далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У сак. 1926 г. арганізавана каап. лесапрам. арцель. Непадалёку ў лесе дзейнічала смалакурня. Была адкрыта школа, для якой у 1927 г. пабудавана памяшканне. У 1926 г. 104 двары, 543 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», які з 1937 г. абслугоўвала Бацэвіцкая МТС. У 1940 г. 107 гаспадарак, 314 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вяскоўцы актыўна ўдзельнічалі ў барацьбе супраць акупантаў: у пач. 1942 г. была адноўлена дзейнасць Усохскага с/с, створана група самаабароны. У крас. 1942 г. гітлераўскія карнікі поўнасцю спалілі вёску, расстралялі 26 жыхароў. Летам 1942 г. ў час карнай экспедыцыі «Майскі жук» засада партызан 620-га імя В.І.Чапаева і 537-га партыз. атрадаў (камандзіры М.С.Міхалап і С.І. Свірыд) знішчыла роту карнікаў. Вызвалена 28.6. 1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1932 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1990 г. 120 гаспадарак, 305 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы). Размешчаны базавая школа, магазін, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі з завулкамі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Новая вуліца, што на Пд, забудавана мураванымі жылымі дамамі. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы.

**ХАДЗЕЧЫН** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Клічава, 102 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дзмітраўка 1, Дзмітраўка 2 і далей па шашы Клічаў — чыг. ст. Нясета. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

У 1897 г. засценак (14 двароў, 32 жыхары) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1908 г. пасёлак, 13 двароў, 122 жыхары. У 1917 г. вёска, 16 двароў, 143 жыхары. У 1922 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. былі 43 вучні, дзейнічалі драматычны і харавы гурткі. З 20.8.1924 г. ва Уладзіміраўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 1931 г. ў Дзмітраўскім с/с, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 30 двароў, 171 жыхар. Дзейнічала 4-гадовая школа, для якой вяскоўцы ў 1927 г. пабудавалі памяшканне. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Варашылава, які з 1934 г. ўваходзіў у зону абслугоўвання Нясяцкай МТС. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. З 19.8.1966 г. ў Нясяцкім с/с. У 1965 г. электрыфікавана і радыёфікавана. У 1990 г. 20 гаспадаркі, 32 жыхары, у складзе племзавода «Нясета» (цэнтр — в. Нясята). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХРЭЛЕВА** — вёска ў Ганчанскім с/с, за 15 км на У ад Клічава, 77 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Вонічы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам, на У цячэ р. Суша (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рагі, пас. Ганчанскі і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1762 г. вёска ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ., 5 два-

роў, 25 жыхароў. У 1908 г. пасёлак Хрэлева 1 (11 двароў, 83 жыхары) і ўрочышча (2 двары, 14 жыхароў). У 1917 г. ў пасёлку Хралёва 1 і ўрочышчы 14 двароў, 102 жыхары, на хутары Хрэлева 2 — 1 двор, 9 жыхароў. У 1926 г. 7 двароў, 109 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Новы шлях». З хутароў у вёску ў 1939 г. было перакселена 14 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і каля яе базіраваўся партыз. атрад. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. У 1965 г. радыёфікавана і электрыфікавана. У 1992 5 гаспадарак, 6 жыхароў, у складзе саўгаса «Ганчанскі» (цэнтр — в. Гонча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі з завулкам.

**ЦЕРАХАЎ БОР** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 26 км на ПнУ ад Клічава, 66 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Развадава на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Тачышча і далей па шашы Клічаў—Чаравач. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 20 ст. на месцы памешчыцкага фальварка. У 1917 г. хутар Бор Церахаў (23 гаспадаркі, 132 жыхары) у Даўжанскай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. З 20.8.1924 г. ў Даўжанскім с/с Чачэвіцкага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 8.7.1931 г. ў Клічаўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Кірава. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6. 1944 г. войскамі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1990 г. 19 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе саўгаса «Доўгаўскі» (цэнтр — в. Доўгае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧАРАВАЧ** — вёска ў Нясяцкім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Клічава, 108 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Нясета (прыток р. Ольса). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы чыг. ст. Нясета—Клічаў. 39 гаспадарак, 100 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1664 г. сяло ў Аршанскім павеце ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Рас. імперыі. У 1838 г. сяло Чаравачы (139 жыхароў мужчынскага полу) у Бабруйскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета, 82 двары, 377 жыхароў. Меліся ветраны млын, крама, 2 разы ў год праводзілася вясковае свята. У 1908 г. 80 двароў, 647 жыхароў. У 1917 г. 109 двароў, 634 жыхары. Дзейнічала царк.-прыходская школа. У 1920 г. на базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, для якой у 1924 г. пабудавана памяшканне, у 1925 г. было 50 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Дзмітраўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У канцы 1941 г. партызаны разграмілі гітлераўскі гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. Падчас блакад 1942—44 гг. вёска спалена карнікамі, маёмасць разрабавана. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1965 г. радыёфікавана і электрыфікавана. У 1990 г. 88 гаспадарак, 198 жыхароў, у складзе саўгаса «Ганчанскі» (цэнтр — в. Гонча). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на зах. ускраіне.

**ЧЫРВОНЫ ЛЕС** — вёска ў Каўбчанскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Клічава, 110 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Сталава на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Гарадзечанка (прыток р. Нясета). Транспартныя



сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Уладзіміраўка, Дулебня і далей па шашы чыг. ст. Нясета—Клічаў. 13 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 19 ст., калі памешчык Гіжгайла на купленых тут землях пасяліў 4 сялян-майстроў. Прыгонныя пад кіраўніцтвам гэтых майстроў пабудавалі ветраны млын, кузню, жылыя дамы. У 1897 г. засценак Гіжгайлава (6 двароў, 35 жыхароў) у Брадзецкай вол. Ігуменскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 6 двароў, 35 жыхароў. У 1917 г. акалотак, 23 двары, 156 жыхароў, побач хутар Гіжгайлава, 2 двары, 17 жыхароў. 20.12.1921 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. было 57 вучняў. З 17.12.1926 г. ў Наталоўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі (да 26.7. 1930), з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 14.8.1987 г. ў Каўбчанскім с/с. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны прамень», які з 1937 г. абслугоўвала Красінская МТС. Меліся паравы млын, кузня. У 2-й пал. 1930-х г. вёска значна павялічылася за кошт перасяленцаў з бліжэйшых хутароў і атрымала назву Чырвоны Лес. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.6.1944 г. войскамі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. у Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. У 1967 г. да вёскі далучана в. Буда. У 1992 г. 32 гаспадаркі, 59 жыхароў, у складзе калгаса «Савецкая Беларусь» (цэнтр — в. Коўбча). Рака і меліярацыйны канал падзяляюць вёску на паўн. (2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, злучаныя на Пн з завулкам), зах. (прамалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі) і паўд.-ўсх. (прамалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі) часткі. Забудаваны двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧЫРВОНАЯ НІВА** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Клічава, 120 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ворліна, Заполле і далей па шашы Клічаў—Бабруйск. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з в. Віркаў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Ніва», які затым абслугоўвала Бацэвіцкая МТС. У 1940 г. 40 двароў, 143 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Восенню 1942 г. гітлераўцы спалілі 40 двароў, загубілі 3 жыхароў. У сак. 1944 г. тут быў пункт па перасылцы насельніцтва ў Азарыцкі лагер смерці. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 1-га Бел. фронту. У 1965 г. радыёфікавана і электрыфікавана. У 1990 г. 28 гаспадарак, 42 жыхары, у складзе калгаса імя Леніна. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЮЗАФІН** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Клічава, 110 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Тачанка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На ПдЗ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Бабруйск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 12 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

У 1897 г. фальварак (1 двор, 10 жыхароў) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 20 жыхароў, у 1917 г. хутар, 14 жыхароў. У 1923 г. да хутара далучаны вял. ўчастак былой памешчыцкай зямлі. У 1926 г. 9 двароў, 53 жыхары. У 1934 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. У 1990 г. 17 гаспадарак, 66 жыхароў, у складзе калгаса імя Будзённага (цэнтр — в. Заполле). Дзве прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ, злучаны З завул-

камі. Забудавана аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне — гасп. двор.

**ЯКІМАВА ЛЯДА** — вёска ў Бацэвіцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Клічава, 104 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Нясета на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Ольса (прыток р. Бярэзіна). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Бабруйск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

У 1897 г. хутар Лазовае Ляда (2 двары, 20 жыхароў) у Бацэвіцкай вол. Бабруйскага павета Мінскай губ. У 1908 г. 1 двор, у 1917 г. 2 двары, 9 жыхароў. У 1924 г. ва ўрочышчы Якімава Ляда, на былых памешчыцкіх землях, пасяліліся выхадцы з в. Вусце. З 20.8.1924 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 23 двары, 86 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. З 20.9.1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12.1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. З 1950 г. ў складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — в. Бацэвічы). У 1990 г. 13 гаспадарак, 29 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯДРАНАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 51 км на ПнУ ад Клічава, 41 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На У цячэ р. Друць (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Новая Слабада, Веснік, Доўгае, Свёкрава, Малінне і далей па шашы Клічаў—Чачэвічы. 50 гаспадарак, 82 жыхары (2007).

За 2 км на Пд ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік. У паўд. частцы вёскі знойдзены руіны старажытных печаў (гут) і выяўлены рэшткі паліванага посуду, сплавы каляровага шкла. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці і размяшчэнні тут у 16—17 ст. цэнтра рамяства. У 1848 г. ў Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., 25 двароў. У 1858 г. 133 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка, меліся млын, карчма. Частка вяскоўцаў займалася калёсным, сталярным, бандарным і адыходным промысламі. У 1880 г. 61 двор, 434 жыхары. У 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 74 двары, 473 жыхары. Меліся вадзяны млын, школа граматы, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1909 г. 77 двароў, 534 жыхары. У 1910 г. адкрыта земская школа. Сяляне наймаліся на працу да купцоў, нарыхтоўвалі лес і сплаўлялі яго па Друці. У 1924 г. побач з вёскай, ва ўрочышчы Лысая Гара, пабудаваны з-д, дзе вырабляліся чарапіца, дымаходы, кольцы для студняў, блокі. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Чачэвіцкага р-на Магілёўскай акругі, з 8.7.1931 г. ў Клічаўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». У 1933 г. на базе пач. створана 7-гадовая школа. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З восені 1941 г. вёска знаходзілася пад кантролем партызан, дзейнічаў сельсавет (старшыня П.С.Маняток). У час блакады 1942 г. карнікі жывымі закапалі ў зямлю жонку і дваіх дзяцей старшыні сельсавета. Вызвалена 29.6.1944 г. войскамі 50-й арміі 2-га Бел. фронту. У 1950 г. ўступіў у строй радыёвузел, вёска радыёфікавана. З сак. 1959 г. ў складзе саўгаса «Доўгаўскі» (цэнтр — в. Доўгае). З 21.10.1960 г. ў Доўгаўскім с/с. У 1990 г. 96 гаспадарак, 198 жыхароў. Ёсць клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудава-



най двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма А.А.Бірукова, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў антыфаш. падполля і партыз. руху ў Гомельскай і Пінскай абласцях у Вял. Айч. вайну.

**ЯЛОЎКА** — вёска ў Доўгаўскім с/с, за 31 км на ПнУ ад Клічава, 70 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Мілое на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З цячэ ручай (прыток р. Даўжанка). Транспартныя сувязі па шашы Клічаў—Чачэвічы, з якой звязана мясц. дарогай. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Доўгаўскім с/с Клічаўскага р-на Бабруйскай акругі, з 26.7.1930 г. ў Клічаўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Трэці рашаючы». У 1940 г. 22 двары, 67 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў пач. ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. поўнасцю спалена гітлераўцамі, якія загубілі 6 жыхароў. Вызвалена 28.6.1944 г. войскамі 3-й арміі 1-га Бел. фронту. Пасля вайны адбудавана. З 20.9. 1944 г. ў Клічаўскім р-не Бабруйскай, з 8.1.1954 г. Магілёўскай абласцей, з 25.12. 1962 г. ў Кіраўскім, з 6.1.1965 г. ў Клічаўскім р-нах. З 1959 г. ў складзе саўгаса «Доўгаўскі» (цэнтр — в. Доўгае). У 1990 г. 18 гаспадарак, 35 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**


Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 6, воп. 1, спр. 2448; ф. 30, воп. 1, спр. 3347; ф. 31, воп. 1, спр. 843, 2317; воп. 3, спр. 33, 72; ф. 42, воп. 1, спр. 687, 942, 1007, 1782, 1833; воп. 2, спр. 21—30, 158, 2227—2231, 2235, 2244, 2247—2255, 4314; ф. 48, воп. 1, спр. 526, 570, 2135, 2271, 2881, 4024, 4432; ф. 53, воп. 1, спр. 15; ф. 118, воп. 1, спр. 524; ф. 141, воп. 1, спр. 177, 199, 323; ф. 251, воп. 1, спр. 2; ф. 258, воп. 1, спр. 52, 57, 58; ф. 333, воп. 2, спр. 285, 2184; ф. 334, воп. 2, спр. 31, 33, 37; ф. 338, воп. 1, спр. 221; ф. 1024, воп. 1, спр. 681, 831.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, КМФ-5, воп. 1, спр. 2477; ф. 142, воп. 1, спр. 8, 12, 105, 178; ф. 295, воп. 1, спр. 329; ф. 694, воп. 2, спр. 8208; ф. 2072, воп. 1, спр. 170; ф. 2151, воп. 1, спр. 107.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 11, воп. 11, спр. 1294; ф. 30, воп. 2, спр. 29; ф. 799, воп. 33, спр. 819; ф. 1290, воп. 2, спр. 1689—1692, 1306.

Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 389, воп. 1, спр. 41.

Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 459, воп. 1, спр. 1996; ф. 716, воп. 1, спр. 4595.

Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8, ч. 3. СПб., 1848.

Приложения к Трудам редакционных комиссий... Т. 6. СПб., 1860.

Семенов-Тян-Шанский П.П. Географическо-статистический словарь Российской империи. Т. 2. СПб., 1865.

Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею... Т. 7. Вильна, 1874.

Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874 г. Вильна, 1874.

Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 2. Могилев, 1884.

Памятная книжка Виленского учебного округа... на 1884—1885 учебный год. Вильна, 1885.

Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1891—1892 учебный год. Мн., 1892.

Завитневич В.З. Археологические разыскания в бассейне реки Березины // Отчет Археологической комиссии за 1892 г. СПб., 1894.

Памятная книжка Минской дирекции народных училищ на 1894—1895 учебный год. Мн., 1895.

Фабрично-заводская промышленность: перечень фабрик и заводов. СПб., 1897.

Памятная книжка Минской губернии и календарь на 1901. Мн., 1900.

Историко-статистическая справочная книжка Минской епархии. Мн., 1903.




Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Памятная книжка Минской губернии и календарь на 1913. Мн., 1912.
Список фабрик и заводов Российской империи. СПб., 1912.
Памятная книжка Минской губернии и календарь на 1915 г. Мн., 1914.
Список населенных мест Б.С.С.Р (б. Минской губернии). Мн., 1924.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 2. Мн., 1935.
Сообщения Советского Информбюро. Т. 1. М., 1944.
Седов В.В. Восточные славяне в VI—XIII вв. М., 1982.
Ливенцев В.И. Партизанский край. 4 изд. Мн., 1983.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Административно-территориальное устройство БССР: справ. Т. 1—2. Мн., 1985—87.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Валаханович А.И., Савченко И.И. Кличевщина: историко-эконом. очерк. Мн., 1989.

# КРАСНАПОЛЬСКІ РАЁН

Размешчаны на ПдУ Магілёўскай вобл. Пл. 1,2 тыс. км$^2$. Насельніцтва 11,9 тыс. чал. (2008); гарадскога 50%. Сярэдняя шчыльнасць 10,3 чал. на 1 км$^2$. Асн. насельніцтва беларусы (93,5%), рускія (5,2%), украінцы (1%) і інш. (0,3%). Цэнтр раёна — г.п. Краснаполле. У складзе раёна 90 сельскіх населеных пунктаў, 5 сельсаветаў: Горскі, Мхініцкі, Сідараўскі, Тур'яўскі, Яноўскі. Праз тэр. раёна праходзяць аўтадарогі на Касцюковічы, Магілёў, Чэрыкаў, Чачэрск. Раён пацярпеў ад катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі 1986 г.: пахаваны 25 вёсак, поўнасцю ці часткова адселены 85 вёсак.

Утвораны 17.7.1924 г. ў Калінінскай акрузе, 20.8.1924 падзелены на 16 сельсаветаў: Беразяцкі, Выдранскі, Гарадзецкі, Гаразнянскі, Гніліцкі (Глініцкі), Горнаўскі, Горскі (Гораўскі), Кажамякінскі, Казельскабудскі, Клясінскі, Краснапольскі (ліквідаваны 24.9.1926), Мхініцкі, Навальненскі, Палужскі, Пачапоўскі, Сабалёўскі; з 9.6.1927 да 26.7.1930 г. ў Магілёўскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі больш за 1300 чал. Дзейнічалі партыз. брыгады 47-я «Перамога», асобныя партыз. атрады 2, 41, 45-ы «За Радзіму», «Валянціна Маёрава» І.А.Сцефаненкі, падп. райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, Краснапольскае патрыят. падполле, выдавалася падп. газ. «Красное знамя». Вызвалены ў кастр. 1943 г. воінамі 3-й арміі Бранскага фронту ў ходзе Бранскай аперацыі 1943 г.



*Возера Лясное ў межах Краснапольскага раёна.*

Раён знаходзіцца ў межах Аршанска-Магілёўскай (на У) і Чачорскай (на З) раўнін. Рэльеф раўнінны. Пераважаюць вышыні 160—170 м над узроўнем мора, макс. — 192 м (каля в. Стайкі). Ёсць радовішчы (2) цагельнай сыравіны і будаўнічых пяскоў, сярод карысных выкапняў таксама торф, мел, суглінкі. Сярэдняя тэмпература студз. -7,6 °С, ліп. — 18,2 °С. Ападкаў 540 мм у год. Вегетацыйны перыяд 187 сут. На тэр. раёна пачынаюцца і цякуць прытокі р. Сож — Галуба, Ельня, Жавуніца, Покаць, Сянна з Тур'яй; прытокі р. Беседзь — Палуж, Каўпіта. Створана вадасховішча Палужскае (136 га). Глебы с.-г. угоддзяў дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, дзярновыя, дзярнова-карбанатныя забалочаныя і інш. Пад лесам 53% тэр. раёна (пераважна хваёвыя і бярозавыя лясы), пад балотамі — 4,4%.

С.-г. ўгоддзі займаюць каля 40% тэр. раёна. Асн. галіны сельскай гаспадаркі — мясамалочная жывёлагадоўля, вытв-сць збожжа і кармавых культур (унітарнае с.-г. прадпрыемства «Краснапольскі»). Прадпрыемствы харч. і дрэваапрацоўчай прам-сці. У раёне (на 1.1.2006) 5 сярэдніх, 2 базавых, 1 пач. школы, 4 комплексы сярэдняя школа—сад, 8 дашкольных устаноў, цэнтры: сац.-пед., карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі, дзіцячай творчасці, дзіцячая школа мастацтваў. Дзейнічаюць цэнтр культуры і адпачынку, 7 дамоў культуры, 7 клубаў, 7 клубаў-бібліятэк, 12 б-к, 15 кінавідэаўстановак; цэнтр. раённая бальніца, 1 урачэбная амбулаторыя, 8 фельч.-акушэрскіх пунктаў. У раёне 5 рэліг. абшчын, у т.л. 2 праваслаўныя. Археал. помнікі: гарадзішча (в. Горы), курганныя могільнікі (вёскі Клясіна, былыя вёскі Карма-Пайкі, Палуж, Сідараўка, Новая Ельня). Помнік архітэктуры — драўляная царква ў гонар святога велікамучаніка Дзімітрыя Салунскага ў в. Выдранка (1905). У в. Казелле нарадзіўся вучоны-металург М.К.Курака (1872—1920), у в. Палуж 1 — пісьменнік А.Мрый (А.А.Шашалевіч, 1893—1943), у в. Мхінічы — драматург В.А.Шашалевіч (1897—1941), у в. Горанка — пісьменнік М.Г.Ткачоў (1918—79), у в. Высокі Борак — паэт А.В. Пысін (1920—81). Выдаецца газ. «Чырвоны сцяг. Краснаполле».



*Зажынкі ў Краснапольскім раёне.*



**КРАСНАПОЛЛЕ** — гарадскі пасёлак, цэнтр раёна, за 109 км ад Магілёва, 43 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Унеча (Расія), у вярхоўі р. Тур'я (прыток р. Сянна) і на правабярэжжы яе прытока — р. Маластоўка, вузел аўтадарог на



Чэрыкаў, Касцюковічы, Чачэрск, Слаўгарад. 6,1 тыс. чал. (2008).

Узнікненне Краснаполля адносіцца да пач. 18 ст. У час руска-шведскай вайны (1700—21) войскі Пятра I вялі на тэр. сучаснага Краснапольскага р-на цяжкія баі супраць шведаў. Як сведчыць легенда, гэта месца назвалі Чырвоным полем. Стаўку рус. войск на левым беразе р. Тур'я назвалі Маластоўкай. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца пад 1762 г. як сяло ў Мсціслаўскім ваяв., меліся млын і шынок, з'яўлялася шляхецкай уласнасцю. У 1765 г. мястэчка ў Прапойскім старостве, дзярж. ўласнасць, 128 жыхароў. У 1769 г. 127 двароў, дзейнічалі млын, карчма, 4 разы ў год праводзіліся кірмашы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1774 г. Кацярына II падаравала гэтыя землі фельдмаршалу кн. А.М.Галіцыну. У афіцыйным рэестры мястэчак Магілёўскай губерні лічыцца з 1784 г. У 1785 г. 40 двароў, 199 жыхароў. Дзейнічалі царква, вінакурны з-д. У 1848 г. 207 двароў, драўляныя царква і сінагога, 5 разоў у год праводзіліся кірмашы. У 2-й пал. 19 ст. — цэнтр стана, у які ўваходзіла 6 валасцей Чэрыкаўскага павета; адно з важных гандл. месц, куды з'язджаліся сяляне з бліжэйшых вёсак і купцы з Масквы, Варшавы, Магілёва, Гомеля, Рыгі, Лібавы з мануфактурай, жал. вырабамі, бакалейнымі і іншымі таварамі. Мелася каля 70 крам. Дзейнічалі маслабойня, цагельнае прадпрыемства (з 1856), 3 гарбарні (адкрыты ў 1856, 1866, 1877), крупадзёрка (з 1870). У 1871 г. 2847 жыхароў. У 1864 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), меліся прыватнае аднакласнае вучылішча, царк.-прыходская школа, 2 бібліятэкі-чытальні, аптэка, лячэбніца, паштова-тэлегр. аддз. У 1878 г. дзейнічалі 3 вадзяныя млыны, сукнавальня, 3 карчмы. У 1880 г. 412 дамоў, 2310 жыхароў, 60 лавак, мураваная царква, школа (нар. вучылішча), аптэка, 3 скураныя і 9 маслабойных прадпрыемстваў, вадзяны млын. Дзейнічала паштовая станцыя на тракце Магілёў—Чэрыкаў—Краснаполле. У 1887 г. 3248 жыхароў. У 1897 г. 3 гарбарныя і 1 канатнае прадпрыемствы, 7 крупадзёрак, 12 маслабоень, 4 хлебапякарні, 90 лавак, мураваная царква, 5 малітоўных дамоў, лячэбніца, паштова-тэлегр. аддз. 2 хлебазапасныя магазіны, 2 карчмы. У крас. 1890 г. адбыліся хваляванні ў сувязі з перасяленчым рухам, у 1905 г. — першамайская забастоўка і масоўка рабочых. У студз. 1918 г. быў сфарміраваны чырвонагв. атрад, створаны рэўкомам, які размер-



*Месца адпачынку «Грыбкі» на аўтадарозе Краснаполле—Чэрыкаў.*



*Месца адпачынку Галынец на аўтадарозе Краснаполле—Чэрыкаў.*




*Знак пры ўездзе ў г.п. Краснаполле.*

каваў паміж сялянамі памешчыцкую зямлю; 24.12.1918 г. — парт. ячэйка.

З 17.7.1924 г. Краснаполле — цэнтр раёна ў Калінінскай акрузе, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. ў Магілёўскай акрузе, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. 2548 жыхароў. У 1924 г. пачала дзейнічаць хата-чытальня, створана крэдытнае т-ва, у 1925 г. — пчалаводчы кааператыў. У 1926 г. адкрыта бальніца, 395 двароў, працавалі 299 саматужнікаў, каап. масларобчая арцель, 14 ручных маслабоень, 2 цагельныя з-ды, 2 млыны, 3 гарбарныя майстэрні. 4 разы ў год праводзіліся кірмашы, на якіх гандлявалі жывёлай, лыкам, вырабамі з дрэва, керамікай, пянькой і інш. У 1937 г. ўведзена ў строй невялікая электрастанцыя, працавалі ільнозавод (60 рабочых), крухмальны з-д, абутковая, швейная, кавальская і інвалідная арцелі. У 1928 г. ў мястэчку арганізаваны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 38 гаспадарак, а крыху пазней — другі калгас («Шлях Леніна»), які ў 1932 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі. У эканам. і арганізацыйным умацаванні калгасаў значную ролю адыграла створаная ў Краснаполлі МТС. Трактарысты Д.А.Аўсянікаў і І.К.Гарэлікаў былі ўдзельнікамі першай Усесаюзнай с.-г. выстаўкі ў Маскве (1939).

У першыя гады сав. улады быў створаны гурток аматараў сцэны, арганізатарамі якога сталі ўраджэнцы Краснаполля пісьменнікі браты Васіль і Андрэй Шашалевічы. У памяшканні былой сінагогі быў размешчаны нар. дом. З 12.3.1932 г. пачала выходзіць раённая газ. «Чырвоны сцяг». Дзейнічалі сярэдняя школа, бальніца і радзільнае аддз. пры ёй, амбулаторыя, аптэка, дзіцячы дом, Дом культуры са стацыянарнай кінаўстаноўкай (дзейнічала з 1926), бібліятэка; тэлеф. сетка (65 апаратаў). З 27.9.1938 г. Краснаполле — гар. пасёлак, у 1939 г. — 3572 жыхары. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Партызаны ў вер. 1941 г. разграмілі тут раённую ўправу акупантаў і паліцэйскую казарму. Краснапольскі падп. райком КП(б)Б (сакратар С.М.Карзюкоў), які кіраваў партыз. барацьбой, базіраваўся ў 41-м асобным партыз. атрадзе. Друкаваны орган — газ.

*Фрагменты экспазіцыі ў народным музеі Краснапольскай сярэдняй агульнаадукацыйнай школы.*












*У раённым гісторыка-этнаграфічным музеі г.п. Краснаполле.*

*Забудова г.п. Краснаполле.*

«Красное знамя» (20.6.1943 г., рэдактар Х.Калімулін). У 47-й партыз. брыгадзе «Перамога» была асн. база падп. райкома ЛКСМБ (сакратар П.П.Кушнярэнка). Фашысты загубілі 264 жыхары гар. пасёлка. Вызвалены 1.10.1943 г. часцямі 269-й і 283-й стралк. дывізій. У брацкіх магілах, што ў скверы па вул. Савецкай і на могілках, пахаваны 38 сав. воінаў, якія загінулі ў баях супраць акупантаў у 1943 г. Адна з вуліц носіць імя Героя Сав. Саюза І.К.Варапаева, ураджэнца в. Трубільня.

Адразу пасля вызвалення была адноўлена і пашырана тэлегр.-тэлеф. сувязь. Аднаўляліся старыя, будаваліся новыя прадпрыемствы. У пасляваенны час тут быў размешчаны дзіцячы дом. У 1978 г. ў склад г.п. Краснаполле ўвайшлі вёскі Маластоўка і Бардзіч. У 1990 г. 6,4 тыс. жыхароў, цэнтр калгаса імя У.І.Леніна (спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі). Працавалі з-ды масла і сухога малака, ільноапрацоўчы і гароднінасушыльны, камбінаты быт. абслугоўван-

*Фрагмент экспазіцыі ў народным музеі Краснапольскай сярэдняй агульнаадукацыйнай школы.*

*Экспазіцыя «Куток прыроды» ў Краснапольскім лясгасе.*








*Мемарыяльная дошка Я.Д.Зевіну на будынку раённага спажывецкага таварыства.*

ня і будаўнічых матэрыялаў і інш. Дзейнічалі сярэдняя і 8-гадовая, рабочай моладзі і муз. школы, школьны вучэбна-вытв. камбінат (з 1977 г.). Народны тэатр (з 1962 г., дзейнічаў з 1932 г. як драматычны гурток) — лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Магілёўшчыны (1981).



*Помнікі землякам, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, у г.п. Краснаполле.*



*Забудова г.п. Краснаполле.*

У 2007 г. дзейнічалі прадпрыемствы харч. (Краснапольскае аддз. Магілёўскага малочнага камбіната «Бабушкина крынка»), дрэваапрацоўчай галін прам-сці. Працавалі 2 камбінаты каап. прам-сці, лясгас, дарожныя, рамонтныя, гандл. і будаўнічыя арг-цыі; унітарнае с.-г. прадпрыемства «Краснапольскі», філіял рэсп. унітарнага с.-г. вытв. прадпрыемства па племянной справе «Магілёўскае дзяржплемпрадпрыемства»; раённая ветэрынарная станцыя. Дзейнічалі 3 дзіцячыя сады, сярэдняя школа, раённая гімназія, дзіцячая школа мастацтваў, цэнтр дзіцячай творчасці, цэнтр. і дзіцячая б-кі, нар. тэатр, цэнтры: культуры і вольнага часу, сац.-пед., карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі; аўта-, фізкультурна-спарт. і камп'ютэрны клубы; бальніца, паліклініка, аптэка, раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі; тэр. цэнтр сац. абслугоўвання насельніцтва; гасцініца, 3 кафе, парк культуры і адпачынку, камбінат быт. абслугоўвання, пункт калект. карыстання, аддз. сувязі і інш. Брацкія магілы сав. воінаў, магіла ахвяр фашызму. Помнікі землякам, які загінулі ў Вял. Айч. вайну. Краснаполле знаходзіцца ў зоне, што пацярпела ад аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі (1986). У 1996 г. ўстаноўлены помнік «Чорная быль Краснапольшчыны». Дзейнічае раённы гісторыка-этнаграфічны музей. Выдаецца раённая газ. «Чырвоны сцяг. Краснаполле».

Генеральны план забудовы распрацаваны Магілёўскім філіялам Белдзяржпраекта ў 1973 г. Пры ўпадзенні р. Маластоўка ў р. Тур'я сфарміраваўся адм.-грамадскі цэнтр, які абмежаваны вуліцамі Ленінскай, Савецкай і Калініна. На скрыжаванні вуліц Ленінскай і Савецкай — прамавугольная плошча. Гар. пасёлак складаецца з прамавугольнай сеткі вуліц з дробнаквартальнай забудовай. Жылыя дамы ў асн. індывідуальныя, драўляныя,





*У цэнтры г.п. Краснаполле.*



*Плошча Леніна ў г.п. Краснаполле.*

*Успенская царква ў г.п. Краснаполле.*

*Алея Славы ў г.п. Краснаполле.*







*І.Ф.Ваксман.*

з прысядзібнымі ўчасткамі. Частку забудовы складаюць 2—3-павярховыя мураваныя дамы. У паўн.-зах. частцы гар. пасёлка — жылы пасёлак унітарнага с.-г. прадпрыемства «Краснапольскі» (былая в. Маластоўка), забудаваны 2—5-павярховымі дамамі. Зона адпачынку ўключае сквер у цэнтры з помнікам на рагу вуліц Савецкай і Калініна і парк у паўд. частцы, а таксама невялікае вадасховішча на ПнЗ пры ўпадзенні р. Маластоўка ў р. Тур'я.

Краснаполле — радзіма Я.Д.Зевіна (1884—1918), удзельніка рэв. руху ў Расіі, бакінскага камісара, яго імем названы вуліцы ў Баку і Краснаполлі; Герояў Сав. Саюза І.Ф.Ваксмана, 1922—43), М.М.Антонава (1923—43); бел. гісторыка, канд. гіст. навук І.А.Марзалюка (н. ў 1968).



*«Краснапольскі падворак». Святкаванне Дня горада.*




*У цэнтры г.п. Краснаполле.*

**АЛЯКСАНДРАЎКА 1** (да 1960 г. Чарцёж) — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Краснаполля, 120 км ад Магілёва, 43 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На У цячэ ручай (прыток р. Палуж). Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе праз в. Забор'е і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 15 двароў, 122 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 11 двароў, 59 жыхароў. У 1909 г. хутары, 17 двароў, 106 жыхароў. У 1926 г. хутары, 18 двароў, 120 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны партызан, які загінуў у 1942 г. ў баі супраць гітлераўскіх акупантаў. У 1986 г. 7 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1). Складалася з крываліненйай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**АЛЯКСАНДРАЎКА 2** — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Краснаполля, 121 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На У цячэ ручай (прыток р. Палуж). Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе праз вёскі Аляксандраўка 1, Забор'е і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

У 1897 г. вёска (12 двароў, 48 жыхароў) у Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1909 г. хутары, 13 двароў, 75 жыхароў. У 1926 г. хутары, 16 двароў, 87 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1). Складалася з кароткай, прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Пасля катастрофы 1986 г. на Чар-







*Будынак раённай дзяржаўнай гімназіі ў г.п. Краснаполле.*

*Фрагмент сучаснай забудовы г.п. Краснаполле.*



*М.М.Антонаў.*

нобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**АНТОНАЎКА** — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Краснаполля, 134 км ад Магілёва, 41 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, вакол лес. На ПдУ цячэ ручай (прыток р. Дзяражня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз былыя вёскі Мануйлы, Высокі Борак і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. 6 двароў, 24 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Брацькавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 14 двароў, 78 жыхароў. У 1909 г. 10 двароў, 49 жыхароў. У 1926 г. хутары, 29 двароў, 127 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Клім Варашылаў», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 25 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 6

*Помнік адселеным вёскам у г.п. Краснаполле.*

*Пачатак вучэбнага года ў г.п. Краснаполле.*





гаспадарак, 5 жыхароў, у складзе саўгаса «Краснапольскі» (цэнтр — в. Высокі Борак). Складалася з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж ручая. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**АРЦЁХАЎ** — вёска ў Горскім с/с, за 13 км на Пд ад Краснаполля, 122 км ад Магілёва, 64 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Каўпіта (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Леніна і далей па шашы Краснаполле—Горы. 16 гаспадарак, 48 жыхароў (2007).


А.Казлоў.

Археал. помнік — курганны могільнік на правым беразе безыменнага ручая, левага прытока р. Каўпіта, за 1 км на Пн ад вёскі, сведчыць аб засяленні гэтых месц са старажытнасці. Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска Арцюхоў у Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 15 двароў, 117 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. сяло Арцёхава, 90 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. ў Мхініцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 40 двароў, 303 жыхары. Меўся піцейны дом. Побач быў аднайменны фальварак (1 двор, 10 жыхароў, ветраны млын, маслабойня). У 1990 г. засн. вінакурня, дзе мелася паравая машына. У 1909 г. ў сяле 46 двароў, 327 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 12 жыхароў. Дзейнічала школа граматы. У 1926 г. 69 двароў, 402 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Маланка», які першапачаткова аб'ядноўваў 6 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 23 вяскоўцы ўдзельнічалі ў баях супраць акупантаў, 13 з іх загінулі. У 1967 г. да вёскі далучаны пас. Зарэчча. У 1990 г. 35 гаспадарак, 80 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Леніна). У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ракой прамавугольных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**АСІНАЎКА** — былая вёска ў Навапольненскім с/с, за 20 км на З ад Краснаполля, 129 км ад Магілёва, 71 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн межавала з лесам, на У цячэ р. Галуба (прыток р. Сож) і праходзіць меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе і далей па шашы былая в. Хатыжын—Краснаполле.

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца пад 1769 г. як в. Шышкаўка, 10 двароў, 24 жыхары мужчынскага полу, карчма, млын, дзярж. ўласнасць у Прапойскім старостве. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 17 двароў, 93 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1801 г. дзве вёскі: Вялікая Шышкаўка (7 двароў, 60 жыхароў) і Малая Шышкаўка (8 двароў, 63 жыхары). У 1897 г. в. Асінаўка (Малая Шышкаўка) у Старынскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 27 двароў, 176 жыхароў. Меўся піцейны дом. У 1909 г. 23 двары, 193 жыхары. У 1928 г. арганізаваны калгас «Серп», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 23 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 72 вяскоўцы змагаліся на фронце, 56 з іх загінулі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 7 воінаў 283-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. У 1896 г. 46 гаспадарак, 126 жыхароў, у складзе калгаса імя Жданава (цэнтр — былая в. Карма-Пайкі). Планіровачна складалася з 2 вуліц, большая з якіх крывалінейная, была арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Да яе на ПдЗ далучалася амаль перпендыкулярна другая вуліца. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

Радзіма бел. пісьменніка А.С.Казлова (н. ў 1962 г.).

**АСІНАВЫ** — былы пасёлак у Высакаборскім с/с, за 17 км на У ад Краснаполля, 126 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст.



Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць непадалёку ад вёскі.

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 5 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе саўгаса «Краснапольскі» (цэнтр — былая в. Высокі Борак). Складаўся з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**АЎЧЫНЕЦ** — вёска ў Мхініцкім с/с (да 28.2.1992 г. ў Сабалёўскім с/с), за 25 км на ПдЗ ад Краснаполля, 134 км ад Магілёва, 76 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Сокалец (прыток р. Покаць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз былыя вёскі Болін, Малы Восаў і далей па шашы былая в. Хатыжын—Краснаполле. 15 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. в. Аўчыніцы ў Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 11 двароў, 98 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Мхініцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 50 двароў, 356 жыхароў. Меўся піцейны дом. У аднайменным фальварку, што быў побач, 1 двор, 6 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 56 двароў, 396 жыхароў, у фальварку 1 двор, 4 жыхары. У 1926 г. 50 двароў, 411 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1974 г. да вёскі далучаны пас. Вішанька. У 1990 г. 68 гаспадарак, 189 жыхароў, у складзе саўгаса «Завадоцкі» (цэнтр — в. Завадок). Працавалі пач. школа, б-ка, магазін. У 2007 г. дзейнічае клуб. Складаецца з 2 амаль прамалінейных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, падзеленых ракой і на Пд злучаных трэцяй кароткай вуліцай. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАГДАНАЎКА** — былая вёска ў Сідараўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Краснаполля, 124 км ад Магілёва, 66 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пд межавала з лесам. На Пн цячэ р. Даргамысль (прыток р. Ельня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Калінаўка, Сідараўка і далей па шашы Чэрыкаў—Краснаполле.

Вядома па пісьмовых крыніцах з пач. 20 ст. У 1909 г. 7 двароў, 59 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 13 гаспадарак, 27 жыхароў, у складзе саўгаса імя Калініна (цэнтр — в. Сідараўка). Складалася з прамалінейнай кароткай вуліцы шыротнай арыентацыі. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**БАРАВАЯ** — вёска ў Мхініцкім с/с (да 28.2.1992 г. ў Сабалёўскім с/с), за 30 км на Пд ад Краснаполля, 139 км ад Магілёва, 81 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, абкружана лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёску Мхінічы і далей па шашы Выдранка—Краснаполле. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца пад 1765 г. як в. Буда Баравая ў Прапойскім старостве, 11 двароў, з'яўлялася дзярж. уласнасцю. У 1769 г. 12 двароў, 21 жыхар мужчынскага полу, мелася карчма. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 8 двароў, 86 жыхароў, уласнасць памешчыка, меліся вадзяны і ветраны млыны, карчма. З 1884 г. дзейнічала школа граматы. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 12 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе саўгаса «Завадоцкі» (цэнтр — в. Зава-

док). Складаецца з крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЕРАЗУГА** — вёска ў Мхініцкім с/с (да 28.6.1992 г. ў Сабалёўскім с/с), за 35 км на ПдЗ ад Краснаполля, 144 км ад Магілёва, 86 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Горкі, Сабалі, Завадок і далей па шашы Выдранка—Краснаполле. 3 гаспадаркі, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 28 гаспадарак, 55 жыхароў, у складзе саўгаса «Завадоцкі» (цэнтр — в. Завадок). Складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЕРАЗЯКІ 1** — былая вёска ў Наваельненскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Краснаполля, 134 км ад Магілёва, 71 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Жавуніца (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы былая в. Хатыжын—Краснаполле, якая праходзіць праз вёску.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска Беразякі ў Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 10 двароў, 83 жыхары, уласнасць памешчыка, мелася карчма. У 1897 г. ў Наваельненскай вол. Чэрыкаўскага павета, 60 двароў, 624 жыхары. Дзейнічалі 3 млыны, школа граматы. Побач быў аднайменны фальварак (2 двары, 18 жыхароў, карчма). У 1909 г. ў вёсцы 75 двароў, 550 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 9 жыхароў. У 1910 г. школа граматы пераўтворана ў аднакласнае нар. вучылішча. У маі 1922 г. арганізавана с.-г. закупачна-збытавое т-ва. У 1926 г. 80 двароў, 517 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Парыжская Камуна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 26 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі базіраваўся партыз. спецатрад Героя Сав. Саюза М.В.Зябніцкага. У цэнтры вёскі ў брацкай магіле пахаваны 34 воіны 269-й стралк. дывізіі, якія загінулі пры вызваленні раёна. 59 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 43 з іх загінулі. Была цэнтрам калгаса «Парыжская Камуна», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі. У 1986 г. 88 гаспадарак, 222 жыхары, дзейнічалі Дом культуры, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, б-ка, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Мела П-падобную планіроўку з працяглай, прамалінейнай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ гал. вуліцай уздоўж ракі. Ад абодвух канцоў вуліцы адыходзілі на ПнЗ 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**БЕРАЗЯКІ 2** — былая вёска ў Наваельненскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Краснаполля, 135 км ад Магілёва, 72 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Жавуніца (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы былая в. Хатыжын—Краснаполле, якая праходзіць побач з вёскай.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з пач. 19 ст. У 1834 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 87 жыхароў, уласнасць памешчыка. У маі 1922 г. створана с.-г. т-ва. У 1926 г. 35 двароў, 251 жыхар. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 6 воінаў 283-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. 36 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 24 з іх загінулі. У 1986 г. 57 гаспадарак, 148 жыхароў, у складзе калгаса «Парыжская Камуна» (цэнтр — былая в. Беразякі 1). Асн. крывалінейная вуліца мела шыротную арыентацыю. Ад



яе пад вострым вуглом адыходзіла на Пд кароткая прамалінейная вуліца. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**БІРУЛІ** — вёска ў Горскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Краснаполля, 128 км ад Магілёва, 70 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Свініца (прыток р. Палуж). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горы—Краснаполле. 10 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца пад 1675 г., калі тут быў 1 двор, пасесія ў Прапойскім старостве. У 1681 г. 8 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1769 г. сяло ў Чэрыкаўскім павеце, 36 двароў, 145 жыхароў, уласнасць памешчыка. Побач быў маёнтак. У 1816 г. 79 двароў, 439 жыхароў. У 1858 г. 246 жыхароў мужчынскага полу, дзейнічаў вадзяны млын. У 1880 г. 99 двароў, 518 жыхароў. Меліся скураны з-д, вятрак, школа граматы. Частка вяскоўцаў займалася шыццём абутку, калёсным і бандарным промысламі. У 1885 г. 88 двароў, 556 жыхароў. У 1897 г. 130 двароў, 850 жыхароў. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. адбываліся хваляванні. У 1909 г. 147 двароў, 1023 жыхары, дзейнічала школа (нар. вучылішча).

У 1925 г. дзейнічалі прац. школа, у якой было 34 вучні, гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 153 двары, 981 жыхар. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што каля могілак, пахаваны 5 сав. воінаў, якія загінулі ў 1941 г. На фронце і ў партыз. барацьбе змагаліся 33 вяскоўцы, 14 з іх загінулі. У 1990 г. 24 гаспадаркі, 54 жыхары, у складзе калгаса імя В.Валадарскага (цэнтр — в. Горы). Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц шыротнай арыентацыі, падзеленых ракой і злучаных на У трэцяй кароткай вуліцай з мостам цераз раку. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БОЛІН** — былая вёска ў Наваельненскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Краснаполля, 131 км ад Магілёва, 73 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн і Пд межавала з лесам, на З цячэ р. Покаць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вялікі Восаў (былая) і далей па шашы былая в. Хатыжын—Краснаполле.

У 1858 г. ўласнасць памешчыка, мелiся 4 карчмы, у маёнтку дзейнічаў вінакурны з-д (з 1899). У 1897 г. ў фальварку 49 жыхароў, уваходзіў у Наваельненскую вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 9 жыхароў. У 1926 г. 1 двор, 6 жыхароў. У 2-й пал. 1920-х г. тут пасяліліся выхадцы з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 37 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 3 — у партыз. атрадах, з іх 20 загінулі. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 75 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — былая в. Новая Ельня). Планіровачна складалася з 2 узаемна перпендыкулярных кароткіх вуліц (шыротнай і мерыдыянальнай арыентацыі), на ПнЗ быў адасоблены ўчастак забудовы. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**БРЫЛЁЎКА** — вёска ў Яноўскім с/с (да 31.10.2008 г. ў Высакаборскім с/с), за 9 км на У ад Краснаполля, 118 км ад Магілёва, 42 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ р. Палуж (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Палуж і далей па шашы Краснаполле—Хоцімск. 6 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска (80 рэвізскіх душ) у Чэрыкаўскім павеце. У 1880 г. 36 двароў, 225 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Па-

лужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 57 двароў, 419 жыхароў. Меўся піцейны дом. У 1909 г. 65 двароў, 427 жыхароў. У 1926 г. 60 двароў, 400 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рассвет», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 26 гаспадарак, 47 жыхароў, у складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1). У 1999 г. 15 гаспадарак, 21 жыхар. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой, амаль прамалінейных вуліц шыротнай арыентацыі, злучаных у цэнтры завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Культурна-экалагічны комплекс «Іванаў хутар».

**БУГЛАІ** — вёска ў Яноўскім с/с (да 31.10.2008 г. ў Высакаборскім с/с), за 8 км на ПнУ ад Краснаполля, 117 км ад Магілёва, 43 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн мяжуе з лесам. На З і Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Травінка (прыток р. Тур'я). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Забор'е і далей па шашы Краснаполле—Хоцімск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. хутар Баглаі ў Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1834 г. в. Баглаі (7 двароў, 58 жыхароў) у Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 22 двары, 156 жыхароў. У 1909 г. 24 двары, 155 жыхароў.

У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны працаўнік», які першапачаткова аб'ядноўваў 11 гаспадарак. У 1940 г. 29 двароў, 169 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў ліп. 1943 г. спалілі 25 двароў, загубілі 5 жыхароў. На могілках пахаваны 3 сав. воіны, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні вёскі. У 1990 г. 11 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1). У 1999 г. 5 гаспадарак, 11 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БУГЛАІ** — вёска ў Мхініцкім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Краснаполля, 124 км ад Магілёва, 66 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Бярлянка (прыток р. Каўпіта). Транспартныя сувязі па шашы Выдранка—Краснаполле, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 24 гаспадаркі, 48 жыхароў (2007).

За 1,2 км на ПнЗ ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік у міжрэччы рэк Казелька і Бярлянка (захаваліся 4 насыпы), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У 1880 г. вёска,



*Культурна-экалагічны комплекс «Іванаў хутар» у в. Брылёўка.*



*Хата ў в. Буглаі.*



30 двароў, 251 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Мхініцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 53 двары, 357 жыхароў. Меліся млын, піцейны дом. У 1909 г. 53 двары, 324 жыхары. У 1926 г. 51 двор, 305 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камунар», які першапачаткова аб'ядноўваў 12 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 39 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 26 з іх загінулі. Брацкая магіла сав. воінаў, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні вёскі. У 1990 г. 53 гаспадаркі, 132 жыхары, у складзе саўгаса «Халмянскі» (цэнтр — в. Халмы), дзейнічала пач. школа. У 2007 г. клуб, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З — гасп. сектар.

**БУХОДЗЬКАВА** — пасёлак у Тур'яўскім с/с, за 4 км на Пд ад Краснаполля, 113 км ад Магілёва, 55 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на ПнУ цячэ р. Тур'я (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па шашы Горы—Краснаполле, якая праходзіць праз пасёлак. 8 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1926 г. 17 двароў, 89 жыхароў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 14 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Тур'я). Складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЕТУХНОЎКА** — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Краснаполля, 124 км ад Магілёва, 39 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн межавала з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз былыя вёскі Сувораўка, Аляксандраўка 2, Аляксандраўка 1 і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з пач. 19 ст. У 1816 г. в. Ведухна ў Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1897 г. в. Віатухна (8 двароў, 18 жыхароў) у Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 14 двароў, 85 жыхароў. У 1926 г. 16 двароў, 102 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1). Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ВОСАЎ** — былы пасёлак у Высакаборскім с/с, за 18 км на У ад Краснаполля, 127 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ ручай (прыток р. Палуж). Транспартныя сувязі па шашы Краснаполле—Хоцімск, якая праходзіць непадалёку ад пасёлка.

Вядомы паводле пісьмовых крыніц з пач. 20 ст. У 1909 г. 37 двароў, 274 жыха-



*Ускраіна пас. Буходзькава.*

ры. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 16 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе саўгаса «Краснапольскі» (цэнтр — былая в. Высокі Борак). Складаўся з амаль прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж ручая. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ВЫДРАНКА** — вёска ў Мхініцкім с/с (да 28.2.1992 г. ў Сабалёўскім с/с), за 28 км на ПдЗ ад Краснаполля, 137 км ад Магілёва, 79 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам, на У цячэ р. Каўпіта (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па шашы Выдранка—Краснаполле, якая праходзіць праз вёску. 33 гаспадаркі, 75 жыхароў (2007).

За 1,3 км на У ад вёскі, на беразе р. Каўпіта, ва ўрочышчы Курганне захаваўся старажытны курганны могільнік (56 насыпаў), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1811 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 44 двары, 115 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1840 г. засн. вінакурны, у 1889 г. — піваварны з-ды. У 1880 г. 60 двароў, 348 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. Дзейнічала царк.-прыходская двухкласная школа. У 1897 г. ў Мхініцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 79 двароў, 590 жыхароў. Дзейнічалі 2 ветраныя млыны, заезны дом, піўная крама. Побач быў аднайменны фальварак (5 двароў, 209 жыхароў, вінакурны і піваварны з-ды, вадзяны і ветраны млыны, крупадзёрка, двухкласная царк.-прыходская школа, бальніца, паштова-тэлегр. станцыя, карчма, 2 крамы, царква). Раз у год праводзіўся таржок. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. адбываліся сял. хваляванні. У 1909 г. 107 двароў, 691 жыхар. У 1922 г. створана с.-г. т-ва, 20.5.1923 г. — меліярацыйнае т-ва. У 1925 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 109 двароў, 750 жыхароў, пачаў дзейнічаць фельч.-акушэрскі ўчастак. Частка вёскі ў 1926 г. згарэла, але хутка была адбудавана. З 1927 г. дзейнічала метэаралагічная станцыя. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 52 воіны, сярод іх воіны 269-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. У брацкай магіле каля будынка клуба пахаваны 120 партызан і мірных жыхароў, загубленых акупантамі ў 1941—42 гг. У 1950 г. пабудаваны радыёвузел. У



*Царква ў гонар святога велікамучаніка Дзімітрыя Салунскага ў в. Выдранка.*



*Інтэр'ер царквы ў гонар святога велікамучаніка Дзімітрыя Салунскага ў в. Выдранка.*



1990 г. 197 гаспадарак, 426 жыхароў, у складзе саўгаса «Завадоцкі» (цэнтр — в. Завадок), 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1999 г. 63 гаспадаркі, 136 жыхароў. У 2007 г. бібліятэка-клуб, аддз. сувязі, магазін. Гал. вуліца працяглая, амаль прамалінейная, мерыдыянальнай арыентацыі, ідзе ўздоўж ракі. Ад яе на З адыходзяць кароткія прамалінейныя вуліцы, на У — завулкі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры гал. вуліцы сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. Вытв. сектар — у цэнтры і на Пн. Непадалёку ад вёскі знаходзіцца радовішча мелу (разведаныя запасы 49,5 млн. т). Помнік архітэктуры — драўляная царква ў гонар святога велікамучаніка Дзімітрыя Салунскага, пабудаваная ў 1905 г.

Радзіма бел. гісторыка, кандыдата гіст. навук К.І.Кернажыцкага (1902—42).

**ВЫСОКІ БОРАК** — былая вёска і цэнтр Высакаборскага с/с (з 16.7.1954), за 20 км на У ад Краснаполля, 129 км ад Магілёва, 38 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Палуж (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па шашы Краснаполле—Хоцімск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 32 двары, 257 жыхароў. Дзейнічалі 2 ветраныя млыны, школа граматы. У 1909 г. 39 двароў, 228 жыхароў. У 1926 г. 61 двор, 368 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 46 гаспадарак. У канцы 1930-х г. у вёсцы пачала дзейнічаць МТС. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Была цэнтрам саўгаса «Краснапольскі» (створаны ў 1959 г. на базе расфарміраванай Чырваназорнай МТС), які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі. У 1986 г. 127 гаспадарак, 322 жыхары, дзейнічалі сярэдняя школа, клуб, б-ка, бальніца, 2 магазіны, сталовая, амбулаторыя, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Рака падзяляла вёску на паўн.-зах. (крывалінейная вуліца з завулкамі, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ) і паўд.-ўсх. (прамалінейная вуліца з завулкамі амаль мерыдыянальнай арыентацыі) часткі. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

Радзіма бел. пісьменніка А.В.Пысіна (1920—81), засл. работніка культуры Беларусі, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі імя Я.Купалы.



*А.В.Пысін.*

**ВЯЛІКІ ВОСАЎ** — былая вёска ў Наваельненскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Краснаполля, 128 км ад Магілёва, 70 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ межавала з лесам, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Якушоўка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Краснаполле — былая в. Хатыжын, якая праходзіць праз вёску.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. в. Восаў у Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1880 г. 42 двары, 284 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім і кравецкім промысламі. У 1897 г. ў Нова-Ельненскай вол. Чэрыкаўскага павета, 56 двароў, 518 жыхароў, 2 ветраныя млыны, школа граматы. У 1909 г. в. Вялікі Восаў, 74 двары, 566 жыхароў, аднакласная школа (нар. вучылішча) і царк.-прыходская школа, царква. У 1926 г. 78 двароў, 517 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 35 вяскоўцаў змагаліся на фронце і ў партыз. атрадах, 16 з іх загінулі. У 1986 г. 41 гаспадарка, 99 жыхароў, у складзе калгаса

«Ленінскі шлях» (цэнтр — былая в. Новая Ельня), дзейнічаў магазін. Ад асн., крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ (адрэзак шашы), адыходзілі на ПдЗ і ПнЗ 2 невялікія прамалінейныя вуліцы. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ВЯЛІКІЯ ХУТАРЫ** — вёска ў Сідараўскім с/с, за 5 км на ПнЗ ад Краснаполля, 104 км ад Магілёва, 56 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на Пн і У мяжуе з лесам, на паўн. і паўд. ускраінах — штучныя сажалкі. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Калінаўка, Сідараўка і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1858 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце, 73 рэвізскія душы. У 1897 г. ў Краснапольскай вол. Чэрыкаўскага павета, 43 двары, 331 жыхар. Меўся піцейны дом. У 1909 г. 55 двароў, 414 жыхароў. У 1910 г. адкрыта школа (нар. вучылішча). У 1926 г. 85 двароў, 515 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 17 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе саўгаса імя Калініна (цэнтр — в. Сідараўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯСЁЛЫ** — пасёлак у Горскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Краснаполля, 121 км ад Магілёва, 73 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Леніна і далей па шашы Горы—Краснаполле. 6 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. у выніку перасялення сюды выхадцаў з суседніх вёсак. У 1926 г. 25 двароў, 156 жыхароў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 37 пасялкоўцаў змагаліся на фронце, 15 з іх загінулі. У 1990 г. 18 гаспадарак, 40 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Леніна). Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАЛУЗЫ** — вёска ў Яноўскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Краснаполля, 128 км ад Магілёва, 41 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Горанка, Новы Свет, Раманоў, Палуж 1 і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з пач. 19 ст. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 18 двароў, 91 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 35 рэвізскіх душ, меўся піцейны дом. У 1880 г. 18 двароў, 90 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім промыслам. У 1897 г. вёска ва ўрочышчы Грынёўка (25 двароў, 144 жыхары) у Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета. Меліся 2 цагельныя з-ды, ветраны млын. У 1909 г. 20 двароў, 150 жыхароў. У 1926 г. 36 двароў, 212 жыхароў. У 1920-х г. арганізаваны калгас «XVI партз'езд», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 42 гаспадаркі, працаваў цагельны з-д. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 22 гаспадаркі, 40 жыхароў, у складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Яноўка). У 1999 г. 11 гаспадарак, 19 жыхароў. Складаецца з дугападобнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забдаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАРА** — пасёлак у Тур'яўскім с/с, за 7 км на ПдУ ад Краснаполля, 116 км ад Магілёва, 58 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Горы—





*Спаборніцтва па турызме каля пас. Гара.*

Краснаполле, якая праходзіць побач з вёскай. 6 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

На ПнЗ ускраіне захаваўся помнік археалогіі — могільнік (6 насыпаў), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 13 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Тур'я). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАРАДЗЕЦКАЯ** — вёска ў Сідараўскім с/с, за 8 км на З ад Краснаполля, 110 км ад Магілёва, 59 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Газуемка (прыток р. Ельня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сідараўка і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў. 55 гаспадарак, 147 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губ., 31 двор, 102 жыхары. Мелася школа граматы. У 1858 г. 94 рэвізскія душы. У 1880 г. 30 двароў, 206 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1897 г. ў Краснапольскай вол. Чэрыкаўскага павета, 47 двароў, 381 жыхар. Меліся 2 ветраныя млыны, школа граматы, піцейны дом. У 1909 г. 46 двароў, 363 жыхары. У 1926 г. 80 двароў, 461 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Перамога», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 7 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 89 сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні раёна. 22 вяскоўцы змагаліся на фронце, 5 з іх загінулі. У 1990 г. 106 гаспадарак, 284 жыхары, у складзе саўгаса імя Калініна (цэнтр — в. Сідараўка). У 1999 г. 79 гаспадарак, 185 жыхароў. У 2007 г. сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Ад асн. крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ адыходзіць на Пд прамалінейная вуліца з завулкамі. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя будынкі аднапавярховыя, драўляныя, сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**ГАРАДНЫ** — былы пасёлак у Горскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Краснаполля, 129 км ад Магілёва, 71 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Палуж (прыток р. Беседзь), на паўн.-ўсх. ускраіне — штучнае вадасховішча. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горы—Краснаполле.

Засн. ў 1920-я г. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарый», які першапачаткова аб'ядноўваў 11 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце змагаліся 28 пасялкоўцаў, 19 з іх загінулі. У 1990 г. 15 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе калгаса імя В.Валадарскага (цэнтр — в. Горы). Складаўся з 2

кароткіх прамалінейных вуліц (адна шыротнай арыентацыі, другая адыходзіла ад першай на ПдУ). Быў забудаваны пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАРАДОК** — былая вёска ў Сабалёўскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Краснаполля, 134 км ад Магілёва, 76 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На З межавала з лесам, на У цячэ р. Каўпіта (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па шашы Выдранка—Краснаполле, якая праходзіць побач з вёскай.

Засн. ў 1920-я г. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Гарадок», які першапачаткова аб'ядноўваў 11 гаспадарак. У 1940 г. 15 двароў, 78 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў жн. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 9 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе саўгаса «Завадоцкі» (цэнтр — в. Завадок). Складалася з кароткай дугападобнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна ўздоўж ракі. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ГАРАДОК** — былы пасёлак у Сідараўскім с/с, за 11 км на ПнЗ ад Краснаполля, 120 км ад Магілёва, 62 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам і цячэ р. Газуемка (прыток р. Ельня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Гарадзецкая, Сідараўка і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 10 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе саўгаса імя Калініна (цэнтр — в. Сідараўка). Планіровачна складаўся з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ГАРЭЗНА** — былая вёска ў Яноўскім с/с (да 31.10.2008 г. ў Высакаборскім с/с), за 28 км на ПнУ ад Краснаполля, 137 км ад Магілёва, 63 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на ПнЗ мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Гарэзіна (прыток р. Расамаха). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Жаліжа, Высокі Борак і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах пад 1769 г., калі ў вёсцы былі 12 двароў, 22 жыхары мужчынскага полу, млын і карчма, дзярж. уласнасць у Прапойскім старостве. У 1785 г. 10 двароў, 96 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1816 г. 15 двароў, 129 жыхароў, у 1858 г. сяло ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. Меліся заезны дом, драўляная царква. У 1897 г. 52 двары, 362 жыхары, дзейнічала царк.-прыходская школа. Побач быў аднайменны хутар. У 1909 г. 56 двароў, 430 жыхароў. Меліся 2 ветракі. У 1926 г. 80 двароў, 437 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «КІМ», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 64 гаспадаркі. У пач. 1930-х г. адкрыта 4-гадовая школа, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Праз 2 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Клачавец, у брацкай магіле пахаваны 3 партызаны, якія загінулі ў 1943 г. У цэнтры вёскі ў брацкай магіле пахаваны 11 воінаў, у ліку якіх воіны 875-га асобнага сапёрнага батальёна, і 3 партызаны, што загінулі ў баях у 1943 г. У 1990 г. 57 гаспадарак, 127 жыхароў, у складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1). Дзейнічалі магазін, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, стацыянарная кінаўстаноўка, 8-гадовая школа, б-ка. У 1999 г. 3 гаспадаркі, 8 жыхароў. Складалася з 2 крывалінейных працяглых вуліц, амаль мерыдыянальнай арыентацыі, абапал ракі, злучаных у цэнтр. частцы завулкамі. Была забудавана пераваж-



на аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАТАВЕЦ** — былая вёска ў Мхініцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Краснаполля, 129 км ад Магілёва, 71 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мхінічы і далей па шашы Выдранка—Краснаполле.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. слабодка Гатовец у Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. в. Гатоўцы (31 двор, 121 жыхар) у Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 50 двароў, 401 жыхар. Частка жыхароў займалася кравецкім і бандарным промысламі. У 1897 г. ў Мхініцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 63 двары, 509 жыхароў. Меліся 2 ветраныя млыны, кузня. У 1909 г. 60 двароў, 330 жыхароў. У 1923 г. адкрыта школа, у якой былі 32 вучні. У 1926 г. 84 двары, 515 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Гатавец», які першапачаткова аб'ядноўваў 22 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 76 вяскоўцаў удзельнічалі ў барацьбе супраць акупантаў, 52 з іх загінулі. У 1986 г. 70 гаспадарак, 166 жыхароў, у складзе саўгаса «Халмянскі» (цэнтр — в. Халмы), дзейнічала б-ка. Мела прамавугольную планіроўку з прамалінейнымі завулкамі, 2 шыротнай і 3 мерыдыянальнай арыентацыі. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ГАЦКЕВІЧ** — былы пасёлак у Наваельненскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Краснаполля, 131 км ад Магілёва, 73 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, абкружаны лесам. На Пн цячэ р. Якушоўка (прыток р. Сож), на якой зроблена невялікае вадасховішча. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. хутары, 27 двароў, 120 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «6 з'езд Саветаў Краснапольшчыны», які першапачаткова аб'ядноўваў 13 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1,5 км на Пн ад пасёлка ў брацкай магіле пахаваны 2 сав. воіны і асобна на могілках — партызан 3-га асобнага атрада, якія загінулі ў барацьбе супраць акупантаў. 12 пасялкоўцаў змагаліся на фронце і ў партыз. барацьбе, 3 з іх загінулі. У 1986 г. ў складзе калгаса імя Жданава (цэнтр — былая в. Карма-Пайкі). Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ГЛЫБАЎ** — вёска ў Мхініцкім с/с, за 13 км на Пд ад Краснаполля, 122 км ад Магілёва, 64 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на Пд і З мяжуе з лесам, на З цячэ р. Каўпіта (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Халмы і далей па шашы Выдранка—Краснаполле. 25 гаспадарак, 54 жыхары (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 16 ст. У 1563 г. сяло ў Прапойскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1816 г. сяло Глыбава (25 двароў, 92 жыхары) у Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. У 1834 г. 98 жыхароў, уласнасць памешчыка, меліся 2 карчмы. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 37 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 21 з іх загінуў. У 1990 г. 54 гаспадаркі, 131 жыхар, у складзе саўгаса «Халмянскі» (цэнтр — в. Халмы), дзейнічала школа. У 1999 г. 38 гаспадарак, 95 жыхароў. У 2007 г. магазін. Ад асн., больш працяглай, крывалінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна, уздоўж ракі, адыходзіць на У кароткая прамалінейная вуліца. Вёска забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне — гасп. сектар.




**ГОРАНКА** — вёска ў Горскім с/с, за 17 км на ПдУ ад Краснаполля, 126 км ад Магілёва, 46 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, праз вёску цячэ р. Горанка (прыток р. Палуж). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Грыбы, Малюшына, Ясенка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 28 двароў, 173 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1882 г. адкрыта школа. У 1897 г. ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 56 двароў, 416 жыхароў. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. Побач быў аднайменны фальварак (2 двары, 5 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 56 двароў, 440 жыхароў, у фальварку 1 двор, 1 жыхар. У 1925 г. на базе дарэв. створана прац школа 1-й ступені, у якой было 56 вучняў. У 1926 г. 74 двары, 451 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Ф.Энгельса, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 47 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 23 вяскоўцы змагаліся на фронце, 13 з іх загінулі. У 1990 г. 29 гаспадарак, 55 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Леніна). Пляніровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, абапал ракі, забудавана пераважна аднабакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.


*М.Ткачоў.*

Радзіма бел. пісьменніка М.Ткачова (1918—79).

**ГОРКІ** — вёска ў Мхініцкім с/с (да 28.2.1992 г. ў Сабалёўскім с/с), за 32 км на ПдЗ ад Краснаполля, 141 км ад Магілёва, 83 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Покаць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Марынаполле і далей па шашы на Краснаполле. 23 гаспадаркі, 53 жыхары (2007).

За 1,5 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на левым беразе р. Покаць размешчана старaж. гарадзішча, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. сяло, 98 двароў, 599 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1885 г. 99 двароў, 568 жыхароў, меўся заезны дом. Частка сяльчан займалася бандарным і кавальскім промысламі. У 1897 г. ў Мхініцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 131 двор, 991 жыхар. Меліся ветраны млын, піцейны дом, крама. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. адбываліся сял. хваляванні. У 1909 г. 168 двароў, 1079 жыхароў. У 1926 г. 224 двары, 1305 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, для якой у 1928 г. пабудавана памяшканне. У 1931 г. арганізаваны калгас «На варце», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 18 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 75 гаспадарак, 156 жыхароў, у складзе саўгаса «Завадоцкі» (цэнтр — в. Завадок). У 1999 г. 41 гаспадарка, 92 жыхары, магазін. Планіровачна вёска складаецца з асн., амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна ўздоўж ракі, паралельна да якой на Пн праходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на ПнЗ і Пн.

**ГОРНА** — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 20 км на У ад Краснаполля, 129 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць побач з вёскай.

Засн. ў 1725 г. ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв. У 1727 г. 26 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 10 двароў, 92 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 307 жыхароў, мелася гандл. крама. У 1880 г. 55 двароў, 392 жыхары, 65 вяскоўцаў займаліся калёсным промыслам. У 1897 г. ў Палужскай



вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 90 двароў, 689 жыхароў. Меліся ветраны млын, піцейны дом. У 1909 г. 104 двары, 742 жыхары. Дзейнічалі 2 ветракі. У 1910 г. адкрыты царк.-прыходская і школа граматы. У 1926 г. 140 двароў, 797 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік», які аб'ядноўваў 13 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках пахаваны сав. воін, які загінуў у вер. 1943 г. пры вызваленні вёскі. У 1986 г. 50 гаспадарак, 131 жыхар, у складзе саўгаса «Краснапольскі» (цэнтр — в. Высокі Борак), дзейнічалі пач. школа, б-ка, магазін. Складалася з працяглай крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, на паўд. ускраіне быў гасп. сектар. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ГОРЫ** — вёска, цэнтр Горскага с/с (з 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. і з 11.4.1960 г.), за 18 км на ПдУ ад Краснаполля, 137 км ад Магілёва, 69 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Палуж (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па шашы Горы—Краснаполле. 133 гаспадаркі, 369 жыхароў (2007).

За 0,5 км на ПдЗ ад вёскі ва ўрочышчы Касцёл, на прадаўгаватым мысе, які ўтвораны вусцямі 2 яроў і нізінай р. Палуж, захавалася гарадзішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. 111 двароў, 520 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. меліся млын і піцейны дом. У 1884 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1885 г. 103 двары, 590 жыхароў, дзейнічалі вінакурны (з 1874) і гарбарны (засн. ў 1865) з-ды, 3 ветракі, царква. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім і кавальскім промысламі. У 1897 г. 153 двары, 1064 жыхары. Побач быў аднайменны фальварак (4 двары, 54 жыхары). У рэвалюцыю 1905—07 гг. адбываліся сял. хваляванні. У 1909 г. ў сяле 172 двары, 1192 жыхары, у маёнтку 1 двор, 5 жыхароў, вінакурны і цагельны з-ды. У 1918 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 114 вучняў. У 1924 г. арганізавана першая на Краснапольшчыне камуна, створана камсамольская ячэйка. У 1925 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 212 двароў, 1290 жыхароў, пачаў працаваць фельч.-акушэрскі пункт. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік» (з 1930 г. — імя В.Валадарскага). У 1931 г. калгас атрымаў тэлеф. сувязь. У 1932 г. меліся нафтавы млын, 3 ветракі. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце змагаліся 77 вяскоўцаў, 36 з іх загінулі. У 1957—59 гг. выходзіла калгасная шматтыражка «Калгаснік». У 1990 г. 89 гаспадарак, 246 жыхароў, цэнтр калгаса імя В.Валадарскага, які спецыялізаваўся на мяса-малочнай жывёлагадоўлі. У 2007 г. ў вёсцы дзіцячы сад—сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, магазін, бутэрбродная, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Рака падзяляе вёску на зах. (дугападобная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі) і ўсх. (Т-падобная планіроўка вуліц: адна мерыдыянальнай, другая шыротнай арыентацыі) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, на Пд і



*Помнік прыроды мясцовага значэння «Ясянёвы гай» на тэрыторыі Горскага сельсавета.*

ПдУ мураванымі 1—2-павярховымі дамамі. Вытв. сектар — на ПдЗ, ПнУ, ПдУ.

У склад сельсавета ўваходзяць 16 вёсак. У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Горскага с/с былі таксама пасёлкі Вішнецкі і Рашатнёўка, якія зараз не існуюць; пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі былі адселены вёска Лявонаўка, пасёлкі Кірава, Гародны, Гразівец, Грозны ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ГОСЛІЎ** — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Краснаполля, 139 км ад Магілёва, 35 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, вакол лес, на Пн цячэ ручай (прыток р. Дзяражня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1747 г. вёска, 4 двары, дзярж. ўласнасць. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 6 двароў, 31 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1847 г. маёнтак і хутар у Чэрыкаўскім павеце, 26 жыхароў, меўся млын, уласнасць памешчыка. У 1897 г. фальварак Гослеў (10 двароў, 59 жыхароў) у Брацькавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. У пач. 20 ст. 10 двароў, 69 жыхароў, дзейнічаў вятрак. У 1926 г. 21 двор, 124 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Запаветы Ільіча», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 21 гаспадарку. У 1940 г. 21 двор, 82 жыхары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У крас. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 23 жыхары. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 2 партызаны атрада №45 «За Радзіму», якія загінулі ў 1943 г. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 12 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе саўгаса «Краснапольскі» (цэнтр — в. Высокі Борак). Планіровачна складалася з кароткай крывалінейнай вуліцы. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ГРАЗІВЕЦ** — былы пасёлак у Горскім с/с, за 22 км на ПдУ ад Краснаполля, 131 км ад Магілёва, 73 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на Пн пасёлак межаваў з лесам. На У цячэ р. Дзясянка (прыток р. Алешня), на Пд — яе прыток, безыменны ручай. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горы—Краснаполле.

Вядомы паводле пісьмовых крыніц з 19 ст. У 1875 г. ўласнасць памешчыка. У 1858 г. 27 двароў, 110 жыхароў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 1 гаспадарка, 2 жыхары, у складзе калгаса імя В.Валадарскага (цэнтр — в. Горы). Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі пасёлак адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ГРАКОЎКА** — былая вёска ў Сідараўскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Краснаполля, 122 км ад Магілёва, 64 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн межавала з лесам, на Пд цячэ р. Даргамысль (прыток р. Ельня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Мядзвёдаўка, Сідараўка і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1931 г. арганізаваны калгас «Пралетарскі штурм», які першапачаткова аб'ядноўваў 10 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Праз 0,5 км на Пн ад вёскі пахаваны партызан, які загінуў 28.12.1942 г., а ў 2 магілах, што за 0,5 км на Пн ад вёскі, і на могілках пахаваны воіны 269-й стралк. дывізіі, якія загінулі пры вызваленні вёскі. У 1986 г. 20 гаспадарак, 37 жыхароў, у складзе саўгаса імя Калініна (цэнтр — в. Сідараўка). Складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.



**ГРОЗНЫ** — былы пасёлак у Горскім с/с, за 8 км на ПдУ ад Краснаполля, 117 км ад Магілёва, 59 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На З бярэ пачатак р. Каўпіта (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па шашы Горы—Краснаполле, якая праходзіць праз пасёлак.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1926 г. 27 двароў, 134 жыхары. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 11 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 6 з іх загінулі. У 1986 г. 8 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Леніна). Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі пасёлак адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ГРЫБЫ** — вёска ў Горскім с/с, за 11 км на ПдУ ад Краснаполля, 120 км ад Магілёва, 48 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Палуж (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Малюшына, Ясенка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 31 гаспадарка, 67 жыхароў (2007).

За 2 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Крамянец, на правым беразе р. Палуж, знаходзіцца помнік археалогіі — стараж. могільнік (14 насыпаў). Яшчэ адзін могільнік (3 насыпы) захаваўся на паўд.-ўсх. ускраіне, ва ўрочышчы Курганне. Помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні чалавекам гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 38 двароў, 216 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1874 г. адкрыта царк.-прыходская школа. У 1897 г. ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 56 двароў, 449 жыхароў. Меліся ветраны млын, школа граматы. У 1909 г. 61 двор, 715 жыхароў. У 1925 г. дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой было 57 вучняў, створана с.-г. арцель. У 1926 г. 66 двароў, 492 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Асвета», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 55 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 51 вясковец удзельнічаў у баях на фронце, 21 з іх загінуў. У 1990 г. 56 гаспадарак, 117 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Леніна). У 2007 г. дзейнічаў магазін. Складаецца з крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай мерыдыянальна ўздоўж ракі і забудаванай двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ПдЗ.

**ДЗЕРНАВАЯ** — вёска ў Горскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Краснаполля, 129 км ад Магілёва, 71 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Палуж (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горы—Краснаполле. 15 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

На паўн.-зах. ускраіне, на левым беразе р. Палуж, захаваўся помнік археалогіі — стараж. могільнік (2 курганы), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 46 двароў, 283 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1834 г. 343 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 55 двароў, 372 жыхары. У 1880 г. 64 двары, 408 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім і кравецкім промысламі. Дзейнічала школа граматы. У 1897 г. ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 96 двароў, 617 жыхароў. Меліся школа граматы, хлебазапасны магазін. Падчас рэвалюцыі 1905—07 гг. адбываліся хваляванні рабочых. У 1909 г. 101 двор, 715 жыхароў. У 1910 г. школа граматы пераўтворана ў земскую, для якой у 1917 г. пабудавана памяшканне. У 1925 г. дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой было 85 вучняў, дзейнічаў драмгурток. У 1926 г. 140 двароў, 890 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Дзейнічалі кузня, 2 ветракі. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г.

да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 22 вяскоўцы змагаліся на фронце, 17 з іх загінулі. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 59 жыхароў, у складзе калгаса імя В.Валадарскага (цэнтр — в. Горы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі. Забудавана пераважна аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДОЎГАЯ ВЫГАР** — пасёлак у Тур'яўскім с/с, за 6 км на Пд ад Краснаполля, 115 км ад Магілёва, 57 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн — вадасховішча і меліярацыйны канал, злучаны з р. Тур'я (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па шашы Выдранка—Краснаполле, якая праходзіць побач з пасёлкам. 5 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 14 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Тур'я). Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДРАГАМІЛАВА** — былая вёска ў Мхініцкім с/с, за 22 км на Пд ад Краснаполля, 131 км ад Магілёва, 73 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, вакол лес. На ПдУ цячэ р. Дарагоўша (прыток р. Каўпіта). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мхінічы і далей па шашы Выдранка—Краснаполле.

*Старадаўняя алея ў в. Дубраўка.*



У 1858 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце, 64 рэвізскія душы. У 1880 г. 14 двароў, 149 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім промыслам. У 1897 г. ў Мхініцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 25 двароў, 181 жыхар. Меўся ветраны млын. У 1909 г. 25 двароў, 194 жыхары. У 1926 г. 32 двары, 212 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 25 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 15 з іх загінулі. У 1986 г. 19 гаспадарак, 41 жыхар, у складзе саўгаса «Халмянскі» (цэнтр — в. Халмы). Складалася з прамалінейнай кароткай вуліцы шыротнай арыентацыі з завулкам. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ДРАГАТЫНЬ** — былая вёска ў Наваельненскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Краснаполля, 135 км ад Магілёва, 77 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Краснаполле—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн межавала з лесам. На ПдУ цячэ р. Якушоўка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле.

За 1 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Якушоўка захаваўся помнік археалогіі — курганны могільнік (3 насыпы), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1834 г. в. Драгатынь (яна ж Дарагоцін) у Чэрыкаўскім павеце, 12 двароў, 87 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 28 двароў, 153 жыхары. Меўся заезны дом. У 1880 г. 36 двароў, 276 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. Дзейнічала школа граматы. У 1897 г. ў Наваельненскай вол. Чэрыкаўскага павета, 55 двароў, 474 жыхары. У 1909 г. 67







*На тэрыторыі былой в. Дуброўка.*

двароў. У 1926 г. 82 двары, 507 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 18 вяскоўцаў ваявалі на фронце, 3 — у партызанах, 10 з іх загінулі. У 1986 г. 36 гаспадарак, 100 жыхароў, у складзе калгаса імя Жданава (цэнтр — былая в. Карма-Пайкі). Дзейнічалі пач. школа, клуб, б-ка, магазін, пошта. Складалася з 2 прамалінейных вуліц — шыротнай і мерыдыянальнай арыентацыі. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ДУБРАЎКА** — вёска ў Горскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Краснаполля, 125 км ад Магілёва, 67 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Палуж (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Грыбы, Малюшына, Ясенка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 11 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 32 двары, 221 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 17 двароў, 133 жыхары. Побач быў аднайменны фальварак (1 двор, 5 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 20 двароў, 128 жыхароў, у фальварку 1 двор, 2 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 20 гаспадарак, 52 жыхары, у складзе калгаса імя В.Валадарскага (цэнтр — в. Горы). Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна ўздоўж ракі і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБРАЎКА** — пасёлак у Тур'яўскім с/с, за 6 км на Пд ад Краснаполля, 115 км ад Магілёва, 57 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Бярлянка (прыток р. Каўпіта). Транспартныя сувязі па шашы Выдранка—Краснаполле, якая праходзіць праз пасёлак. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн.

1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 16 пасялкоўцаў змагаліся на фронце, 9 з іх загінулі. У 1990 г. 21 гаспадарка, 49 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Тур'я). Планіроўвачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБРОЎКА** — былая вёска ў Сабалёўскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Краснаполля, 122 км ад Магілёва, 74 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на З межавала з лесам. Праз вёску цячэ р. Каўпіта (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па шашы Выдранка—Краснаполле, якая праходзіць праз вёску.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. в. Дуброўка (яна ж Дубровіца), 31 двор, 185 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 42 двары, 303 жыхары. Частка вяскоўцаў апрача земляробства займалася кавальскім промыслам. У 1897 г. ў Мхініцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 55 двароў, 373 жыхары. Меліся 4 ветраныя млыны, піцейны дом. У 1909 г. 53 двары, 323 жыхары. У 1926 г. 52 двары, 408 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 30 гаспадарак, 62 жыхары, у складзе саўгаса «Завадоцкі» (цэнтр — в. Завадок). Складалася з 2 прамалінейных, кароткіх, паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, злучаных на З завулкам. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ДУБЯНЕЦ** — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Краснаполля, 124 км ад Магілёва, 45 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёску Палуж 2 і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

У 1816 г. 26 двароў, 143 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 9 двароў, 62 жыхары. У 1909 г. 12 двароў, 115 жыхароў. Дзейнічала царк.-прыходская школа. У 1926 г. 21 двор, 96 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 7 гаспадарак, 14 жыхароў, у складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1). Складалася з крывалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ЕЛЬНЯ** — былая вёска ў Сідараўскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Краснаполля, 123 км ад Магілёва, 65 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, вакол лес. На З цячэ р. Ельня (прыток р. Сож), на Пн — яе прыток р. Даргамысль. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Гарадзецкая, Сідараўка і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1769 г. ў Прапойскім старостве, 9 двароў, 23 жыхары мужчынскага полу, меліся млын і карчма. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 57 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Старынскай вол. Чэрыкаўскага павета, 39 двароў, 317 жыхароў. Меліся вадзяны млын, школа граматы, заезны дом. У 1909 г. 50 двароў, 360 жыхароў. У 1926 г. 51 двор, 351 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Беларусь», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 16 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 8 з іх загінулі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 52 воіны, сярод якіх воіны 269-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні раёна. У 1986 г. 53 гаспадаркі, 117 жыхароў, у складзе саўгаса імя Калініна (цэнтр — в. Сідараўка). Дзейнічалі пач. школа, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, ма-



газін. Складалася з працяглай, амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі і забудаванай пераважна аднабакова, шчыльна, індывідуальнымі, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. беразе р. Ельня быў адасоблены ўчастак забудовы, гасп. сектар — на ПнУ. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ЖАЛЕЗНІЦА** — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 25 км на У ад Краснаполля, 134 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Какойск і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца пад 1762 г. як сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць, меўся шынок. У 1816 г. сяло Жалезніца (яна ж Ельня) у Чэрыкаўскім павеце, 13 двароў, 94 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1847 г. сяло ў складзе маёнтка Гуры Чэрыкаўскага павета, 18 двароў, 124 жыхары, мелася карчма. У 1880 г. 243 жыхары. Апрача земляробства сяльчане займаліся калёсным і сталярным промысламі. У 1897 г. ў Брацькавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 49 двароў, 336 жыхароў. У пач. 20 ст. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1907 г. навучалася 60 хлопчыкаў і 5 дзяўчынак. У 1909 г. 40 двароў, 328 жыхароў. Побач была аколіца (8 двароў, 59 жыхароў). У 1925 г. дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой было 45 вучняў. У 1926 г. 68 двароў, 367 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 34 гаспадаркі, 56 жыхароў, у складзе саўгаса «Краснапольскі» (цэнтр — былая в. Высокі Борак), дзейнічаў магазін. Складалася з асн. дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, дзе ад яе адыходзіла на ПдУ другая дугападобная вуліца, на Пд — гасп. сектар. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ЖАЛІЖЖА** — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 24 км на ПнУ ад Краснаполля, 133 км ад Магілёва, 45 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Расамаха (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца пад 1769 г., калі ў вёсцы было 10 двароў, 13 жыхароў мужчынскага полу, карчма, з'яўлялася дзярж. уласнасцю ў Прапойскім старостве. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 23 двары, 136 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. в. Жаліззе, 85 рэвізскіх душ. У 1880 г. 39 двароў, 266 жыхароў. Частка вяскоўцаў, апрача земляробства, займалася калёсным промыслам. У 1897 г. ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 65 двароў, 489 жыхароў. У пач. 20 ст. адкрыта школа, у якой у 1907 г. навучаліся 42 хлопчыкі і 4 дзяўчынкі. У 1909 г. 79 двароў, 451 жыхар. У 1926 г. 104 двары, 579 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 11 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 45 гаспадарак, 192 жыхары, у складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1). Дзейнічалі клуб, б-ка, магазін. Складалася з асн. дугападобнай, працяглай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, ад якой адыходзілі на З 2 прамалінейныя, кароткія, паралельныя паміж сабой вуліцы, на ПнУ быў гасп. сектар. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ЗААЗЕР'Е** — былы пасёлак у Навальненскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Краснаполля, 125 км ад Магілёва, 67 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Ельня (прыток р. Сож). Транспартныя




сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле.

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 4 вяскоўцы ваявалі на фронце, 3 з іх загінулі. У 1986 г. 6 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Новая Ельня). Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі пасёлак адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ЗАБОР'Е** — вёска ў Яноўскім с/с (да 31.10.2008 г. ў Высакаборскім с/с), за 7 км на У ад Краснаполля, 116 км ад Магілёва, 42 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

У 1879 г. ўласнасць памешчыка, меліся 2 карчмы. У 1897 г. вёска (36 двароў, 252 жыхары) у Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, дзейнічалі 2 ветраныя млыны. У 1909 г. 39 двароў, 281 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 20 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 27 гаспадарак, 51 жыхар, у складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1). Складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАВАДОК** — вёска ў Мхініцкім с/с (да 28.2.1992 г. ў Сабалёўскім с/с), за 20 км на ПдЗ ад Краснаполля, 129 км ад Магілёва, 71 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Покаць (прыток р. Сож), на У цячэ р. Каўпіта (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па шашы Выдранка—Краснаполле, якая праходзіць праз вёску. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

У 1897 г. фальварак Завод (1 двор, 12 жыхароў) у Мхініцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. Меліся вадзяны млын, 2 сукнавальні. У 1909 г. маёнтак, 30 жыхароў. У 1920-я г. вёска істотна вырасла за кошт перасяленцаў з суседніх вёсак. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Завадок», які першапачаткова аб'ядноўваў 28 гаспадарак. У 1940 г. 28 двароў, 177 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 25 двароў, загубілі 1 жыхара. У 1976 г. да вёскі далучана в. Журавы. У 1990 г. 124 гаспадаркі, 349 жыхароў, цэнтр саўгаса «Завадоцкі», які спецыялізаваўся на мяса-малочнай жывёлагадоўлі. У вёсцы былі размешчаны лесапільня, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, комплекс і ферма буйной рагатай жывёлы, дзейнічалі пач. школа, клуб, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, грамадская лазня, дзіцячы сад, магазін. У 1999 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў. Складаецца з усх. (дугападобная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, ад якой на Пд адыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы) і зах. (прамалінейная вуліца з завулкамі, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ) частак.. Забудавана драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАВАДОК** — пасёлак у Сідараўскім с/с, за 5 км на Пн ад Краснаполля, 104 км ад Магілёва, 56 км ад чыг. ст. Камунары

*Краявід каля в. Завадок.*





на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на Пд, У і Пн мяжуе з лесам. На З цячэ р. Тур'я (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па шашы Краснаполле—Чэрыкаў, якая праходзіць побач з пасёлкам. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930 г. арганізаваны калгас «11 ліпеня», які першапачаткова аб'ядноўваў 16 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На ПдЗ у гонар перамогі Сав. Арміі ўзведзены Курган Славы. У 1990 г. 12 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — г.п. Краснаполле). Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, якая адыходзіць перпендыкулярна да шашы, забудаваны двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАГАРЭННЕ** — былая вёска ў Горскім с/с, за 14 км на ПдУ ад Краснаполля, 123 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ р. Гаранка (прыток р. Палуж). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёску Палуж 1 і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца пад 1769 г., калі ў вёсцы Загорынцы было 8 двароў, 19 жыхароў, з'яўлялася дзярж. уласнасцю ў Прапойскім старостве. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 7 двароў, 57 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 32 двары, 95 жыхароў. У 1909 г. 40 двароў, 110 жыхароў. У 1926 г. 35 двароў, 105 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Калгасны будаўнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 18 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 16 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 11 з іх загінулі. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 59 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Леніна). У 1999 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў. Складалася з крывалінейнай працяглай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі і забудаванай пераважна аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*Краявід каля в. Завадок.*

**ЗАРЭЧЧА** (да 1976 г. пас. Рубежнік) — вёска ў Яноўскім с/с (да 31.10. 2008 г. ў Высакаборскім с/с), за 10 км на У ад Краснаполля, 119 км ад Магілёва, 41 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На ПнЗ цячэ р. Палуж (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Палуж 1 і далей па шашы Краснаполле—Хоцімск. 7 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 17 гаспадарак, 32 жыхары, у складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЖАМЯКІНА** — вёска ў Сідараўскім с/с, за 7 км на Пн ад Краснаполля, 102 км ад Магілёва, 58 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн

і З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Травінка (прыток р. Тур'я). Транспартныя сувязі па шашы Краснаполле—Чэрыкаў, якая праходзіць праз вёску. 40 гаспадарак, 118 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска Кажамякі ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1857 г. ўласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Краснапольскай вол. Чэрыкаўскага павета, 11 двароў, 95 жыхароў. Побач быў аднайменны пасёлак (2 двары, 8 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 18 двароў, 122 жыхары, у пасёлку 1 двор, 4 жыхары. У 1912 г. адкрыта земская школа. У 1925 г. дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой было 72 вучні. У 1926 г. 31 двор, 178 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 10 вяскоўцаў удзельнічалі ў баях на фронце, 4 з іх загінулі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму, у 1976 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых. За 2 км на Пд ад вёскі, на месцы бою партызан 2-й Клятнянскай брыгады супраць акупантаў у 1943 г., у 1967 г. ўзведзены мемарыяльны комплекс. На 9-м кіламетры дарогі Краснаполле—Чэрыкаў пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў. У 1990 г. 63 гаспадаркі, 169 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — г.п. Краснаполле). Дзейнічалі жывёлагадоўчая ферма, піларама, лясніцтва, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, паштовае аддз., комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. У 1999 г. 56 гаспадарак, 143 жыхары. У 2007 г. ў вёсцы былі размешчаны лясніцтва, бібліятэка-клуб, магазін. Рака падзяляе вёску на паўд. (крывалінейная вуліца шыротнай арыентацыі) і паўн. (прамалінейная, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліца — працяг шашы, ад якой на У і З адыходзяць другарадныя вуліцы) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**КАЗЕЛЛЕ** — вёска ў Мхініцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Краснаполля, 121 км ад Магілёва, 63 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На ПнЗ мяжуе з лесам. На ПдУ цячэ р. Казелька (прыток р. Каўпіта). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Раманькі і далей па шашы Выдранка—Краснаполле. 116 гаспадарак, 324 жыхары (2007).

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1777 г. як в. Козель ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Чэрыкаўскага павета, 9 двароў, 42 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1785 г. слабада, 10 двароў, 88 жыхароў, у 1834 г. 12 двароў, 173 жыхары. У 1858 г. в. Казея, 28 двароў, 199 жыхароў, уласнасць памешчыка, меліся карчма і вадзяны млын. У 1880 г. 35 двароў, 170 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1884 г. пачала дзейнічаць школа граматы. У 1897 г. 54 двары, 427 жыхароў, меўся піцейны дом. Побач быў аднайменны фальварак (1 двор, 6 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 65 двароў, 486 жыхароў, у фальварку 1 двор, 8 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які аб'ядноўваў 30 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 86 вяскоўцаў удзельнічалі ў барацьбе супраць акупантаў, з іх 61 загінуў. У 1990 г. 133 гаспадаркі, 440 жыхароў, у складзе саўгаса «Халмянскі» (цэнтр — в. Халмы). Дзейнічалі клуб, магазін, б-ка, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт. У 1999 г. 120 гаспадарак, 431 жыхар. У 2007 г. працавалі дзіцячы сад—сярэдняя школа, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Прамавугольная планіровачная структура складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных на канцах 2 другімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыль-



на, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на ПдЗ.

Радзіма вучонага-металурга М.К.Куракі (1872—1920), заснавальніка школы рас. доменшчыкаў.

**КАЗЕЛЛЕ** — вёска ў Яноўскім с/с, за 26 км на ПдУ ад Краснаполля, 135 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. На З цячэ ручай (прыток р. Алешня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 33 гаспадаркі, 56 жыхароў (2007).

У 1897 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 47 двароў, 427 жыхароў. У 1909 г. 50 двароў, 360 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пач. 1990-х г. да вёскі далучана в. Казельская Буда. У 1990 г. 63 гаспадаркі, 141 жыхар, у складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Яноўка). Дзейнічалі 8-гадовая школа, магазін. У пач. 1990-х г. да вёскі далучана в. Казельская Буда. У 1999 г. 63 гаспадаркі, 132 жыхары. У 2007 г. дзейнічалі клуб-бібліятэка, магазін. Планіровачна складаецца з 2 асн. вуліц (адна крывалінейная з завулкамі, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, другая — перпендыкулярная да першай, прамалінейная, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЗЕЛЬСКАЯ БУДА** — былая вёска ў Яноўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Краснаполля, 133 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На ПдУ бярэ пачатак р. Алешня (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Яноўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 1747 г. як в. Казелле ў Крычаўскім старостве, 18 двароў, дзярж. ўласнасць, мелася буда. У 1779 г. 9 двароў, 65 жыхароў. У 1785 г. 8 двароў, 70 жыхароў. У 1858 г. 35 двароў, 246 жыхароў. У 1880 г. 55 двароў, 380 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім і кравецкім промысламі. У 1897 г. вёскі Казельская Буда 1 (52 двары, 517 жыхароў) і Казельская Буда 2 (48 двароў, 472 жыхары, школа граматы) у Саматэвіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. ў Казельскай Будзе 1 было 56 двароў, 357 жыхароў, у Казельскай Будзе 2 — 57 двароў, 347 жыхароў. У 1910 г. школа граматы пераўтворана ў аднакласнае нар. вучылішча. У 1925 г. дзейнічала прац. школа 2-й ступені, у якой было 59 вучняў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 47 гаспадарак, працавалі цагельны з-д, 3 ветракі. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны сав. воін, які загінуў пры вызваленні вёскі. У 1986 г. 73 гаспадаркі, 176 жыхароў, у складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Яноўка). Дзейнічалі 8-гадовая школа, магазін, клуб. Ад гал. прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі адыходзілі на Пд і ПдЗ 3 кароткія прамалінейныя вуліцы. На Пн, паралельна да гал., праходзіла яшчэ адна вуліца. У пач. 1990-х г. в. Казельская Буда далучана да в. Казелле Яноўскага с/с.

Радзіма бел. пісьменніка М.Дуброўскага (1897—1983).

**КАКОЙСК** — вёска ў Яноўскім с/с (да 31.10.2008 г. ў Высакаборскім с/с), за 21 км на У ад Краснаполля, 130 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На З — 3 штучныя сажалкі. Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць побач з вёскай. 15 гаспадарак, 33 жыхары (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1747 г. вёска (16 двароў) у Крычаўскім старостве, дзярж. ўласнасць. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 15 двароў, 92 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1816 г. 24 двары, 185 жыхароў. У 1847 г. ў складзе маёнтка Госліў Чэрыкаўскага павета, 34 двары, 199 жыхароў, мелася карчма. У 1858 г. 94 рэвіз-

скія душы, дзейнічаў заезны дом. У 1880 г. 41 двор, 288 жыхароў, мелася школа граматы. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім і бандарным промысламі. У 1897 г. ў Брацькавіцкай воласці Чэрыкаўскага павета, 69 двароў, 248 жыхароў. Меўся ветраны млын. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1926 г. 109 двароў, 613 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 107 гаспадарак, 238 жыхароў, у складзе саўгаса «Краснапольскі» (цэнтр — былая в. Высокі Борак). Дзейнічалі Дом культуры, пач. школа, б-ка, магазін. У 1999 г. 21 гаспадарка, 42 жыхары. Планіроўка крыжападобная. Крывалінейная вуліца з завулкамі, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, перасякаецца ў цэнтры перпендыкулярна прамалінейнай вуліцай. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на Пд.


*К.Р.Хромчанка.*

**КАКОЙСКІ** — былы пасёлак у Высакаборскім с/с, за 16 км на У ад Краснаполля, 125 км ад Магілёва, 35 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Горанка (прыток р. Палуж). Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць непадалёку ад пасёлка.

Вядомы паводле пісьмовых крыніц з пач. 20 ст. У 1909 г. хутары, 15 двароў, 69 жыхароў. У 1926 г. 20 двароў, 127 жыхароў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 40 гаспадарак, 79 жыхароў, у складзе саўгаса «Краснапольскі» (цэнтр — былая в. Высокі Борак). Складаецца з дугападобнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЛІНАВЫ БОР** (да 1961 г. Клін) — былы пасёлак у Высакаборскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Краснаполля, 125 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёску Палуж 2 і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 2 гаспадаркі, 8 жыхароў, у складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1). Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**КАЛІНАЎКА** — вёска ў Сідараўскім с/с, за 4 км на ПнЗ ад Краснаполля, 113 км ад Магілёва, 55 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сідараўка і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе супраць акупантаў змагаліся на фронце 6 вяскоўцаў, 3 з іх загінулі. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 50 жыхароў, у складзе саўгаса імя Калініна (цэнтр — в. Сідараўка). Складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма бел. літаратуразнаўцы і крытыка К.Р.Хромчанкі (нар. ў 1929).

**КАЛІНІНА** (да 1959 г. Сядзібны) — былы пасёлак у Высакаборскім с/с, за 18 км на У ад Краснаполля, 127 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць непадалёку ад пасёлка.

Засн. ў 1920-я г. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны калгас», які першапачаткова аб'ядноўваў 9 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 18 гаспадарак, 37 жыхароў, у складзе саўгаса «Краснапольскі» (цэнтр — былая в. Высокі Борак). Складаўся з прамалі-



нейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПдУ. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі пасёлак адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**КАЛІНІНСКІ** — пасёлак у Яноўскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Краснаполля, 129 км ад Магілёва, 39 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 11 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 16 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Яноўка). Планіроўвачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЛОДЗЕЦКІ** — былы пасёлак у Сідараўскім с/с, за 4 км на У ад Краснаполля, 113 км ад Магілёва, 47 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць побач з пасёлкам.

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 2 вяскоўцы ўдзельнічалі ў баях супраць гітлераўцаў на фронце. У 1986 г. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — г.п. Краснаполле). Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі пасёлак адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**КАРМА ДОЎГАЯ** — былая вёска ў Наваельненскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Краснаполля, 127 ад Магілёва, 69 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На ПдУ межавала з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска Доўгая Карма ў Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. сяло ў Чэрыкаўскім павеце, 77 жыхароў мужчынскага полу. Меўся заезны дом. У 1880 г. 31 двор, 226 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім і кравецкім промысламі. У 1897 г. ў Наваельненскай вол. Чэрыкаўскага павета, 46 двароў, 380 жыхароў. Мелася школа граматы. У 1909 г. 52 двары, 376 жыхароў. У 1926 г. 80 двароў, 477 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 74 вяскоўцы ваявалі на фронце, 1 — у партызанах, 48 з іх загінулі. У 1986 г. 29 гаспадарак, 61 жыхар, у складзе калгаса імя Жданава (цэнтр — былая в. Карма-Пайкі). Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**КАРМА-ПАЙКІ** — былая вёска ў Наваельненскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Краснаполля, 129 км ад Магілёва, 71 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пд — сажалка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле.

Праз 1 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне, захаваўся могільнік эпохі Кіеўскай Русі (16 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У 1897 г. ў Наваельненскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 35 двароў, 325 жыхароў. Мелася школа граматы. У 1909 г. 40 двароў, 349 жыхароў. У грамадз. вайну байцу 1-й Коннай Арміі вяскоўцу П.Т.Верамееву за баявыя подзвігі камандарм С.М.Будзённы ўручыў ордэн Чырвонага Сцяга. У 1926 г. 53 двары, 351 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоныя Пайкі», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 26 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 61 вяс-

ковец ваяваў на фронце, 25 з іх загінулі. На ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі ў 1967 г. пастаўлены абеліск. На могілках у брацкай магіле пахавана 5 воінаў 283-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У 1986 г. 81 гаспадарка, 234 жыхары, цэнтр калгаса імя Жданава, які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі. У вёсцы размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, млын, пілорама, 8-гадовая школа, клуб, б-ка, медпункт, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі. Складалася з 2 асн. вуліц (кароткая, амаль прамалінейная з завулкам — на Пн і крывалінейная — на Пд), злучаных завулкам і арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, на У быў адасоблены ўчастак забудовы, на Пд — вытв. сектар. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**КАСЦЮКОЎКА** — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Краснаполля, 132 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На У і З межавала з лесам. На Пн цячэ р. Сянна (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Лешчанка, Палуж 2 і далей па шашы Краснаполле—Хоцімск.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1737 г. тут дзейнічала царква. У 1834 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 88 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1909 г. 27 двароў, 168 жыхароў. У 1926 г. 41 двор, 216 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках у брацкай магіле пахаваны 6 сав. воінаў, якія загінулі ў 1941 г. У 1986 г. ў складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1). Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**КАСЦЯГОЎКА** — былая вёска ў Яноўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Краснаполля, 133 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн цячэ р. Дзесенка (прыток р. Алешня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Яноўка, пасёлак Перадавы, і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Молатава, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 62 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках у брацкай магіле пахавана 9 воінаў 269-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У 1986 г. 2 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Яноўка). Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**КАЎПІТА** — пасёлак у Горскім с/с, за 9 км на ПдУ ад Краснаполля, 118 км ад Магілёва, 60 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Горы—Краснаполле, якая праходзіць побач з пасёлкам. 9 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з пач. 20 ст. У 1909 г. 1 двор, 7 жыхароў. У пач. 1920-х г. сюды перасялілася частка сялян з суседніх вёсак. У 1926 г. 26 двароў, 134 жыхары. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 16 гаспадарак, 43 жыхары, у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Леніна). Складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КІРАВА** (да 1932 г. Ямнік) — былы пасёлак у Горскім с/с, за 21 км на ПдУ ад Краснаполля, 132 км ад Магілёва. 45 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на ПнУ



межаваў з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дзернавая, Горы і далей па шашы Горы—Краснаполле.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 12 пасялкоўцаў змагаліся на фронце, 6 з іх загінулі. У 1986 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе калгаса імя Валадарскага (цэнтр — в. Горы). Складаўся з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай аднабакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі пасёлак адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**КЛЯСІНА** — вёска ў Тур'яўскім с/с, за 7 км на ПдУ ад Краснаполля, 116 км ад Магілёва, 58 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пд і З цячэ р. Тур'я (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз пас. Шырокі і далей па шашы Горы—Краснаполле. 15 гаспадарак, 42 жыхары (2007).

Праз 0,5 км на У ад вёскі, на могілках, захаваўся археал. помнік — могільнік эпохі Кіеўскай Русі (8 насыпаў), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. 30 двароў, 187 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1872 г. адкрыта школа. У 1880 г. 59 двароў, 356 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім і кравецкім промысламі. У 1897 г. ў Краснапольскай воласці Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 66 двароў, 457 жыхароў. У 1909 г. 73 двары, 569 жыхароў. У 1925 г. дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой было 73 вучні. У 1926 г. 87 двароў, 574 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Трактар», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 37 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 31 гаспадарка, 62 жыхары, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Тур'я), дзейнічала 8-гадовая школа. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма Героя Сав. Саюза А.М.Цюльгі (1922—53), які вызначыўся ў ліп. 1944 г. ў баях супраць гітлераўцаў на р. Вісла.



*А.М.Цюльга.*

**КНЯЗЁЎКА** — вёска ў Тур'яўскім с/с, за 8 км на ПдЗ ад Краснаполля, 119 км ад Магілёва, 59 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. У цэнтры — штучная сажалка. Транспартныя сувязі па шашы на Краснаполле, якая праходзіць побач з вёскай. 17 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

За 1,5 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Курганы захаваўся могільнік эпохі Кіеўскай Русі (5 насыпаў), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. 23 двары, 212 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 55 двароў, 379 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Краснапольскай вол. Чэрыкаўскага павета, 76 двароў, 558 жыхароў. Меліся школа граматы, ветраны млын, піцейны дом. У 1909 г. 84 двары, 578 жыхароў, працавалі 2 ветракі. У 1926 г. 85 двароў, 481 жыхар. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 53 гаспадаркі, 109 жыхароў, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Пачапы). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой, шыротнай арыентацыі вуліц з завулкамі, забудаваных двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСНАЗВЁЗДНЫ** (да 1962 г. Сталіна) — былы пасёлак у Высакаборскім с/с, за 17 км на У ад Краснаполля, 126 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ ручай (прыток р. Палуж). Транспартныя сувязі па мясц.

дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 9 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе саўгаса «Краснапольскі» (цэнтр — былая в. Высокі Борак). Планіровачна складаўся з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ і забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі пасёлак адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**КРАСНАЕ ЗНАМЯ** (да 1960 г. Падгоранка) — былы пасёлак у Высакаборскім с/с, за 17 км на У ад Краснаполля, 126 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Горанка (прыток р. Палуж). Транспартныя сувязі па шашы Краснаполле—Хоцімск, якая праходзіць побач з пасёлкам.

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 19 гаспадарак, 42 жыхары, у складзе саўгаса «Краснапольскі» (цэнтр — былая в. Высокі Борак). Планіровачна складаўся з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, індывідуальнымі, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі пасёлак адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**КРАСНАЯ ЗАРА** (да 1964 г.пас. Зеляні) — былы пасёлак у Наваельненскім с/с, за 19 км на З ад Краснаполля, 128 км ад Магілёва, 70 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн бярэ пачатак р. Галуба (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле.

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які першапачаткова аб'ядноўваў 10 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 10 пасялкоўцаў змагаліся на фронце і ў партыз. атрадах, 5 з іх загінулі. У 1986 г. 13 гаспадарак, 39 жыхароў, у складзе калгаса імя Жданава (цэнтр — былая в. Карма-Пайкі). Складаўся з 2 кароткіх, амаль паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, падзеленых лагчынай. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі пасёлак адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**КРУТАРОЎ** — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Краснаполля, 129 км ад Магілёва, 50 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на У і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Лешчанка, Палуж 2 і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з пач. 20 ст. У 1909 г. 6 двароў, 39 жыхароў. У 1926 г. 13 двароў, 58 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 8 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1). Складалася з прамалінейнай кароткай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**КРЫВЯЛІЦК** — былая вёска ў Наваельненскім с/с, за 23 км на ПдЗ ад Краснаполля, 132 км ад Магілёва, 74 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На ПдЗ і Пн межавала з лесам. У цэнтры і на У — 2 сажалкі. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле.

У 1858 г. вёска Крывяніцк, 23 двары, 206 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 38 двароў, 336 жыхароў. Частка



вяскоўцаў займалася сталярным і кравецкім промысламі. Мелася школа граматы. У 1897 г. вёска Крывялецк (яна ж Гарцуеўка) у Наваельненскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1903 г. адкрыта школа, у якой у 1905 г. навучалася 48 хлопчыкаў і 12 дзяўчынак. У 1909 г. 90 двароў, 629 жыхароў, 2 ветракі. У 1925 г. дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой было 59 вучняў, б-ка, хата-чытальня. У 1926 г. 91 двор, 598 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 40 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 7 — у партыз. атрадах, 21 з іх загінулі. У 1986 г. 39 гаспадарак, 83 жыхары, у складзе калгаса імя Жданава (цэнтр — былая в. Карма-Пайкі). Складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, ад канцоў якой адыходзілі перпендыкулярныя кароткія прамалінейныя вуліцы, на паўн.-ўсх. ускраіне быў вытв. сектар. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**КУРБАКІ** — вёска ў Яноўскім с/с, за 28 км на ПдУ ад Краснаполля, 137 км ад Магілёва, 45 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Дзесенка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Горы і далей па шашы Горы—Краснаполле. 38 гаспадарак, 80 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1721 г. сяло ў Крычаўскім старостве, дзярж. ўласнасць. У 1777 г. ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Чэрыкаўскага павета, 40 двароў, 309 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1811 г. 34 двары, 144 жыхары мужчынскага полу. У 1885 г. ў вёсцы 101 двор, 550 жыхароў, меліся ветраны млын і заезны дом. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Саматэвіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 129 двароў, 1048 жыхароў. У 1902 г. адкрыта школа, для якой у 1904 г. пабудавана памяшканне, а ў 1905 г. ў ёй навучаліся 73 хлопчыкі і 2 дзяўчынкі. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама, дзейнічаў піцейны дом. У 1909 г. 161 двор, 1017 жыхароў, 4 ветракі. У 1925 г. дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой было 63 вучні, мелася хата-чытальня. У 1926 г. 237 двароў, 1411 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі ў брацкай магіле пахаваны 21 воін, сярод іх воіны 269-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. ў баях за вызваленне вёскі. У 1967 г. да вёскі далучаны пас. Іскра. У 1990 г. 76 гаспадарак, 168 жыхароў, у складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Яноўка), размяшчаліся пач. школа, клуб, б-ка, магазін. У 1999 г. 61 гаспадарка, 125 жыхароў. У 2007 г. клуб-бібліятэка, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ абапал ручая і злучаных на Пн трэцяй прамалінейнай вуліцай з мастом праз ручай. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнУ — гасп. сектар.

**КУРГАННЕ** — вёска ў Тур'яўскім с/с, за 7 км на Пд ад Краснаполля, 116 км ад Магілёва, 58 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бярлянка (прыток р. Каўпіта). Транспартныя сувязі па шашы Выдранка—Краснаполле, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 17 гаспадарак, 34 жыхары, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Пачапы). У 1999 г. 10 гаспадарак, 13 жыхароў. Складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛАМЫ** — пасёлак у Тур'яўскім с/с, за 3 км на ПдУ ад Краснаполля, 112 км ад Магілёва, 54 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Тур'я (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Тур'я і далей па шашы Выдранка—Краснаполле. 9 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 30 двароў, 81 жыхар. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 15 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Тур'я). Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛАСІНКА** — былы пасёлак у Мхініцкім с/с, за 23 км на Пд ад Краснаполля, 132 км ад Магілёва, 74 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Выдранка—Краснаполле.

У 1897 г. хутар (1 двор, 8 жыхароў) у Мхініцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. быў 1 жыхар. У 1926 г. 13 двароў, 52 жыхары. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 12 пасялкоўцаў змагаліся на фронце, 7 з іх загінулі. У 1986 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе саўгаса «Халмянскі» (цэнтр — в. Халмы). Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі пасёлак адселены з сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ЛЕНІНА** (да 1967 г. Гніліца) — вёска ў Горскім с/с, за 10 км на ПдУ ад Краснаполля, 119 км ад Магілёва, 61 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з ручаём — прытокам р. Каўпіта. Транспартныя сувязі па шашы Горы—Краснаполле, якая праходзіць праз вёску. 75 гаспадарак, 193 жыхары (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1768 г. сяло Гнілішча, шляхецкая ўласнасць. У 1816 г. 69 двароў, 249 жыхароў. У 1858 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 256 жыхароў. Меліся заезны дом, цагельны з-д; уласнасць памешчыка. У 1885 г. ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 104 двары, 636 жыхароў. Меліся 2 ветраныя млыны. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім, калёсным, шавецкім і кравецкім промысламі. У 1897 г. 154 двары, 1008 жыхароў, 2 ветраныя млыны, школа граматы, піцейны дом. Побач быў фальварак (2 двары, 12 жыхароў). У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. ў сяле 167 двароў, 1052 жыхары, у маёнтку 1 двор, 1 жыхар. Дзейнічала школа (нар. вучылішча). На базе дарэв. ў пач. 1920-х г. створана прац. школа 1-й ступені. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Ф.Энгельса, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 60 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 69 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 31 з іх загінуў. У 1989 г. 100 гаспадарак, 269 жыхароў, цэнтр калгаса імя Ф.Энгельса, які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі. У вёсцы размяшчаліся 2 фермы буйной рагатай жывёлы, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, піларама, сярэдняя школа, клуб, стацыянарная кінаўстаноўка, б-ка, бальніца, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. У 1999 г. 87 гаспадарак, 243 жыхары. У 2007 г. Дом культуры, дзіцячы сад—сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, б-ка. Канал падзяляе вёску на паўн. (ад крывалінейнай працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж канала, амаль перпендыкулярна адыходзіць на ПнЗ прамалінейная вуліца — адрэзак шашы) і паўд. (кароткая крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ уздоўж канала) частак. Забудавана пераважна двухбако-



ва, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, а таксама 1—2-павярховымі муравaнымі дамамі.

У вёсцы нарадзіўся Герой Сав. Саюза, ген.-лейт. А.Дз. Шамянкоў (1896—1972).

**ЛЕНІНСКІ** — былы пасёлак у Яноўскім с/с, за 30 км на ПдУ ад Краснаполля, 139 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёску Курбак і далей па шашы Горы—Краснаполле.

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 7 гаспадарак, 14 жыхароў, у складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Яноўка). Прамалінейная, кароткая вуліца была арыентавана з ПдЗ на ПнУ і забудавана няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЕСАВЫ** — пасёлак у Яноўскім с/с, за 20 км на ПдУ ад Краснаполля, 129 км ад Магілёва, 41 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз пасёлак і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 16 гаспадарак, 32 жыхары, у складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Яноўка). У 1999 г. 4 гаспадаркі, 10 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЕШЧАНКА** — вёска ў Яноўскім с/с (да 31.10.2008 г. ў Высакаборскім с/с), за 16 км на ПнУ ад Краснаполля, 125 км ад Магілёва. 40 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Расамаха). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёску Палуж 2 і далей па шашы Краснаполле—Хоцімск. 22 гаспадаркі, 57 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 17 ст. У 1675 г. сяло Лешчанка Вялікая ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ (2 двары), уласнасць царквы. У 1747 г. ў Крычаўскім старостве, 10 двароў. У 1777 г. сяло ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1811 г. 12 двароў, 41 жыхар мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1832 г. пачаў дзейнічаць шклозавод. У 1858 г. 24 рэвізскія душы. У 1897 г. ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 18 двароў, 126 жыхароў. У 1909 г. 31 двор, 214 жыхароў. У 1926 г. 37 двароў, 236 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Хваля Рэвалюцыі», які аб'ядноўваў 37 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 28 гаспадарак, 78 жыхароў, у складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1). Планіроўка прамавугольная. Гал. вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, перасякаецца пад прамым вуглом на Пд кароткай прамалінейнай вуліцай. Паралельна да яе, ад паўн. яе ускраіны, адыходзіць трэцяя, кароткая вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*А.Дз.Шамянкоў.*

**ЛЕШЧАНСКАЯ ГУТА**, Лешч-Гута — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 12 км на ПнУ ад Краснаполля, 131 км ад Магілёва, 47 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн і З мяжуе з лесам. На ПнЗ бярэ пачатак р. Завадзь (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёску Навасёлкі і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з пач. 20 ст. У 1909 г. 30 двароў, 164 жыхары. У 1926 г. 43 двары, 205 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны 12 партызан, якія загінулі ў 1943 г. ў баі супраць гітлераўцаў. У 1989 г. 23 гаспадаркі, 47 жыхароў, у складзе саўгаса

«Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1), працаваў магазін. У 1999 г. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў. Складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛУЧ** — пасёлак у Сідараўскім с/с, за 11 км на З ад Краснаполля, 120 км ад Магілёва, 66 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам. На Пн і Пд цячэ ручай (прыток р. Ельня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Усцінавічы і далей па шашы на Краснаполле. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).


*М.Пахоменка.*

Засн. ў 1920-я г. У 1932 г. арганізаваны калгас «Аўрора», які першапачаткова аб'ядноўваў 3 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 26 вяскоўцаў змагаліся на фронце. У 1989 г. 9 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Сідараўка). Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай пераважна аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЮТНЯ** — вёска ў Сідараўскім с/с, за 4 км на ПнЗ ад Краснаполля, 113 км ад Магілёва, 55 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сідараўка і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў. 26 гаспадарак, 43 жыхары (2007).

У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 13 двароў, 97 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 20 двароў, 123 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Краснапольскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 30 двароў, 219 жыхароў. У пач. 20 ст. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1907 г. навучалася 45 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. У 1909 г. 35 двароў, 246 жыхароў. У 1920-я г. на базе дарэв. створана прац. школа. У 1926 г. 30 двароў, 350 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. фарміраваннях змагаліся 25 вяскоўцаў, 15 з іх загінулі. У 1989 г. 60 гаспадарак, 112 жыхароў, у складзе саўгаса імя Калініна (цэнтр — в. Сідараўка), дзейнічаў магазін. Працяглая крывалінейная вуліца з завулкамі арыентавана з ПдУ на ПнЗ. Амаль паралельна да яе на ПнЗ ідзе другая, кароткая вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма спявачкі, нар. артысткі Расіі М.Л.Пахоменка (нар. ў 1937).

**ЛЮТНЯНСКАЯ БУДА** — вёска ў Сідараўскім с/с, за 5 км на З ад Краснаполля, 124 км ад Магілёва, 56 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле. 11 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

У 1897 г. в. Буда Лютнянская пры ўрочышчы Бярозаўка (28 двароў, 225 жыхароў) у Краснапольскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1926 г. 61 двор, 343 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце змагаліся 12 вяскоўцаў, з іх 5 загінулі. На могілках у брацкай магіле пахаваны сав. воіны, якія загінулі пры вызвалені вёскі. У 1989 г. 32 гаспадаркі, 76 жыхароў, у складзе саўгаса імя Калініна (цэнтр — в. Сідараўка), дзейнічаў магазін. У 1999 г. 20 гаспадарак, 34 жыхары. Планіроўка Т-падобная. Адна прамалінейная вуліца арыентавана з ПнУ на ПдЗ, другая адыходзіць амаль ад цэнтра першай на ПнЗ. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЯВОНАЎКА** — былы пасёлак у Горскім с/с, за 11 км на ПдУ ад Краснаполля, 120 км ад Магілёва, 41 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Палуж (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз



в. Малюшына і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Леніна). Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі пасёлак адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ЛЯДЫ** — былая вёска ў Сабалёўскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Краснаполля, 139 км ад Магілёва, 81 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пд межавала з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле.

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Воля», які першапачаткова аб'ядноўваў 15 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе саўгаса «Завадоцкі» (цэнтр — в. Завадок). Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Яноўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Краснаполля, 153 км ад Магілёва, 37 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На ПнУ мяжуе з лесам. На З цячэ ручай (прыток р. Алешня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Яноўка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 14 гаспадарак, 33 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 25 гаспадарак, 61 жыхар, у складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Яноўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛЫ ВОСАЎ** — былая вёска ў Навае льненскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Краснаполля, 127 км ад Магілёва, 69 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На ПдУ і З межавала з лесам. Транспартныя сувязі па шашы на Краснаполле, якая праходзіць побач з вёскай.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. в. Восаў Малы ў Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1834 г. ў Клімавіцкім павеце, 9 двароў, 78 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 13 двароў, 73 жыхары. У 1880 г. 21 двор, 144 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. Меліся драўляная царква, школа граматы. У 1909 г. 33 двары, 215 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 55 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 1 — у партыз. атрадзе, 23 з іх загінулі. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны воіны 269-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У 1986 г. 41 гаспадарка, 96 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Новая Ельня), размяшчаліся клуб, б-ка. Планіровачна складалася з крывалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, на ПдУ быў гасп. сектар. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**МАЛЫЯ ХУТАРЫ** — вёска ў Сідараўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Краснаполля, 109 км ад Магілёва, 63 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёску Кажамякіна і далей па шашы Краснаполле—Чэрыкаў. 10 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

У 1858 г. в. Малыя Хутары (яна ж Серчыцы) у Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 74 жыхары мужчынскага полу.

У 1897 г. ў Краснапольскай вол. Чэрыкаўскага павета, 48 двароў, 330 жыхароў. У 1909 г. 40 двароў, 293 жыхары. Мелася школа граматы. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Р.Люксембург, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 11 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 20 гаспадарак, 68 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — г.п. Краснаполле), дзейнічалі пач. школа, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ, дзе ўтворана невялікая плошча, на ПнУ. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, размешчаны двухбакова, шчыльна.


*В.Я.Фурсаў.*

Радзіма Героя Сав. Саюза В.Я.Фурсава (1920—43), які вызначыўся ў Керчанска-Эльтыгенскай дэсантнай аперацыі 1943 г.

**МАЛЮШЫНА** — вёска ў Тур'яўскім с/с, за 6 км на ПдУ ад Краснаполля, 115 км ад Магілёва, 43 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Тур'я (прыток р. Сянна), на У ад невялікай сажалкі цячэ ручай (прыток р. Палуж). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ясенка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 39 гаспадарак, 74 жыхары (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. в. Малышын у Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1811 г. 67 двароў, 271 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1834 г. 361 жыхар. З 1880 г. працаваў вінакурны з-д. У 1897 г. в. Малюшын (92 двары, 653 жыхары) у Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета. Меліся ветраны млын, школа граматы, піцейны дом. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. тут адбываліся сял. хваляванні, сутычкі сялян з паліцыяй. Вяскоўцы спалілі маёнтак памешчыка. У 1909 г. 104 двары, 706 жыхароў. У грамадз. вайну вызначыўся вясковец В.Е. Ермакоў, баец Жалезнай дывізіі, які быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. У 1926 г. 142 двары, 977 жыхароў. У 1930-я г. ўраджэнка вёскі М.К.Саўчанка была ў ліку першых жанчын-трактарыстак, з'яўлялася дэп. Вярх. Савета БССР 1-га склікання. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 95 гаспадарак, 195 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Тур'я), размяшчаліся пач. школа, магазін. У 1976 г. да вёскі далучаны пасёлак Сіняе Балота і в. Волата. У 1999 г. 49 гаспадарак, 96 жыхароў. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з 2 вуліц: адна — працяглая, крывалінейная, амаль шыротнай арыентацыі, другая (былая в. Волата) — кароткая, прамалінейная, падыходзіць да першай пад вуглом з ПнЗ. На У, каля сажалкі, адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова, шчыльна. На Пд — вытв. сектар.

Радзіма бел. спевака, засл. артыста Беларусі М.А.Багданава (нар. ў 1944).

**МАНУЙЛЫ** — былая вёска ў Высаборскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Краснаполля, 132 км ад Магілёва, 40 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На ПдУ — невялікая сажалка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца пад 1785 г. як сяльцо ў Чэрыкаўскім павеце, 1 гаспадарскі дом. У 1897 г. вёска (36 двароў, 153 жыхары) у Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. Меўся ветраны млын. У 1909 г. 56 двароў, 286 жыхароў. У 1926 г. 82 двары, 456 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Крупскай, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 16 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 27 гаспадарак, 66 жыхароў, у складзе саўгаса «Краснапольскі» (цэнтр — былая в. Высокі Борак). Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова,



драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу; на ПдЗ быў гасп. сектар і саўгасны сад.

Радзіма Героя Сац. Працы, лаўрэата Дзярж. прэміі БССР А.А.Падабеда (нар. ў 1930).

**МАР'ІНА БУДА** — былая вёска ў Мхініцкім с/с, за 20 км на Пд ад Краснаполля, 129 км ад Магілёва, 71 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Выдранка—Краснаполле.

У 1897 г. в. Мар'іна Буда (яна ж Гецінава Буда, Мар'іна Слабада) у Мхініцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 58 двароў, 445 жыхароў. Дзейнічаў ветраны млын. У 1909 г. 62 двары, 422 жыхары. Мелася школа граматы. У 1926 г. 68 двароў, 385 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 34 вяскоўцы ўдзельнічалі ў барацьбе супраць гітлераўцаў, 23 з іх загінулі. У 1986 г. 30 гаспадарак, 64 жыхары, у складзе саўгаса «Халмянскі» (цэнтр — в. Халмы), працаваў магазін. Планіровачна складалася з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу; на З быў гасп. сектар. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**МАРЫНАПОЛЛЕ** — вёска ў Мхініцкім с/с (да 28.2.1992 г. ў Сабалёўскім с/с), за 30 км на ПдЗ ад Краснаполля, 139 км ад Магілёва, 81 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ляды і далей па шашы на Краснаполле. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

У 1853 г. ўласнасць памешчыка, мелісяя карчма, вадзяны млын. У 1897 г. фальварак Мар'янполле (1 двор, 9 жыхароў) у Мхініцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. фальварак Мар'іна Поле, 1 двор, 4 жыхары. У 1926 г. 49 двароў, 341 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Спартак», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 44 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 24 гаспадаркі, 42 жыхары, у складзе саўгаса «Завадоцкі» (цэнтр — в. Завадок). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІХАЙЛАЎКА** — былы пасёлак у Сідараўскім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Краснаполля, 116 км ад Магілёва, 58 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на Пн і З межаваў з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вялікія Хутары, Калінаўка, Сідараўка і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў.

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе саўгаса імя Калініна (цэнтр — в. Сідараўка). Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі пасёлак адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**МХІНІЧЫ** — былая вёска і цэнтр Мхініцкага с/с (з 20.8.1924), за 17 км на ПдЗ ад Краснаполля, 126 км ад Магілёва, 68 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн і ПдЗ межавала з лесам. Праз вёску цячэ р. Каўпіта (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па шашы Выдранка—Краснаполле, якая праходзіць праз вёску.

На паўд. ускраіне вёскі, на левым беразе р. Каўпіта захаваўся археал. помнік — стараж. курган (мясц. назва «Шведскі курган»), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 16 ст. У 1563 г. сяло ў Прапойскай вол.,

дзярж. ўласнасць. У 1777 г. сяло Мхінічы ў Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. сяло Амхінічы (41 двор, 290 жыхароў) у Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1864 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. навучаліся 33 хлопчыкі і 1 дзяўчынка. У 1885 г. цэнтр воласці Чэрыкаўскага павета, 100 двароў, 728 жыхароў. Меліся школа, мураваная царква. У 1897 г. 139 двароў, 973 жыхары, 2 ветраныя млыны, хлебазапасны магазін, крама. Раз у год праводзіўся кірмаш. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім, бандарным і кавальскім промысламі. У 1909 г. 148 двароў, 980 жыхароў, пачала дзейнічаць казённая вінная крама. У 1918 г. арганізаваны к-т беднаты. У 1925 г. дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 65 вучняў. У 1926 г. 159 двароў, 892 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. 99 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 64 з іх загінулі. У 1986 г. 94 гаспадаркі, 227 жыхароў, у складзе саўгаса «Халмянскі» (цэнтр — в. Халмы), размяшчаліся 2 фермы буйной рагатай жывёлы, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, аптэка, аддз. сувязі, магазін. Рака падзяляла вёску на паўд.-ўсх. (прамалінейная з завулкамі вуліца — адрэзак шашы, арыентаваны з ПдЗ на ПнУ) і паўн.-зах. (дугападобная вуліца з завулкамі, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ) часткі; вытв. сектар быў на ПнУ. У склад сельсавета ўваходзілі 13 вёсак. У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Мхініцкага с/с былі вёска Пакацкая (да 1982) і пас. Шамаўшчына (да 1980). Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.


*А.І.Банкузаў.*

Радзіма Героя Сав. Саюза, ген.-маёра А.І.Банкузава (1921—80), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну пры штурме крэпасці і ваенна-марской базы Пілау (зараз г. Балтыйск Калінінградскай вобл., Расія) у крас. 1945 г. У вёсцы таксама нарадзіўся бел. драматург В.А.Шашалевіч (1897—1941).

**МЯДЗВЁДАЎКА** — вёска ў Сідараўскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад Краснаполля, 115 км ад Магілёва, 57 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сідараўка і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў. 31 гаспадарка, 83 жыхары (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з пач. 20 ст. У 1909 г. хутары (39 двароў, 146 жыхароў) у Краснапольскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1926 г. вёска, 71 двор, 465 жыхароў. У 1932 г. арганізаваны калгас імя Чарвякова, які аб'ядноўваў 8 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 16 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 5 з іх загінулі. У брацкай магіле, што на могілках, пахавана 12 воінаў 269-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. ў баях за вызваленне вёскі. У 1989 г. 64 гаспадаркі, 152 жыхары, у складзе саўгаса імя Калініна (цэнтр — в. Сідараўка), размяшчаліся пач. школа, клуб, б-ка, магазін. За поспехі ў працы вяскоўцам братам механізатару Ю.Я.Жлобе і звеннявому Я.Я.Жлобе прысвоена званне Героя Сац. Працы. У 2007 г. дзейнічала бібліятэка-клуб, магазін. Гал. вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, перасякаецца на У пад прамым вуглом прамалінейнай вуліцай. Паралельна да яе ад паўн. ускраіны гал. вуліцы праходзіць трэцяя кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдУ — гасп. сектар.

**НАВАСЁЛКІ** — пасёлак у Сідараўскім с/с, за 5 км на ПнУ ад Краснаполля, 114 км ад Магілёва, 38 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На З, Пн і У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Травінка (прыток р. Тур'я). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы



Хоцімск—Чэрыкаў. 7 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 18 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — г.п. Краснаполле). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НАВІНА** — пасёлак у Сідараўскім с/с, за 5 км на З ад Краснаполля, 114 км ад Магілёва, 56 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лютня і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1926 г. 6 двароў, 32 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Навіна», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 14 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе саўгаса імя Калініна (цэнтр — в. Сідараўка). У 1999 г. 9 гаспадарак, 16 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НЕПЕРАМОЖНЫ** — пасёлак у Тур'яўскім с/с, за 8 км на ПдУ ад Краснаполля, 117 км ад Магілёва, 59 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на ПдУ мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Тур'я (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз пас. Шырокі і далей па шашы Горы—Краснаполле. 5 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 17 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Тур'я). У 1999 г. 7 гаспадарак, 9 жыхароў. Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЕ ЖЫЦЦЁ** — вёска ў Мхініцкім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Краснаполля, 121 км ад Магілёва, 63 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На ПдЗ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Ельня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы на Краснаполле, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 28 вяскоўцаў змагаліся на фронце і ў партыз. атрадах, 15 з іх загінулі. У 1989 г. 23 гаспадаркі, 53 жыхары, у складзе саўгаса «Халмянскі» (цэнтр — в. Халмы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЯ ЕЛЬНЯ** — былая вёска і цэнтр Наваельненскага с/с (з 20.8.1924), за 16 км на ПдЗ ад Краснаполля, 125 км ад Магілёва, 67 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на З і ПнЗ межавала з лесам. На У цячэ р. Ельня, а праз вёску — яе прыток р. Галуба. Транспартныя сувязі па шашы на Краснаполле, якая праходзіць праз вёску.

*На тэрыторыі былой в. Новая Ельня.*







За 0,5 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Красніца захаваўся археал. помнік — курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі (3 насыпы, 7 знішчаны ў 1980-я г. пры будаўніцтве дарогі), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло ў Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1811 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 19 двароў, 61 жыхар мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 33 двары, 268 жыхароў. У 1864 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. навучалася 45 хлопчыкаў. У 1885 г. цэнтр воласці, 58 двароў, 416 жыхароў, меліся заезны дом, драўляная царква. У 1897 г. 71 двор, 637 жыхароў, 2 хлебазапасныя магазіны, піцейны дом, 2 разы ў год адбываліся таржкі. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім і кавальскім промысламі. У 1905 г. дзейнічалі бібліятэка-чытальня, прыёмны пакой, казённая вінная крама. У 1909 г. 88 двароў, 613 жыхароў, 3 ветракі. 18.9.1919 г. створаны к-т беднаты. У 1924 г. пачала дзейнічаць хата-чытальня, у 1926 г. — урачэбны ўчасток. У 1926 г. 147 двароў, 815 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Сталіна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 24 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 25 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 17 з іх загінулі. 20.7.1942 г. гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 141 гаспадарка, 481 жыхар, цэнтр калгаса «Ленінскі шлях», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі. У вёсцы былі размешчаны комплекс буйной рагатай жывёлы, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, піларама, сярэдняя школа, клуб, б-ка, бальніца, аддз. сувязі, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, ветэрынарная лячэбніца. Ручай з пралескам падзяляў вёску на часткі: паўн.-зах. (2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, злучаныя трэцяй прамалінейнай вуліцай, утваралі прамавугольную плошчу — адм.-грамадскі цэнтр, а на ПнЗ адыходзілі 2 дугападобныя вуліцы — адна шыротнай арыентацыі, другая арыентавана з ПдУ на ПнЗ і паўд.-ўсх. (адна — прамалінейная, шыротнай арыентацыі вуліца — адрэзак шашы, другая — дугападобная, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ручая). У 1986 г. ў склад сельса-



*На тэрыторыі былой в. Новая Ельня.*



вета ўваходзілі 24 вёскі. У канцы 1930-х г. на тэр. Наваельненскага с/с былі таксама пасёлкі Крамнёўка, Працаўнік, Халапы, в. Шпачча, якія потым зліліся з іншымі населенымі пунктамі, або іх жыхары перасяліліся ў іншыя месцы.

**НОВАЯ ФЕРМА** — былая вёска ў Сідараўскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Краснаполля, 104 км ад Магілёва, 59 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, пасёлак быў абкружаны лесам. На ПнУ цячэ р. Тур'я (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кажамякіна і далей па шашы Чэрыкаў—Краснаполле.

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — г.п. Краснаполле). Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска не існуе ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**НОВАЯ ЯСЕНКА** — вёска ў Сідараўскім с/с, за 2 км на У ад Краснаполля, 111 км ад Магілёва, 49 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Краснаполле—Хоцімск, якая праходзіць побач з вёскай. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 13 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — г.п. Краснаполле). Планіровачна складаецца з кароткай крывалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВЫ СВЕТ** — пасёлак у Горскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Краснаполля, 121 км ад Магілёва, 44 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Палуж (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Грыбы, Малюшына, Ясенка і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 6 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

За 0,2 км на Пд ад пасёлка, на могілках захаваўся археал. помнік — стараж. могільнік (2 насыпы), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 12 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Леніна). Дзейнічалі клуб, стацыянарная кінаўстаноўка, б-ка, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, магазін, пач. школа. У 2007 г. бібліятэка-клуб. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх, узаемна перпендыкулярных вуліц шыротнай і мерыдыянальнай арыентацыі, забудаваных пераважна аднабакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НЯКРАСАЎ** — пасёлак у Горскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Краснаполля, 121 км ад Магілёва, 63 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Горы-Краснаполле, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 26 двароў, 156 жыхароў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 11 пасялкоўцаў змагаліся на фронце, 8 з іх загінулі. У 1989 г. 11 гаспадарак, 27 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Леніна). Складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НЯРАДАЎКА** — былая вёска ў Сідараўскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Краснаполля, 121 км ад Магілёва, 63 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн і У мяжуе з лесам, на Пд цячэ ручай (прыток р. Газуемка). Транспартныя сувязі па мясц.





дарозе праз вёскі Гарадзецкая, Сідараўка і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў.

У 1816 г. вёска (3 двары, 39 жыхароў) у Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Краснапольскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 22 двары, 181 жыхар. Побач была кантора лесапрамыслоўцаў (1 двор, 6 жыхароў). У 1909 г. 23 двары, 196 жыхароў, мелася школа граматы. У 1926 г. 45 двароў, 220 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 12 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе саўгаса імя Калініна (цэнтр — в. Сідараўка). У 1999 г. 1 гаспадарка, 6 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж ручая і забудаванай аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НЯЎМЕСНЫ** — былы пасёлак у Наваельненскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Краснаполля, 127 км ад Магілёва, 78 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн межаваў з лесам і бярэ пачатак р. Покаць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1926 г. 11 двароў, 57 жыхароў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. За 1,5 км на ПдУ ад пасёлка, на могілках былой в. Крамнёўка пахаваны воіны 269-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні раёна ці памерлі ад ран у шпіталі. У 1986 г. 3 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Новая Ельня). Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі пасёлак адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ПАБЕДА** — вёска ў Мхініцкім с/с, за 16 км на Пд ад Краснаполля, 125 км ад Магілёва, 67 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На ПнУ мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Каўпіта (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па шашы Выдранка—Краснаполле, якая праходзіць праз вёску. 12 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 34 вяскоўцы змагаліся на фронце, 20 з іх загінулі. За 0,5 км на ПнЗ ад вёскі пахаваны 6 воінаў 269-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. ў баях за вызваленне раёна. У 1989 г. 28 гаспадарак, 77 жыхароў, у складзе саўгаса «Халмянскі» (цэнтр — в. Халмы). Складаецца з 2 вуліц (адна крывалінейная, частка шашы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, другая — прамалінейная, шыротнай арыентацыі, адыходзіць перпендыкулярна ад шашы на У. Вуліцы па-



*Палужскае вадасховішча.*



дзяляе рака. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДЖАЛЕЗНІЦА** — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 21 км на У ад Краснаполля, 130 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 20 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе саўгаса «Краснапольскі» (цэнтр — былая в. Высокі Борак). Планіровачна складалася з адной прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ПАЛУЖ 1** — вёска ў Яноўскім с/с (да 31.10.2008 г. ў Высакаборскім с/с), за 10 км на У ад Краснаполля, 119 км ад Магілёва, 41 км ад чыг. станцыі Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдУ цячэ р. Палуж (прыток р. Беседзь), на Пн праходзіць злучаны з ёю меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па шашы Краснаполле—Хоцімск, якая праходзіць праз вёску. 80 гаспадарак, 218 жыхароў (2007).

На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі захаваўся археал. помнік — могільнік эпохі Кіеўскай Русі (2 курганы), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У пісьмовых крыніцах упершыню сяло Палуяс упамінаецца пад 1605 г. у Крычаўскім старостве, уласнасць казны. У 1675 г. 1 двор, пасесія. У 1681 г. 16 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1747 г. 32 двары, у 1779 г. 32 двары, 232 жыхары, меўся млын. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ, 35 двароў, 251 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1816 г. 56 двароў, 396 жыхароў. Вёска Палунеж у 1858 г. ў Чэрыкаўскім павеце, меліся карчма, млын. У 1864 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. навучалася 35 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка, у 1907 г. — 107 хлопчыкаў і 13 дзяўчынак. У 1885 г. 55 двароў, 337 жыхароў, цэнтр воласці, дзейнічалі вятрак, школа, заезны дом, мураваная царква. Частка вяскоўцаў займалася сталярным і кравецкім промысламі. У 1897 г. сяло, 79 двароў, 525 жыхароў, і вёска, 110 двароў, 752 жыхары. У 1909 г. ў сяле 76 двароў, 594 жыхары, у вёсцы 124 двары, 910 жыхароў. Вёска была асобным населеным пунктам з назвай Палуж 2. У 1925 г. дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой было 79 вучняў. У 1926 г. 100 двароў, 626 жыхароў, дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1929 г. арганізаваны калгас «Полымя», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 55 гаспадарак. У 1931 г. адкрыты медпункт, пабудавана памяшканне для школы. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 25 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 15 з іх загінулі. У цэнтры вёскі ў брацкай магіле пахавана 19 воінаў, у ліку якіх воіны 1018-га стралк. палка і 213-га асобнага танкавага батальёна, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні раёна. У 1952 г. абсталяваны радыёвузел, вёска была радыёфікавана, а затым і электрыфікавана. У 1989 г. 101 гаспадарка, 256 жыхароў, цэнтр

*Музей А.В.Пысіна ў школе в. Палуж 1.*



саўгаса «Палужскі» (засн. ў 1961 г.), які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі. У 2007 г. ў вёсцы дзіцячы сад—сярэдняя школа (у ёй размешчаны музей А.В.Пысіна), Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з працяглай, крывалінейнай вуліцы з завулкамі, якую перасякае шаша, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, на З і ПнЗ — 1-павярховымі мураванымі дамамі. Вытв. сектар — на Пн і У.


*А.Мрый.*

Вёска — радзіма бел. пісьменніка А.Мрыя (А.А.Шашалевіча, 1893—1943).

**ПАЛУЖ 2** — вёска ў Яноўскім с/с (да 31.10.2008 г.ў Высакаборскім с/с), за 11 км на У ад Краснаполля, 120 км ад Магілёва, 66 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Палуж (прыток р. Беседзь), а на З праходзіць злучаны з ёю меліярацыйны канал. Транспартныя сувязі па шашы Краснаполле—Хоцімск, якая праходзіць побач з вёскай. 30 гаспадарак, 67 жыхароў (2007).

Вядома па пісьмовых крыніцах з 19 ст., калі в. Палуж раздзялілася на сяло і вёску. Пазней вёска стала называцца Палуж 2. У 1880 г. 62 двары, 232 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. У 1897 г. 110 двароў, 752 жыхары, у 1909 г. 124 двары, 910 жыхароў. У 1910 г. адкрыта земская школа. У 1925 г. дзейнічалі прац. школа 1-й ступені, у якой было 55 вучняў, ячэйка камсамола і гуртох па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 163 двары, 1034 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы Свет», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 58 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 95 гаспадарак, 235 жыхароў, у складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1). У 1999 г. 45 гаспадарак, 103 жыхары. Складаецца з 3 вуліц: паўн. — шыротнай арыентацыі, крывалінейная, ідзе ўздоўж ракі; паўд., на другім беразе ракі, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, трэцяя вуліца з мастом праз раку, злучае дзве першыя і арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. і паўн.-зах. ускраінах — гасп. сектар, на Пд — сад.

**ПАЛЯДКІ** — вёска ў Горскім с/с, за 21 км на ПдУ ад Краснаполля, 130 км ад Магілёва, 72 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горы—Краснаполле. 17 гаспадарак, 38 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 29 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 17 з іх загінулі. У 1989 г. 20 гаспадарак, 66 жыхароў, у складзе калгаса імя В.Валадарскага (цэнтр — в. Горы). Складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАПАРАТКІ** — былая вёска ў Навагельненскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Краснаполля, 135 км ад Магілёва, 77 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнУ межавала з лесам. На ПдЗ цячэ р. Якушоўка, на ПнЗ — ручай, яе прыток. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 16 ст. У 1555 г. сяло Папорычы ў Прапойскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1563 г. пажалавана шляхціцу. У 1777 г. сяло ў Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. 14 двароў, 103 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Навагельненскай вол. Чэрыкаўскага павета, 26 двароў, 267 жыхароў. Мелася царква. У 1900 г. школа граматы ператворана ў нар. вучылішча, дзе ў 1905 г. навучалася 66 хлопчыкаў. У 1909



г. 30 двароў, 238 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 18 вяскоўцаў змагаліся на фронце і ў партыз. атрадах, 11 з іх загінулі. У 1986 г. 21 гаспадарка, 36 жыхароў, у складзе калгаса імя Жданава (цэнтр — былая в. Карма-Пайкі). Планіровачна складалася з прамалінейнай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ПАЧАПЫ** — вёска ў Тур'яўскім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Краснаполля, 115 км ад Магілёва, 57 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Маластоўка (прыток р. Тур'я), на З — тры штучныя сажалкі. Транспартныя сувязі па шашы на Краснаполле, якая праходзіць побач з вёскай. 146 гаспадарак, 427 жыхароў (2007).

За 1,5 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Хоціна, захаваўся археал. помнік — старажытны могільнік (2 насыпы), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 18 ст. У 1769 г. ў Прапойскім старостве, 35 двароў, 63 жыхары мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць, мелася карчма. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 40 двароў, 264 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1816 г. вёска Почап у Чэрыкаўскім павеце, 44 двары, 358 жыхароў. У 1858 г. 198 рэвізскіх душ, у 1880 г. 70 двароў, 414 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім і бандарным промысламі. Мелася школа граматы. У 1897 г. ў Краснапольскай вол. Чэрыкаўскага павета, 117 двароў, 832 жыхары. Меліся 2 ветраныя млыны, школа граматы, піцейны дом. У 1905 г. адкрыта казённая вінная лаўка. У 1909 г. 124 двары, 958 жыхароў, школа граматы ператворана ў царкоўна-прыходскую. Дзейнічалі 6 ветракоў. У 1926 г. 139 двароў, 830 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 30 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе супраць гітлераўцаў загінуў 51 вясковец. На ўшанаванне памяці воінаў-землякоў, якія аддалі жыццё за Радзіму, у цэнтры вёскі ў 1979 г. пастаўлена стэла. У 1989 г. 157 гаспадарак, 375 жыхароў, цэнтр калгаса «Камінтэрн», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі. У 1999 г. 183 гаспадаркі, 486 жыхароў. У 2007 г. ў вёсцы сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, бутэрбродная. Аснову планіровачнай структуры складае доўгая, крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, якую перасякае рака. Ад яе адыходзяць на З, абапал ракі, 2 крывалінейныя (адна працяглая, другая кароткая) вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу, на Пн — 1—2-павярховыя мураваныя дамы. Вытв. сектар — на ПнУ. На ПнЗ — сад.

**ПЕРАДАВЫ** (да 1976 г. Залясок) — пасёлак у Яноўскім с/с, за 19 км на ПдУ ад Краснаполля, 128 км ад Магілёва, 39 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 21 гаспадарка, 50 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 35 гаспадарак, 86 жыхароў, у складзе саўгаса «Дружба» (цэнтр — в. Яноўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЯТРОВІЧЫ** — былая вёска ў Сабалёўскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Краснаполля, 136 км ад Магілёва, 78 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на Пд і У мežавала з лесам. На З цячэ р. Покаць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Сабалі, Завадок і далей па шашы Выдранка—Краснаполле.

У 1897 г. фальварак (1 двор, 10 жыхароў) у Мхініцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 1 двор, 5 жыхароў. У 1926 г. 15 двароў, 37 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 13 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе саўгаса «Завадоцкі» (цэнтр — в. Завадок). Мела Г-падобную планіроўку з вуліцамі шыротнай і мерыдыянальнай арыентацыі. На Пн быў гасп. сектар, на ПнУ — сад. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**РАДЗІЛЕВА** — былая вёска ў Наваельненскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Краснаполля, 127 км ад Магілёва, 69 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Ельня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле.

У 1897 г. хутар (2 двары, 11 жыхароў) у Наваельненскай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1909 г. 2 двары, 20 жыхароў. У 1926 г. хутары, 15 двароў, 115 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 50 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 1 — у партызанах, 25 з іх загінулі. У 1986 г. 28 гаспадарак, 66 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — былая в. Новая Ельня). Складалася з 2 кароткіх вуліц: паўн. — Г-падобная, была арыентавана з ПдУ на ПнЗ, паўд. — прамалінейная, амаль мерыдыянальнай арыентацыі, уздоўж ракі. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**РАМАНОЎ** — вёска ў Горскім с/с, за 13 км на ПдУ ад Краснаполля, 122 км ад Магілёва, 43 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам. На З цячэ р. Палуж (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Палуж 1 і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

У 1878 г. ў фальварку Раманоў заснаваны вінакурны з-д, на якім працавала 9 рабочых. У 1897 г. фальварак Раманоў (ён жа Малюшын, Грыбы) у Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 2 двары, 22 жыхары. Апрача вінакурнага з-да меліся вадзяны млын і сукнавальня. У 1909 г. 1 двор, 5 жыхароў. У 1926 г. хутары, 29 двароў, 155 жыхароў. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 13 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 8 з іх загінулі. У 1989 г. 12 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Леніна). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАМАНЬКІ** — вёска ў Мхініцкім с/с, за 13 км на ПдЗ ад Краснаполля, 122 км ад Магілёва, 64 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На У цячэ р. Бярлянка (прыток р. Каўпіта), на ПнУ — ручай, яе прыток. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Халмы і далей па шашы Выдранка—Краснаполле. 27 гаспадарак, 52 жыхары (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 18 двароў, 154 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Крас-



напольскай вол. Чэрыкаўскага павета, 53 двары, 400 жыхароў. Меліся 2 ветракі, піцейны дом. У 1909 г. 57 двароў, 440 жыхароў. У 1924 г. арганізавана с.-г. закупачна-збытавое т-ва, у 1931 г. — калгас імя Чапаева, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 28 гаспадарак. У 1926 г. 114 двароў, 370 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 65 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 42 з іх загінулі. У 1989 г. 50 гаспадарак, 122 жыхары, у складзе саўгаса «Халмянскі» (цэнтр — в. Халмы). У 1999 г. 34 гаспадаркі, 62 жыхары. У 2007 г. магазін. Складаецца з асн. прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, ад цэнтра якой на Пд адыходзіць другая прамалінейная вуліца з завулкам. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАСАМАХА 1** — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 20 км на ПнУ ад Краснаполля, 129 км ад Магілёва, 49 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на З і ПдУ мяжуе з лесам. На ПдУ цячэ р. Расамаха (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Лешчанка, Палуж 2 і далей па шашы Краснаполле—Хоцімск.

У 1897 г. вёска Расамахі ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 13 двароў, 97 жыхароў. Меўся млын. У 1909 г. хутары Расамахі Вялікія (14 двароў, 91 жыхар) і Расамахі Малыя (7 двароў, 38 жыхароў). У 1926 г. хутары, 25 двароў, 118 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя Будзённага, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 37 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках у брацкай магіле пахаваны 6 воінаў 269-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. ў баі за вызваленне вёскі. Там жа ў брацкай магіле пахаваны 2 сав. воіны, якія загінулі ў 1941 г. У 1986 г. 20 гаспадарак, 32 жыхары, у складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1). Планіровачна складалася з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі, і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнУ быў гасп. сектар. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**РАСАМАХА 2** — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 21 км на ПнУ ад Краснаполля, 130 км ад Магілёва, 50 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на Пн і Пд межавала з лесам. На З цячэ р. Расамаха (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Лешчанка, Палуж 2 і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з пач. 20 ст. У 1909 г. хутары Расамахі Малыя, 7 двароў, 38 жыхароў. У 1926 г. 14 двароў, 67 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 13 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1). Складалася з кароткай, прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**РАЎНІШЧА** — былая вёска ў Навадзельненскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Краснаполля, 134 км ад Магілёва, 76 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на Пн межавала з лесам, на З — штучная сажалка і бярэ пачатак ручай (прыток р. Жавуніца). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1765 г. слабада ў Прапойскім старостве, 8 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1769 г. 7 двароў, 10 жыхароў мужчынскага полу. У 1785 г. 14 двароў, 72 жыхары, уласнасць памешчыка, у 1816 г. ў Чэры-

каўскім павеце Магілёўскай губ., 11 двароў, 91 жыхар. У 1897 г. ў Наваельненскай вол. Чэрыкаўскага павета, 42 двары, 386 жыхароў. Мелася школа граматы. У 1909 г. 50 двароў, 377 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 52 вяскоўцы змагаліся на фронце, 40 удзельнічалі ў партыз. барацьбе, 18 з іх загінулі. У 1986 г. 29 гаспадарак, 74 жыхары, у складзе калгаса «Парыжская Камуна» (цэнтр — былая в. Беразякі 1). Складалася з 2 вуліц: паўн. — прамалінейная з завулкам, шыротнай арыентацыі і паўд. — дугападобная з завулкам, шыротнай арыентацыі. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**РЭПІШЧА** — былая вёска ў Наваельненскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Краснаполля, 125 км ад Магілёва, 67 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Клімавічы—Сураж. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ межавала з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле.

Засн. ў пач. 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 16 гаспадарак, 37 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — былая в. Новая Ельня). Складалася з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**САБАЛІ** — вёска ў Мхініцкім с/с, з 31.1.1983 да 28.2.1992 г. цэнтр Сабалёўкага с/с, за 30 км на ПдЗ ад Краснаполля, 139 км ад Магілёва, 81 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ і ПдУ мяжуе з лесам. На ПдЗ цячэ р. Покаць (прыток р. Сож), а праз вёску — яе прыток р. Сокалец. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёску Завадок і далей па шашы Выдранка—Краснаполле. 25 гаспадарак, 71 жыхар (2007).

На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, каля будынка школы, захаваўся археал. помнік — старажытны могільнік (4 насыпы), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У пісьмовых крыніцах вёска ўпершыню ўпамінаецца пад 1675 г., уваходзіла ў Прапойскае староства, у ёй быў 1 двор, з'яўлялася дзярж. уласнасцю. У 1681 г. 10 двароў, у 1769 г. 17 двароў, 27 жыхароў мужчынскага полу, меліся млын, карчма. У 1785 г. 28 двароў, 191 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 61 двор, 312 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. Мелася драўляная царква. У 1897 г. сяло ў Мхініцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 73 двары, 613 жыхароў. Меліся ветраны млын, царк.-прыходская школа, піцейны дом, драўляная царква. Штогод праводзіўся таржок. У 1909 г. 91 двор, 614 жыхароў.

У 1926 г. 111 двароў, 781 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Дз.Беднага, які першапачаткова аб'ядноўваў 8 гаспадарак. У 1930-х г. адкрыты клуб, магазін, паштовае аддз., медпункт, б-ка. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 116 гаспадарак, 280 жыхароў, у складзе саўгаса «Завадоцкі» (цэнтр — в. Завадок). У 1999 г. 38 гаспадарак, 101 жыхар. У 2007 г. дзейнічаюць сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, б-ка, клуб, аддз. сувязі. Р. Сокалец падзяляе вёску на паўн.-зах. (2 узаемнаперакрыжаваныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ і з ПдУ на ПнЗ і паўд.-ўсх. (ад прамалінейнай, працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі, адыходзяць на ПдУ 2 кароткія прамалінейныя вуліцы) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САСНОВІЦА 1** — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 26 км на ПнУ ад Краснаполля, 135 км ад Магілёва, 28 км ад чыг.



ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на У межавала з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць, меўся шынок. У 1858 г. 9 двароў, 92 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 31 двор, 245 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім, сталярным і бандарным промысламі. У 1897 г. сяло ва ўрочышчы Канюхоўка, 40 двароў, 281 жыхар, меліся 2 ветракі, крупарушка, лаўка, піцейны дом. Побач была аднайменная аколіца (20 двароў, 142 жыхары) і хутары (6 двароў, 20 жыхароў). У 1909 г. ў сяле 51 двор, 451 жыхар, у аколіцы 22 двары, 133 жыхары, на хутары 11 двароў, 66 жыхароў. У 1926 г. 57 двароў, 295 жыхароў, дзейнічала прац. школа 1-й ступені, для якой у 1928 г. пабудавана памяшканне. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная сям'я», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 19 гаспадарак. У 1940 г. 62 двары, 319 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 56 двароў. На могілках пахаваны сав. воін, які загінуў у 1943 г. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 27 гаспадарак, 66 жыхароў, у складзе саўгаса «Краснапольскі» (цэнтр — былая в. Высокі Борак). Дзейнічалі пач. школа, клуб, магазін. Планіровачна складалася з крывалінейнай вуліцы з завулкамі, амаль шыротнай арыентацыі, на ПдЗ — гасп. сектар. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**САСНОВІЦА 2** — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 27 км на ПнУ ад Краснаполля, 136 км ад Магілёва, 39 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на З і Пн межавала з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

У 1897 г. побач з вёскай Сасновіца была пад такой жа назвай аколіца (20 двароў, 142 жыхары), якая ў 1920-х г. стала называцца вёскай Сасновіца 2. У 1909 г. 22 двары, 133 жыхары. У 1926 г. 19 двароў, 104 жыхары. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 23 двары, 109 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. акупанты спалілі 20 двароў, загубілі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе саўгаса «Краснапольскі»— былая в. Высокі Борак). Планіровачна складалася з крывалінейнай, кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ.

**САСНОЎСКІ** — (да 1970 г. Мазураўка) — былы пасёлак у Тур'яўскім с/с, за 3 км на Пд ад Краснаполля, 112 км ад Магілёва, 54 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Горы—Краснаполле, якая праходзіць непадалёку ад пасёлка.

Засн. ў 1920-х г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 8 гаспадарак, 14 жыхароў. У складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Пачапы). У 1999 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары. Кароткая, прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, была забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САСНОЎСКІ** — былы хутар у Высакаборскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Краснаполля, 124 км ад Магілёва, 39 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Палуж 2 і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Засн. ў 1920-х г. У 1930-х г. хутаране ўступілі ў калгас. У 1940 г. 14 двароў, 55 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1943 г. гітлераўцы спалілі 11 двароў. У 1989 г. 7 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе саўгаса «Палужскі»




(цэнтр — в. Палуж 1). У 1999 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Быў забудаваны драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САФІЁЎКА** — былая вёска ў Сідараўскім с/с, за 12 км на З ад Краснаполля, 121 км ад Магілёва, 63 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ ручай (прыток р. Ельня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ячная Буда і далей па шашы на Краснаполле.

У 1873 г. памешчык меў тут і ў інш. месцах 5832 дзес. зямлі, 2 млыны і 2 карчмы. У 1897 г. фальварак (19 жыхароў) у Наваельненскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 1 двор, 2 жыхары. У 1926 г. пасёлак, 13 двароў, 95 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 43 жыхары, у складзе саўгаса імя Калініна (цэнтр — в. Сідараўка). Ад цэнтра прамалінейнай, кароткай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі адыходзіла на ПнУ другая кароткая вуліца. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**СІДАРАЎКА** — вёска, цэнтр Сідараўскага с/с (з 6.4.1973), за 2 км на З ад Краснаполля, 111 км ад Магілёва, 53 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на ПдУ — штучнае вадасховішча на р. Маластоўка (прыток р. Тур'я). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў. 267 гаспадарак, 694 жыхары (2007).

На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Курганне, захаваўся археал. помнік — могільнік эпохі Кіеўскай Русі (1 насып), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У пісьмовых крыніцах вёска ўпершыню ўпамінаецца пад 1769 г., уваходзіла ў Прапойскае староства, 15 двароў, 34 жыхары мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 14 двароў, 102 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1816 г. 22 двары, 201 жыхар. У 1897 г. фальварак Сідараўка (ён жа Елізавеціна), 63 жыхары, вінакурны завод, паравы і вадзяны млыны. У 1909 г. 78 жыхароў. У 1919 г. створана камуна «Сідараўская», якая ў 1929 г. пераўтворана ў саўгас імя Калініна. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 23 вяскоўцы змагаліся на фронце, 8 з іх загінулі. У цэнтры вёскі ў брацкай магіле пахавана 12 воінаў, у ліку якіх воіны 269-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. За 1 км на З ад вёскі ў магіле пахавана звыш 100 мірных грамадзян, партызан і іх сем'яў, расстраляных акупантамі. У 1989 г. 216 гаспадарак, 628 жыхароў, цэнтр саўгаса імя Калініна, які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі. За вырошчванне высокіх ураджаяў бульбы механізатарам-братам Ю.Я. і Я.Я.Жлобам прысвоены званні Героя Сац. Працы. Птушніца Т.А.Каратцова ўзнагароджана ордэнам Леніна. У вёсцы размяшчаліся 2 фермы буйной рагатай жывёлы і птушкагадоўчая, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі, сталовая, гандлёвы цэнтр, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1999 г. 295 гаспадарак, 801 жыхар. У 2007 г. лясніцтва, аддз. сувязі, дзіцячы сад, Дом культуры, б-ка, 2 магазіны. Ад асноўнай амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ адыходзіць пад вострым вуглом на З кароткая прамалінейная вуліца з завулкам. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу, на Пн і ПдУ каля вадасховішча вёска забудавана 1—2-павярховымі мураванымі дамамі. Вытв. сектар — на ПдЗ, на Пн і ПнУ.

**СТАЙКІ** — вёска ў Горскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Краснаполля, 124 км ад Магілёва, 66 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф



раўнінна-ўзгорысты. Каля вёскі найвышэйшы пункт раёна (192 м). Транспартныя сувязі па шашы Горы—Краснаполле, якая праходзіць побач з вёскай. 29 гаспадарак, 70 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Рагачоўскай акрузе. У 1858 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 124 рэвізскія душы. У 1897 г. ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета, 76 двароў, 479 жыхароў, мелася школа граматы. У 1909 г. 80 двароў, 536 жыхароў. У 1926 г. 69 двароў, 431 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік», які першапачаткова аб'ядноўваў 46 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 53 вяскоўцы змагаліся на фронце, 22 з іх загінулі. У 1989 г. 58 гаспадарак, 125 жыхароў, у складзе калгаса імя Ф.Энгельса (цэнтр — в. Леніна), размяшчаліся пач. школа, б-ка, магазін. Складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай пераважна двухбаковa, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

Вёска — радзіма бел. пісьменніка С.І.Кухарава (н. 31.7.1919 г.), засл. работніка культуры БССР.

**СТАНІСЛАЎ** — пасёлак у Тур'яўскім с/с, за 2 км на ПдЗ ад Краснаполля, 111 км ад Магілёва, 53 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы на Краснаполле, якая праходзіць праз вёску. 17 гаспадарак, 31 жыхар (2007).

У 1825 г. 3 двары, уласнасць царквы. У 1909 г. 1 двор, 12 жыхароў. У 1926 г. 9 двароў, 64 жыхары. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 34 гаспадаркі, 72 жыхары, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Пачапы). У 1999 г. 24 гаспадаркі, 52 жыхары. Складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якую перпендыкулярна перасякае шаша. Забудаваны пераважна двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАРАЯ БУДА** — былая вёска ў Сабалёўскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Краснаполля, 133 км ад Магілёва, 74 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на ПнЗ і ПдУ межавала з лесам. На ПнУ цячэ р. Купелка (прыток р. Казелька). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Завадок і далей па шашы Выдранка—Краснаполле.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1850 г. ў Клімавіцкім павеце, 32 двары, 120 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 67 двароў, 392 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1880—84 гг. вяскоўцы неаднаразова рабілі высечку памешчыцкага лесу, аказвалі супраціўленне ўладам пры размежаванні зямель, захоплівалі памешчыцкія лугі. Хваляванні былі спынены з дапамогай войск, якія размяшчаліся ў вёсцы з 16.11.1882 г. да 28.2.1884 г. У 1897 г. ў Мхініцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 95 двароў, 583 жыхары, меўся ветраны млын. У 1910 г. 90 двароў, 576 жыхароў. У 1926 г. 129 двароў, 670 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 52 гаспадаркі, 144 жыхары, у складзе саўгаса «Завадоцкі» (цэнтр — в. Завадок), дзейнічаў магазін. Планіровачна складалася з крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.



*С.І.Кухараў.*

**СТРУМЕНСК** — вёска ў Сабалёўскім с/с, за 37 км на ПдЗ ад Краснаполля, 146 км ад Магілёва, 88 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Беразуга, Горкі, Сабалі, Завадок і далей па шашы




Выдранка—Краснаполле. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

У 1834 г. вёска Струмень, у Чэрыкаўскім павеце, 3 двары, 11 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 25 гаспадарак, 41 жыхар, у складзе саўгаса «Завадоцкі» (цэнтр — в. Завадок). Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СУВОРАЎКА** (да 1965 г. Свярбілаўка) — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 14 км на ПнУ ад Краснаполля, 123 км ад Магілёва, 47 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на З межавала з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёску Палуж 1 і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. слабада Свярбілаўка ў Рагачоўскай акрузе. У 1897 г. хутары ў Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 13 двароў, 63 жыхары. У 1909 г. 9 двароў, 51 жыхар. У 1926 г. 9 двароў, 59 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў, у складзе саўгаса «Палужскі» (цэнтр — в. Палуж 1), меўся магазін. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**СЦЯПАНАЎ** — былы хутар у Высакаборскім с/с, за 15 км на У ад Краснаполля, 124 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Хоцімск—Краснаполле, якая праходзіць побач з хутарам.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з пач. 20 ст. У 1909 г. 4 двары, 25 жыхароў. У 1926 г. 8 двароў, 52 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная праца», які першапачаткова аб'ядноўваў 12 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 18 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе саўгаса «Краснапольскі» (цэнтр — былая в. Высокі Борак). Прамалінейная вуліца была арыентавана з ПдУ на ПнЗ, пад вострым вуглом да шашы. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі хутар адселены ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**СЯРЭДНІ** — пасёлак у Горскім с/с, за 17 км на ПдУ ад Краснаполля, 126 км ад Магілёва, 68 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Свініца (прыток р. Палуж). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Горы—Краснаполле. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1989 г. 14 гаспадарак, 34 жыхары, у складзе калгаса імя В.Валадарскага (цэнтр — в. Горы). Складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТОПКАЕ** — былая вёска ў Сабалёўскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Краснаполля, 137 км ад Магілёва, 69 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на ПдЗ межавала з лесам. На У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Покаць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Завадок і далей па шашы Выдранка—Краснаполле.

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 18 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе саўгаса «Завадоцкі» (цэнтр — в. Завадок). Складалася з пра-



малінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ТРАЎНА** (да 1976 г. вёскі Новая Траўна і Старая Траўна) — вёска ў Сідараўскім с/с, за 6 км на ПнУ ад Краснаполля, 115 км ад Магілёва, 57 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на З і Пн мяжуе з лесам. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Травінка (прыток р. Тур'я). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Забор'е і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 23 гаспадаркі, 37 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1765 г. ў Прапойскім старостве 12 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 19 двароў, 158 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1816 г. 22 двары, 152 жыхары, у 1858 г. сяло, 61 рэвізская душа. Памешчык меў у 1869 г. ў вёсках Траўна і Фёдараўка 127 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Краснапольскай вол. Чэрыкаўскага павета: сяло, 42 двары, 258 жыхароў, і фальварак, 1 двор, 1 жыхар. У 1909 г. ў сяле Старая Траўна 45 двароў, 321 жыхар, у вёсцы Новая Траўна 19 двароў, 113 жыхароў. У 1912 г. адкрыта земская школа. У 1925 г. дзейнічалі прац. школа 1-й ступені, у якой было 45 вучняў, гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. ў в. Старая Траўна арганізаваны калгас «Чырвоны араты», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 64 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 19 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 10 з іх загінулі. У 1989 г. 57 гаспадарак, 127 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — г.п. Краснаполле), дзейнічалі пач. школа, Дом культуры, б-ка, магазін. У 1999 г. 37 гаспадарак, 81 жыхар. У 2007 г. б-ка-клуб. Складаецца з 2 крывалінейных вуліц з завулкамі, амаль шыротнай арыентацыі, абапал меліярацыйнага канала. Забудавана пераважна аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Вёска — радзіма бел. фізіка Ф.П.Коршунава (н. 15.5.1934 г.), доктара тэхн. навук, прафесара, лаўрэата Дзярж. прэміі Беларусі.

**ТРУБІЛЬНЯ** — вёска ў Тур'яўскім с/с, за 3 км на Пд ад Краснаполля, 112 км ад Магілёва, 54 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Маластоўка (прыток р. Тур'я). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле. 18 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1769 г. вёска Трубіна ў Прапойскім старостве, 32 двары, 60 жыхароў мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць, мелася карчма. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 35 двароў, 202 жыхары, уласнасць памешчыка. Непадалёку была таксама вёска Новая Трубільна, у якой у 1765 г. налічвалася 7 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1816 г. вёска Трубіліна, 35 двароў, 328 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 60 двароў, 360 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. У 1897 г. ў Краснапольскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 93 двары, 716 жыхароў. Меліся 3 ветраныя млыны, школа граматы, піцейны дом. Побач быў фальварак Трубільня (ён жа Станіславаў), які налічваў 1 двор, 8 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 109 двароў, 830 жыхароў, у фальварку 1 двор, 12 жыхароў, школа граматы была ператворана ў царк.-прыходскую. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рухавік рэвалюцыі», які першапачаткова аб'ядноўваў 9 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 53 гаспадаркі, 123 жыхары, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Пачапы). У 1999 г. 28 гаспадарак, 40 жыхароў. Меліярацыйны канал падзяляе вёску на паўн.-



*І.К.Варапаеў.*

зах. (ад працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, адыходзіць на ПнУ кароткая вуліца, уздоўж канала) і паўд.-ўсх. (прамалінейная кароткая вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, уздоўж канала) частак. Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза, ген.-маёра артылерыі І.К.Варапаева (1905—59), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў жн. 1944 г. ў бітве на Вісле.

**ТУР'Я** — вёска, цэнтр Тур'яўскага с/с (з 15.1.1965 г.), за 1 км на Пд ад Краснаполля, 110 км ад Магілёва, 52 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Тур'я (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па шашы Горы—Краснаполле, якая праходзіць паблізу вёскі. 121 гаспадарка, 342 жыхары (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска Турыя ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. 47 двароў, 237 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 40 двароў, 284 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1895 г. адкрыта школа. У 1897 г. ў Краснапольскай вол. Чэрыкаўскага павета, 79 двароў, 53 жыхары. Мелісь 2 ветраныя млыны, піцейны дом. Побач быў аднайменны фальварак, 1 двор, 3 жыхары, сукнавальня. У 1909 г. ў вёсцы 92 двары, 638 жыхароў, у фальварку 1 двор, 7 жыхароў. Школа граматыператворана ў аднакласнае нар. вучылішча. У 1925 г. дзейнічала прац. школа 1-й ступені, у якой было 60 вучняў, мелася б-ка. У 1931 г. арганізаваны калгас «Першамайскі № 2», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 38 гаспадарак, а ў 1940 г. з'яўляўся ўдзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі ў Маскве. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У памяць аб 182 земляках, якія загінулі ў барацьбе супраць гітлераўцаў, у цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых. У 1990 г. 138 гаспадарак, 352 жыхары, цэнтр калгаса «Світанне», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі. У 1999 г. 152 гаспадаркі, 398 жыхароў. У 2007 г. дзіцячы сад—сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, бутэрбродная, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з дугападобнай, працяглай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн, за ракой, і на ПдЗ — адасобленыя ўчасткі забудовы, на паўд.-ўсх. ускраіне — 2-павярховыя мураваныя дамы. Гасп. будынкі — у цэнтры, на ПдУ і З.

*Уборка збожжа ў Тур'яўскім сельсавеце.*



У склад сельсавета ўваходзяць 18 вёсак. У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Тур'яўскага с/с былі пасёлкі Влата і Сіняе Балота, якія ўвайшлі ў склад в. Малюшына.

**ТУРЭЙСК** — вёска ў Сідараўскім с/с, за 4 км на Пн ад Краснаполля, 105 км ад Магілёва, 55 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў. 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 34 двары, 143 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Краснапольскай вол. Чэ-



рыкаўскага павета Магілёўскай губ., 32 двары, 193 жыхары. У 1909 г. 29 двароў, 238 жыхароў. У 1926 г. 42 двары, 271 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Культура», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 12 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 16 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — г.п. Краснаполле). Планіровачна складаецца з Г-падобнай вуліцы, забудаванай шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УСХОД** — пасёлак у Тур'яўскім с/с, за 1 км на Пд ад Краснаполля, 110 км ад Магілёва, 52 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Выдранка—Краснаполле. 9 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 15 двароў, 73 жыхары. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 14 гаспадарак, 32 жыхары, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Пачапы). Складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УСЦІНАВІЧЫ** — вёска ў Сідараўскім с/с, за 11 км на З ад Краснаполля, 128 км ад Магілёва, 62 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Ельня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле. 53 гаспадаркі, 143 жыхары (2007).

Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца пад 1675 г. у Прапойскім старостве, 1 двор, дзярж. ўласнасць. У 1681 г. 3 двары. У 1769 г. в. Усцінаўка, 26 двароў, 59 жыхароў мужчынскага полу, мелася карчма. У 1785 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 43 двары, 252 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Навaельнянскай вол. Чэрыкаўскага павета, 63 двары, 518 жыхароў. Меліся 2 ветраныя млыны, школа граматы. У 1909 г. 83 двары, 592 жыхары. У 1926 г. 130 двароў, 730 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Серп і молат», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 10 гаспадарак. Існаваў таксама калгас «Чырвоная Армія», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 25 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 17 вяскоўцаў удзельнічалі ў баях супраць гітлераўцаў, 7 з іх загінулі. У 1990 г. 86 гаспадарак, 230 жыхароў, у складзе саўгаса імя Калініна (цэнтр — в. Сідараўка), дзейнічалі клуб, пач. школа, б-ка, магазін. У 1999 г. 69 гаспадарак, 171 жыхар. У 2007 г. клуб-б-ка, магазін. Меліярацыйны канал падзяляе вёску на паўн. (2 паралельныя паміж сабой вуліцы шыротнай арыентацыі на канцах злучаны 2 вуліцамі мерыдыянальнай арыентацыі) і паўд. (прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.

**ФАЛЬВАРАК** — былы пасёлак у Сідараўскім с/с, за 18 км на Пн ад Краснаполля, 118 км ад Магілёва, 60 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Чэрыкаў—Краснаполле.

*Уборка збожжа ў Тур'яўскім сельсавеце.*



Засн. ў 1920-х г. У 1930-х г. пасялкоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 9 гаспадарак, 12 жыхароў, у складзе саўгаса імя Калініна (цэнтр — в. Сідараўка). Складаўся з двухбакова забудаванай мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы.

**ФЁДАРАЎКА** — вёска ў Сідараўскім с/с, за 7 км на Пн ад Краснаполля, 102 км ад Магілёва, 58 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на ПдЗ, Пн і У мяжуе з лесам. На Пн і У цячэ р. Травінка (прыток р. Тур'я). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Завадок і далей па шашы Чэрыкаў—Краснаполле. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

У 1858 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце, 21 рэвізская душа, пастаялы двор. Памешчык меў у 1869 г. ў вёсках Фёдараўка і Траўна 127 дзес. зямлі. У 1897 г. вёска Фёдараўка (яна ж Камароўка, Слабодка), 15 двароў, 109 жыхароў. Побач быў фальварак Фёдараўка (ён жа Камароўка), 1 двор, 10 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 16 двароў, 133 жыхары, у фальварку 1 двор, 8 жыхароў. У 1926 г. 16 двароў, 113 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Калгаснік Беларусі», які першапачаткова аб'ядноўваў 25 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 вяскоўцы. У 1990 г. 9 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — г.п. Краснаполле). У 1999 г. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў. Складаецца з кароткай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХАЛМЫ** — вёска, цэнтр Мхініцкага с/с, за 10 км на Пд ад Краснаполля, 119 км ад Магілёва, 61 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Бярлянка (прыток р. Каўпіта). Транспартныя сувязі па шашы Выдранка—Краснаполле, якая праходзіць побач з вёскай. 105 гаспадарак, 298 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. хутар Холм у Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1834 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце, 16 двароў, 91 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1884 г. пачала дзейнічаць школа граматы. У 1897 г. ў Краснапольскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 45 двароў, 354 жыхары. Меліся 2 ветраныя млыны, піцейны дом. У 1909 г. 47 двароў, 376 жыхароў, дзейнічала аднакласная школа (нар. вучылішча), 3 ветракі. У 1926 г. 91 двор, 346 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «13 год Кастрычніка», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 58 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце змагаліся 45 вяскоўцаў, 30 з іх загінулі. На могілках у брацкай магіле пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў 1941 г. За 2 км на Пн ад вёскі, каля дарогі ў в. Пабеда ў брацкай магіле пахаваны 6 воінаў 269-й стралк. дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна. У 1990 г. 88 гаспадарак, 276 жыхароў, цэнтр саўгаса «Халмянскі», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі. У вёсцы дзейнічалі пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры, магазін, сталовая, амбулаторыя, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі. У 1999 г. 106 гаспадарак, 317 жыхароў. У 2007 г. дзіцячы сад, пач. школа, амбулаторыя, б-ка, клуб, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У склад сельсавета ўваходзяць 17 вёсак. Складаецца з працяглай, крывалінейнай вуліцы з завулкамі, мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, на ПнЗ ад вёскі і З ад шашы — 1—2-павярховымі мураванымі дамамі. На У — вытв. сектар.

**ХАТЫЖЫН** — былая вёска ў Навагельненскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Краснаполля, 134 км ад Магілёва, 76 км ад чыг.



ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам, на Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Будзянка (прыток р. Кляпінка). Транспартныя сувязі па шашы на Краснаполле, якая праходзіць праз вёску.

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-х г. арганізаваны калгас «Шлях камуны», які першапачаткова аб'ядноўваў 6 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 38 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 24 з іх загінулі. У 1986 г. 32 гаспадаркі, 60 жыхароў, у складзе калгаса «Парыжская Камуна» (цэнтр — былая в. Беразякі 1). Мела Т-падобную планіроўку. Ад цэнтра кароткай, прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі адыходзіла на З, перпендыкулярна, другая прамалінейная вуліца. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ХВАШЧЫ** (да 1969 г. Дуб'е) — пасёлак у Тур'яўскім с/с, за 4 км на ПдУ ад Краснаполля, 113 км ад Магілёва, 55 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Тур'я (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Тур'я і далей па шашы Горы—Краснаполле. 8 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 29 двароў, 76 жыхароў. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 20 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Тур'я). У 1999 г. 152 гаспадаркі, 398 жыхароў. Ад кароткай, крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ адыходзіць на ПнУ другая кароткая, прамалінейная вуліца. Забудаваны аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЦІВІЦКАЕ** — былы пасёлак у Мхініцкім с/с, за 9 км на Пд ад Краснаполля, 118 км ад Магілёва, 60 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, побач цячэ р. Каўпіта (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Выдранка—Краснаполле.

Вядомы паводле пісьмовых крыніц з пач. 20 ст. У 1909 г. 10 двароў, 71 жыхар. У 1926 г. 11 двароў, 83 жыхары. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 10 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 6 з іх загінулі. У 1986 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе саўгаса «Халмянскі» (цэнтр — в. Халмы). Быў забудаваны драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу ўздоўж ракі. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі ў пасёлку ніхто не жыве.

**ЧЭРНІН** — былы пасёлак у Наваельненскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Краснаполля, 126 км ад Магілёва, 68 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Ельня (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле.

Засн. ў 1920-х г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў змагаліся на фронце, 5 з іх загінулі. У 1986 г. 1 гаспадарка, 6 жыхароў, у складзе калгаса «Ленінскі шлях» (цэнтр — в. Новая Ельня). Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі у пасёлку ніхто не жыве.

**ЧЭРНЯ** — былая вёска ў Сабалёўскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Краснаполля, 136 км ад Магілёва, 78 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ ручай (прыток р. Покаць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Аўчынец, Зава-

док і далей па шашы Выдранка—Краснаполле.

Засн. ў 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 6 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе саўгаса «Завадоцкі» (цэнтр — в. Завадок). Складалася з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ШАЛУХОЎКА** — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 23 км на ПнУ ад Краснаполля, 132 км ад Магілёва, 43 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пд бярэ пачатак р. Палуж (прыток р. Беседзь). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. Памешчык меў тут у 1874 г. 152 дзес. зямлі і карчму. У 1858 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 50 рэвізскіх душ, мелася карчма. У 1880 г. 13 двароў, 116 жыхароў, 9 вяскоўцаў займаліся калёсным промыслам. У 1897 г. ў Брацькавіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 20 двароў, 167 жыхароў. У аднайменным фальварку, што быў побач, 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 24 двары, 178 жыхароў, у фальварку 1 двор, 6 жыхароў. Меўся вятрак. У 1926 г. 26 двароў, 155 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «На варце», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 6 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 16 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе саўгаса «Краснапольскі» (цэнтр — былая в. Высокі Борак). Ад амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, адыходзіла на Пн другая, кароткая вуліца. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ШЫРАКАЎВЕЛЛЕ** — былая вёска ў Высакаборскім с/с, за 15 км на У ад Краснаполля, 124 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Горанка (прыток р. Палуж). Транспартныя сувязі па шашы Краснаполле—Хоцімск, якая праходзіць побач з вёскай.

У 1897 г. хутар у Палужскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 10 двароў, 63 жыхары. Меўся ветраны млын. У 1909 г. 12 двароў, 58 жыхароў. У 1926 г. 24 двары, 176 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях Кастрычніка», які аб'ядноўваў 21 гаспадарку. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 36 гаспадарак, 66 жыхароў, у складзе саўгаса «Краснапольскі» (цэнтр — былая в. Высокі Борак), меўся магазін. Ад паўн.-ўсх. канца дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, адыходзіла на ПнЗ другая, кароткая, прамалінейнай вуліца. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ШЫРОКІ** — пасёлак у Тур'яўскім с/с, за 8 км на ПдУ ад Краснаполля, 117 км ад Магілёва, 59 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Тур'я (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па шашы Горы—Краснаполле, якая праходзіць непадалёку ад пасёлка. 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 25 гаспадарак, 48 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Тур'я). У 1999 г. 14 гаспадарак, 22 жыхары. Планіроўка



Т-падобная. Больш доўгая, прамалінейная вуліца, арыентавана з ПдУ на ПнЗ, дзе да яе перпендыкулярна далучаецца кароткая, прамалінейная вуліца. Забудаваны пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯКУШОЎКА** — былая вёска ў Навасльненскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Краснаполля, 137 км ад Магілёва, 79 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З і ПдУ межавала з лесам. На Пд цячэ р. Якушоўка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы на Краснаполле.

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Рагачоўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. 11 двароў, 163 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Наваельненскай вол. Чэрыкаўскага павета, 35 двароў, 364 жыхары. У 1909 г. 53 двары, 380 жыхароў. Мелася школа граматы. У 1925 г. дзейнічала прац. школа 1-й ступені. У 1926 г. 69 двароў, 469 жыхароў. У 1930-х г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 59 вяскоўцаў змагаліся на фронце і ў партыз. атрадах, 35 з іх загінулі. У 1986 г. 18 гаспадарак, 40 жыхароў, у складзе калгаса імя Жданава (цэнтр — в. Карма-Пайкі). Планіровачна складалася з крывалінейнай, шыротнай арыентацыі вуліцы з завулкамі. Пасля катастрофы 1986 г. на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі вёска адселена ў сувязі з радыяцыйным забруджаннем.

**ЯНОЎКА** — вёска, цэнтр Яноўскага с/с (з 22.2.1977 г.), за 21 км на ПдУ ад Краснаполля, 130 км ад Магілёва, 43 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдЗ бярэ пачатак р. Дзесенка (прыток р. Алешня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Хоцімск—Краснаполле. 144 гаспадаркі, 395 жыхароў (2007).

У 1870 г. памешчык меў тут 993 дзес. зямлі, карчму і млын. У 1897 г. вёска ў Саматэвіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 56 двароў, 507 жыхароў. Мелася школа граматы. Побач быў аднайменны фальварак, 1 двор, 17 жыхароў. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. адбываліся рэв. выступленні сялян. У 1909 г. ў вёсцы 73 двары, 464 жыхары, у маёнтку 1 двор, 17 жыхароў. У 1923 г. арганізаваны с.-г. кааператыў. У 1926 г. 84 двары, 510 жыхароў. У 1929 г. пачаў дзейнічаць цагельны з-д. У 1930 г. арганізаваны калгас «Матор рэвалюцыі», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 66 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках пахаваны сав. воін і партызан 3-га асобнага атрада, якія загінулі ў баях супраць акупантаў. У 1967 г. да вёскі далучаны пас. Ленінскі. У 1990 г. 95 гаспадарак, 309 жыхароў, цэнтр саўгаса «Дружба», які спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі. У 1999 г. 147 гаспадарак, 226 жыхароў. У 2007 г. сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін, сталовая, бутэрбродная, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва.



*Кіраўнік Яноўскага аддзялення унітарнага камунальнага с.-г. прадпрыемства «Краснапольскі» С.А.Раманенка.*

Складаецца з 2 працяглых, прамалінейных вуліц, адна з якіх арыентавана з ПдЗ на ПнУ, а другая (былы пас. Ленінскі) — з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу, на Пн і Пд — мураванымі дамамі. Вытв. сектар — у цэнтры і на ПдЗ.

У склад сельсавета ўваходзяць 19 вёсак (у т.л. з 1.11.2008 г. 11 вёсак былога Высакаборскага с/с).

**ЯСЕНКА** — вёска ў Сідараўскім с/с, за 3 км на У ад Краснаполля, 112 км ад Магілёва, 48 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. Праз вёску праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Тур'я (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па шашы Краснаполле—Хоцімск, якая праходзіць побач з вёскай. 31 гаспадарка, 89 жыхароў (2007).

Вядома паводле пісьмовых крыніц з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1858 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 68 рэвізскіх душ, карчма. У 1880 г. 25 двароў, 182 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася сталярным і бандарным промысламі. Мелася школа граматы. У 1897 г. ў Краснапольскай вол. Чэрыкаўскага павета, 61 двор, 407 жыхароў. Меліся 2 ветраныя млыны, піцейны дом. У 1909 г. 73 двары, 473 жыхары. У пач. 1920-х г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. У 1926 г. 91 двор, 493 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Красавік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 25 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 24 вяскоўцы змагаліся на фронце, 12 з іх загінулі. У 1990 г. 60 гаспадарак, 146 жыхароў, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — г.п. Краснаполле), размяшчаліся клуб, пач. школа. У 1999 г. 45 гаспадарак, 110 жыхароў. У 2007 г. магазін. Меліярацыйны канал падзяляе вёску на паўн. (П-падобная планіроўка вуліцы шыротнай і мерыдыянальнай арыентацыі) і паўд. (Г-падобная вуліца, арыентацыя кароткай часткі з ПдУ на ПнЗ і больш працяглай — з ПнУ на ПдЗ) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.

**ЯСНАПОЛЛЕ** — вёска ў Сідараўскім с/с, за 5 км на Пн ад Краснаполля, 104 км ад Магілёва, 56 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На ПнУ цячэ р. Тур'я (прыток р. Сянна). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Турэйск і далей па шашы Хоцімск—Чэрыкаў. 5 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Пачатак вёскі паклаў маёнтак, дзе ў 1845 г. была засн. вінакурня, у якой у 1895 г. была ўстаноўлена паравая машына. У 1920-х г. сюды перасяліліся сяляне з суседніх вёсак. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 17 гаспадарак, 52 жыхары, у складзе калгаса імя Леніна (цэнтр — г.п. Краснаполле). У 1999 г. 9 гаспадарак, 10 жыхароў. Складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯШНАЯ БУДА** — вёска ў Мхініцкім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Краснаполля, 118 км ад Магілёва, 60 км ад чыг. ст. Камунары на лініі Крычаў—Сураж (Расія). Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ ручай (прыток р. Ельня). Транспартныя сувязі па шашы на Краснаполле, якая праходзіць побач з вёскай. 28 гаспадарак, 55 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-х г. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 41 вясковец змагаўся на фронце, 23 з іх загінулі. У 1943—44 гг. у вёсцы размяшчаўся палявы шпіталь сав. войск. У 1990 г. 60 гаспадарак, 170 жыхароў, у складзе саўгаса «Халмянскі» (цэнтр — в. Халмы). У 1999 г. 41 гаспадарка, 81 жыхар. У 2007 г. магазін. Ад пра-



цяглай, крывалінейнай з завулкамі вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, адыходзіць на Пд прамалінейная, кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**


Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 6, воп. 1, спр. 894, 896, 1103, 2488; ф. 31, ч. 1, воп. 1, спр. 23/19, 75, 255; воп. 3, спр. 55; ф. 42, воп. 1, спр. 1124, 1756, 2127; воп. 2, спр. 3257, 3344—3351, 3353, 3356, 3357, 3359—3361, 3363, 3365, 4284; ф. 48, воп. 1, спр. 2123, 2137, 2277, 4928, 4929; ф. 258, воп. 1, спр. 57; ф. 334, воп. 1, спр. 500; ф. 338, воп. 1, спр. 322; ф. 1024, воп. 1, спр. 715, 831.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 694, воп. 2, спр. 3982а; воп. 4, спр. 1155, 1556; ф. 1729, воп. 1, спр. 78; ф. 1772, воп. 1, спр. 19; ф. 1781, воп. 26, спр. 1435; ф. 2001, воп. 1, спр. 1196; ф. 2014, воп. 1, спр. 229, 417; ф. 2221, воп. 1, спр. 72, 73; ф. 2151, воп. 1, спр. 110, 113, 159 (т.1), 177—179, 181, 189, 190, 192, 198, 212.

Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці, ф. 6643, воп. 1, спр. 65, 85.

Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 389, воп. 1, спр. 39, 41.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. ДП, 1906, спр. 700, ч. 17; ф. 577, воп. 19, спр. 46, 1567, 1595, 1599, 1633, 1636, 1640, 1655, 1665, 1667, 1668, 1670, 1695, 1746, 1799; ф. 1290, воп. 2, спр. 1375.

Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу, ф. 1350, воп. 312, спр. 95, 96.

Архіў Расійскай акадэміі навук: Пецярбургскае аддз., ф. 30, воп. 2, спр. 30; ф. 52, воп. 1, спр. 263; ф. 87, воп. 1, спр. 69.

Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. ДА, спр. 92, 3802; ф. 1029, воп. 1, спр. 286.

Аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу, ф. IV, 768.

Список церковно-приходских школ и школ грамоты Могилевской епархии. СПб, [Б.г.].

Военно-статистическое обозрение Российской империи, т. 8, ч. 3. СПб., 1848.

Без-Корнилович М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии... СПб., 1855.

Статистический временник Российской империи. [Т.] 1. СПб., 1866.

Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874 г. Вильна, 1874.

Материалы, относящиеся до нового общественного устройства в городах империи. Т. 5. СПб., [1878].

Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 2—3. Могилев, 1884.

Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на1889/1890 учебный год. Могилев, 1889.

Указатель фабрик и заводов Европейской России. 3 изд. СПб., 1894.

Список фабрик и заводов Европейской России. СПб., 1903.

Памятная книжка Могилевской губернии на 1905 г. Могилев, 1905.

Последние известия, 1905, № 240.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1905/1906 учебный год. Могилев, 1905.

Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1907/1908 учебный год. Могилев, 1907.

Памятная книжка Могилевской губернии на 1909 г. Могилев, 1908.

Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.

Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1. Мн., 1935.

Закалинская Е.П. Вотчинные хозяйства Могилевской губернии во второй половине XVIII в. Могилев, 1958.
Крестьянское движение в России в 1881—1889 гг. М., 1960.
Крестьянское движение в России в 1890—1900 гг. М., 1960.
Крестьянское движение в России в 1870—1880 гг. М., 1968.
Храмович Г.А. Зарево над Сожем. Мн., 1971.
Польскі С.А. Нарысы геаграфіі гарадоў Беларускай ССР (1917—1941 гг.). Мн., 1973.
Чырвоны Сцяг, 1974, 14 мая; 1980, 19 студз.; 1983, 23, 26 мая; 1984, 3 сак., 17 крас.
Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII–XVIII в.). Мн., 1975.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 4. Мн., 1997.
Беларуская энцыклапедыя. Т. 8. Мн., 1999.
Памяць: Краснапольскі р-н. Мн., 2001.
Блакітны скарб Беларусі. Мн., 2007.
Республика Беларусь. Т. 4. Мн., 2007.

# КРУГЛЯНСКІ РАЁН

Знаходзіцца ў паўн.-ўсх. частцы Магілёўскай вобл. Утвораны 17.7.1924 г. ў складзе 10 сельсаветаў, да 26.7.1930 г. ў Аршанскай акрузе. 8.7.1931 г. раён скасаваны, яго тэрыторыя перададзена Бялыніцкаму, Талачынскаму і Шклоўскаму р-нам. 12.2.1935 г. Круглянскі р-н адноўлены, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., 16.9.1959 г. зноў скасаваны; уся тэрыторыя была далучана да Бялыніцкага р-на. 30.7.1966 г. ўтвораны зноў у ранейшых межах. Плошча 0,9 тыс. км$^{2}$. Насельніцтва 16,2 тыс. чал. (2008). Цэнтр раёна — г.п. Круглае. У раён уваходзяць 145 сельскіх населеных пунктаў. Адміністрацыйна падзяляецца на 7 сельсаветаў: Комсеніцкі, Круглянскі, Кручанскі, Ляснянскі, Рубежскі, Цяцерынскі, Шапялевіцкі. Мяжуе з Бялыніцкім і Шклоўскім р-намі Магілёўскай, Талачынскім — Віцебскай, Крупскім р-нам Мінскай абласцей.

На сучаснай тэрыторыі Круглянскага р-на да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. існавалі Круглянская, Паўлавіцкая і Цяцерынская воласці Магілёўскага павета. Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917 г. З лютага да кастр. 1918 г. край быў акупіраваны герм. войскамі. У студз.—лютым 1919 г. ў БССР, потым у складзе Гомельскай губ. РСФСР. З сак. 1924 г. зноў у БССР. У Вял. Айч. вайну тэр. раёна ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена войскамі 3-га Бел. фронту 26—28.6.1944 г. (знішчэнне асобных варожых часцей у тыле сав. войск працягвалася да 1.7.1944).

Праз раён праходзяць аўтадарогі на Магілёў, Талачын, Шклоў, Бялынічы.



*Рака Друць на тэрыторыі Круглянскага раёна.*

Тэрыторыя раёна ляжыць у межах Аршанска-Магілёўскай і Цэнтральнабярэзінскай раўнін. Паверхня хваліста-раўнінная. Найвышэйшы пункт раёна (223 м) знаходзіцца каля в. Баканава. З карысных выкапняў ёсць торф, пясчана-жвіровы матэрыял, гліны, суглінкі. Па тэр. раёна цякуць р. Друць і яе прытокі Бярозаўка, Аслік, Каменка, Гнілка, Вабіч. Ёсць азёры Яложынскае, Хотам'е, на мяжы са Шклоўскім р-нам ляжыць возера Безыменнае, або Палыкаўскае. На р. Друць створана Цяцерынскае вадасховішча.

26% тэр. раёна займаюць лясы. Найбольшыя лясныя масівы размешчаны ў зах. частцы раёна. Пад балотамі 3,8% тэр. Кругляншчыны. У раёне створаны гідралагічныя заказнікі мясц. значэння Шчыток, Баравуха, Забароўскае, у пойме р. Друць.

Агульная плошча с.-г. угоддзяў складае 54,9 тыс. га. Асноўныя галіны сельскай гаспадаркі — малочна-мясная жывёлагадоўля, раслінаводства. Вырошчваюць збожжавыя культуры, кукурузу, бульбу, буракі, рапс. Працуюць с.-г. вытв. кааперытывы, камунальныя с.-г. прадпрыемствы, лесагаспадарчая ўстанова «Цяцерын».

У раёне дзейнічаюць прадпрыемствы першаснай апрацоўкі лёну, харч. прам-сці, Цяцерынская ГЭС.

У сістэме раённай адукацыі 5 сярэдніх, 1 базавая, 1 пач. школа, тэрытарыяльна-школьны комплекс у в. Філатава, 5 комплексаў «школа-сад». Ёсць цэнтр пазаўрочнай дзейнасці вучняў, школа-інтэрнат. Дзейнічаюць 18 клубаў, 16 б-к, 110 калектываў мастацкай самадзейнасці, у т.л. 3 народныя.

**КРУГЛАЕ** — гар. пасёлак, цэнтр раёна і сельсавета, за 78 км на ПнЗ ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск, вузел аўтадарог на Магілёў, Шклоў, Талачын, Бялынічы. Насельніцтва — 7,2 тыс. чал. (2008). Рэльеф узгорысты, перасечаны ярам. На зах. ускраіне цячэ р. Друць (прыток р. Днепр), на Пд і У — яе прыток р. Сітня. На Пд ад гар. пасёлка на р. Друць утворана Цяцерынскае вадасховішча.

Вядома з сярэдзіны 16 ст., калі Круглае з'яўлялася прыватнай вёскай у ВКЛ. У 1579 г. мястэчка, цэнтр маёнтка, шля-



*Рака Друць на тэрыторыі Круглянскага раёна.*



хецкая ўласнасць. У канцы 16 ст. ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. У 1743 г. сяло, 60 двароў. У 2-й пал. 18 ст. 328 жыхароў, належала вял. гетману літоўскаму М.Агінскаму. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, аднесена да разраду вёсак, аддадзена ў валоданне княгіні К.Р.Дашкавай, якая пазней была дырэктарам Пецярбургскай акадэміі навук і прэзідэнтам Рас. акадэміі. У 1785 г. цэнтр маёнтка Магілёўскага павета Магілёўскага намесніцтва, 86 двароў, 590 жыхароў, 2 млыны, суканавальня, памешчыцкі дом, мураваная крама, вінакурны з-д, 2 царквы. На палатнянай ф-цы, якая дзейнічала ў Круглым,

*Панарама вул. Савецкай у г.п. Круглае.*

*Заходняя ўскраіна г.п. Круглае.*








вырабляліся палатно, сурвэткі, абрусы. У 1785 г. Круглае па хадайніцтву К.Р.Дашкавай было пераведзена ў разрад мястэчка. У вайну 1812 г., у час адступлення французаў рус. атрад у складзе 140 казакоў на чале з флігель-ад'ютантам Кутузава паручыкам Арловым 11.11.1812 г. ўвайшоў у Круглае, дзе ўзяў у палон больш за 100 французаў. 15.11.1812 г. тут знаходзілася гал. кватэра рус. войскаў на чале з М.І.Кутузавым, які загадаў стварыць у Круглым шпіталь.

У 1834 г. пачала дзейнічаць гарбарня, у 1852 г. — яшчэ адна. У 1846 г. цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце, 76 двароў, 483 прыгонныя, у фальварку 21 сям'я. У 1886 г. ў фальварку засн. крухмальная вытв-сць, на якой з 1900 г. дзейнічала паравая машына. У 1870 г. ў маёнтку 1063 дзес. зямлі, 2 карчмы, 3 вадзяныя млыны, сукнавальня. У 1880 г. 119 двароў, 528 жыхароў, 5 крам, царква, малітоўная школа, 3 млыны, нар. вучылішча. Усе будынкі былі драўляныя. 2—3 разы ў год праводзіліся аднадзённыя кірмашы. Жыхары займаліся сельскай гаспадаркай, а таксама пяньковым, кравецкім, шавецкім, сталярным і кавальскім промысламі. У 1881 г. працавалі 2 сукнавальні. Меўся хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. мястэчка, 185 двароў, 1366 жыхароў, 2 вадзяныя млыны, крупадзёрка, сукнавальня, нар. вучылішча, царк.-прыходская і малітоўная школы, 15 лавак, заезны дом, царква. У крас., чэрв. і вер. праводзіліся аднадзённыя таржкі. У фальварку 2 двары, 53



*Будынак Круглянскага райвыканкома.*



*Цэнтр г.п. Круглае (на заднім плане — раённы вузел паштовай сувязі).*



жыхары, крухмальны з-д і млын. У чэрв. 1905 г. сяляне падпалілі памешчыцкі хлеў са збожжам і зрабілі патраву панскіх пасеваў. У 1910 г. ўзведзены будынак для школы. У 1909 г. ў мястэчку 193 двары, 1302 жыхары, казённая вінная крама, лячэбны пакой (2 фельчары і акушэрка). У 1911 г. пачало дзейнічаць крэдытнае т-ва, якое ў канцы 1913 г. аб'ядноўвала 1253 члены. Праз Круглае, якое было цэнтрам воласці, праходзіў паштовы тракт з Талачына ў Магілёў. Дзейнічала паштовая станцыя, якая ў 1914 г. мела 10 коней.

Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917 г. У канцы студз. 1918 г. створаны вал. Савет. У лютым—кастр. 1918 г. Круглае акупіравана герм. войскамі. У 1917—18 гг. у складзе Магілёўскай губ., з вер. 1918 г. — у Зах. камуне. У студз.—лютым 1919 г. ў складзе БССР, з лютага 1919 г. ў складзе РСФСР, з крас. 1919 г. дзейнічаў вал. ваенна-рэв. к-т. У 1918 г. створана прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў былым памешчыцкім будынку. У школе ў 1923 г. было 266 вучняў. У 1919 г. адкрыта і школа 2-й ступені, у якой у 1923 г. налічвалася 146 вучняў. На паўд. ускраіне (вул. Савецкая) знаходзіцца магіла барацьбітоў за сав. ўладу на Кругляншчыне, у якой пахаваны В.І.Ракушаў і два яго сыны.

Паводле перапісу 1923 г. ў Круглым было 1622 жыхары, з якіх 1069 займаліся сельскай гаспадаркай. З 17.7.1924 г. Круглае — цэнтр раёна. У 1925 г. мястэчка пераведзена ў разрад вёсак, налічвала-



*Сярэдняя школа № 1 у г.п. Круглае.*



*Цэнтр пазашкольнай дзейнасці навучэнцаў у г.п. Круглае.*


Сярэдняя школа № 2 у г.п. Круглае.

ся 1344 жыхары, 250 гаспадарак, 64 вяскоўцы займаліся рознымі рамёствамі і промысламі. Дзейнічаў Нар. дом, школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, б-ка, даведачны стол, харавы, драматычны, бел. і палітычны гурткі. Толькі з кастр. 1927 г. да кастр. 1928 г. ў Нар. доме было паказана 19 спектакляў і канцэртаў, праведзена 15 кінасеансаў, зроблены 43 даклады і лекцыі, праведзена 13 вечароў самадзейнасці. Восенню 1925 г. паявіўся першы радыёпрыёмнік, а праз некалькі гадоў быў абсталяваны радыёвузел, дзякуючы якому стала магчымай радыёфікацыя райцэнтра і бліжэйшых вёсак. У 7-гадовай школе ў 1925 г. было 11 настаўнікаў, 373 вучні. У пач. 1930-х г. 7-гадовая школа пераўтворана ў сярэднюю, у 1939 г. ў ёй займаліся 739 вучняў.

У 1929 г. пачалі працаваць кавальская, кравецкая майстэрні. У ліп. 1931 г. Круглянскі р-н скасаваны, Круглае ўвайшло ў Талачынскі р-н. У 1932 г. — ільназавод, у 1933 г. зманціравана электраўстаноўка,

Будынак аддзялення ААТ «Беларусбанк» у г.п. Круглае.







*Круглянскі раённы Дом культуры.*

дзейнічалі вадзяны млын, бальніца, амбулаторыя, радзільны дом, тубдыспансер, яслі, санстанцыя, станцыя хуткай дапамогі, аптэка. У 1932 г. створана Круглянская МТС, якая ў пач. 1941 г. мела 42 трактары. У лютым 1935 г. Круглянскі р-н аднаўлены. 27.4.1935 г. выйшаў першы нумар газ. «Бальшавік Кругляншчыны» (у 1939—44 гг. выдавалася пад назвай «За сацыялістычнае спаборніцтва», з 1944 г. — «Ленінскі сцяг»). У будынку былой царквы размясціўся Дом культуры, мелася стацыянарная кінаўстаноўка і б-ка. У 1936 г. пачала дзейнічаць хлебапякарня. Са студз. 1938 г. Круглае ў Магілёўскай вобл. Быў створаны калгас, які ў 1940 г. аб'ядноўваў 67 двароў. Мелася 13 гандл. кропак.

У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. Круглае было акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У раёне разгарнулася шырокая партыз. барацьба, складваліся падп. групы. Найбольш моцная з іх дзейнічала ў Круглым. У канцы 1942 г. афармілася



*Алея герояў у г.п. Круглае.*



*Межавы крыж князёў Рурыкавічаў (10 ст.) з экспазіцыі Круглянскага раённага гісторыка-краязнаўчага музея.*

арг-цыя пад назвай «ОБЗОР» («Арганізацыя барацьбітоў за вызваленне Радзімы»). У кіраўніцтва яе былі выбраны Л.Н.Ракушаў (нач. штаба), К.І.Цітова (сакратар штаба). «ОБЗОР» устанавіў сувязь з падпольшчыкамі суседніх раёнаў і Магілёўскім к-там садзейнічання Чырвонай Арміі. Восенню 1941 г. падпольшчыкі ўстанавілі сувязь з 28-м партыз. атрадам (потым на яго базе была створана 8-я Круглянская партыз. брыгада), летам 1942 г. — з брыгадай «Чэкіст», вясной 1943 г. — з Круглянскім падп. райкомам КП(б)Б. Падпольшчыкі перадавалі партызанам зброю, збожжа, соль, медыкаменты, хірургічныя і перавязачныя матэрыялы, бланкі дакументаў, пропускі, разведдадзеныя, перапраўлялі да партызан новых барацьбітоў супраць акупантаў, папярэджвалі аб карных экспедыцыях. Летам 1942 г. падпольшчыкі падпалілі друкарню, восенню 1942 г. — склад прасаванага сена, у 1943 г. — бензасклад. Амаль усе актыўныя падпольшчыкі 25.12. 1943 г. былі арыштаваны і пасля жорсткіх катаванняў расстраляны. У парку імя 50-годдзя Кастрычніка ў 1981 г. пастаўлена стэла ў памяць аб Круглянскім антыфаш. падполлі.

*Круглянскі раённы гісторыка-краязнаўчы музей.*



*Маладзёжны цэнтр «Эльдарада» ў г.п. Круглае.*



28.6.1944 г. падраздзяленні 1-га асобнага гв. матацыклетнага палка ўварваліся ў Круглае, дзе абарону трымалі 2 батальёны праціўніка. У час бою толькі рота капітана Ігнацьева знішчыла 3 танкі, 4 гарматы, каля 50 аўтамашын і да 200 гітлераўцаў. Усе контратакі праціўніка былі адбіты. Фашысты ў гэты дзень страцілі каля 500 салдат і афіцэраў і вял. колькасць ваеннай тэхнікі. Сав. воінамі былі захоплены 23 танкі і самаходныя гарматы, 80 іншых гармат, узята ў палон каля 1000 салдат і афіцэраў. У скверы, што на вул. Савецкай, у брацкай магіле пахаваны 55 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў гэтых баях. На паўд.-зах. ускраіне, на тэр. цэнтр. сядзібы РУСП «Саўгас «Круглянскі» (вул. Жуніна) у 1969 г. пастаўлены абеліск на ўшаванне памяці воінаў і партызан, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. На вул. Магілёўскай у брацкай магіле пахавана 515 жыхароў г.п. Круглае, якія загінулі ад рук гітлераўскіх карнікаў у 1941—44 гг. Гітлераўцы разбурылі ільнозавод, усе школы і дзярж. будынкі, разрабавалі МТС. У кароткі час была адноўлена тэлеф. сувязь, пачалі дзейнасць бальніца-амбулаторыя, установы культуры, Круглянская МТС. У 1947 г. даў першую прадукцыю адноўлены ільнозавод. Для дзяцей, бацькі якіх загінулі ў гады вайны, быў адкрыты дзіцячы дом. 11.3.1967 г. Круглае атрымала статус гар. пасёлка.

23.8.1966 г. да гар. пасёлка далучаны пас. Ільнозаводскі, вёскі Востраў, Прабуджэнне, Слабодка. Ген. план забудовы Круглага распрацаваны ў 1974 г. Мінскім



філіялам Цэнтр. навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. Адм.-грамадскім цэнтрам з'яўлялася плошча імя Леніна, вакол якой размяшчаліся Дом Саветаў, паштамт. Гандл. зона размешчана ўздоўж вул. Савецкай да плошчы імя Леніна. У 1970 г. закладзены парк імя 50-годдзя Кастрычніка агульнай пл. 11 га. У 1990 г. ў райцэнтры працавалі ільнозавод, хлебазавод, станцыя тэхабслугоўвання машынна-трактарнага парку, нарыхтоўчая кантора, цэх Магілёўскага вытв. аб'яднання «Магілёўаблгаз», цэх масавага пашыву адзення камбіната быт. абслугоўвання насельніцтва, майстэрні «Сельгастэхнікі», малаказавод. Меліся райбальніца, аптэка, станцыя хуткай дапамогі, б-ка, кінатэатр, муз. і дзіцячая спарт. школы, сярэдняя і вячэрняя школы, школа-інтэрнат, 5 дзіцячых садоў, Дом піянераў і школьнікаў. Архіт.-планіровачную структуру сучаснага Круглага вызначае прамавугольная сетка вуліц з невялікімі кварталамі аднапавярховых дамоў сядзібнага тыпу па левым беразе р. Друць. Галоўная кампазіцыйная вось — вул. Савецкая, у яе паўн.-ўсх. частцы, пры ўездзе ў Круглае з боку Магілёва сфарміравалася цэнтр. плошча са скверам. На перасячэнні вуліц Савецкай і Перамогі другая плошча — гар. грамадскі цэнтр. Да гэтай плошчы прымыкае Цэнтральны парк культуры і адпачынку. Паводле ген. плана 2001 г. вядзецца шматпавярховая забудова, рэканструкцыя грамадскіх будынкаў і добраўпарадкаванне цэнтра, ствараюцца



*Круглянскі раённы цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.*



*Троіцкая царква ў Круглым.*



*Спуск да ракі ў г.п. Круглае.*

кварталы індывідуальных жылых дамоў сядзібнага тыпу ў раёне вуліц Навасёлаў, Садовай, Зарэчнай, Лукашэвіча і інш. Узведзены будынкі раённай пракуратуры, сярэдняй школы, філіяла ААТ «Беларусбанк», Цэнтра занятасці і Фонда сац. абароны насельніцтва, стадыён, Троіцкая царква і інш.

У Круглым працуюць прадпрыемствы лёгкай (ААТ «Круглянскі ільнозавод»), паліграфічнай (КУВП «Аргон»), дрэваапрацоўчай, харч. (аддз. ААТ «Магілёўскі малочны камбінат») прам-сці, камбінат каап. прам-сці, лясніцтва, будаўнічыя, рамонтныя і дарожныя арг-цыі. Дзейнічаюць Круглянскі гісторыка-краязнаўчы музей, 2 сярэднія, дзіцяча-юнацкая спарт. школы, дзіцячая школа мастацтваў, 4 дзіцячыя яслі-сады, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі. Маюцца 2 б-кі, раённы Дом культуры, Цэнтр пазаўрочнай дзейнасці навучэнцаў, раённы цэнтр маладзёжнага адпачынку «Эльдарада», стадыён, комплексныя спарт. пляцоўкі, спарт. клубы. Працуюць бальніца, паліклініка, аптэка, раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, тэр. цэнтр сац. абслугоўвання насельніцтва, гасцініца, камбінат быт. абслугоўвання, аддз. сувязі і інш.

Выдаецца раённая газ. «Сельскае жыццё», дзейнічае рэдакцыя раённага радыёвяшчання. У 2007 г. цэнтр РУСП «Саўгас «Круглянскі». У склад Круглянскага сельсавета ўваходзіць гар. пасёлак Круглае і 41 сельскі населены пункт.

*Гасцініца «Друць» у г.п. Круглае.*



*Раённая паліклініка ў г.п. Круглае.*



**АЗЁРЫ** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 14 км на У ад Круглага, 64 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На паўд. ускраіне цячэ р. Альхоўка, якая ўпадае ў воз. Бязыменнае. Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Шклоў, якая праходзіць паблізу вёскі. 15 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

За 0,2 км на ПнУ ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік (4 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло Язёры ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. У 1858 г. 42 рэвізскія душы. У 1864 г. адкрыта школа граматы, якая ў 1884 г. пераўтворана ў царк.-прыходскую. У 1904 г. для яе ўзведзены будынак. У пач. 1920-х г. на базе дарэв. была створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. навучалася 70 дзяцей. З 20.8. 1924 г. ў Круглянскім р-не Аршанскай акругі (да 26.7.1930 г.). У 1931—35 гг. у Шклоўскім, у 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-нах. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 19 гаспадарак, 35 жыхароў. У 1993 г. 17 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Загаранкі), свінагадоўчая ферма, пра-



цаваў магазін. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з З на У, уздоўж берага возера. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЛЕКСАНДРОВА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад Круглага, 84 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Друць (прыток р. Дняпро), на зах. ускраіне — ручай, яе прыток. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Круглае—Талачын. 3 гаспадаркі, 12 жыхароў (2007).

На ўсх. ускраіне захаваўся курган, які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 19 ст. Гаспадар маёнтка валодаў тут у 1880 г. 1100 дзес. зямлі, вадзяным млынам і сукнавальняй. У 1909 г. вёска, у Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 20 двароў, 130 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х гадах вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 10 двароў, 32 жыхары. У Вялікую Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1943 г. спалілі 9 двароў. Вызвалена 27.6.1944 г. Пасля вайны адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1993 г. 8 гаспадарак, 21 жыхар, вёска ў складзе калгаса «Свабода» (цэнтр — в. Грыбіна), размяшчаліся фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая. Планіровачна вёска складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі жылымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЛЬШАНІКІ 1** — вёска ў Круглянскім с/с, за 5 км на У ад Круглага, 73 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Шклоў, якая праходзіць побач з вёскай. 11 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1784 г. 7 двароў, 99 жыхароў. У вайну 1812 г. разрабавана і разбурана французскімі войскамі. У 1858 г. 39 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. Гаспадар маёнтка меў тут у 1862 г. 200 дзес. зямлі. У 1880 г. 15 двароў, 127 жыхароў, якія апрача земляробства займаліся пяньковым, калёсным і ганчарным промысламі. Меўся хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882). Паводле перапісу 1897 г. вёска і пасёлак (3 двары, 3 жыхары) у Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 36 двароў, 269 жыхароў. У аднайменным пасёлку, што знаходзіўся паблізу, было 3 двары, 3 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 42 двары, 170 жыхароў, на хутары 1 двор, 7 жыхароў. У 1913 г. адкрыта земская школа. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1926 г. 61 двор, 91 жыхар. На базе



*Будынак Дома быту ў г.п. Круглае.*



*Будынак Белдзяржстраха ў г.п. Круглае.*

дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. навучалася 67 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны земляроб», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1931—35 гг. у Талачынскім, у 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-нах. У 1986 г. 27 гаспадарак, 57 жыхароў, у складзе калгаса імя Г.Дзімітрава (цэнтр — в. Альшанікі 2), размяшчаліся вытв. брыгада, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, ферма буйной рагатай жывёлы, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, б-ка, клуб, стацыянарная кінаўстаноўка. У 1993 г. 16 гаспадарак, 32 жыхары. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, уздоўж шашы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЛЬШАНІКІ 2** — вёска ў Круглянскім с/с, за 4 км на ПдУ ад Круглага, 74 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Шклоў, якая праходзіць праз вёску. 76 гаспадарак, 235 жыхароў (2007).

Пасёлак, які знаходзіўся паблізу в. Альшанікі 1, у 1897 г. налічваў 3 двары, 3 жыхароў. Ён хутка рос і ў пач. 1920-х г. атрымаў статус вёскі. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1926 г. 25 двароў, 130 жыхароў. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 49 гаспадарак, 121 жыхар, цэнтр калгаса імя Г.Дзімітрава. У вёсцы размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, б-ка, магазін, клуб, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1993 г. 68 гаспадарак, 169 жыхароў. Аснову планіроўкі складаюць 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя шыротна, перпендыкулярна да шашы і злучаныя ў цэнтры кароткай прамалінейнай папярочнай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўд. ускраіне. У 2007 г. магазін, пач. школа.

**АМЕРЫКА** — былая вёска ў Ляснянскім с/с, за 10 км на У ад Круглага, 71 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн межавала з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Круглае—Шклоў.

У 19 ст. тут пасяліліся эмігранты, якія выязджалі ў Злучаныя Штаты Амерыкі ў пошуках лепшага жыцця, але вярнуліся на радзіму. Паводле перапісу 1897 г. пасёлак у Круглянскай воласці Магілёўскага павета, 4 двары, 25 жыхароў. У 1909 г. 3 двары, 19 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1924 г. створана с.-г. крэдытнае т-ва. У 1926 г. 5 двароў, 29 жыхароў. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. У 1930-х гадах вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1993 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Елькаўшчына). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**АРАВА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 11 км на Пн ад Круглага, 89 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. На ПнЗ цячэ р. Бярозаўка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Круглае—Талачын. 28 гаспадарак, 42 жыхары (2007).

За 0,2 км на Пд ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік (9 насыпаў), за 0,25 км на ПдЗ — курган, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома з 17 ст. У 1667 г. ў Аршанскім павеце ВКЛ. У 1835 г. засн. вінакурня (у 1895 г. ўстаноўлена паравая машына, працавала 8 рабочых). Непадалёку быў маёнтак Вялікая Арава, гаспадар якога ў 1873 г. валодаў 1428 дзес. зямлі, меў апрача вінакурні вадзяны млын. Дзейніча-



ла драўляная царква (адкрыта не пазней 1880). У 1892 г. пачала працаваць картонная мануфактура (у 1894 г. 27 рабочых). Паводле перапісу 1897 г. фальваркі Вялікая Арава (2 двары, 41 жыхар, вінакурны з-д, вадзяны млын) і Малая Арава (1 двор, 17 жыхароў, вадзяны млын), пас. Арава (4 двары, 52 жыхары), сядзіба Вялікая Арава (2 двары, 17 жыхароў) і вадзяны млын Малая Арава (3 двары, 16 жыхароў). З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 31 двор, 171 жыхар, на хутары 2 двары, 10 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Зялёная дуброва». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 59 гаспадарак, 126 жыхароў, у складзе калгаса «Свабода» (цэнтр — в. Грыбіна), размяшчалася вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, клуб, магазін. У 1993 г. 41 гаспадарка, 93 жыхары. Рака падзяляе вёску на зах. (да кароткай, дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаецца на Пн кароткая прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі) і ўсх. (да гал. прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі на У далучаюцца 2 кароткія вуліцы шыротнай арыентацыі) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц., драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АРЛОЎКА** — былая вёска ў Комсеніцкім с/с, за 16 км на Пд ад Круглага, 62 км ад Магілёва, 35 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Галоўчын—Круглае, якая праходзіць каля вёскі.

Заснавана ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. пасёлак (17 двароў, 98 жыхароў) і хутар (1 двор, 10 жыхароў). У ліп. 1931 г. арганізаваны калгас «Камунар». У 1940 г. 21 двор, 78 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліпеня 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў крас. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 3 жыхароў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары, у складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Комсенічы). Традыцыйныя сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**АРЭХАЎКА** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Круглага, 89 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на Пд, У і Пн мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Гнілка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дудаковічы і далей па шашы Талачын—Галоўчын. 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. У 1797 г. 6 двароў, уласнасць Дудакоўскага дамініканскага кляштара. У 1857 г. вёска ў Магілёўскім павеце, дзярж. ўласнасць. У 1880 г. 16 двароў, 123 жыхары. 5 вяскоўцаў займаліся калёсным промыслам. У 1882 г. меўся хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 22 двары, 149 жыхароў. У 1909 г. 24 двары, 186 жыхароў. Каля вёскі дзейнічаў шкіпінарна-дзёгцевы з-д. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1926 г. 34 двары, 171 жыхар. У 1929 г. арганізаваны калгас «Перамога», які з 1930-х г. абслугоўвала Круглянская МТС. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 26 вяскоўцаў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 44 гаспадаркі, 66 жыхароў, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Лясныя), размяшчаліся вытв. брыгада і свінагадоўчая ферма. У 1993 г. 27 гаспадарак, 40 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай шыротна, уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЎСІШЧА** — вёска ў Шапялевіцкім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Круглага, 78 км ад





Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шапялевічы—Круглае. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

У 1858 г. вёска, уласнасць памешчыка, 22 жыхары мужчынскага полу, мелася карчма. Паводле перапісу 1897 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага пав. Магілёўскай губ., 15 двароў, 111 жыхароў. У 1909 г. 16 двароў, 128 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бялыніцкім р-не. З 12.2.1935 г. ў Круглянскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 30 двароў, 190 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 27 двароў, 136 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліпеня 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, у маі 1944 г. спалілі 26 двароў, загубілі 12 жыхароў. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 7 гаспадарак, 15 жыхароў. У 1993 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе саўгаса «Шапялевічы» (цэнтр — в. Шапялевічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АХІМКАВІЧЫ 1** — вёска ў Комсеніцкім с/с, за 12 км на ПдУ ад Круглага, 66 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На Пн і З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Комсенічы і далей па шашы Круглае—Галоўчын. 21 гаспадарка, 39 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст., валоданне М.Агінскага, вял. гетмана літоўскага. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1784 г. 22 двары, 161 жыхар. У 1858 г. ўласнасць памешчыка. Гаспадар маёнтка валодаў тут у 1868 г. 146 дзес. зямлі, у 1870 г. меў у вёсках Ахімкавічы і Запруддзе 158 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1882 г. ў вёсцы дзейнічаў хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. вёска Ахімкавічы 1 (яна ж Самадумка) у Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 33 двары, 212 жыхароў. У 1908 г. адкрыта царк.-прыходская школа, яна размясцілася ў наёмным будынку. У 1909 г. 26 двароў, 186 жыхароў. На базе дарэв. у 1919 г. створана прац. школа 1-ступені імя Л.М.Талстога, у якой у 1924 г. было 28 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 31 двор, 164 жыхары. Вясной 1931 г. арганізаваны калгас «Вольная праца», які ў студз. 1939 г. меў 85 галоў буйной рагатай жывёлы, 72 кані, 48 авечак, працавалі клуб, б-ка, цырульня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 24 вяскоўцы. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1993 г. 37 гаспадарак, 64 жыхары, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Запруддзе), размяшчаліся вытв. брыгада і свінагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма ген.-палкоўніка П.А.Ласюкова (1902—70).

**АХІМКАВІЧЫ 2** — вёска ў Комсеніцкім с/с, за 11 км на ПдУ ад Круглага, 67 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ўсх. ускраіне праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Тубушкі і далей па шашы Круглае—Шклоў. 12 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Вядома з 1777 г. як вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Шупені Магілёўскага павета Магілёўскага намесніцтва, 49 двароў, 313 жыхароў, меўся млын. Паводле перапісу 1897 г. в. Ахімкавічы 2 (яна ж Слабодка) у Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 20 двароў, 158 жыхароў. У



1909 г. 26 двароў, 186 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х гг. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 9 вяскоўцаў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 20 гаспадарак, 43 жыхары. У 1993 г. 17 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Запруддзе), ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАКАНАВА** — вёска ў Рубежскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Круглага, 94 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Філатава, Грыбіна і далей па шашы Талачын—Галоўчын. 53 гаспадаркі, 132 жыхары (2007).

Вядома з пач. 20 ст. У 1909 г. фальварак, 21 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У маі 1935 г. арганізаваны калгас «1 Мая». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1993 г. 56 гаспадарак, 158 жыхароў, у складзе саўгаса «Някрасава» (цэнтр — в. Філатава), свінагадоўчая ферма. Планіроўка Г-падобная. Больш працяглая вуліца прамалінейная, мерыдыянальнай арыентацыі. Ад яе паўн. канца перпендыкулярна адыходзіць на З другая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАНЬКІ** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 14 км на Пд ад Круглага, 65 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Галоўчын—Круглае. 21 гаспадарка, 36 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. як уладанне вял. гетмана літоўскага М.Агінскага. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1784 г. належала княгіні К.Р.Дашкавай, 12 двароў, 99 жыхароў. У 1846 г. ў складзе маёнтка Круглае, уладанне князя С.А.Крапоткіна, 14 двароў, 84 жыхары. У 1858 г. 52 жыхары мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 34 двары, 240 жыхароў. Меліся школа граматы і хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882 г.). З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 і 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 36 двароў, 180 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пуцілавец», адкрыта пач. школа. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У памяць аб 101 земляку з вёсак калгаса «Маяк», якія загінулі ў Вял. Айч. вайну ў барацьбе супраць фашызму, у цэнтры вёскі ў 1968 г. пастаўлены абеліск. У 1986 г. 42 гаспадаркі, 74 жыхары. У 1993 г. 33 гаспадаркі, 60 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Прыгані 2), размяшчаліся майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з працяглай плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн перпендыкулярна далучаецца з У кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЕЛАРУСЬ** — вёска ў Шапялевіцкім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Круглага, 75 км ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф узгорысты, на Пд вёска мяжуе з лесам. На У цячэ р. Аслік (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шапялевічы—Круглае. 20 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).

Засн. ў 1919 г., калі для толькі што створанай с.-г. арцелі «Беларусь» была вылучана зямля, на якой пасяліліся вы-

хадцы з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Бялыніцкім р-не. З 12.2.1935 г. ў Круглянскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. пасёлак, 8 двароў, 50 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 15 двароў, 62 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў сак. 1944 г. спалілі 12 дамоў. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1959—66 гг. вёска ў Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 24 гаспадаркі, 44 жыхары. У 1993 г. 26 гаспадарак, 68 жыхароў, у складзе саўгаса «Шапялевічы» (цэнтр — в. Шапялевічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БОЎСЕВІЧЫ** — вёска ў Шапялевіцкім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Круглага, 70 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд і З мяжуе з лесам. На З цячэ р. Аслік (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Конанавічы, Цяцерына і далей па шашы Бялынічы—Круглае. 50 гаспадарак, 76 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска, уласнасць памешчыка. 154 жыхары мужчынскага полу. У 1880 г. 60 двароў, 403 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. Меўся хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882). Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 78 двароў, 549 жыхароў, школа граматы, царква. У 1909 г. 80 двароў, 546 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бялыніцкім р-не. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня, дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якая ў канцы 1920-х г. была ператворана ў 7-гадовую. З 12.2.1935 г. вёска ў Круглянскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 129 двароў, 703 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 2 магілах, што на вясковых могілках, пахаваны 4 партызаны брыгад «Чэкіст» і 8-й Круглянскай, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну ў баях супраць гітлераўскіх карнікаў. У 1959—66 гг. вёска ў Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 110 гаспадарак, 234 жыхары, у складзе саўгаса «Шапялевічы» (цэнтр — в. Шапялевічы), размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін, 8-гадовая школа, б-ка. У 1993 г. 91 гаспадарка, 187 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай дугападобнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, якую на З і У перакрыжоўваюць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд. ускраіне.

**БРАЗГУЧКА** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 7 км на У ад Круглага, 101 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Мехава і далей па шашы Круглае—Шклоў. 10 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. фальварак Бразгушка (ён жа Мехаў) у Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 1 двор, 4 жыхары. У 1909 г. маёнтак, 1 двор, 2 жыхары. У 1922 г. для створанай с.-г. арцелі тут была адведзена зямля і ў хуткім часе узнік пасёлак. Арцель атрымала назву пасёлка і існавала на працягу 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. ў Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 9 двароў, 10 жыхароў. У 1930-х гг. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 14 гаспадарак, 39 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Елькаўшчына), размяшчаліся цагельны з-д «Бразгучка», магазін. У 1993 г. 22 гаспадаркі, 51 жыхар. Традыц. сял. сядзібы і двухпавярховы 8-кватэрны дом пастаўлены ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі.

**БУРАЎШЧЫНА** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 14 км на У ад Круглага, 64



км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. На Пн ад вёскі праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Шклоў, якая праходзіць побач з вёскай. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 33 двары, 229 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. На месцы былой карчмы (асобна ад вёскі) быў 1 двор, 5 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 38 двароў, 235 жыхароў, на месцы былой карчмы — 1 двор, 7 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 53 двары, 290 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новая Бураўшчына», які затым абслугоўвала Круглянская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 15 вяскоўцаў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1993 г. 28 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Загаранкі), ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якіх на Пн далучаецца прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БУРНЕЎКА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Круглага, 88 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на Пн і З мяжуе з лесам. На паўн.-ўсх. ускраіне цячэ р. Бярозаўка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Скураты, Лавуткі і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

У 19 ст. прыватнае ўладанне. Гаспадар маёнтка меў тут у 1860 г. 349 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. фальварак пры р. Бярозаўка, у Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 1 двор, 24 жыхары. У 1909 г. 1 двор, 9 жыхароў. У 1919 г. ў маёнтку створана с.-г. арцель «Бурнеўка», ператвораная затым у калгас. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. с.-г. арцель (5 двароў, 19 жыхароў) і пасёлак (4 двары, 17 жыхароў). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1993 г. 8 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе калгаса «Свабода» (цэнтр — в. Грыбіна). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БУШОЎКА** — вёска ў Комсеніцкім с/с, за 15 км на ПдУ ад Круглага, 63 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. На ўсх. ускраіне праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Комсенічы і далей па шашы Галоўчын—Круглае. 17 гаспадарак, 47 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска Багушоўка. З 1785 г. ў складзе маёнтка Ількавічы Магілёўскага павета, 20 двароў, 112 жыхароў. У 1858 г. 56 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1881 г. 138 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Чарнаруцкай воласці Магілёўскага павета, 21 двор, 148 жыхароў. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. Побач быў аднайменны фальварак, 1 двор, 12 жыхароў. У 1909 г. ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, у вёсцы 22 двары, 141 жыхар, у фальварку — 1 двор, 12 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 26 двароў, 136 жыхароў. У ліп. 1931 г. арганізаваны калгас «2-я пяцігодка». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 10 вяскоўцаў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1993 г. 23 гас-

падаркі, 45 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Комсенічы), размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯЛАЎКА** — вёска ў Шапялевіцкім с/с, за 33 км на ПдЗ ад Круглага, 81 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на Пн і З мяжуе з лесам. На паўд.-ўсх. ускраіне цячэ р. Казлянка (прыток р. Можа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ваўкаўшчына, Шапялевічы і далей па шашы Галоўчын—Круглае. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Паводле перапісу 1897 г. вёска, 17 двароў, 137 жыхароў. У 1909 г. ў Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 66 жыхароў. У 1917 г. 11 двароў, 72 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Бялыніцкім р-не. З 12.2.1935 г. ў Круглянскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 14 двароў, 87 жыхароў. У крас. 1931 г. ў вёсцы арганізаваны калгас «Зялёны гай». У 1940 г. 16 двароў, 80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 20.12. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 13 жыхароў. На паўн. ускраіне вёскі, на месцы расстрэлу вяскоўцаў у 1981 г. пастаўлены помнік. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1993 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе саўгаса «Шапялевічы» (цэнтр — в. Шапялевічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯРОЗКА** — былая вёска ў Кручанскім с/с, за 25 км на З ад Круглага, 103 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд, У і З мяжуе з лесам. На захадзе цячэ р. Бярозка (прыток р. Можа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Круча і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае.

У 1857 г. засценак у Магілёўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 6 двароў, 44 жыхары, якія апрача земляробства займаліся вырабам ільняной і пяньковай кудзелі і тканіны. Побач быў невялікі маёнтак, гаспадар якога меў у 1882 г. 400 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 5 двароў, 46 жыхароў, у аднайменных засценку — 2 двары, 26 жыхароў, у фальварку — 1 двор, 9 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. ў Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 21 двор, 105 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 19 двароў, 52 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1943 г. сабралі 47 вяскоўцаў у адну хату і спалілі іх. У 1967 г. на магіле ахвяр фашызму насыпаны курган і пастаўлены абеліск. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў. У 1993 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары, у складзе саўгаса «Круча» (цэнтр — в. Круча). Традыц. сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены няшчыльна ўздоўж кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**ВАРГУЦЕВА** — вёска ў Рубежскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Круглага, 94 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Філатава і далей па шашы Круглае—Талачын. 16 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

За 1,3 км на Пн ад вёскі знаходзіцца паселішча эпохі Кіеўскай Русі, а праз 1,5 км, на левым беразе р. Бярозаўка — курганны могільнік. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з 18 ст. У 1743 г. сяло Варкуцёў у Аршанскім павеце. У 1880 г. 32 двары, 209 жыхароў. Частка жыхароў займалася кравецкім і калёсным промысламі. Меўся хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. ў Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета, 46 двароў, 362 жыхары. У 1909 г.



56 двароў, 285 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. ў Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У ліп. 1931 г. арганізаваны калгас імя Фелікса Кона. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 47 гаспадарак, 91 жыхар, у складзе саўгаса імя Някрасава (цэнтр — в. Філатава), размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1993 г. 34 гаспадаркі, 59 жыхароў. Планіровачна складаецца з дугападобнай працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой у цэнтры далучаецца з З Г-падобная вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма бел. гісторыка і кнігавыдаўца І.П.Хаўратовіча (н. ў 1929).

**ВАСІЛЬЕЎКА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 4 км на ПнЗ ад Круглага, 82 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Свабода і далей па шашы Круглае—Талачын. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

За 0,1 км на ПнУ ад вёскі, на правым беразе р. Друць знаходзіцца курганны могільнік (14 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасны пасёлак засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 13 двароў, 74 жыхары. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 15 гаспадарак, 39 жыхароў. У 1959—66 гг. ў Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 15 гаспадарак, 39 жыхароў. У 1993 г. 11 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе саўгаса «Круглянскі» (цэнтр — г.п. Круглае). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАСТОЧНЫ** — пасёлак у Круглянскім с/с, за 2 км на ПдУ ад Круглага, 76 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Круглае, якая праходзіць каля вёскі. 91 гаспадарка, 320 жыхароў (2007).

Пасёлак узнік са стварэннем у 1969 г. саўгаса «Усход» (спецыялізаваўся на мясамалочнай жывёлагадоўлі), з'яўляўся яго цэнтр. сядзібай. У 1986 г. 32 гаспадаркі, 75 жыхароў. У 1993 г. 64 гаспадаркі, 186 жыхароў. У пасёлку размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Паралельна да гэтай склалася новая вуліца з мураванай аднапавярховай забудовай. Гасп. сектар — на паўд.-усх. ускраіне.



*І.П.Хаўратовіч.*

**ВАЎКАНОСАВА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 8 км на Пн ад Круглага, 86 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На паўн.-зах. ускраіне цячэ р. Гнілка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Навапруддзе і далей па шашы Круглае—Талачын. 23 гаспадаркі, 45 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) перададзена ва ўладанне княгіні К.Р.Дашкавай. У 1785 г. ў складзе маёнтка Круглае Магілёўскага павета Магілёўскага намесніцтва, 25 двароў, 151 жыхар, уласнасць памешчыка. У вайну 1812 г. разбурана і разрабавана французскімі войскамі. У 1846 г. ў Магілёўскім павеце, 26 двароў, 173 жыхары. У 1858 г. 108 жыхароў мужчынскага полу, у 1880 г. 30 двароў, 198 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам розных быт. рэчаў з лыка і кары. Меўся хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 43 двары, 291 жыхар. Мелася школа граматы. У 1909 г. 49 двароў, 362 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не.

У 1931—35 гг. ў Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 72 двары, 388 жыхароў. У сак. 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвань». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.01.1944 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1959—66 гг. ў Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 53 гаспадаркі, 112 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях камунізму» (цэнтр — в. Старое Радча), размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, зернедрабільня, магазін, сярэдняя школа, клуб, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 1993 г. 37 гаспадарак, 30 жыхароў. У 2008 г. сярэдняя школа, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ вуліц. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн узведзена 10 мураваных аднапавярховых аднакватэрных дамоў.

**ВАЎКОЎШЧЫНА** — вёска ў Шапялевіцкім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Круглага, 80 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На Пд і Пн мяжуе з лесам. На зах. ускраіне цячэ р. Казлянка (прыток р. Можа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шапялевічы—Круглае. 14 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) аддадзена ва ўладанне ген.-лейтэнанту С.Г.Зорычу. У 1784 г. 4 двары, 34 жыхары. У 1847 г. вёска ў Магілёўскім павеце, цэнтр маёнтка. У 1885 г. 17 двароў, 108 жыхароў, царква. Паводле перапісу 1897 г. ў Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета, 25 двароў, 160 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У 1901 г. адкрыта земская школа. У 1907 г. 23 двары, 197 жыхароў. У 1917 г. 25 двароў, 188 жыхароў. На базе дарэв. у 1919 г. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. навучалася 30 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. ў Бялыніцкім р-не. З 12.2.1935 г. ў Круглянскім р-не. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 35 двароў, 203 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ваўкоўшчына». У 1940 г. 44 двары, 262 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1943 г. спалілі 35 двароў, загубілі 13 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 25 гаспадарак, 56 жыхароў, у складзе саўгаса «Шапялевічы» (цэнтр — в. Шапялевічы), размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, б-ка, клуб, магазін, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1993 г. 19 гаспадарак, 42 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВУГЛЯНЫ** — вёска ў Кручанскім с/с, за 16 км на З ад Круглага, 9 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На паўдн. ускраіне цячэ р. Рутка (прыток р. Аслік). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Паўлавічы і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 23 гаспадаркі, 36 жыхароў (2007).

У 19 ст. вёска. У 1858 г. 72 жыхары мужчынскага полу, з'яўлялася ўласнасцю памешчыка. У 1880 г. 34 двары, 192 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кушнерскім промыслам. У 1888 г. адкрыта школа граматы. у 1892 г. засн. вінакурнае прадпрыемства, на якім у 1895 г. ўстаноўлена паравая машына (у 1900 г. налічваўся 21 рабочы). Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета, 43 двары, 312 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. Побач былі аднайменная сядзіба (2 двары, 12 жыхароў) і фальварак (34 жыхары). У 1909 г. ў вёсцы 44 двары, 330 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 7 жыхароў. На базе дарэв. у 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. займаліся 51 хлопчык і дзяўчынка, школа размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. ў Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай



вобл. У 1926 г. 31 двор, 183 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. ў Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 38 гаспадарак, 80 жыхароў. У 1993 г. 39 гаспадарак, 73 жыхары, у складзе саўгаса «Круча» (цэнтр — в. Круча), размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКАЕ ЗУБАВА** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Круглага, 89 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З ад вёскі пачынаецца р. Гнілка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лясныя і далей па шашы Круглае—Талачын. 30 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).

У 1880 г. 25 двароў, 207 жыхароў, у вёсцы размяшчаліся дзярж. збожжавыя склады. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам сукна, кавальскім, шорным і іншымі промысламі, нарыхтоўкай лясных матэрыялаў для драўляных вырабаў. Паводле перапісу 1897 г. ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 36 двароў, 246 жыхароў. Меліся школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 45 двароў, 334 жыхары. У 1912 г. школа граматы пераўтворана ў земскую. На базе дарэв. у 1920 г. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. быў 101 вучань. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. ў Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 70 двароў, 395 жыхароў. У 1929 г. 13 гаспадарак аб'ядналіся ў т-ва па сумеснай апрацоўцы зямлі, потым быў арганізаваны калгас «Барацьба за сацыялізм». У 1930-я г. 4-гадовая школа пераўтворана ў 7-гадовую. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 44 вяскоўцы. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 59 гаспадарак, 123 жыхары. У 1993 г. 47 гаспадарак, 87 жыхароў, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Дудаковічы), размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкамі. З ПдЗ да іх далучаецца яшчэ адна прамалінейнай вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКІЯ КАСКЕВІЧЫ** — вёска ў Рубежскім с/с, за 14 км на З ад Круглага, 92 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На паўн. ускраіне бярэ пачатак р. Аслік (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Паўлавічы і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

У 1880 г. вёска, 22 двары. 128 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў в. Каскевічы было 27 двароў, 184 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, у в. Каскевічы 2 — 9 двароў, 59 жыхароў, у в. Каскевічы 3 — 10 двароў, 67 жыхароў. У 1909 г. ў Каскевічах 1 25 двароў, 196 жыхароў, у Каскевічах 2 — 7 двароў, 47 жыхароў, у Каскевічах 3 — 12 двароў, 73 жыхары, уваходзілі ў Паўлавіцкую вол. Магілёўскага павета. У 1910 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 42 двары, 229 жыхароў. На базе дарэв. была створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 73 вучні. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях да сацыялізму», які ў к астр. 1931 г. ўвайшоў у склад суседняга калгаса «Перамога». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1943 г. спалілі 45 двароў. На могілках у брацкай магіле пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў 1943 г. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 34 гас-

падаркі, 72 жыхары. У 1993 г. 20 гаспадарак, 32 жыхары, у складзе саўгаса імя Някрасава (цэнтр — в. Філатава), размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯСНА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 6 км на З ад Круглага, 84 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Марцьянавічы—Круглае, якая праходзіць праз вёску. 10 гаспадарак, 35 жыхароў (2007).

Засн. як пасёлак у пач. 1920-х г. У 1926 г. 8 двароў, 50 жыхароў. У 1930-х гг. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 10 гаспадарак, 26 жыхароў. У 1993 г. ў складзе саўгаса «Круглянскі» (цэнтр — г.п. Круглае). Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, перпендыкулярна да шашы і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАЙ** — вёска ў Круглянскім с/с, за 4 км на Пн ад Круглага, 82 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Талачын—Круглае. 40 гаспадарак, 84 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1926 г. пасёлак, 7 двароў, 44 жыхары. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1940-х г. вёска. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 80 гаспадарак, 136 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях камунізму» (цэнтр — в. Комсенічы), размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, клуб, магазін. У 1993 г. 53 гаспадаркі, 111 жыхароў. Планіровачна складаецца з вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У — гасп. сектар.

**ГАЛАЕ** — вёска ў Круглянскім с/с, за 3 км на Пн ад Круглага, 81 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Талачын—Круглае, якая праходзіць побач з вёскай. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета пры ўрочышчы Галае быў шкіпінарна-дзёгцевы з-д (1 двор, 6 жыхароў). У 1920-я г. пасёлак хутка рос. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў. У 1993 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў, у складзе саўгаса «Усход» (цэнтр — пас. Усходні). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАЛОШЫНА** — былая вёска ў Рубежскім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Круглага, 99 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёску Філатава і далей па шашы Талачын—Круглае.

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. пасёлкі Калошына (2 двары, 13 жыхароў), Калошына (ён жа Лялькі; 2 двары, 16 жыхароў), Калошына (2 двары, 7 жыхароў) і хутар Калошына (1 двор, 15 жыхароў). З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. хутары, 7 двароў, 32 жыхары. У 1930-я г.



вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 8 гаспадарак, 10 жыхароў, у складзе саўгаса «Някрасава» (цэнтр — в. Філатава). У 1993 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар. Планіровачна складалася з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГЛЫБОКАЕ** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Круглага, 75 км ад Магілёва, 41 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на ПдУ цячэ р. Каменка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па шашы Шапялевічы—Круглае, якая праходзіць пра вёску. 25 гаспадарак, 42 жыхары (2007).

У 1848 г. вёска (30 двароў, 210 жыхароў) у складзе маёнтка Цяцерын у Магілёўскім павеце, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. 50 двароў, 420 жыхароў, дзейнічала школа граматы. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 63 двары, 434 жыхары. Школа граматы былаператворана ў земскую, для якой у 1915 г. ўзведзены асобны будынак. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 г. ў Бялыніцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 27 двароў, 150 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якую у 1926 г. наведваў 61 вучань. Пры школе меліся б-ка, с.-г. і драматычны гурткі. У сак. 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». У 1930-я г. школа ператворана ў 7-гадовую. У 1940 г. 94 двары, 463 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі 91 двор, загубілі 4 жыхароў. У цэнтры вёскі пахаваны Герой Сав. Саюза, партыз. разведчык-падрыўнік А.С.Лукашэвіч, які ў 1943 г., натрапіўшы на засаду гітлераўцаў і будучы параненым, падарваў апошняй гранатай сябе і фаш. карнікаў. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. 17.7. 1967 г. да вёскі далучаны пас. Шырокі. У 1986 г. 63 гаспадаркі, 116 жыхароў, у складзе саўгаса «Цяцерына» (цэнтр — в. Цяцерына), размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, б-ка, клуб, магазін. фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1993 г. 52 гаспадаркі, 95 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, ад якой на Пд адыходзіць на У кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*А.С.Лукашэвіч.*

**ГОЕНКА** — вёска ў Шапялевіцкім с/с, за 33 км на ПдЗ ад Круглага, 81 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шапялевічы—Круглае. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Паводле перапісу 1897 г. 27 двароў, 208 жыхароў, дзейнічаў смалакурны з-д. У 1907 г. ў Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета, 27 двароў, 189 жыхароў. Каля смалакурнага з-да размяшчаўся 1 двор, 5 жыхароў. У 1917 г. 28 двароў, 225 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бялыніцкім р-не. З 12.2.1935 г. ў Круглянскім р-не. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. вёска, 44 двары, 227 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 35 двароў, 184 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў снеж. 1942 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 68 жыхароў. У магіле, што на паўд. ускраіне вёскі, пахаваны жыхары, расстраляныя гітлераўцамі. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 11 гаспадарак, 24 жыхары. У 1993 г. 6 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе саўгаса «Шапялевічы» (цэнтр — в. Шапялевічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГРЫБІНА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад Круглага, 84 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне цячэ ручай (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Круглае—Талачын. 109 гаспадарак. 363 жыхары (2007).

Вядома з пач. 19 ст. У 1808 г. в. Грыбін (13 двароў, 91 жыхар) у Сенненскім павеце, уласнасць царквы. Памешчык у 1865 г. меў тут 203 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. назву Грыбіна мелі вёска (3 двары, 25 жыхароў), сяльцо (3 двары, 18 жыхароў), сядзіба (1 двор, 8 жыхароў) і фальварак (1 двор, 12 жыхароў) у Круглянскай вол. Магілёўскага павета. У 1909 г. ў вёсцы Грыбін 5 двароў, 30 жыхароў, у аднайменных сяльцы — 2 двары, 15 жыхароў, фальварку — 1 двор, 3 жыхары, засценку — 2 двары, 7 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. ў Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. вёска (10 двароў, 47 жыхароў) і хутар (13 двароў, 74 жыхары). У 1924 г. арганізавана калект. арцель па апрацоўцы зямлі, у крас. 1931 г. — калгас «Авангард». У Вял. Айч.вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У цэнтры вёскі ў памяць аб 104 земляках з вёсак калгаса «Свабода», якія загінулі на фронце, у 1968 г. пастаўлены абеліск. У 1986 г. 34 гаспадаркі, 93 жыхары, цэнтр. сядзіба калгаса «Свабода». У вёсцы размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, зернедрабільня, устаноўка па прыгатаванні вітаміннай мукі, ветэрынарны ўчастак, клуб, стацыянарная кінаўстаноўка, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, сталовая, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1993 г. 104 гаспадаркі, 340 жыхароў. Планіровачна складаецца з гал. крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, уздоўж ручая, ад якой на З адыходзіць другая, кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Уздоўж вуліцы, якая адыходзіць ад гал., вядзецца будаўніцтва мураванымі аднапавярховымі аднакватэрнымі жылымі дамамі. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. На паўд. ускраіне — гасп. сектар, на паўн. — сад. Дзейнічаюць комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін, фельч.-акушэрскі пункт.

**ДАРОЖКАВІЧЫ** — вёска ў Кручанскім с/с, за 15 км на З ад Круглага, 94 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдУ мяжуе з лесам. На З цячэ ручай (прыток р. Аслік). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 27 гаспадарак, 50 жыхароў (2007).

У 1848 г. вёска (22 двары, 223 жыхары), у складзе маёнтка Паўлавічы ў Магілёўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў вёсцы 108 жыхароў мужчынскага полу, у 1860 г. 31 двор, 224 жыхары. З 1872 г. працавала смалакурня. У 1880 г. 52 двары, 279 жыхароў, хлебазапасны магазін. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся пяньковым промыслам. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета, 61 двор, 414 жыхароў, школа граматы. Побач была сядзіба, 1 двор, 5 жыхароў. У 1902 г. школа граматы ператворана ў земскую. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 90 двароў, 523 жыхары. У пач. 1920-х гг. на базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. навучалася 107 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавала ваўначоска. У 1940 г. 87 двароў, 372 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1943 г. спалілі 84 двары, загубілі 33 жыхары. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1993 г. 56 гаспа-



дарак, 112 жыхароў, у складзе саўгаса «Круча» (цэнтр — в. Круча), размяшчаліся вытв. брыгада, свінагадоўчая ферма, клуб, магазін. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма Героя Сацыяліст. Працы, майстра Віцебскага дывановага камбіната П.Дз.Клімкова (н. ў 1923).

**ДРАЗДЫ** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 11 км на Пд ад Круглага, 67 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам, цячэ р. Блінаўка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Галоўчын—Круглае. 11 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1738 г. 10 двароў, дзярж. уласнасць. У 2-й пал. 18 ст. в. Драздова (96 жыхароў), уласнасць М.Агінскага, вял. гетмана літоўскага. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце. У 1785 г. ў складзе маёнтка Ількавічы Магілёўскага павета, 30 двароў, 155 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1834 г. ў вёсцы 120 жыхароў, у 1846 г. 17 двароў, 161 жыхар, у складзе маёнтка Круглае. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 44 двары, 294 жыхары, школа граматы і хлебазапасны магазін. У 1909 г. 43 двары, 309 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. ў Бялыніцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 42 двары, 220 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новыя Дразды», які абслугоўвала Цяцерынская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 57 жыхароў. У 1993 г. 27 гаспадарак, 46 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Прыгані 2). Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма Героя Сацыяліст. Працы, засл. работніка прам-сці БССР А.А.Бужынскага (н. ў 1932).

**ДУБОЎКА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 5 км на ПдУ ад Круглага, 73 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Галоўчын—Круглае, якая праходзіць побач з вёскай. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. пасёлак ва ўрочышчы Замошша (4 двары, 13 жыхароў) у Круглянскай вол. Магілёўскага павета. У 1909 г. 11 двароў, 78 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. ў Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 13 двароў, 62 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 10 гаспадарак, 20 жыхароў. У 1993 г. 9 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе калгаса імя Г.Дзімітрава (цэнтр — в. Альшанікі 1), размяшчаліся майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБРОВА** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 11 км на ПнУ ад Круглага, 89 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Елькаўшчына і далей па шашы Круглае—Шклоў. 24 гаспадаркі, 48 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1797 г. на месцы, дзе раней была в. Дуброўка, засталася пустоша без насельніцтва. У 1909 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Магілёўскай губ. 13 двароў, 125 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. ў Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў

Магілёўскай вобл. У 1926 г. пасёлкі Дуброва 1 (4 двары, 22 жыхары), Дуброва 2 (4 двары, 23 жыхары), хутар Дуброва 3 (12 двароў, 60 жыхароў). У 1930-я г. пасёлкі і хутар зліліся ў адзін населены пункт. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 30 гаспадарак, 82 жыхары. У 1993 г. 29 гаспадарак, 56 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Елькаўшчына), размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Планіровачна складаецца з 2 паралельных прамалінейных вуліц (адна працяглая з завулкамі), арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБРОВА** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 14 км на Пд ад Круглага, 64 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Цяцерына і далей па шашы Круглае—Галоўчын. 5 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1926 г. тут былі хутар (6 двароў, 31 жыхар) і пасёлак (2 двары, 8 жыхароў). У 1930-я г. хутар і пасёлак зліліся ў адну вёску, сяляне ўступілі ў калгас. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 16 гаспадарак, 29 жыхароў. У 1993 г. 14 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе саўгаса «Цяцерына» (цэнтр — в. Цяцерына). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

*Пакроўская царква (2-я пал. 19 ст.) у в. Дудаковічы.*



**ДУДАКОВІЧЫ** — вёска, цэнтр Ляснянскага с/с, за 8 км на ПнУ ад Круглага, 86 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на ПдУ мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Гнілка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Круглае—Магілёў. 80 гаспадарак, 215 жыхароў (2007).

Вядома з 1558 г. як мястэчка пры р. Гнілка, цэнтр маёнтка, шляхецкая ўласнасць. Уваходзіла ў Аршанскі павет ВКЛ, належала А.Гарнастаю, які атрымаў прывілей на засяленне мястэчка, гандаль і ўтрыманне карчмы. У 1606 г. ўпамінаецца пры абмежаванні ўладанняў Старасельскага касцёла. У 1667 г. маёнтак у Аршанскім павеце. У 1701 г. заснаваны дамініканскі кляштар, які пазней быў ліквідаваны і створаны фальварак (у 1797 г. 17 двароў). У 1777 г. сяло ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. У 1784 г. дзейнічаў бернардзінскі касцёл. У 1859 г. ўзведзены будынак, у якім размяшчалася царк.-прыходская школа. У 1889 г. ў школе навучаліся 55 хлопчыкаў і 4 дзяўчынкі, у 1907 г. — 65 хлопчыкаў і 8 дзяўчынак. У 1912 г. для школы ўзведзены новы будынак, сама школа ператворана ў земскую. У 1880 г. сяло, 262 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся цяле жным промыслам, вырабам земляробчых прылад, рэчаў з ільну, лыка, кары, выраблялі колы, нарыхтоўвалі лясныя матэрыялы для вырабаў з дрэва. У 2-й пал. 19 ст. пабудавана з цэглы царква, якая зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры Беларусі. Меўся хлебазапасны магазін. Паводле



перапісу 1897 г. 42 двары, 340 жыхароў. У 1909 г. ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 50 двароў, 446 жыхароў. Дарэв. школа ў 1919 г. ператворана ў прац. школу 1-й ступені, якой у 1924 г. перададзены царк. будынак. У 1924 г. ў школе дзейнічалі с.-г. і драматычны гурткі, а таксама гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У гэтым жа годзе адкрыта хата-чытальня. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 76 двароў, 376 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Усход», працавала кузня. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 53 вяскоўцы, на ўшанаванне іх памяці ў скверы, насупраць будынка праўлення калгаса быў пастаўлены абеліск. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. З 25.2.1964 г. цэнтр сельсавета. У 1986 г. 72 гаспадаркі, 234 жыхары. У 1993 г. 110 гаспадарак, 307 жыхароў, цэнтр калгаса «Кастрычнік». У вёсцы размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, лесапільня, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, устаноўка па прыгатаванні вітаміннай мукі, зернедрабільня, магазін, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, паштовае аддз., аддз. ашчаднага банка, Дом культуры, стацыянарная кінаўстаноўка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2007 г. комплекс дзіцячы сад—пач. школа, клуб, аддз. паштовай сувязі, магазін. фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных з завулкамі, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных шыротна, уздоўж абодвух берагоў ракі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы ў паўд. частцы. Вытв. сектар — на паўд. ускраіне.

У склад сельсавета ўваходзяць 18 вёсак. У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Ляснянскага с/с былі вёскі Кацынава, Жукоўшчына, Леснічоўка, Кракоўня, Скляпава 1, Скляпава 2, хутары Бор, Замошкі, якія зараз не існуюць.

**ЕЛЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 8 км на У ад Круглага, 86 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вабіч (прыток р. Друць). Траспартныя сувязі па шашы Круглае—Шклоў, якая праходзіць побач з вёскай. 103 гаспадаркі, 261 жыхар (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. У 1858 г. 49 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1880 г. ў Елькаўшчыне 1 было 25 двароў, 189 жыхароў, у Елькаўшчыне 2 — 10 двароў, 78 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кавальскім промыслам, вырабам ільняной і пяньковай кудзелі і тканіны, драўлянага посуду, земляробчых прылад, колаў, бочак, абутку. З 1881 г. побач быў аднайменны маёнтак (300 дзес. зямлі). Меліся хлебазапасны магазіны ў Елькаўшчыне 1 і Елькаўшчыне 2 (створаны не пазней 1882). Паводле перапісу 1897 г. ў в. Елькаўчына 1 было 29 двароў, 201 жыхар, школа граматы, у в. Елькаўшчына 2 — 25 двароў, 163 жыхары, вёскі ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета. Непадалёку быў фальварак (39 жыхароў). У 1909 г. ў в. Елькаўшчына 1 35 двароў, 212 жыхароў, у в. Елькаўшчына 2 23 двары, 126 жыхароў. Школа граматы ў 1909 г. ператворана ў земскую. У 1923 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў прыватным доме. Пры школе меліся драматычны і с.-г. гурткі. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў в. Елькаўшчына 1 — 43 двары, 196 жыхароў, у в. Елькаўшчына 2 — 26 двароў, 147 жыхароў. У 1930-я г. вёскі зліліся ў адну в. Елькаўшчына. У 1930 г. арганізаваны калгас «Рассвет». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 31 вясковец. У памяць аб іх у 1969 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены

абеліск. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 92 гаспадаркі, 257 жыхароў. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, зернедрабільня, базавая школа, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, фельч.-акушэрскі пункт, Дом культуры са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, сталовая, дзіцячы сад. У 1993 г. 130 гаспадарак, 334 жыхары, цэнтр. сядзіба калгаса «Рассвет». Планіровачна складаецца з працяглай, амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На гал. вуліцы ўзведзены шэраг мураваных аднапавярховых аднакватэрных дамоў. Вытв. сектар — на паўн. і зах. ускраінах. У 2007 г. клуб, б-ка, магазін, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. Цэнтр. сядзіба СВК «Круглянскі світанак».

**ЖУКАВА** — вёска ў Кручанскім с/с, за 15 км на З ад Круглага, 93 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Паўлавічы і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Заснавана як пасёлак ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 10 двароў, 58 жыхароў. У маі 1931 г. 9 гаспадарак пасёлкаў Ляды, Лужа, Жукава і в. Вугляны арганізавалі калгас «Чырвоны ўдарнік». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1993 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе саўгаса «Круча» (цэнтр — в. Круча). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**ЗАГАРАНКІ** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 10 км на У ад Круглага, 68 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдУ цячэ р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Шклоў, якая праходзіць праз вёску. 78 гаспадарак, 211 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. У 1858 г. 34 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 20 двароў, 96 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. Памешчык меў тут у 1881 г. 321 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Круглянскай вол. Мінскага павета, 24 двары, 144 жыхары. Мелася школа граматы. У аднайменным фальварку, што быў побач, — 23 жыхары. У 1907 г. ў вёсцы 21 двор, 150 жыхароў, у маёнтку — 1 двор, 5 жыхароў. У 1919 г. адкрыта школа 1-й ступені, якая размясцілася ў былым памешчыцкім доме. З 1924 г. дзейнічалі драматычны гурток, хата-чытальня. У 1919 г. засн. с.-г. арцель «Загараны». З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. ў Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. да 11.4. 1960 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. с.-г. арцель (13 двароў, 61 жыхар) і хутар (27 двароў, 136 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінскі прамень», які потым абслугоўвала Круглянская МТС. 4-гадовая школа ў 1930-я г. пераўтворана ў 7-гадовую. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час акупацыі партызаны разграмілі варожы гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. На фронце загінулі 13 вяскоўцаў. У памяць аб земляках з вёсак калгаса «50 гадоў Кастрычніка», якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму, у цэнтры вёскі ў 1976 г. пастаўлена стэла. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 37 гаспадарак, 179 жыхароў. У 1993 г. 84 гаспадаркі, 256 жыхароў, цэнтр. сядзіба калгаса «50 гадоў Кастрычніка». У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной



рагатай жывёлы, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, сталярна-цяслярная майстэрня, зернедрабільня, сепаратарны пункт, ветэрынарны пункт, сярэдняя школа, клуб, стацыянарная кінаўстаноўка, б-ка, 2 магазіны, комплексны прёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2007 г. клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, па абодва бакі шашы і злучаных па ПнЗ завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн забудова з мураваных аднапавярховых аднакватэрных жылых дамоў. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**ЗАЙМІШЧА** — былая вёска ў Круглянскім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Круглага, 84 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Марцьянавічы—Круглае, якая праходзіць побач з вёскай.

Заснавана як пасёлак у пач. 1920-х г. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім, у 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 9 гаспадарак, 23 жыхары, у 1993 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў, у складзе саўгаса «Круглянскі» (цэнтр — г.п. Круглае). Планіровачна складалася з кароткай прамалінейнай вуліцы, амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАЛОССЕ** — вёска ў Шапялевіцкім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Круглага, 78 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На У цячэ р. Аслік (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шапялевічы—Круглае. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1858 г. ў вёсцы 20 жыхароў мужчынскага полу, з'яўлялася ўласнасцю памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 12 двароў, 83 жыхары. У 1909 г. 14 двароў, 108 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бялыніцкім р-не. З 12.2.1935 г. ў Круглянскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У кастр. 1931 г. арганізаваны калгас «Залоссе». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1993 г. 17 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе саўгаса «Шапялевічы» (цэнтр — в. Шапялевічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАМЫШКІ** — вёска ў Круглянскім с/с, за 9 км на Пн ад Круглага, 87 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Талачын, якая праходзіць побач з вёскай. 28 гаспадарак, 63 жыхары (2007).

Вядома з 19 ст. У 1858 г. вёска, у складзе маёнтка Скляпава Магілёўскага павета, 14 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка. У 1909 г. ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 9 двароў, 95 жыхароў. Мелася школа граматы. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. ў Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 29 двароў, 138 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Навіна», які абслугоўвала Круглянская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У памяць аб 70 земляках з вёсак калгаса «Шлях камунізму», якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1973 г. насыпаны курган і пастаўлены абеліск. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 39 гаспадарак, 105 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях

камунізму» (цэнтр — в. Старое Радча), размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, стацыянарная кінаўстаноўка, комплексны прёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1993 г. 38 двароў, 98 жыхароў. У 2007 г. фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўн.-ўсх. ускраіне.

**ЗАПРУДДЗЕ** — вёска ў Комсеніцкім с/с, за 15 км на ПдУ ад Круглага, 68 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Вабіч (прыток р. Друць). На У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Комсенічы і далей па шашы Галоўчын—Круглае. 84 гаспадаркі, 200 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. як уладанне М.Агінскага, вял. гетмана літоўскага. У 1784 г. 5 двароў, 28 жыхароў, прыватнае ўладанне. У 1785 г. ў складзе маёнтка Шупень. У 1808 г. ў Сенненскім павеце, 8 двароў, 57 жыхароў, уласнасць царквы. Гаспадар маёнтка меў у 1870 г. у вёсках Запруддзе і Ахімкавічы 158 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1892 г. адкрыта земская школа. Паводле перапісу вёска ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 18 двароў, 108 жыхароў, вінная крама. У 1909 г. 18 двароў, 120 жыхароў, млын. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. ў Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 12 двароў, 61 жыхар. У крас. 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг». За поспехі ў развіцці гаспадаркі калгас быў у 1939 г. ўдзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням-фаш. захопнікамі, на фронце загінулі 11 вяскоўцаў. У памяць аб 118 воінах-земляках з вёсак Комсеніцкага с/с, якія загінулі ў баях супраць фашызму, у цэнтры вёскі ў 1967 г. пастаўлены абеліск. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім с/с. У 1986 г. 54 гаспадаркі, 154 жыхары. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, зернедрабільня, Дом культуры, стацыянарная кінаўстаноўка, б-ка, пач. школа, дзіцячы сад, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1993 г. 81 двор, 238 жыхароў, цэнтр. сядзіба калгаса «Іскра». Цэнтр. сядзіба СВК «Іскра», дзейнічаюць комплекс дзіцячы сад—пач. школа, сельскі Дом культуры, б-ка, магазін, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Новыя вуліцы, размешчаныя на зах. беразе ракі, забудоўваюцца мураванымі аднапавярховымі адна- і двухкватэрнымі жылымі дамамі. Вытв. сектар — на паўн.-ўсх. ускраіне.

*Сацыяльна-адміністрацыйны цэнтр і фельчарска-акушэрскі пункт у в. Запруддзе.*



**ЗАРА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 5 км на З ад Круглага, 83 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Транспартныя сувязі па шашы Марцьянавічы—Круглае, якая праходзіць праз вёску. 27 гаспадарак, 79 жыхароў (2007).

Засн. як пасёлак у пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1926 г.



11 двароў, 54 жыхары. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 35 гаспадарак, 79 жыхароў. У 1993 г. 33 двары, 42 жыхары, у складзе саўгаса «Круглянскі» (цэнтр — г.п. Круглае). Планіровачна складаецца з 2 паралельных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, перпендыкулярна да шашы, і забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 11 км на Пд ад Круглага, 67 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Бялынічы—Круглае, якая праходзіць праз вёску. 64 гаспадаркі, 128 жыхароў (2007).

За 0,5 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Друць, знаходзіцца курганны могільнік, які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома з 18 ст. як уладанне М.Агінскага, вял. гетмана літоўскага. У 1784 г. налічвала 31 двор, 247 жыхароў, належала княгіні К.Р.Дашкавай. У 1785 г. ў складзе маёнтка Ількавічы Магілёўскага павета, 48 двароў, 278 жыхароў, млын, сукнавальня. У 1834 г. 130 жыхароў. У 1846 г. ў складзе маёнтка Круглае, 28 двароў, 181 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 43 двары, 286 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім і шавецкім промысламі. Меўся хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 52 двары, 334 жыхары, школа граматы, крама. Непадалёку былі фальварак (1 двор, 33 двары, заезны дом) і хутар (2 двары, 19 жыхароў). У час рэвалюцыі 1905—07 гг. у чэрв. 1905 г. сяляне самавольна пасвілі сваю жывёлу на пашнях уладальніка маёнтка, а ў вер. 1905 г. адбыўся сход, на якім вяскоўцы выказалі пратэст супраць гвалту і грабяжу з боку паліцыі і драгунаў. У 1909 г. ў Цяцерынскай вол., 57 двароў, 585 жыхароў. Летам 1912 г. сяляне (7 чалавек) забілі ўрадніка, які спрабаваў арыштаваць агітатара. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 58 двароў, 290 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная горка», які абслугоўвала Цяцерынская МТС. У 1940 г. 47 двароў, 187 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1942 г. спалілі 46 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 91 гаспадарка, 185 жыхароў. У 1993 г. 83 двары, 177 жыхароў, у складзе саўгаса імя Калініна (цэнтр — в. Прыгані 2), размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, Дом культуры, магазін. Гал. прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі з'яўляецца часткай шашы. Да яе з У далучаюцца 2 прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ЗАРЭЧЧА** — вёска ў Шапялевіцкім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Круглага, 73 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На зах. ускраіне цячэ р. Аслік (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па шашы Шапялевічы—Круглае, якая праходзіць праз вёску. 25 гаспадарак, 50 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Бялыніцкім р-не. У 1926 г. 12 двароў, 64 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 12.2.1935 г. ў Круглянскім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 39 гаспадарак, 114 жыхароў, у складзе саўгаса «Шапялевічы» (цэнтр — в. Шапялевічы), размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1993 г. 35 гаспадарак, 70 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянаяль-

най арыентацыі, да якой на Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуілца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАСІЦЦЕ** — вёска ў Круглянскім с/с, за 1 км на Пд ад Круглага, 77 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Друць (прыток р. Дняпро), на Пн — яе прыток р. Сітня. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Круглае, якая праходзіць праз вёску. 8 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Засн. як пасёлак у 1920-я г. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 5 гаспадарак, 10 жыхароў. У 1993 г. 8 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе саўгаса «Усход» (цэнтр — пас. Усходні). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены каля шашы.

**ЗАЦЯЦЁРКА** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 10 км на Пд ад Круглага, 68 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф узгорысты. На ўсх. ускраіне размешчана Цяцерынскае вадасховішча на р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Цяцерына—Круглае, якая праходзіць праз вёску. 51 гаспадарка, 120 жыхароў (2007).

У 1880 г. вёска, 37 двароў, 235 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам ільняной і пяньковай кудзелі і тканіны, кушнерскім і бандарным промыслам. Паводле перапісу ў 1897 г. вёска ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 50 двароў, 302 жыхары, школа, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 52 двары, 311 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа 1-й ступені, якая размясцілася ў нацыяналізаваным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1926 г. 80 двароў, 397 жыхароў, у школе навучалася 40 дзяцей. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 75 двароў, 326 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1944 г. спалілі 67 двароў, загубілі 10 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 84 гаспадаркі, 182 жыхары. У 1993 г. 72 гаспадаркі, 158 жыхароў, у складзе саўгаса «Цяцерына» (цэнтр — в. Цяцерына). Размяшчаліся вытв. брыгада і комплекс па вырошчванні буйной рагатай жывёлы, магазін, б-ка, клуб. Планіровачна складаецца з гал. прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, на У ад якой праходзяць дугападобная і кароткая, прамалінейная вуліцы з завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на зах. ускраіне.

**ЗЕЛЯНЬКОВА** — вёска ў Рубежскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Круглага, 66 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае, якая праходзіць побач з вёскай. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

У 1848 г. вёска ў складзе маёнтка Цяцерын, у Магілёўскім павеце, 37 двароў, 293 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1980 г. 56 двароў, 320 жыхароў. У 1909 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 70 двароў, 477 жыхароў. Непадалёку быў аднайменны засценак, 3 двары, 21 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася калёсным, бандарным і шавецкім промысламі. Мелілася хлебазапасны магазін, школа граматы, якая ў 1909 г.ператворана ў земскую (размяшчалася ў наёмным памяшканні). На базе дарэв. пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. навучалася 65 дзяцей. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У вер. 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 49 гаспадарак, 89 жыхароў.



У 1993 г. 35 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе саўгаса «Авангард» (цэнтр — в. Рубеж). Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма бел. сав. крытыка і літаратуразнаўцы В.Е.Бурносава (1914—84).

**ЗЯЛЁНАЯ ДУБРОВА** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 15 км на Пд ад Круглага, 73 км ад Магілёва, 35 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Цяцерына і далей па шашы Круглае—Галоўчын. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Засн. як пасёлак у пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1926 г. 11 двароў, 49 жыхароў. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў. У 1993 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў, у складзе саўгаса «Цяцерына» (цэнтр — в. Цяцерын). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**КАЗАБРОДДЗЕ** — вёска ў Круглянскім с/с, за 9 км на Пн ад Круглага, 87 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Крывая, якая на ПдЗ ад вёскі ўпадае ў р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Талачын, якая праходзіць праз вёску. 35 гаспадарак, 81 жыхар (2007).

У 1841 г. маёнткі Казаброддзе 1 і Казаброддзе 2. Побач складвалася вёска. У 1858 г. 28 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 18 двароў, 114 жыхароў, побач фальваркі Казаброддзе 1 (1 двор, 10 жыхароў) і Казаброддзе 2 (1 двор, 8 жыхароў). Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 19 двароў, 112 жыхароў. У фальварку Казаброддзе 1 быў 1 двор, 9 жыхароў, у фальварку Казаброддзе 2 — 1 двор, 7 жыхароў. У 1922 г. арганізавана с.-г. камуна (9 двароў), якая існавала да 1930 г., калі на яе базе быў арганізаваны калгас «Перамога». З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1926 г. 30 двароў, 159 жыхароў. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 61 гаспадарка, 129 жыхароў. У 1993 г. 54 гаспадаркі, 113 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях камунізму» (цэнтр — в. Старое Радча), размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, магазін, б-ка. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і ў цэнтры злучаных завулкам. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**КАЗЁЛ** — былая вёска ў Шапялевіцкім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Круглага, 72 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на Пн і У мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Казлянка (прыток р. Можа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ваўкаўшчына і далей па шашы Шапялевічы—Круглае.

За 2 км на Пн ад вёскі, у лесе, на беразе р. Можа, знаходзяцца рэшткі гарадзішча, што сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. засценак, 12 двароў, 97 жыхароў. У 1907 г. ў Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 15 двароў, 124 жыхары. У 1917 г. 15 двароў, 138 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бялыніцкім р-не. З 12.2.1935 г. ў Круглянскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 28 двароў, 159 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 79 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944

г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія 21.9.1943 г. спалілі 16 двароў, загубілі 21 жыхара. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 2 гаспадаркі, 6 жыхароў. У 1993 г. 2 гаспадаркі, 6 жыхароў, у складзе саўгаса «Шапялевічы» (цэнтр — в. Шапялевічы). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**КАЗІМІРОЎКА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 5 км на З ад Круглага, 83 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ ручай — прыток р. Друць. Транспартныя сувязі па шашы Марцьянавічы—Круглае, якая праходзіць побач з вёскай. 9 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

У 1834 г. ў в. Казімірова быў 181 жыхар. У 1848 г. ў складзе маёнтка Паўлавічы ў Магілёўскім павеце, 21 двор, 193 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 90 жыхароў мужчынскага полу. Памешчык меў тут у 1874 г. 800 дзес. зямлі. У 1880 г. 26 двароў, 212 жыхароў, хлебазапасны магазін. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кушнерствам, вырабам сукна. Паводле перапісу 1897 г. Казіміроўка (яна ж Пляватка), вёска ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 49 двароў, 291 жыхар, школа граматы. У 1909 г. 48 двароў, 335 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 6 двароў, 24 жыхары. У сак. 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. Да вёскі 17.7.1967 г. далучана в. Калінаўка. У 1986 г. 25 гаспадарак, 57 жыхароў. У 1993 г. 20 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе саўгаса «Круглянскі» (цэнтр — г.п. Круглае), размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, збожжасклад, клуб, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і забудаваных двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАМЕНКА** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Круглага, 74 км ад Магілёва, 39 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам. На зах. ускраіне цячэ р. Каменка (прыток р. Друць). Транспарныя сувязі па шашы Шапялевічы—Круглае, якая праходзіць побач з вёскай. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Засн. як пасёлак у 1920-я г. З 20.8.1924 г. ў Бялыніцкім р-не. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас, з 12.2.1935 г. ў Круглянскім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. уваходзіла ў Бялыніцкі р-н. У 1986 г. 24 гаспадаркі, 40 жыхароў, у складзе саўгаса «Цяцерына» (цэнтр — в. Цяцерына), меўся магазін. У 1993 г. 17 гаспадарак, 25 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАМЯНШЧЫНА** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 11 км на У ад Круглага, 66 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф узгорысты. На зах. ускраіне цячэ р. Вабіч (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Шклоў, якая праходзіць праз вёску. 18 гаспадарак, 41 жыхар (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. Камяншчызна — вёска ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. У 1858 г. 55 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 24 двары, 171 жыхар. У 1909 г. 25 двароў, 188 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 37 двароў, 194 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новая Камяншчына», які абслугоўвала Круглянская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, на



фронце загінулі 25 вяскоўцаў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 36 гаспадарак, 76 жыхароў, у складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Загаранкі), размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1993 г. 33 гаспадаркі, 57 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай плаўна выгнутай амаль шыротнай арыентацыі вуліцы (адрэзак шашы), ад якой на Пд адыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАРМА** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 11 км на ПдЗ ад Круглага, 70 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Шапялевічы—Круглае, якая праходзіць побач з вёскай. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. як пасёлак у пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Бялыніцкім р-не. У 1926 г. 10 двароў, 67 жыхароў. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. З 12.2.1935 г. ў Круглянскім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 12 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе саўгаса «Цяцерына» (цэнтр — в. Цяцерына). У 1993 г. 8 гаспадарак, 11 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАРНІЛАЎКА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 6 км на З ад Круглага, 84 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Марцьянавічы—Круглае, якая праходзіць праз вёску. 8 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Засн. як пасёлак у пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1926 г. 10 двароў, 50 жыхароў. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 14 гаспадарак, 37 жыхароў, у складзе саўгаса «Круглянскі» (цэнтр — г.п. Круглае). У 1993 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, перпендыкулярна да шашы, і забудаванай двухбакова традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАССЁ** — былы пасёлак у Кручанскім с/с, за 15 км на З ад Круглага, 102 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на Пн межаваў з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вугляны і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае.

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1926 г. 20 двароў, 55 жыхароў. У маі 1931 г. 34 гаспадаркі пасёлкаў Вугляны, Кассё і Салаўёва арганізавалі калгас «Зорка». У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 14 двароў, 52 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 10 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе саўгаса «Круча» (цэнтр — в. Круча). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**КАСЦЮКОВІЧЫ** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Круглага, 74 км ад Магілёва, 39 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне цячэ р. Каменка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Глыбокае і далей па шашы Шапялевічы—Круглае. 13 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

У 1848 г. вёска ў Магілёўскім павеце, у складзе маёнтка Цяцерын, 37 двароў, 314 жыхароў, уласнасць памешчыка. Непадалёку быў фальварак Міхайлоў, дзе

меўся млын. У 1880 г. 55 двароў, 322 жыхары, хлебазапасны магазін. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам ільняной і пяньковай кудзелі і тканіны, а таксама шавецкім і кравецкім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 64 двары, 412 жыхароў. Дзейнічала школа граматы, якая ў 1900 г. ператворана ў царк.-прыходскую, а ў 1908 г. — у земскую. У 1909 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 65 двароў, 485 жыхароў.

На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. навучаліся 54 хлопчыкі і дзяўчынкі. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У крас. 1931 г. арганізаваны калгас імя М.В.Фрунзе, які ў 1937 г. аб'ядноўваў 40 гаспадарак. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1940 г. 55 двароў, 284 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі 50 двароў, загубілі 8 жыхароў. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 39 гаспадарак, 72 жыхары. У 1993 г. 31 гаспадарка, 55 жыхароў, у складзе саўгаса «Цяцерына» (цэнтр — в. Цяцерына). Размяшчаліся вытв. брыгада, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з працяглай, амаль прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЎРЫЖЫНА** — вёска ў Кручанскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Круглага, 103 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На У мяжуе з лесам. На паўд. ускраіне бярэ пачатак р. Асліўка (прыток р. Альхоўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Любішча, Паўлавічы і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Вядома з 19 ст. Побач з вёскай з 1876 г. быў невялікі маёнтак. У 1880 г. 13 двароў, 143 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета, 24 двары, 140 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 41 двор, 221 жыхар. У маі 1935 г. арганізаваны калгас імя Кірава. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 8 гаспадарак, 13 жыхароў. У 1993 г. 7 гаспадарак, 8 жыхароў, у складзе саўгаса «Круча» (цэнтр — в. Круча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КЛЯПІНІЧЫ** — вёска ў Комсеніцкім с/с, за 18 км на ПдУ ад Круглага, 63 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па шашы Галоўчын—Круглае, якая праходзіць побач з вёскай. 63 гаспадаркі, 142 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. як уладанне М.Агінскага, вял. гетмана літоўскага. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце. У 1785 г. 54 двары, 315 жыхароў, у складзе маёнтка Ількавічы, належала княгіні К.Р.Дашкавай. У 1834 г. ў вёсцы 216 жыхароў, у 1846 г. — 43 двары, 298 жыхароў, у складзе маёнтка Круча. У 1880 г. 56 двароў, 389 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам ільняной і пяньковай кудзелі і тканіны, розных драўляных рэчаў, посуду, абутку, бочак, воўны. Паводле перапісу 1897 г. ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 75 двароў, 484 жыхары. Меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, заезны дом. У 1909 г. 82 двары, 615 жыхароў, школа граматы ператворана ў земскую. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. навучалася 40 дзяцей. Для школы была выдзелена ў былым фальварку Бушоўка 1 дзес. зямлі. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1926 г. 84 двары, 402 жыхары. З





*Фрагмент забудовы аграгарадка Комсенічы.*

20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У ліп. 1931 г. арганізаваны калгас «Германскі пралетарыят». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 40 вяскоўцаў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 67 гаспадарак, 144 жыхары, у складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Комсенічы), размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, 8-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, магазін. У 1993 г. 73 гаспадаркі, 176 жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай, прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц., драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар. Дзейнічае магазін.

**КОМСЕНІЧЫ** — вёска, цэнтр Комсеніцкага с/с, за 13 км на ПдУ ад Круглага, 65 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па шашы Галоўчын—Круглае, якая праходзіць побач з вёскай. 222 гаспадаркі, 555 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. як уладанне М.Агінскага, вял. гетмана літоўскага. Пасля 1772 г. аддадзена княгіні К.Р.Дашкавай. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце. У 1785 г. сяло ў складзе маёнтка Ількавічы Магілёўскага павета, 61 двор, 550 жыхароў. У 1846 г. 61 двор, 381 жыхар, у складзе маёнтка Круглае. У 1880 г. 74 двары, 552



*Сярэдняя школа-сад у в. Комсенічы.*



*Андрэеўская царква ў в. Комсенічы.*

жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам воўны і абутку. У 1885 г. 75 двароў, 451 жыхар, драўляная царква, хлебазапасны магазін. У 1889 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 102 двары, 808 жыхароў. На аднайменным хутары быў 1 двор, 2 жыхары. У 1909 г. 106 двароў, 797 жыхароў. У 1919 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, для якой у 1920 г. было выдзелена 3 дзес. зямлі. У 1923 г. навучалася 57 хлопчыкаў і дзяўчынак, з 1924 г. дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. Меліся нар. дом, хата-чытальня, каап. крама. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не, цэнтр сельсавета. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 76 двароў, 352 жыхары, школа, у якой было 78 вучняў. У 1928 г. для школы пабудаваны будынак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Вольная праца». У пач. 1930-х г. школа стала 7-гадовай, а затым — сярэдняй. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, партызаны разграмілі варожы гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 24 сав. воіны і партызаны, якія загінулі пры вызваленні вёскі. Сярод пахаваных воіны 873-га знішчальнага супрацьтанкавага палка, 187, 329, 757-га стралк. палкоў, 391-га асобнага санітарнага батальёна і Герой Сав. Саюза Р.І.Шыбанаў. На фронце загінула 19 вяскоўцаў. У цэнтры вёскі на ўшанаванне памяці 126 воінаў-землякоў з вёсак сельсавета, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму, у 1968 г. пастаўлена стэла. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 133 гаспадаркі, 325 жыхароў, цэнтр калгаса «Шлях Леніна». У вёсцы размяшчаліся комплекс па вырошчванні буйной рагатай жывёлы, свінагадоўчая ферма, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, прадпрыемства па вырабе і рамонце тары з дрэва, зернедрабільня, ветэрынарны ўчастак, сярэдняя школа, клуб, стацыянарная кінаўстаноўка, б-ка, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. ашчаднага банка, 4 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1993 г. 201 гаспадарка, 520 жыхароў. У 2007 г. цэнтр. сядзіба СВК «Калгас «Комсенічы», аграгарадок. Дзейнічаюць комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, магазін, урачэбная амбулаторыя. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, якая на Пн перакрыжоўваецца другой прамалінейнай вуліцай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размеш-



*Брацкая магіла савецкіх воінаў у в. Комсенічы.*



*Дом культуры ў в. Комсенічы.*



чаны сярод жылой забудовы на перакрыжаванні вуліц. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

У склад сельсавета ўваходзяць 14 вёсак. У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Комсеніцкага с/с былі вёскі Калінаўка, Лукі, Канстанцінаўка, якія зараз не існуюць. Адны з іх зліліся з другімі населенымі пунктамі, жыхары іншых перасяліліся ў іншыя месцы.

**КОНАНАВІЧЫ** — вёска ў Шапялевіцкім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Круглага, 73 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на захадзе мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне цячэ р. Каменка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Сіманавічы, Касцюковічы і далей па шашы Шапялевічы—Круглае. 21 гаспадарка, 45 жыхароў (2007).

У 1858 г. сяло, 84 жыхары мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 36 двароў, 238 жыхароў, хлебазапасны магазін, заезны дом. Паблізу аднайменны фальварак, 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. 41 двор, 266 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бялыніцкім р-не. З 12.2.1935 г. ў Круглянскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 49 двароў, 256 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас, дзейнічала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 45 гаспадарак, 113 жыхароў. У 1993 г. 36 гаспадарак, 81 жыхар, у складзе саўгаса «Шапялевічы» (цэнтр — в. Шапялевічы), размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ, да якой на З далучаецца дугападобная кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСІНА** (да 1948 г. Кіпячы) — вёска ў Рубежскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Круглага, 95 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Някрасава, Філатава і далей па шашы Круглае—Талачын. 12 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Вядома з пач. 19 ст. У 1806 г. вёска і фальварак, 13 двароў, меўся млын. У 1810 г. 12 двароў, 204 жыхары, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. фальварак у Зарэчна-Талачынскай вол. Сенненскага павета, 1 двор, 20 жыхароў. У 1909 г. 2 двары, 20 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. пасёлак, 7 двароў, 43 жыхары. У 1930-я г. адкрыта пач. школа, вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 24 гаспадаркі, 45 жыхароў, уваходзіла ў склад саўгаса імя М.А.Някрасава (цэнтр — в. Філатава). У 1993 г. 15 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе калгаса «Някрасава». Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, амаль паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, няшчыльна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСНАГОР'Е** — вёска ў Комсеніцкім с/с, за 16 км на ПдУ ад Круглага, 73 км ад Магілёва, 35 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Комсенічы і далей па шашы Бялынічы—Круглае. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Вядома з пач. 20 ст., калі тут, у Старасельскай вол. Аршанскага павета быў засценак, 1 двор, 16 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 9 двароў, 53 жыхары. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 пасялкоўцаў. У 1959—

66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 9 гаспадарак, 19 жыхароў. У 1993 г. 8 гаспадарак, 14 жыхароў, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Запруддзе). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСНАПОЛЛЕ** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Круглага, 73 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Цяцерына і далей па шашы Бялынічы—Круглае. 12 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Заснавана як пасёлак у 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1926 г. 8 двароў, 43 жыхары. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. У Вял. айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 44 жыхары. У 1993 г. 20 гаспадарак, 37 жыхароў, у складзе саўгаса «Цяцерына» (цэнтр — в. Цяцерына). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСУЛЯ** — вёска ў Круглянскім с/с, за 6 км на ПнЗ ад Круглага, 84 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Александрова і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Праз 0,2 км на Пн ад пасёлка, на левым беразе безназоўнага ручая знаходзіцца курганны могільнік (3 насыпы), які сведчыць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. засценак (4 двары, 31 жыхар) і сядзіба (1 двор, 5 жыхароў) у Круглянскай вол. Магілёўскага павета. У 1909 г. ў пасёлку 4 двары, 27 жыхароў, у сядзібе 1 двор, 2 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 9 двароў, 42 жыхары. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Талачынскім р-не. У 1993 г. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў, у складзе калгаса «Свабода» (цэнтр — в. Грыбіна). Драўляныя сял. сядзібы з гасп. будынкамі пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**КРУЖКІ** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Круглага, 90 км ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Цяцерына і далей па шашы Бялынічы—Круглае. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. як пасёлак ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1926 г. 19 двароў, 92 жыхары. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 15 гаспадарак, 30 жыхароў. У 1993 г. 13 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе саўгаса «Цяцерына» (цэнтр — в. Цяцерына). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРУЧА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 18 км на З ад Круглага, 96 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. На зах. і паўн. ускраінах цячэ р. Аслік (прыток р. Друць), на Пн у яе ўпадае р. Альхоўка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дарожкавічы і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 168 гаспадарак, 403 жыхары (2007).

Вядома з пач. 19 ст. У ліст. 1812 г., у час выгнання напалеонаўскай арміі, партыз. атрад Сяславіна дагнаў у в. Кру-



ча варожы атрад, які налічваў 6 тыс. чалавек, напаў на яго і частку (каля 20 чал.) знішчыў. У 1820 г. Круча — мястэчка, 35 двароў, 425 жыхароў. З 1856 г. уладанне памешчыка. У 1861 г. 415 жыхароў. Праз вёску праходзіў Віленскі паштовы тракт. Памешчык меў у 1876 г. ў вёсках Круча і Друцк 828 дзес. зямлі, карчму і млын. У 1880 г. 62 двары, 430 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся абутковым, кравецкім, сталярным і кавальскім промысламі. Раз у год праводзіўся кірмаш. У 1899 г. адкрыта царк.-прыходская школа. Меліся царква (пабудавана з дрэва не пазней 1882), малітоўная школа. Паводле перапісу 1897 г. мястэчка, 137 жылых дамоў, 929 жыхароў. Меліся вадзяны млын, царк.-прыходская школа, 20 крам. У маі, жн. і ліст. праводзіліся аднадзённыя кірмашы. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. адбылася 18.4.1906 г. забастоўка, якая суправаджалася сутычкамі з паліцыяй. У 1909 г. ў Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета, 95 двароў, 672 жыхары. Дзейнічалі аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, казённая вінная крама, крэдытнае т-ва, царк.-прыходская школа. У 1920 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. навучалася 87 дзяцей. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не, цэнтр сельсавета. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хатачытальня, пачала дзейнічаць б-ка. У 1925 г. мястэчка пераведзена ў разрад вёсак. У 1926 г. адкрыта яшчэ адна школа, дзе навучалася 26 дзяцей. У ліст. 1928 г. вясковы сход вырашыў перадаць будынак сінагогі для сельскай школы. У 1929 г. арганізаваны калгас «III Інтэрнацыянал». У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. У 1935 г. ў вёсцы паявіўся першы трактар, працавалі кавальская майстэрня с.-г. арцелі «Саха і молат» (створана ў 1929) і швейная майстэрня арцелі імя 2-й пяцігодкі (створана ў 1927), ваўначоска, вадзяны млын, мелася ашчадная каса, кінатэатр, магазін, сярэдняя школа, аддз. сувязі. У 1940 г. 170 двароў, 620 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1941 г. былі расстраляны старшыня былога Сталінскага с/с Е.М. Мельнікава і яе малалетні сын. У 2 магілах, што за 0,4 км на Пд ад вёскі, пахаваны 114 мірных жыхароў з вёсак Кручанскага с/с, якіх расстралялі гітлераўцы 10.10.1941 г. У вер. 1943 г. карнікі поўнасцю спалілі вёску, загубілі 191 жыхара. Вызвалена часцямі 5-й танкавай арміі. На фронце загінулі 116 вяскоўцаў. У памяць аб земляках, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, каля канторы саўгаса «Круча» пастаўлена стэла. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 171 гаспадарка, 422 жыхары, цэнтр. сядзіба саўгаса «Круча». У вёсцы размяшчаліся майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, сталярная майстэрня, ферма буйной рагатай жывёлы, ветэрынарны ўчастак, зернедрабільня, лесапільня, сярэдняя школа, Дом культуры, стацыянарная кінаўстаноўка, б-ка, магазін, лясніцтва, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, б-ца, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аптэка, дзіцячы сад-яслі. У 1993 г. 181 гаспадарка, 459 жыхароў. У 2007 г. дзейнічаюць комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, магазін, участковая бальніца. Аснову планіровачнай структуры складае крывалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі, ад якой на Пд і Пн адыходзяць 2 прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц., пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Новая вуліца, якая адыходзіць ад асн. на Пд, забудавана двухпавярховымі 8-кватэрнымі муравакымі дамамі. Новыя мураваныя аднапавярховыя аднакватэрныя дамы ўзводзяцца на гал. вуліцы. Вытв. сектар — на Пн і ПнУ.



*Н.Л.Юшкоўскі.*

Радзіма ўдзельніка рэв. руху ў Расіі, сав. дзярж. дзеяча П.А.Залуцкага (1887—1935); кавалера ордэнаў Славы 3 ступеняў Н.Л.Юшкоўскага (1926—68), які вызначыўся ў 1945 г. ў баях супраць гітлераўцаў на тэр. Польшчы і Германіі.

У склад сельсавета ўваходзяць 17 вёсак. У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага

Кручанскага с/с былі вёскі і пасёлкі Аладзенка, Астроўшчына, Барсукі, Варна 1, Варна 2, Вечнасць, Гнёздзенка, Грэцкія Масты, Журавічы 1, Журавічы 2, Зацішша, Лужа, Ляды, Ульянава-Ветранка, Цімохаўка, якія зараз не існуюць. Адны з іх зліліся з іншымі населенымі пунктамі, жыхары другіх перасяліліся ў іншыя месцы.

**КРЫВУЛІНА** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 16 км на Пд ад Круглага, 62 км ад Магілёва, 35 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Галоўчын—Круглае, якая праходзіць побач з вёскай. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. як уладанне М.Агінскага, вялікага гетмана літоўскага. Пасля 1772 г. аддадзена княгіні К.Р.Дашкавай. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ўваходзіла ў склад маёнтка Ількавічы Магілёўскага павета, 33 двары, 170 жыхароў. У 1846 г. вёска (15 двароў, 86 жыхароў) і паўфальварак (5 сямей дваровых, 11 чал.) у складзе маёнтка Круглае. Паводле перапісу 1897 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 36 двароў, 212 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін і вінная крама. У 1909 г. 36 двароў, 262 жыхары, адкрыта земская аднакласная школа. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1923 г. ў школе навучалася 38 дзяцей. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 54 двары, 230 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 35 гаспадарак, 75 жыхароў. У 1993 г. 30 гаспадарак, 55 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Прыгані 2). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КУНЦЫ** — вёска ў Шапялевіцкім с/с, за 19 км на Пд ад Круглага, 74 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Каменка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Сіманавічы, Шыпягі і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 17 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

У 1858 г. вёска, 58 жыхароў мужчынскага полу. У 1887 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 26 двароў, 188 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 32 двары, 240 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бялыніцкім р-не. З 12.2.1935 г. ў Круглянскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 44 двары, 248 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 37 гаспадарак, 100 жыхароў. У 1993 г. 29 гаспадарак, 63 жыхары, у складзе саўгаса «Шапялевічы» (цэнтр — в. Шапялевічы), размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з крывалінейнай, амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛАВУТКІ** — вёска ў Круглянскім с/с, за 8 км на З ад Круглага, 86 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе в. Міхейкава і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска ў Магілёўскім павеце, 24 рэвізскія душы. Паводле перапісу 1897 г. аднайменная вёска, 16 двароў, 124 жыхары і 2 засценкі, у адным 3 двары, 26 жыхароў, у другім (ён жа Вайнілаўка) 5 двароў, 37 жыхароў, у Круглянскай вол. Магілёўскага павета. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1909 г. ў вёсцы 19 двароў, 126 жыхароў, у засценках Лавуткі 1 — 3 двары, 21 жыхар, Лавуткі 2 — 6 двароў, 38 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім



р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 20 двароў, 108 жыхароў, у адным засценку 7 двароў, 26 жыхароў, у другім — 10 двароў, 40 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «1 Мая», мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 25 гаспадарак, 54 жыхары. У 1993 г. 14 гаспадарак, 32 жыхары, у складзе калгаса «Свабода» (цэнтр — в. Грыбіна). Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы шыротнай арыентацыі, ад цэнтра якой адыходзіць на Пд кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛІПСК** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 14 км на Пд ад Круглага, 68 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-нізінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Друць (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Цяцерына і далей па шашы Бялынічы—Круглае. 38 гаспадарак, 67 жыхароў (2007).

У 1848 г. вёска ў складзе маёнтка Цяцерын, у Магілёўскім павеце, 30 двароў, 256 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 111 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 44 двары, 280 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам ільняной і пяньковай кудзелі і тканіны, кравецкім, бандарным і калёсным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 55 двароў, 406 жыхароў, школа. У 1909 г. 57 двароў, 400 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 36 двароў, 192 жыхары. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 59 гаспадарак, 132 жыхары. У 1993 г. 50 гаспадарак, 108 жыхароў, у складзе саўгаса «Цяцерына» (цэнтр — в. Цяцерына). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, устаноўка па прыгатаванні вітамінннай мукі, пач. школа, магазін. У 1952 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1980 г. вёска атрымала тэлефонную сувязь. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — гасп. сектар.

**ЛІТОЎСК** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 14 км на У ад Круглага, 78 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На Пд і У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бураўшчына і далей па шашы Круглае—Шклоў. 24 гаспадаркі, 51 жыхар (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Лютоўска ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. Побач быў маёнтак, гаспадар якога меў у 1881 г. 676 дзес. зямлі і карчму. Паводле перапісу 1897 г. ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 31 двор, 214 жыхароў, меліся школа граматы, заезны дом, хлебазапасны магазін. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. 32 двары, 250 жыхароў. У 1908 г. школа граматы ператворана ў аднакласную земскую. У 1924 г. ў працоўнай школе 1-й ступені, створанай на базе дарэв. школы, навучаліся 55 хлопчыкаў і дзяўчынак. Школа мела 2,5 дзес. зямлі, размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 55 двароў, 291 жыхар. У 1920-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 29 гаспадарак, 57 жыхароў. У 1993 г. 29 гаспадарак, 51 жыхар, у складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Загаранкі), размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой

вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных у цэнтры завулкам. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЫНАЎКА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 5 км на З ад Круглага, 83 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Казіміроўка і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 7 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Засн. як пасёлак у пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 11 двароў, 64 жыхары. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 15 гаспадарак, 28 жыхароў. У 1993 г. 12 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе саўгаса «Круглянскі» (цэнтр — г.п. Круглае). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*Магіла М.В.Неўрава ў в. Лыскаўшчына.*

**ЛЫСКАЎШЧЫНА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 7 км на Пн ад Круглага, 85 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ мяжуе з лесам. На паўд. ускраіне цячэ ручай (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Грыбіна, Казіміроўка і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 8 двароў, 53 жыхары, адасобленая сядзіба, 1 двор, 12 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 9 двароў, 72 жыхары, на сядзібе 1 двор, 6 жыхароў. Некаторы час у вёсцы жыў рус. мастак М.В.Неўраў (1830—1904), які пахаваны на вясковых могілках. У памяць аб ім на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка, а каля школы пастаўлены помнік мастаку. У 1919 г. адкрыта школа, у якой у 1926 г. навучалася 78 дзяўчынак і хлопчыкаў. Размяшчалася школа ў нацыяналізаваным памешчыцкім будынку. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 15 двароў, 71 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барацьбіт». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 9 гаспадарак, 13 жыхароў, пач. школа. У 1993 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе калгаса «Свабода» (цэнтр — в. Грыбіна). Планіровачна складаецца з кароткай, амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЮБІШЧА** — вёска ў Кручанскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Круглага, 84 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. станцыі Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Янава, Круча і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 9 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).



Паводле перапісу 1897 г. засценак, у Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета, 9 двароў, 71 жыхар. У 1909 г. 6 двароў, 51 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 16 двароў, 70 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 53 жыхары, клуб, б-ка. У 1993 г. 31 гаспадарка, 41 жыхар, у складзе саўгаса «Круча» (цэнтр — в. Круча). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якая на Пн перакрыжоўваецца дугападобнай вуліцай. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЯСНЫЯ** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 7 км на ПнУ ад Круглага, 85 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На паўн. ускраіне цячэ р. Гнілка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Навапруддзе і далей па шашы Талачын—Круглае. 28 гаспадарак, 41 жыхар (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло Лясное ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. У 1858 г. 48 рэвізскіх душ, дзярж. ўласнасць. Памешчык меў тут у 1870 г. 1007 дзес. зямлі, карчму і вадзяны млын. У 1880 г. 19 двароў, 160 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам, меўся хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 43 двары, 270 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін, вінная крама. Непадалёку быў фальварак, 1 двор, 18 жыхароў, вадзяны млын. У 1909 г. ў вёсцы 40 двароў, 255 жыхароў, у маёнтку Лясное — 1 двор, 5 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. хутары, 49 двароў, 261 жыхар. У вер. 1929 г. арганізаваны калгас «Новы быт», які ў 1931 г. меў 1258 га зямлі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 37 вяскоўцаў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 56 гаспадарак, 131 жыхар, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Дудаковічы), у вёсцы размяшчаліся комплекс па вырошчванні буйной рагатай жывёлы, ветэрынарны ўчастак, б-ка, Дом культуры, магазін, аддз. ашчаднага банка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. У 1993 г. 54 гаспадаркі, 96 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, ад якой на ПдЗ адыходзяць 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой і злучаныя завулкам вуліцы. Забудавана двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛАЯ АРАВА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 12 км на Пн ад Круглага, 90 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ўсх. ускраіне цячэ р. Друць (прыток р. Дняпро), на паўд. — яе прыток р. Бярозаўка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Арава і далей па шашы Талачын—Круглае. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

У 19 ст. тут размяшчаўся маёнтак, гаспадар якога ў 1876 г. меў 244 дзес. зямлі і вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. фальварак (1 двор, 17 жыхароў) і вадзяны млын (3 двары, 16 жыхароў) у Круглянскай вол. Магілёўскага павета. У 1909 г. маёнтак (1 двор, 2 жыхары) і сядзіба (1 двор, 5 жыхроў). У 1919 г. створана с.-г. арцель. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. вёска (19 двароў, 92 жыхары) і с.-г. арцель (6 двароў, 39 жыхароў). У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліпеня 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 г. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 5 гаспадарак, 15 жыхароў. У 1993 г. 8 жыхароў, у складзе калгаса «Свабода» (цэнтр — в. Грыбіна). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыя-

нальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛІНА** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 10 км на Пд ад Круглага, 68 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Блінаўка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Прыгані 2 і далей па шашы Галоўчын—Круглае. 17 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Засн. як пасёлак у 1920-я г. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас «Маліна». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 21 гаспадарка, 43 жыхары. У 1993 г. 18 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Прыгані 2), размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з кароткай, прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛОЕ ЗУБАВА** — былая вёска ў Ляснянскім с/с, за 7 км на ПнУ ад Круглага, 85 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі ажыццяўляліся па мясц. дарозе праз в. Лясныя і далей па шашы Талачын—Круглае.

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска Зубава ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ферма ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 6 двароў, 46 жыхароў. У 1909 г. 7 двароў, 77 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. хутары, 15 двароў, 86 жыхароў. У сак. 1931 г. арганізаваны калгас «Воля». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 10 вяскоўцаў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 1 гаспадарка, 4 жыхары, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Дудаковічы).

**МАЛЫЯ ВУГЛЯНЫ** — вёска ў Кручанскім с/с, за 16 км на З ад Круглага, 94 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рубеж і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 10 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1993 г. 18 гаспадарак, 33 жыхары, у складзе саўгаса «Кruча» (цэнтр — в. Круча). Планіровачна складаецца з кароткай, плаўна выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, ад якой на ПдУ адыходзіць другая кароткая вуліца. Забудавана аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛЫЯ КАСКЕВІЧЫ** — вёска ў Кручанскім с/с, за 12 км на З ад Круглага, 90 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. станцыі Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На паўн. ускраіне цячэ р. Аслік (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рубеж і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 14 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска, 15 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Каскевічах 2 было 9 двароў, 59 жыхароў, у Каскевічах 3 — 10 двароў, 67 жыхароў. У 1909 г. вёскі Каскевічы 2 (7 двароў, 47 жыхароў) і Каскевічы 3 (12 двароў, 73 жыхары) у Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета. З 20.8. 1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 11 двароў, 82 жыхары. У крас. 1931 г. арганізаваны калгас «Усход». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пасляваенны час вёскі Каскевічы 2 і Каскевічы 3 зліліся ў адну в. Малыя Каскевічы. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 26 гаспадарак, 56



жыхароў. У 1993 г. 19 гаспадарак, 42 жыхары, у складзе саўгаса «Круча» (цэнтр — в. Круча), размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачана складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАРЦЬЯНАВІЧЫ** — вёска ў Рубежскім с/с, за 12 км на ПдЗ ад Круглага, 90 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мяжуе з лесам. На паўн. ускраіне цячэ р. Рутка (прыток р. Аслік). Транспартныя сувязі па шашы Марцьянавічы—Круглае. 66 гаспадарак, 112 жыхароў (2007).

У 1834 г. вёска, 378 жыхароў. У 1848 г. ў Магілёўскім павеце, 42 двары, 352 жыхары, у складзе маёнтка Паўлавічы. У 1880 г. 73 двары, 476 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кушнерствам, кравецкім і кавальскім промысламі. Меўся хлебазапасны магазін. Паводле перапісу 1897 г. ў Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета, 102 двары, 661 жыхар. У 1907 г. ў школе граматы навучаліся 43 хлопчыкі і 3 дзяўчынкі. У 1908 г. школа ператворана ў земскую, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 106 двароў, 670 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. вёска ў Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. навучалася 108 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 9.12.1942 г. партызаны 8-й Круглянскай брыгады разграмілі гарнізон акупантаў, які размяшчаўся ў вёсцы. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 136 гаспадарак, 328 жыхароў. У 1993 г. 112 гаспадарак, 205 жыхароў, у складзе саўгаса «Авангард» (цэнтр — в. Рубеж), размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, клуб, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з гал. прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ, ад зах. канца якой адыходзяць на ПдУ 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, злучаныя завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар. Працуе магазін.

**МЕХАВА** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 6 км на У ад Круглага, 84 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Шклоў, якая праходзіць побач з вёскай. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Шупень Магілёўскага павета, 12 двароў, 50 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. Мелася вінаробчая вытвсць. Гаспадар маёнтка, што быў побач, меў у 1865 г. 439 дзес. зямлі. У 1909 г. 13 двароў, 110 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 20 двароў, 98 жыхароў, на хутары 2 двары, 16 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 25 двароў, 119 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. спалілі 21 двор, загубілі 4 жыхароў. На фронце загінулі 19 вяскоўцаў. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 20 гаспадарак, 35 жыхароў. У 1993 г. 10 гаспадарак, 14 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Елькаўшчына), размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІКУЛІНКА** — вёска ў Кручанскім с/с, за 18 км на З ад Круглага, 96 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На зах.

ускраіне цячэ р. Аслік (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рубеж і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Паводле перапісу 1897 г. засценак у Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета, 6 двароў, 60 жыхароў. У 1909 г. 6 двароў, 61 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 11 двароў, 55 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, у вёсцы працавалі кузня, сталярная і швейная майстэрні. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1993 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе саўгаса «Круча» (цэнтр — в. Круча). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**МІХАЙЛАЎКА** — вёска ў Комсеніцкім с/с, за 17 км на Пд ад Круглага, 61 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Галоўчын—Круглае, якая праходзіць побач з вёскай. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Паводле перапісу 1897 г. пасёлак пры тракце з мяст. Шклоў у с. Паўлавічы, у Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 8 двароў, 56 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. хутары, 20 двароў, 100 жыхароў. У крас. 1931 г. жыхары в. Міхайлаўка, пасёлкаў Альхоўка і Рэчкі арганізавалі калгас імя VI раённага з'езда Саветаў, які меў 410,5 га зямлі, 52 кані і 63 каровы. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 вяскоўцаў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 11 гаспадарак, 20 жыхароў. У 1993 г. 9 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Комсенічы), размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІХЕЙКАВА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 4 км на З ад Круглага, 82 км ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Марцьянавічы—Круглае, якая праходзіць каля вёскі. 22 гаспадаркі, 40 жыхароў (2007).

У 1834 г. вёска, 288 жыхароў. У 1848 г. ў Магілёўскім павеце, 32 двары, 280 жыхароў, у складзе маёнтка Паўлавічы, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 140 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 50 двароў, 290 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам абутку. У 1890 г. адкрыта земская школа. Паводле перапісу ў Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета, 45 двароў, 289 жыхароў. Дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1909 г. 93 двары, 637 жыхароў. У 1919 г. на базе былой земскай створана прац. школа 1-й ступені, для якой у 1923 г. быў узведзены асобны будынак. У 1924 г. пры школе дзейнічалі с.-г., драматычны і харавы гурткі. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 64 двары, 308 жыхароў, школа (58 вучняў). У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 58 гаспадарак, 102 жыхары. У 1993 г. ў складзе саўгаса «Круглянскі» (цэнтр — г.п. Круглае), размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, б-ка, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, пач. школа, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай працяглай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У зах. частцы вуліцы сярод жылой забудовы размяшчаюцца клуб і магазін.



**НАВАПРУДДЗЕ** — вёска ў Круглянскім с/с, за 5 км на Пн ад Круглага, 82 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на ПдУ мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Гнілка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па шашы Талачын—Круглае, якая праходзіць каля вёскі. 28 гаспадарак, 54 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) уласнасць княгіні К.Р.Дашкавай. У 1777 г. вёска ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Круглае Магілёўскага павета, 31 двор, 195 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1784 г. 29 двароў, 233 жыхары. У вайну 1812 г. разбурана і абрабавана французскімі войскамі. У 1834 г. 180 жыхароў. У 1846 г. ў Магілёўскім павеце, 34 двары, 232 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў вёсцы 142 жыхары мужчынскага полу. Паводле перапісу ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 54 двары, 379 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 60 двароў, 454 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 59 двароў, 349 жыхароў, адкрыта 4-гадовая школа, у якой у 1927 г. навучалася 65 дзяцей. У пач. 1931 г. арганізаваны калгас «Світанне», працавала кузня. У 1939 г. 4-гадовая школа ператворана ў 7-гадовую, у 1940 г. калгас стаў удзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ноч на 1.5.1944 г. партызаны 8-й Круглянскай брыгады разграмілі гітлераўскі гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. У магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны жыхарка вёскі Зямкова і 5 яе малых дзяцей, якіх фаш. карнікі жывымі спалілі ў чэрв. 1942 г. На фронце загінулі 69 вяскоўцаў. У цэнтры вёскі ўзведзены помнікі землякам, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму. У 1959—66 гг. вёска ў Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 57 гаспадарак, 127 жыхароў. У 1993 г. 32 гаспадаркі, 84 жыхары, у складзе калгаса «Шлях камунізму» (цэнтр — в. Комсенічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, пач. школа, б-ка, клуб, магазін. Ад гал. прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, адыходзіць на Пд кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЕ ПАЛЕССЕ** — вёска ў Кручанскім с/с, за 22 км на З ад Круглага, 100 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, вакол лес. На У цячэ р. Аслік (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 11 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

У 1858 г. вёска, 32 жыхары мужчынскага полу. Непадалёку размяшчаўся маёнтак, гаспадар якога валодаў у 1864 г. 407 дзес. зямлі. У 1880 г. 16 двароў, 110 жыхароў. Вяскоўцы апрача земляробства займаліся вырабам ільняной і пяньковай кудзелі і тканіны. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета, 19 двароў, 123 жыхары, хлебазапасны магазін. Побач былі аднайменныя фальварак (25 жыхароў) і слабада (12 двароў, 79 жыхароў). У 1918 г. адкрыта 4-класная школа, але ў 1920 г. згарэў яе будынак, зноў была адкрыта ў 1922 г., насіла імя 25 Кастрычніка. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, які ў 1924 г. наведвалі 25 вяскоўцаў. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Круглянскім р-не (да 16.7.1954). У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. У 1926 г. ў вёсцы 36 двароў, 188 жыхароў, школа (73 вучні). У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 14 партызан 8-й Круглянскай партыз. брыгады, якія загінулі ў 1942—43 гг. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 24 гаспадаркі, 46 жыхароў. У 1993 г. 17

гаспадарак, 33 жыхары, у складзе саўгаса «Круча» (цэнтр — в. Круча), размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, Дом культуры, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з 2 вуліц, адна з якіх плаўна выгнутая, амаль шыротнай арыентацыі. На Пн ад яе адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЕ ПОЛЕ** — былая вёска ў Шапялевіцкім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Круглага, 78 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шапялевічы—Круглае.

Вядома з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. фальварак у Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 1 двор, 4 жыхары. У 1909 г. 4 двары, 33 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Бялыніцкім р-не. З 12.2.1935 г. ў Круглянскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 8 гаспадарак, 15 жыхароў. У 1993 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, уваходзіла ў склад саўгаса «Шапялевічы» (цэнтр — в. Шапялевічы). Планіровачна складалася з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВАЕ РАДЧА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 3 км на Пн ад Круглага, 81 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Друць (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Талачын, якая праходзіць каля вёскі. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

У 1858 г. ў вёсцы Родча было 99 жыхароў мужчынскага полу, дзейнічалі млын і карчма. У 1885 г. 33 двары, 212 жыхароў, царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 48 двароў, 326 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 47 двароў, 332 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. У 1926 г. 15 двароў, 91 жыхар. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 г. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 18 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях камунізму» (цэнтр — в. Старое Радча), дзіцячы сад-яслі. У 1993 г. 13 гаспадарак, 26 жыхароў. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВЫ ДВОР** — былы пасёлак у Комсеніцкім с/с, за 10 км на ПдУ ад Круглага, 68 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Тубушкі і далей па шашы Круглае—Шклоў.

У 19 ст. тут быў невялікі маёнтак, гаспадар якога ў 1879 г. меў 285 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. фальварак у Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 22 жыхары. У 1909 г. 1 двор, 10 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. У 1926 г. 12 двароў, 51 жыхар. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Запруддзе). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**НОВАЯ ЕЛЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 8 км на У ад Круглага, 86 км ад Магілёва, 28 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф



раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Шклоў, якая праходзіць побач з вёскай. 18 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска, 28 жыхароў мужчынскага полу. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам абутку, ільняной і пяньковай тканіны, посуду з дрэва, цагельным, бандарным і кузнечным промысламі. У 1909 г. в. Елькаўшчына 3, 23 двары, 127 жыхароў. Пасля зліцця вёсак Елькаўшчына 1 і Елькаўшчына 2 ў в. Елькаўшчына, Елькаўшчына 3 была перайменавана ў в. Новая Елькаўшчына. У 1926 г. 22 двары, 115 жыхароў (па іншых звестках 23 двары, 127 жыхароў). У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. У 1930-х г. арганізаваны калгас «Новая Елькаўшчына», які абслугоўвала Круглянская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 18 вяскоўцаў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 53 жыхары. У 1993 г. 21 гаспадарка, 37 жыхароў, у складзе калгаса «Світанне» (цэнтр — в. Елькаўшчына), размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Непадалёку ад вёскі цагельны з-д «Бразгучка». Планіровачна складаецца з кароткай, плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НЯКРАСАВА** (да 30.7.1964 Царэўск) — вёска ў Рубежскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Круглага, 96 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Філатава, Рубеж і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 33 гаспадаркі, 94 жыхары (2007).

У 1880 г. вёска, жыхары якой апрача земляробства займаліся калёсным промыслам і вырабам абутку. Паводле перапісу 1897 г. ў Зарэчна-Талачынскай вол. Сенненскага павета, 32 двары, 232 жыхары. У 1909 г. 32 двары, 212 жыхароў, школа граматы. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 40 двароў, 217 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 65 жыхароў, у складзе саўгаса імя Някрасава (цэнтр — в. Філатава). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, б-ка, магазін. У 1993 г. 20 гаспадарак, 51 жыхар. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ. Да яе на Пн далучаецца кароткая, прамалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАГРАБІШЧА** — вёска ў Кручанскім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Круглага, 98 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнУ мяжуе з лесам. На З цячэ р. Альхоўка (прыток р. Аслік). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Круча і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. засценак у Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета, 6 двароў, 46 жыхароў. У 1909 г. 6 двароў, 57 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 10 двароў, 60 жыхароў. У вер. 1931 г. арганізаваны калгас імя Дзяржынскага, мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 12 гаспадарак, 24 жыхары. У 1993 г. 8 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе саўгаса «Круча» (цэнтр — в. Круча). Планіровачна складаецца з кароткай, плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДАР** — вёска ў Шапялевіцкім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Круглага, 82 км ад Ма-

гілёва, 18 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на Пн, Пд і У мяжуе з лесам. На З цячэ р. Бярозка (прыток р. Можа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Бялаўка, Ваўкаўшчына і далей па шашы Шапялевічы—Круглае. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Паводле перапісу 1897 г. пасёлак Падар (Падар-Масцішча), 3 двары, 18 жыхароў. У 1909 г. ў Эсьмонскай вол. Барысаўскага павета Мінскай губ., 12 двароў, 84 жыхары. У 1917 г. 14 двароў, 116 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бялыніцкім р-не. З 12.2.1935 г. ў Круглянскім р-не. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 25 двароў, 127 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 15 двароў, 81 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў снеж. 1942 г. спалілі 12 двароў, загубілі 3 жыхароў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 2 гаспадаркі, 6 жыхароў, у складзе саўгаса «Шапялевічы» (цэнтр — в. Шапялевічы), у вёсцы размяшчалася кантора паляўнічай гаспадаркі. У 1993 г. 1 гаспадарка, 6 жыхароў. Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ПАДПАЎЛОЎЕ** — вёска ў Круглянскім с/с, за 2 км на У ад Круглага, 80 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн цячэ р. Сітня (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Круглае, якая праходзіць побач з вёскай. 12 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. ў Круглянскім р-не. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 17 гаспадарак, 32 жыхары. У 1993 г. 15 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе саўгаса «Усход» (цэнтр — в. Усходні). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАПОЎКА** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 12 км на Пд ад Круглага, 68 км ад Магілёва, 38 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Галоўчын—Круглае, якая праходзіць побач з вёскай. 15 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. як валоданне вял. гетмана літоўскага М.Агінскага. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Ількавічы Магілёўскага павета, 47 двароў, 221 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1834 г. ў вёсцы 72 жыхары. У 1846 г. ў Магілёўскім павеце, вёска, 15 двароў, 100 жыхароў, і паўфальварак у складзе маёнтка Круглае, уласнасць памешчыка. Гаспадар маёнтка меў у 1869 г. 119,5 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 13 двароў, 102 жыхары, побач аднайменная аколіца, 15 двароў, 109 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 13 двароў, 69 жыхароў, у аколіцы 12 двароў, 75 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні, у 1924 г. ў ёй навучалася 60 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. і ў 1931—35 гг. у Круглянскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магі-

*Паляўнічая база «Падар».*





леўскай вобл. У 1926 г. 24 двары, 128 жыхароў. У вер. 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная ягада». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 36 гаспадарак, 67 жыхароў. У 1993 г. 30 гаспадарак, 54 жыхары, у складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Прыгані 2), размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАСЫРАВА** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 7 км на ПнУ ад Круглага, 85 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на Пд і З мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне цячэ ручай (прыток р. Гнілка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Круглае—Магілёў. 23 гаспадаркі, 47 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска Пазерава ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. У 1797 г. сяло Пасерава, уласнасць Дудаковіцкага дамініканскага кляштара. У 1880 г. 33 двары, 225 жыхароў. Апрача земляробства сяльчане займаліся вырабам розных рэчаў з лёну, лыка і кары, а таксама колавым, кушнерскім і гарбарным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. сяло ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 47 двароў, 276 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 40 двароў, 286 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 57 двароў, 283 жыхары. У вер. 1931 г. арганізаваны калгас «Зара», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Некалькі вяскоўцаў уваходзілі ў падп. партыйна-камсамольскую арг-цыю, якая дзейнічала ў Круглянскім р-не ў перыяд ням.-фаш. акупацыі. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны воіны і партызаны, якія загінулі ў 1941—44 гг. На фронце загінулі 26 вяскоўцаў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 48 гаспадарак, 98 жыхароў. У 1993 г. 43 гаспадаркі, 83 жыхары, у складзе калгаса «Кастрычнік» (цэнтр — в. Дудаковічы), размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якой з З перпендыкулярна падыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У месцы злучэння вуліц размешчана б-ка.

**ПАЎЛАВІЧЫ** — вёска ў Рубежскім с/с, за 9 км на З ад Круглага, 87 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На паўн. ускраіне цячэ р. Рутка (прыток р. Аслік). Транспартныя сувязі па шашы Марцьянавічы—Круглае, якая праходзіць праз вёску. 108 гаспадарак, 246 жыхароў (2007).

У 1834 г. вёска, 566 жыхароў. У 1848 г. ў Магілёўскім павеце, вёска (68 двароў, 548 жыхароў) і фальварак у складзе маёнтка Паўлавічы, уласнасць памешчыка. У фальварку дзейнічаў вінакурны з-д. У 1858 г. 275 жыхароў мужчынскага полу, карчма. У 1880 г. 87 двароў, 597 жыхароў. У 1871 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. было 50, у 1902 г. — 49 вучняў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам ільняной і пяньковай кудзелі і тканіны, абутку, а таксама кушнерскім і пяньковым промысламі. На аднайменнай сядзібе, што была паблізу, дзейнічалі вінакурны, цагельны і смалакурны з-ды. У 1892 г. пачаў працаваць млын, дзе ў 1895 г. пастаўлена паравая машына (4 рабочых). Паводле перапісу 1897 г. 112 двароў, 762 жыхары, нар. вучылішча і царк.-прыходская школа, крама, хлебазапасны магазін, заезны дом, царква (пабудавана з дрэва не пазней 1882 г.). У 1909 г. 124 двары, 812 жыха-

роў, пачалі дзейнічаць казённая вінная крама, фельч. пункт. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не, цэнтр сельсавета (да 27.12. 1977). У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У памяшканні былога вал. праўлення размясцілася школа, у якой у 1924 г. навучаліся 103 хлопчыкі і дзяўчынкі, у 1925 г. створаны драматычны і харавы гурткі. У 1926 г. ў вёсцы 159 двароў, 625 жыхароў. У вер. 1931 г. арганізаваны калгас «Сонца», працавала кузня. У 1930-х г. пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую. У 1940 г. 140 двароў, 655 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1943 г. спалілі 125 двароў, загубілі 16 жыхароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 13 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1942—44 гг. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 136 гаспадарак, 302 жыхары, у складзе саўгаса «Авангард» (цэнтр — в. Рубеж), размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, школа рабочай моладзі, б-ка, клуб, магазін, аддз. ашчаднага банка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1999 г. 121 гаспадарка, 281 жыхар. Дзейнічаюць Дом культуры, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (частка шашы), арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, ад якой на ПнЗ і ПдУ адыходзяць перпендыкулярна кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На гал. вуліцы сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. На паўдн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ПАЎЛОВА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 3 км на У ад Круглага, 81 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на Пн і У мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Сітня (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Круглае, якая праходзіць побач з вёскай. 30 гаспадарак, 77 жыхароў (2007).

У 1846 г. фальварак у складзе маёнтка Круглае Магілёўскага павета, 5 дваровых сямей. Гаспадар маёнтка меў у 1870 г. 600 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. фальварак, 30 жыхароў. У 1909 г. ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 1 двор, 11 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1926 г. 16 двароў, 67 жыхароў. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 47 гаспадарак, 109 жыхароў, у складзе саўгаса «Усход» (цэнтр — пас. Усходні), пач. школа, магазін. У 1993 г. 44 гаспадаркі, 90 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, якую размяжоўвае рака. З Пн да гэтай вуліцы перпендыкулярна падыходзіць прамалінейная кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЕРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Рубежскім с/с, за 8 км на ПдЗ ад Круглага, 86 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На зах. ускраіне цячэ р. Рутка (прыток р. Аслік). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Паўлавічы і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. в. Пераселле (яна ж Нова-Аляксандраўка) у Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 32 двары, 217 жыхароў. У 1909 г. 33 двары, 225 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1926 г. 49 двароў, 254 жыхары. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 35 гаспадарак, 76 жыхароў. У 1993



г. 23 гаспадаркі, 43 жыхары, у складзе саўгаса «Авангард» (цэнтр — в. Рубеж), размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЕТУШКІ** — вёска ў Комсеніцкім с/с, за 16 км на ПдУ ад Круглага, 69 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф узгорысты. На зах. ускраіне цячэ р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Комсенічы і далей па шашы Галоўчын—Круглае. 16 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска Пятухі ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Шупень Магілёўскага павета, 15 двароў, 64 жыхары, шляхецкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 16 двароў, 92 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 17 двароў, 142 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У вясковай школе ў 1924 г. навучаліся 42 хлопчыкі і дзяўчынкі. У 1926 г. 18 двароў, 107 жыхароў. У крас. 1931 г. 12 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак арганізаваліся ў калгас «Ударнік». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 27 гаспадарак, 55 жыхароў. У 1993 г. 22 гаспадаркі, 44 жыхары, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Запруддзе), размяшчалася свінагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма бел. спартсменкі па міжнародных і рус. шашках, чэмпіёнкі свету (1979), віцэ-чэмпіёнкі свету (1977) у асабістым першынстве Л.І.Сахненкі (нар. ў 1950).

**ПРАЛЕТАРЫЙ** — вёска ў Круглянскім с/с, за 6 км на Пн ад Круглага, 84 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На зах. ускраіне цячэ р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Талачын, якая праходзіць каля вёскі. 13 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. пасёлак, 17 двароў, 104 жыхары. У маі 1931 г. 22 гаспадаркі з вёсак Пралетарый і Радча арганізавалі калгас «Пралетарый». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 26 гаспадарак, 77 жыхароў. У 1993 г. 21 гаспадарка, 57 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях камунізму» (цэнтр — в. Старое Радча). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРУДКІ** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 17 км на Пд ад Круглага, 68 км ад Магілёва, 36 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на ПдУ мяжуе з лесам. На зах. ускраіне цячэ ручай Чыгірынка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Банькі і далей па шашы Галоўчын—Круглае. 2 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. як валоданне вял. гетмана літоўскага М.Агінскага. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1784 г. 13 двароў, 123 жыхары, належала княгіні К.Р.Дашкавай. У 1834 г. 73 жыхары. У 1846 г. 13 двароў, 99 жыхароў, у складзе маёнтка Круглае. Паводле перапісу 1897 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 23 двары, 158 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 24 двары, 164 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. З

20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 24 двары, 134 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Куйбышава, які абслугоўвала Цяцерынская МТС. У 1930-я г. адкрыта пач. школа. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў. У 1993 г. 10 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Прыгані 2). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРЫГАНІ 1** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 6 км на Пд ад Круглага, 74 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. На З размешчана Цяцерынскае вадасховішча. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Прыгані 3 і далей па шашы Галоўчын—Круглае. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

За 1 км на ПнУ ад вёскі знаходзяцца рэшткі гарадзішча, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 18 ст. як валоданне М.Агінскага, вял. гетмана літоўскага. У 1777 г. в. Вялікія Прыгані ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 12 двароў, 101 жыхар, уласнасць княгіні К.Р.Дашкавай. У 1834 г. 78 жыхароў. У 1846 г. ў Магілёўскім павеце, 16 двароў, 104 жыхары, у складзе маёнтка Круглае, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 25 гаспадарак, 150 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам розных рэчаў з лёну, лыка і кары. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 26 двароў, 204 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 21 двор, 234 жыхары. У 1910 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе ўзведзены будынак. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. навучалася 40 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1926 г. 22 двары, 113 жыхароў. У сак. 1931 г. арганізаваны калгас «Новыя Прыгані», які меў 190 га зямлі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 3.10.1943 г. партызаны разграмілі варожы гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 20 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Прыгані 2). У 1993 г. 13 гаспадарак, 23 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРЫГАНІ 2** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 8 км на Пд ад Круглага, 72 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Блінаўка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па шашы Галоўчын—Круглае, якая праходзіць паблізу вёскі. 110 гаспадарак, 265 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. як валоданне вял. гетмана літоўскага М.Агінскага. У 1784 г. ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ., 1 двор, 13 жыхароў, належала княгіні К.Р.Дашкавай. У 1834 г. 82 жыхары. У 1846 г. 17 двароў, 121 жыхар, у складзе маёнтка Круглае, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 61 жыхар мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 26 двароў, 196 жыхароў. У 1909 г. 28 двароў, 198 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 37 двароў, 201 жыхар. У сак. 1931 г. 9 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак арганізаваліся ў калгас «Прамень», пазней у калгас уступілі астатнія вяскоўцы. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры вёскі ў 1967 г. ў памяць аб 100 земляках з вёсак калгаса імя Калініна, якія загінулі на фронце, пастаўлены абеліск. У 1959—66



гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 93 гаспадаркі, 267 жыхароў. У 1993 г. 129 гаспадарак, 364 жыхары, цэнтр калгаса імя Калініна. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, свінагадоўчы комплекс, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, установка па прыгатаванні травяной мукі, зернедрабільня, пач. школа, Дом культуры, б-ка, магазін, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. ашчаднага банка, дзіцячы сад. У 2007 магазін і б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, якую перасякае рака. На яе паўн. баку ўзведзены 12 мураваных жылых дамоў. На У ад новай забудовы, перпендыкулярна да шашы праходзіць другая вуліца, забудаваная двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўд.- ўсх. ускраіне.

**ПРЫГАНІ 3** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 8 км на Пд ад Круглага, 70 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Галоўчын, якая праходзіць праз вёску. 21 гаспадарка, 46 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. пас. Прыган у Круглянскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 9 двароў, 59 жыхароў. У 1909 г. вёска Прыгані 3, 15 двароў, 104 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 31 двор, 182 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь». У 1940 г. 36 двароў, 147 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў чэрв. 1944 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 7 жыхароў. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 30 гаспадарак, 64 жыхары. У 1993 г. 33 гаспадаркі, 69 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Прыгані 2), размяшчалася вытв. брыгада. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі (частка шашы), забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЯТАЯ ГАДАВІНА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 3 км на Пд ад Круглага, 75 км ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Галоўчын—Круглае, якая праходзіць праз вёску. 1 гаспадарка, 3 жыхары (2007).

Засн. як пасёлак у пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 23 двары, 126 жыхароў. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1993 г. 1 гаспадарка, 3 жыхары, у складзе саўгаса «Усход» (цэнтр — пас. Усходні). Драўляныя сялянскія сядзібы з гасп. будынкамі пастаўлены ўздоўж шашы.

**РАБІНАЎКА** — вёска ў Комсеніцкім с/с, за 17 км на ПдУ ад Круглага, 70 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Вабіч (прыток р. Друць). На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Вабіч. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Комсенічы і далей па шашы Галоўчын—Круглае. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. пасёлак, 9 двароў, 44 жыхары. У ліп. 1931 г. бядняцка-серадняцкія гаспадаркі вёсак Шушоўка і Рабінаўка арганізавалі калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На франтах загінулі 4 вяскоўцы. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 8 гаспадарак, 19 жыхароў. У 1993 г. 8 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Комсенічы). Планіровачна складаецца з кароткай

прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАЖКІ** — вёска ў Круглянскім с/с, за 6 км на Пн ад Круглага, 84 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На У цячэ р. Друць (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Александрова і далей па шашы Талачын—Круглае. 13 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Праз 0,5 км на З ад вёскі, на правым беразе р. Друць, захаваўся курганны могільнік (2 насыпы), што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 19 ст. У 1858 г. 25 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 21 двор, 114 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. Непадалёку быў аднайменны засценак, 5 двароў, 53 жыхары. У 1909 г. 18 двароў, 120 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. аднайменныя вёска (18 двароў, 99 жыхароў), засценак (11 двароў, 59 жыхароў) і хутар (11 двароў, 49 жыхароў). У 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «1 з'езд калгаснікаў». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Частка вяскоўцаў уваходзіла ў падп. партыйна-камсамольскую арг-цыю, якая дзейнічала ў

*Панарама в. Ракушава.*



*Новабудоўлі аграгарадка Ракушава.*





раёне. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 21 гаспадарка, 44 жыхары. У 1993 г. 19 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе калгаса «Свабода» (цэнтр — в. Грыбіна), размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАКУШАВА** (да 6.11.1967 г. Ліхінічы) — вёска ў Круглянскім с/с, за 2 км на Пд ад Круглага, 78 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд і З праз вёску праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Друць (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па шашы Марцьянавічы—Круглае, якая праходзіць побач з вёскай. 210 гаспадарак, 554 жыхары (2007).

У 1834 г. вёска, 380 жыхароў. У 1848 г. ў Магілёўскім павеце, 43 двары, 355 жыхароў, у складзе маёнтка Паўлавічы, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 199 жыхароў мужчынскага полу. Меўся цагельны з-д. Побач быў маёнтак, гаспадар якога валодаў у 1880 г. 1100 дзес. зямлі, вадзяным млыном і сукнавальняй. Меўся хлебазапасны магазін. У 1888 г. адкрыта школа граматы, якая ў 1908 г.ператворана ў царк.-прыходскую, а ў 1910 г. — у земскую школу. Паводле перапісу 1897 г. ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 111 двароў, 650 жыхароў, казённая вінная крама. У 1909 г. 117 двароў, 685 жыхароў. У 1912 г. для школы ўзведзены асобны будынак. Непадалёку, каля р. Друць, быў маёнтак. У чэрв. 1905 г. сяляне адмовіліся ўносіць арэндную плату за пасвішча, самавольна скасілі луг, аказалі супраціўленне паліцыі. Хваляванне падавіў магілёўскі губернатар, які прыбыў у вёску з ротай салдат. 12 чалавек былі арыштаваны і зняволены ў турму. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1923 г. навучалася 96 хлопчыкаў і дзяўчынак.

У барацьбе за новае жыццё актыўна ўдзельнічала сям'я Ракушавых. Бацька, Вавіла Іванавіч, вёў рэв. прапаганду сярод сялян яшчэ ў дакастрычніцкі час, быў арганізатарам і кіраўніком падп. групы. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. ён узначаліў вал. зямельны к-т, удзельнічаў у працы к-та беднаты, змагаўся супраць герм. войск. Яго сын Фёдар стаў адным з актыўных пазаштатных карэспандэнтаў рэсп. і цэнтр. газет, разам з братам Рыгорам наладзіў выпуск насценнай газ. «Факел», у якой выкрываў ворагаў сав. улады. Пры падтрымцы моладзі ён арганізаваў хату-чытальню, гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. 25.1.1925 г. на дом Ракушавых напалі бандыты, забілі Вавілу Іванавіча, яго сыноў Фёда-



*У дзіцячым садку в. Ракушава.*



*Будынак сацыяльна-адміністрацыйнага цэнтра ў в. Ракушава.*

ра і Рыгора. У памяць аб іх в. Ліхінічы перайменавана ў Ракушава. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас імя газеты «Беларуская вёска», пач. школаператворана ў 7-гадовую. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Група вяскоўцаў уваходзіла ў падп. партыйна-камсамольскую арг-цыю, якая дзейнічала на тэрыторыі раёна і аформілася ў канцы студз. 1942 г. на нарадзе падпольшчыкаў у Ліхінічах, дзе атрымала сваю назву і выпрацавала план дзеянняў. У 1959—66 гг. вёска ў Бялыніцкім р-не. З 1967 г. сучасная назва. У 1986 г. ў вёсцы размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, птушкафабрыка (спецыялізавалася на вырошчванні качак), 8-гадовая школа, Дом культуры, б-ка, магазін, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, гасцініца. На ф-цы працавала Герой Сацыяліст. Працы птушніца Т.В.Кубека. У 2007 г. аграгарадок, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна вёска складаецца з паўн. (2 прамалінейныя паралельныя вуліцы, арыентаваныя амаль мерыдыянальна і злучаныя завулкамі) і паўд. (5 прамалінейных паралельных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных завулкамі і на Пн — прамалінейнай вуліцай шыротнай арыентацыі). Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ўсх. ускраіне.

**РУБЕЖ** — вёска, цэнтр сельсавета (з 27.12.1977), за 14 км на З ад Круглага, 92 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 82 гаспадаркі, 199 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ., 40 рэвізскіх душ, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 19 двароў, 152 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся пяньковым промыслам. Паводле перапісу 1897 г. в. Рубеж (яна ж Гоенка) у Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета, 34 двары, 178 жыхароў, школа граматы і хлебазапасны магазін. У 1909 г. 33 двары, 211 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. створаны саўгас «Маладая гвардыя», які ў 1937 г. ліквідаваны і на яго базе створана Паўлавіцкая МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1943 г. спалілі 8 двароў. У памяць пра 248 землякоў з вёсак саўгаса «Авангард», якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у цэнтры вёскі, у скверы ў 1967 г. пастаўлены абеліск. У 1959—66 гг. вёска ў Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 63 гаспадаркі, 167 жыхароў, цэнтр сядзіба саўгаса «Авангард». У вёсцы размяшчаліся механічны двор, сталярна-цяслярная майстэрня, устаноўка па прыгатаванні вітаміннай мукі, зернедрабільня, ферма буйной рагатай жывёлы, сярэдняя школа, Дом культуры са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, 2 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, сталовая, дзіцячы сад-яслі. У 1993 г. 78 гаспадарак, 240 жыхароў. У 2007 сярэдняя школа, б-ка, магазін. Цэнтр. сядзіба КСУП «Саўгас «Рубеж». Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых вуліц (працяглай і кароткай), арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкамі. Забудавана аднабакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На гал. (працяглай) вуліцы ўзведзены двухпавярховыя мураваныя дамы. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Гасп. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

У склад сельсавета ўваходзяць 15 вёсак.

**РУБЛЁЎСК** — вёска ў Комсеніцкім с/с, за 19 км на Пд ад Круглага, 63 км ад Магілёва, 39 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгоры-



сты. На ўсх. ускраіне цячэ р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Галоўчын—Круглае. 20 гаспадарак, 40 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. як уладанне вял. гетмана літоўскага М.Агінскага. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Ількавічы Магілёўскага павета, 29 двароў, 161 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1784 г. 21 двор, 119 жыхароў, уласнасць княгіні К.Р.Дашкавай. У 1834 г. 95 жыхароў. У 1846 г. ў Магілёўскім павеце, 22 двары, 132 жыхары, у складзе маёнтка Круглае. У 1858 г. быў 71 жыхар мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 25 двароў, 212 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 28 двароў, 190 жыхароў. 5.9.1915 г. адкрыта земская школа. У 1922 г. вяскоўцы перанеслі будынак з маёнтка Адольфава і прыстасавалі яго пад школу, якая была адкрыта 4.11.1923 г. У 1924 г. ў школе быў 51 вучань. З 20.8.1924 г. вёска ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. ў Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 34 двары, 189 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Шлях Леніна», былі адкрыты клуб, дзіцячыя яслі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пач. 1950-х г. да калгаса былі далучаны 4 суседнія гаспадаркі. У 1986 г. 24 гаспадаркі, 52 жыхары. У 1993 г. 26 гаспадарак, 56 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Комсенічы), ферма буйной рагатай жывёлы. Планіроўка Т-падобная. Да прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі далучаецца на Пн прамалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РЭЧКІ** — былы пасёлак у Комсеніцкім с/с, за 21 км на Пд ад Круглага, 65 км ад Магілёва, 39 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Міхайлаўка і далей па шашы Галоўчын—Круглае.

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 7 двароў, 42 жыхары. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас імя 6-га з'езда Саветаў Кругляншчыны. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 2 гаспадаркі, 2 жыхары, у складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Комсенічы). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**САЛАДОЎНЯ** — вёска ў Комсеніцкім с/с, за 11 км на Пд ад Круглага, 67 км ад Магілёва, 30 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па шашы Галоўчын—Круглае, якая праходзіць побач з пасёлкам. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. як пасёлак у пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 15 двароў, 78 жыхароў. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 14 пасялкоўцаў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 7 гаспадарак, 16 жыхароў. У 1993 г. 5 гаспадарак, 8 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Комсенічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САЛАЎЁВА** — былы пасёлак у Кручанскім с/с, за 16 км на З ад Круглага, 98 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны.





Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае.

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 5 двароў, 43 жыхары. У маі 1931 г. 34 бядняцка-серадняцкія гаспадаркі пас. Вугляны, былых пасёлкаў Кассё, Салаўёва аб'ядналіся ў калгас «Звязда». У 1940 г. 13 двароў, 40 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі пасёлак, загубілі 3 жыхароў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў, у складзе саўгаса «Круча» (цэнтр — в. Круча). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**САННІКІ** — вёска ў Рубежскім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Круглага, 90 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вялікія Каскевічы, Рубеж і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 12 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска, 32 жыхары мужчынскага полу. Побач знаходзіўся невялікі маёнтак, гаспадар якога меў у 1865 г. 150 дзес. зямлі. У 1880 г. 16 двароў, 113 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася пяньковым промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета, 21 двор, 154 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін. У аднайменным фальварку 1 двор, 13 жыхароў, на сядзібе — 1 двор, 9 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 21 двор, 138 жыхароў, у фальварку — 1 двор, 4 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 29 двароў, 137 жыхароў, на хутары 2 двары, 6 жыхароў. У крас. 1931 г. арганізаваны калгас «Змена». У 1940 г. 28 двароў, 168 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 6 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 36 гаспадарак, 59 жыхароў. У 1993 г. 26 гаспадарак, 37 жыхароў, у складзе саўгаса «Някрасава» (цэнтр — в. Філатава). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, ад цэнтра якой адыходзіць на У кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СВАБОДА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 3 км на ПнЗ ад Круглага, 81 км ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Друць (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 18 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

За 0,3 км на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе р. Друць, захаваўся курганны могільнік (8 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска ўзнікла як пасёлак у пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 9 двароў, 55 жыхароў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 17.7.1967 г. да пасёлка далучана в. Дубнік. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 40 гаспадарак, 88 жыхароў. У 1993 г. 30 гаспадарак, 75 жыхароў, у складзе саўгаса «Круглянскі» (цэнтр — г.п. Круглае). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СІДАРКАВА** — былая вёска ў Рубежскім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Круглага, 94 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе



праз вёскі Някрасава, Філатава і далей па шашы Магілёў—Круглае.

У 1880 г. вёска, жыхары якой апрача земляробства займаліся калёсным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. вёска (25 двароў, 156 жыхароў) і выселак (1 двор, 4 жыхары). У 1909 г. ў Зарэчна-Талачынскай вол. Сенненскага павета Магілёўскай губ., 13 двароў, 73 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 27 двароў, 137 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 12 гаспадарак, 20 жыхароў. У 1993 г. 5 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе саўгаса «Някрасава» (цэнтр — в. Філатава). Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СІМАНАВІЧЫ** — вёска ў Шапялевіцкім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Круглага, 72 км ад Магілёва, 38 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Каменка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Касцюковічы і далей па шашы Шапялевічы—Круглае. 17 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска ў Магілёўскім павеце, 88 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 40 двароў, 282 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 48 двароў, 317 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 54 двары, 385 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Бялыніцкім р-не. З 12.2.1935 г. ў Круглянскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 55 вучняў, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 70 двароў, 347 жыхароў. У 1930-я г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую, а затым у сярэднюю. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 48 гаспадарак, 131 жыхар, у складзе саўгаса «Шапялевічы» (цэнтр — в. Шапялевічы), размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, 8-гадовая школа, б-ка, клуб, стацыянарная кінаўстаноўка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 1993 г. 38 гаспадарак, 74 жыхары. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СКЛЯПАВА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 9 км на Пн ад Круглага, 87 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ ручай (прыток р. Гнілка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Замышкі і далей па шашы Талачын—Круглае. 28 гаспадарак, 52 жыхары (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска Скляпаў у Копыскім павеце Магілёўскай губ. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога меў у 1856 г. 723 дзес. зямлі, вінакурны з-д (з 1865), млын і карчму. У 1890 г. пачала працаваць лесапільня. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы Скляпава (яна ж Дворкі) 8 двароў, 56 жыхароў, у фальварку 26 жыхароў, паравы млын, на сядзібе 1 двор, 6 жыхароў. У 1909 г. вёска ў Круглянскай валасці Магілёўскага павета (10 двароў, 72 жыхары), маёнтак (1 двор, 3 жыхары), шкіпінарна-дзёгцевы з-д (1 двор, 1 жыхар), сядзіба (1 двор, 7 жыхароў). Дзейнічаў крухмальны з-д, засн. ў 1888 г., на якім у 1900 г. працавала 11 рабочых. У 1907 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой быў узведзены будынак (згарэў у вер. 1923). З 20.8.1924 г. ў Круглянскім

р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой быў перададзены нацыяналізаваны будынак. У 1924 г. навучалася 75 хлопчыкаў і дзяўчынак. У 1926 г. вёскі Скляпава 1 (22 двары, 102 жыхары), Скляпава 2 (15 двароў, 76 жыхароў), хутар (4 двары, 22 жыхары). У 1930 г. арганізаваны калгас «Колас», які пазней абслугоўваўся Круглянскай МТС, у 1939 г. быў удзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена воінамі 494-га стралк. палка 174-й стралк. дывізіі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 58 гаспадарак, 138 жыхароў, у складзе калгаса «Шлях камунізму» (цэнтр — в. Комсенічы), размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, магазін. Планіровачна складецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. На З ад яе абапал ручая праходзяць 2 кароткія вуліцы. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**СКУРАТЫ** — вёска ў Круглянскім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Круглага, 86 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Грыбіна і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 15 гаспадарак, 36 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1667 г. сяло ў Аршанскім павеце ВКЛ. У 1879 г. адкрыта школа граматы, якая ў 1900 г. ператворана ў царк.-прыходскую. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Скураты 1 (21 двор, 140 жыхароў, хлебазапасны магазін) і Скураты 2 (22 двары, 144 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін) у Круглянскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам сукна і кавальскім промыслам. У 1909 г. ў Скуратах 1 было 28 двароў, 198 жыхароў, у Скуратах 2 — 26 двароў, 184 жыхары. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой у 1924 г. былі выдзелены 3 дзес. зямлі. У гэты час у школе навучалася 46 хлопчыкаў і дзяўчынак. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не, да 11.4.1960 г. цэнтр сельсавета. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1930 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў в. Скураты 1 — 33 двары, 171 жыхар, у в. Скураты 2 — 30 двароў, 149 жыхароў. У вер. 1931 г. арганізаваны калгас «10-ы з'езд Саветаў Беларусі». У канцы 1930-х г. пач. школа была ператорана ў 7-гадовую. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пасляваенны час вёскі Скураты 1 і Скураты 2 былі аб'яднаны ў адну вёску Скураты. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 4 гаспадаркі, 91 жыхар, у складзе калгаса «Свабода» (цэнтр — в. Грыбіна), размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, авечкагадоўчы комплекс, 8-гадовая школа, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін. У 1993 г. 25 гаспадарак, 47 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЛАБАДА** — былая вёска ў Лясняньскім с/с, за 13 км на У ад Круглага, 91 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дуброва, Елькаўшчына і далей па шашы Шклоў—Круглае.

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска Слабада Ліцієўская ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. У 1836 г. ў Магілёўскім павеце, 62 жыхары. У 1857 г. ўласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. 17 двароў, 136 жыхароў, хлебазапасны магазін і карчма. У 1909 г. ў Старасельскай вол. Аршанскага павета Магілёўскай губ., 21 двор, 158 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У



Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 26.6. 1944 г. 1-м асобным матацыклетным палком 5-й танкавай арміі. На фронце загінула 16 вяскоўцаў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1967 г. да вёскі далучана в. Дубнік. У 1986 г. 16 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе калгаса «Рассвет» (цэнтр — в. Елькаўшчына), размяшчалася свінагадоўчая ферма. Планіровачна складалася з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЛАВЯНКА** (да 30.7.1964 г. Аглобля) — вёска ў Ляснянскім с/с, за 5 км на У ад Круглага, 83 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Елькаўшчына і далей па шашы Круглае—Шклоў. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Паводле перапісу 1897 г. засценак (5 двароў, 38 жыхароў) у Круглянскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 4 двары, 23 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 16 двароў, 66 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя 1 Мая, які затым абслугоўвала Круглянская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 11 вяскоўцаў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 12 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе калгаса «Рассвет» (цэнтр — в. Елькаўшчына), размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. У 1993 г. 8 гаспадарак, 12 жыхароў. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СМАГІЛАЎКА** — вёска ў Шапялевіцкім с/с, за 24 км на Пд ад Круглага, 78 км ад Магілёва, 29 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне цячэ р. Аслік (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шапялевічы—Круглае. 13 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

У 1857 г. вёска ў Магілёўскім павеце. Паводле перапісу 1897 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 14 двароў, 108 жыхароў. У 1909 г. 116 жыхароў. З 20.8. 1924 г. ў Бялыніцкім р-не. З 12.2.1935 г. ў Круглянскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 23 двары, 115 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 21 гаспадарка, 57 жыхароў. У 1993 г. 17 гаспадарак, 35 жыхароў, у складзе саўгаса «Шапялевічы» (цэнтр — в. Шапялевічы). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАІ** — вёска ў Кручанскім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Круглага, 68 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд, З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Залоссе і далей па шашы Шапялевічы—Круглае. 15 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

*Ваколіцы в. Славянка.*



Вядома з 17 ст. У 1651 г. сяло ў складзе маёнтка Сліжы, 45 валок ворыўнай зямлі. У 1858 г. ў Копыскім павеце, 12 двароў, 52 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1909 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 55 двароў, 323 жыхары. У 1909 г. адкрыта аднакласная царк.-прыходская школа. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1926 г. 82 двары, 459 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. навучалася 58 хлопчыкаў і дзяўчынак, дзейнічаў драматычны гурток. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У крас. 1931 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё». Пач. школа была ператорана ў 7-гадовую. У 1940 г. 70 двароў, 450 жыхароў, 7-гадовая школа. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1943 г. спалілі 67 двароў, загубілі 31 жыхара. Пасля вайны адбудавана. З 26.7.1930 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 45 гаспадарак, 79 жыхароў, у складзе саўгаса «Круча» (цэнтр — в. Круча), размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, магазін. У 1993 г. 39 гаспадарак, 57 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАРКІ** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 15 км на Пд ад Круглага, 67 км ад Магілёва, 34 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, праз вёску цячэ ручай Чыгірынка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Папоўка і далей па шашы Галоўчын—Круглае. 6 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. як валоданне вял. гетмана літоўскага М.Агінскага. У 1784 г. 13 двароў, 123 жыхары, належала княгіні К.Р.Дашкавай. У 1834 г. ў Магілёўскім павеце, 68 жыхароў. У 1846 г. 15 двароў, 100 жыхароў, у складзе маёнтка Круглае, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 22 двары, 149 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 25 двароў, 167 жыхароў.

У 1919 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. вёска ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 19 двароў, 102 жыхары, пачатковая школа (38 вучняў, дзейнічаў драмгурток). У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны гай», які потым абслугоўвала Цяцерынская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 18 гаспадарак, 25 жыхароў. У 1993 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Прыгані 2). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, на З ад якой абапал ракі праходзяць 2 меншыя па памерах вуліцы. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАРОЕ РАДЧА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 5 км на Пн ад Круглага, 83 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Гнілка (прыток р. Друць), непадалёку ад зах. ускраіны — р. Друць (прыток р. Днепр). Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Талачын, якая праходзіць праз вёску. 88 гаспадарак, 269 жыхароў (2007).

Вядома з 16 ст. У 1560 г. в. Радча, цэнтр маёнтка, шляхецкая ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) ва ўладанні княгіні К.Р.Дашкавай. У 1784 г. 22 двары, 25 жыхароў. У вайну 1812 г. разбурана і абрабавана французскімі войскамі. У 1834 г. 133 жыхары, у 1846 г. 29 двароў, 172 жыхары, у складзе маёнтка Круглае. У 1858 г. 99 жыхароў мужчынскага полу. У 1885 г. 33 двары, 212 жыхароў, царк.-прыходская школа. Паводле



перапісу 1897 г. ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 48 двароў, 326 жыхароў, хлебазапасны магазін, вадзяны млын, аднакласная школа, для якой у 1908 г. на сродкі казны і сялян пабудавана памяшканне. У 1909 г. 47 двароў, 332 жыхары, царква (пабудаваная з дрэва не пазней 1882 г.). З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. вёска (33 двары, 203 жыхары) і хутар (7 двароў, 41 жыхар). На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 54 вучні. У маі 1931 г. 22 гаспадаркі з вёсак Пралетарый и Радча арганізавалі калгас «Пралетарый». У вер. 1931 г. ўзнік другі калгас — «13 гадоў Кастрычніка». Пач. школа ў 1930-я г. былаператворана спачатку ў 7-гадовую, а потым — у сярэднюю. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Частка вяскоўцаў уваходзіла ў падп. партыйна-камсамольскую арг-цыю, якая дзейнічала ў Круглянскім р-не. У памяць аб 72 земляках, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1967 г. каля будынка праўлення калгаса «Шлях камунізму» пастаўлена стэла. У 1959—66 гг. вёска ў Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 79 гаспадарак, 194 жыхары, цэнтр калгаса «Шлях камунізму». У вёсцы размяшчаліся майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, зернедрабільня, клуб, стацыянарная кінаўстаноўка, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, сталовая, дзіцячы сад, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1993 г. 74 гаспадаркі, 227 жыхароў. У 2007 г. комплекс дзіцячы сад—пач. школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін, сталовая. Цэнтр. сядзіба СВК «Калгас «Друць». Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, якую ў цэнтры перасякае шаша. Ад абодвух канцоў гэтай вуліцы на Пд адыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд ад галоўнай вуліцы і ўздоўж усх. боку з пач. 1980-х г. вядзецца будаўніцтва мураваных дамоў. Грамадскія будынкі размешчаны на перакрыжаванні гал. вуліцы і шашы. Гасп. сектар — на паўдн.-зах. ускраіне.

**СТАРОЕ ПАЛЕССЕ** — вёска ў Кручанскім с/с, за 19 км на З ад Круглага, 97 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Альхоўка (прыток р. Аслік). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Круча і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 29 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска Стара-Палессе, 49 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 18 двароў, 121 жыхар. Апрача земляробства ва ўсіх дварах займаліся вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны. Паводле перапісу 1897 г. в. Старое Палессе (26 двароў, 163 жыхары) у Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета, хлебазапасны магазін, побач в. Старое Палессе 2 (18 двароў, 122 жыхары), засценак Старое Палессе (4 двары, 26 жыхароў) і фальварак Старое Палессе (1 двор, 8 жыхароў). У 1909 г. ў в. Старое Палессе было 35 двароў, 226 жыхароў, адкрыта земская школа. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. навучалася 76 хлопчыкаў і дзяўчынак. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, які наведвалі 16 вяскоўцаў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 47 двароў, 286 жыхароў. У вер. 1931 г. арганізаваны калгас «Палеская Зара». У 1940 г. 62 двары, 333 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў ліп. 1942 г. спалілі 60 двароў, загубілі 31 жыхара. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 42 гаспадаркі, 93 жыхары. У 1993 г. 39 гаспадарак, 96 жыхароў, у складзе саўгаса «Круча» (цэнтр — в. Круча), размяшчалася ферма буйной

рагатай жывёлы. Planіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, на Пн ад якой праходзіць крывалінейная, таксама шыротнай арыентацыі вуліца з завулкамі. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТАТАРКА** — вёска ў Кручанскім с/с, за 21 км на З ад Круглага, 99 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Круча і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Паводле перапісу 1897 г. вёска (14 двароў, 147 жыхароў) ва Ухвальскай вол. Барысаўскага павета. У 1908 г. 21 двор, 180 жыхароў, у 1917 г. 25 двароў, 210 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. адкрыта 4-гадовая школа, у якой у 1926 г. навучаліся 43 дзяўчынкі і хлопчыкі. У 1926 г. 30 двароў, 195 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 37 двароў, 162 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1944 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 10 жыхароў. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1959—66 г. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 14 гаспадарак, 24 жыхары. У 1993 г. 7 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе саўгаса «Круча» (цэнтр — в. Круча). Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ТРЫПУТНЯ** — былы пасёлак у Круглянскім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Круглага, 87 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне цячэ р. Бярозаўка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Арава і далей па шашы Талачын—Круглае.

Паводле перапісу 1897 г. хутар Трыпутні ў Круглянскай вол. Магілёўскага

*Ваколіцы в. Тубышкі.*





павета Магілёўскай губ., пры р. Бярозаўка, 2 двары, 22 жыхары. Пасля 1917 г. тут пачалі сяліцца выхадцы з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. пасёлак, 7 двароў, 34 жыхары. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 4 гаспадаркі, 11 жыхароў, уваходзіў у склад калгаса «Свабода» (цэнтр — в. Грыбіна). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі, уздоўж ракі.

**ТУБЫШКІ** — вёска ў Комсеніцкім с/с, за 8 км на ПдУ ад Круглага, 70 км ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ўсх. ускраіне цячэ р. Вабіч (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па шашы Бялынічы—Шклоў, якая праходзіць побач з вёскай. 37 гаспадарак, 70 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. сяльцо ў складзе маёнтка Шупень Магілёўскага павета, 43 двары, 265 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. Меліся 2 млыны, вінакурня. У 1880 г. 36 двароў, 470 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва, калёсным, бандарным і ганчарным промысламі, нарыхтоўкай лясных матэрыялаў для вырабаў з дрэва. У 1833 г. пабудавана мураваная царква. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога меў у 1865 г. 352 дзес. зямлі і вадзяны млын. У 1885 г. сяло Тубышкі (яно ж Вялікае Сяло), 42 двары, 300 жыхароў, царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. ў Чарнаруцкай вол. Магілёўскага павета, 57 двароў, 427 жыхароў, хлебазапасны магазін. У аднайменным фальварку 8 двароў, 50 жыхароў. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. сяляне ў сак. 1906 г. адмовіліся плаціць падаткі. У 1909 г. ў вёсцы 61 двор, 437 жыхароў, у фальварку — 19 жыхароў. У вёсцы размяшчаліся дзярж. хлебныя склады. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1924 г. навучаліся 103 хлопчыкі і дзяўчынкі. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 г. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. ў вёсцы 110 двароў, 586 жыхароў, у былым маёнтку 13 двароў, 54 жыхары. У снеж. 1929 г. арганізавана с.-г. камуна, а ў пач. 1930-х г. — калгас «Іскра». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 51 вяс-



*Магіла М.Р.Чарняева ў в. Тубышкі.*



*Круглянскі бусел.*

ковец. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 63 гаспадаркі, 131 жыхар, у складзе калгаса «Іскра» (цэнтр — в. Запруддзе), размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, 8-гадовая школа, клуб, стацыянарная кінаўстаноўка, магазін. У 1993 г. 55 гаспадарак, 105 жыхароў. Планіроўка прамавугольная — 2 прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі злучаны завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

У вёсцы нарадзіўся і пахаваны генерал М.Р.Чарняеў (1828—98), герой руска-турэцкай вайны 1876—78 гг.

**УЛУЖЖА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 6 км на Пд ад Круглага, 74 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На Пд — Цяцерынскае вадасховішча, створанае на р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ракушава і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 28 гаспадарак, 47 жыхароў (2007).

У 1857 г. вёска ў Магілёўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 33 двары,



*Сацыяльна-адміністрацыйны цэнтр у аграгарадку Філатава.*

*Панарама в. Філатава.*





*Тэрытарыяльна-педагагічны комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа ў в. Філатава.*

222 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. Паводле перапісу ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 47 двароў, 345 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 54 двары, 372 жыхары, школа граматы ператворана ў земскую, для якой у 1912 г. ўзведзены асобны будынак. Дарэв. школа ператворана ў прац. школу 1-й ступені, у якой у 1924 г. навучалася 50 дзяцей. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 9 двароў, 45 жыхароў. У крас. 1931 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. ў Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 56 гаспадарак, 105 жыхароў, у складзе саўгаса «Круглянскі» (цэнтр — г.п. Круглае), размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1993 г. 44 гаспадаркі, 77 жыхароў. Планіровачна складаецца з 2 амаль прамалінейных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, якія злучаны на Пн. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ФІЛАТАВА** — вёска ў Рубежскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Круглага, 91 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Скураты і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 113 гаспадарак, 284 жыхары (2007).

У 1880 г. вёска, 25 двароў, 109 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы зай-



*Гандлёвы цэнтр аграгарадка Філатава.*



*Дом культуры ў в. Філатава.*


*Брацкая магіла савецкіх воінаў у в. Філатава.*

маліся калёсным і кавальскім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 44 двары, 177 жыхароў. У 1909 г. 52 двары, 239 жыхароў. У 1912 г. адкрыта земская школа. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якую ў 1924 г. наведваў 51 вучань. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 72 двары, 362 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «2-я пяцігодка». У канцы 1930-х г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую. У 1940 г. 53 двары, 212 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў жн. 1943 г. спалілі 51 двор, загубілі 5 жыхароў. У памяць аб 252 земляках, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1962 г. ў скверы каля школы пастаўлены абеліск. У цэнтры вёскі пастаўлены таксама помнік ураджэнцу вёскі Герою Сав. Саюза С.А.Лавянецкаму, які, будучы механікам-вадзіцелем самаходнай артыл. устаноўкі, вызначыўся ў баі супраць ням.-фаш. захопнікаў на тэр. Венгрыі ў 1944 г. і там загінуў. У 1959—66 гг. вёска ў Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 56 гаспадарак, 126 жыхароў, цэнтр. сядзіба саўгаса імя М.А.Някрасава. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, сталярна-цяслярская майстэрня, 2 устаноўкі па прыгатаванні вітаміннай мукі, клуб, б-ка, 8-гадовая школа, 2 магазіны, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, дзіцячы сад, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 1993 г. 103 гаспадаркі, 293 жыхары, цэнтр сядзіба саўгаса «Някрасава». У 2007 г. цэнтр. сядзіба СВК «Някрасава-Агра», аграгарадок, дзейнічаюць тэрытарыяльна-педагагічны і фізкультурна-аздараўленчы комплексы, Дом культуры, б-ка, аддз. сувязі, магазін, урачэбная амбулаторыя, сталовая. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

*Фізкультурна-аздараўленчы комплекс у в. Філатава.*



**ХІЛЬКАВІЧЫ** — вёска ў Рубежскім с/с, за 10 км на З ад Круглага, 83 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Рутка (прыток р. Аслік). Транспартныя сувязі па шашы Марцьянавічы—





*На спартыўнай пляцоўцы тэрытарыяльна-педагагічнага комплекса ў в. Філатава.*

Круглае, якая праходзіць праз вёску. 27 гаспадарак, 50 жыхароў (2007).

У 1834 г. ў вёсцы 166 жыхароў, у 1848 г. ў Магілёўскім павеце, 20 двароў, 161 жыхар, у складзе маёнтка Паўлавічы, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 84 жыхары мужчынскага полу. У 1880 г. 33 двары, 210 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім, пяньковым і сталярным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета, 47 двароў, 336 жыхароў, школа граматы і хлебазапасны магазін. У 1909 г. 51 двор, 361 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.8.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 52 двары, 276 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 50 гаспадарак, 109 жыхароў, у складзе саўгаса «Авангард» (цэнтр — в. Рубеж), размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, збожжаток. У 1993 г. 41 гаспадарка, 87 жыхароў. Аснову планіровачнай структуры складае кароткая прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі (адрэзак шашы), ад якой на ПнЗ адыходзяць 2 працяглыя, амаль прамалінейныя вуліцы, злучаныя завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХРАЛІШЧАВА** — вёска ў Рубежскім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Круглага, 88 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Ла-



*Драўляны ровар з калекцыі Філатаўскага школьнага гісторыка-краязнаўчага музея.*

вуткі і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

За 0,5 км на Пн ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік (2 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у глыбокай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 19 ст. У 1858 г. было 78 жыхароў мужчынскага полу. Побач быў маёнтак, гаспадар якога меў у 1865 г. 412 дзес. зямлі. У 1880 г. 33 двары, 180 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся калёсным і кравецкім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета, 44 двары, 294 жыхары, школа граматы, хлебазапасны магазін, у аднайменным засценку 5 двароў, 36 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 42 двары, 262 жыхары, у засценку 6 двароў, 37 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. вёска (27 двароў, 147 жыхароў) і засценак (12 двароў, 82 жыхары). У крас. 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зара». У 1930-я г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 44 гаспадаркі, 93 жыхары, у складзе саўгаса імя Някрасава (цэнтр — в. Філатава), размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, клуб, магазін. У 1993 г. 38 гаспадарак, 62 жыхары. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы, ад якой на Пн адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХРАПЫ** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 10 км на ПдЗ ад Круглага, 75 км ад Магілёва, 33 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Шапялевічы—Круглае, якая праходзіць праз вёску. 13 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

У 1848 г. вёска (37 двароў, 291 жыхар) у складзе маёнтка Цяцерын у Магілёўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 51 двор, 332 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны, кравецкім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 66 двароў, 471 жыхар, школа граматы, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 73 двары, 371 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 56 двароў, 268 жыхароў. У 1931 г. 48 гаспадарак аб'ядналіся ў калгас «1 Мая». У 1938 г. ў калгасе было 1030 га зямлі, 106 коней, 127 кароў, 130 авечак, 25 свіней. Пач. школа ў 1938 г. ператворана ў 7-гадовую. У 1940 г. 44 двары, 264 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1944 г. спалілі 42 двары, загубілі 5 жыхароў. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1952 г. радыёфікавана, у 1962 г. электрыфікавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 40 гаспадарак, 68 жыхароў, у складзе саўгаса «Цяцерына» (цэнтр — в. Цяцерына), размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 1993 г. 26 гаспадарак, 48 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна, перпендыкулярна да шашы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЦЯМНЫЯ** — вёска ў Ляснянскім с/с, за 12 км на У ад Круглага, 70 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Круглае—Шклоў. 9 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска Цёмна ў Копыскім павеце Магілёўскай губ. Побач быў маёнтак, гаспадар якога меў у 1852 г. 1200 дзес. зямлі. У 1858 г. ў вёсцы 19 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1885 г. ў маёнтку засн. мануфактурная мукамольная вытв-сць і



крупадзёрка. Паводле перапісу 1897 г. вёска (10 двароў, 74 жыхары) і фальварак (38 жыхароў) у Круглянскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. ў вёсцы 9 двароў, 73 жыхары, у маёнтку 1 двор, 6 жыхароў. У 1919 г. ў маёнтку створана с.-г. арцель «Ясная Паляна». З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1926 г. хутары, 24 двары, 114 жыхароў. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. на базе с.-г. арцелі арганізаваны калгас «Ясная паляна», які быў у 1939 г. ўдзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 22 вяскоўцы. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 21 гаспадарка, 42 жыхары, у складзе калгаса «50 гадоў Кастрычніка» (цэнтр — в. Загаранкі), магазін. У 1993 г. 15 гаспадарак, 22 жыхары. Планіроўка П-падобная. Да 2 кароткіх прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, далучаецца на Пн яшчэ адна кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЦЯЦЕРЫН** — вёска, цэнтр сельсавета, за 11 км на Пд ад Круглага, 73 км ад Магілёва. 31 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ўсх. ускраіне цячэ р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Шапялевічы—Круглае, якая праходзіць праз вёску. 170 гаспадарак, 449 жыхароў (2007).

Упершыню ўпамінаецца ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» не раней 1387 г. і не пазней 1406 г. Пад 1430 г. упамінаецца ў акце ўзвядзення Свідрыгайлы на трон ВКЛ. У 1501 г. кароль польскі і вял. кн. ВКЛ Аляксандр аддаў Цяцерын у пажыццёвае валоданне сваёй жонцы каралеве Алене Іванаўне (дачцэ рус. цара Івана III). У сярэдзіне 16 ст. ўмацаванае прыватнае шляхецкае мястэчка ў Аршанскім павеце. У 1577 г. цэнтр маёнтка. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) належала графу Салтыкову. У 1848 г. мястэчка ў Магілёўскім павеце (66 двароў, 541 жыхар), цэнтр маёнтка, уласнасць памешчыка. Непадалёку быў фальварак, меўся млын. Праз вёску праходзіў Віленскі паштовы тракт. У 1860 г. 78 двароў, 416 жыхароў, 3 царквы, малітоўная школа, вінакурны з-д. Гаспадару маёнтка належалі 4412 дзес. зямлі, вадзяны млын, піцейны дом. У 1864 г. Магілёўскае земства адкрыла школу, якая ў 1884 г. была ператворана ў нар. вучылішча (у 1889 г. навучаліся 35 хлопчыкаў). У 1880 г. ў мястэчку 37 двароў, 235 жыхароў, у вёсцы 62 двары, 434 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім, калёсным і бандарным промысламі, вырабам ільняной і пяньковай кудзелі і тканіны. Паводле перапісу 1897 г. мястэчка, цэнтр Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, у мястэчку размяшчаліся вал. праўленне, 94 двары, 593 жыхары, пошта, крэдытнае т-ва, фельч.-акушэрскі пункт, казённая вінная крама, нар. вучылішча, царк.-прыходская школа, рамеснае вучылішча, царква, сінагога. Побач знаходзіліся фальварак (45 жыхароў), маёнтак (31 жыхар) і млын (5 двароў, 27 жыхароў). У чэрв. 1905 г. адбылася забастоўка сялян і с.-г. рабочых маёнтка. У 1907 г. ў нар. вучылішчы займаліся 125 хлопчыкаў і 18 дзяўчынак. У 1912 г. адкрыта сельская рамес-



*Цяцерынскае вадасховішча.*

ная вучэбная майстэрня. У 1919 г. дзейнічаў вал. рэўком. У гэты час былі створаны камсамольская ячэйка і с.-г. арцель «Пралетарыят». У былым памешчыцкім будынку размясцілася школа (у 1924 г. 151 вучань). Дзейнічала вучэбная майстэрня, у якой у 1925 г. было 27 вучняў. Меліся б-ка, хата-чытальня (з 1924), нар. дом, фельч.-акушэрскі пункт, каап. крама. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не, цэнтр сельсавета. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 148 двароў, 658 жыхароў. У ліп. 1930 г. арганізаваны калгас «Цяцерынскі», які спецыялізаваўся ў свінагадоўчым напрамку, меў у 1931 г. 1630 га зямлі. У 1934 г. дзейнічалі невялікая электрастанцыя, прафес.-тэхн. і сярэдняя школы, сталовая, клуб, б-ка, вузел сувязі, ашчадная каса. У 1937 г. створана МТС, якая ў 1938 г. мела 30 трактароў і інш. тэхніку. У 1940 г. 129 двароў, 632 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 14.1.1944 г. партызаны 8-й Круглянскай брыгады разграмілі варожы гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. Гітлераўцы ў 1944 г. спалілі 119 двароў, загубілі 188 жыхароў. Вызвалена 30.6.1944 г. воінамі 757-га стралк. палка. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 23 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У памяць аб 262 воінах-земляках, якія загінулі на фронце, у 1967 г. ў цэнтры вёскі ўзведзена стэла. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1956 г. на р. Друць, каля вёскі, пабудавана электрастанцыя і вёска была электрыфікавана. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 182 гаспадаркі, 406 жыхароў, цэнтр. сядзіба саўгаса «Цяцерын». У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, комплекс па гадоўлі буйной рагатай жывёлы, майстэрня па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, устаноўка па прыгатаванні вітаміннай мукі, ветэрынарны ўчастак, зернедрабільня, сярэдняя школа, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, дзіцячы сад-яслі, 3 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлефонная станцыя, бальніца, аптэка, амбулаторыя, аддз. ашчаднага банка. У 1993 г. 204 гаспадаркі, 497 жыхароў. У 2007 г. размешчана прыватнае с.-г. УП «АСБ Цяцерын». Дзейнічаюць сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад, аддз. сувязі, магазін, сталовая, урачэбная амбулаторыя. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных на Пн кароткай прамалінейнай вуліцай шыротнай арыентацыі, а на Пд — завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц., пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На перакрыжаванні вуліц знахо-



*Цяцерынская ГЭС.*



дзіцца невялікая плошча і грамадскі цэнтр. У цэнтры і зах. частцы развіваецца сучасная забудова. Вытв. сектар — на паўн.-зах. ускраіне. На У ад вёскі — Цяцерынская ГЭС на р. Друць.

Радзіма ген.-палкоўніка медыцынскай службы, доктара медыцынскіх навук, праф., былога начальніка Ваенна-медыцынскай акадэміі імя С.М.Кірава П.П. Ганчарова (1900—70).

У склад сельсавета ўваходзяць 24 вёскі. У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Цяцерынскага с/с былі вёскі Ганчароўка, Падкасцюкі, Руччо, Устойкі, Чарноўка, пасёлкі Васількі, Гарэлае Балота, Курган, Падастраўе, Паляўка, Рошча, Харкаў, хутары Васільева, Горка, Зарэчанскія, Заця-цёрка, Каменка, Кулева, Міхайлаў Гай, Чырвоная Рошча, Чырвоны Міхайлаў, Шырокі, якія зараз не існуюць. Яны або зліліся з другімі населенымі пунктамі, або іх жыхары перасяліліся ў іншыя месцы.

**ШАМАЎКА** — вёска ў Комсеніцкім с/с, за 13 км на Пд ад Круглага, 65 км ад Магілёва, 32 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Галоўчын—Круглае, якая праходзіць побач з вёскай. 25 гаспадарак, 57 жыхароў (2007).

Засн. як пасёлак у пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Шклоўскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 25 двароў, 134 жыхары. У 1930-х г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 пасялкоўцаў. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 26 гаспадарак, 63 жыхары. У 1993 г. 29 гаспадарак, 81 жыхар, у складзе калгаса «Шлях Леніна» (цэнтр — в. Комсенічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШАПЯЛЕВІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 26 км на ПдЗ ад Круглага, 85 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд і З мяжуе з лесам. На У цячэ р. Аслік (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па шашы Шапялевічы—Круглае. 147 гаспадарак, 373 жыхары (2007).

Упершыню ўпамінаецца ў дакументах 17 ст. У час вайны 1654—67 гг., у жн. 1654 г., рус. армія на чале з ваяводам А.М.Трубяцкім разбіла пад Шапялевічамі войскі літ. гетмана Я.Радзівіла, узяла шмат палонных, захапіла трафеі — сцягі, гарматы і абоз. У 1779 г. пабудавана царква, у 1812 г. засн. вінакурны з-д, на якім у 1881 г. працавалі 2, а ў 1890 г. — 5 рабочых. У 1827 г. мястэчка ў Магілёўскім павеце, 570 жыхароў. У 1848 г. 134 двары. У 1863 г. адкрыта царк.-прыходская школа. Гаспадар маёнтка меў тут у 1867 г. 1606 дзес. зямлі, вінакурны з-д, вадзяны млын, карчму. Паводле перапісу 1897 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 139 двароў, 907 жыхароў, царк.-прыходская і малітоўная школы, хлебазапасны магазін, заезны дом, царква. Побач з мястэчкам фальварак, 31 жыхар. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Бялыніцкім р-не. З 12.2.1935 г. ў Круглянскім р-не. З 20.8.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў нацыяналізаваным будынку, у 1925 г. было 75 вучняў, дзейнічаў пункт па



*Возера Хотам'е каля в. Шапялевічы.*





ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1928 г. арганізаваны калгасы «Чырвоны араты» і «Беларусь». Пач. школа ў канцы 1920-х г. ператворана ў 7-гадовую, а ў 1930-я г. — у сярэднюю. Дзейнічаў вузел сувязі. У 1940 г. 162 двары, 686 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5.12.1942 г. партызаны 8-й Круглянскай брыгады разграмілі варожы гарнізон, які размяшчаўся ў Шапялевічах. У 1944 г. гітлераўцы спалілі 130 двароў, загубілі 106 жыхароў. Каля вёскі 1.7.1944 г. камандзір эскадрыллі штурмавога авіяпалка маёр К.В.Макараў выявіў і знішчыў скапленне варожай тэхнікі і жывой сілы. 23.2.1945 г. ён быў удастоены звання Героя Сав. Саюза. У брацкай магіле, што ў цэнтры Шапялевіч, каля клуба, пахаваны 90 сав. воінаў і 26 партызан, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У памяць аб 287 воінах-земляках, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у цэнтры вёскі, каля клуба, у 1967 г. пастаўлена стэла. У 1959—66 гг. вёска ў Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 165 гаспадарак, 417 жыхароў, цэнтр. сядзіба саўгаса «Шапялевічы». У вёсцы размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, механічны двор, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, лесапільня, сталярна-цяслярская майстэрня, устаноўка па прыгатаванні вітаміннай мукі, зернедрабільня, ветэрынарны ўчастак, сярэдняя школа, Дом культуры са стацыянарнай кінаўстаноўкай, б-ка, гандл. цэнтр, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аптэка, лясніцтва, аддз. ашчаднага банка, дзіцячы сад, бальніца. У 1993 г. 171 гаспадарка, 459 жыхароў. У 2007 г. комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін, участковая бальніца. Планіроўка прамавугольная. 5 прамалінейных паралельных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, перасякаюцца перпендыкулярна 4 прамалінейнымі кароткімі вуліцамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры, каля невялікай плошчы, сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. Вытв. сектар — на паўн. і паўд. ускраінах.

У склад сельсавета ўваходзяць 15 вёсак.

**ШАЎКАВІННЕ** — вёска ў Рубежскім с/с, за 9 км на ПдЗ ад Круглага, 71 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На зах. ускраіне пачынаецца р. Рутка (прыток р. Аслік). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Паўлавічы і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

У 1848 г. вёска ў Магілёўскім павеце, 11 двароў, 87 жыхароў, у складзе маёнтка Цяцерына, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 25 двароў, 142 жыхары, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 24 двары, 175 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 40 двароў, 207 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 27 гаспадарак, 57 жыхароў, у складзе саўгаса «Авангард» (цэнтр — в. Рубеж), б-ка. У 1993 г. 19 гаспадарак, 40 жыхароў. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ШУПЕНІ** — вёска ў Круглянскім с/с, за 5 км на Пд ад Круглага, 73 км ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На З мяжуе з Цяцерынскім вадасховішчам, створаным на р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Круглае—Магілёў, якая праходзіць праз вёску. 60 гаспадарак, 156 жыхароў (2007).



На 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Друць захаваліся курганныя могільнікі — за 1 км (6 насыпаў) і за 1,5 км (37 насыпаў) на Пн ад вёскі, якія сведчаць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Сучасная вёска вядома з 1522 г., калі В.Грыгарэвічу быў дадзены прывілей на будаўніцтва замка і засяленне гэтай мясцовасці, а таксама на гандаль і карчму. У 1580 г. сяло Шупень упамінаецца ў Баркулабаўскім летапісе як шляхецкая ўласнасць. У 1742 г. сяло ў Аршанскім павеце ВКЛ, уласнасць памешчыка. У 1785 г. цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце, 23 двары, 146 жыхароў, млын, царква. У 1784 г. 12 двароў, 134 жыхары, гаспадарскі дом, а таксама казённы дом для аб'езных, якія ахоўвалі дзярж. мяжу, дзейнічала прадпрыемства па вырабе гарэлкі. У 1858 г. ў сяле 63 жыхары мужчынскага полу. У 1860 г. пабудавана з дрэва царква. У 1880 г. 20 двароў, 162 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся пяньковым і кавальскім промысламі. Памешчык меў тут у 1881 г. 805 дзес. зямлі і карчму. У 1885 г. 23 двары, 157 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Круглянскай вол. Магілёўскага павета, 241 жыхар, царква, хлебазапасны магазін, царк.-прыходская школа (для якой у 1911 г. ўзведзены асобны будынак). Непадалёку фальварак, 1 двор, 26 жыхароў. У 1909 г. 49 двароў, 290 жыхароў. Дарэв. школа была ператворана ў прац. школу 1-й ступені, у якой у 1924 г. навучалася 56 дзяцей. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 67 двароў, 357 жыхароў. У крас. 1931 г. арганізаваны калгас «1-ыя Шупені», у 1933 г. — калгас «Пралетарскі голас». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 73 гаспадаркі, 159 жыхароў, у складзе калгаса імя Г.Дзімітрава (цэнтр — в. Альшанікі 1), размяшчаліся вытв. брыгада, зернедрабільня, комплекс па вырошчванні буйной рагатай жывёлы, б-ка, клуб са стацыянарнай кінаўстаноўкай, магазін. У 1993 г. 71 гаспадарка, 149 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай працяглай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі (частка шашы), ад якой у цэнтры адыходзяць на З 2 кароткія прамалінейныя вуліцы, злучаныя каля вадасховішча завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Сярод жылой забудовы на гал. вуліцы размешчаны грамадскія будынкі. Гасп. сектар — на паўн.-ўсх. ускраіне.

**ШЫПЯГІ** — вёска ў Цяцерынскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Круглага, 75 км ад Магілёва, 25 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Каменка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Каменка і далей па шашы Шапялевічы—Круглае. 15 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

У 1858 г. вёска, 95 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Цяцерынскай вол. Магілёўскага павета, 46 двароў, 348 жыхароў, школа граматы, хлебазапасны магазін. У фальварку, што знаходзіўся побач, 26 жыхароў. У чэрв. 1897 г. сяляне самавольна карысталіся часткай памешчыцкай зямлі. У 1909 г. ў вёсцы 55 двароў, 370 жыхароў, у маёнтку — 29 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Бялыніцкім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 63 двары, 309 жыхароў. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 49 гаспадарак, 87 жыхароў, у складзе саўгаса «Цяцерына» (цэнтр — в. Цяцерына), размяшчаліся вытв. брыгада, магазін. У 1993 г. 27 гаспадарак, 44 жыхары. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, да якой на Пд далучаецца кароткая дугапа-

добная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯНАВА** — вёска ў Кручанскім с/с, за 13 км на З ад Круглага, 92 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Слаўнае на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. На паўн.-зах. ускраіне цячэ р. Аслік (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рубеж і далей па шашы Марцьянавічы—Круглае. 11 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

У 19 ст. на месцы вёскі быў маёнтак, гаспадар якога валодаў у 1840 г. 1531 дзес. зямлі, меў вадзяны млын і карчму. Паводле перапісу 1897 г. фальварак у Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета. Мелася маслабойня па вырабе алею. У 1909 г. ў маёнтку 1 двор, 1 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. хутар, 2 двары, 6 жыхароў. У ліп. 1931 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, працавала ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 60 жыхароў, у складзе саўгаса «Круча» (цэнтр — в. Круча). У 1993 г. 19 гаспадарак, 39 жыхароў. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯСНАЕ ВУТРА** — вёска ў Круглянскім с/с, за 2 км на Пн ад Круглага, 80 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Талачын на лініі Орша—Мінск. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Круглае—Магілёў. 8 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.8.1924 г. ў Круглянскім р-не. У 1931—35 гг. у Талачынскім р-не. З 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1959—66 гг. у Бялыніцкім р-не. У 1986 г. 17 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе саўгаса «Усход» (цэнтр — пас. Усходні). У 1993 г. 8 гаспадарак, 19 жыхароў. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

## КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 4, воп. 2, спр. 28, 102; ф. 6, воп. 1, спр. 2491, 2543; ф. 30, воп. 2, спр. 1794, 1796, 4576, 4760, 4793, 5383, 6037, 6039, 6117, 6144, 6337; воп. 3, спр. 1468; ф. 31, воп. 1, спр. 2312; воп. 2, спр. 60; ф. 42, воп. 1, спр. 930, 1404, 2127; воп. 2, спр. 1617, 1626, 1627, 1630, 1633, 1636, 1641, 1646, 1649, 1652, 3999, 4757, 4761, 4764, 4765, 4770, 4771, 4775—4777, 4784, 4787—4796, 5376, 5379; ф. 48, воп. 1, спр. 5375; ф. 334, воп. 2, спр. 68; ф. 141, воп. 1, спр. 177; ф. 1024, воп. 1, спр. 681; ф. 3500, воп. 4, спр. 88.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 1297, воп. 1, спр. 19 712; ф. 1781, воп. 26, спр. 1386; ф. 2001, воп. 1, спр. 81, 1706; ф. 2014, воп. 1, спр. 467а; ф. 2072, воп. 1, спр. 43; ф. 2221, воп. 1, спр. 14, 17, 19.

Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці, ф. 45, воп. 2а, спр. 32, 61; ф. 51, воп. 1а, спр. 317; воп. 4а, спр. 19; назіральныя справы Круглянскага раёна, гіст. даведкі калгасаў «Перамога» (ф. 2459), «Ленінскі прамень», «Ясная Паляна» і «Рассвет» (ф. 2516), «Маяк», «Шлях Леніна», «Чырвоны Гай» і «Чырвоная Горка» (ф. 2072).

Дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці, ф. 1779, воп. 1, спр. 8.

Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 1355, воп. 1, спр. 719; ф. 4543, воп. 1, спр. 763.

Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі, ф. ДП-00, 1905, спр. 2550.



Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 577, воп. 17, спр. 789; воп. 19, спр. 667, 694, 701, 710, 734—737, 739, 745, 747, 759, 760, 775, 792, 799; ф. 822, воп. 11, спр. 822а; воп. 12, спр. 2589; ф. 1290, воп. 1, спр. 1371; воп. 11, спр. 1300, 1353; ф. 1350, воп. 312, спр. 94.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу, ф. 30, воп. 2, спр. 30.
Дзяржаўны ахіў Літвы, ф. ДА, спр. 3236, 3280, 3774; ф. 604, воп. 1, спр. 284.
Аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу, ф. IV, 768.
Аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, ф. 16, воп. 127, ф. 43, спр. 10 803, 10 806.
Список церковно-приходских школ и школ грамоты в Могилевской епархии. СПб., [Б.г.].
Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Т. 39. СПб., Вильна, 1915.
Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8, ч. 3. СПб., 1848.
Приложения к Трудам редакционных комиссий... Т. 6. СПб., 1860.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1861 г. Могилев, 1861.
Городские поселения в Российской империи. Т. 3. СПб., 1863.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874 г. Вильна, 1874.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1877 г. Вильна, 1877.
Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 2—3. Могилев, 1884.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Акты, относящиеся к истории Южной и Западной России. Т. 14. СПб., 1889.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889—1890 учебный год. Могилев, 1889.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1895 г. Могилев, 1895.
Указатель фабрик и заводов Европейской России. 3 изд. СПб., 1894.
Фабрично-заводская промышленность России: перечень фабрик и заводов. СПб., 1897.
Календарь для духовенства Могилевской епархии на 1899 г. Могилев, 1898.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1901 г. Могилев, 1901.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1902—1903 учебный год. Могилев, 1902.
Список фабрик и заводов Европейской России. СПб., 1903.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1905 г. Могилев, 1905.
Могилевский голос. 1906. 17 марта.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1907—1908 учебный год. Могилев, 1907.
Ярмолович В.С. Список населенных мест Минской губернии. Мн., 1909.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Статистическій обзоръ Могилевской губерніи по 1914 годъ. Могилевъ, 1915.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1915 г. Могилев, 1915.
Соха и молот. 1919, 16 сент.
Гомельское губернское статистическое бюро: календарь-справ. на 1924 г. Гомель, 1924.
Список населенных мест Б.С.С.Р. (б. Минской губернии). Мн., 1924.
Вся Белоруссия: справоч. кн. на 1925 г. Мн., 1925.
Беларуская вёска. 1928. 25 ліст.
Майзель Л.Н. 1905—1907 гг. на Беларусі: хроніка падзей. Мн., 1934.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 1—2. Мн., 1935.
Бальшавік Круглянщчыны. 1935. 9 мая. 22 снеж.; 1937. 31 кастр., 7 ліст.
За сацыялістычнае спаборніцтва. 1938. 25 чэрв.; 1939. 1, 11, 26 студз., 24 ліп.; 1941. 12 студз.
Ленінскі сцяг. 1945. 28 чэрв., 3 ліп.
Белоруссия в эпоху феодализма: сб. док. и материалов. Т. 3. Мн., 1961; т. 4. Мн., 1979.
Дорогами побед: боевой путь 5-й танковой армии. М., 1969.
Сельскае жыццё. 1974. 19 лют.

Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 8. Мн., 1975.
Баркулабаўская хроніка // Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975.
Спірыдонаў М.Ф. Структура феадальнай зямельнай уласнасці: гіст. карта // Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Мн., 1975. Т. 12.
Болбас М.Ф. Промышленность Белоруссии, 1860—1900. Мн., 1978.
Подвиги их бессмертны: о подпол. борьбе совет. людей в захваченных фашистскими оккупантами городах и селах Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944). Мн., 1978.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 3. Мн., 1985.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Alexandrowicz St. Geneza i rozwój sieci miasteczek Białorusi i Litwy do połowy XVII w. Acta=Baltico=Havicg; Białystok, 1970. № 7.

# КРЫЧАЎСКІ РАЁН

Размешчаны на У вобласці. Пл. 0,8 тыс. км². Насельніцтва (на 1.1. 2008) 35,9 тыс. чал., гарадскога 74%. У складзе насельніцтва беларусы (88,5%), рускія (9,3%), украінцы (1,6%) і інш. (0,6%). Сярэдняя шчыльнасць 46,3 чал. на 1 км². Цэнтр — г. Крычаў; у складзе раёна 105 сельскіх населеных пунктаў, 5 сельсаветаў: Бацвінаўскі, Касцюшкавіцкі, Лабковіцкі, Маляціцкі, Краснабудскі. Пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі тэр. раёна знаходзіцца ў зоне радыяцыйнага кантролю. Па тэр. раёна праходзяць чыгункі Орша—Унеча, Магілёў—Рослаўль; аўтадарогі Масква—Брэст, Крычаў—Мсціслаў.

Утвораны 17.7.1924 г. ў Калінінскай акрузе. 20.8.1924 г. раздзелены на 11 сельсаветаў. У 1927—30 гг. у складзе Магілёўскай акругі, з 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У жн. 1941 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія знішчылі ў Крычаве і раёне каля 24 тыс. чал. У ліп.—жн. 1941 г. на тэр. Крычаўскага р-на праходзілі кровапралітныя баі войск Зах. і Цэнтр. франтоў супраць частак ням. 2-й танкавай групы ген. Г.Гудэрыяна. Часткі Чырвонай Арміі утрымлівалі фронт да 8 жн., у акрузе сав. воіны змагаліся да 16.8.1941г. Дзейнічалі Крычаўскае антыфашысцкае падполле, Крычаўскі падп. райком ЛКСМБ (26.6—1.10.1943), партыз. полк «Трынаццаць», атрады 3-і, 48-ы, «Крычаўскі», 48-ы Прапойскі, Ананава, «Анатоля», «Другія», «Чапай», «Алеся», «Валянціна Маёрава».

*Рака Сож у Крычаўскім раёне.*



*Крычаўскія краявіды.*



*Брацкая магіла воінаў, загінуўшых у гады Вялікай Айчыннай вайны, у г. Крычаў.*

Вызвалены ў вер. 1943 г. воінамі 50-й арміі Бранскага фронту ва ўзаемадзеянні з часцямі 10-й арміі Зах. фронту ў ходзе Бранскай аперацыі 1943 г. 16.9.1959 г. да Крычаўскага р-на далучаны 12 сельсаветаў скасаванага Чэрыкаўскага р-на. 25.12. 1962 г. Крычаўскі р-н скасаваны, яго тэр. увайшла ў склад Клімавіцкага, Краснапольскага, Мсціслаўскага і Чавускага р-наў. 6.1.1965 г. адноўлены ў граніцах 1962 г. У 1966 г. частка сельсаветаў (разам з г. Чэрыкаў) адышла да зноў утворанага Чэрыкаўскага р-на. Пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі 1986 г. тэр. раёна ўваходзіць у зону радыяцыйнага кантролю.

Тэр. раёна ў межах Аршанска-Магілёўскай раўніны. Пераважаюць высоты 160—180 м; самы высокі пункт 193 м (за 1 км ад Пд ад в. Баяры). Карысныя выкапні: мел, гліна, фасфарыты, пяскі, пясчана-жвіровы матэрыял. Сярэдняя тэмпература студз. -7,8 °C, ліп. 18,2 °C. Ападкаў выпадае 640 мм у год. Працякае р. Сож з прытокамі Асцёр, Чорная Натапа, Волчас, Бялянка, Добрасць. Глебы дзярнова-падзолістыя, дзярнова-падзолістыя забалочаныя, тарфяна-балотныя, алювіяльныя. 26% тэр. раёна займаюць лясы. Пад балотамі 3,2%. Сельгасугоддзі займаюць 60% тэр. раёна. Развіваюцца малочна-мясная жывёлагадоўля, свінагадоўля, ёсць пасевы зернавых і кармавых культур, лёну, бульбы. Працуюць прадпрыемствы будаўнічых матэрыялаў, харч. прам-сці. Дзейнічаюць прафес. каледж, абл. ліцэй, гімназія, 5 сярэдніх, 1 базавая, 2 муз. школы, 8 комплексаў школа—сад, дзіцяча-юнацкая спарт. школа алімпійскага рэзерву, 11 дашкольных устаноў, цэнтр пазашкольнай работы. Працуюць 16 клубных устаноў, 11 кінаўстановак, 23 б-кі. Ёсць псіханеўралагічны дом-інтэрнат (в. Свадкавічы), 2 бальніцы на 250 ложкаў, 4 амбулаторыі, 14 фельч.-акушэрскіх пунктаў. Выдаецца газ. «Ленінскі кліч». Зоны адпачынку мясц. значэння Лабжанка, Ольса. У раёне



*Мемарыяльны Курган Славы ў г. Крычаў.*



*Стэла на брацкай магіле ваеннапалонных у Крычаве.*





*Святкаванне Дня Перамогі.*

7 рэліг. абшчын, у іх ліку 3 праваслаўныя. Археал. помнікі: курганныя могільнікі (вёскі Бацвінаўка, Ягораўка), гарадзішчы, паселішчы (вёскі Волчас, Горкі, Пяклады, Ягораўка). У в. Лабковічы нарадзіўся парт. і дзярж. дзеяч Беларусі, дыпламат К.В.Кісялёў (1903—77), у в. Вародзькаў 2 — ген. арміі, двойчы Герой Сав. Саюза І.І.Гусакоўскі (1904—95).

**КРЫЧАЎ**, горад, цэнтр раёна, за 104 км на У ад Магілёва, на р. Сож. Вузел чыгунак на Оршу, Магілёў, Унечу і Рослаўль, на аўтадарозе Бабруйск—Масква. 27 тыс. жыхароў (2008). Упершыню згадваецца ў 1136 г. ва ўстаўной грамаце смаленскага кн. Расціслава Мсціславіча пад назвай Крэчут. Стараж. цэнтрам Крычава быў Крычаўскі замак. У 14—18 ст. існавалі Крычаўскія гар. ўмацаванні. У 12—13 ст. горад у Смаленскім княстве, з 1-й пал. 14 ст. ў Мсціслаўскім княстве. З 2-й пал. 14 ст. ў ВКЛ. Жыхары Крычава ўдзельнічалі ў Грунвальдскай бітве 1410 г. З канца 15 ст. цэнтр Крычаўскай вол., уладанне вял. князя ВКЛ, кіраваўся яго намеснікамі. З сярэдзіны 16 ст. ў Мсціслаўскім ваяв. Пад 1592 г. ўпамінаецца ў Баркулабаўскім летапісе. 23.8.1653 г. атрымаў магдэбургскае права і герб: у чырвоным полі выява залатога крыжа і срэбнага мяча (захавалася на сучасным гербе). З 17 ст. цэнтр Крычаўскага староства, уладанне Радзівілаў. Моцна пацярпеў у час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг., таму двойчы (у 1652 і 1661) вызваляўся ад пастоеў салдат і дзярж. павіннасцей. У Паўн. вайну 1700—21 гг. летам 1708 г. пад Крычавам быў лагер рас.



*Герб г. Крычаў.*



*Пакроўская царква ў г. Крычаў.*



*Ансамбль народнай песні і танца «Вітанне» Крычаўскага Дома культуры.*






*Палац Р.А.Пацёмкіна ў г. Крычаў.*



*Царква Уваскрэсення Гасподняга ў г. Крычаў.*

войск на чале з Пятром I. У час Крычаўскага паўстання 1743—44 гг. у студз. 1744 г. каля Крычава адбыўся бой паміж сялянамі і шляхецкім войскам. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) Крычаў у складзе Рас. імперыі, мястэчка ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У студз. 1776 г. Кацярына II падаравала Крычаўскае староства (1247 чал.) графу Р.А.Пацёмкіну. У 1779 г. ў Крычаве 1594 жыхары, 470 двароў. У канцы 18 ст. дзейнічалі Крычаўская суднаверф, Крычаўскія мануфактуры, а таксама вінакурны, цагельны, шкляны, гарбарны, медналіцейны з-ды, млыны. У 1847 г. ў Крычаве 630 двароў, 6 цэркваў, касцёл, малітоўная школа, праводзіліся 3 кірмашы на год. У 1897 г. мястэчка, цэнтр воласці, 6221 жыхар, 972 двары, 7 цэркваў, касцёл, 5 сінагог, 3 гарбарныя і мылаварны з-д, 4 крупадзёркі, 4 маслабойні, 2 нар. вучылішчы, паштова-тэлегр. кантора, хлебазапасны магазін, 125 крам, 5 заезных дамоў, 4 кірмашы на год. З мая 1919 г. ў складзе Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў БССР, цэнтр Крычаўскага р-на Калінінскай, з чэрв. 1927 г. Магілёўскай акруг, з лют. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 5592 жыхары, 2395 двароў. З 17.12.1931 г. горад. У 1930-я г. пастроены ТЭЦ, цэментны, фасфарытны, мелавы з-ды, ільнозавод. У Вял. Айч. вайну з 17.7.1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, якія загубілі ў горадзе і раёне каля 24 тыс. чал. Дзейнічала Крычаўскае антыфашысцкае падполле. Вызвалены часцямі 50-й арміі Бранскага фронту ва ўзаемадзеянні з часцямі 10-й арміі Зах. фронту ў ходзе Бранскай аперацыі 1943 г. З 30.9.1943 г. да пач. 1944 г. ў Крычаве знаходзіўся адм. цэнтр Магілёўскай вобл. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1959 г. ў Крычаве 19 тыс. жыхароў, у 1972 г. — 26,5 тыс. жыхароў.

*Фрагменты інтэр'ера палаца Р.А.Пацёмкіна.*





Стараж. цэнтр Крычава да 1778 г. складаўся з умацаванага замка і плошчаў: Ган-







*Пратэстанцкі малітоўны дом у г. Крычаў.*

*Плябанія старога касцёла ў г. Крычаў.*

длёвай (з ратушай), злучанай з гасціным дваром, і Саборнай, на якой знаходзіліся 3 царквы (15 і 17 ст.) і касцёл. Вакол плошчаў стаялі аднапавярховыя драўляныя жылыя дамы. У 18 ст. пабудаваны Крычаўскі палац, вакол якога закладзены парк. Сучасны горад мае лінейную планіровачную структуру, раздзелены аўтадарогай на 2 часткі. У паўн. частцы знаходзяцца гал. вуліцы — Ленінская і Савецкая (забудаваны 3—5-павярховымі дамамі), у месцы іх скрыжавання ўтварылася плошча — грамадскі цэнтр горада. Паўд. частка забудавана пераважна аднапавярховымі дамамі сядзібнага тыпу. Зона адпачынку — парк Перамогі,





*Мікалаеўская царква ў г. Крычаў. Канец 19 — пач. 20 ст.*

*Будынак прадпрыемства «Крычаўцэментнашыфер».*



*Гандлёвы комплекс у г. Крычаў.*



*Чыгуначны вакзал у г.Крычаў.*



*Будынак паштовай станцыі ў г. Крычаў.*

размешчаны ўздоўж ракі. Па праекце дэталёвай планіроўкі 1981 г. (карэкціроўка ў 1993) горад развіваецца ў паўн.-зах. і паўд. напрамках. 5-павярховымі жылымі дамамі забудоўваюцца вуліцы Вакзальная, Шчорса, Паркавая, тэр. мікраараёна Камсамольскі. У 1990—2000-е г. пабудаваны адм. будынкі Пенсіённага фонду, Цэнтра занятасці, хуткай дапамогі, гар. і індывідыуальных прадпрымальнікаў рынкі, гандл. комплекс, стадыён «Сож-2002» у парку Перамогі. Помнікі архітэктуры: паштовая станцыя (сярэдзіна 19 ст.), царква Параскевы Пятніцы (18 ст., адноўлена ў 2006 г., цяпер Васкрасенска-Параскеўскі сабор), Мікалаеўская царква (канец 19 — пач. 20 ст.).




*Стадыён у г. Крычаў.*



*Будынак раённага цэнтра культуры.*

Дзейнічаюць прадпрыемствы будаўнічых матэрыялаў («Крычаўцэментнашыфер», з-д жалезабетонных вырабаў), харч. (мясакамбінат, масла- і хлебазаводы), хім. (Крычаўскі з-д гумавых вырабаў), дрэваапрацоўчай галін прам-сці. Працуюць філіял РУП «Магілёўаблнафтапрадукт», цэх РУП «Магілёўдругмет», райаграсэрвіс, райплемстанцыя, будаўнічыя, транспартныя, гандл., рамонтныя і дарожныя арг-цыі і інш. У Крычаве дзейнічаюць прафес. агратэхнічны каледж, тэхнікум права, эканомікі і ўпраўлення, абл. ліцэй, гімназія, 4 сярэднія школы з гімназічнымі класамі, дзіцяча-юнацкая спарт., мастацкая і муз. школы, 3 дзіцячыя сады, дзіцячы сац. прытулак, цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі. Ёсць 4 б-кі, цэнтр і Дом культуры, клуб, фізкультурна-аздараўленчы комплекс «Сож», стадыён, спарт. клуб і пляцоўкі; тэр. цэнтр сац. абслугоўвання насельніцтва. Працуюць 2 бальніцы, 3 паліклінікі, аптэкі і аптэчныя кіёскі, раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі. У горадзе гасцініца «Крычаў», рэстаран, кафэ, бюро падарожжаў і экскурсій, камбінат быт. абслугоўвання, 2 пункты калектыўнага карыстання, гандл. дом «Віцязь», 5 аддзялен-



няў сувязі і інш. Крычаўскі раённы краязнаўчы музей.

**АНАНІЧЫ** — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 13 км на Пн ад Крычава, 127 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн цячэ р. Чорная Натапа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Кашаны, Баяры, Стаборшчына і далей па шашы Крычаў—Мсціслаў. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1780 г. 31 двор, 285 жыхароў. У 1811 г. 28 двароў, 97 жыхароў мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць. У 1848 г. ў складзе казённага маёнтка Кашаны, дзярж. ўласнасць. У 1875 г. сяляне зрабілі самавольную высечку лесу, а ў вер. 1879 г. — выкарысталі ў сваіх мэтах нарыхтаваны памешчыцкі лес. У 1897 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 49 двароў, 274 жыхары. У 1909 г. 60 двароў, 355 жыхароў. У 1910 г. адкрыта царк.-прыходская школа. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Кашанскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 94 двары, 171 жыхар. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1921 г. было 75 вучняў. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Пралетарскі араты». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Ураджэнка вёскі Ф.Калбаева была ўдзельніцай Мінскага антыфашысцкага падполля. На фронце загінулі 6 вяскоўцаў. З 16.7.1954 г. ў Лабковіцкім с/с. У 1986 г. 21 гаспадарка, 30 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Бель). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, арыентаванай з П на Пн вуліцы з завулкамі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*Будынак раённай пракуратуры.*

**АРЭХАЎСКІ** — пасёлак у Касцюшкавіцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Крычава, 89 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Бялянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц.



*Будынак раённага ваенкамата.*



*Крычаўскі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.*

дарозе праз пас. Сасноўскі, в. Паланіца і далей па шашы Крычаў—Ермакоўка. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Узнік у 2-й палове 1930-х г. перасяленцамі з суседніх хутароў, уваходзіў у Паланіцкі с/с. У 1940 г. 11 двароў, 47 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 9 двароў. Пасля вайны адбудаваны. З 24.6.1960 г. ў Касцюшкавіцкім с/с, у 1962—65 гг. у Чэрыкаўскім р-не. У 1986 г. 7 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Бель). Планіровачна складаецца з вуліцы шыротнай арыентацыі з пераважна двухбаковай забудовай індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АСАВЕЦ** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 29 км на ПнЗ ад Крычава, 75 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мяжуе з лесам, на Пн цячэ р. Мяртвіца (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па шашы Асавец—Крычаў. 75 гаспадарак, 222 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1633 г. сяло ў Гарбавіцкай вол., у валоданні Буйніцкага манастыра. У 1780 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 46 двароў, 202 жыхары. У 1847 г. вёска і фальварак у складзе маёнтка Вярхоўцы ў Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 35 двароў, 216 жыхароў. У 1909 г. 49 двароў, 198 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Баеўскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 57 двароў, 394 жыхары. У 1928 г. для школы, якая дзейнічала ў вёсцы, пабудавана новае памяшканне. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», які з 1931 г. абслугоўваўся Крычаўскай МТС, у 1932 г. аб'ядноўваў 47 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Непадалёку ад вёскі на ўчастку чыг. Верамейкі—Асавец партызаны 12.9. 1943 г. пусцілі пад адхон варожы эшалон. На фронце загінулі 4 вяскоўцы. У памяць аб земляках, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў, у цэнтры вёскі каля будынка праўлення калгаса ў 1976 г. пастаўлены абеліск. З 16.7.1954 г. ў Бацвінаўскім с/с. У 1962—65 гг. у Чэрыкаўскім р-не. У 1986 г. 94 гаспадаркі, 246 жыхароў, цэнтр калгаса «Перамога», дзейнічалі 8-гадовая школа, дзіцячы сад, сталовая, клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, ветэрынарны ўчастак, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. ашчаднага банка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2007 г. ў вёсцы базавая школа, клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддзяленні сувязі і АСБ «Беларусбанк». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд склалася вуліца з катэджнай мураванай забудовай. Грамадскі цэнтр — на ўсх. ускраіне, гасп. сектар — на заходняй.

**БАЕЎКА** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Крычава, 82 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Мяртвіца (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Асавец, Бацвінаўка, Дарагая, Касцюшкавічы, Пушкары і далей па шашы Крычаў—Чэрыкаў. У 2007 г. Баеўка 1 (22 гаспадаркі, 55 жыхароў), Баеўка 2 (17 гаспадарак, 38 жыхароў).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1706 г. як вёска ў складзе маёнтка Маляцічы Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1737 г. дзейнічала царква. У 1772 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв., 9 двароў, 36 жыхароў. У 1780 г. сяло (8 двароў, 116 жыхароў) і вёска (26 двароў. 194 жыхары) у Чэрыкаўскім павеце. У 1834 г. вёскі Баеўка 1 і Баеўка 2, 429 жыхароў.



Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога ў 1860 г. меў 238,5 дзес. зямлі. У 1897 г. сяло, у склад якога ўвайшла вёска (109 двароў, 715 жыхароў), і аднайменны фальварак (2 двары, 9 жыхароў) у Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. 170 двароў, 838 жыхароў. У 1912 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З сак. 1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета (да 16.7.1954) Крычаўскага р-на Калінінскай акругі, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. ў вясковай прац. школе 1-й ступені, створанай на базе дарэв., было 85 вучняў. Школу наведвалі дзеці з вёсак Баеўка, Баранец, Асавец, пасёлкаў Езуфоўка, Высокае і навакольных хутароў. Меліся хата-чытальня, а затым нар. дом, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. Працавалі кузня і млын. У 1926 г. 177 двароў, 892 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгасы «Краіна Саветаў», «Чырвоны Кастрычнік», меліся кузня і ваўначоска. З 1937 г. калгас абслугоўвала 2-я Крычаўская МТС. Дзейнічаў фельч.-акушэрскі пункт. У 1940 г. вёскі Баеўка 1 (43 двары, 153 жыхары) і Баеўка 2 (44 двары, 181 жыхар). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 87 двароў. На фронце загінулі 12 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Бацвінаўскім с/с, з 1962 г. ў Мсціслаўскім, з 1965 г. ў Крычаўскім р-нах. У 1986 г. 24 гаспадаркі, 30 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Асавец), дзейнічалі клуб, магазін. Рака падзяляе вёску на паўн. (прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі, уздоўж ракі, з аднабаковай забудовай) і паўд. (Г-падобная вуліца амаль шыротнай арыентацыі з двухбаковай забудовай) часткі. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу.

**БАЦВІНАЎКА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 18 км на З ад Крычава, 86 км ад Магілёва, 1 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ мяжуе з лесам. На З і Пн цячэ р. Жукаўка (прыток р. Волчас). На Пд праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дарагая, Касцюшкавічы, Пушкары і далей па шашы Крычаў—Чэрыкаў. 140 гаспадарак, 462 жыхары (2007).

На ПнЗ ад вёскі, на левым і правым берагах р. Жукаўка захаваліся 3 курганныя могільнікі, якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1737 г. дзейнічалі царква. У 1758 г. ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць, побач быў маёнтак. У 1777 г.



*Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў у в. Бацвінаўка.*



*Будынак Бацвінаўскага сельскага Савета.*



*Жывёлагадоўчы комплекс СПК «Звяздаагра» ў в. Бацвінаўка.*

сяло ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1858 г. ўласнасць памешчыка, які меў у 1873 г. 9955 дзес. зямлі, вадзяны млын, крупадзёрку, смалакурна-шкіпінарны з-д, 2 карчмы. У 1885 г. ў Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 21 двор, 147 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. сяло, 39 двароў, 255 жыхароў, карчма, царква, раз у год 9 мая праводзіўся таржок; фальварак Бацвінаўка (ён жа Галынка), 1 двор, 10 жыхароў; хутар Бацвінаўка, 10 двароў, 75 жыхароў. У 1901 г. адкрыта школа, для якой у 1914 г. пабудавана памяшканне. У 1909 г. ў сяле 34 двары, 261 жыхар, на хутары 1 двор, 10 жыхароў. У 1917 г. 67 двароў, 400 жыхароў. У грамадз. вайне ўдзельнічала больш за 20 вяскоўцаў, 2 з іх загінулі. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. ў прац. школе 1-й ступені, створанай на базе дарэв., было 54 вучні. Дзейнічалі школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых і хата-чытальня. У 1926 г. 113 двароў, 586 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Зара» і імя Варашылава, якія ў 1932 г. аб'ядналіся ў калгас «Маяк». У 1933 г. дзейнічала амбулаторыя. У 1936 г. пабудаваны сельмаг. У 1938 г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала падп. група, якую ўзначальваў Б.Я. Грыгор'еў. На фронце загінулі 57 вяскоўцаў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахавана 11 воінаў, якія загінулі ў вер.—кастр. 1943 г. Сярод пахаваных воіны 385-й стралк. дывізіі. У 1946 г. 7-гадовая школа ператворана ў сярэднюю. У 1962—65 гг. вёска ўваходзіла ў Мсціслаўскі р-н. У 1986 г. 78 гаспадарак, 207 жыхароў, цэнтр калгаса «Звязда», дзейнічалі ветэрынарны ўчастак, сярэдняя школа, амбулаторыя, аптэка, бальніца, магазін, сталовая, аддзяленні сувязі і АСБ «Беларусбанк», аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, Дом культуры, б-ка, дзіцячы сад. У 2007 г. цэнтр СВК «Звяздаагра», працавалі сярэдняя школа, амбулаторыя, магазін, аддзяленні сувязі і АСБ «Беларусбанк», комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, Дом культуры, б-ка. Планіроўка рэгулярная, квартальная, з пераважна драўлянай забудовай сядзібнага тыпу. Асн. вуліца мае амаль шыротную арыентацыю. На Пн, каля чыгункі — грамадска-адм. і гандл. цэнтр. Тут жа ўзведзены двухпавярховыя мураваныя жылыя дамы.

У склад сельсавета ўваходзяць 27 вёсак, 3 пасёлкі.

**БАЯРЫ** — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 18 км на Пн ад Крычава, 86 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф узгорысты, на Пд мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Чорная Натапа (прыток р. Сож). За 1 км на Пд знаходзіцца найвышэйшы пункт раёна (193 м). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лабковічы і далей па шашы



Крычаў—Мсціслаў. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

У 1858 г. сяло ў складзе маёнтка Адбытак Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 7 жыхароў мужчынскага полу. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога меў у 1872 г. ў вёсках Баяры і Адбыткі 116 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета: сяло (9 двароў, 64 жыхары, кузня) і аднайменная аколіца (8 двароў, 54 жыхары). У 1909 г. ў сяле 17 двароў, 72 жыхары, у аколіцы 2 двары, 9 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Кашанскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 31 двор, 189 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Молатава, які ў 1932 г. абслугоўваў 30 гаспадарак, працавала кузня па рамонце с.-г. інвентару, з 1937 г. абслугоўваўся 2-й Крычаўскай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 вяскоўцы. З 16.7.1954 г. ў Лабковіцкім с/с, з 1962 г. ў Мсціслаўскім, з 1965 г. ў Крычаўскім р-нах. У 1986 г. 19 гаспадарак, 27 жыхароў, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Лабковічы). Ад асн. вуліцы шыротнай арыентацыі адыходзіць на ПнЗ крывалінейная вуліца. Забудавана пераважна двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЕЛЬ** — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 9 км на Пн ад Крычава, 97 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Сож, на Пд — яе прыток р. Бялянка. Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Мсціслаў. 154 гаспадаркі, 397 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1780 г. сяло Бель (62 двары, 344 жыхары), аднайменныя сяльцо (25 двароў, 135 жыхароў) і вёска (10 двароў, 122 жыхары). Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога ў 1874 г. валодаў 1150 дзес. зямлі, меў вадзяны млын, карчму, вінакурны з-д. З 1882 г. дзейнічала царква, пабудаваная з дрэва. У 1884 г. ў в. Бель 1 адкрыта царк.-прыходская школа. У 1897 г. 113 двароў, 819 жыхароў. У 1908 г. адкрыта школа ў в. Бель 3, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У тым жа годзе была адкрыта школа і ў в. Бель 2. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кравецкім і іншымі промысламі. У 1909 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, вёскі Бель 1 (130 двароў, 834 жыхары), Бель 2 (70 двароў, 775 жыхароў), Бель 3 (39 двароў, 355 жыхароў). З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёў-

*Будынак праўлення СПК «Бель».*

*Дзіцячы сад—сярэдняя школа ў в. Бель.*







*Дом культуры ў в. Бель.*

скай вобл. Царк. будынак у в. Бель 1 быў перададзены для школы, у якой у 1925 г. быў 101 вучань. Дзейнічалі школы ў вёсках Бель 2, Бель 3, а таксама пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1-й пал. 1920-х г. у выніку перасялення часткі вяскоўцаў былі ўтвораны пасёлкі Зара, Горскі, Галсееўскі, Залескі, Гарадок, хутары Зарэчны, Лісічка, якія зараз не існуюць. У 1925 г. дзейнічалі 3 ветраныя млыны і кузня. 27.11.1925 г. створана закупачна-збытавое т-ва. У 1926 г. ў в. Бель 1 было 211 двароў, 1282 жыхары, у в. Бель 2 — 98 двароў, 598 жыхароў, у в. Бель 3 — 72 двары, 410 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Шлях да сацыялізму» (у 1932 г. аб'ядноўваў 40 гаспадарак) і імя Сталіна (у 1932 г. 34 гаспадаркі), якія з 1931 г. абслугоўвала Крычаўская МТС. У 1937 г. пабудаваны магазін. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 31.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны сав. лётчык А.В.Гуменнікаў, які 13.7.1941 г. загінуў у паветраным баі над роднай вёскай. З 16.7.1954 г. ў Лабковіцкім с/с, з 1962 г. цэнтр калгаса імя XXII з'езда КПСС. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1976 г. вёскі Бель 2 і Бель 3 далучаны да в. Лабковічы. У 1986 г. 138 гаспадарак, 390 жыхароў, цэнтр калгаса імя XXII з'езда КПСС, дзейнічалі лесапільня, млын, сталярна-цяслярскія майстэрні, працуюць сярэдняя школа, дзіцячы сад, фельч.-акушэркі пункт, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, Дом культуры, б-ка, сталовая, млын. У 2007 г. цэнтр СПК «Бель», дзіцячы сад—сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка. Складаецца з 2 амаль прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і размежаваных р. Бялянка. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы на паўд.-зах. ускраіне, гасп. сектар — на Пн.

Радзіма ўдзельнікаў свеаборгскага паўстання балтыйскіх маракоў у 1906 г. М.Бабровіча, А.Стэльмахава і В.Гуменнікава, чл.-кар. АН СССР, доктара тэхн. навук, Героя Сац. працы, засл. дзеяча навукі і тэхнікі РСФСР М.А.Цытовіча.

**БЕРАЖЫСТАЕ** — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 10 км на Пн ад Крычава, 94 км ад Магілёва. 5 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн цячэ р. Бялянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Ермакоўка, якая праходзіць праз вёску. 31 гаспадарка, 52 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1780 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 8 двароў, 68 жыхароў. У 1816 г. 11 двароў, 85 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 24 двары, 179 жыхароў. У 1909 г. 24 двары, 200 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Бельскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1-й пал. 1920-х г. ў выніку перасялення часткі вяскоўцаў паблізу ўтварыліся пасёлкі Варанёва, Старана, Іванава, Зусьчына, хутары Юзэфава і Леніна, якія зараз не існуюць. У 1926 г. 51 двор, 288 жыхароў. У 1931 г. арганізава-



ны калгас «Малады ўдарнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 21 гаспадарку. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 4 вяскоўцы. З 16.7.1954 г. ў складзе Лабковіцкага с/с. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 46 гаспадарак, 108 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Бель). Дзве прамалінейныя паралельныя паміж сабой вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі злучаны на Пн завулкам. Забудавана двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У — гасп. сектар.

**БРАНСК** — пасёлак у Бацвінаўскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Крычава, 90 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дарагая, Касцюшкавічы, Пушкары і далей па шашы Крычаў—Чэрыкаў. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 27 двароў, 135 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак. Пасля вайны адбудаваны. У 1986 г. 18 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Бацвінаўка). Складаецца з Г-падобнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі з двухбаковай забудовай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БРОДАК** — вёска ў Маляціцкім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Крычава, 86 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бялянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Паланіца і далей па шашы Крычаў—Ермакоўка. 18 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1780 г. 12 двароў, 145 жыхароў. У 1858 г. 66 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 42 двары, 279 жыхароў. У 1909 г. 52 двары, 310 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губерні РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Паланіцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 68 двароў, 342 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Звязда», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 54 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 16 вяскоўцаў. Іх імёны ўвекавечаны на помніку землякам у в. Маляцічы. У 1986 г. 38 гаспадарак, 78 жыхароў, у складзе калгаса «Вялікі Кастрычнік» (цэнтр — в. Луты). Ад асн. прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, адыходзіць на Пн крывалінейная вуліца з завулкамі. На Пн — адасоблены невялікі ўчастак забудовы. Жылыя дамы індывідуальныя, сядзібнага тыпу, пастаўлены двухбакова.

**БУЛАНЫ** — былы пасёлак у Бацвінаўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Крычава, 79 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вудага, Глінь, Багданаўка і далей па шашы Крычаў—Чэрыкаў.

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Горкаўскім с/с Чэрыкаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Варашылава. У 1940 г. 12 двароў, 57 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. поўнасцю спалены гітлераўцамі. На фронце загінулі 2 пасялкоўцы. Пасля вызвалення адбудаваны. З 24.6.1960 г. ў Бацвінаўскім с/с. У 1986 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў, у складзе калгаса імя А.В.Суво-





рава (цэнтр — в. Сычыкі). Складаўся з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БУНЬКАЎШЧЫНА** — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 20 км на Пн ад Крычава, 124 км ад Магілёва, 15 км ад ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Мсціслаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 14 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

Засн. ў 1923 г. ў выніку перасялення сюды, на былыя памешчыцкія землі, часткі сялян з в. Стараселле. З сак. 1924 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Кашанскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. Бунькаўшчына 1 (16 двароў, 81 жыхар), і Бунькаўшчына 2 (8 двароў, 31 жыхар), якія ў канцы 1930-х г. аб'ядналіся, і вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Лабковіцкім с/с. У 1986 г. 28 гаспадарак, 73 жыхары, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Лабковічы). Планіровачна складаецца з вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАРОДЗЬКАЎ 1** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Крычава, 79 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць чыгунка, на З мяжуе з лесам. На У цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Асавец, якая праходзіць паблізу вёскі. 16 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1653 г. маёнтак Вародзькава Мсціслаўскага ваяв. ВКЛ. У 1684 г. сяло, меўся млын на р. Волчас. У 1766 г. 14 двароў, 53 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1844 г. пабудавана драўляная царква. Памешчык меў тут у 1845 г. 212 дзес. зямлі. У 1846 г. ў складзе аднайменнага маёнтка Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., дзярж. уласнасць, 10 двароў, 71 жыхар. У 1858 г. 17 двароў, 85 жыхароў. У 1862 г. сяляне правялі масавую высечку памешчыцкага лесу. У 1885 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 22 двары, 149 жыхароў, заезны дом, царква. У 1897 г. ў сяле 6 двароў, 30 жыхароў, у в. Вародзькаў 1 — 31 двор, 190 жыхароў. Побач быў фальварак Вародзькаў. У 1899 г. адкрыта школа, адно памяшканне для якой пабудавана ў 1899 г., другое — у 1910 г. У школе ў 1902 г. навучаліся 74 хлопчыкі і 16 дзяўчынак. У 1909 г. ў сяле і вёсцы 45 двароў, 195 жыхароў, у фальварку 1 двор, 9 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Бацвінаўскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. ў вясковай школе было 84 вучні з вёсак Вародзькаў 1, Вародзькаў 2, Вародзькаў 3, Ратная, Сычыкі, Цінькаў і навакольных хутароў, дзейнічала б-ка. У 1926 г. 46 двароў, 246 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «На варце», мелася кузня. 26.7.1934 г. выязная рэдакцыя газеты палітаддзела Крычаўскай МТС і рэдакцыя калгаснай насценнай газеты выпусцілі друкаваным спосабам аб'яднаны нумар газеты, чым быў пакладзены пачатак першай у Беларусі калгаснай шматтыражнай газеце. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 31 гаспадарка, 60 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Асавец), дзейнічалі пач. школа, магазін, клуб, б-ка. У 2007 г. ў вёсцы магазін, бібліятэка-клуб. Прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАРОДЗЬКАЎ 2** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Крычава,



79 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Асавец, якая праходзіць паблізу вёскі. 15 гаспадарак, 43 жыхары (2007).

У 1858 г. 9 двароў, 32 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 34 двары, 198 жыхароў. У 1909 г. 46 двароў, 142 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Бацвінаўскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 52 двары, 292 жыхары. У 1925 г. адкрыта школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». У 1940 г. 40 двароў, 183 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 36 двароў. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 25 гаспадарак, 62 жыхары, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Асавец). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, уздоўж ракі, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма двойчы Героя Сав. Саюза, ген. арміі І.І.Гусакоўскага (1904—95).

**ВАРОДЗЬКАЎ З** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Крычава, 79 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам, на З цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Асавец, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 17 гаспадарак, 38 жыхароў (2007).

Побач з вёскай, на правым беразе р. Волчас, захаваўся могільнік (33 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. У 1858 г. 2 двары, 16 жыхароў, уласнасць памешчыка. З 1882 г. дзейнічалі царква і касцёл, пабудаваныя з дрэва. У 1897 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 23 двары, 179 жыхароў. У 1909 г. 52 двары, 134 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Бацвінаўскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 52 двары, 267 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвонаармеец». У 1940 г. 41 двор, 247 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 9 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 32 гаспадаркі, 86 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Асавец). Планіровачна складаецца з вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, уздоўж ракі, забудаванай пераважна двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.


*І.І.Гусакоўскі.*

**ВОЛЧАС** — вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 18 км на З ад Крычава, 76 км ад Магілёва. 8 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Малькаўка, Лушчэвінка, Дарагая і далей па шашы Крычаў—Асавец. 32 гаспадаркі, 78 жыхароў (2007).

За 3 км на З ад вёскі захавалася гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур, за 350 м на З ад вёскі — паселішча эпохі Кіеўскай Русі і сярэдневякоўя, за 250 м на Пн ад вёскі — могільнік (41 насып), што сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1768 г. меўся маёнтак. У 1777 г. сяло ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1782 г. цэнтр Стара-Волчаскага староства, у Чэрыкаўскім павеце, 18 двароў, 131 жыхар, меліся фальварак, царква, вінакурня, 2 карчмы. У 1858 г. 30 жыхароў мужчынскага полу. Памешчык меў тут у 1875 г. 154 дзес., у 1879 г. — 166 дзес. зямлі. У 1875 г. адкрыта школа, з 1882 г.

дзейнічала пабудаваная з дрэва царква. У 1885 г. ў Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 22 двары, 132 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. в. Волчас 1 (6 двароў, 32 жыхары) і с. Волчас 2 (49 двароў, 356 жыхароў, царква, царк.-прыходская школа), фальварак Волчас (1 двор, 9 жыхароў) і маёнтак Волчас (ён жа Сечыха, 1 двор, 14 жыхароў). На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 97 вучняў. Дзейнічалі гурткі па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Горкаўскім с/с Чэрыкаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Леніна. У 1940 г. 69 двароў, 283 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У лют. 1942 г. каля вёскі партызаны атрада «Анатоля» вялі цяжкія баі супраць гітлераўскіх карнікаў. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. На ўшанаванне памяці 115 воінаў-землякоў, якія загінулі на фронце, у 1980 г. ў парку пастаўлены абеліск. Пасля вайны адбудавана. З 1959 г. ў Крычаўскім, у 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-нах, з 1982 г. ў Касцюшкавіцкім с/с. У 1986 г. 52 гаспадаркі, 134 жыхары, у складзе калгаса «Памяць Леніна» (цэнтр — в. Касцюшкавічы), дзейнічалі клуб, б-ка, медпункт, магазін, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, пач. школа. У 2007 г. бібліятэка-клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Да яе паўн.-ўсх. канца далучаецца перпендыкулярна другая прамалінейная вуліца, а ад зах. канца адыходзіць на ПдУ трэцяя вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдЗ — гасп. сектар.

**ВУЗКІЯ** — пасёлак у Маляціцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Крычава, 84 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Маляціцы на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на ПдУ мяжуе з лесам. На ПдЗ цячэ р. Мяртвіца (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Ермакоўка—Крычаў. 31 гаспадарка, 49 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы аб'ядналіся ў калгас. У 1940 г. 55 двароў, 241 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў вер. 1943 г. спалілі 51 двор. Пасля вайны адбудаваны. У 1976 г. да пасёлка далучана в. Ручча. У 1986 г. 54 гаспадаркі, 109 жыхароў, у складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Маляціцы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, перпендыкулярна да чыгункі, якая праходзіць на паўн.-ўсх. ускраіне. Забудаваны двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЫСОКІ** — былы пасёлак у Маляціцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Крычава, 75 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Маляціцы на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Мяртвіца (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Мірная, Луты і далей па шашы Ермакоўка—Крычаў.

Засн. ў 1923 г. на месцы аднайменнага маёнтка, у Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Баеўскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 1.5.1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў, у складзе калгаса «Вялікі Кастрычнік» (цэнтр — в. Луты). Планіровачна складаўся з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай няшчыльна, драўлянымі індывідуальнымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯРХОЎЦЫ** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 32 км на ПнЗ ад Крычава, 72 км ад



Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ мяжуе з лесам, на ПнУ цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вародзькава 2, Вародзькава 3 і далей па шашы Крычаў—Асавец. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1847 г. сяло (2 двары, 7 жыхароў) і фальварак (7 жыхароў) у Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., цэнтр маёнтка, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 10 двароў, 98 жыхароў. Непадалёку быў маёнтак, а ў 1876 г. засн. яшчэ адзін, гаспадар якога валодаў 543 дзес. зямлі. Дзейнічала царква (з 1882), пабудаваная з дрэва. У 1885 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 35 двароў, 258 жыхароў. Меліся заезны дом і царква. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1909 г. ў сяле 41 двор, 161 жыхар, царк.-прыходская школа, у фальварку 2 двары, 7 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Баеўскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У вясковай школе, створанай на базе дарэв., у 1925 г. было 49 вучняў, яна атрымала нацыяналізаваны будынак. У жн. 1929 г. арганізаваны калгас «Бальшавік». У 1940 г. 35 двароў, 170 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1942 г. партызаны атрада «Чапай» разграмілі паліцэйскі ўчастак, які размяшчаўся ў вёсцы. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Бацвінаўскім с/с, у 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 18 гаспадарак, 27 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Асавец), магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯСЁЛЫ** — пасёлак у Бацвінаўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Крычава, 79 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Маляцічы на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на З і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Мірнае, Луты і далей па шашы Ермакоўка—Крычаў. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Баеўскім с/с Крычаўскага р-на. У 1931 г. арганізаваны калгас «Вясёлы шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 17 гаспадарак. У 1940 г. 13 двароў, 52 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак. У 1986 г. 6 гаспадарак, 15 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Асавец). Пасля вайны адбудаваны. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАРАДОК** — былы пасёлак у Бацвінаўскім с/с, за 20 км на З ад Крычава, 84 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам і цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Крычаў—Асавец.

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 1828 г., калі пасёлак адносіўся да ўладанняў Чавускага касцёла кармелітаў. Меліся пякарня, млын, вінакурня. У 1834 г. 46 жыхароў. У 1897 г. фальварак Гарадок (ён жа Гарадзец) у Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 2 двары, 11 жыхароў. У 1909 г. 1 двор, 2 жыхары. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Крычаўскім р-не. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе





калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Сычык).

**ГАРБАТКА** — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 8 км на Пн ад Крычава, 96 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Аколіца (прыток р. Свінка), на Пн праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Ермакоўка, якая праходзіць побач з вёскай. 23 гаспадаркі, 43 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1768 г. маёнтак у Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1858 г. 30 двароў, 220 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1874 г. памешчык меў у вёсках Гарбатка і Бель 150 дзес. зямлі, вадзяны млын, карчму і вінакурны з-д. У 1880 г. 35 двароў, 210 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім і іншымі промысламі. У 1897 г. вёска (43 двары, 297 жыхароў) і аднайменны фальварак (7 двароў, 54 жыхары, вінакурны з-д) у Крычаўскай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1909 г. ў вёсцы 50 двароў, 375 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 1 жыхар, у былой карчме 1 двор, 4 жыхары. Дзейнічала аднакласная школа. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Варанёўскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, у 1927—39 гг. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. ў школе было 80 вучняў. У 1926 г. 76 двароў, 396 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «XII з'езд Саветаў». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 3 вяскоўцы загінулі на фронце. З 24.6.1960 г. ў Лабковіцкім с/с. У 1986 г. 45 гаспадарак, 92 жыхары, у складзе калгаса «Сацыялістычны шлях» (цэнтр — в. Іванаўка), пач. школа. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж левага берага р. Аколіца. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГЛУШНЕВА** — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 9 км на Пн ад Крычава, 113 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Мсціслаў, якая праходзіць праз вёску. 42 гаспадаркі, 75 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1780 г. сяльцо ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 9 двароў, 55 жыхароў. У 1834 г. 60 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 21 двор, 151 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Крычаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, 30 двароў, 215 жыхароў. У 1909 г. 33 двары, 249 жыхароў. У 1912 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1918 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў маёнтку Языпава, у былым памешчыцкім доме, у 1925 г. налічвала 40 вучняў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Варанёўскім, з 1932 г. ў Бельскім сельсаветах Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 61 двор, 318 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 96 двароў, 245 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 60 двароў. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Паланіцкім, з 24.6.1960 г. ў Лабковіцкім сельсаветах, у 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 68 гаспадарак, 152 жыхары, у складзе калгаса «Сацыялістычны шлях» (цэнтр — в. Іванаўка). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (адрэзак шашы), арыентаванай з Пд на Пн, ад якой на У адгаліноўваюцца 2 завулкі. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

За 0,7 км на У ад вёскі размешчана радовішча мелу «Равок» (разведаныя запасы 3,66 млн. т).



**ГОРКІ** – вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 25 км на З ад Крычава, 79 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў–Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Волчас, Лушчэвінка і далей па шашы Крычаў–Асавец. 12 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

За 0,4 км на З ад вёскі захавалася гарадзішча 14–16 ст. Насупраць, на схілах левага берага р. Любавічка (прыток р. Волчас) размешчана паселішча 14–17 ст. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1780 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 22 двары, 222 жыхары. У 1858 г. 120 рэвізскіх душ. Частка вяскоўцаў займаліся кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 67 двароў, 477 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 64 двары, 551 жыхар, на 5 хутарах 7 двароў, 26 жыхароў. У пач. 1920-х г. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1921 г. было 84 вучні. 1.2.1920 г. пачала дзейнічаць школа па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 26.4.1924 г. ў Чэрыкаўскім р-не Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 16.9.1959 г. ў Крычаўскім р-не. З 20.8.1924 г. да 24.6.1960 г. цэнтр сельсавета. У 1930 г. створаны калгас «Шлях сацыялізму», працавала кузня. У 1940 г. 36 двароў, 161 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. 4 вяскоўцы загінулі на фронце. Пасля вызвалення адбудавана. У 1986 г. 24 гаспадаркі, 60 жыхароў, у складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр – в. Сычыкі). Планіровачна складаецца з выгнутай вуліцы, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГРУШАВА** – пасёлак у Касцюшкавіцкім с/с, за 7 км на ПнЗ ад Крычава, 97 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша–Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Залесавічы і далей па шашы Крычаў–Асавец. 15 гаспадарак, 36 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я гг. на былых памешчыцкіх землях. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Крычаўскім р-не. У 1930-я гг. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 12 двароў, 53 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 9 двароў, загубілі 3 жыхароў. Пасля вайны адбудаваны. У 1986 г. 21 гаспадарка, 43 жыхары, у складзе калгаса «Сацыялістычны шлях» (цэнтр – в. Іванаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай пераважна аднабакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГУБЕНШЧЫНА** – былая вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 25 км на З ад Крычава, 79 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў–Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ПдУ цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гуркава Ніва і далей па шашы Крычаў–Асавец.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1749 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв., 22 двары, мелася карчма. У 1777 г. сяло Губішчызна ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1780 г. 39 двароў, 376 жыхароў. У 1810 г. засн. сукнавальня. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка, 60 двароў, 347 жыхароў. У 1847 г. цэнтр маёнтка. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога ў 1860 г. меў у вёсках Губеншчына і Міляцін 648 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальню і карчму. У 1880 г. 67 двароў, 487 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім, сталярным, кравецкім і іншымі промысламі. У 1897 г. сяло (99 двароў, 723 жыхары), маёнтак (1 двор, 7 жыхароў) у Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1900 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1907 г. навучаліся 53 хлопчыкі і 4 дзяў-


*У.Я.Карніенка.*

чынкі. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У студз. 1906 г. сяляне на сваім сходзе вырашылі працаваць у памешчыкаў з 1 лют. толькі пры ўмовах больш справядлівай аплаты. У 1909 г. ў сяле 117 двароў, 813 жыхароў, у сядзібе 1 двор, 7 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 7 жыхароў, на хутарах 4 двары, 20 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Горкаўскім с/с Чэрыкаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1921 г. было 72 вучні, дзейнічала хата-чытальня, якая размяшчалася ў нацыяналізаваным будынку. У вер. 1923 г. арганізавана с.-г. крэдытнае т-ва, у 1930 г. — калгас імя Сталіна, мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 35 двароў, загубілі 2 жыхароў. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1978 г. на могілках пастаўлены абеліск. Пасля вайны адбудавана. З 16.9.1969 г. ў Горкаўскім. з 24.6.1960 г. ў Бацвінаўскім сельсаветах Крычаўскага р-на, у 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 16 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Сычыкі). Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы У.Я.Карніенкі (нар. ў 1924), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну пры вызваленні Беларусі і Польшчы.

**ГУРКОВА НІВА** — вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 17 км на З ад Крычава, 87 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ мяжуе з лесам. На З цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рэпішча і далей па шашы Крычаў—Асавец. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

У 1897 г. выселак ў Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 8 двароў, 66 жыхароў. У 1909 г. 16 двароў, 95 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Горкаўскім с/с Чэрыкаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 вяскоўцы. З 16.9.1959 г. ў Горкаўскім с/с Крычаўскага р-на, з 24.6.1960 г. ў Бацвінаўскім, з 1982 г. ў Касцюшкавіцкім сельсаветах. У 1986 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе калгаса «Памяць Леніна» (цэнтр — в. Касцюшкавічы). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАЛЕНШЧЫНА** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 35 км на ПнЗ ад Крычава, 69 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мяжуе з лесам. На У цячэ р. Мяртвіца (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Асавец—Крычаў. 22 гаспадаркі, 44 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1780 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 14 двароў, 76 жыхароў. У 1816 г. ўласнасць памешчыка. У 1848 г. ў складзе маёнтка Беліца. У 1897 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 26 двароў, 110 жыхароў. У 1909 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Баеўскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 38 вучняў, а ў 1928 г. для школы пабудавана памяшканне. Дзейнічаў гурток



па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 52 двары, 249 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Будзённага. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1942 г. партызаны атрада «Чапай» разграмілі створаны акупантамі ў вёсцы паліцэйскі ўчастак. Гітлераўцы разрабавалі гаспадарку, спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Бацвінаўскім с/с, у 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 39 гаспадарак, 77 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Асавец), размешчаны магазін, б-ка. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з Пд на Пн і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі, індывідуальнымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАРАГАЯ** — вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 12 км на З ад Крычава, 92 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Асавец, якая праходзіць праз вёску. 38 гаспадарак, 95 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1780 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце, 9 двароў, 47 жыхароў. У 1811 г. 10 двароў, 24 жыхары мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць. У канцы 1890-х г. частка вяскоўцаў перасялілася на жыхарства на Далёкі Усход. У 1897 г. ў Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 28 двароў, 210 жыхароў. Меўся заезны дом. У 1908 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 29 двароў, 164 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Бацвінаўскім, з 21.8.1925 г. ў Касцюшкавіцкім сельсаветах Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1923 г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў былым маёнтку Лушчэвінкі. У 1925 г. ў школе былі 33 вучні. У выніку перасялення часткі вяскоўцаў паблізу ў 1923 г. былі ўтвораны пасёлкі Доўгі Лог, Новая Дарагая, Ферма, Бранскі, Цэнтральны, Смолішча, якія, за выключэннем пас. Доўгі Лог, зараз не існуюць. У 1926 г. 61 двор, 315 жыхароў. У лют. 1931 г. арганізаваны калгас «Камунар», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 60 гаспадарак, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 23 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 57 гаспадарак, 128 жыхароў, у складзе калгаса «Памяць Леніна» (цэнтр — в. Касцюшкавічы), дзейнічалі клуб, б-ка, магазін, фельч.- акушэрскі пункт. У 2007 г. працавалі б-ка-клуб, магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай з завулкам вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ, перпендыкулярна да шашы і забудаванай пераважна двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі і частка жылой забудовы размешчаны ўздоўж шашы. На ПнУ — гасп. сектар.

**ДАРЛІВАЕ** — вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Крычава, 95 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам, на З цячэ р. Добрасць (прыток р. Сож), на Пн праходзіць чыгунка Крычаў—Магілёў. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Грушава, Залесавічы і далей па шашы Крычаў—Асавец. 19 гаспадарак, 39 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Дарлівае ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1780 г. 10 двароў. У 1834 г. ўласнасць памешчыка. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога меў у 1849 г. ў вёсках Дарлівае і Зайцава Слабада 100 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Крычаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, 33 двары, 208 жыхароў. 15.10.1918 г. адкрыта школа, якая першапачаткова размясцілася ў наёмным, затым у нацыяналізаваным

царк. будынку, а ў 1923 г. для школы пабудавана новае памяшканне. У 1925 г. ў школе было 45 вучняў, дзейнічаў драматычны гурток. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета, з 21.8.1925 г. ў Касцюшкавіцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Дзейнічала хата-чытальня, меўся ветраны млын. У 1926 г. 57 двароў, 257 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Свабода», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 47 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 12 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 34 гаспадаркі, 76 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Бель), дзейнічаў магазін. Гал. вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ, злучана на З кароткім завулкам з Г-падобнай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДЗЯГАВІЧЫ** — вёска ў Краснабудскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Крычава, 119 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Крычаў 2 на лініі Крычаў—Рослаўль. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Асцёр (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Прахораўка, Красная Буда і далей па шашы Крычаў—Рослаўль. 182 гаспадаркі, 396 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1768 г. сяло ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяв., дзярж. уласнасць. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, 48 двароў, 257 жыхароў. У 1811 г. 57 двароў, 203 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога валодаў у 1830 г. ў розных месцах 9341,5 дзес. зямлі, меў 2 вадзяныя млыны. У 1850 г. ў Клімавіцкім павеце, 68 двароў, 179 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1885 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, Магілёўскай губ., 82 двары, 530 жыхароў. У 1897 г. 120 двароў, 789 жыхароў, кузня, піцейны дом, царк.-прыходская школа, у якой у 1905 г. навучалася 29 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. Побач быў аднайменны фальварак (1 двор, 11 жыхароў). У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. ў вёсцы 128 двароў, 843 жыхары, у фальварку 2 двары, 9 жыхароў. Мелася карчма. У 1912 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Прахораўскім, з 21.8.1925 г. ў Зарубецкім сельсаветах Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. ў вясковай школе было 63 вучні — дзеці з вёсак Дзягавічы, Панаскава і бліжэйшых хутароў. У 1926 г. 208 двароў, 1335 жыхароў. У 1930 г. вяскоўцы арганізавалі калгас «Май», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 64 гаспадаркі. Працавалі ветраны млын, шорная майстэрня, кузня. У 1939 г. з бліжэйшых хутароў у вёску былі сселены 132 двары. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 220 землякоў, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у цэнтры вёскі ў 1982 г. пастаўлены абеліск. З 16.7.1954 г. ў Краснабудскім с/с. У 1986 г. 278 гаспадарак, 662 жыхары, цэнтр саўгаса «Дзягавічы», дзейнічалі лесапільня, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, сярэдняя школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны, сталовая, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі. У 2007 г. ў вёсцы сярэдняя школа, дзіцячы сад, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Гал. вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Ад яе на ПдУ адыходзяць 3 паралельныя паміж сабой вуліцы, злучаныя 2 завулкамі і забудаваны муравáнымі дамамі катэджнага тыпу. Астатнія жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу, пастаўленыя двухбакова, шчыльна. На Пн — адасоблены квартал забудовы. Грамадскія будынкі раз-



мешчаны на гал. вуліцы. На зах. ускраіне — гасп. сектар.

Радзіма Героя Сац. Працы А.І.Манінай (нар. ў 1922).

**ДОЎГІ ЛОГ** — пасёлак у Касцюшкавіцкім с/с, за 10 км на З ад Крычава, 94 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам і цячэ р. Добрасць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Асавец, якая праходзіць праз вёску. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў 1923 г. ў выніку перасялення сюды часткі жыхароў з в. Дарагая. З 20.8.1924 г. ў Бацвінаўскім, з 21.8.1925 г. ў Касцюшкавіцкім сельсаветах Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. Магілёўскай акругі (да 23.7.1930) БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 8 двароў, 36 жыхароў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 9 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе калгаса «Памяць Леніна» (цэнтр — в. Касцюшкавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, перпендыкулярна да шашы, і забудаванай аднабакова індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДРУЖКІ** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Крычава, 79 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам, на Пд цячэ р. Мяртвіца (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Асавец—Крычаў. 21 гаспадарка, 35 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 18 двароў, 82 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Бацвінаўскім с/с. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 29 гаспадарак, 79 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Асавец). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБОЎСКІ** — былы пасёлак у Касцюшкавіцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Крычава, 90 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам, цячэ р. Жукаўка (прыток р. Волчас). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Камароўка, Нізкі і далей па шашы Крычаў—Ермакоўка.

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Паланіцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 13 двароў, 69 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 11 двароў. Пасля вайны адбудаваны. З 24.6.1960 г. ў Касцюшкавіцкім с/с. У 1986 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Бель). Кароткая прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі была забудавана індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*А.І.Маніна.*

**ДУБРАЎКА** — пасёлак у Лабковіцкім с/с, за 16 км на Пн ад Крычава, 129 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Ананічы, Кашаны, Баяры, Старасел-ле і далей па шашы Крычаў—Мсціслаў. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Гаспадар маёнтка, які быў тут у 19 ст., валодаў у 1851 г. 352 дзес. зямлі. У 1897 г. вёскі Дуброўка 1 (2 двары, 13 жыхароў), Дуброўка 2 (3 двары, 18 жыхароў) і ваколіца (2 двары, 11 жыхароў). У 1909 г. засценкі Дуброўка 1 (5 двароў, 43 жыхары) і Дуброўка 2 (4 двары, 61 жыхар). З


*А.Я.Смалякоў.*

26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Кашанскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. хутары Дубраўка 1 (7 двароў, 47 жыхароў) і Дубраўка 2 (8 двароў, 49 жыхароў). У 1930-я г. сяляне ўступілі ў калгас. З канца 1930-х г. пасёлак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 15 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Бель). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЕРМАКОЎКА** — вёска ў Маляціцкім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Крычава, 86 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Маляцічы на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. На Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Бялянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Ермакоўка—Крычаў. 44 гаспадаркі, 94 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1834 г. 140 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 31 двор, 159 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 39 двароў, 274 жыхары. У 1909 г. 55 двароў, 280 жыхароў. У 1919 г. адкрыта прац. школа 2-й ступені, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1925 г. ў школе было 30 вучняў, дзейнічаў драматычны гурток. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Паланіцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 65 двароў, 275 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ленінскія дні», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 46 гаспадарак, абслугоўваўся Крычаўскай МТС. У ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вызвалена 30.9.1943 г. войскамі 50-й арміі Бранскага фронту. На фронце загінулі 33 вяскоўцы. З пач. 1950-х г. ў Маляціцкім с/с. У 1986 г. 51 гаспадарка, 147 жыхароў, у складзе калгаса «Вялікі Кастрычнік» (цэнтр — в. Луты). Ёсць магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы, забудаванай двухбакова індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне гасп. сектар.

Радзіма Героя Сав. Саюза А.Я.Смалякова (нар. ў 1908).

**ЗАЙЦАВА СЛАБАДА** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 18 км на З ад Крычава, 86 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны, на Пн праходзіць чыгунка, на З цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Асавец, якая праходзіць праз вёску. 14 гаспадарак, 34 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1834 г. 37 жыхароў, уласнасць памешчыка, у 1847 г. ў складзе маёнтка Бацвінаўка Чэрыкаўскага павета. Памешчык меў у 1849 г. ў вёсках Зайцава Слабада (яна ж Галынка) і Дарлівае 100 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, вёска (18 двароў, 113 жыхароў) і 2 аднайменныя хутары (20 двароў, 136 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 17 двароў, 126 жыхароў, на адным хутары 16 двароў, 70 жыхароў, яшчэ на 6 хутарах — 6 двароў, 37 жыхароў. З 26.4. 1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Бацвінаўскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 38 двароў, 227 жыхароў. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». З 1937 г. ў вёсцы размяшчалася 2-я Крычаўская



МТС імя Сталіна. У 1938 г. МТС мела 23 трактары і іншую тэхніку. У 1940 г. ў вёсцы 33 двары, 143 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы разрабавалі маёмасць і ў вер. 1943 г. поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. На фронце загінула 5 вяскоўцаў. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 19 гаспадарак, 38 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Бацвінаўка), ёсць магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай, шыротнай арыентацыі вуліцы (адрэзак шашы) з двухбаковай, шчыльнай, індывідуальнай, драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**ЗАЛЕСАВІЧЫ** — вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 5 км на З ад Крычава, 99 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На З цячэ ручай (прыток р. Добрасць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Крычаў—Асавец. 67 гаспадарак, 175 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1777 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1780 г. 10 двароў, 55 жыхароў. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога меў у 1859 г. 150 дзес. зямлі. З 1882 г. дзейнічала царква, пабудаваная з дрэва. Меўся хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882). У 1909 г. ў Крычаўскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 32 двары, 291 жыхар. Дзейнічала царква і царк.-прыходская школа. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Дарліўскім с/с (21.8.1925 г. перайменаваны ў Касцюшкавіцкі) Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 32 вучні, дзейнічаў драматычны гурток і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 90 двароў, 425 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае Сормава», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 42 гаспадаркі, працавалі кузня, сталярная і плотніцкая майстэрні. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 21 вясковец. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 97 гаспадарак, 221 жыхар, у складзе калгаса «Сацыялістычны шлях» (цэнтр — в. Іванаўка), дзейнічалі майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, пач. школа, дзіцячы сад, сталовая, магазін, клуб, б-ка. У 2007 г. ў вёсцы пач. школа, магазін, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 3 паралельных паміж сабой, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ вуліц, злучаных крывалінейнай вуліцай на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. На паўн.-зах. ускраіне — гасп. сектар.



*М.І.Сталяроў.*

У вясковай школе вучыўся Герой Сав. Саюза М.І.Сталяроў (1919—85).

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 13 км на Пн ад Крычава, 117 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Песькавічы, Нізкі і далей па шашы Крычаў—Ермакоўка. 11 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Засн. ў 1923 г., калі ў выніку перасялення сюды, на былыя памешчыцкія землі, жыхароў з в. Бель 1 былі ўтвораны пасёлкі Залескі 1 і Залескі 2. З 20.8.1924 г. ў Бельскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Будзённага, які з 1931 г. абслугоўваўся Крычаўскай МТС. У канцы 1930-х г. пасёлкі аб'яднаны ў в. Залессе. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. ў Лабковіцкім с/с. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 26 гаспадарак, 55 жыхароў, у складзе калгаса імя XII з'езда




КПСС (цэнтр — в. Бель). Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**ЗАРУБЕЦ** — вёска ў Краснабудскім с/с, за 19 км на ПнУ ад Крычава, 123 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Крычаў 2 на лініі Крычаў—Рослаўль. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Чырвоная Буда і далей па шашы Крычаў—Рослаўль. 56 гаспадарак, 98 жыхароў (2007).

У 1857 г. хутар Зарубень у Клімавіцкім павеце, уласнасць памешчыка. Непадалёку ў 1880-я г. быў маёнтак. 6 мясц. памешчыкаў мелі тут у 1878 г. 872 дзес. зямлі. У 1897 г. латышскае пасяленне Зарубец (яно ж Навіна) у Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 17 двароў, 115 жыхароў. Побач быў фальварак Зарубец (1 двор, 19 жыхароў, ветраны млын). У 1909 г. на хутарах 11 двароў, 130 жыхароў, у фальварку 26 жыхароў. У 1914 г. яшчэ 36 сем'яў з Магілёўскай і Чарнігаўскай губерняў у пошуках лепшага жыцця аселі ў гэтых мясцінах. У 1921 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. было 48 вучняў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Прахораўскім с/с, з 21.8.1925 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1-й пал. 1920-х г. адкрыты магазін, хата-чытальня. У 1926 г. 66 двароў, 415 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгасы «Новае жыццё» (у 1932 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак) і «Чырвонае Сормава» (у 1932 г. 42 гаспадаркі). З 1931 г. калгасы абслугоўвала Крычаўская МТС. Пазней калгасы аб'ядналіся ў адзін з назвай «Чырвонае Сормава». Дзейнічала амбулаторыя. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 28 вяскоўцаў загінулі на фронце. На могілках пахаваны воіны ленінградскага камуніст. батальёна і тамбоўскіх камуніст. рот, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў у ліп. 1941 г. З 16.7.1954 г. ў складзе Краснабудскага с/с. У 1976 г. да вёскі далучана в. Першамайская. У 1986 г. 56 гаспадарак, 267 жыхароў, у складзе саўгаса «Дзягавічы» (цэнтр — в. Дзягавічы), дзейнічалі клуб, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін. У 2007 г. ў вёсцы б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Гал. прамалінейная вуліца арыентавана з Пд на Пн. Яе ў цэнтры перпендыкулярна перакрыжоўвае плаўна выгнутая вуліца. На У — адмежаваны ўчастак забудовы: 2 паралельныя вуліцы, размежаваныя ручаём (былая в. Першамайская). Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд. ускраіне.

**ЗУІ** — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 8 км на Пн ад Крычава, 112 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Сож, на Пн — яе прыток р. Свінка. Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Мсціслаў, якая праходзіць побач з вёскай. 75 гаспадарак, 168 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло Зуй Крычаўскага староства, казённая ўласнасць. У 1747 г. ў Крычаўскім старостве, 8 двароў, меліся карчма, млын, дзярж. ўласнасць. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, 15 двароў, 67 жыхароў, уласнасць памешчыка, меўся млын. У 1897 г. ў Крычаўскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 25 двароў, 164 жыхары. У 1909 г. 26 двароў, 230 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Варанёўскім, з 1932 г. ў Бельскім сельсаветах Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 37 двароў, 205 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны араты». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7 вяс-



коўцаў загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. ў Паланіцкім, з 24.6.1960 г. ў Лабковіцкім сельсаветах. У 1986 г. 105 гаспадарак, 291 жыхар, у складзе калгаса «Сацыялістычны шлях» (цэнтр — в. Іванаўка). У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з 2 завулкамі, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ, перпендыкулярна да шашы. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд. ускраіне.

Каля паўд.-зах. ускраіны, уздоўж р. Сож размешчана радовішча глін (25,6 млн. т), якое распрацоўваецца прадпрыемствам «Крычаўцэментнашыфер».

**ІВАНАЎКА** (да 1919 г. Свіная) — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 8 км на Пн ад Крычава, 112 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На У праходзіць чыгунка і цячэ р. Свінка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Ермакоўка і шашы Крычаў—Мсціслаў, якія праходзяць побач з вёскай. 179 гаспадарак, 422 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома як с. Свіная ў Крычаўскім старостве, казённая ўласнасць. У 1667 г. ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. спустошана. У 1709 г. ў сяле з 3 валок зямлі апрацоўвалася толькі 1/3 валокі. У 1747 г. 4 двары, дзярж. ўласнасць. У 1777 г. сяло Свінна ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1780 г. 13 двароў, 102 жыхары. У 1834 г. 134 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 66 двароў, 453 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася рознымі промысламі. У 1897 г. сяло Свіная (28 двароў, 191 жыхар) і аднайменная аколіца (60 двароў, 370 жыхароў, школа граматы) у Крычаўскай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1909 г. ў сяле 29 двароў, 268 жыхароў, у аколіцы 52 двары, 544 жыхары. Побач быў маёнтак, гаспадару якога належала большая частка вясковай зямлі. Меліся школа і карчма. У 1918 г. ў памяць аб ураджэнцы вёскі — данбаскім шахцёры І.Л.Паршукоўскім, які ў 1907 г. быў пакараны смерцю царскім урадам за рэв. дзейнасць у Екацярынаславе, вёсцы нададзена назва Іванаўка. На будынку клуба ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў памяць аб рэвалюцыянеры-земляку. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1921 г. было 180 вучняў. Дзейнічалі гурткі па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. ў Варанёўскім, з 1932 г. ў Паланіцкім сельсаветах Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 125 двароў, 725 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ленінскі заклік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 70 гаспадарак, працавалі 2 кузні. З 1931 г. калгас абслугоўвала Крычаўская МТС. Жывёлагадоўчая ферма калгаса ў 1939 г. была ўдзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі ў Маскве. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На ўшанаванне памяці 131 земляка, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у 1984 г. каля Дома культуры пастаўлена стэла. З 24.6.1960 г. ў Лабковіцкім с/с. У 1986 г. 196 гаспадарак, 535 жыхароў, цэнтр калгаса «Сацыялістычны шлях», працавалі магазін, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2008 г. ў вёсцы Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін. Чыг. Крычаў—Магілёў падзяляе вёску на паўн. (ад прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі на З адыходзіць на ПнЗ крывалінейная вуліца) і паўд. (ад гал., амаль мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы адыходзяць на У 3 паралельныя вуліцы) часткі. Забудавана пераважна драўлянымі індывідуальнымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы паўн. часткі. Гасп. сектар — у цэнтры, каля чыгункі.

**КАЛІНІНА** (да 1938 г. Задабрасць) — вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 5 км на Пд ад Крычава, 109 км ад Магілёва, 10 км

ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Сож, на Пн — яе прыток р. Добрасць. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сакольнічы і далей па шашы Чэрыкаў—Крычаў. 96 гаспадарак, 248 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1737 г. сяло, мелася царква. У 1777 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў Клімавіцкім павеце, 9 двароў, 49 жыхароў, млын, уласнасць памешчыка. У в. Задабрасць і Крычаве памешчык меў у 1878 г. 1588 дзес. зямлі, 3 вадзяныя млыны, піцейны дом і вінакурны з-д. У 1897 г. ў Крычаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, побач з сялом быў фальварак (5 двароў, 29 жыхароў). Дзейнічалі вінакурны з-д і вадзяны млын. У 1909 г. сяло Нова-Сакольнічы (Бачкі), 35 двароў, 313 жыхароў і маёнтак Задабрасць, 1 двор, 2 жыхары. У 1915 г. адкрыта земская школа. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Сакольніцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 46 вучняў. Дзейнічала хата-чытальня. У 1926 г. 55 двароў, 328 жыхароў. У 1928 г. для школы пабудавана памяшканне. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны шлях». Працавалі вінакурны з-д і кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 9 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. ў Касцюшкавіцкім с/с Крычаўскага р-на. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 118 гаспадарак, 308 жыхароў, у складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Сакольнічы). У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, ад якой на Пд адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца, а на Пн працяглая крывалінейная (былая в. Прыгарадная) вуліца. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. і паўд. ускраінах — гасп. сектар.



*Будынак былога бровара ў в. Калініна.*

**КАЛЕКТЫЎНЫ ТРУД** — вёска ў Краснабудскім с/с, за 18 км на У ад Крычава, 117 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Міхеевічы на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пд, З і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Каранец і далей па шашы Крычаў—Рослаўль. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. У 1926 г. калект. гаспадарка, 18 двароў, 132 жыхары. У 1930-я г. каля вёскі працавала торфапрадпрыемства (у 1940 г. 189 рабочых), якое забяспечвала палівам Крычаўскі цэментны з-д. У 1940 г. 20 двароў, 200 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 28.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў. 2 вяскоўцы загінулі на фронце. У 1986 г. 36 гаспадарак, 87 жыхароў, у складзе саўгаса «Крычаўскі» (цэнтр — в. Красная Буда), дзейнічалі клуб, магазін. Складаецца з прамалінейнай, шыротнай арыентацыі вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**КАМАРОЎКА** — вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Крычава, 119 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф



раўнінны, на Пн цячэ р. Бялянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Нізкі і далей па шашы Крычаў—Ермакоўка. 23 гаспадаркі, 54 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1780 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 50 двароў, 379 жыхароў. У 1858 г. 145 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. ў Крычаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, 68 двароў, 463 жыхары. У лют. 1900 г. вяскоўцы правялі ў маёнтку Дзяржанічы самавольную высечку лесу. У 1909 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 79 двароў, 618 жыхароў. Меліся школа граматы, ветраны млын (пабудаваны ў 1904), казённая вінная крама. У 1911 г. адкрыта земская школа. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Дарліўскім, з 21.8.1925 г. ў Паланіцкім сельсаветах Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 62 вучні. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1928 г. для школы пабудавана памяшканне. У 1926 г. 125 двароў, 725 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгасы «Авангард» і «Новае жыццё», працавалі ветраны млын і кузня. Калгасы абслугоўвала Крычаўская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі вёску. 22.2.1942 г. каля вёскі адбыўся бой паміж партызанамі і гітлераўскімі карнікамі. У памяць аб 146 земляках, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1984 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. Пасля вайны адбудавана. З 24.6.1960 г. ў Касцюшкавіцкім с/с. У 1986 г. 53 гаспадаркі, 96 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Бель), дзейнічалі пач. школа, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін, клуб, б-ка, дзіцячы сад. У 2007 г. ў вёсцы б-ка, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**КАМЕНКА** — вёска ў Краснабудскім с/с, за 8 км на ПдУ ад Крычава, 112 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Міхеевічы на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, вакол лес. На З цячэ р. Каменка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Прудок і далей па шашы Крычаў—Рослаўль. 15 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. У 1816 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка, 22 двары, 178 жыхароў. У 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 32 двары, 240 жыхароў. Меліся 2 ветраныя млыны. У 1909 г. 39 двароў, 303 жыхары. У 1914 г. адкрыта школа граматы. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Прахораўскім, з 21.8.1925 г. ў Міхеевіцкім сельсаветах Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі БССР, з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. На базе дарэв. была створана прац. школа 1-й ступені. У 1926 г. 75 двароў, 371 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Сцяг», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 78 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 57 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. ў Краснабудскім с/с. У 1986 г. 41 гаспадарка, 23 жыхары, у складзе саўгаса «Крычаўскі» (цэнтр — в. Красная Буда), працавалі магазін, клуб. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Непадалёку ад вёскі знаходзіцца радовішча мелу і мергелю.

**КАНЦЫ** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Крычава, 81 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Жукаўка (прыток р. Волчас), на паўд. ускраіне праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Асавец, якая праходзіць праз вёску. 28 гаспадарак, 70 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях як пасёлак у Бацвінаўскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На могілках пахаваны 11 сав. воінаў, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў. У 1986 г. 39 гаспадарак, 85 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Бацвінаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы, забудаванай індывідуальнымі, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**КАРАНЕЦ** — вёска ў Краснабудскім с/с, за 11 км на У ад Крычава, 115 км ад Магілёва. 4 км ад чыг. ст. Міхеевічы на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На паўд. ускраіне цячэ р. Каранец (прыток р. Худабычка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Красная Буда і далей па шашы Крычаў—Рослаўль. 15 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

У 1897 г. вёска ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 70 двароў, 376 жыхароў. У 1901 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1909 г. 136 двароў, 992 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Гразівецкім с/с Клімавіцкага р-на (з 1931 г. ў Міхеевіцкім с/с Крычаўскага р-на) Калінінскай, з 9.6.1927 г. Магілёўскай акруг БССР (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 65 вучняў. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. 17.9.1922 г. створана саматужна-прам. арцель «Пралетарый», 11.6.1923 г. арганізавана закупачна-збытавое, а 24.11.1924 г. — с.-г. т-ва, якое забяспечвала сялян насеннем траў, вяло нарыхтоўку с.-г. прадуктаў (абслугоўвала 2 вёскі і 15 пасёлкаў). У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 64 гаспадаркі. Мелася кузня, працаваў торфазавод «Калектыўная праца». У 1940 г. 100 двароў, 500 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. 47 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Краснабудскім с/с. У 1986 г. 45 гаспадарак, 75 жыхароў, у складзе саўгаса «Крычаўскі» (цэнтр — в. Красная Буда), дзейнічалі магазін, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Тры амаль прамалінейныя, шыротный арыентацыі вуліцы злучаны мясц. дарогай. Забудавана двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАСЦЮКОЎКА** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 30 км на З ад Крычава, 72 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бацвінаўка і далей па шашы Крычаў—Асавец. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1780 г. 7 двароў, 65 жыхароў, у 1858 г. 19 двароў, 101 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 23 двары, 145 жыхароў. У 1909 г. 44 двары, 181 жыхар. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Горкаўскім с/с Чэрыкаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 1928 г. дзейнічала масlабойня, у 1930 г. арганізаваны калгас «Новы шлях». У 1940 г. 37 двароў, 142



жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. З 24.6.1960 г. ў Бацвінаўскім с/с. У 1962—65 гг. ў Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 11 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Сычыкі). Складаецца з плаўна выгнутай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы, забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАСЦЮШКАВІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета (з 21.8.1925), за 9 км на З ад Крычава, 95 км ад Магілёва, 14 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ мяжуе з лесам, на У цячэ р. Добрасць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Асавец, якая праходзіць праз вёску. 130 гаспадарак, 391 жыхар (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1604 г. сяло Касцюшкі ў Крычаўскім старостве, шляхецкая ўласнасць. У 1780 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 20 двароў, 142 жыхары. У 1827 г. мястэчка ў Чэрыкаўскім павеце, 152 жыхары. У 1858 г. 84 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога меў у 1866 г. 170 дзес. зямлі. У 1880 г. 46 двароў, 333 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася шавецкім промыслам. У 1897 г. сяло (44 двары, 186 жыхароў) і аднайменная аколіца (28 двароў, 186 жыхароў) у Крычаўскай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1908 г. адкрыта земская школа. У 1909 г. ў сяле 46 двароў, 397 жыхароў, у аколіцы 13 двароў, 93 жыхары. У 1919 г. створаны к-т беднаты, які ўзначаліў вясковец А.Ф.Свадкоўскі. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 21.8.1925 г. цэнтр сельсавета Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Дзейнічала школа (у 1925 г. 51 вучань), для якой у 1924 г. пабудавана памяшканне. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 86 двароў, 495 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Леніна (старшыня А.Ф.Свадкоўскі). У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 62 гаспадаркі. У гонар першых трактарыстаў калгаса і 50-годдзя гаспадаркі ў 1981 г. ў цэнтры вёскі на пастаменце пастаўлены трактар «Універсал». З сярэдзіны 1930-х г. дзейнічаў фельч. пункт, у 1937 г. пабудаваны магазін. У 1940 г. ў вёсцы 78 двароў, 318 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 71 двор, загубілі 5 жыхароў. Вызвалена 1.10.1943 г. Пасля вайны адбудавана. На фронце і ў партыз. барацьбе загінула 96 вяскоўцаў. У цэнтры вёскі, у памяць аб земляках, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму, у 1976 г. пастаўлены абеліск. У 1986 г. 137 гаспадарак, 396 жыхароў, цэнтр калгаса «Памяць Леніна», дзейнічалі млын, лесапільня, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, гандл. цэнтр, дзіцячы сад, сталовая, аддз. ашчаднага банка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. цэнтр СВК «Калгас «Памяць Леніна», у вёсцы дзіцячы сад, сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. АСБ «Беларусбанк», аддз. сувязі, камбінат быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. Планіровачна складаецца з З прамалінейных, амаль паралельных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, перпендыкулярных да шашы. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры, на скрыжаванні гал. вуліцы з шашой размешчаны грамадскія будынкі і адасоблена — гасп. сектар.

У склад сельсавета ўваходзяць 18 вёсак і 9 пасёлкаў. У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Касцюшкавіцкага с/с былі пасёлкі Камунар і Чырвоная Гара, якія зараз не існуюць.

**КАХАНОЎ** — былая вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 22 км на З ад Крычава, 82 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам, на З цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Воўчас і далей па шашы Крычаў—Асавец.

За 0,1 км на ПдУ ад вёскі захаваўся могільнік (11 насыпаў), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вядома з 19 ст. У 1844 г. вёска ў складзе казённага маёнтка Волчас у Чэрыкаўскім павеце, 8 двароў. Меліся млын і карчма. У 1897 г. 11 двароў, 84 жыхары, у 1909 г. 10 двароў, 87 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Крычаўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 17 двароў, 33 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. У 1986 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе калгаса «Памяць Леніна» (цэнтр — в. Касцюшкавічы). Сядзіба традыц., драўляная, з гасп. пабудовамі.

Вёска — радзіма ген.-палкоўніка, удзельніка сав.-фінляндскай і Вял. Айч. войн Ф.І.Добыша (1906—80).

**КАШАНЫ** — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 18 км на Пн ад Крычава, 122 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Чорная Натапа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Мсціслаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 19 гаспадарак, 47 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1747 г. вёска ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ. Побач быў фальварак. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1780 г. сяло ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 52 двары, 308 жыхароў. У 1848 г. ў складзе казённага маёнтка Кашаны Чэрыкаўскага павета, 43 двары. У 1804 г. адбылося выступленне сялян супраць панскага прыгнёту. У 1854 г. пабудавана царква. Меўся хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882). У 1897 г. 73 двары, 491 жыхар. У 1900 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1902 г. ў школе навучалася 100 хлопчыкаў. У 1909 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 75 двароў, 529 жыхароў. У 1922 г. створана камсамольская ячэйка, арганізатарам якой быў Ц.Ф.Панцоў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. да 24.6.1960 г. цэнтр Паланіцкага с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 61 вучань з вёсак Кашаны, Баяры, пасёлкаў Зялёная Дуброва, Зялёная Рошча, Падбаяры, Паддуб'е, Зялёны Дуб, Дубраўка і навакольных хутароў. Дзейнічала б-ка. У 1926 г. 124 двары, 660 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Іскра», працавалі кузня і ваўначоска, дзейнічаў фельч.-акушэрскі пункт. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 7 вяскоўцаў. З 24.6.1960 г. ў Лабковіцкім с/с, у 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 45 гаспадарак, 104 жыхары, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Лабковічы), дзейнічалі клуб, б-ка, магазін. У 2007 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, няшчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.

**КЛІНОЎСКІ** — пасёлак у Касцюшкавіцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Крычава, 89 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Бялянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Нізкі і далей па шашы Крычаў—Ермакоўка. 30 гаспадарак, 85 жыхароў (2007).

Засн. ў канцы 1930-х г. перасяленцамі з бліжэйшых хутароў. Уваходзіў у Па-



ланіцкі с/с Крычаўскага р-на. Пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 32 двары, 56 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 11 двароў. Пасля вайны адбудаваны. З 24.6.1960 г. ў Касцюшкавіцкім с/с. У 1986 г. 29 гаспадарак, 92 жыхары, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Бель). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з двухбаковай, шчыльнай, драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

**КРАСНАПОЛЛЕ** — вёска ў Краснабудскім с/с, за 12 км на У ад Крычава, 116 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Крычаў 2 на лініі Крычаў—Рослаўль. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Рослаўль, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 15 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. як пасёлак на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Міхеевіцкім с/с Крычаўскага р-на. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 14 пасялкоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. пасёлак, 25 гаспадарак, 45 жыхароў, у складзе саўгаса «Крычаўскі» (цэнтр — в. Красная Буда). Да прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі на Пн далучаецца невял. прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі. На Пн — адасоблены ўчастак забудовы ўздоўж невялікай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСНАЯ БУДА** (да 1935 г. Жыдава Буда) — вёска, цэнтр с/с (з 16.7. 1954), за 10 км на У ад Крычава, 114 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Крычаў 2 на лініі Крычаў—Рослаўль. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам і цячэ р. Худабычка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Рослаўль. 319 гаспадарак, 807 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, мелася карчма. У 1816 г. ў Клімавіцкім павеце, 24 двары, 92 жыхары, уласнасць памешчыка. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога меў у 1874 г. ў вёсках Жыдава Буда і Сярэбраны Ручай 300 дзес. зямлі, млын. Дзейнічалі дзягцярна-бяроставае прадпрыемства і крама. У 1883 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета, 32 двары, 159 жыхароў. У 1897 г. 26 двароў, 189 жыхароў. У 1904 г. засн. вінакурны з-д (у 1913 г. 7 рабочых). У 1909 г. 28 двароў, 189 жыхароў. Побач быў фальварак (1 двор, 25 жыхароў). З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Прахораўскім, з 21.8.1925 г. ў Міхеевіцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1919 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якой быў перададзены памешчыцкі дом (у 1926 г. 45 вучняў). У 1926 г. 54 двары, 332 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Буда», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 36 гаспадарак. У 1940 г. 38 двароў, 250 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў вер. 1943 г. спалілі 31 двор, загубілі 7 жыхароў. У час акупацыі дзейнічала камсамольская антыфашысцкая група пад кіраўніцтвам А.Крупадзёрава. У цэнтры вёскі, каля шашы Крычаў—Рослаўль у 1979 г. пастаўлена стэла ў памяць аб юных падпольшчыках групы, якія ў 1943 г. загінулі ад рук фашыстаў. 43 вяскоўцы загінулі на фронце. У 2 брацкіх магілах, што на вясковых могілках, пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў. У цэнтры вёскі пастаўлены абеліск у памяць аб 396 земляках з вёсак сельсавета, якія загінулі ў баях супраць фашызму. Пасля вайны адбудавана.

У 1976 г. да вёскі далучаны вёскі Чырвоны Ручай і Кастрычнікі. У 1986 г. цэнтр саўгаса «Крычаўскі», 351 гаспадарка, 912

жыхароў, Дом культуры, б-ка, бальніца, амбулаторыя, аптэка, сярэдняя і муз. школы, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. ашчаднага банка, Дом быту, швейная і шавецкая майстэрні, сталовая, гандл. цэнтр. У 2007 г. ў вёсцы б-ка, сярэдняя школа, аддзяленні сувязі і АСБ «Беларусбанк», пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. Гал. крывалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ, перасякаецца ў цэнтры ракой. На ПдЗ 4 кароткія прамалінейныя вуліцы склалі адасоблены квартал. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Адм.-грамадскі цэнтр — на Пд.

У склад сельсавета ўваходзяць 14 вёсак і 3 пасёлкі. У канцы 1930-х г. на тэр. сучаснага Краснабудскага с/с былі вёскі Першамайская (да 1937 г. Дрышчаў), Белы Камень, Эмануілаўка, Чырвоная Горка, Закаты, Кавылкіна, пас. Трудавы, якія зараз не існуюць.

**КРАСНЫ БОР** — пасёлак у Краснабудскім с/с, за 10 км на У ад Крычава, 114 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Крычаў 2 на лініі Крычаў—Рослаўль. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Рослаўль, якая праходзіць праз пасёлак. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Гразівецкім с/с Клімавіцкага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 1931 г. ў Крычаўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта 4-гадовая школа, у якой у 1925 г. было 35 вучняў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1930 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У цэнтры пасёлка, у брацкай магіле пахаваны 15 сав. воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць акупантаў. У ліку пахаваных — воіны 1270-га стралк. палка 385-й стралк. дывізіі. У 1986 г. 10 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе саўгаса «Крычаўскі» (цэнтр — в. Красная Буда). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, перпендыкулярнай да шашы. Частка забудовы размешчана ўздоўж паўд. боку шашы. Забудавана аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСНЫ САД** — пасёлак у Краснабудскім с/с, за 8 км на У ад Крычава, 112 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Крычаў 2 на лініі Крычаў—Рослаўль. Рэльеф раўнінны, вакол лес, на З цячэ р. Худабычка (прыток р. Сож), на ПдЗ праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Рослаўль, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 7 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Міхеевіцкім с/с Крычаўскага р-на. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 9 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе саўгаса «Крычаўскі» (цэнтр — в. Красная Буда). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛАБКОВІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета (з 16.7.1954), за 18 км на Пн ад Крычава. 122 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Мсціслаў, якая праходзіць праз вёску. 268 гаспадарак, 625 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з пач. 15 ст. Кн. Юрый Мсціслаўскі падараваў у 1-й пал. 15 ст. «Бабровыя гоні ад Малатамлі да Лабкоўскага рубяжу» Андрэеўскаму манастыру. У 1604 г. сяло Крычаўскай дзяржавы, казённая ўласнасць. У 1701 г. дзярж. маёнтак Лабковічы ў Мсціслаўскім ваяв. У 17—18 ст. сяло ў Крычаўскім старостве. У Паўн. вайну 1700—21 гг. разрабавана і спустошана шведамі. У 1709 г. з 20 надзелаў зямлі апрацоўваліся толькі 3. У 1747 г. 27 двароў, дзярж. ўласнасць. Пасля 1-га падзелу Рэчы Пас-



палітай (1772) у складзе Рас. імперыі. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, 32 двары, 242 жыхары, уласнасць памешчыка. З 1810 г. да адмены прыгоннага права (1861) ваеннае пасяленне, з вяскоўцаў камплектаваліся вайсковыя часці. У 1880 г. 50 двароў, 329 жыхароў. Апрача земляробства сяльчане займаліся кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 73 двары, 532 жыхары. Мелася кузня. У 1902 г. пабудаваны будынак і пачала дзейнічаць царк.-прыходская школа. У 1909 г. 85 двароў, 774 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Кашанскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1923 г. ў выніку перасялення часткі жыхароў вёскі паблізу былі ўтвораны пасёлкі Клевер, Праграэс, Мікалаеўка, Слабада, якія зараз не існуюць. У вясковай школе ў 1926 г. было 66 вучняў, у вёсцы ў гэты час было 57 двароў, 730 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгасы імя Будзённага, «Ударнік» і «Парыжская Камуна», якія ў 1934 г. аб'ядналіся ў адну гаспадарку «17-ы партз'езд». З 1930 г. ў вёсцы працаваў вапнавы з-д імя Молатава (5 рабочых). У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў 1943 г. амаль поўнасцю спалілі вёску. Вызвалена 30.9.1943 г. войскамі 50-й арміі Бранскага фронту. 31 вясковец загінуў на фронце. На ўшанаванне памяці 384 жыхароў вёсак сельсавета, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1982 г. ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск з імёнамі загінуўшых. Пасля вайны адбудавана. З 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. ў Мсціслаўскім р-не. У 1976 г. да вёскі далучаны вёскі Бель 2, Бель 3. У 1986 г. цэнтр калгаса імя К.Маркса, 325 гаспадарак, 938 жыхароў, дзейнічалі Дом культуры, сярэдняя школа, дзіцячы сад, бальніца, аптэка, б-ка, сталовая, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 2007 г. Дом культуры, дзіцячы сад—сярэдняя школа, магазін, урачэбная амбулаторыя, б-ка, аддзяленні сувязі і АСБ «Беларусбанк», комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай, мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы (адрэзак шашы) з завулкамі, забудаванай двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы ў цэнтры вёскі, вытв. сектар — на паўн. ускраіне.

Радзіма дзярж. дзеяча БССР К.В. Кісялёва (1903—77) і аднаго з актыўных кіраўнікоў камсамола Беларусі ў гады Вял. Айч. вайны, рэдактара падп. газ. «Звязда», журналіста М.П.Барашкава (1908—44).

У склад сельсавета ўваходзяць 18 вёсак і 3 пасёлкі.

**ЛАЙКОЎСКІ** — былы пасёлак у Касцюшкавіцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Крычава, 114 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам, на Пн праходзіць чыгунка Крычаў—Магілёў. На Пд ад пасёлка пачынаецца р. Добрасць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дарлівае, Макаўе, Касцюшкавічы і далей па шашы Крычаў—Асавец.

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 17.7.1924 г. ў Крычаўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 9 двароў, 34 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак. У 1986 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Бель). Сядзіба была драўлянай, з гасп. пабудовамі.

**ЛІПАЎКА** — пасёлак у Лабковіцкім с/с, за 18 км на Пн ад Крычава, 122 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дубраў-

ка, Бель і далей па шашы Крычаў—Мсціслаў. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў 1930-я г. перасяленцамі з бліжэйшых хутароў, уваходзіў у Кашанскі с/с Крычаўскага р-на. Пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 9 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Бель). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛІТВІНАВА** — вёска ў Краснабудскім с/с, за 8 км на ПнУ ад Крычава, 112 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Крычаў 2 на лініі Крычаў—Рослаўль. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На З цячэ ручай, які ўпадае ў р. Сож. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Прахораўка, Красная Буда і далей па шашы Крычаў—Рослаўль. 24 гаспадаркі, 36 жыхароў (2007).

Засн. ў 1930-я г. як пасёлак перасяленцамі з бліжэйшых хутароў, уваходзіў у Міхеевіцкі с/с Крычаўскага р-на. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. 11 пасялкоўцаў загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. ў Краснабудскім с/с. У 1986 г. пасёлак, 40 гаспадарак, 81 жыхар, у складзе саўгаса «Дзягавічы» (цэнтр — в. Дзягавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі з двухбаковай, шчыльнай, драўлянай забудовай сядзібнага тыпу.

*Новабудоўля ў в. Луты.*



**ЛУТЫ** — вёска ў Маляціцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Крычава, 129 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Мяртвіца (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па шашы Ермакоўка—Крычаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 82 гаспадаркі, 201 жыхар (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1780 г. 8 двароў, 78 жыхароў, у 1834 г. 111 жыхароў, уласнасць памешчыка. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога ў 1877 г. валодаў 1000 дзес. зямлі, меў карчму. У 1897 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 21 двор, 143 жыхары. У 1909 г. 28 двароў, 159 жыхароў. У 1918 г. ў былым маёнтку створана камуна «Рассвет». З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Паланіцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1919 г. адкрыта школа (у 1926 г. 52 вучні), а ў 1925 г. для яе пабудавана памяшканне. У 1926 г. 40 двароў, 228 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Вялікі Кастрычнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 26 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 29 вяскоўцаў. У памяць аб 155 земляках — жыхарах вёсак сельсавета, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1976 г. каля будынка праўлення калгаса пастаўлена стэла. З 24.6.1960 г. ў Маляціцкім с/с, з 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. ў Мсціслаўскім р-не. Да вёскі ў 1976 г. далучана в. Дрожджаніцы. У 1986 г. 94 гаспадаркі, 226 жыхароў, цэнтр калгаса «Вялікі Кастрычнік», дзейнічалі пач. школа, дзіцячы сад, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніц-



тва, сталовая, магазін. У 2007 г. цэнтр СВК «Калгас «Кастрычнік», працуюць клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з дзвюх амаль паралельных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных на ўскраінах завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У — вытв. сектар.

**ЛУЧКІ** — пасёлак у Бацвінаўскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Крычава, 88 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам, на Пн цячэ р. Жукаўка (прыток р. Волчас). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бацвінаўка і далей па шашы Крычаў—Асавец. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях, уваходзіў у Бацвінаўскі с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1940 г. 37 двароў, 177 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўскія карнікі поўнасцю спалілі пасёлак. Пасля вайны адбудаваны. У 1986 г. 28 гаспадарак, 53 жыхары, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Бацвінаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛУШЧЭВІНКА** — вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 15 км на З ад Крычава, 89 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ мяжуе з лесам. На З цячэ р. Яленка (прыток р. Волчас). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Асавец, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 52 гаспадаркі, 125 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Тышчавенкі ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1780 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 11 двароў, 75 жыхароў. У 1858 г. 51 рэвізская душа. Памешчык меў тут у 1861 г. 417 дзес. зямлі. У 1880 г. 13 двароў, 84 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася бандарным промыслам. У 1897 г. вёска (23 двары, 159 жыхароў) і фальварак (2 двары, 12 жыхароў) у Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1909 г. ў вёсцы 27 двароў, 145 жыхароў, у маёнтку 1 двор, 2 жыхары. У пач. 20 ст. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1907 г. навучаліся 56 хлопчыкаў і 13 дзяўчынак. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 21.8.1925 г. ў Касцюшкавіцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 68 двароў, 335 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя К.Маркса. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 54 вяскоўцы. З 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. ў Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 52 гаспадаркі, 125 жыхароў, у складзе калгаса «Памяць Леніна» (цэнтр — в. Касцюшкавічы). У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, амаль паралельных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і аб'яднаных папярочнай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**ЛЯДЫ** — былы пасёлак у Бацвінаўскім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Крычава, 88 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Асавец, якая праходзіць непадалёку ад вёскі.

Засн. ў 1930-я г. перасяленцамі з бліжэйшых хутароў. Пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 12 двароў, 48 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак. У 1986 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Бацвінаўка). Сядзіба традыц., драўляная, з гасп. пабудовамі.

**МАКАЎЕ** — вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 8 км на З ад Крычава, 96 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдУ мяжуе з лесам і цячэ р. Добрасць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Асавец, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1780 г. сяльцо ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 6 двароў, 12 жыхароў. У 1897 г. ў Крычаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, 26 двароў, 174 жыхары. З 1909 г. дзейнічала школа (нар. вучылішча). У пач. 1920-х г. на базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, дзейнічала б-ка. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Дарліўскім (з 25.8.1925 г. Касцюшкавіцкі) с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Красіна, мелася кузня. У 1940 г. 58 двароў, 289 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 53 двары. Пасля вайны адбудавана. З 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. ў Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 35 жыхароў, у складзе калгаса «Памяць Леніна» (цэнтр — в. Касцюшкавічы), дзейнічала 8-гадовая школа. Планіровачна складаецца з дзвюх амаль паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛІНАЎКА** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Крычава, 81 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны, на Пд цячэ р. Жукаўка (прыток р. Волчас). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Асавец, якая праходзіць праз вёску. 10 гаспадарак, 31 жыхар (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях як пасёлак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 19 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Бацвінаўка). Да больш працяглай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі далучаецца на Пн прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛЬКАЎКА** — вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 19 км на З ад Крычава, 85 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Яленка (прыток р. Волчас). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Лушчэвінка і далей па шашы Крычаў—Асавец. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Малкоўка ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1816 г. 8 двароў, 9 жыхароў, уласнасць памешчыка. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога ў 1879 г. валодаў 2260 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 16 двароў, 127 жыхароў. У 1909 г. 20 двароў, 171 жыхар, адкрыта школа граматы. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Горацкім (Горкаўскім) с/с Чэрыкаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны пераможац». Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1940 г. 19 двароў, 57 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўскія карнікі поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе калгаса «Памяць Леніна» (цэнтр — в. Касцюшкавічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ вуліцы, забудаванай двухбакова індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



**МАЛЯЦІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета (з 20.8.1924), за 25 км на ПнЗ ад Крычава, 129 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Чорная Натапа, на З — яе прыток р. Мяртвіца. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Ермакоўка—Крычаў. 172 гаспадаркі, 393 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1643 г. ў ВКЛ як сяло Малецічы, меўся касцёл. У 1639 г. 13 двароў, 28 жыхароў мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць. У 1684 г. цэнтр маёнтка і воласці. У 1706 г. мястэчка ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. У Паўн. вайну 1700—21 гг. ў канцы жн. 1708 г. непадалёку ад вёскі, на р. Чорная Натапа, рус. армія пад камандаваннем М.М.Галіцына разграміла авангард шведскай арміі. Шведы страцілі 3 тыс. забітымі, 3 тыс. параненымі. Гэта была першая перамога рус. войск над шведамі, а праз месяц шведскія войскі былі разгромлены пад Лясной. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Рас. імперыі, Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. Належала архіепіскапу, потым мітрапаліту Станіславу Богуш-Сестранцэвічу, затым удаве ген.-маёра Багушэўскага. У 1780 г. 40 двароў, 255 жыхароў. Згадваецца як мястэчка ў статыстычным апісанні губерні ў 1784 г. У 1797 г. дзейнічаў дамініканскі кляштар, у валоданні якога было с. Людагошч. У 1811 г. мястэчка, уласнасць царквы. Прыкметным архіт. збудаваннем таго часу быў узведзены з цэглы на сродкі ўладальніка мястэчка Сестранцэвіча касцёл, які ўяўляў сабою копію вядомага сабора св. Пятра ў Рыме, паменшанага ў 32 разы. У 1835 г. гэты касцёл пераўтвораны ў праваслаўную царкву. У вайну 1812 г. мястэчка часткова спалена. У 1848 г. 32 двары, уладанне каталіцкага архіепіскапа. Побач знаходзіўся аднайменны фальварак, у якім у 1858 г. было 29 двароў, 92 жыхары мужчынскага полу. Памешчык меў у 1859 г. 1334 дзес. зямлі, вадзяны млын, піцейны дом. У 1879 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. навучалася 55 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі. У 1880 г. ў мястэчку 62 двары, 327 жыхароў, меліся вадзяны млын, сукнавальня, лячэбніца (адкрыта не пазней 1880), 10 крам, мураваная царква, малітоўная школа. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў мястэчку 61 двор, 386 жыхароў, паштовая станцыя, хлебазапасны магазін, 34 крамы, у сяле 39 двароў, 270 жыхароў, у фальварку 3 двары, 33 жыхары, вадзяны млын. У 1909 г. ў мястэчку 110 двароў, 428 жыхароў, у сяле 55 двароў, 329 жыхароў, у маёнтку 25 жыхароў. У час рэвалюцыі 1905—07 гг. у 1905 г. адбываліся сутычкі сялян з паліцыяй. У 1918 г. створаны савет, парт. ячэйка і камбед. На базе дарэв. у сяле пачала дзейнічаць прац. школа 2-й ступені, у мястэчку — прац. школа



*Помнік землякам у в. Маляцічы.*



*Будынак Маляціцкага сельскага Савета.*

1-й ступені. Панская зямля была падзелена паміж сялянамі, дом памешчыка аддадзены пад нар. дом, а затым пад школу. У ліп. 1918 г. адкрыты дзіцячы сад і 4 дзіцячыя пляцоўкі. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Крычаўскім р-не Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1921 г. адкрыта хата-чытальня. 21.2.1921 г. створана с.-г. крэдытнае т-ва, 2.11.1923 г. — каап. т-ва. У 1924 г. адкрыта бальніца, у 1925 г. пачалі дзейнічаць аддз. сувязі і ветэрынарны пункт, у 7-гадовай школе навучаліся дзеці з мястэчка і сяла Маляцічы, вёсак Шчарбачы, Шаёўка, Сарочына, Слабуты, пасёлкаў Шведская Горка, Цалавальнік і навакольных хутароў, а таксама з лясніцтва. У 1926 г. ў сяле 78 двароў, 379 жыхароў, у мястэчку 84 двары, 320 жыхароў. У 1928 г. адкрыты школьны інтэрнат. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгасы «Новае жыццё» (у 1932 г. аб'ядноўваў 52 гаспадаркі) і «Чырвоны араты» (у 1932 г. аб'ядноўваў 31 гаспадарку). У 1935 г. працавалі конная крупадзёрка (засн. ў 1923), 3 кузні, 2 ваўначоскі, шавецкая арцель. У 1936 г. пабудаваны сельмаг. У 1940 г. 97 двароў, 502 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1942 г. гітлераўцы загубілі 75 жыхароў, а ў вер. 1943 г. спалілі вёску, загубілі 210 жыхароў. Вызвалена 1.10.1943 г. войскамі 50-й арміі Бранскага фронту. На фронце загінулі 46 вяскоўцаў. У цэнтры вёскі, у скверы, у памяць аб 330 земляках з вёсак Маляціцкага с/с, якія загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1975 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1976 г. далучаны вёскі Шаёўка, Шчарбачы. У 1986 г. 184 гаспадаркі, 464 жыхары, цэнтр калгаса «Запаветы Леніна», дзейнічалі сярэдняя школа, 2 магазіны, клуб, б-ка, дзіцячы сад, сярэдняя школа, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, амбулаторыя, ветэрынарны ўчастак, аддз. ашчаднага банка, швейная майстэрня, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 2007 г. цэнтр СВК «Бель», працавалі дзіцячы сад—сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддзяленні сувязі і АСБ «Беларусбанк», комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, спецыяльны дом для адзінокіх і адзінокапражываючых жыхароў. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. На ПдЗ — адасоблены ўчастак сядзібнай забудовы (былая в. Шаёўка). Забудавана двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы ў цэнтры гал. вуліцы. Гасп. сектар — на зах. ускраіне.



*Дзіцячы сад—сярэдняя школа ў в. Маляцічы.*



*Спецыяльны дом для адзінокіх і адзінокапражываючых жыхароў у в. Маляцічы.*



У склад сельсавета ўваходзяць 9 вёсак і 2 пасёлкі. На тэр. сучаснага Маляціцкага с/с у канцы 1930-х г. меліся вёскі Лукі, Чырвоная Горка, Самулёва, Антонаўка (спалена гітлераўцамі ў Вял. Айч. вайну і не адноўлена), Траўка, Шведская Горка, Вузкія Шчарбачы, Дрожджаніцы, якія зараз не існуюць.

**МАСЦІЦКАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Крычава, 87 км ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на З і У мяжуе з лесам. На Пн цячэ ручай (прыток р. Жукаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бацвінаўка і далей па шашы Крычаў—Асавец. 13 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. сяло Слабада Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1858 г. 5 двароў, 39 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 21 двор, 158 жыхароў. У 1909 г. 21 двор, 160 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8. 1924 г. ў Бацвінаўскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 59 двароў, 217 жыхароў. Дзейнічалі гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых і хата-чытальня. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Леніна (у 1932 г. аб'ядноўваў 39 гаспадарак), які з 1931 г. абслугоўвала Крычаўская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 вяскоўцы. З 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. ў Мсціслаўскім р-не. У 1976 г. да вёскі далучаны пас. Шутаўка. У 1986 г. 27 гаспадарак, 47 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Бацвінаўка). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, ад абодвух бакоў якой адыходзяць 2 завулкі. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІЛЯЦІНА** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 27 км на З ад Крычава, 77 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны, вакол лес. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Волчас). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Сычыкі, Бацвінаўка і далей па шашы Крычаў—Асавец. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

У 1838 г. вёска (14 рэвізскіх душ), уласнасць памешчыка. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога ў 1860 г. меў у вёсках Міляцін і Бубеншчына 648 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальню і карчму. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Горацкім (Горкаўскім) с/с Чэрыкаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Дзейнічалі хата-чытальня і гуртох па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Варашылава. У 1940 г. 25 двароў, 117 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 1 жыхара. На фронце загінулі 2 вяскоўцы. З 24.6.1960 г. ў Бацвінаўскім с/с. У 1986 г. 7 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Сычыкі). Планіровачна складаецца з 2 вуліц, гал. з якіх арыентавана з ПдЗ на ПнУ, а другая адыходзіць ад яе на ПнЗ. Забудавана пераважна двухбакова, індывідуальнымі драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІРНАЯ** (да 30.7.1964 г. вёскі Глупікі 1 і Глупікі 2) — вёска ў Маляціцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Крычава, 84 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам і цячэ р. Мяртвіца (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дражэнічы, Луты і далей па шашы Крычаў—Горкі. 60 гаспадарак, 152 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1758 г. маёнтак і вёска Глупікі ў




Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1777 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1780 г. сяльцо Глупікі (17 двароў, 77 жыхароў) і сяльцо Глупікі Каменскіх (21 двор, 120 жыхароў) у Чэрыкаўскім павеце. У 1834 г. 184 жыхары, уласнасць памешчыка, непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога меў у 1850 г. 176 дзес. зямлі, а ў 1872 г. 160 дзес. у вёсках Глупікі і Ануфрыева. Дзейнічаў хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882). У 1897 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, вёскі Глупікі 1 (45 двароў, 289 жыхароў) і Глупікі 2 (28 двароў, 161 жыхар). Меліся 4 ветраныя млыны. У 1909 г. ў в. Глупікі 1 было 50 двароў, 241 жыхар, у в. Глупікі 2 — 30 двароў, 184 жыхары, у фальварку Глупікі — 1 двор, 8 жыхароў. У 1909 г. адкрыта школа (нар. вучылішча). На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якая атрымала нацыяналізаваны будынак (у 1925 г. 64 вучні). З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Паланіцкім, з 1925 г. ў Баеўскім сельсаветах Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў в. Глупікі 1 было 58 двароў, 334 жыхары, у в. Глупікі 2 — 58 двароў, 331 жыхар. У 1931 г. арганізаваны калгасы «Чырвоная Горка» (у 1932 г. 13 гаспадарак) і «Чырвоны барацьбіт» (у 1932 г. 52 гаспадаркі). Працаваў засн. ў 1923 г. паравы млын. Абслугоўвала калгасы Крычаўская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 35 вяскоўцаў. З 16.7.1954 г. ў Маляціцкім с/с. У 1986 г. 61 гаспадарка, 154 жыхары, у складзе калгаса «Вялікі Кастрычнік» (цэнтр — в. Луты), дзейнічалі магазін, клуб. У 2007 г. працаваў клуб. Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой і злучаных кароткім завулкам вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на паўд.-ўсх. ускраіне.

**МІХЕЕВІЧЫ** — вёска і чыг. станцыя на лініі Орша—Клімавічы, у Краснабудскім с/с, за 8 км на У ад Крычава, 112 км ад Магілёва. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам і цячэ р. Худабычка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Рослаўль, якая праходзіць побач з вёскай. 87 гаспадарак, 170 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1586 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1604 г. сяло Крычаўскай дзяржавы, казённая ўласнасць. Выхадцы з вёскі былі ў 17 ст. вядомымі майстрамі пушкарскай справы. У 1779 г. ў Клімавіцкім павеце, 36 двароў, 240 жыхароў, уласнасць памешчыка. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога валодаў у 1830 г. 9341,5 дзес. зямлі, меў 2 вадзяныя млыны. У 1834 г. 58 двароў, 249 жыхароў. 1857 г. засн. сукнавальня. У 1880 г. 62 двары, 341 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася калёсным промыслам. У 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ. 81 двор, 506 жыхароў. Меліся вадзяны млын, школа граматы, піцейны дом, у аднайменным фальварку, што быў побач, 10 двароў, 115 жыхароў. У 1904 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1909 г. 92 двары, 572 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Прахораўскім с/с, з 21.8.1925 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 56 вучняў. У 1926 г. 110 двароў, 686 жыхароў. У 1927 г. для школы пабудавана новае памяшканне. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас «Колас», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 62 гаспадаркі. У час калектывізацыі кулакі загубілі камсамолку Д.Пасканную. З сярэдзіны 1930-х г. працавала хлебапякарня, дзейнічаў фельч. пункт. У 1940 г. 120 два-



роў, 310 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала падп. група, якую ўзначальваў камсамолец А.М.Крупадзёраў. Маладыя патрыёты падарвалі цягнік з дзвюма платформамі, вывелі са строю цягнік з майстэрнямі па рамонце чыгункі, пашкодзілі ў многіх месцах чыг. палатно на лініі Крычаў—Клімавічы. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 85 двароў. Пасля вайны адбудавана. 48 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. ў Краснабудскім с/с. У 1986 г. 115 гаспадарак, 268 жыхароў, у складзе саўгаса «Крычаўскі» (цэнтр — в. Бель), дзейнічалі клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2007 г. працавалі магазін, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Планіроўвачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ перпендыкулярна да чыгункі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ускраіне.

Непадалёку ад вёскі размешчана радовішча цэментнага мелу (разведаныя запасы 85,6 млн.т).

**МШАНЫ** — былы пасёлак у Маляціцкім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Крычава, 83 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Мірная, Луты і далей па шашы Ермакоўка—Крычаў.

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе калгаса «Вялікі Кастрычнік» (цэнтр — в. Луты). Сял. сядзіба была драўляная з гасп. пабудовамі, пастаўлена каля прасёлачнай дарогі.

**МЫШКАВІЧЫ** — вёска ў Маляціцкім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Крычава, 79 км ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Чорная Натапа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз пас. Вузкія і далей па шашы Ермакоўка—Крычаў. 20 гаспадарак, 34 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1768 г. вёска і маёнтак Мішкевічы ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1777 г. в. Мышкавічы Вялікія ў Чэрыкаўскім павеце. У 1780 г. 20 двароў, 92 жыхары, належала архіепіскапу, потым мітрапаліту С.Богуш-Сестранцэвічу, у пач. 19 ст. — памешчыку С.Р.Мацкевічу, затым яго жонцы. У 1858 г. вёскі Вялікія Мышкавічы (18 двароў, 102 жыхары) і Малыя Мышкавічы (2 двары, 8 жыхароў мужчынскага полу). Памешчык меў тут у 1881 г. 208 дзес. зямлі. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, вёскі Вялікія Мышкавічы (28 двароў, 176 жыхароў), Малыя Мышкавічы (3 двары, 32 жыхары) і аколіца Мышкавічы (3 двары, 17 жыхароў). У 1909 г. ў вёсках Мышкавічы Вялікія 38 двароў, 181 жыхар, у Мышкавічах Малых 5 двароў, 34 жыхары, у фальварку Мышкавічы 1 двор, 7 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Маляціцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай акругі БССР, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Была створана прац. школа 1-й ступені (у 1921 г. 48 вучняў). Вёскі Мышкавічы Вялікія і Мышкавічы Малыя ў 1-й пал. 1920-х г. склалі адну вёску. У школе навучаліся дзеці з вёсак Мышкавічы і Антонаўка. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 51 двор, 276 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 35 вяскоўцаў. З 25.12. 1962 г. па 6.1.1965 г. ў Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 34 гаспадаркі, 71 жыхар, у складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Маляцічы), дзейнічаў магазін. Планіроўка набліжана да Т-падобнай. Да гал.

плаўна выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі з зах. канца далучаецца кароткая прамалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НАНАСКАВА** — вёска ў Краснабудскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Крычава, 119 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Крычаў 2 на лініі Крычаў—Рослаўль. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам, на Пн цячэ р. Асцёр (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дзягавічы, Прахораўка, Красная Буда і далей па шашы Крычаў—Рослаўль. 3 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. У 1811 г. ў Клімавіцкім павеце Магілёўскай губ., 3 двары, 18 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1850 г. 5 двароў, 26 жыхароў мужчынскага полу. У 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 12 двароў, 81 жыхар. У 1909 г. 14 двароў, 102 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Прахораўскім, з 21.8.1925 г. ў Зарубецкім сельсаветах Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У пач. 1920-х г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1926 г. было 24 вучні. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 24 двары, 127 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Асцёр», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 10 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 3 вяскоўцы загінулі на фронце. З 16.7.1959 г. ў Краснабудскім с/с. У 1986 г. 13 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе саўгаса «Дзягавічы» (цэнтр — в. Дзягавічы). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НІЗКІ** — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Крычава, 97 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з в. Бялянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Ермакоўка, якая праходзіць праз вёску. 20 гаспадарак, 42 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1780 г. сяльцо ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 1 двор, 8 жыхароў. Памешчык меў у 1876 г. ў вёсках Нізкі і Міхалін 2000 дзес. зямлі. У 1897 г. фальварак у Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 7 двароў, 65 жыхароў. У 1909 г. пасёлак (20 двароў, 112 жыхароў) і маёнтак (34 жыхары). З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Паланіцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Дзейнічала 4-гадовая школа. У 1926 г. 43 двары, 281 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», працавалі кузня па рамонце с.-г. інвентару і маслазавод. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 вяскоўцы. З 24.6.1960 г. ў Лабковіцкім с/с. З 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. ў Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 29 гаспадарак, 63 жыхары, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Бель), дзейнічалі б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з 2 вуліц (адна крывалінейная, доўгая, другая — прамалінейная, кароткая), арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкам. Забудавана двухбакова, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн і У — гасп. сектар.

**НОВІКІ** (да 30.7.1964 г. Балванаўка) — вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 14 км на З ад Крычава, 90 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Лена (прыток р. Яленка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Касцюшкавічы і далей па шашы Крычаў—Асавец. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).



Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1768 г. в. Балванаўка і аднайменны маёнтак у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1780 г. 15 двароў, 91 жыхар. У 1834 г. вёска і фальварак, уласнасць памешчыка, які меў у 1846 г. 139 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 21 двор, 161 жыхар. У 1909 г. 19 двароў, 178 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 1925 г. ў Касцюшкавіцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1919 г. з в. Лушчэвінка пераведзена школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні, у 1925 г. было 24 вучні. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас. У 1940 г. 32 двары, 151 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. акупанты поўнасцю спалілі вёску, загубілі 3 жыхароў. На фронце загінулі 2 вяскоўцы. Пасля вайны адбудавана. У 1986 г. 22 гаспадаркі, 42 жыхары, у складзе калгаса «Памяць Леніна» (цэнтр — в. Касцюшкавічы). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай, мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы з завулкам, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДАСІНКІ** — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 8 км на ПнЗ ад Крычава, 96 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам, на Пн цячэ р. Аколіца (прыток р. Свінка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гарбатка і далей па шашы Крычаў—Ермакоўка. 21 гаспадарка, 41 жыхар (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 21 гаспадарка, 41 жыхар, у складзе калгаса «Сацыялістычны шлях» (цэнтр — в. Званаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДУДАГА** — пасёлак у Бацвінаўскім с/с, за 23 км на З ад Крычава, 81 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На У цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Сетнае, Волчас, Лушчэвінка, Дарагая і далей па шашы Крычаў—Асавец, 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Крычаўскім р-не. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 6 гаспадарак, 2 жыхары, у складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Сычыкі). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАД'ЯЛЕЦКІ** — пасёлак у Касцюшкавіцкім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Крычава, 91 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Жукаўка (прыток р. Волчас). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Камароўка, Нізкі і далей па шашы Крычаў—Ермакоўка. 6 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. Уваходзіў у Паланіцкі с/с Крычаўскага р-на. У 1940 г. 10 двароў, 46 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак, загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудаваны. У 1986 г. 9 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Бель). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАКЛАДЫ** — вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 7 км на Пд ад Крычава, 97 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам, на ПдУ цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сакольнічы і далей па шашы Крычаў—Чэрыкаў. 52 гаспадаркі, 116 жыхароў (2007).

За 0,5 км на ПнУ ад вёскі захавалася паселішча жал. веку і сярэдневякоўя, на паўд.-ўсх. ускраіне, уздоўж правага берага р. Сож — могільнік (11 насыпаў), на ПнУ — курган, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1768 г. маёнтак у Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. З 1772 г. ў Рас. імперыі ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1780 г. сяльцо (9 двароў, 45 жыхароў). У 1858 г. 20 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. вёска (5 двароў, 22 жыхары), аднайменная аколіца (2 двары, 15 жыхароў) і фальварак (2 двары, 20 жыхароў, заезны дом) у Крычаўскай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. ў вёсцы 5 двароў, 34 жыхары, у аколіцы 20 двароў, 149 жыхароў, у фальварку 1 двор, 4 жыхары. У 1919 г. ў былым маёнтку створана арцель «Брацкая праца». З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Сакольніцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 31 двор, 168 жыхароў. Дзейнічалі прац. школа 1-й ступені (у 1926 г. 37 вучняў) і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Варашылава. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравананям.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 8 вяскоўцаў. З 16.7.1954 г. ў Касцюшкавіцкім с/с Крычаўскага р-на. З 25.12. 1962 г. па 6.1.1965 г. ў Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 66 гаспадарак, 156 жыхароў, у складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Сакольнічы), дзейнічалі клуб, магазін. У 2007 г. працавалі клуб, магазін. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ перпендыкулярна да ракі і злучаных у цэнтры прасёлачнай дарогай. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — невялікі ўчастак мураванай катэджнай забудовы і адасоблена — гасп. сектар.

На паўд.-зах. ускраіне вёскі размешчана радовішча мелу Забялышанскае поле (разведаныя запасы 37,9 млн. т).

**ПАЛАНІЦА** — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Крычава, 92 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПнЗ цячэ р. Бялянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Ермакоўка, якая праходзіць паблізу вёскі. 9 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1560 г. як сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, у валоданні шляхціца, мелася царква. У 1586 г. сяло ў Мсціслаўскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1678 г. маёнтак у Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. У 1742 г. дзярж. маёнтак у Мсціслаўскім ваяв. У 1748 г. ў Мсціслаўскім павеце, 20 двароў, каралеўскае ўладанне. У 1780 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 38 двароў, 228 жыхароў. У 1816 г. 35 двароў, 204 жыхары. У 1882 г. пабудавана з дрэва царква. Меўся хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882). У 1885 г. ў Кашанскай вол. Чэрыкаўскага павета, 35 двароў, 214 жыхароў. У 1897 г. 80 двароў, 334 жыхары. У 1888 г. адкрыта царк.-прыходская школа, памяшканне для якой пабудавана ў тым жа годзе. У 1909 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 60 двароў, 356 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені імя Леніна, у якой у 1925 г. было 65, а ў 1926 г. 96 вучняў з вёсак Па-



ланіца, Брадок і навакольных хутароў. З 1925 г. дзейнічалі хата-чытальня і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 92 двары, 511 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Май», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 38 гаспадарак, працавала кузня. Абслугоўвала калгас Крычаўская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 5 вяскоўцаў. У цэнтры вёскі ў брацкай магіле пахаваны 93 сав. воіны, якія загінулі ў 1941—43 гг. З 1960 г. ў Лабковіцкім с/с. З 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. ў Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 30 гаспадарак, 43 жыхары, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Бель), дзейнічала аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, да якой на З далучаецца Г-падобная вуліца, падзеленая ракой. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАЎЛАВІЧЫ** — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 10 км на Пн ад Крычава, 114 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Бялянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бель і далей па шашы Крычаў—Мсціслаў. 15 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1811 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 10 двароў, 29 жыхароў мужчынскага полу, дзярж. ўласнасць. З 1880 г. непадалёку ад вёскі былі 2 невялікія маёнткі. У 1897 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 24 двары, 195 жыхароў. У 1919 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1931 г. было 39 вучняў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Бельскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 41 двор, 223 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны прамень» (у 1932 г. аб'ядноўваў 37 гаспадарак), які з 1931 г. абслугоўвала Крычаўская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 вяскоўцы. З 16.7.1954 г. ў Лабковіцкім с/с. З 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. ў Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 28 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Бель). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і падзеленай па цэнтры чыгункай. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЕРШАКРЫЧАЎСКІ** — пасёлак у Касцюшкавіцкім с/с, за 6 км на Пд ад Крычава, 110 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Сож, на З — яе прыток р. Добрасць. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Крычаў—Мсціслаў. 26 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).

За 0,5 км на ПнУ ад пасёлка захаваўся стараж. курганны могільнік (7 насыпаў), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Сучасны пасёлак узнік у 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях, уваходзіў у Сакольніцкі с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 37 двароў, 186 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Блюхера. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінула 8 пасялкоўцаў. З 16.7.1954 г. ў Касцюшкавіцкам с/с Крычаўскага р-на. З 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. ў Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 39 гаспадарак, 78 жыхароў, у складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Сакольнічы). Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных перавулкам. Забудаваны двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЕСЬКАВІЧЫ** — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 11 км на Пн ад Крычава, 93 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Крычаў 1

на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Бялянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Беражыстае і далей па шашы Крычаў—Ермакоўка. 11 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1604 г. як сяло Крычаўскай дзяржавы ВКЛ, казённая ўласнасць. У 1747 г. ў Крычаўскім старостве, 2 двары. У 1759 г. ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. У 1780 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 10 двароў, 55 жыхароў. Мясц. памешчык меў тут у 1841 г. 120 дзес. зямлі. У 1897 г. 1 двор, 5 жыхароў. У 1909 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 2 двары, 20 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Бельскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 18 двароў, 105 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 3 вяскоўцы. З 16.7.1954 г. ў Лабковіцкім с/с. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 21 гаспадарка, 40 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Бель). Да гал. прамалінейнай, амаль шыротнай арыентацыі вуліцы па цэнтры з Пн далучаецца прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЛЕШЧЫНА** — вёска ў Маляціцкім с/с, за 17 км на Пн ад Крычава, 121 км ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам, на У цячэ ручай (прыток р. Чорная Натапа). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Кашаны, Баяры, Лабковічы і далей па шашы Крычаў—Мсціслаў. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 1706 г. як вёска ў складзе маёнтка Маляцічы, у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1780 г. 14 двароў, 81 жыхар, належала архіепіскапу, потым мітрапаліту С.Богуш-Сестранцэвічу. У 1834 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 68 жыхароў. У 1858 г. 12 двароў, 71 жыхар, уласнасць памешчыка. Меўся вадзяны млын. У 1880 г. 14 двароў, 68 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1897 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 20 двароў, 143 жыхары. У 1909 г. 23 двары, 161 жыхар. У 1918 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. было 47 вучняў з в. Плешчына і пасёлкаў Селішча, Ліпаўка, Малееўка, Ракаўка. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Маляціцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 38 двароў, 205 жыхароў. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны лётчык». У 1940 г. 50 двароў, 249 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 43 двары, загубілі 6 жыхароў. На фронце загінулі 26 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. ў Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 21 гаспадарка, 43 жыхары, у складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Маляцічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРАХОРАЎКА** — вёска ў Краснабудскім с/с, за 9 км на ПнУ ад Крычава, 113 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Крычаў 2 на лініі Крычаў—Рослаўль. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам і цячэ ручай (прыток р. Сож), на паўд. ускраіне праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Красная Буда і далей па шашы Крычаў—Рослаўль. 25 гаспадарак, 43 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1747 г. вёска (11 двароў), дзярж.



ўласнасць у Крычаўскім старостве. У 1779 г. 19 двароў, 130 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1816 г. 18 двароў, 86 жыхароў. У 1834 г. 17 двароў, 82 жыхары. У 1880 г. 27 двароў, 165 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася калёсным і кавальскім промысламі. У 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 35 двароў, 256 жыхароў. У 1909 г. 38 двароў, 302 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета, з 21.8.1925 г. ў Зарубецкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 1.1.1925 г. адкрыта 4-гадовая школа, у якой было 45 вучняў, у 1927 г. для школы пабудавана памяшканне, мелася б-ка. У 1926 г. 67 двароў, 409 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі, мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінула 20 вяскоўцаў. З 16.7.1954 г. ў Краснабудскім с/с. З 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. 49 гаспадарак, 93 жыхары, у складзе саўгаса «Дзягавічы» (цэнтр — в. Дзягавічы). У 2007 г. працаваў магазін. Гал. плаўна выгнутая вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ перпендыкулярна да чыгункі. На Пн да яе далучаецца прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.

За 2,2 км на ПдЗ ад вёскі размешчана радовішча пясчана-жвіровага матэрыялу (разведаныя запасы 503 тыс. $м^3$).

**ПРУДОК** — вёска ў Краснабудскім с/с, за 4 км на У ад Крычава, 108 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Крычаў 2 на лініі Крычаў—Рослаўль. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Худабычка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Рослаўль, якая праходзіць непадалёку ад вёскі, 23 гаспадаркі, 53 жыхары (2007).

У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, уласнасць памешчыка, 13 двароў, 77 жыхароў. У 1873 г. засн. сукнавальня. У 1897 г. ў Крычаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, 9 двароў, 54 жыхары. Меліся вадзяны млын і сукнавальня. У 1909 г. 8 двароў, 38 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Крычаўскім, з 24.9.1926 г. ў Міхеевіцкім сельсаветах Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік», які з 1933 г. абслугоўвала Крычаўская МТС. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. За 0,3 км на ПнЗ ад вёскі гітлераўцы загубілі звыш 1200 сав. грамадзян — вязняў Крычаўскага лагера смерці, партызан і дзяцей-заложнікаў (каля 100 чал.). У ліку пакараных удзельнікі Крычаўскага антыфашысцкага падполля вядомы сав. спявак А.І.Акаёмаў і гал. хормайстар Маскоўскай філармоніі Г.П.Лузенін. У 1982 г. на месцы іх гібелі пастаўлены помнік, гарыць Вечны агонь. З 16.7.1954 г. ў Краснабудскім с/с. З 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. ў Клімавіцкім р-не. У 1986 г. 33 гаспадаркі, 53 жыхары, у складзе саўгаса «Крычаўскі» (цэнтр — в. Красная Буда). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай аднаба-



*Помнік ахвярам фашызму ў в. Прудок.*

кова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

За 0,8 км на ПнУ ад вёскі размешчана радовішча пясчана-жвіровага матэрыялу (разведаныя запасы 276 тыс. $м^3$).

**ПРУСІНА** – вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Крычава, 87 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў–Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Жукаўка (прыток р. Волчас). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бацвінаўка і далей па шашы Крычаў–Асавец. 16 гаспадарак, 29 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1737 г. сяло ў ВКЛ, дзейнічала царква. У 1779 г. ў Крычаўскім старостве Клімавіцкага павета, 24 двары, 158 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1781 г. цэнтр староства ў Чэрыкаўскім павеце, дзярж. ўласнасць. У 1811 г. 50 двароў, 182 жыхары мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. Непадалёку быў маёнтак, гаспадару якога ў 1862 г. належала 596,5 дзес. зямлі. У 1876 г. згадваецца яшчэ адзін маёнтак, гаспадар якога валодаў 231 дзес. зямлі. Дзейнічала школа граматы (адкрыта не пазней 1880). У 1897 г. в. Прусін (53 двары, 363 жыхары), заезны дом (1 двор, 7 жыхароў), фальварак Прусін (ён жа Паўладар, 1 двор, 4 жыхары) і яшчэ адзін фальварак Прусін (1 двор, 10 жыхароў). У 1900 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1907 г. навучалася 69 хлопчыкаў і 6 дзяўчынак. У 1909 г. в. Прусін 1 (19 двароў, 148 жыхароў) і Прусін 2 (33 двары, 260 жыхароў) у Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. Побач былі 2 маёнткі (2 двары, 8 жыхароў). З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Бацвінаўскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 40, у 1926 г. – 56 вучняў з вёсак Прусіна, Масціцкая Слабада, пас. Луч і навакольных хутароў. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1931 г. арганізаваны калгас «Бязбожнік», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 53 гаспадаркі, абслугоўваўся Крычаўскай МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 6 вяскоўцаў. З 25.12.1962 г. па 6.1.1965 г. ў Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 28 гаспадарак, 63 жыхары, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр – в. Бацвінаўка). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПРЫГАЎКА** – вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Крычава, 98 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша–Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На У цячэ р. Добрасць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў–Чэрыкаў, якая праходзіць побач з вёскай. 20 гаспадарак, 45 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з пач. 19 ст. У 1811 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 6 двароў, 16 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Крычаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, 14 двароў, 112 жыхароў. У 1909 г. 17 двароў, 152 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Сакольніцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У пач. 1920-х г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, дзе навучаліся дзеці з вёсак Прыгаўка, Свадкавічы і навакольных хутароў. У 1926 г. 49 двароў, 185 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы аб'ядналіся ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вясковец Г.Ю.Давыдзенка быў камісарам 8-га партыз. атрада імя М.Н.Селіваненкі брыгады імя А.Ф.Данукалава, якая дзейнічала ў Віцебскай вобл. На фронце загінулі 6 вяскоўцаў. З 1954 г. ў Касцюшкавіцкім с/с, у 1962–65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г.



40 гаспадарак, 83 жыхары, у складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Сакольнічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з 2 завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ПнЗ.

**ПУШКАРЫ** — пасёлак у Касцюшкавіцкім с/с, за 6 км на З ад Крычава, 98 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам, на Пд цячэ р. Добрасць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Асавец, якая праходзіць праз вёску. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 10 двароў, 53 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак. Пасля вайны адбудаваны. У 1986 г. 7 гаспадарак, 12 жыхароў, у складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Сакольнічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (адрэзак шашы) шыротнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАТНАЯ** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 30 км на З ад Крычава, 74 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны, вакол лес, на Пд праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вародзькаў 1, Вародзькаў 2, Вародзькаў 3 і далей па шашы Крычаў—Асавец. 6 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1780 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 7 двароў, 40 жыхароў. У 1858 г. 7 двароў, 44 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1897 г. вёска ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., 10 двароў, 94 жыхары. У 1909 г. 19 двароў, 86 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8. 1924 г. ў Бацвінаўскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 23 двары, 125 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Камсамолец». У 1940 г. ў вёсцы 31 двор, 169 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням-фаш. захопнікамі. У маі 1942 г. партызаны атрада «Чапай» разграмілі ў вёсцы паліцэйскі ўчастак. Гітлераўцы спалілі 27 двароў, загубілі 2 жыхароў. На фронце загінулі 4 вяскоўцы. З 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. ў Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 15 гаспадарак, 32 жыхары, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Асавец). Ад гал. прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі адыходзіць на Пн прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РЭПШЧА** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 16 км на З ад Крычава, 88 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам і цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Асавец, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 7 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў сярэдзіне 1930-х г. перасяленцамі з бліжэйшых хутароў. У 1940 г. 23 двары, 95 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 13 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Бацвінаўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**САКОЛЬНІЧЫ** — вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 4 км на ПдЗ ад Крычава, 100 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Добрасць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Чэрыкаў, якая

праходзіць побач з вёскай. 146 гаспадарак, 427 жыхароў (2007).

Бытуе легенда, што ў час Паўн. вайны 1700—21 вызначыўся ген. Сакалоў, якому за геройскія здзяйсненні была выдзелена зямля каля Крычава. Генерал падзяліў зямлю паміж 7 сёстрамі, якія сталі тут жыць. Так узнікла невялікае паселішча Сакольнічы. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1768 г. маёнтак у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1780 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 10 двароў, 74 жыхары. Меўся хлебазапасны магазін (адкрыты не пазней 1882). У 1987 г. ў Крычаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, аколіца (96 двароў, 623 жыхары, вадзяны млын) і в. Нова-Сакольнічы (33 двары, 227 жыхароў). У 1909 г. ў аколіцы 86 двароў, 531 жыхар, у в. Нова-Сакольнічы (яна ж Бочкі) — 35 двароў, 313 жыхароў. У 1905 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. Ураджэнец вёскі А.І.Попель удзельнічаў у штурме Зімняга палаца ў Петраградзе ў 1917 г. і стаў вядомым тым, што даставіў У.І.Леніну пакет з данясеннем аб узяцці Зімняга. У пач. 1918 г. па ініцыятыве вясковага хлопца У.Ц.Кашчуры створаны к-т сял. моладзі. Крычаўскі вал. Савет выдзеліў членам к-та дзесяціну зямлі, якую яны апрацоўвалі сумесна, а прыбытак ад гаспадаркі накіроўваўся на дапамогу Чырвонай Арміі. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. Дзейнічала камсамольская ячэйка, якой кіраваў Я.Васілевіч (у 1930-я г. працаваў начальнікам палітаддзела Крычаўскай МТС). У 1925 г. ў вёсцы створаны першы ў р-не піянерскі атрад (22 піянеры), у школе ў гэты час было 26 вучняў. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы было 132 двары, 684 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгасы «Запаветы Ільіча» (у 1932 г. 60 гаспадарак) і імя Сталіна (у 1932 г. 50 гаспадарак), якія ў 1934 г. аб'ядналіся ў калгас «Запаветы Ільіча». Працавалі 2 кузні. Дзейнічаў фельч.-акушэрскі пункт. У Вял. Айч. вайну з сярэдзіны ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі 17.7.1941 г. адзін вёў цяжкі бой супраць гітлераўскіх танкаў сав. артылерыст, старшы сяржант М.У.Сірацінін. Ён падбіў 11 танкаў і бронетранспарцёраў і загінуў у гэтым баі (пахаваны ў брацкай магіле ў г. Крычаў). За 0,5 км на ПдЗ ад вёскі, каля шашы Крычаў—Чэрыкаў у 1961 г. ўзведзены помнік артылерысту. У 1942 г. партызаны разграмілі ўправу акупантаў і маслазавод, якія размяшчаліся ў вёсцы, а ў 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. У цэнтры вёскі ў 1976 г. пастаўлены помнікі з імёнамі 135 землякоў, якія загінулі на фронце, і Т.М.Гіндзінай — першай жанчыне-трактарыстцы, старшыні Сакольніцкага с/с у 1938—39 гг., нам. камандзіра разведвальна-дыверсійнай групы ў тыле ворага (загінула 19.11.1942 г. ў Чэрыкаве). З 1954 г. ў Касцюшкавіцкім с/с. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 166 гаспадарак, 467 жыхароў, цэнтр калгаса «Запаветы Леніна», дзейнічалі сярэдняя і муз. школы, б-ка, Дом культуры, аўтаматычная тэлеф. станцыя, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, магазін, аддз. сувязі і ашчадна-

*Помнік М.У.Сірацініну ў в. Сакольнічы.*





га банка. У 2007 г. працавалі дзіцячы сад—сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, магазін, аддз. АСБ «Беларусбанк». Ракой падзелена на 2 часткі: паўн. (плаўна выгнутая вуліца шыротнай арыентацыі, уздоўж ракі) і паўд. (ламанага абрысу вуліца з завулкамі, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ). Забудавана двухбакова, пераважна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — мураваная катэджная забудова і грамадскія будынкі. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**САПУРАТАЎКА** — былы пасёлак у Бацвінаўскім с/с, за 30 км на ПнЗ ад Крычава, 74 км ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Баеўка і далей па шашы Асавец—Крычаў.

Засн. ў канцы 1930-х г. перасяленцамі з навакольных хутароў, уваходзіў у Баеўскі с/с Крычаўскага р-на. У 1940 г. 9 двароў, 19 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі пасёлак. Пасля вайны адбудаваны. З 16.7.1954 г. ў Бацвінаўскім с/с. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Асавец). Сялянская сядзіба была традыцыйная, драўляная, з гасп. пабудовамі.

**САРОЧЫНА** — былая вёска ў Маляціцкім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Крычава, 78 км ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на паўд. ускраіне цячэ р. Сарочынка (прыток р. Мяртвіца). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Маляцічы і далей па шашы Ермакоўка—Крычаў.

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1643 г. ў ВКЛ, с. Сарочын, уласнасць памешчыка. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 8 двароў, 20 жыхароў, у 1847 г. ў складзе маёнтка Слабут Чэрыкаўскага павета, 34 жыхары, гаспадар маёнтка меў у 1850 г. ў вёсках Сарочына і Слабуты 20 дзес. зямлі. У 1897 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, сяло (27 двароў, 212 жыхароў) і хутар (1 двор, 14 жыхароў). У 1909 г. ў сяле 35 двароў, 216 жыхароў, на хутары 1 двор, 1 жыхар. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Маляціцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1920 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, для якой у 1927 г. пабудавана памяшканне. У 1926 г. 45 двароў, 238 жыхароў. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 16 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. Іх імёны ўвекавечаны на помніку землякам у в. Маляцічы. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў, у складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Маляцічы). Была забудавана традыц. сял. сядзібамі ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі.

**САСНОЎСКІ** — пасёлак у Касцюшкавіцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Крычава, 90 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Бялянка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Паланіца і далей па шашы Крычаў—Ермакоўка. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў 1930-я г. перасяленцамі з бліжэйшых хутароў, уваходзіў у Паланіцкі с/с Крычаўскага р-на. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 24.6.1960 г. ў Касцюшкавіцкім с/с. У 1986 г. 10 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе калгаса імя XXII з'езда КПСС (цэнтр — в. Бель). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай аднабакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СВАДКАВІЧЫ** — вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 5 км на ПдЗ ад Крычава, 99 км ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Добрасць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Чэрыкаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 28 гаспадарак, 197 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 16 ст. У 1560 г. сяло ў Крычаўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1768 г. тут быў таксама маёнтак, шляхецкая ўласнасць. У 1780 г. ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 13 двароў, 73 жыхары. У 1811 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 27 двароў, уласнасць памешчыка. У 1817 г. ў фальварку, што быў побач з сялом, засн. сукнавальня. З 1813 г. працаваў вінакурны з-д. У 1875 г. гаспадар маёнтка меў 485 дзес. зямлі, вадзяны млын, сукнавальню і карчму. Дзейнічала царква, пабудаваная з дрэва. У 1897 г. ў Крычаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, 22 двары, 121 жыхар. У 1909 г. ў сяле 21 двор, 191 жыхар, у аднайменным фальварку — 1 двор, 5 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Сакольніцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 36 двароў, 157 жыхароў. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы шлях», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 34 гаспадаркі, працавала кузня. У 1940 г. 38 двароў, 193 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 37 двароў, загубілі 1 жыхара. На фронце загінулі 12 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 1954 г. ў Касцюшкавіцкім с/с Крычаўскага р-на. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 48 гаспадарак, 123 жыхары, у складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Сакольнічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай, шыротнай арыентацыі вуліцы з 2 завулкамі, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма аднаго з кіраўнікоў народніцкага руху ў 1870-я г. С.П.Каваліка (1846—1926).

**СЕТНАЕ** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 25 км на З ад Крычава, 76 км ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Волчас, Лушчэвінка, Дарагая і далей па шашы Крычаў—Асавец. 20 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло Сетня ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Горкаўскім с/с Чэрыкаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 5 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 1959 г. ў Горкаўскім, з 24.6.1960 г. ў Бацвінаўскім сельсаветах. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 27 гаспадарак, 60 жыхароў, у складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Сычыкі), клуб, 8-гадовая школа, магазін. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЛАБУТЫ** — вёска ў Маляціцкім с/с, за 27 км на ПнЗ ад Крычава, 77 км ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн цячэ р. Сарочынка (прыток р. Мяртвіца). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Маляцічы і далей па шашы Ермакоўка—Крычаў. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1643 г. фальварак, меўся млын. У 1780 г. сяльцо ў Чэрыкаўскім



павеце Магілёўскай губ., 14 двароў, 138 жыхароў. У 1847 г. цэнтр маёнтка Слабут у Чэрыкаўскім павеце, гаспадар якога меў у 1850 г. 200 дзес., а ў 1858 г. — 274 дзес. зямлі. У 1909 г. ў Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета, хутары, 5 двароў, 18 жыхароў і 2 аднайменныя маёнткі. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Маляціцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. хутары, 11 двароў, 85 жыхароў. У студз. 1931 г. арганізаваны калгас імя Сталіна, які ў 1932 г. аб'ядноўваў 29 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 16 вяскоўцаў загінулі на фронце. У 1986 г. 25 гаспадарак, 51 жыхар, у складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Маляцічы), магазін. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ручаём (прыток р. Сарочынка) прамалінейных вуліц (адна шыротнай, другая — амаль мерыдыянальнай арыентацыі), забудаваных драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАБОРШЧЫНА** — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 24 км на Пн ад Крычава, 128 км ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на паўн. ускраіне цячэ р. Чорная Натапа (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Мсціслаў, якая праходзіць побач з вёскай. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

На паўн.-зах. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Чорная Натапа захаваўся могільнік (21 насып), за 1 км на ПдЗ ад вёскі — курган, якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чэрыкаўскім павеце. У 1780 г. 11 двароў, 73 жыхары. У 1816 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 3 двары, 33 жыхары, уласнасць памешчыка. Непадалёку з 1850 г. быў маёнтак. У 1897 г. вёска (4 двары, 25 жыхароў) і аколіца (7 двароў, 45 жыхароў) у Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1909 г. ў вёсцы 7 двароў, 47 жыхароў, у аднайменнай аколіцы 14 двароў, 34 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Кашанскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 18 двароў, 109 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Праца». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 вяскоўцы. З 16.7.1954 г. ў Лабковіцкім с/с. З 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. ў Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 15 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Лабковічы). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай уздоўж берага ракі вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай пераважна аднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАРАСЕЛЛЕ** — вёска ў Лабковіцкім с/с, за 22 км на Пн ад Крычава, 126 км ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ўсх. ускраіне цячэ р. Сож (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Мсціслаў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 16 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1604 г. сяло Крычаўскай дзяржавы ў ВКЛ, казённая ўласнасць. У 1708 г. 40 двароў, 287 жыхароў, належала казённай палаце. У 1897 г. ў Маляціцкай вол. Чэрыкаўскага павета, 60 двароў, 491 жыхар. У 1909 г. 75 двароў, 740 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Кашанскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 68 двароў, 713 жыхароў. У 1926 г. адкрыта школа (41 вучань). У 1931 г. арганізаваны калгасы «Камінтэрн» і імя К.Маркса, якія ў хуткім часе аб'ядналіся ў адну гаспадарку — калгас імя К.Маркса, мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З вяс-

коўцы загінулі на фронце. З 16.7.1954 г. ў Лабковіцкім с/с. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 54 гаспадаркі, 103 жыхары, у складзе калгаса імя К.Маркса (цэнтр — в. Лабковічы). У 2008 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж берага ракі і забудаванай двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЫЧЫКІ** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 25 км на З ад Крычава, 79 км ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бацвінаўка і далей па шашы Крычаў—Асавец. 119 гаспадарак, 351 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Горацкім (Горкаўскім) с/с Чэрыкаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Калініна. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў вер. 1943 г. спалілі 38 двароў, загубілі 12 жыхароў. У памяць аб 112 земляках, якія загінулі на фронце, у цэнтры вёскі ў 1976 г. пастаўлена стэла. З вер. 1959 г. ў Горкаўскім, з 24.6.1960 г. ў Бацвінаўскім с/с. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 106 гаспадарак, 323 жыхары, цэнтр калгаса імя А.В.Суворава, 8-гадовая школа, дзіцячы сад-яслі, клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, стацыянарная кінаўстаноўка, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддзяленні сувязі і ашчаднага банка. У 2008 г. цэнтр СВК «Калгас імя Суворава», працавалі сярэдняя школа, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддзяленні сувязі і АСБ «Беларусбанк», магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы з завулкам, забудаванай двухбакова, шчыльна, драўлянымі, традыц. дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — у цэнтры вёскі.

Радзіма бел. крытыка і літаратуразнаўца Дз.Я.Бугаёва (нар. ў 1929).

**СЯРЭБРАНЫ РУЧАЙ** (да 1937 г. Круты Роў) — пасёлак у Краснабудскім с/с, за 8 км на У ад Крычава, 112 км ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Крычаў 2 на лініі Крычаў—Рослаўль. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам, на Пд цячэ р. Худабычка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Красная Буда і далей па шашы Крычаў—Рослаўль. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

У 1897 г. хутар у Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 1 двор, 17 жыхароў. Меўся вадзяны млын. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Крычаўскім р-не. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1986 г. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў, у складзе саўгаса «Крычаўскі» (цэнтр — в. Красная Буда). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СЯРЭДНІ** — былы пасёлак у Чырванабудскім с/с, за 6 км на ПдУ ад Крычава, 110 км ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Міхеевічы на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На З цячэ р. Каменка (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Прудок і далей па шашы Крычаў—Рослаўль.

Засн. ў 1930-я г. перасяленцамі з навакольных хутароў, уваходзіў у Міхеевіцкі с/с Крычаўскага р-на. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Чырванабудскім с/с. У 1986 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе саўгаса «Крычаўскі» (цэнтр — в. Чырвоная Буда). Сял. сядзібы былі традыц., драўляныя, з гасп. пабудовамі.

**СЯЧЫХІ** — вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 15 км на З ад Крычава, 89 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На З цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Лушчэвінка, Дарагая і далей па шашы Крычаў—Чавусы. 9 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).



Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1768 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1780 г. ў Чэрыкаўскім павеце, 23 двары, 107 жыхароў. У 1847 г. 10 двароў, 43 жыхары, у складзе маёнтка Волчасы, уласнасць памешчыка. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога меў у 1853 г. 108 дзес. зямлі. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. У 1897 г. сяло (30 двароў, 202 жыхары) і фальварак (2 двары, 10 жыхароў) у Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета. У 1909 г. 25 двароў, 212 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Горкаўскім с/с Чэрыкаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1919 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1921 г. было 34 вучні. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Будзённага. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 2 вяскоўцы. З 1959 г. ў Крычаўскім р-не. З 24.6.1960 г. ў Бацвінаўскім, з 1982 г. ў Касцюшкавіцкім с/с. У 1986 г. 25 гаспадарак, 52 жыхары, у складзе калгаса «Памяць Леніна» (цэнтр — в. Касцюшкавічы). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, адна з якіх арыентавана з ПдЗ на ПнУ, а другая — з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХАЦІЛАВІЧЫ** — вёска ў Касцюшкавіцкім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Крычава, 98 км ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Крычаў 1 на лініі Орша—Клімавічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Добрасць (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па шашы Крычаў—Чэрыкаў, якая праходзіць побач з вёскай. 54 гаспадаркі, 115 жыхароў (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 17 ст. У 1663 г. маёнтак у Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць. У 1777 г. в. Хацелавічы ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1780 г. сяльцо ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ., 22 двары, 119 жыхароў, належала Галынскім. У 1816 г. 31 двор, 139 жыхароў. У 1869 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1897 г. вёска ў Крычаўскай вол. Чэрыкаўскага павета, 59 двароў, 403 жыхары. Побач была аднайменная аколіца (4 двары, 20 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 65 двароў, 533 жыхары, у аколіцы 4 двары, 42 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Сакольніцкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, для якой у 1924 г. вяскоўцы пабудавалі памяшканне (у 1926 г. 70 вучняў). Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. ў вёсцы 98 двароў, 519 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгасы «Прагрэс» і «Сталінскі заклік», працавала ваўначоска. У 1940 г. 87 двароў, 362 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 73 двары, загубілі 3 жыхароў. 22 вяскоўцы загінулі на фронце. Пасля вайны адбудавана. З 1954 г. ў Касцюшкавіцкім с/с Крычаўскага р-на. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 96 гаспадарак, 239 жыхароў, у складзе калгаса «Запаветы Леніна» (цэнтр — в. Сакольнічы), клуб, пач. школа, магазін. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і размежаваных ракой. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЦІНЬКАЎ** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 25 км на ПнЗ ад Крычава, 79 км ад Магілёва, 1 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн праходзіць чыгунка. На ўсх. ускраіне цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бацвінаўка і далей па шашы Крычаў—Асавец. 22 гаспадаркі, 42 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1777 г. в. Цінікаў у Чэрыкаўскім

павеце Магілёўскай губ. З 1857 г. побач былі фальварак (8 жыхароў, уласнасць памешчыка) і маёнтак, гаспадар якога ў 1836 г. меў 582 дзес. зямлі, млын і сукнавальню. У 1897 г. в. Цінькаў (яна ж Янаўка) у Беліцкай вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. ў вёсцы 7 двароў, 42 жыхары, у маёнтку 1 двор, 17 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8. 1924 г. ў Бацвінаўскім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 15 двароў, 79 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камуніст», працаваў вадзяны млын. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, 2 вяскоўцы загінулі на фронце. З 25.12.1962 г. да 6.1.1965 г. ў Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 34 гаспадаркі, 73 жыхары, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Асавец). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.

**ЧЫРВОНЫ БЕРАГ** — былы пасёлак у Бацвінаўскім с/с, за 20 км на З ад Крычава, 84 км ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны, на У цячэ р. Волчас (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Цінькаў, Бацвінаўка і далей па шашы Крычаў—Чавусы.

Засн. ў 1920-я г. на былых памешчыцкіх землях. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 8 двароў, 28 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. поўнасцю спалены гітлераўцамі. Пасля вайны адбудаваны. На фронце загінулі 2 пасялкоўцы. У 1986 г. 3 гаспадаркі, 4 жыхары, у складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Сычыкі). Драўляныя сял. сядзібы былі пастаўлены ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**ЮРКАЎКА** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Крычава, 89 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам і праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дарагая і далей па шашы Крычаў—Асавец. 12 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1762 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв. ВКЛ, шляхецкая ўласнасць, меўся млын. У 1816 г. 19 двароў, 216 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 27 двароў, 147 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кавальскім, кравецкім і іншымі промысламі. У 1897 г. ў Камаровіцкай вол. Чэрыкаўскага павета, сяло (43 двары, 266 жыхароў) і выселак (1 двор, 7 жыхароў). У 1909 г. 45 двароў, 277 жыхароў. У снеж. 1918 г. адкрыта школа, у якой у 1920-я г. навучаліся дзеці з в. Юркаўка і пасёлкаў Фермы, Селішчы, Бранскі. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Бацвінаўскім с/с Крычаўскага р-на, з 20.8.1924 г. Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 26.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 64 двары, 345 жыхароў. У сак. 1930 г. арганізаваны калгас «Барацьбіт», які з 1931 г. абслугоўваўся Крычаўскай МТС. У 1932 г. калгас аб'ядноўваў 67 гаспадарак, мелася кузня. У 1940 г. ў вёсцы 45 двароў, 265 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, якія ў вер. 1943 г. спалілі 42 двары. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. Пасля вайны адбудавана. У 1962—65 гг. у Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 32 гаспадаркі, 56 жыхароў, у складзе калгаса «Звязда» (цэнтр — в. Бацвінаўка), магазін. Планіровачна складаецца з дзвюх прамалінейных вуліц, гал. з якіх арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**ЯГОРАЎКА** — вёска ў Краснабудскім с/с, за 15 км на ПнУ ад Крычава, 119 км ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Крычаў 2 на лініі Крычаў—Рослаўль. Рэльеф раўнінны, на Пн цячэ р. Асцёр (прыток р. Сож). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Першамайская, Красная Буда і да-



лей па шашы Крычаў—Рослаўль. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

За 4 км на У ад вёскі, на нізкім забалочаным беразе левага берага р. Асцёр захавалася гарадзішча ранняга жал. веку і позняга сярэдневякоўя, за 0,2 км на ПнУ ад вёскі — могільнік (7 насыпаў), што сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. У 1880 г. в. Слабодка-Ягораўка, 12 двароў, 84 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася ганчарным промыслам. У 1897 г. ў Хатовіжскай вол. Клімавіцкага павета Магілёўскай губ., 19 двароў, 111 жыхароў. У 1909 г. 22 двары, 133 жыхары. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8.1924 г. ў Прахораўскім, з 21.8.1925 г. ў Зарубецкім с/с Крычаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 22 двары, 133 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас «Красны Бор», які ў 1932 г. аб'ядноўваў 17 гаспадарак. У 1940 г. 25 двароў, 100 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з жн. 1941 г. да 29.9.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. гілераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў. На фронце загінулі 12 вяскоўцаў. Пасля вайны адбудавана. З 16.7.1954 г. ў Краснабудскім с/с. У 1986 г. 15 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе саўгаса «Дзягавічы» (цэнтр — в. Дзягавічы). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы, забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЯНОЎ** — вёска ў Бацвінаўскім с/с, за 36 км на З ад Крычава, 68 км ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Асавец на лініі Крычаў—Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, вакол лес. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Касцюкоўка, Цінькаў, Бацвінаўка і далей па шашы Крычаў—Асавец. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Паводле пісьмовых крыніц вядома з 18 ст. У 1780 г. сяльцо ў Чэрыкаўскім павеце Магілёўскай губ. Непадалёку быў маёнтак, гаспадар якога валодаў у 1857 г. 833 дзес. зямлі, меў вадзяны млын і сукнавальню. У 1858 г. 6 двароў, 36 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ўваходзіла ў Камаровіцкую вол. Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губ., побач з вёскай быў фальварак (1 двор, 8 жыхароў). Мелася карчма. З 26.4.1919 г. ў Чэрыкаўскім павеце Гомельскай губ. РСФСР. З 20.8. 1924 г. ў Горкаўскім с/с Чэрыкаўскага р-на Калінінскай, з 9.6.1927 г. да 23.7.1930 г. Магілёўскай акруг БССР, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У вясковай прац. школе 1-й ступені ў 1921 г. было 23 вучні. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 2.10.1943 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 6 вяскоўцаў загінулі на фронце. З 16.9.1959 г. ў Горкаўскім, з 24.6.1960 г. ў Бацвінаўскім сельсаветах Крычаўскага р-на. З 25.12. 1962 г. па 6.1.1965 г. ў Мсціслаўскім р-не. У 1986 г. 21 гаспадарка, 37 жыхароў, у складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Сычыкі). Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых, паралельных паміж сабой вуліц шыротнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 1, воп. 1, спр. 1; ф. 4, воп. 28, спр. 54.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 333, воп. 2, спр. 2185; ф. 694, воп. 2, спр. 3982а, 6574; воп. 4, спр. 1155; ф. 1297, воп. 1, спр. 18713; ф. 1729, воп. 1, спр. 77, 78; ф. 1772, воп. 1, спр. 19; воп. 3, спр. 1; ф. 2001, воп. 1, спр. 81, 1801; ф. 2014, воп. 1, спр. 103, 154, 1973; ф. 2120, воп. 1, спр. 13, 16, 25; ф. 2151, воп. 1, спр. 107, 108, 112, 177—179, 190, 198, 212; ф. 2189, воп. 1, спр. 306, 307, 311, 371; ф. 2221, воп. 1, спр. 70.
Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці, ф. 27, воп. 4а, спр. 222.
Філіял Дзяржаўнага архіва Магілёўскай вобласці ў Крычаве. Гістарычная даведка па калгасе «Ленінскі заклік».

Філіял Дзяржаўнага архіва Магілёўскай вобласці ў Крычаве. Гістарычная даведка па калгасе «Перамога».
Філіял Дзяржаўнага архіва Магілёўскай вобласці ў Крычаве. Гістарычная даведка па калгасе «Радзіма».
Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 389, воп. 1, спр. 41, 50, 73; ф. 1355, воп. 1, спр. 16, 735, 736, 1355.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу, ф. 577, воп. 19, спр. 1583, 1618, 1625, 1696, 1731, 1747; ф. 822, воп. 11, спр. 873а; воп. 12, спр. 2589; ф. 1290, воп. 11, спр. 1350, 1375; ф. 1350, воп. 312, спр. 95.
Архіў Расійскай акадэміі навук: Пецярбургскае аддз., ф. 30, воп. 2, спр. 30; ф. 52, воп. 1, спр. 263; ф. 87, воп. 1, спр. 5.
Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. 1135, воп. 17, спр. 148; ф. 1282, воп. 3, спр. 157, 176.
Аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу, ф. IV, 768.
Список церковно-приходских школ и школ грамоты в Могилевской епархии. СПб., [Б.г.].
Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8, ч. 3. СПб., 1848.
Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 3. Мн., 1884.
Без-Корнилович М.О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии... СПб., 1885.
Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею... Т. 12. Вильна, 1885.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889—1890 учебный год. Могилев, 1889.
Акты, издаваемые Виленскою комиссиею для разбора древних актов. Т. 24. Вильна, 1897; Т. 25. Вильна, 1898.
Календарь для духовенства Могилевской епархии на 1899 г. Могилев, 1899.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1902—1903 учебный год. Могилев, 1902.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1905—1906 учебный год. Могилев, 1905.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1905 г. Могилев, 1905.
Могилевский голос, 1906, 10.02.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1907—1908 учебный год. Могилев, 1907.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Вся Белоруссия. Мн., 1925.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 2. Мн., 1935.
Сообщения Советского Информбюро. Т. 5. Июль—декабрь 1943. М., 1944.
Тарле Е.В.Северная война и шведское нашествие на Россию. М., 1958.
Крестьянское движение в Белоруссии после отмены крепостного права (1861—1862 гг.). Мн., 1959.
Революционные комитеты БССР (нояб. 1918 г. — июль 1920 г.). Мн., 1961.
Шлях сацыялізму, 1935, 18.04; 1961, 16.09.
Болбас М.Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.). Мн., 1966.
Ленінскі кліч, 1966, 28.06; 1967, 16.03. 8.04, 8.08, 19.12; 1969, 09.10; 1974, 12.06, 16.05.
Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975.
Беларуская Савецкая Энцыклапедыя. Т. 8. Мн., 1975.
Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны. Т. 2, кн. 2. Мн., 1978.
Звязда, 1979, 1.04.
Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1. Мн., 1983.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Административно-территориальное устройство БССР. Т. 1 (1917—1941 гг.). Мн., 1985.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Кричев: историко-лит. очерк. Мн., 1986.

# МАГІЛЁЎСКІ РАЁН

Размешчаны ў цэнтры Магілёўскай вобл. Пл. 1,9 тыс. км². Насельніцтва (без Магілёва) 45 тыс. чал. (2007). Цэнтр раёна — г. Магілёў. У раён уваходзяць 280 сельскіх населеных пунктаў. Адміністрацыйна падзяляецца на 16 сельсаветаў: Брылёўскі, Буйніцкі, Вендаражскі, Вяйнянскі, Дашкаўскі, Заводскаслабодскі, Кадзінскі, Княжыцкі, Мастоцкі, Махаўскі, Нядашаўскі, Палыкавіцкі, Пашкаўскі, Семукацкі, Сідаравіцкі, Сухарэўскі.

Праз тэр. раёна праходзяць чыгункі на Асіповічы, Оршу, Крычаў, Жлобін, а таксама аўтадарогі на Бабруйск, Мінск, Оршу, Чэрыкаў, Гомель. Суднаходства па Дняпры. Раён утвораны 17.7.1924 г. ў складзе Магілёўскай акругі (да 26.7. 1930), 20.8.1921 г. падзелены на 19 сельсаветаў: Бракаўскі, Вендаражскі, Вішоўскі, Вялікабялевіцкі, Гарадзішчанскі, Гаранскі, Дабрасневіцкі, Дасовіцкі, Дашкаўскі, Карабанаўскі, Княжыцкі, Коцнаўскі, Навасёлкаўскі 1 (Навасельскі 1), Навасёлкаўскі 2 (Навасельскі 2), Палыкавіцкі, Пашкаўскі, Рафалаўскі, Сялецкі, Цішоўскі. 24.9.1926 г. арганізаваны Хрыпялёўскі нац. польскі с/с (існаваў да 23.8.1937), у 1927 г. ўтвораны Чарназёмаўскі с/с. 2.3.1931 г. да раёна далучаны Амхаўскі, Грабянёўскі, Махаўскі, Мастоцкі, Машанацкі, Слабодкаўскі, Таранаўскі, Шчэжарскі сельсаветы ліквідаванага Лупалаўскага р-на. 5.4.1935 г. Вішоўскі, Навасёлкаўскі (Навасельскі), Рафалаўскі сельсаветы перададзены Бялыніцкаму р-ну. З 20.2.1938 г. раён у складзе Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. на тэр. раёна адбываліся жорсткія баі воінаў 172-й стралк. дывізіі з ням.-фаш. захопнікамі ў ходзе абароны Магілёва 1941 г. У гады вайны ў раёне дзейнічалі Магілёўскае антыфашысцкае падполле, магілёўскія падп. абкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, падп. райком КП(б)Б, 6-я Магілёўская партыз. брыгада, 113-ы, 121-ы імя Касаева, 152-і, 277-ы, 425-ы, 600-ы і 810-ы партыз. палкі, 61-ы асобны партыз. атрад. Раён вызвалены ў чэрв.—ліп. 1944 г. войскамі 2-га Бел. фронту ў выніку Магілёўскай аперацыі 1944 г. і Мінскай аперацыі 1944 г. За гады вайны на тэр. раёна ням.-фаш. захопнікі загубілі 2499 мірных жыхароў, спалілі 6 вёсак, з іх ні адна не адрадзілася. 25.12. 1964 г. да раёна далучаны Сухарэўскі с/с Чавускага раёна.



*Камандзір 121-га партызанскага палка А.М.Касаеў.*

Пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі ў 1986 г. 10 сельскіх населеных пунктаў знаходзяцца ў зоне забруджвання радыенуклідамі ад 5 да 15 Кu/км².

Паверхня раёна раўнінная. Большая частка занята Цэнтральнабярэзінскай раўнінай, паўн. і паўн.-ўсх. часткі — Ар-

*Даліна р. Дняпро ў наваколлі в. Стайкі.*



шанска-Магілёўскай. За 2 км на Пн ад Магілёва знаходзіцца найвышэйшы пункт раёна 200 м. З карысных выкапняў ёсць торф, пясчана-жвіровы матэрыял, пяскі, гліны, суглінкі, мінеральная фарба, а таксама мінеральныя воды. Праз тэр. раёна з Пн на Пд цячэ р. Дняпро з прытокамі Вільчанка, Паўна, Дубравенка, Лахва, на У — р. Раста з прытокам Рудзея, па зах. ускраіне — р. Друць з прытокамі Арлянка і Грэза. Створаны вадасховішчы Зарэсце і Рудзея. 24% тэр. раёна занята лесам; 3,7 тыс. га — балотамі. Найбольшыя балоты — Буйніцкае і Вялікае Укрупскае. У раёне створаны гідралагічныя заказнікі мясц. значэння Варацей, Гарадзенка, Загрэбля-Прысленка, Карніца, Пагост, Праворышча, Прусіна, Прыбрэжжа, Раманькі.



*У лесе каля в. Палыкавічы 1.*



*Уборка збожжа ў Магілёўскім раёне.*

Агульная пл. сельгасугоддзяў 115,6 тыс. га, з іх 17,4 тыс. га асушаных. Асн. галіны сельскай гаспадаркі — малочнамясная жывёлагадоўля, свінагадоўля, птушкагадоўля. Вырошчваюць збожжавыя, агародніну, бульбу, лён. Працуюць с.-г. вытв. прадпрыемствы, фермерскія гаспадаркі, 2 аграфірмы, эксперыментальная база, саўгас-камбінат «Усход», 3 птушкафабрыкі, зверагаспадарка, дзяржплемпрадпрыемства. Прадпрыемствы металаапрацоўчай, дрэваапрацоўчай, харч. і будаўнічых матэрыялаў галін прам-сці.

У сістэме раённай адукацыі працуюць каледж, 21 сярэдняя, 5 базавых, 6 пач. школ. Дзейнічаюць 11 муз., спарт. школы, 36 дамоў культуры і клубаў, 32 б-кі. У в. Палыкавічы працуе музей баявой і прац. славы. Выдаецца раённая газ. «Прыдняпроўская ніва». Археал. помнікі: гарадзішчы жал. веку ў вёсках Дашкаўка, Палыкавічы 1, Фойна; стаянкі каменнага веку ў вёсках Навасёлкі, Салтанаўка, Фойна; курганны могільнік канца 11 — пач. 12 ст. ў в. Ямніца. Брацкія магілы сав. воінаў і партызан у вёсках Буйнічы, Вендараж, Дасовічы, Канстанцінаўка, Княжыцы, Краснаполле, Махава, Палыкавічы 1, Семукачы, Старое Пашкава, Сухары, Сялец, Цішоўка; брацкая магіла байцоў батальёна міліцыі ў в. Гаі; магілы ахвяр фашызму ў вёсках Алень, Барсукі, Вендараж, Гараны, Дашкаўка, Дубінка, Залубнішча, Малыя Бялевічы, Туманаўка; брацкая магіла сав. ваеннапалонных і ахвяр фашызму ў в. Завадская Слабада. Помнікі: у гонар партызан у вёсках Будзішча, Галынец 1, Гарадзішча; землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну, у вёсках Бракава, Брылі, Вейна, Вільчыцы, Грыбаны, Гуслішча, Макаранцы, Малое Хонава, Махава, Мікалаеўка 1, Мікалаеўка 2, Навасёлкі (Вейнаўскі с/с), Палыкавічы 1, Севасцьянавічы, Сідаравічы, Сухары, Сялец, Шчэжар; помнік рус. воінам, якія загінулі ў вайну 1812 г. каля в. Салтанаўка. Помнікі архітэктуры: касцёл дамініканцаў (1681) у в. Княжыцы, царква Пакрова Багародзіцы (2-я пал. 18 ст.) у в. Вейна, Успенская



царква (1903) у в. Галяні 1, Успенская царква (пач. 20 ст.) у в. Сухары, капліца (19 ст.) у в. Стайкі, мемарыяльная капліца (1912) у гонар перамогі рус. войск у вайну 1812 г. ў в. Салтанаўка, сядзібны дом (пач. 20 ст.) у в. Дашкаўка, мемарыяльны комплекс Буйніцкае поле каля в. Буйнічы.

У Магілёўскім р-не нарадзіліся Героі Сав. Саюза: у в. Зацішша — С.П.Алейнікаў, у в. Прысна — М.І.Кучынскі, у в. Дубіна — М.Я.Раманькаў, у в. Калінавая — І.М.Саламонікаў, у в. Палыкавічы — Я.А.Юрчанка, у в. Батунь — С.Т.Саннікаў.

**АГЕЕЎКА** — вёска ў Мастоцкім с/с, за 14 км на Пн ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць каля вёскі. 32 гаспадаркі, 58 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло (48 двароў) у Брылёўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць, меўся млын. У 1635 г. сяло Агееўшчына налічвала 60 двароў, у 1742 г. — 20 двароў, мелася карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. сяло ў Магілёўскім павеце. У 1834 г. 121 жыхар. У 1847 г. 26 двароў, 156 жыхароў, у складзе маёнтка Палыкавічы, уласнасць памешчыка. У 1909 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета, 50 двароў, 408 жыхароў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Мастоцкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 66 двароў, 407 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Молатава. Дзейнічала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 73 гаспадаркі, 138 жыхароў, у складзе калгаса імя Заслонава (цэнтр — в. Масток). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, працаваў фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. працаваў фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных на Пд кароткай прамалінейнай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЗАРАЎКА** — былы пасёлак у Княжыцкім с/с, за 21 км на ПдЗ ад Магілёва, 21 км ад чыг. ст. Магілёў 1. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Булыжыцы і далей па шашы Магілёў—Мінск.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Бракаўскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 26.6.1954 г. ў Княжыцкім с/с. У 1926 г. 8 двароў, 49 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Калініна. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 13 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе калгаса імя Калініна (цэнтр — в. Бракава). Планіровачна складаўся з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пд далучалася кароткая прамалінейная вуліца. Быў забудаваны двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АКУЛІНЦЫ** — вёска ў Сухарэўскім с/с, за 20 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Чэрня (прыток р. Рудзея). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Мсціслаў, якая праходзіць каля вёскі. 8 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло (27 двароў) у Брылеўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1635 г. 57 двароў. У 1742 г. мелася карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. 44 двары, 271 жыхар, у складзе маёнтка Сухары Чавускага павета, уласнасць памешчыка. У 1887 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмным па-





мяшканні. Паводле перапісу 1897 г. ў Чэрнеўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 69 двароў, 483 жыхары. У 1909 г. 76 двароў, 591 жыхар. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 50 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Сухарэўскім с/с Лупалаўскага р-на, з 2.3.1931 г. ў Чавускім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 118 дварoў, 643 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 22.1.1965 г. ў Магілёўскім р-не. У 1990 г. 37 гаспадарак, 53 жыхары, у складзе калгаса «Камуністычны маніфест» (цэнтр — в. Сухары). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЛЕНЬ** — вёска ў Семукацкім с/с, за 37 км на ПдЗ ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам, на ПдЗ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Арлянка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Заброддзе і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 33 гаспадаркі, 48 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1560 г. як сяло, шляхецкая ўласнасць. У 1565 г. ў складзе маёнтка Шклоў Аршанскага павета Віцебскага ваяв. У 1745 г. ў Быхаўскім графстве, 25 двароў, уласнасць памешчыка. У 1758 г. 32 двары, 79 жыхароў мужчынскага полу, меўся млын. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. сяло Алені ў Старабыхаўскім павеце. У 1784 г. 264 жыхары. З 1820 г. дзейнічала гарбарня. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце, 200 жыхароў мужчынскага полу, меліся млын, карчма. У 1880, 1881 і 1882 гг. сяляне рабілі захопы памешчыцкай зямлі, а ў 1881 г. правялі самавольную высечку лесу. Адбываліся сутыкненні з уладамі. Для падаўлення гэтых выступленняў у вёску 16.6.1882 г. былі накіраваны 2 пях. роты. У 1884 г. 78 двароў, 575 жыхароў. У 1897 г. ў Глухаўскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 116 двароў, 792 жыхары, дзейнічала царк.-прыходская школа. Непадалёку былі ферма (2 двары, 10 жыхароў), вадзяны млын і сукнавальня. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. Летам 1907 г. сяльчане захапілі памешчыцкую зямлю. Адбылася сутычка з паліцыяй, у выніку якой 1 сяльчанін быў забіты, 5 паранены, 23 арыштаваны. У 1909 г. ў сяле 131 двор, 874 жыхары, на хутары — 1 двор, 6 жыхароў.

З сак. да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. 865 жыхароў. У 1933 г. арганізаваны калгас «Асветнік». Былы чырвонаармеец С.В.Воранаў стаў першым яго старшынёй. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы 14.8. 1942 г. расстралялі 38 вяскоўцаў, разрабавалі іх маёмасць, а хаты спалілі. Ахвяры фашызму пахаваны ў магіле, што за 600 м на З ад вёскі. У вёсцы і паблізу яе базіраваліся сав. партызаны. У гонар партызан 255-га атрада на будынку школы ў 1977 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У 1990 г. 106 гаспадарак, 180 жыхароў, у складзе саўгаса «Колас» (цэнтр — в. Семукачы). У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, ад якой на ПдУ адыходзяць 2 завулкі. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне — сад.

**АЛЬХОЎКА** — вёска ў Семукацкім с/с, за 40 км на ПдЗ ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Семукачы і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 15 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з пач. 20 ст. У 1909 г. ўрочышча Альхоўка (9 двароў) у



Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. З сак. да кастр. 1918 г. акупіравана герм. войскамі. З 1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. 9.5.1923 г. перададзена Магілёўскаму павету. З сак. 1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Вялікабялевіцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.8.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 16 двароў, 98 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Гарадзішчанскім, з 2.8.1954 г. ў Семукацкім, з 4.6.1965 г. ў Вендаражскім, з 22.7.1965 г. зноў у Семукацкім сельсаветах. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 47 жыхароў, у складзе саўгаса «Бялевічы» (цэнтр — в. Бялевічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АЛЕКСАНДРОЎ** — вёска ў Семукацкім с/с, за 49 км на З ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам, цячэ р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Семукачы і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 28 гаспадарак, 42 жыхары (2007).

У 1897 г. ў Рас. імперыі, хутар Аляксандрава (2 двары, 14 жыхароў) у Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 17 двароў, 128 жыхароў. З 1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. З сак. 1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Вялікабялевіцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 43 двары, 198 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «1 Мая», мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час акупацыі ў вёсцы дзейнічала падп. камсамольская арг-цыя. З 26.6.1954 г. ў Гарадзішчанскім, з 22.7.1965 г. ў Семукацкім сельсаветах. У 1990 г. 52 гаспадаркі, 145 жыхароў, у складзе саўгаса «Бялевічы» (цэнтр — в. Бялевічы). Працавалі фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, ад якой на Пн адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**АЛЕКСАНДРОЎ** — пасёлак у Семукацкім с/с, за 49 км на ПдЗ ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Гарадзішчанскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 5 двароў, 33 жыхары. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 22.7.1965 г. ў Семукацкім с/с. У 1990 г. 8 гаспадарак, 11 жыхароў, у складзе саўгаса «Колас» (цэнтр — в. Семукачы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АМХАВАЯ 1** — вёска ў Нядашаўскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць побач з вёскай. 120 гаспадарак, 358 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло Мхова ў Гарбавіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі і Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 12 гаспадарак, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. мелася карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. сяло Мховая ў Чавускім павеце, дзярж. ўласнасць, 17 двароў, 117 жыхароў. У 1858 г. 51 рэвіз-

ская душа, меўся шынок. Паводле перапісу 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета, 36 двароў, 240 жыхароў, хлебазапасны магазін. Непадалёку быў заезны дом Амховая (1 двор, 3 жыхары). У 1911 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. На базе земскай створана прац. школа 1-й ступені, для якой у 1923 г. было выдзелена нацыяналізаванае памяшканне. У 1925 г. ў школе навучалася 50 дзяцей з в. Амхавая 1, хутароў Амхавыя Галяні і Нядашава. У 1926 г. хутары, 58 двароў, 320 жыхароў. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7. 1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарый». Пач. школа была ператворана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. навучалася 337 дзяцей, мелася б-ка. У 1938 г. школа стала 10-класнай. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях за вызваленне вёскі загінулі 23 сав. воіны, якія пахаваны ў брацкай магіле на вясковых могілках. 1.12.1950 г. калгас увайшоў у склад саўгаса «Магілёўскі», а вёска стала яго цэнтр. сядзібай. У 1990 г. 113 гаспадарак, 348 жыхароў, цэнтр саўгаса «Магілёўскі». У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, 2 фермы буйной рагатай жывёлы, цэх механізацыі, працавалі майстэрні, ветэрынарная аптэка, міжгасп. прадпрыемства, 2 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка, аддз. сувязі, 8-гадовая школа, аўтаматычная тэлеф. станцыя, дзіцячы сад-яслі, грамадская лазня. У 2007 г. дзейнічалі пач. школа, аддз. сувязі, клуб, 2 магазіны. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1985 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 3 паралельных прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, іх перпендыкулярна перасякаюць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры ўзведзены мураваныя двухпавярховыя 8- і 12-кватэрныя дамы, а таксама мураваныя аднапавярховыя аднакватэрныя дамы. Грамадскія будынкі размешчаны ў цэнтры сярод жылой забудовы. Вытв. сектар — на Пд, па другі бок шашы.

**АМХАВАЯ 2** — вёска ў Нядашаўскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць побач з вёскай. 16 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

У 1858 г. вёска (51 рэвізская душа) у Рас. імперыі, у Чавускім павеце Магілёўскай губ. Меўся шынок. З 20.8.1924 г. ў Лупалаўскім, з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-нах, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 35 гаспадарак, 71 жыхар, у складзе саўгаса «Магілёўскі» (цэнтр — в. Амхавая 1). Планіровачна складаецца з 3 кароткіх прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкамі. Забудавана двухбакова традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АРЛЯНКА** — вёска ў Семукацкім с/с, за 42 км на ПдЗ ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Семукачы, на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Арлянка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кучын і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. ў Рас. імперыі, пасёлак (215 жыхароў) у Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета. У 1909 г. 20 двароў, 215 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8. 1924 г. ў Коцінскім, з 21.8.1925 г. ў Ханаўскім сельсаветах. У 1926 г. 12 двароў, 72 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. за-



хопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Дасовіцкім, з 4.6.1965 г. ў Семукацкім сельсаветах. У 1990 г. 17 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе саўгаса «Колас» (цэнтр — в. Семукачы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АСТРАЎШЧЫНА** — вёска ў Семукацкім с/с, за 43 км на ПдЗ ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Арлянка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кучын і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Коцінскім, з 21.8.1925 г. ў Хонаўскім сельсаветах Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 25 двароў, 137 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны барацьбіт». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Гарадзішчанскім, з 22.7.1965 г. ў Семукацкім сельсаветах. У 1990 г. 26 гаспадарак, 39 жыхароў, у складзе саўгаса «Колас» (цэнтр — в. Семукачы). Размяшчаліся вытв. брыгада і свінагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**АТНЯНКА** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 25 км на З ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На З цячэ р. Жыварэзка (прыток р. Лахва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вендараж і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 10 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1785 г. вёска (9 двароў, 58 жыхароў) у складзе маёнтка Журавец Магілёўскага павета, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Вендаражскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., сядзіба Атнянка (яна ж Бялеўшчына), 2 двары, 23 жыхары. Побач знаходзілася аколіца Атнянка (5 двароў, 35 жыхароў). У 1909 г. на сядзібе было 4 двары, 41 жыхар, у аколіцы — 2 двары, 5 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 37 двароў, 191 жыхар. У 1929 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 42 жыхары, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАБРОВА** — вёска ў Махаўскім с/с, за 33 км на ПдУ ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вялікая Дубраўка і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 20 гаспадарак, 32 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Махаўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 24 гаспадаркі, 54 жыхары, у складзе саўгаса «Махава» (цэнтр — в. Махава). Планіроўка Г-падобная. Да кароткай прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі далучаецца з Пн другая кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАБРОВА** — вёска ў Княжыцкім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ р. Лахвіца (прыток р. Лахва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бабровічы і далей па шашы Магілёў—Мінск. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Княжыцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. пасёлак, 8 двароў, 42 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 9 гаспадарак, 24 жыхары, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Нікіцінічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАБРОВІЧЫ** — вёска ў Княжыцкім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Лахвіца (прыток р. Лахва). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Магілёў, якая праходзіць побач з вёскай. 28 гаспадарак, 66 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1667 г. сяло ў Аршанскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1785 г. ў складзе маёнтка Галоўчына Магілёўскага павета, 5 двароў, 42 жыхары, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета, 20 двароў, 133 жыхары. Побач была аднайменная сядзіба, 2 двары, 18 жыхароў. У 1909 г. 20 двароў, 146 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 38 двароў, 174 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «13-ы з'езд партыі». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 38 гаспадарак, 76 жыхароў, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Нікіцінічы). Размяшчаліся майстэрні, свінагадоўчая ферма, зернедрабільня. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАРОК** — былы пасёлак у Семукацкім с/с, за 35 км на ПдУ ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вендараж і далей па шашы Магілёў—Бабруйск.

У 1857 г. ў Рас. імперыі, вёска ў Быхаўскім павеце, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 23 двары, 195 жыхароў. Побач быў фальварак, 4 двары, 5 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 30 двароў, 249 жыхароў, у фальварку 1 двор, 7 жыхароў, вадзяны млын. З 20.8.1924 г. ў Вялікабялевіцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 26.6.1954 г. ў Гарадзішчанскім, з 4.6.1965 г. ў Семукацкім сельсаветах. У 1925 г. створана сыраварна-масларобная арцель (20 гаспадарак), дзейнічаў млын. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Каля вёскі ў 1943 г. партызаны разграмілі карны атрад акупантаў. У 1990 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар, у складзе саўгаса «Бялевічы» (цэнтр — в. Вялікія Бялевічы). Традыц. драўляная сял. сядзіба з гасп. пабудовамі пастаўлена каля прасёлачнай дарогі.

**БАРОЎКА** — вёска ў Сідаравіцкім с/с, за 25 км на Пд ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на З і Пд мяжуе з лесам. На З цячэ р. Ялец (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць побач з вёскай. 83 гаспадаркі, 215 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з пач. 20 ст. У 1909 г. вёска ў Грудзінаўскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. З 20.8.1924 г. ў Слабодкаўскім с/с Лупалаўскага, з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 37 двароў, 220 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 4.6.1965 г. ў Сідаравіцкім с/с. У 1966 г. да вёскі далучана в. Доры 2. У 1990 г. 55 гаспадарак, 154 жыхары, у складзе калгаса «Расія»



(цэнтр — в. Сідаравічы). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, комплекс па вырошчванні буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. Планіроўка Г-падобная. Гал. прамалінейная вуліца (адрэзак шашы) арыентавана шыротна. Ад яе зах. канца адыходзіць на Пд кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**БАРСУКІ** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Галынец на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд і Пн мяжуе з лесам. На З цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гуслянка і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 8 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. ў Рас. імперыі, выселак, 1 двор, 7 жыхароў. У 1909 г. пасёлак (12 двароў, 50 жыхароў) у Вендаражскай вол. Магілёўскага павета. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. вёска, 22 двары, 122 жыхары. У 1920-я г. дзейнічала садова-агароднае т-ва. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы расстралялі больш за 100 жыхароў, якія пахаваны на могілках. У 1990 г. 34 гаспадаркі, 55 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк камунізму» (цэнтр — в. Цішоўка). У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАРТНЯКІ** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Капейнае і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Навасёлкаўскім 2 (з 21.8.1925 г. Гуслішчанскі) с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Вендаражскім с/с. У 1990 г. 9 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк камунізму» (цэнтр — в. Цішоўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БАТУНЬ** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 31 км на ПдЗ ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. На Пд цячэ ручай (прыток р. Лахва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Завадская Слабада і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 17 гаспадарак, 35 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1585 г. як сяло Батуня, дзярж. ўласнасць, у валоданні шляхціца. У 1635 г. сяло Іструбішча (яно ж Батуня), цэнтр войтаўства Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета. Меліся карчма, 2 млыны. У 1671 г. сяло было заселена татарскімі сем'ямі. З 1772 г. ў Рас. імперыі. Дзейнічала драўляная царква (адкрыта не пазней 1880). У 1883 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1890 г. засн. вінакурня, дзе ў 1895 г. была пастаўлена паравая машына. Паводле перапісу 1897 г. ў Глухаўскай вол. Быхаўскага павета, 70 двароў, 382 жыхары. Побач быў фальварак Батунь (4 двары, 22 жыхары, вінакурны з-д), працавалі паравы і вадзяны млыны. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. ў сяле 88 двароў, 439 жыхароў, у фальварку 1 двор, 22 жыхары. На базе дарэвалюцыйнай адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 34 вучні, дзейнічалі драмгурток і гурток, а затым

ячэйка па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 101 двор, 598 жыхароў. У 1928 г. пачала працаваць сыраробная арцель. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», працаваў вінзавод. У 1934 г. адкрыты дзіцячыя яслі. У пач. школе ў 1936 г. навучалася 107 дзяцей, мелася б-ка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1975 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. 33 гаспадаркі, 76 жыхароў, у складзе саўгаса «Барок» (цэнтр — в. Завадская Слабада). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай працяглай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.


*С.Т.Сотнікаў.*

Радзіма поўнага кавалера ордэна Славы С.Т.Сотнікава (1920—2000), які ў Вял. Айч. вайну вызначыўся ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў на тэр. Польшчы і Германіі.

**БАТУНЬ** — пасёлак у Заводскаслабодскім с/с, за 31 км на ПдЗ ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Завадская Слабада і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. Пастаяннага насельніцтва няма (2007).

Вядомы ў Рас. імперыі з пач. 20 ст. як фальварак Батунь у Глухаўскай вол. Магілёўскага павета. З 20.8.1924 г. ў Навасёлкаўскім 2, з 21.8.1925 г. ў Гуслішчанскім сельсаветах Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. арганізаваны саўгас «Батунь» (17 гаспадарак), які ўваходзіў у Віцебскі малочна-прам. трэст. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Дасовіцкім, з 1973 г. ў Заводскаслабодскім сельсаветах. У 1990 г. 6 гаспадарак, 8 жыхароў, у складзе саўгаса «Барок» (цэнтр — в. Завадская Слабада). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі былі пастаўлены ўздоўж кароткай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі.

**БОКАТАЎКА** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Арлянка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Завадская Слабада і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 8 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска Бакатаўка ў Старабыхаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1784 г. вёска Бохацеўка (12 двароў, 87 жыхароў) у Быхаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 58 жыхароў мужчынскага полу. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета, 19 двароў, 125 жыхароў. У 1909 г. 22 двары, 150 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 35 двароў, 254 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Леніна. Дзейнічала пач. школа, у якой у 1936 г. было 142 вучні. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 26 гаспадарак, 62 жыхары, у складзе саўгаса «Барок» (цэнтр — в. Завадская Слабада), працавалі клуб, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — сад.

**БОЎШАВА** — вёска ў Дашкаўскім с/с, за 29 км на Пд ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на З і У мяжуе з лесам. На У цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 51 гаспадарка, 78 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Старабыхаўскім павеце. У 1858



г. 93 жыхары мужчынскага полу. У 1880 г. 36 двароў, 274 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. У 1908 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 52 вучні, дзейнічаў ленінскі куток. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы будаўнік». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1975 г. да вёскі далучана в. Боўшавец. У 1990 г. 126 гаспадарак, 253 жыхары, у складзе калгаса «Чырвоная зорка» (цэнтр — в. Дашкаўка). Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, дзейнічалі клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БРАКАВА** — вёска ў Княжыцкім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 1. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На паўд. ускраіне знаходзіцца возера, з якога выцякае р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мінск. 229 гаспадарак, 600 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1667 г. маёнтак у Аршанскім павеце, шляхецкая ўласнасць. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. сяло, якое ў 1785 г. было ў складзе маёнтка Галоўчына Магілёўскага павета, налічвала 28 двароў, 224 жыхары, з'яўлялася памешчыцкай уласнасцю, меліся вадзяны млын і драўляная царква. У 1847 г. цэнтр маёнтка, 39 двароў, 351 жыхар. У сак. 1862 г. вяскоўцы адмовіліся падпісаць складзеныя памешчыкам устаўныя граматы. Памешчык меў тут у 1869 г. 1051 дзес. зямлі, млын. У 1872 г. засн. сукнавальны з-д, які вырабляў 4500 аршын сукна ў год, пачала дзейнічаць гарбарня. У 1880 г. 75 двароў, 478 жыхароў. У 1894 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая ў пач. 1917 г. ператворана ў земскую. Паводле перапісу 1897 г. сяло (105 двароў, 748 жыхароў, царк.-прыходская школа, заезны дом, царква), сядзіба (2 двары, 34 жыхары, млын), другая сядзіба (1 двор, 4 жыхары) у Княжыцкай вол. Магілёўскага павета. У 1909 г. 97 двароў, 769 жыхароў. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. займаліся 92 вучні. У 1920 г. ў былым маёнтку створана с.-г. арцель «Азараўка», у 1921 г. — другая с.-г. арцель, у якую ўвайшлі 8 гаспадарак. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. Дзейнічалі пункт і школа па ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці сярод дарослых, якія ў 1931 г. наведваў 71 вясковец. У 1926 г. 156 двароў, 833 жыхары, створана меліярацыйнае т-ва. У 1929 г. арганізаваны калгас «Гігант» (32 гаспадаркі), у сак. 1931 г. — калгас «Іскра» (23 гаспадаркі), 7.5.1931 г. — калгас «Першамайскі» (57 гаспадарак). У пач. 1930-х г. 4-гадовая школа ператворана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. было 236 вучняў, дзейнічала б-ка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 239 вяскоўцаў, у памяць аб іх каля будынка школы ў 1959 г. пастаўлена стэла. У 1990



*Капліца на могілках у в. Боўшава.*

г. цэнтр калгаса імя Калініна, 199 гаспадарак, 525 жыхароў. У вёсцы размяшчаліся майстэрні, цэх механізацыі, жывёлагадоўчы комплекс, ферма буйной рагатай жывёлы і цялятнік, вытв. брыгада, устаноўка па прыгатаванні вітаміннай мукі, млын, працавалі 8-гадовая школа, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, аўтаматычная тэлеф. станцыя, клуб, б-ка, стадыён, Дом жывёлавода. У 2007 г. дзейнічалі сярэдняя школа, аддз. сувязі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1975 г. Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, ад усх. канца якой на Пд і ад цэнтра на Пн адыходзяць кароткія крывалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд вёскі пабудаваны мураваныя двухпавярховыя 4-кватэрныя і аднапавярховыя аднакватэрныя жылыя дамы. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Вытв. сектар — на ПнЗ.

**БРУСКІ** — вёска ў Буйніцкім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Буйнічы на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на У праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 81 гаспадарка, 141 жыхар (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. пасёлак, 13 двароў, 83 жыхары. У пач. 1930-х г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 8 гаспадарак. Дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Цішоўскім с/с. У 1990 г. 72 гаспадаркі, 169 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк камунізму» (цэнтр — в. Цішоўка). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, уздоўж чыгункі. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на Пн.

**БРЫЛІ** — вёска, цэнтр сельсавета (з 9.12.1975), за 10 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Каменка і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 151 гаспадарка, 384 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1560 г. сяло (45 дымоў) у Магілёўскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1580 г. аддадзена ў пажыццёвае валоданне памешчыку. У 1592 г. цэнтр войтаўства Магілёўскай вол. Аршанскага павета. У 1635 г. 48 двароў, меўся млын. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Любуж Магілёўскага павета, 49 двароў, 327 жыхароў, уласнасць памешчыка, які меў у 1866 г. ў вёсках Брылі і Любуж 2765 дзес. зямлі, 2 млыны, заезны дом. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. сяло (35 двароў, 201 жыхар, школа граматы, піцейны дом) і фальварак (1 двор, 11 жыхароў) у Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 43 двары, 258 жыхароў, працавала школа (нар. вучылішча), на хутары дзейнічала смалакурня. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. хутары (23 двары, 153 жыхары) і вёска (72 двары, 436 жыхароў). У вер. 1928 г. ў былой памешчыцкай сядзібе 7 беднякоў заснавалі калект. гаспадарку. Дзяржава выдзеліла ім у крэдыт 300 пудоў жыта. У 1929 г. арганізаваны калгас «Змагар». У пач. 1930-х г. 4-гадовая школа ператворана ў 7-гадовую, у



якой у 1936 г. было 273 вучні з вёсак Старыя Брылі, Качурына, Каменка і хутара Мілееўка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях за вызваленне вёскі загінулі больш за 30 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле каля будынка школы. У памяць аб земляках, што загінулі на фронце і ў партыз. барацьбе, у 1976 г. пастаўлена стэла. У 1990 г. 169 гаспадарак, 439 жыхароў, цэнтр калгаса імя Ільіча. У вёсцы размяшчаліся цэх механізацыі, рамонтныя майстэрні, сталовая, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, працавалі магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аўтаматычная тэлеф. станцыя, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, Дом культуры, стацыянарная кінаўстаноўка, б-ка, 8-гадовая школа, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. цэнтр дапаможнай гаспадаркі Магілёўскага лясгаса. Дзейнічалі комплекс дзіцячы сад—пач. школа, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны Магілёўскім філіялам ін-та «Белкалгаспраект». Планіровачна складаецца з 4 прамалінейных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных завулкамі. На Пн асобна праходзіць кароткая прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны на плошчы ў цэнтры вёскі. На Пд і Пн — гасп. сектар. Праектаванне і забудова вёскі адзначана 13.12.1982 г. Дыпломам III ступені ВДНГ СССР.

**БУДЗІШЧА** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 32 км на З ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Сенна (Жыварэзка, прыток р. Лахва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вендараж і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 35 гаспадарак, 77 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. вёска (7 двароў, 32 жыхары, у складзе маёнтка Вендараж) і сяльцо (1 двор, 8 жыхароў), цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1847 г. вёска ў складзе маёнтка Рубцоўшчына Магілёўскага павета Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. У 1857 г. 30 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 12 двароў, частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. 18 двароў, 104 жыхары, меўся заезны дом. У 1909 г. 20 двароў, 112 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 38 двароў, 257 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і наваколлі базіраваўся 121-ы партыз. атрад (з ліп. 1943 г. полк) Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы. У гонар партызан 121-га палка імя А.М.Касаева на зах. ускраіне вёскі ў 1971 г. пастаўлены помнік. У 1990 г. 44 гаспадаркі, 77 жыхароў, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). Размяшчаліся вытв. аддз., працавалі клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, 8-гадовая школа. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — гасп. сектар.

**БУДОЎЛЯ** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Арлянка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Завадская Слабада і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 18 гаспадарак, 30 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да

26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 1924 г. ў Хонаўскім с/с. У 1926 г. 20 двароў, 90 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Маркса. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 7.8.1943 г. непадалёку ад вёскі партызаны знішчылі на чыгунцы браняпоезд акупантаў. З 1973 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. 36 гаспадарак, 40 жыхароў, у складзе саўгаса «Барок» (цэнтр — в. Завадская Слабада). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПдЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БУЙНІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 3 км на Пд ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Буйнічы на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ўсх. ускраіне цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць побач з вёскай. 468 гаспадарак, 1538 жыхароў (2007).

На паўд. ускраіне вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра ёсць стаянка эпохі мезаліту (датуецца 8—5-м тыс. да н.э.). За 1 км на Пд ад вёскі, на правым беразе Дняпра, ва ўрочышчы Благадаць захавалася гарадзішча зарубінецкай культуры, штрыхаванай керамікі (6—9 ст.). Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Паводле пісьмовых крыніц вёска вядома ў ВКЛ з пач. 16 ст., калі была прыпісана да Кіева-Пячэрскага манастыра. У 1567 г. цэнтр маёнтка ў Аршанскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1582 г. — сяло. У 16 і 17 ст. належала Сапегам. У час антыфеад. сял.-казацкага паўстання, якое ўспыхнула ў 1595 г. на Украіне пад кіраўніцтвам Севярына (Семярына) Налівайкі, каля Буйніч адбылася бітва. 13.12.1595 г. паўстанцы штурмам авалодалі Магілёвам. 15.12.1595 г. супраць паўстанцаў выступіла 18-тысячнае войска рэчыцкага старосты М.Буйвіда. Паўстанцы (больш за 2 тыс. чал.) прынялі бой на полі каля Буйніч. Яны абгарадзіліся некалькімі радамі вазоў і моцным агнём адбілі ўсе атакі. Бітва працягвалася цэлы дзень. Вечарам паўстанцы адышлі да Быхава. У 1-й пал. 17 ст. магілёўскі падкормчы Б.Сцяткевіч заснаваў тут мужчынскі манастыр і надзяліў яго зямельнымі ўгоддзямі і вёскамі. У пісьмовых крыніцах манастыр упамінаецца пад 1633 г. у Быхаўскім графстве. Некаторы час у 1630-я г. тут дзейнічала друкарня С.Б.Собаля, якая ў 1635 г. выдала «Псалтыр». У 1893 г. ў сяле быў наладжаны выраб васковых свечак. У час Паўночнай вайны 1700—21 гг. каля вёскі размяшчаўся лагер шведскіх войскаў на чале з Карлам XII. Шведы абрабавалі манастыр, разабралі яго пабудовы для збудавання мастоў на балоцістых месцах. У 1758 г. ў сяле 35 двароў, з'яўлялася памешчыцкай уласнасцю, уваходзіла ў Быхаўскае графства. Пасля далучэння да Расіі (1772) Кацярына II канфіскавала ў Сапег буйніцкі маёнтак і перадала яго ген.-аншэфу Д.В.Пасеку. Потым Буйнічамі валодалі Марчэўскія і Радкевічы. У 1878 г. памешчык меў тут 2383 дзес. зямлі і піцейны дом. У 1880 г. 64 двары, 356 жыхароў, 2 праваслаўныя царквы, жаночае вучылішча пры манастыры, яўр. малітоўная школа. У 19 ст. наладжана палатняная і суконная вытв-сці. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім, сталярным, кравецкім і шавецкім промысламі. У 1880 г. ў фальварку пачаў дзейнічаць пункт па выявдзенні чыстапародных рысістых коней. У 1883 г. пры кляштары адкрыта школа. У 1896 г. пабудавана памяшканне і адкрыта царк.-прыходская школа. Паводле перапісу 1897 г. мястэчка (81 двор, 450 жыхароў) у Вендаражскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. Непадалёку быў аднайменны маёнтак, 5 двароў, 34 жыхары, дзейнічалі з-д па сушцы садавіны і агародніны. У жаночым манастыры быў 21 двор, 117 жыхароў, дзейнічалі свечачны з-д (у 1900 г. 16 рабочых), царква, капліца. 2—5.5.1902 г. на цагельным з-дзе адбылася эканам. стачка (40 рабочых). У



1909 г. ў мястэчку 81 двор, 427 жыхароў, казённая вінная крама, царква, яўр. малітоўная і царк.-прыходская школы, у маёнтку — 2 двары, 6 жыхароў. На базе дарэвалюцыйнай адкрыта прац. школа 1-й ступені імя Тургенева, у якой у 1925 г. было 62 вучні, працавала б-ка. У пач. 1920-х г. існавалі 2 вёскі: Старыя Буйнічы і Новыя Буйнічы. 16.6.1921 г. створана с.-г. арцель «Новыя Буйнічы», у якую ўваходзіла 19 гаспадарак. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Навабуйніцкай школе ў 1925 г. было 104 вучні. У 1925 г. створана меліярацыйнае т-ва. 17.2.1931 г. арганізаваны калгас «13 гадоў Чырвонай Арміі», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 31 гаспадарку. У будынку царквы пачаў дзейнічаць клуб з б-кай, наладжваліся канцэрты мастацкай самадзейнасці, дэманстраваліся кінафільмы. У 1933 г. вёска атрымала электрычнае святло. Значнай падзеяй для вяскоўцаў стала прыбыццё першага трактара і грузавой аўтамашыны «ГАЗ-А». У 1936 г. ў Старабуйніцкай пач. школе было 128 вучняў, б-ка, у Новабуйніцкай — 74 вучні, б-ка. У канцы 1930-х г. Старыя Буйнічы і Новыя Буйнічы былі аб'яднаны ў адну вёску Буйнічы. У 1940 г. 141 двор, 765 жыхароў. За дасягненні ў сельскай гаспадарцы калгасніца П.С. Мінькова ўзнагароджана ў 1940 г. Малым сярэбраным медалём Усесаюзнай с.-г. выстаўкі і грашовай прэміяй.

У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. каля вёскі трымалі абарону супраць наступлення гітлераўцаў 388-ы стралк. полк пад камандаваннем палкоўніка С.Ф.Куцепава, артылерысты 340-га палка 172-й стралк. дывізіі і апалчэнцы — рабочыя шаўковай ф-кі. 12 ліп. каля вёскі адбыўся жорсткі 14-гадзінны бой. Вораг няспынна атакаваў, вёў артыл. і мінамётны абстрэл, які чаргаваўся з танкавымі атакамі. За дзень было падбіта і спалена 39 танкаў і збіты 3 варожыя самалёты. Абаронцы ўтрымлівалі свае пазіцыі да 22 ліп. На паўн.-зах. ускраіне вёскі, на Буйніцкім полі ў 1962 г. пастаўлена стэла ў гонар воінаў 172-й стралк. дывізіі, у 1990-я г. пабудаваны мемарыяльны комплекс Буйніцкае поле ў гонар абаронцаў Магілёва. У крас. 1944 г. гітлераўцы спалілі 118 двароў, загубілі 95 жыхароў. Вызвалена 27.6.1944 г. Пры фарсіраванні Дняпра каля вёскі 26.6.1944 г. вызначылася аддзяленне разведчыкаў пад камандаваннем малодшага сяржанта А.В.Іванова, які быў удастоены звання Героя Сав. Саюза. У баях за вёску вызначыліся таксама камандзір аддзялення разведкі, старшына М.С.Кірылаў, сяржант І.М.Мясткоў, малодшы лейтэнант А.М. Пайкоў, старшына медслужбы І.В.Харламаў, разведчык старшына А.К.Харчанка, якім таксама прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны 61 сав. воін, якія

*Фрагменты мемарыяла на Буйніцкім полі.*







*На Буйніцкім полі.*

загінулі ў баях за вызваленне вёскі. На будынку ПТВ № 1 у 1976 г. ўстаноўлена мемарыяльная дошка ў памяць аб Героі Сав. Саюза І.М.Мяльнове, які вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра каля в. Буйнічы. На фронце і ў партыз. барацьбе загінула каля 100 вяскоўцаў. У 1990 г. 307 гаспадарак, 900 жыхароў, цэнтр вучэбнай гаспадаркі СПТВ № 1 імя К.П.Арлоўскага. У вёсцы размяшчаліся комплексная брыгада, Магілёўскія раённыя аб'яднанні па вытв.-тэхн. забеспячэнні сельскай гаспадаркі, Магілёўскае райаб'яднанне



*Мемарыяльны знак К.М.Сіманаву на Буйніцкім полі.*

«Сельгасхімія», раённая нарыхтоўчая кантора райспажыўсаюза, ферма буйной рагатай жывёлы, млын, устаноўка па прыгатаванні вітаміннай мукі, дзейнічалі гандл. комплекс, Дом быту, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, Дом культуры, вучэбна-вытв. камбінат, б-ка, сярэдняя агульнаадукац. і муз. школы, дзіцячыя яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт, сталовая, аўтаматычная тэлеф. станцыя. У 2007 г. цэнтр дапаможнай гаспадаркі размешчанага ў вёсцы Магілёўскага дзярж. прафес. аграрна-тэхн. каледжа імя К.П.Арлоўскага. Працавалі сярэдняя школа, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. У вёсцы размяшчаюцца заалагічны сад і этнаграфічная экспазіцыя. Планіровачна складаецца з працяглай вуліцы ламанага абрысу, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой у цэнтры з У далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна пераважна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн забудова вядзецца 2—5-павярховымі мураванымі дамамі. Грамадскія будынкі размешчаны вакол плошчы, утворанай на паўн. баку вёскі, і сярод жылой забудовы. На Пн — сад (35 га). На паўн.-зах.






Мемарыяльная дошка І.М.Мяльнову.

ускраіне ў 1980 г. пастаўлены помнік на ўшанаванне памяці сав. пісьменніка і грамадскага дзеяча, Героя Сац. Працы К.М. Сіманава (1915—79), які пабываў у гэтых месцах у першыя дні Вял. Айч. вайны і прысвяціў падзеям на Буйніцкім полі раман «Жывыя і мёртвыя». Паводле завяшчання пісьменніка, яго прах пасля смерці быў развеяны над Буйніцкім полем.

Да вёскі падыходзіць паўн. частка Быхаўскага радовішча пяску, размешчанага ў рэчышчы і пойме р. Дняпро (разведаныя запасы 4,29 млн. $м^3$).

**БУЙНІЧЫ** — пасёлак і чыг. станцыя на лініі Магілёў—Жлобін, у Буйніцкім с/с, за 3 км на Пд ад Магілёва. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць побач з пасёлкам. 792 гаспадаркі, 2488 жыхароў (2007).

За 1 км на Пд ад пасёлка, на правым беразе р. Дняпро размешчана гарадзішча эпохі Кіеўскай Русі. Гэты археал. помнік сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у глыбокай старажытнасці.

Пачатак сучаснаму пасёлку паклаў чыг. раз'езд, створаны тут у пач. 20 ст. У 1920-я г., калі быў арганізаваны саўгас «Буйнічы», стаў актыўна складвацца пасёлак. З 20.8.1924 г. ў Цішоўскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў саўгасе 51 рабочы. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. тут праходзіў пярэдні край абароны 388-га стралк. палка пад камандаваннем С.Ф.Куцепава, які вёў жорсткія баі супраць гітлераўцаў. У час бою за вызваленне пасёлка ў ноч на 27.6.1944 г. стралк. рота на чале з лейтэнантам І.М. Мяльновым пераправілася на правы бераг ракі і ўмацавалася на плацдарме. З 6 байцамі І.М.Мяльноў прарваўся да цэнтра пасёлка і на будынку вадакачкі ўзняў чырвоны сцяг. Гэта быў сігнал да атакі. Полк пайшоў у наступленне, і пасёлак быў вызвалены. І.М.Мяльноў удастоены звання Героя Сав. Саюза. У 1990 г. 584 гаспадаркі, 2020 жыхароў. Размяшчаліся нафтабаза, райсельгастэхніка, працаваў гандл. комплекс, Дом быту, аддз. сувязі, сталовая, пач. школа, клуб. У 2007 г. дзейнічалі фельч.-акушэрскі пункт, буфет «Бістро». Планіровачна складаецца з 2 найбольш значных прамалінейных вуліц шыротнай арыентацыі, да якіх на З далучаецца прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудаваны мураванымі 2-, 5-, 7-, 9-павярховымі жылымі дамамі.



І.М.Мяльноў.

**БУЛЫЖЫЦЫ** — вёска ў Княжыцкім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 1. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Княжыцы і далей па шашы Магілёў—Мінск. 65 гаспадарак, 128 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце. У 1785 г. сяльцо, 18 двароў, 112 жыхароў, цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце, у валоданні Княжыцкага дамініканскага кляштара. У 1845 г. 31 двор, 163 жыхары, карчма, у складзе аднайменнага казённага маёнтка ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ., дзярж. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. 39 двароў, 265 жыхароў. У 1908 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 46

двароў, 306 жыхароў. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 25 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 72 двары, 399 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 28 гаспадарак, 61 жыхар, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Бракава). Размяшчаліся вытв. брыгада, жывёлагадоўчы комплекс, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі клуб, сталовая, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і забудаванай двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**БУТРЫМАЎКА** — вёска ў Буйніцкім с/с, за 5 км на З ад Магілёва і чыг. ст. Галынец на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мінск. 6 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 4 гаспадаркі, 9 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк камунізму» (цэнтр — в. Цішоўка). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**БЫСТРЫК** — вёска ў Нядашаўскім с/с, за 15 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць праз вёску. 38 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло Быстрык-Будзішча (44 двары) у Вяйнянскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1635 г. сяло Быстрык (яно ж Будзішча), 42 двары. У 1742 г. дзейнічала царква. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. сяло Быстрэнка ў Чавускім павеце, 18 двароў, 155 жыхароў. У 1850 г. ў складзе маёнтка Вейна, меўся шынок. Паводле перапісу 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 27 двароў, 218 жыхароў, заезны дом. У 1909 г. 213 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. З сак. 1924 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Амхаўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1918 г. адкрыта школа, для якой у 1923 г. пабудавана памяшканне. У 1925 г. ў школе было 35 вучняў. У 1926 г. 66 двароў, 342 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Воля», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Нядашаўскім с/с. У 1990 г. 63 гаспадаркі, 138 жыхароў, у складзе саўгаса «Магілёўскі» (цэнтр — в. Амхавая 1), працаваў фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯЛЯЎШЧЫНА** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 20 км на З ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Альхоўка (прыток р. Лахва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вендараж і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 16 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска Бяляеўшчына ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. сяльцо ў складзе маёнтка Журавец Магілёўскага павета, 14 двароў, 99 жыхароў, уласнасць памешчыка. Два памешчыкі мелі ў вёсцы ў 1862 г. 161 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў вёсцы 4 двары, 31 жыхар, у



аднайменным фальварку — 4 двары, 25 жыхароў, у Вендаражскай вол. Магілёўскага павета. У 1909 г. ў вёсцы 5 двароў, 30 жыхароў, у фальварку — 3 двары, 20 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 8 двароў, 66 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас імя газ. «Камунар Магілёўшчыны». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 25 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯРОЗАВЫ** — пасёлак у Заводскаслабодскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Магілёва. 2 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007). У 1994 г. 7 гаспадарак, 14 жыхароў.

**БЯРОЗАЎКА** — вёска ў Палыкавіцкім с/с, за 2 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 1. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 25 гаспадарак, 69 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. хутар (5 двароў, 30 жыхароў) у Княжыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. Побач знаходзілася аднайменная сяліба, 11 двароў, 20 жыхароў. У 1909 г. дзейнічаў вадзяны млын. У 1910 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 50 вучняў, дзейнічаў драмгурток і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 41 гаспадарка, 128 жыхароў, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Мікалаеўка 2). Планіроўка Г-падобная. Да прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаецца на Пн кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**БЯРОЗАЎКА** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Навасёлкі і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 16 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, была адкрыта пач. школа. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і ваколіцы базіраваліся 113-ы партыз. атрад Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы і Магілёўскі падп. райком КП(б)Б. У 1990 г. 40 гаспадарак, 71 жыхар, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Мікалаеўка 2). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і забудаванай двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАЗРАЖДЕННЕ** — вёска ў Семукацкім с/с, за 45 км на ПдЗ ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам, на Пн праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Бялынічы—чыг. ст. Друць, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

У ліп. 1922 г. тут на былых памешчыцкіх землях узнікла с.-г. арцель «Адраджэнне» і пачаў складвацца населены пункт. У 1926 г. арцель аб'ядноўвала 9 гаспадарак, мелася кузня. З 20.8.1924 г. ў Гарадзішчанскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 24.6. 1960 г. ў Бокатаўскім, з 4.6.1965 г. ў Семукацкім сельсаветах. У Вял. Айч. вайну

з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Вяскоўцы Ф.А. Краўцоў і П.С.Старавойтаў аказвалі вял. дапамогу партызанам — рамантавалі вінтоўкі, кулямёты, аднавілі 45-міліметровую гармату, зрабілі аўтамат, выраблялі неабходныя дэталі для стралк. зброі. У 1990 г. 24 гаспадаркі, 26 жыхароў, у складзе саўгаса «Колас» (цэнтр — в. Семукачы). Размяшчалася вытв. брыгада. Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ. Забудавана двухбакова традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАЛОКІ** — вёска і чыг. станцыя на лініі Магілёў—Орша, у Пашкаўскім с/с, за 18 км на Пн ад Магілёва. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Купёлы і далей па шашы Шклоў—Магілёў. 37 гаспадарак, 58 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. хутары, 13 двароў, 68 жыхароў. З 1928 г. дзейнічала сыраробная арцель. У 1932 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў той час меў 339 га зямлі і аб'ядноўваў у 1933 г. 7 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 57 гаспадарак, 135 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Рэчкі 1), працаваў магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкамі. Забудавана двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Будынак чыг. станцыі размешчаны адасоблена, каля чыгункі.

**ВАРАТЫНШЧЫНА** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 23 км на З ад Магілёва і 5 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На ПдЗ цячэ р. Жыварэзка (прыток р. Лахва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Завярэжжа, Навасёлкі, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 14 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска Варатнішчызна ў Магілёўскім павеце. У 1785 г. ў Магілёўскім павеце, 4 двары, 27 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1858 г. было 13 жыхароў мужчынскага полу. Памешчык меў тут у 1864 г. 219 дзес. зямлі. У 1869 г. пачала дзейнічаць гарбарня. Паводле перапісу 1897 г. ў Вендаражскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 7 двароў, 48 жыхароў. Побач стаялі 2 аднайменныя сядзібы, (2 двары, 19 жыхароў). У 1909 г. 14 двароў, 77 жыхароў. Мясц. памешчыку І.І.Пратасевічу належалі 174 дзес. зямлі, а ўсе вяскоўцы мелі толькі 54 дзес. Дзейнічала сукнавальня. У сумежным фальварку быў 1 двор, 10 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 26 двароў, 106 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 25 гаспадарак, 44 жыхары, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). Планіровачна складаецца з працяглай вуліцы ламанага абрысу, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАСІЛЕВІЧЫ** — вёска ў Сухарэўскім с/с, за 30 км на ПнУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Еганы, Кругі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 11 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло ў Даманаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 46 двароў, дзярж. ўласнасць. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Сухары Чавускага павета, 32 двары, 237 жыхароў, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1872 г. 435 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Чэрнеўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 56 двароў, 420 жыхароў. У 1909 г. 83



двары, 446 жыхароў. У 1913 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Зарасцянскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі, з 26.7.1930 г. ў Лупалаўскім, з 2.3.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. ў Дрыбінскім р-нах, з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 56 вучняў. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 125 двароў, 724 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Рассвет». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.9.1959 г. ў Сухарэўскім с/с Чавускага, з 22.1. 1965 г. Магілёўскага р-наў. У 1990 г. 35 гаспадарак, 51 жыхар, у складзе калгаса «Парыжская Камуна» (цэнтр — в. Зарэсце). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з вуліцы ламанага абрысу, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВАСХОД** — пасёлак у Вяйнянскім с/с, за 14 км на Пд ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пн — штучнае вадасховішча на р. Вільчанка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць побач з пасёлкам. 604 гаспадаркі, 1662 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Дашкаўскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. арганізавана с.-г. гаспадарка «Усход». У 1926 г. 6 двароў, 29 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 20.6.1960 г. ў Вяйнянскім с/с. У 1990 г. 118 гаспадарак, 390 жыхароў, цэнтр саўгаса «Усход». У пасёлку працавалі Дом культуры, аддз. сувязі, б-ка, сталовая, дзіцячы сад-яслі, грамадская лазня. У 2000-я г. на базе пасёлка створаны аграгарадок. У 2007 г. дзейнічалі сярэдняя школа, аддз. сувязі, Дом культуры, клуб, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1982 г. праектным ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 2 вуліц (шыротнай і мерыдыянальнай арыентацыі), забудаваных двухбакова, шчыльна, пераважна муравалымі двухпавярховымі 4—8-кватэрнымі і трохпавярховымі 16-кватэрнымі дамамі. На Пн — парк адпачынку. У месцы скрыжавання вуліц размешчаны грамадскія будынкі.

**ВЕЙНА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 10 км на ПдУ ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Вільчанка (Дзягцярка, прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса і Магілёў—Слаўгарад, якія праходзяць паблізу вёскі. 578 гаспадарак, 1717 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1560 г. сяло ў Магілёўскай вол., 112 дымоў, дзярж. ўласнасць. Побач знаходзілася с. Старое Вейна, якое таксама з'яўлялася дзярж. уласнасцю. У 1604 г. цэнтр войтаўства Магілёўскага староства, 68 двароў, меліся царква, карчма, млын. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. сяло ў складзе маёнтка Вільчыцы. У 1806 г. пачаў дзейнічаць вінакурны з-д (12 рабочых). Непадалёку ў 1834 г. знаходзіўся фальварак (10 жыхароў), а ў 1850 г. ў ім было 13 жыхароў, дзейнічалі



*Пакроўская царква ў в. Вейна. 2-я пал. 18 ст.*




ветраны млын, вінакурня, шынок, з'яўлялася ўласнасцю памешчыка, які меў тут у 1873 г. 7453 дзес. зямлі, вінакурны з-д, 4 вадзяныя млыны, 2 заезныя дамы. У 1884 г. на вінакурным з-дзе была пастаўлена паравая машына, у 1895 г. на ім працавалі 14, у 1911 г. 11 рабочых. У 1890 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у 1903 г. пабудавана памяшканне. У 1897 г. побач з сялом знаходзіліся ўладальніцкая сядзіба Війна (7 двароў, 138 жыхароў), царк. пагост (3 двары, 13 жыхароў). У пач. 1918 г. створаны Савет сял. дэпутатаў і сфарміраваны чырвонагвардзейскі ўзвод, які пазней перарос у роту. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 66 вучняў. У 1920 г. створана с.-г. арцель «Рассвет», у якую ўваходзілі 5 гаспадарак. 5.1.1921 г. ў в. Вейна і 15.1.1921 г. ў с. Вейна адкрыты хаты-чытальні, дзейнічала вясковая б-ка. 25.7.1921 г. арганізавана арцель па сумеснай апрацоўцы зямлі (18 гаспадарак). З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1922 г. на базе маёнтка на былых памешчыцкіх землях створаны саўгас «Вейна», які спачатку меў 267 га, а ў 1930 г. 792 га зямлі, атрымаў у маі 1926 г. трактар, а ў 1933 г. на саўгасных палях працавалі ўжо 7 трактароў і шмат іншай тэхнікі. Летам 1924 г. пачалі дзейнічаць палявыя дзіцячыя яслі. У 1926 г. ў сяле было 38 двароў, 254 жыхары. Саўгас у 1930-я г. стаў свінагадоўчай гаспадаркай. Палітаддзел саўгаса ў 1934—35 гг. выдаваў шматтыражную газ. «За сацыялістычную свінагадоўлю». Працаваў саўгасны клуб. У 1932 г. вёска атрымала электрасвятло. У 1937 г. створана Вяйнянская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У пач. вайны група пастухоў і даярак на чале з дырэктарам саўгаса М.Здановічам больш за 3 месяцы гналі статак саўгасных кароў, пакуль не прыйшлі ў Хапёрскі саўгас Сталінградскай вобл. Племянная ферма такім чынам была выратавана. У час абарончых баёў у ліп. 1941 г. вёска некалькі разоў пераходзіла з рук у рукі. У баях за вызваленне вёскі ў 1944 г. загінулі 38 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі. З фронту не вярнуліся 68 вяскоўцаў. У памяць аб іх у 1975 г. за 1 км на Пн ад вёскі пастаўлены абеліск. У 1949 г. да вёскі далучаны в. Пячоры, у 1950-я г. — пас. Цагельны. У 1990 г. 444 гаспадаркі, 1670 жыхароў, цэнтр саўгаса «Вяйнянскі цяплічны камбінат». У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, сталярна-цяслярскія майстэрні, лесапільня, працавалі 2 магазіны, Дом быту, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, Дом культуры, б-ка, сярэдняя і муз. школы, сталовая, яслі-сад, фельч.-акушэрскі пункт. У 2000-я г. на аснове вёскі створаны аграгарадок Вейна. У 2007 г. цэнтр унітарнага камунальнага прадпрыемства «Фірма Вейна», дзейнічалі сярэдняя школа, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 сталовыя. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1984 г. ў ін-це «БелНДІгіпрасельбуд». Планіровачна складаецца з 3 частак: паўд.-зах. (4 паралельныя прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ і злучаныя завулкамі), цэнтр. (3 кароткія вуліцы ўтвараюць П-падобную планіровачную структуру, ад якой на З адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца) і паўн.-ўсх. (4 кароткія паралельныя вуліцы арыентаваны з ПдЗ на ПнУ). Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У паўд.-зах. частцы пабудаваны шэраг двухпавярховых 4-кватэрных мураваных дамоў. У цэнтры, вакол плошчы і сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. Гасп. сектар — на Пн і Пд.

**ВЕКЕР** — вёска ў Буйніцкім с/с, за 5 км на ПдЗ ад Магілёва, 1 км ад чыг. ст. Буйнічы на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па



шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць паблізу вёскі. 15 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1933 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які першапачаткова аб'ядноўваў 20 гаспадарак. Абслугоўвала калгас Магілёўская МТС. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 19 гаспадарак, 59 жыхароў, у складзе вучэбнай гаспадаркі СПТВ № 1 імя К.П.Арлоўскага (цэнтр — в. Буйнічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У — гасп. сектар.

**ВЕНДАРАЖ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 22 км на ПдЗ ад Магілёва і 5 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Жыварэзка (прыток р. Лахва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 135 гаспадарак, 335 жыхароў (2007).

Засн. ў ВКЛ у 1568 г. «людмі прыхожымі», шляхецкая ўласнасць. У 1586 г. князем Багданам Саламярэцкім пабудавана царква. У 1604 г. сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце, 204 жыхары, 2 млыны, царква. Памешчык меў тут у 1856 г. 895 дзес. зямлі, вінакурны з-д і млын. У 1860 г. пачала дзейнічаць дзягцярна-смалярная мануфактура. У 1880 г. 38 двароў, 91 жыхар. Ва ўсіх дварах сяляне займаліся кавальскім промыслам, вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны, а таксама посуду і розных быт. рэчаў з дрэва. У 1890-я г. вал. цэнтр Магілёўскага павета. У 1889 г. пабудавана на сродкі вяскоўцаў памяшканне і адкрыта школа. Паводле перапісу 1897 г. сяло, цэнтр воласці Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 55 двароў, 366 жыхароў, меліся царква, нар. вучылішча (у 1899 г. навучалася 25 хлопчыкаў, у 1907 г. — 58 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі), хлебазапасны магазін, конны з-д. Адзін раз у год (1 кастр.) праводзіўся кірмаш. Побач быў фальварак Вендараж (5 двароў, 15 жыхароў), прыёмны пакой, вадзяны млын, заезны дом, капліца. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. сяло (60 двароў, 397 жыхароў) і маёнтак (3 двары, 3 жыхары) у Магілёўскім павеце. У 1919 г. дзейнічаў вал. рэўком. Было створана першае ў Магілёўскім павеце каап. т-ва, а ў 1923 г. — яго аддзяленні ў Кругах і Батуні. Кааператыў у 1923 г. налічваў 300 пайшчыкаў. Дзейнічала с.-г. т-ва. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыты б-ка і хата-чытальня. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. налічваўся 141 вучань. У 1926 г. 76 двароў, 401 жыхар. У крас. 1928 г. арганізаваны калгас імя Сталіна, які ў 1931 г. аб'ядноўваў 74 гаспадаркі. Дзейнічаў кааператыў па вырабе сыру. У 1931 г. пабудаваны мураваны будынак для 7-гадовай школы, якая ў 1938 г. пераўтворана ў сярэднюю. У 1932 г. запрацаваў радыёвузел. Была створана МТС, якая ў 1937 г. мела 38 трактароў. У 1936 г. пабудавана бальніца. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1941 г. партызаны разграмілі паліцэйскі ўчастак, які тут размяшчаўся. У вёсцы і наваколлі базіраваўся 121-ы партыз. атрад (з ліст. 1943 г. полк) Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы. Акупанты спалілі вёску. У баі за вызваленне вёскі загінулі каля 60 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле, што паблізу вясковых могілак. На паўд. ускраіне пахавана больш за 100 жыхароў, расстраляных гітлераўцамі. Пасля вайны вёска адбудавана. У 1990 г. 185 гаспадарак, 335 жыхароў, цэнтр саўгаса «Вендараж». У вёсцы размяшчаліся вытв. ад-

дзяленне, лясніцтва, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі і сталярна-цяслярскія, лесапільня, млын, устаноўка па прыгатаванні вітаміннай мукі, працавалі 3 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад, сельскае спажывецкае т-ва, аддз. ашчаднага банка, бальніца (12 урачоў), амбулаторыя, аптэка. У 2007 г. дзейнічалі сярэдняя школа, аддз. сувязі, клуб, б-ка, урачэбная амбулаторыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1983 г. ў Бел. н.-д. і праектным ін-це горадабудаўніцтва. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, ад якой адыходзяць на Пд 4 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На плошчы гал. вуліцы пастаўлены помнік землякам, загінуўшым у Вял. Айч. вайну. Грамадскія будынкі размешчаны вакол плошчы і сярод жылой забудовы гал. вуліцы. Каля плошчы ўзведзены таксама мураваныя двухпавярховыя 4- і 8-кватэрныя дамы. Новая вуліца на Пн забудавана мураванымі аднапавярховымі аднакватэрнымі дамамі. Гасп. сектар — на Пд і З.

**ВЕНДРЫЖ** — пасёлак і чыг. станцыя на лініі Магілёў—Асіповічы, у Вендаражскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Магілёва. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Жываразка (прыток р. Лахва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 15 гаспадарак, 42 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Навасёлкаўскім 2 с/с (21.8.1925 г. перайменаваны ў Гуслішчанскі) Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Вендаражскім с/с. У 1990 г. 17 гаспадарак, 39 жыхароў, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай амаль шыротна і забудаванай пераважна аднабакова традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На перакрыжаванні чыгункі і мясц. дарогі размешчаны мураваны будынак чыг. станцыі.

**ВІЛЬЧЫЦЫ** — вёска і чыг. станцыя на лініі Магілёў—Жлобін, у Вяйнянскім с/с, за 12 км на Пд ад Магілёва. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З, Пд і У мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Вільчанка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць побач з вёскай. 196 гаспадарак, 415 жыхароў (2007).

Упершыню ўпамінаецца ў фрагментах інвентара 1560 г. як сяло ў Магілёўскай вол. ВКЛ, дзярж. ўладанне, налічвала 15 дымоў. У 1580 г. перададзена ў валоданне шляхціцу. У 1635 г. сяло (36 двароў) у Вяйнянскім войтаўстве Магілёўскай вол., дзярж. ўласнасць, дзейнічалі царква, млын, карчма. У 1742 г. 43 двары. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1850 г. ў складзе маёнтка Вейна Магілёўскага павета, 42 двары, 239 жыхароў, шынок, млын, сукнавальня. Пасля пракладкі ў 1859 г. шашы Магілёў—Доўск у сяле размяшчлася паштовая станцыя, якая мела 16 коней. У 1880 г. 46 двароў, 231 жыхар. З пракладкай чыгункі пачала дзейнічаць чыг. станцыя (у 1880 г. 1 дом, 10 жыхароў). Апрача земляробства ва ўсіх дварах сяльчане займаліся вырабам ільняной і пяньковай кудзелі і тканіны. Паводле перапісу 1897 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 63 двары, 429 жыхароў. Дзейнічалі школа граматы і хлебазапасны магазін. На паштовай станцыі былі 2 жылыя пабудовы, 12 жыхароў. У 1909 г. 89 двароў, 466 жыхароў. Паштовая станцыя налічвала 1 двор, 5 жыхароў. Школа граматы была ператорана ў царк.-прыходскую.

На базе дарэвалюцыйнай адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было



67 вучняў, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 103 двары, 618 жыхароў. У 1930-я г. арганізаваны калгас «Пралетарый». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У барацьбе супраць фашызму загінулі 74 вяскоўцы. На ўшанаванне іх памяці ў 1975 г. ў цэнтры вёскі пастаўлена стэла. У 1990 г. 443 гаспадаркі, 1356 жыхароў, у складзе саўгаса «Вяйнянскі цяплічны камбінат» (цэнтр — в. Вейна). Размяшчаліся Магілёўская зверагаспадарка, лясніцтва, ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. аддзяленне, свінагадоўчы комплекс «Усход». У вёсцы працавалі б-ка, сталовая, магазін, аддз. сувязі, Дом быту, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, 8-гадовая школа. У 2007 г. цэнтр ААТ «Агракамбінат «Усход», дзейнічалі ўрачэбная амбулаторыя, кафэ. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1982 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з працяглай плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Амаль паралельна да яе на У праходзіць прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн размешчаны парк і шэраг двухпавярховых 4—8-кватэрных мураваных дамоў, якія належаць зверагаспадарцы. На ПнЗ — свінагадоўчы комплекс.

**ВЯЛІКАЕ БУШКАВА** — вёска ў Сухарэўскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Сухары, Качурына і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло Бушкова (20 дывароў) у Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. мелася царква. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Ждановічы Чавускага павета, 17 двароў, 119 жыхароў, казённая ўласнасць, дзейнічаў млын. Паводле перапісу 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 30 двароў, 227 жыхароў. Меўся піцейны дом. У 1909 г. 30 двароў, 217 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Зарасцянскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Чавускага, з 12.2.1935 г. Дрыбінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 40 двароў, 289 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Калгасны сцяг». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 16.8.1959 г. Дрыбінскі р-н скасаваны, вёскі Зарасцянскага с/с увайшлі ў склад Сухарэўскага с/с Чавускага, а з 22.1.1965 г. Магілёўскага р-наў. У 1990 г. 27 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе калгаса «Парыжская Камуна» (цэнтр — в. Зарэсце). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПнЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКАЕ ЗАПАТОЧЧА** — вёска ў Семукацкім с/с, за 48 км на ПдЗ ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўніннаўзгорысты. На ПдЗ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаны з р. Арлянка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Заброддзе, Новая Слабада і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 52 гаспадаркі, 104 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1758 г. ў Быхаўскім графстве, 24 двары, уласнасць памешчыка. У 1784 г. 23 двары, 219 жыхароў. З 1772 г. ў Рас. імперыі. Паводле перапісу 1897 г. вёска Запаточча (83 двары, 592 жыхары) у Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Мелася школа граматы, піцейны дом. Побач знаходзіўся фальварак (2 двары, 12 жы-

хароў, вадзяны млын). У 1909 г. ў вёсцы 108 двароў, 770 жыхароў, у маёнтку — 1 двор, 6 жыхароў. У 1912 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. На базе дарэвалюцыйнай адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 67 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 159 двароў, 963 жыхары. Пазней вёска была падзелена на 2: Вялікае Запаточча і Малое Запаточча. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 87 гаспадарак, 168 жыхароў, у складзе саўгаса «Колас» (цэнтр — в. Семукачы). У 2007 г. цэнтр дапаможнай гаспадаркі «Магілёўскай райагратэхнікі». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — гасп. сектар і сад.

**ВЯЛІКАЕ ХОНАВА** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 38 км на ПдЗ ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Арлянка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Завадская Слабада, Навасёлкі, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 37 гаспадарак, 75 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. У 1758 г. ў Быхаўскім графстве, 20 двароў. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1784 г. 28 двароў, 211 жыхароў, млын, драўляная царква, уласнасць памешчыка, у Быхаўскім павеце. У 1878 г. гаспадар аднаго маёнтка меў тут 925 дзес. зямлі, дзягцярны з-д, другога — 1845 дзес. зямлі. У 1880 г. 53 двары, 399 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася бандарным і кравецкім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. сяло Хонава (84 двары, 565 жыхароў, царква, нар. вучылішча, адкрытае не пазней 1884 г., хлебазапасны магазін, карчма) і хутар Ханаў (5 двароў, 21 жыхар, млын) у Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Пазней сяло стала называцца Вялікае Хонава, а хутар — Малое Хонава. У 1909 г. 100 двароў, 642 жыхары. Побач знаходзіўся маёнтак (1 двор, 7 жыхароў). Дзейнічала крэдытнае т-ва. У 1918 г. створаны чырвонаармейскі атрад з 40 байцоў, які ўзначаліў бальшавік П.Ф.Лабаты. У баях супраць палякаў у 1919 г. загінулі 5 чырвонаармейцаў, якія пахаваны ў брацкай магіле на вясковых могілках. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. З 1924 г. ў Коцінскім с/с Магілёўскага р-на. З 21.8.1925 г. да 16.7.1954 г., з 21.7.1956 г. да 22.7.1960 г., з 4.6.1965 г. да 6.4.1973 г. цэнтр сельсавета Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. 10 гаспадарак аб'ядналіся ў с.-г. камуну «Сцяпан Разін», якая затым была пераўтворана ў калгас. Мелася кузня. У 1938 г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1942 г. партызаны разграмілі вал. ўпраўленне акупантаў, а ў 1943 г. — паліцэйскі ўчастак. У баях за вызваленне вёскі загінулі 4 сав. воіны, якія пахаваны ў брацкай магіле на могілках. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 62 вяскоўцы. На ўшанаванне іх памяці каля будынка школы пастаўлены абеліск. З 1973 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. 77 гаспадарак, 75 жыхароў, у складзе саўгаса «Барок» (цэнтр — в. Завадская Слабада). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі магазін, фельч.-акушэрскі пункт, сярэдняя школа, аддз. сувязі, клуб, б-ка. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкамі. На Пн да гэтых вуліц падыходзіць з У кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.



**ВЯЛІКАЯ БАРОЎКА** — вёска ў Кадзінскім с/с, за 5 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Чавусы, якая праходзіць побач з вёскай. 10 гаспадарак, 213 жыхароў (2007).

Паводле перапісу 1897 г. вёска Бароўка (17 двароў, 123 жыхары) у Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. Побач знаходзіўся хутар, 7 двароў, 43 жыхары. У 1909 г. ў вёсцы 28 двароў, 172 жыхары, на хутары 5 двароў, 25 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Бальшавік». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 148 гаспадарак, 316 жыхароў, у складзе саўгаса «Кадзіна» (цэнтр — в. Кадзіна). Размяшчалася вытв. брыгада, працавалі сярэдняя школа, магазін, клуб. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1984 г. ін-там «БелНДІгіпрасельбуд». Планіроўка прамавугольная. Складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, ад якой на Пд да шашы адыходзяць 2 кароткія паралельныя вуліцы, злучаныя ў цэнтры кароткай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд вядзецца забудова 2—3-павярховымі мураванымі дамамі.

**ВЯЛІКАЯ ДУБРАЎКА** — вёска ў Махаўскім с/с, за 32 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПдЗ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Чарнаўка (прыток р. Беліца). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 10 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Засн. ў ВКЛ ў 1604 г. Тады ў в. Дуброўнікі было 11 жыхароў, уваходзіла ў Асавецкае войтаўства Магілёўскага староства-эканоміі, з'яўлялася дзярж. уласнасцю. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. ў Старабыхаўскім павеце Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў в. Дуброўка 46 двароў, 321 жыхар. Меліся хлебазапасны магазін і школа граматы. У 1909 г. 49 двароў, 388 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «2-я пяцігодка». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 28 гаспадарак, 37 жыхароў, у складзе саўгаса «Махава» (цэнтр — в. Махава). У 1958 г. да вёскі далучаны пас. Чырвоны, у 1961 г. — в. Падазерск. Планіроўачна складаецца з 2 вуліц (адна прамалінейная, другая плаўна выгнутая), арыентаваных амаль мерыдыянальна і злучаных на Пд і Пн завулкамі. На Пн адасоблена праходзіць кароткая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ВЯЛІКІЯ БЯЛЕВІЧЫ** — вёска ў Семукацкім с/с, за 46 км на ПдЗ ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Чыстая Рэчка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Семукачы, Забароддзе і далей па шашы Бабруйск—Магілёў. 150 гаспадарак, 385 жыхароў (2007).

За 1,5 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Друць знаходзіцца стараж. курганны могільнік (24 насыпы), які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці.

Паводле рукапісных крыніц вёска вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1566 г. сяло Былевічы ў Магілёўскай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв., у часовым валоданні шляхціца. У 1580 г. сяло Бяловічы ў Магілёўскай воласці-старостве, аддадзена ў пажыццёвае валоданне памешчыку. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. сяло Вялікія Бялевічы ў Старабыхаўскім павеце. У 1784 г. ў Быхаўскім павеце, 37 двароў, 314 жыхароў. У 1858 г. мелася карчма, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 68 двароў, 466



*К.Р.Уладзіміраў.*

жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася калёсным, сталярным, бандарным, адыходным і кравецкім промысламі. У 1883 г. на сродкі сялян адкрыта школа. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 99 двароў, 698 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін, 2 піцейныя дамы. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. 125 двароў, 777 жыхароў. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, якой у 1924 г. быў перададзены нацыяналізаваны будынак. У 1925 г. ў школе навучалася 60 вучняў. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 168 двароў, 893 жыхары. У 1930-х г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 136 двароў, 654 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы дзейнічала камсамольская падп. арг-цыя. У чэрв. 1942 г. партызаны разграмілі вал. ўправу акупантаў, якая тут знаходзілася. У вёсцы і наваколлі некаторы час базіраваліся 113-ы партыз. атрад (са студз. 1944 г. полк) Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы і Магілёўскі падп. райком КП(б)Б. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 128 двароў, загубілі 16 жыхароў. На фронце загінулі 49 вяскоўцаў. У памяць аб іх у цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. З 1965 г. ў Семукацкім с/с. У 1990 г. 101 гаспадарка, 480 жыхароў, цэнтр саўгаса «Бялевічы». У вёсцы размяшчаліся майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, лесапільня, фермы буйной-рагатай жывёлы і свінагадоўчая, працавалі магазін, аддз. сувязі, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. цэнтр с.-г. прадпрыемства «Саўгас «Бялевічы», дзейнічалі комплекс дзіцячы сад—базавая школа, аддз. сувязі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Праект планіроўкі і забудовы вёскі распрацаваны ў 1984 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, да цэнтра якой з Пд падыходзіць перпендыкулярна кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У паўн. частцы мураваныя двухпавярховыя 4-кватэрныя і аднапавярховыя аднакватэрныя дамы. Вытв. сектар — на ПнЗ.

**ВЯСЁЛЫ** — пасёлак у Вендаражскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Магілёва, 1 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З мяжуе з лесам. На Пн цячэ ручай (прыток р. Жыварэзка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 15 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк камунізму» (цэнтр — в. Цішоўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАІ** — вёска ў Пашкаўскім с/с, за 9 км на Пн ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На У пачынаецца р. Дубравенка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў, якая праходзіць побач з вёскай. 51 гаспадарка, 101 жыхар (2007).

Паводле перапісу 1897 г. ў Рас. імперыі, аколіца, 10 двароў, 42 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 1924 г. ў Пашкаўскім с/с. У 1926 г. 14 двароў, 59 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая». Мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліп. 1941 г. каля вёскі, дзе



трымаў абарону батальён міліцыі на чале з капітанам К.Р.Уладзіміравым, адбываліся жорсткія баі супраць гітлераўцаў. З 250 абаронцаў у жывых засталося 19. Воіны, якія загінулі тут, пахаваны ў брацкай магіле на паўн. ускраіне. У 1990 г. 66 гаспадарак, 171 жыхар, у складзе калгаса імя В.Валадарскага (цэнтр — в. Новае Пашкава). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, паралельна да якой на ПнЗ праходзіць кароткая прамалінейная вуліца, злучаная завулкам з галоўнай. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — сад і гасп. сектар.

**ГАЛЛЁ** — былая вёска ў Нядашаўскім с/с, за 12 км на Пд ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць непадалёку ад вёскі.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Амхаўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Нядашаўскім с/с. У 1990 г. 12 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе саўгаса «Магілёўскі» (цэнтр — в. Амхавая 1). Планіровачна складалася з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і забудаванай двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАЛЫНЕЦ 1** — вёска і чыг. ст. Галынец на лініі Магілёў—Асіповічы, у Буйніцкім с/с, за 6 км на ПдЗ ад Магілёва. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Чарняўка (прыток р. Рудзея). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Іуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 197 гаспадарак, 472 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1679 г. сяло Галынцы, шляхецкая ўласнасць. У 1758 г. 12 двароў. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Старыя Буйнічы Магілёўскага павета, 18 двароў, 200 жыхароў. У 1848 г. цэнтр маёнтка. У 1858 г. мелася карчма. У 1880 г. 45 двароў, 187 жыхароў. Ва ўсіх дварах сяляне займаліся вырабам ільняной і пяньковай кудзелі і тканіны, а таксама посуду і розных быт. рэчаў з дрэва. У 1888 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. ў Вендаражскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 60 двароў, 401 жыхар. У 1909 г. 63 двары, 471 жыхар. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 90 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 185 двароў, 1127 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая». У 1931 г. пабудавана мураванае памяшканне для пач. школы. У 1932 г. вёска атрымала электрычнае асвятленне. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 24.1.1944 г. 121-ы партыз. полк разграміў варожы гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. Партызаны знішчылі каля 200 гітлераўцаў, спалілі 10 складоў, гараж і 9 аўтамашын. У гонар партызан 121-га палка каля будынка клуба пастаўлены абеліск. У 1990 г. 170 гаспадарак, 409 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк камунізму» (цэнтр — в. Цішоўка). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, працавалі комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, пач. школа, дзіцячы сад, магазін, клуб, аддз. сувязі. У 2007 г. дзейнічалі аддз. сувязі, клуб. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1979 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, ад паўд. канца якой на ПнЗ адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, пе-

раважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. За 1,5 км на Пд — чыг. ст. Галынец. На Пд — сад, на ПнЗ — гасп. сектар.

Радзіма Героя Сац. Працы З.П.Цітовай (1919—95).



З.П.Цітова.

**ГАЛЫНЕЦ 2** — вёска ў Буйніцкім с/с, за 7 км на З ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Галынец на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Чарняўка (прыток р. Рудзея). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Цішоўка і далей па шашы праз Магілёў. 66 гаспадарак, 138 жыхароў (2007).

Засн. ў 19 ст. ў Рас. імперыі ў выніку падзелу в. Галынец на вёскі Галынец 1 і Галынец 2. У 1880 г. 35 двароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Вендаражскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 38 двароў, 158 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся калёсным промыслам. У 1909 г. 42 двары, 189 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Маркса, які ў 1933 г. аб'ядноўваў 42 гаспадаркі. У 1932 г. вёска атрымала электрычнае асвятленне. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі вёску і разрабавалі яе маёмасць. Пасля вайны адрадзілася. У 1990 г. 96 гаспадарак, 243 жыхары, у складзе калгаса «Маяк камунізму» (цэнтр — в. Цішоўка). З 1969 г. ў Цішоўскім с/с. Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1979 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з прамалінейнай працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**ГАЛЯНІ 1** — вёска ў Нядашаўскім с/с, за 10 км на ПдУ ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Чарняўка (прыток р. Рудзея), якая цячэ на паўн. ускраіне вёскі. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 21 гаспадарка, 30 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 1560 г. як сяло Галянішчавічы-Галені ў Магілёўскай вол., 13 дымоў, дзярж. ўласнасць. У 1580 г. аддадзена ў пажыццёвае валоданне памешчыку, уваходзіла ў Магілёўскую воласць-староства Аршанскага павета Віцебскага ваяв. У 1604 г. сяло Галені налічвала 46 двароў. У 1635 г. ў Горбавіцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць, мелася царква. У 1742 г. дзейнічала карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў Чавускім павеце, 76 двароў, 487 жыхароў, казённая ўласнасць, дзейнічала пабудаваная з дрэва царква. У 1866 г. адкрыта школа, і ў тым жа годзе для яе пабудавана памяшканне. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. 97 двароў, 614 жыхароў, цэнтр воласці Чавускага павета Магілёўскай губ. Меліся хлебазапасны магазін, нар. вучылішча, багадзельня, царква. Непадалёку знаходзіліся аднайменны хутар (2 двары, 7 жыхароў), сядзіба (2 двары, 2 жыхары), карчма. У 1903 г. на паўд. ускраіне вёскі пабудавана мураваная Успенская царква, якая зараз з'яўляецца помнікам архітэктуры. У 1909 г. 115 двароў, 775 жыхароў. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 120 вучняў, дзейнічалі харавы і драматычны гурткі. У 1924 г. адкрыта ўрачэбная амбулаторыя. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 91 двор, 633 жыхары. У кастр. 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан», які ў 1931 г. аб'ядноўваў 29 гаспадарак, меў кузню. У 1936 г. ў пач. школе быў 161 вучань, у ліку якіх 58 піянераў, дзейнічала б-ка. У школе навучаліся дзеці з в. Галяні 1, хутароў Галяні, Чараноўка, Пятровічы, Антонаўка, Лякашчы, Грышаны.







*Успенская царква ў в. Галяні 1: агульны выгляд і фрагмент інтэр'ера.*

У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 76 гаспадарак, 117 жыхароў, у складзе саўгаса «Магілёўскі» (цэнтр — в. Амхавая 1). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі клуб, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных вуліц (адна працяглая, дзве кароткія), арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

Радзіма Героя Сац. Працы І.Я.Парфёненкі (н. ў 1929).

**ГАЛЯНІ 2** — вёска ў Нядашаўскім с/с, за 18 км на Пд ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 3 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. у выніку падзелу в. Галяні на вёскі Галяні 1 і Галяні 2. З 20.8.1924 г. ў Амхаўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 81 двор, 445 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан». Працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Нядашаўскім с/с. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 41 жыхар, у складзе саўгаса «Магілёўскі» (цэнтр — в. Амхавая), працаваў фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАРАДЗІШЧА** — вёска ў Семукацкім с/с, за 45 км на ПдЗ ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Друць на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПдУ мяжуе з лесам. На Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Семукачы, Заброддзе і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 83 гаспадаркі, 163 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1745 г. вёска ў Быхаўскім графстве, 36 двароў. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1858 г. сяло ў Быхаўскім павеце, 150 жыхароў мужчынскага полу, мелася карчма. У 1860 г. ад-

крыта нар. вучылішча, якое размяшчалася ў наёмным памяшканні, а ў 1906 г. для яго пабудавана памяшканне. Гаспадар маёнтка, які знаходзіўся побач, меў тут у 1870 г. 7793 дзес. зямлі і млын. У 1880 г. 76 двароў, 455 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася бандарным, кавальскім, адыходным, шавецкім і кравецкім промысламі. У 1889 г. ў школе навучалася 25 хлопчыкаў і 9 дзяўчынак, у 1908 г. — 59 хлопчыкаў і 11 дзяўчынак. Паводле перапісу 1897 г. цэнтр воласці, у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., 92 двары, 691 жыхар. Меліся хлебазапасны магазін, піцейны дом, царква. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. 115 двароў, 771 жыхар. Працаваў прыёмны пакой. Побач знаходзіліся аднайменныя фальварак (5 двароў, 22 жыхары, вядзёрная крама) і маёнтак (1 двор, 3 жыхары). Дзейнічалі заезны дом, Анінскі шкляны з-д. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. навучаліся 82 вучні. У 1919 г. было арганізавана с.-г. т-ва «Праца», якое налічвала 50 пайшчыкаў. У 1924 г. адкрыты хата-чытальня і б-ка. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 29.12. 1924 г. ў былым маёнтку Сіпайла створана с.-г. арцель «Адраджэнне». Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. сяло, 175 двароў, 1044 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Бальшавік». У 1930-х г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. было 284 вучні, у іх ліку 90 піянераў, 2 камсамольцы. У 1940 г. 182 двары, 743 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 30.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1942 г. партызаны разгромілі вал. ўпраўленне акупантаў, а ў вер. 1942 г. — паліцэйскі атрад іх, якія ў той час размяшчаліся ў вёсцы. Пазней у вёсцы і ваколіцы базіраваліся 113-ы партыз. атрад (да студз. 1944 г. полк) Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы і Магілёўскі падп. райком КП(б)Б. У вер. 1943 г. гітлераўцы спалілі 69 двароў, загубілі 138 жыхароў. У вёсцы 30.6.1944 г. асобны партыз. атрад 61-й, партыз. палкі 113-ы і 121-ы імя А.М.Касаева злучыліся з часцямі Чырвонай Арміі. У цэнтры вёскі пастаўлены помнік партызанам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1990 г. 158 гаспадарак, 232 жыхары, у складзе саўгаса «Колас» (цэнтр — в. Семукачы). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, зернедрабільня, працавалі магазін, аддз. сувязі, клуб, б-ка, 8-гадовая школа, бальніца, аптэка. У 2007 г. дзейнічалі ўрачэбная амбулаторыя, магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З — сад, на Пн — гасп. сектар.

**ГАРАДОК** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 34 км на ПдЗ ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Грэза (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

На зах. ускраіне вёскі захавалася стараж. гарадзішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці.

Вёска вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Уладальнік маёнтка меў тут у 1846 г. 1138 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. фальварак (4 двары, 14 жыхароў) у Глухаўскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Дзейнічалі вадзяны і ветраны млыны. У 1909 г. 3 двары, 22 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. створаны саўгас «Гарадок», які ўваходзіў у Магілёўскі свінагадоўчы трэст. У 1933 г. саўгас меў 6 трактароў і шмат іншай тэхнікі, працавалі кузня, вадзяны млын. У 1940 г. 9 двароў,



80 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1942 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 4 жыхароў. З 1975 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. 10 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе саўгаса «Дасовічы» (цэнтр — в. Дасовічы). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы шыротнай арыентацыі, якая ў цэнтр. частцы разрываецца забалочанай мясцовасцю. Забудавана двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАРАДОК** — вёска ў Буйніцкім с/с, за 1 км на Пд ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Буйнічы на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мяжуе з лесам. На У цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 72 гаспадаркі, 164 жыхары (2007).

На зах. ускраіне вёскі захавалася стараж. гарадзішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкім мінулым.

Сучасная вёска засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8. 1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1930 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 82 гаспадаркі, 292 жыхары, у складзе вучэбнай гаспадаркі СПТВ № 1 імя К.П.Арлоўскага (цэнтр — в.Буйнічы). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц, злучаных завулкамі і забудаваных двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**ГАРАДШЧЫНА** — вёска ў Буйніцкім с/с, за 4 км на З ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2 на лініі Магілёў—Асіповічы. 91 гаспадарка, 172 жыхары (2007). У 1994 г. 87 гаспадарак, 189 жыхароў.

**ГАРАНЫ** — вёска ў Пашкаўскім с/с, за 23 км на ПнЗ ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне — возера. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Хаткі, Сафіеўка і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 11 гаспадарак, 16 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1667 г. сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў Магілёўскім павеце, 16 двароў, 99 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1880 г. 29 двароў, 210 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася вырабам посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва. Паводле перапісу 1897 г. ў Таўпечыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 35 двароў, 249 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін, ветраны млын, школа граматы. У 1909 г. 41 двор, 262 жыхары. Побач былі аднайменныя хутар (2 двары, 12 жыхароў, піцейны дом) і пасёлак (5 двароў, 36 жыхароў). З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 26.7.1930 г. да 16.7. 1954 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 50 двароў, 265 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Іскра сацыялізму», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 64 гаспадаркі. У 1940 г. 67 двароў, 249 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з канца ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Партызаны разграмілі вал. ўпраўленне акупантаў, якое размяшчалася ў вёсцы. 15.9.1943 г. карнікі на танках і бронемашынах абкружылі вёску, сагналі дзяцей, старых і жанчын у лазню і ў дом калгасніцы Жогавай, абклалі гэтыя пабудовы саломай і запалілі. Загінула каля 300 вяскоўцаў і бежанцаў са Смаленшчыны. Яны пахаваны ў магіле ў вясковым скверы. Гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. У 1990 г. 11 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Рэчкі 1), працавалі клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж берага возера. Забудавана двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ГАРОДНЯ** — вёска ў Кадзінскім с/с, за 20 км на У ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам і цячэ р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Чавусы, якая праходзіць каля вёскі. 31 гаспадарка, 54 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1590-х г. як сяло ў Гарбавіцкай вол. Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У 1604 г. 30 двароў. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў Чавускім павеце, 20 двароў, 209 жыхароў, дварцовая ўласнасць. У 1818 г. 15 двароў, у валоданні Магілёўскай духоўнай кансісторыі. Паводле перапісу 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 36 двароў, 259 жыхароў, хлебазапасны магазін. У 1909 г. 40 двароў, 306 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Шчэжарскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7. 1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 26.6. 1954 г. ў Таранаўскім, з 2.8.1954 г. ў Дарскім, з 23.3.1983 г. ў Кадзінскім сельсаветах. У 1926 г. 51 двор, 332 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які абслугоўвала Лупалаўская МТС. Працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 48 гаспадарак, 91 жыхар, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Шчэжар 1). Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ, ад якой на Пд да шашы адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З — гасп. сектар, на Пд — сад.

**ГОРНАЯ ВУЛІЦА** — вёска ў Княжыцкім с/с, за 10 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 1. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам і цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Княжыцы і далей па шашы Магілёў—Мінск. 19 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1785 г. сяло, цэнтр маёнтка Магілёўскага павета, 3 двары, 36 жыхароў, уласнасць Княжыцкага кармеліцкага кляштара. У 1798 г. 12 двароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 30 двароў, 204 жыхары. У 1909 г. 36 двароў, 242 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 59 двароў, 281 жыхар. У кастр. 1929 г. арганізаваны калгас імя Леніна, які ў 1933 г. аб'ядноўваў 38 гаспадарак. Працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 39 гаспадарак, 76 жыхароў, у складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Сумарокава). Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — сад.

**ГРЫБАНЫ** — вёска ў Мастоцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 124 гаспадаркі, 393 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1635 г. сяло (38 двароў) у Плешчыцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 29 двароў, карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1847 г. ў складзе маёнтка Любуж у Магілёўскім павеце, 27 двароў, 144 жыхары, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 34 двары, 241 жыхар. Меліся хлебазапасны магазін і піцейны дом. У 1900 г. пабудавана памяшканне для школы. У 1909 г. 44 двары, 313 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 99 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 20.8.1924



г. ў Мастоцкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. створана масларобная арцель. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная перамога». Працавалі школа, кузня. У 1936 г. ў 7-гадовай школе было 199 вучняў, у іх ліку 56 піянераў, 5 камсамольцаў, дзейнічала б-ка. У школе навучаліся таксама дзеці з хутароў Грыбаны, Кругі, Пятровічы, Усягі, Тапары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час вызвалення вёскі загінулі 11 сав. воінаў, якія пахаваны на вясковых могілках. На фронце і ў партыз. атрадах загінулі 173 вяскоўцы. У 1990 г. 122 гаспадаркі, 282 жыхары, цэнтр калгаса імя Леніна. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, млын, лесапільня, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, працавалі магазін, клуб, б-ка, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, 8-гадовая школа, аўтаматычная тэлеф. станцыя, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. У 2007 г. цэнтр СВК «Магілёўскі лянок», дзейнічалі комплекс дзіцячы сад—базавая школа, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1978 г. ў Бел. н.-д. і праектным ін-це горадабудаўніцтва. Планіровачна складаецца з 4 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўн. ускраіне.

**ГРЫБАЧЫ** — вёска ў Пашкаўскім с/с, за 20 км на Пн ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ мяжуе з лесам, цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро), на зах. ускраіне — возера. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Рэчкі 1, Сафіеўка і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 37 гаспадарак, 68 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1858 г. вёска (54 рэвізскія душы) у Магілёўскім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. У 1880 г. 22 двары, 141 жыхар. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кушнерскім промыслам і вырабам розных быт. рэчаў з дрэва. Паводле перапісу 1897 г. ў Таўпечыцкай вол. Магілёўскага павета, 34 двары, 221 жыхар. Меліся хлебазапасны магазін, школа граматы. У 1909 г. 42 двары, 245 жыхароў. У 1913 г. адкрыта земская школа. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. былі 32 вучні, меўся драматычны гурток. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 75 двароў, 393 жыхары. З 1928 г. дзейнічала сыраробнае прадпрыемства. У 1933 г. арганізаваны калгас «2-я пяцігодка», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 23 гаспадаркі. Меліся нафтавы і ветраны млыны. У 1936 г. ў пач. школе навучалася 76 вучняў, дзейнічала б-ка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 70 гаспадарак, 186 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Рэчкі 1). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з 2 працяглых і адной кароткай, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Адасоблена на З праходзіць кароткая прамалінейная вуліца, арыентаваная мерыдыянальна, уздоўж возера. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне каля мясц. дарогі — гасп. сектар.

**ГУБАНАЎ** — пасёлак у Вяйнянскім с/с, за 9 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На З цячэ р. Дзягцярка (Вільчанка). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 33 гаспадаркі, 94 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-

фаш. захопнікамі. У 1990 г. 25 гаспадарак, 93 жыхары, у складзе саўгаса «Вяйнянскі цяплічны камбінат» (цэнтр — в. Вейна). Вуліца мерыдыянальнай арыентацыі забудавана двухбакова, шчыльна. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На У ад вёскі размешчаны цяпліцы і ферма буйной рагатай жывёлы.

**ГУСЛІШЧА** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 17 км на ПдЗ ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Галынец на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн і Пд мяжуе з лесам. На З цячэ р. Лахва (прыток р. Днярпо). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гуслянка і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 65 гаспадарак, 182 жыхары (2007).

За 0,5 км на ПнУ ад вёскі захаваўся курганны могільнік, які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці.

Вёска вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло ў Інструбіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць, 21 двор. У 1635 г. 36 двароў, 2 млыны. У сувязі з голадам і эпідэміяй у 1671 г. вёска пуставала, а затым заселена татарскімі сем'ямі. У 1742 г. 11 двароў. Непадалёку знаходзіўся маёнтак Гуслішча (6 двароў, 33 жыхары), дзейнічаў вадзяны млын. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. сяло (29 двароў, 178 жыхароў) у складзе маёнтка Забалацце Магілёўскага павета Магілёўскага намесніцтва, меліся млын і сукнавальня. У 1847 г. цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце, уласнасць памешчыка, які меў тут у 1861 г. 1429 дзес. зямлі і млын. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 21.8.1925 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. 7.5.1926 г. арганізавана с.-г. арцель «Гуслішча», якая пазней атрымала назву «Чырвоны сцяг». Працавалі кузня, шавецкая майстэрня, пач. школа, у якой у 1936 г. было 124 вучні, і б-ка. У 1937 г. створана Гуслішчанская МТС, якая ў 1938 г. мела 17 трактароў (рэарганізавана 31.3.1958). У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. партызаны разграмілі варожы гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. На вясковых могілках пахавана партызанка Н.М.Зайцава, закатаваная гітлераўцамі 15.5.1944 г. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 115 вяскоўцаў. У памяць аб іх у цэнтры вёскі пастаўлена стэла. У 1990 г. 65 гаспадарак, 171 жыхар, у складзе калгаса «Маяк камунізму». Размяшчаліся комплексная брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, прамкамбінат, лясніцтва, працавалі 8-гадовая школа, магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка. У 2007 г. дзейнічалі аддз. сувязі і фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, ад якіх на Пд далучаецца кароткая прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размяшчаюцца на З, сярод жылой забудовы. Тут жа ўзведзены мураваныя двухпавярховыя 8-кватэрныя жылыя дамы. Гасп. сектар — на паўд. ускраіне, у пойме ракі. Паблізу вёскі, на Пд знаходзяцца т-вы садаводаўаматараў.

**ГУСЛЯНКА** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 15 км на ПдЗ ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Галынец на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Красніца 1 і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 18 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

За 0,5 км на ПдЗ ад вёскі, каля могілак, знаходзіцца курганны могільнік, які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці.

Вёска вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. сяленне Гуслянка (яно ж Новы Бейрут, 18 двароў, 114 жыхароў) у Вендаражскай вол. Магілёў-



скага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 23 двары, 129 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Навасёлкаўскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 38 двароў, 208 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Сялецкім, з 24.6.1960 г. ў Цішоўскім, з 1963 г. ў Вендаражскім сельсаветах. У 1990 г. 39 гаспадарак, 40 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк камунізму» (цэнтр — в. Цішоўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАБРАСНЕВІЧЫ** — вёска ў Буйніцкім с/с, за 9 км на З ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Галынец на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро), на Пд — яе прыток р. Чарняўка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы праз г. Магілёў. 34 гаспадаркі, 64 жыхары (2007).

Каля вёскі, на левым беразе р. Лахва, размешчаны курганны могільнік; за 0,9 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Лахва — паселішча 10—12 ст. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці.

Вёска вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1667 г. сяло ў Аршанскім павеце. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. сяло Дабрусневічы ў Магілёўскім павеце, 16 двароў, 132 жыхары, уласнасць памешчыка. Працавалі млын і сукнавальня. Паводле перапісу 1897 г. ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета, 24 двары, 180 жыхароў. Меліся вадзяны млын, школа граматы, заезны дом. Непадалёку знаходзіўся маёнтак (1 двор, 8 жыхароў). У 1907 г. адкрыта земская школа, для якой у 1914 г. пабудавана памяшканне. У 1908 г. ў школе навучаліся 28 хлопчыкаў і 18 дзяўчынак. У 1909 г. ў сяле 28 двароў, 235 жыхароў, у маёнтку — 1 двор, 1 жыхар. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 42 вучні, дзейнічаў драматычны гурток. У 1921 г. пачало дзейнічаць с.-г. т-ва, у якое ўваходзілі 59 гаспадарак. У снеж. 1922 г. ў былым маёнтку арганізавана каап. гаспадарка, а 2.4.1923 г. — с.-г. арцель. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8. 1924 г. да 16.7. 1954 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 50 двароў, 378 жыхароў. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У лютым 1930 г. арганізаваны калгас «Парыжская Камуна», які ў 1931 г. аб'ядноўваў 55 гаспадарак. У 1932 г. вёска атрымала электрычнае асвятленне. У 1930-я г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. было 247 вучняў, у іх ліку 110 піянераў, мелася б-ка. У 1940 г. 60 двароў, 203 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1941 г. партызаны разграмілі паліцэйскі ўчастак, які размяшчаўся ў вёсцы. У кастр. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 28 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 48 гаспадарак, 113 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк камунізму» (цэнтр — в. Цішоўка). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі аддз. сувязі, магазін. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, паралельна да якой на ПнЗ праходзіць прамалінейная кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**ДАРЫ** — вёска ў Нядашаўскім с/с, за 8 км на У ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Чавусы, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 37 гаспадарак, 56 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло Доры (27 двароў) у Вяйнянскім войтаўстве

Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Вільчыцы Магілёўскага павета Магілёўскага намесніцтва, 38 двароў, 250 жыхароў, дварцовая ўласнасць. У 1834 г. 117 жыхароў. У 1850 г. 32 двары, 183 жыхары, уласнасць памешчыка, меўся шынок. У 1880 г. 50 двароў, 283 жыхары, уласнасць памешчыка, дзейнічала карчма. Частка вяскоўцаў займалася сталярным промыслам. Тут размяшчалася паштовая станцыя на тракце Магілёў—Чэрыкаў—Краснаполле, якая мела 14 коней. У 1892 г. адкрыта школа, для якой у 1905 г. пабудавана памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. сяло Дары (67 двароў, 468 жыхароў, хлебазапасны магазін, піцейны дом) і паштовая ст. Дары (1 двор, 6 жыхароў, кузня). У 1909 г. 85 двароў, 650 жыхароў. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 105 вучняў, у іх ліку 3 камсамольцы. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 154 двары, 917 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна, першым старшынёй якога быў рабочы Магілёўскай швейнай ф-кі А.Мільто. У 1936 г. ў пач. школе навучалася 111 вучняў. У школе навучаліся таксама дзеці з хутара Дары і пас. Таранова, дзейнічала б-ка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1969—84 гг. цэнтр сельсавета. У 1990 г. 74 гаспадаркі, 156 жыхароў, у складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Падгор'е). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі магазін, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі. Пладіровачна складаецца з 3 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПнУ на ПдЗ і злучаных завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДАСОВІЧЫ** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць побач з вёскай. 21 гаспадарка, 30 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1562 г. як сяло ў Магілёўскай вол. Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1566 г. аддадзена ў часовае валоданне шляхціцу. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. сяло ў Старабыхаўскім павеце Магілёўскай губ. У 1784 г. 69 двароў, 464 жыхары. У 1858 г. вёска з'яўлялася ўласнасцю царквы. У 1876 г. адкрыта земская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. Паводле перапісу 1897 г. 93 двары, 798 жыхароў. Меліся драўляная царква (адкрыта не пазней 1880), хлебазапасны магазін, піцейны дом. Штогод 23 крас. праводзіўся кірмаш. У 1909 г. ў Глухўаскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 111 двароў, 664 жыхары. Паблізу знаходзіліся в. Досаў (21 двор, 118 жыхароў), яшчэ адна в. Дасовічы (10 двароў, 68 жыхароў) і фальварак Досаў (1 двор, 5 жыхароў). На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 93 вучні, дзейнічалі драмгурток і гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 180 двароў, 940 жыхароў. У вер. 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», які ў 1931 г. аб'ядноўваў 54 гаспадаркі, меў трактар, кузню і смалакурны з-д. У 1930-я г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. было 288 вучняў, у іх ліку 123 піянеры, 4 камсамольцы, дзейнічала б-ка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. партызаны разграмілі паліцэйскі ўчастак, які размяшчаўся ў вёсцы. У баі за вызваленне вёскі загінулі 87 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай



магіле на зах. ускраіне. З 1973 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. 49 гаспадарак, 97 жыхароў, цэнтр саўгаса «Дасовічы». У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, зернедрабільня, лесапільня, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі фельч.-акушэрскі пункт, магазін, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, 8-гадовая школа, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка. У 2007 г. дзейнічалі клуб, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1985 г. ў Бел. н.-д. і праектным ін-це горадабудаўніцтва. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**ДАШКАЎКА** — вёска і чыг. станцыя на лініі Магілёў—Жлобін, цэнтр сельсавета (з 20.8.1924), за 18 км на Пд ад Магілёва. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Дняпро, а праз вёску — яе прыток р. Даска. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Быхаў, якая праходзіць праз вёску. 25 гаспадарак, 1528 жыхароў (2007).

За 0,3 км на Пн ад вёскі размешчана гарадзішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі, за 1 км на Пн ад вёскі, на правым беразе Дняпра — гарадзішча і паселішча, а за 1,5 км на Пн ад вёскі — стаянка каменнага веку. Гэтыя помнікі археалогіі сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці.

Вёска вядома ў ВКЛ з 1597 г. як сяло, засн. князем Багданам Саламярэцкім, старостай крычаўскім і слуцкім. У гэтым жа годзе тут быў пакладзены пачатак будаўніцтву царквы. У 1604 г. сяло (22 двары) у Вяйнянскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі, дзярж. ўладанне. У 1758 г. мястэчка ў Быхаўскім графстве, 50 двароў, уласнасць памешчыка. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У гонар рус. войск, якія 21—23.7.1812 г. ўдзельнічалі ў бітве супраць французскіх войск каля в. Салтанаўка, на будынку канторы Магілёўскай абл. с.-г. дзярж. доследнай станцыі ўстаноўлена мемарыяльная дошка. Падчас бою паміж рус. і французскімі войскамі 23.7.1812 г. ў вёсцы размяшчаўся гал. перавязачны пункт рус. войск. У 1827 г. мястэчка, 535 жыхароў, у 1860 г. 75 двароў, 661 жыхар. Мястэчка з'яўлялася цэнтрам маёнтка, гаспадару якога ў 1831 г. належалі 3523 дзес. зямлі, 2 млыны, сукнавальня, 4 карчмы. У 1880 г. 138 двароў, 481 жыхар. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім, сталярным, ганчарным, кавальскім промысламі. Адзін вясковец займаўся вырабам скрыпак. Меліся мураваная і драўляная цэркві. У 1885 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1889 г. ў школе навучаліся 40 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка, у 1907 г. — 40 хлопчыкаў і 7 дзяўчынак. Паводле перапісу 1897 г. 195 двароў, 1197 жыхароў. Дзейнічалі царква, нар. вучылішча, пераходная прыстань, хлебазапасны магазін, 2 кузні, млын, маслабойня, крупадзёрка, 10 крам, 3 заезныя дамы, этапны дом, карчма. Побач былі фальварак Дашкаўка (4 двары, 13 жыхароў, вадзяны млын) і вартоўня Дашкаўка (2 двары). У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. ў мястэчку 120 двароў,

*Сядзібны дом у в. Дашкаўка. Пач. 20 ст.*



757 жыхароў, былі адкрыты прыёмны пакой і малітоўны дом. За 1 вярсту ад вёскі знаходзілася ст. Дашкаўка на Рыга-Арлоўскай чыгунцы. У фальварку было 3 двары, 23 жыхары, пры Дашкаўскай царкве — 2 двары, 9 жыхароў. Напярэдадні Кастр. рэвалюцыі 1917 г. былі адкрыты 4-класная царк.-прыходская школа і сельская бальніца. У пач. 1918 г. створаны Дашкаўскі савет. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 102 вучні, у іх ліку 35 піянераў. Дзейнічаў драмгурток. 5.5.1920 г. створана с.-г. арцель, у якую першапачаткова ўваходзіла 8 гаспадарак, 18.6. 1922 г. — т-ва з 51 гаспадаркай. У 1923 г. арганізаваны саўгас «Дашкаўка», які меў садова-агародны гадавальнік, 440 га зямлі, набыў у 1925 г. трактар. У 1924 г. адкрыты ўрачэбная амбулаторыя, б-ка і хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Вяскоўцы актыўна адгукнуліся на заклік дапамагчы ў асваенні новых зямель у іншых раёнах краіны. У 1925 г. створана перасяленчае т-ва з 7 сямей, а затым яшчэ адно з 11 сямей, якія перасяліліся ў Таўрычаскую губ. (Украіна). Калектыў перасяленцаў пад назвай «Ленінскі наказ» з 10 сямей накіраваўся ў Амурскую вобл. (Расія). У 1926 г. 147 двароў, 920 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». 1.5.1932 г. на паўд. ускраіне быў закладзены сад на пл. 10 га, які атрымаў назву «Першамайскі». У 1932 г. ў саўгасе быў абсталяваны радыёвузел. В 1933 г. вёска атрымала электрычнае асвятленне. У канцы 1920-х г. пач. школа стала 7-гадовай, а ў 1930-я г. — сярэдняй, у якой у 1936 г. было 404 вучні, у іх ліку 130 піянераў, 12 камсамольцаў, меліся б-ка, радыёпрыёмнік. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях за вызваленне вёскі вызначыліся камандзір сапёрнага ўзвода старшы лейтэнант М.Е.Волкаў і камандзір сапёрнага аддзялення сяржант І.В.Чашчарын, якія ўдастоены звання Героя Сав. Саюза. На вясковых могілках пахаваны 36 сав. воінаў, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. Сярод іх Герой Сав. Саюза Ш.Шаімаў. За 1,2 км на ПдУ ад вёскі ў лесе ў агульнай магіле пахаваны жыхары в. Дашкаўка, якіх гітлераўцы расстралялі 20.9.1941 г. У парку пастаўлена стэла на ўшанаванне памяці 28 вяскоўцаў, што загінулі на фронце. У 1990 г. 707 гаспадарак, 2009 жыхароў, цэнтр калгаса «Чырвоная зорка». У вёсцы размяшчаліся абл. с.-г. эксперыментальная база «Дашкаўка», Магілёўская абл. станцыя па хімізацыі сельскай гаспадаркі, філіял Гомельскага з-да будаўнічых дэталей, вытв. брыгада калгаса, устаноўка па прыгатаванні вітамінная мукі, млын, сталярна-тэхн. майстэрні, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, лесапільня, працавалі 5 магазінаў, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. ашчаднага банка, клуб, кінатэатр, б-ка, сярэдняя і муз. школы, яслі-сад, бальніца, аддз. сувязі, сталовая, сельскае спажывецкае т-ва. У 2000-я г. на базе вёскі створаны аграгарадок. У 2007 г. размяшчаліся Магілёўская абл. праектна-доследная станцыя аграхімізацыі, РУСП «Эксперыментальная база «Дашкаўка», Магілёўская абл. с.-г. доследная станцыя Нац. акадэміі навук Беларусі. Дзейнічалі сярэдняя школа, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, участковая бальніца, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 магазіны. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1984 г. ін-там «БелНДІгіпрасельбуд». Планіровачна складаецца з 5 прамалінейных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных кароткімі прамалінейнымі вуліцамі (адна з іх — адрэзак шашы) і завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдЗ будаўніцтва вядзецца двухпавярховымі і тыпу катэджаў мураванымі дамамі. Грамадскія будынкі — сярод жылой забудовы.



**ДЗЯДКІ** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 38 км на ПдЗ ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На З цячэ р. Арлянка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Навасёлкаўскім, з 21.8.1925 г. ў Гуслішчанскім сельсаветах Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 26.6.1954 г. ў Дасовіцкім, з 1973 г. ў Заводскаслабодскім сельсаветах. У 1926 г. 13 двароў, 71 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік». Мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 16 гаспадарак, 23 жыхары, у складзе саўгаса «Барок» (цэнтр — в. Завадская Слабада). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У — сад.

**ДНЕПР** — вёска ў Палыкавіцкім с/с, за 5 км на Пн ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 17 гаспадарак, 44 жыхары (2007).

У пач. 1930-х г. жыхары в. Палыкавічы 2 арганізавалі ва ўрочышчы Журавінка цагельна-чарапічную арцель, якая вырабляла цэглу, чарапіцу, ганчарны посуд. Пазней арцель вырасла ў цагельны з-д «Днепр», каля якога будаваўся пасёлак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. пасёлак акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 21.1.1969 г. вёска. У 1990 г. 39 гаспадарак, 118 жыхароў, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Мікалаеўка 2), працаваў цагельны з-д. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з З і ПнЗ далучаюцца 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДОСАВА СЯЛІБА** — вёска ў Дашкаўскім с/с, за 23 км на Пд ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на Пд і З мяжуе з лесам. На У цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць побач з вёскай. 18 гаспадарак, 31 жыхар (2007).

За 0,3 км ад вёскі, абапал дарогі на в. Боўшава, размешчаны стараж. курганны могільнік, а на паўн. ускраіне, на правым беразе р. Лахва — паселішча эпохі Кіеўскай Русі. Гэтыя археал. помнікі сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці.

Вёска вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1857 г. вёска ў Быхаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 25 жыхароў мужчынскага полу. З 17.7. 1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У канцы 1920-х г. адкрыта пач. школа. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 11 вяскоўцаў. У 1990 г. 50 гаспадарак, 83 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоная зорка» (цэнтр — в. Дашкаўка), працаваў магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай шыротна, уздоўж ракі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДРАБІНШЧЫНА** — былы пасёлак у Княжыцкім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 1. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Булыжыцы, Княжыцы і далей па шашы Магілёў—Мінск.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Бракаўскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі

(да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 9 двароў, 50 жыхароў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Княжыцкім с/с. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 62 жыхары, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Бракава). Планіроўка Г-падобная. Больш працяглая прамалінейная вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Да яе паўн. канца далучаецца з ПдУ кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнУ размяшчаецца калгасны жывёлагадоўчы комплекс.

**ДУБІНКА** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 18 км на З ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Міхалёва, Дабрасневічы і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 41 гаспадарка, 135 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1759 г. сяло, дзярж. ўласнасць. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Будзішча Магілёўскага павета, 4 двары, 29 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1847 г. цэнтр маёнтка, уласнасць памешчыка. У 1858 г. 30 рэвізскіх душ, у складзе аднайменнага маёнтка, гаспадар якога меў тут у 1861 г. 693 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. сяло Дубінка Старая (17 двароў, 125 жыхароў) у Вендаражскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. Мелася вінная крама. Побач была в. Дубінка Новая, 36 двароў, 227 жыхароў. У 1909 г. ў Старой Дубінцы 20 двароў, 145 жыхароў, у Новай Дубінцы 49 двароў, 283 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў в. Дубінка Старая 24 двары, 135 жыхароў, у в. Дубінка Новая 62 двары, 343 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг». У канцы 1930-х г. вёскі Дубінка Старая і Дубінка Новая злучыліся ў адну в. Дубінка. У 1940 г. 83 двары, 409 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Непадалёку ад вёскі базіраваўся 121-ы партыз. полк імя А.М.Касаева. У брацкіх магілах, што на вясковых могілках, пахаваны партызаны, якія загінулі ў баях супраць акупантаў. 18.2.1943 г. гітлераўцы сагналі 186 жыхароў у 2 гумны і спалілі жывымі. Яны пахаваны ў магіле на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі. У цэнтры вёскі пахаваны сав. воін, які загінуў у баі за вызваленне вёскі. У 1990 г. 42 гаспадаркі, 111 жыхароў, у складзе калгаса «Герой працы» (цэнтр — в. Міхалёва). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, працаваў клуб. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнЗ на ПдУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры знаходзіцца невял. парк, дзе ўзведзены курган на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. Гасп. сектар — на паўн.-ўсх. ускраіне.

**ДУБІНКА 1** — вёска ў Нядашаўскім с/с, за 13 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Шчацінка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 23 гаспадаркі, 32 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1635 г. абруб у Вяйнянскім войтаўстве Магілёўскай вол. Магілёўскай эканоміі, дзярж. ўласнасць. У 1643 г. дзейнічаў млын. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. вёска ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 6 двароў, 38 жыхароў, дварцовая ўласнасць. У 1858 г. 55 рэвізскіх душ, меўся шынок. Паводле перапісу 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага пав., 34 двары, 258 жыхароў, хлебазапасны магазін, школа граматы. У 1909 г. 43 двары, 232 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Амхаўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. ў школе (з 1923 г. ў новым памяшканні) было 56



вучняў — дзяцей з вёсак Дубінка 1, Нядашава, Старына. У 1926 г. 72 двары, 470 жыхароў. У 1933 г. арганізаваны калгас «Чырвоны пераменнік». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях за вызваленне вёскі загінулі 26 воінаў 329-га палка 70-й стралк. дывізіі, якія пахаваны на могілках. З 26.6.1954 г. ў Нядашаўскім с/с. У 1990 г. 77 гаспадарак, 126 жыхароў, у складзе саўгаса «Магілёўскі» (цэнтр — в. Амхавая 1). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, працавалі магазін, клуб. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных кароткімі папярочнымі прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма Героя Сав. Саюза М.Я.Раманькова (1926—66), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў баях на тэр. Усходняй Прусіі.

**ДУБІНКА 2** — вёска ў Нядашаўскім с/с, за 14 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 19 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 26 гаспадарак, 46 жыхароў, у складзе саўгаса «Магілёўскі» (цэнтр — в. Амхавая 1). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, да якіх з У далучаецца кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ДУБРАЎКА** — пасёлак у Заводскаслабодскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на У і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць побач з вёскай. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Дасовіцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 10 двароў, 52 жыхары. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1973 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. 7 гаспадарак, 13 жыхароў, у складзе саўгаса «Дасовічы» (цэнтр — в. Дасовічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*М.Я.Раманькоў.*

**ДУБРОВА** — былая вёска ў Княжыцкім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Магілёў 1. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Княжыцы і далей па шашы Магілёў—Мінск.

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Бракаўскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1933 г. арганізаваны калгас імя М.Горкага, які першапачаткова аб'ядноўваў 16 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Княжыцкім с/с. У 1990 г. 17 гаспадарак, 46 жыхароў, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Бракава). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЖАБІН** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 1. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Завадская Слабада, Навасёлкі і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 2 гаспадаркі, 2 жыхары (2007).




Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1765 г. слабада, 5 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1769 г. 5 двароў, 12 жыхароў, карчма. У 1786 г. 7 двароў, 50 жыхароў, уласнасць памешчыка. З 1772 г. ў Рас. імперыі. З 20.8.1924 г. ў Навасельскім 2, з 25.8.1925 г. ў Гуслішчанскім сельсаветах Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі, з 26.6.1954 г. ў Дасовіцкім, з 6.4.1973 г. ў Завадскаслабодскім сельсаветах. У 1990 г. 5 гаспадарак, 6 жыхароў, у складзе саўгаса «Барок» (цэнтр — в. Завадская Слабада). Традыц. драўляныя сял. сядзібы пастаўлены няшчыльна ўздоўж кароткай прамалінейнай амаль шыротнай арыентацыі вуліцы.

**ЖАБІН ПАЎНОЧНЫ** — былая вёска ў Вендаражскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам і праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Жыварэзка (прыток р. Лахва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 17 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк камунізму» (цэнтр — в. Цішоўка). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЖУКАВА** — вёска ў Пашкаўскім с/с, за 12 км на Пн ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам і цячэ р. Дубравенка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў, якая праходзіць каля вёскі. 52 гаспадаркі, 90 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1635 г. сяло ў Брылёўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 13 двароў. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. ў Магілёўскай акрузе Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Палыкавічы Магілёўскага павета, 18 двароў, 127 жыхароў, уласнасць памешчыка. У канцы 18 — 1-й пал. 19 ст. ўласнасць Магілёўскага епіскапата. У 1834 г. 12 двароў, 76 жыхароў, дзярж. ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 38 двароў, 248 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін, школа граматы, якая ў 1911 г. ператворана ў царк.-прыходскую, а ў 1917 г. — у земскую. Побач стаялі 2 аднайменныя сядзібы (4 двары, 32 жыхары). У 1909 г. 45 двароў, 307 жыхароў. Мясц. памешчыку ў гэты час тут належала 508 дзес. зямлі. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 87 вучняў, дзейнічаў драматычны гурток. 10.7.1920 г. арганізавана с.-г. арцель «Усход 2», у якую ўваходзілі 17 гаспадарак. З 20.8.1924 г. ў Пашкаўскім с/с. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 85 двароў, 437 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 75 гаспадарак, 193 жыхары, у складзе калгаса імя В.Валадарскага (цэнтр — в. Новае Пашкава). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, перпендыкулярна да якой на Пн праходзяць 3 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**ЖУРАВЕЦ 1** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 25 км на З ад Магілёва, 9 км ад чыг.



ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд і З мяжуе з лесам. На ПдЗ цячэ р. Сянна. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Журавец 2, Вендараж і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 6 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце. У 1785 г. цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце, 11 двароў, 78 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1847 г. 9 двароў, 40 жыхароў. У 1858 г. мелася карчма. Памешчык меў тут у 1874 г. 247 дзес. зямлі. У 1880 г. 17 двароў, 60 жыхароў. Ва ўсіх дварах сяляне займаліся вырабам ільняной і пяньковай кудзелі і тканіны, а таксама посуду і розных быт. рэчаў з дрэва. Паводле перапісу 1897 г. ў Вендаражскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 24 двары, 188 жыхароў. У 1909 г. 35 двароў, 208 жыхароў. На базе дарэвалюцыйнай была створана прац. школа 1-й ступені, у 1924 г. для яе ўзведзены будынак, у 1925 г. навучаліся 25 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 60 двароў, 307 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.Ланцуцкага. У 1936 г. ў пач. школе 93 вучні, дзейнічала б-ка. У 1940 г. 55 двароў, 248 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1943 г. карнікі спалілі 43 двары, загубілі 29 жыхароў. У вёсцы і наваколлі базіраваўся 121-ы партыз. атрад (з ліст. 1943 г. полк) Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы. У 1990 г. 24 гаспадаркі, 42 жыхары, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). Размяшчаліся вытв. аддзяленне, ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, няшчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З — гасп. сектар.

**ЖУРАВЕЦ 2** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 26 км на З ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На ПдЗ цячэ р. Сянна (Жыварэзка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вендараж, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1897 г. ваколіца Журавец, 27 двароў, 157 жыхароў, вадзяны млын. У 1909 г. ў Вендаражскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 30 двароў, 183 жыхары. У 1917 г. адкрыта земская школа. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 24.6.1926 г. ў Хрыпялёўскім с/с. У 1926 г. ваколіца, 14 двароў, 64 жыхары. У 1930 г. вяскоўцы ўступілі ў калгас імя С.Ланцуцкага. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і наваколлі базіраваўся 121-ы партыз. атрад (з ліст. 1943 г. полк) Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы. З 26.6.1954 г. ў Вендаражскім с/с. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 36 жыхароў, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). Планіровачна складаецца з 2 амаль паралельных паміж сабой вуліц (адна прамалінейная, другая крывалінейная), арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Пашкаўскім с/с, за 15 км на Пн ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сафіеўка і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 33 гаспадаркі, 52 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска Забалацце Вялікае ў Магілёўскім павеце. У 1785 г. сяльцо (16 двароў, 78 жыхароў), цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце, уласнасць памешчыка і кармеліцкага кляштара. У 1818 г. 8 двароў, 44 жыхары, уласнасць Магілёўскай духоўнай

кансісторыі. У 1848 г. побач знаходзілася в. Малое Забалацце, 5 двароў, 48 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Вялікае Забалацце (20 двароў, 156 жыхароў), Малое Забалацце, яна ж Самадумаўка (9 двароў, 94 жыхары), Забалацце Казённае, яно ж Ніжнія Лужкі (19 двароў, 147 жыхароў) і сядзіба Забалацце (1 двор, 8 жыхароў). У в. Вялікае Забалацце мелася школа граматы, якая ў пач. 20 ст. ператворана ў нар. вучылішча. У 1907 г. ў ім навучаліся 42 хлопчыкі і 3 дзяўчынкі. У 1909 г. ў в. Вялікае Забалацце было 30 двароў, 198 жыхароў, у в. Малое Забалацце — 17 двароў, 87 жыхароў, у Забалацці Казённым — 24 двары, 146 жыхароў. У 1922 г. былая гарэлачная крама перабудавана пад школу. У 1925 г. ў школе навучаліся 42 вучні, дзейнічаў драмгурток. З 20.8.1924 г. ў Гаранскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэвалюцыйнай створана прац. школа 1-й ступені. У 1931 г. школе перададзены нацыяналізаваны будынак. У 1926 г. хутары Вялікае Забалацце (45 двароў, 282 жыхары), Казённае Забалацце (35 двароў, 207 жыхароў) і Малое Забалацце (26 двароў, 145 жыхароў). У 1930 г. арганізаваны калгас «Іскра сацыялізму». У 1936 г. ў пач. школе былі 102 вучні, б-ка. У 1939 г. за высокія паказчыкі ў вытв-сці прадуктаў жывёлагадоўлі загадчык фермы Ф.А. Баранаў стаў удзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. У 1930-я г. Вялікае Забалацце, Малое Забалацце і Казённае Забалацце склалі адну в. Забалацце. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 77 гаспадарак, 193 жыхары, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Рэчкі 1). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі пач. школа, б-ка, магазін, клуб. Планіровачна складаецца з паўн. (прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ) і паўд. (3 кароткія прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ і злучаныя ў цэнтры перпендыкулярна кароткай прамалінейнай вуліцай) частак, размежаваных невял. тэрыторыяй. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.


*М.Янчанка.*

Радзіма бел. пісьменніка М.Янчанкі (1931–2000).

**ЗАБАЛАЦЦЕ** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПдУ мяжуе з лесам, цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 12 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1563 г. як сяло ў Магілёўскай вол., аддадзенае ў часовае валоданне шляхціцу. У 1604 г. ў Інструбіцкім войтаўстве Аршанскага павета, 32 двары. У 1635 г. мелася царква. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. цэнтр маёнтка, 16 двароў, 101 жыхар, дзярж. ўласнасць. У 1832 г. ўласнасць памешчыка. У 1909 г. ў Вендаражскай вол. Магілёўскага павета, 35 двароў, 208 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 1924 г. ў Дасовіцкім с/с. У 1926 г. вёска, 74 двары, 413 жыхароў. Дзейнічала пач. школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1975 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. 32 гаспадаркі, 45 жыхароў, у складзе саўгаса «Дасовічы» (цэнтр — в. Дасовічы). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі клуб, магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**ЗАБОР'Е** — вёска ў Княжыцкім с/с, за 8 км на З ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На У цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Шчэгліца і далей па шашы Магілёў—Мінск. 14 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).



Вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло ў Гарбавіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., казённая ўласнасць, налічвала 9 двароў. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Масальшчына Магілёўскага павета, 20 двароў, 91 жыхар, шляхецкая ўласнасць. У 1847 г. 10 двароў, 78 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 25 двароў, 150 жыхароў. Дзейнічала школа граматы. У 1909 г. 24 двары, 134 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. ў Княжыцкім с/с. У 1930 г. арганізаваны калгас «XVII партз'езд», працавала кузня, выраблялiся калёсы і колы. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 20 гаспадарак, 57 жыхароў, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Нікіцінічы). Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма Героя Сац. Працы Л.В.Аўсеенкі (1914—?).

**ЗАВАДСКАЯ СЛАБАДА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 35 км на ПдЗ ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд мяжуе з лесам. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Арлянка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 189 гаспадарак, 581 жыхар (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. вёска (18 двароў, 132 жыхары) у Быхаўскім павеце Магілёўскай губ. Непадалёку знаходзіўся Заводскі Хутар, 3 двары, 19 жыхароў. У 1909 г. засценак (14 двароў, 174 жыхары) і хутар (3 двары, 4 жыхары) у Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. вёска, 44 двары, 300 жыхароў. У 1933 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на зах. ускраіне, пахаваны 30 сав. ваеннапалонных і жыхароў вёскі, якіх у 1941 г. гітлераўцы спалілі жывымі. Вёска была спалена і разрабавана. На фронце загінулі больш за 30 вяскоўцаў, у памяць аб іх у цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. З 6.4.1973 г. цэнтр сельсавета. У 1990 г. 149 гаспадарак, 464 жыхары, цэнтр саўгаса «Барок», працавалі магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі. У 2007 г. цэнтр камунальнага с.-г. прадпрыемства «Саўгас «Барок», працавалі аддз. сувязі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1985 г. Бел. н.-д. і праектным ін-там горадабудаўніцтва. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якая перасякаецца крывалінейнай з завулкамі вуліцай, арыентаванай амаль шыротна. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На злучэнні вуліц — грамадскі цэнтр, дзе размешчаны невялікі парк і плошча. У ансамбль забудовы цэнтра ўваходзяць мураваны будынак сельсавета, а таксама мураваныя двухпавярховыя 8—12-кватэрныя жылыя дамы па вул. Камсамольскай. Па вул. Ніжняй узведзены 11 мураваных дамоў сядзібнага тыпу з кватэрамі на 2 узроўнях. Вытв. сектар — на ПдУ.



*Л.В.Аўсеенка.*

**ЗАВЯРЭЖЖА** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн з лесам. На У цячэ р. Жыварэзка (прыток р. Лахва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 33 гаспадаркі, 87 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце. У 1843 г. ў

Магілёўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 30 двароў, 235 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім, шавецкім і сталярным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 47 двароў, 297жыхароў, меліся малітоўны дом, вадзяны і ветраны млын, сукнавальня і кузня. У 1909 г. 60 двароў, 289 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 68 двароў, 408 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «III інтэрнацыянал». Дзейнічала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 42 гаспадаркі, 94 жыхары, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). Размяшчаліся вытв. аддзяленне, ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, на Пд ад якой ідзе паралельна кароткая крывалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, месцамі няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на Пн.

**ЗАГРЭЗЗЕ** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Каля пасёлка пачынаецца р. Грэза (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дасовічы і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Дасовіцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 16 двароў, 64 жыхары. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1973 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. 10 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе саўгаса «Дасовічы» (цэнтр — в. Дасовічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАЛЕССЕ** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. На Пн і З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бартнякі і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 19 гаспадарак, 44 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1874 г. памешчык меў тут 158,5 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. сядзіба Залессе, або Лавец (2 двары, 13 жыхароў), у Вендаражскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 12 двароў, 100 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 37 двароў, 245 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Я.А.Якаўлева. У 1940 г. 64 двары, 321 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У жн. 1943 г. гітлераўцы спалілі 53 двары, загубілі 7 жыхароў. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны партызаны, якія загінулі ў баі за вызваленне вёскі. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 31 гаспадарка, 69 жыхароў, у складзе саўгаса «Маяк камунізму» (цэнтр — в. Цішоўка). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, мерыдыянальнай арыентацыі вуліцы з завулкамі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ЗАЛУБНІШЧА** — вёска ў Княжыцкім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 1. Рэльеф раўнінны, на Пд і Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Магілёў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 16 двароў, 87 жыхароў. У



1929 г. арганізаваны калгас «Бальшавік», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 16 гаспадарак. У 1940 г. 42 двары, 185 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У студз. 1944 г. гітлераўцы спалілі 28 двароў, загубілі 61 жыхара. У магіле каля могілак пахаваны 153 жыхары з вёсак Залубнішча і Пясчанкі, якіх гітлераўцы ў 1942 г. спалілі жывымі. У 1990 г. 27 гаспадарак, 41 жыхар, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Нікіцінічы). Планіровачна складаецца з 3 кароткіх прамалінейных, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ вуліц, забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАПРУДДЗЕ** — вёска ў Нядашаўскім с/с, за 11 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд і З мяжуе з лесам. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Шчацінка (прыток р. Дняпро), якая цячэ праз вёску. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 53 гаспадаркі, 80 жыхароў (2007).

Упершыню ўпамінаецца пад 1604 г. як сяло ў Вяйнянскім войтаўстве Магілёўскага староства эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, у часовым валоданні шляхціца. У 1635 г. ў складзе Вільчыцкага фальварка Вяйнянскага войтаўства. У 1643 г. меўся млын. У 1742 г. 12. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. 25 двароў, 185 жыхароў. У 1850 г. ў складзе маёнтка Вейна, 19 двароў, 109 жыхароў, меўся шынок. Паводле перапісу 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета, 36 двароў, 262 жыхары. У 1909 г. 39 двароў, 326 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Амхаўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 73 двары, 389 жыхароў. Дзейнічала пач. школа. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», які ў 1930 г. меў трактар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях за вызваленне вёскі загінулі 26 воінаў 70-й стралк. дывізіі, якія пахаваны ў брацкай магіле на могілках. З 26.6.1954 г. ў Нядашаўскім с/с. У 1990 г. 63 гаспадаркі, 114 жыхароў, у складзе саўгаса «Магілёўскі» (цэнтр — в. Амховая). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з 2 частак: паўн. (ад прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, на ПдУ кароткая прамалінейная вуліца) і паўд. (2 крывалінейныя і прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ). Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ЗАПРУДДЗЕ** — вёска ў Махаўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Магілёва, 20 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Будлянка (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 8 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1844 г. вёска (6 двароў, 60 жыхароў) у Магілёўскім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка.

З 20.8.1924 г. ў Махаўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 8 гаспадарак, 16 жыхароў, у складзе саўгаса «Махава» (цэнтр — в. Махава). Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З — гасп. сектар.

**ЗАРУДЗЕЕЎКА** — вёска ў Брылёўскім с/с, за 13 км на ПнУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На У цячэ р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-




Пецярбург—Адэса, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 27 гаспадарак, 65 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1858 г. вёска (73 рэвізскія душы) у Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. Памешчык меў тут у 1877 г. 444 дзес. зямлі. У 1897 г. 32 двары, 233 жыхары, дзейнічалі школа граматы, хлебазапасны магазін. Побач знаходзілася аднайменная сядзіба, 5 двароў, 13 жыхароў, ветраны млын, кузня. У 1909 г. ў вёсцы 51 двор, 273 жыхары, на сядзібе 1 двор, 7 жыхароў.

У 1922 г. створана с.-г. закупачна-збытавое т-ва. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930) Магілёўскай вобл. У 1926 г. 60 двароў, 353 жыхары. У 1928 г. дзейнічала сыраварня. У 1929 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях». У 1932 г. пачаў дзейнічаць ільнозавод. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 66 гаспадарак, 137 жыхароў, у складзе калгаса імя А.В.Суворава. Размяшчаліся майстэрня, ферма буйной рагатай жывёлы. З 1975 г. ў Брылёўскім с/с. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы з завулкам на Пд, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**ЗАРЭКАЦЦЕ** — былая вёска ў Вяйнянскім с/с, за 7 км на Пд ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Адэса—Санкт-Пецярбург, якая праходзіць побач з вёскай.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Грабянёўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 28 гаспадарак, 75 жыхароў, у складзе саўгаса «Вяйнянскі цяплічны камбінат» (цэнтр — в. Вейна). У 1994 г. 9 гаспадарак, 24 жыхары. Планіроўка Т-падобная. Да крывалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі далучаецца на Пн кароткая прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАРЭСЦЕ** — вёска ў Сухарэўскім с/с, за 20 км ад Магілёва і 15 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сухары і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 92 гаспадаркі, 266 жыхароў (2007).

Вядома з 19 ст. У 1882 г. тут знаходзіўся маёнтак, гаспадар якога меў 1302,5 дзес. зямлі, 2 млыны. Паводле перапісу 1897 г. вёска (16 двароў, 113 жыхароў) у Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 25 двароў, 236 жыхароў. З 21.4.1918 г. ў Сухарэўскай вол. Магілёўскага павета. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Чавускага, з 12.2.1935 г. Дрыбінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 53 двары, 349 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Парыжская Камуна». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 16.9.1959 г. Дрыбінскі р-н скасаваны і Зарасцянскі с/с увайшоў у склад Сухарэўскага с/с Чавускага, з 22.1.1965 г. Магілёўскага р-наў. У 1990 г. 92 гаспадаркі, 266 жыхароў, цэнтр калгаса «Парыжская Камуна». У вёсцы размяшчаліся майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, лесапільня, сталярна-плотніцкая майстэрня, зернедрабільня, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, працавалі фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, 8-гадовая школа, клуб, магазін, б-ка. У 2007 г. дзейнічалі комплекс дзіцячы сад—базавая школа, аддз. сувязі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1965 г. ў Магілёўскім філіяле ін-та «Белкалгаспраект». Планіровачна складаецца з амаль прамалінейн-



най вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Вытв. сектар — на ўсх. ускраіне.

**ЗАСЦЕНАК** — былы пасёлак у Княжыцкім с/с, за 15 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Княжыцы і далей па шашы Магілёў—Мінск.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Бракаўскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 6 двароў, 37 жыхароў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Княжыцкім с/с. У 1990 г. 6 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Бракава). У 1994 г. 5 гаспадарак, 5 жыхароў. Планіровачна складаецца з адной кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАСЦЕНКІ** — вёска ў Пашкаўскім с/с, за 11 км на Пн ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Новае Пашкава і далей па шашы Мінск—Магілёў. 28 гаспадарак, 69 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. вёска Засценак-Пушкары, у складзе маёнтка Палыкавічы Магілёўскага павета Магілёўскага намесніцтва, уласнасць памешчыка. Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917 г. З 20.8.1924 г. ў Бракаўскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7. 1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 6 двароў, 58 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 31 гаспадарка, 79 жыхароў, у складзе калгаса імя В.Валадарскага. Планіровачна складаецца з 2 вуліц (адна крывалінейная, другая кароткая, прамалінейная), арыентаваных з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбаковая традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАХВАТ** — пасёлак ў Княжыцкім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны. На ПдУ цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі ажыццяўляюцца па мясц. дарозе праз в. Засценак і далей па шашы Магілёў—Мінск.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Княжыцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 35 двароў, 205 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1944 г. гітлераўцы спалілі 31 двор. Пасля вайны адбудаваны. З 26.6.1954 г. ў Княжыцкім с/с. У 1990 г. 34 гаспадаркі, 74 жыхары, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Бракава). Працаваў магазін. У 1994 г. 34 гаспадаркі, 74 жыхары. Планіровачна складаецца з адной прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗАЦІШША** — вёска ў Вяйнянскім с/с, за 2 км на Пд ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць побач з вёскай. 10 гаспадарак, 256 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Памешчык у 1863 г. меў тут 640 дзес. зямлі і карчму. Паводле перапісу 1897 г. хутар Зацішша (18 двароў, 35 жыхароў) у Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., працаваў клеяварны з-д. У 1909 г. дзейнічаў цагельны з-д. У аднайменным фальварку, што знаходзіўся побач, 2 двары, 12 жыхароў. За 1,5 км ад пасёлка, на

Грабянёўскіх хутарах у 1909 г. дзейнічала земская школа, для якой у тым жа годзе было пабудавана памяшканне. З 20.8.1924 г. ў Грабянёўскім с/с Лупалаўскага Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 104 вучні, у ліку якіх 19 піянераў. У 1926 г. 55 двароў, 232 жыхары. У крас. 1931 г. арганізаваны калгас імя М.І.Калініна, які аб'ядноўваў 61 гаспадарку. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 24.6.1960 г. ў Вяйнянскім с/с, у складзе саўгаса «Вейна», які ў 1977 г. атрымаў назву «Вяйнянскі цяплічны камбінат» (цэнтр — в. Вейна). У 1990 г. 123 гаспадаркі, 395 жыхароў. У вёсцы размяшчалася вытв. брыгада, працавалі 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 паралельных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных на Пд трэцяй прамалінейнай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.



*С.П.Алейнікаў.*

**ЗАЦІШША** — вёска ў Буйніцкім с/с, за 3 км на З ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Казіміраўка і далей па шашы Мінск—Магілёў. 14 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. пасёлак, 9 двароў, 43 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна, які ў 1933 г. аб'ядноўваў 12 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 11 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк камунізму» (цэнтр — в. Цішоўка). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Гасп. сектар — на ПдЗ.

Радзіма Героя Сав. Саюза С.П.Алейнікава (1909—84), які, будучы штурманам авіяцыі дальняга дзеяння, вызначыўся ў Вял. Айч. вайну.

**ЗІМНІЦА** — вёска ў Нядашаўскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць побач з вёскай. 36 гаспадарак, 88 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1897 г. вёска Малая Зімніца (яна ж Камароўка і Дзягцянка), 8 двароў, 50 жыхароў, у Вяйнянскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 14 двароў, 77 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 47 гаспадарак, 126 жыхароў, у складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Сідараўка). Размяшчаліся фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ — гасп. сектар.

**ЗЫЛІ** — вёска ў Брылёўскім с/с, за 18 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У і Пн мяжуе з лесам. На У цячэ р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Каменка і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 16 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1635 г. абруб, у Брылёўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. уласнасць. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце. У 1785 г. сяльцо Зылёва ў Магілёўскім павеце, 12 двароў, 105 жыхароў, уласнасць памешчыка. Меўся млын. У 1858 г. налічвала 42 рэвізскія душы. Памешчык меў тут у 1878 г. 325 дзес. зямлі і заезны дом. У 1880 г. 16 двароў, 80 жыхароў. Частка вяскоўцаў



займалася сталярным і шавецкім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 19 двароў, 122 жыхары. Меўся хлебазапасны магазін. Побач з вёскай былі 2 сядзібы: у адной 1 двор, 4 жыхары, у другой 2 двары, 12 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 27 двароў, 160 жыхароў, на сядзібе — 1 двор, 5 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. створана сыраварна-масларобная арцель (20 гаспадарак). У 1926 г. 38 двароў, 207 жыхароў. У 1920-я г. дзейнічала садова-агародніцкае т-ва. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1975 г. ў Брылёўскім с/с. У 1990 г. 39 гаспадарак, 66 жыхароў, у складзе калгаса «Ільіч» (цэнтр — в. Брылі). Размешчана свінагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з ПнЗ далучаецца другая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**ЗЯЛЁНАЯ СЛАБАДА** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 25 км на З ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дубінка, Цішоўка і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З сак. 1924 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Рафалаўскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 23 двары, 95 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Вендаражскім с/с. У 1990 г. 9 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе калгаса «Герой працы» (цэнтр — в. Міхалёва). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЗЯЛЁНЫ** — пасёлак у Заводскаслабодскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Рафалаўскім, з 8.12.1926 г. ў Хрыпялёўскім сельсаветах Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Энергія». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 6 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе саўгаса «Барок» (цэнтр — в. Завадская Слабада). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**ІВАНАВІЧЫ** — вёска ў Сухарэўскім с/с, за 25 км на ПнУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ ручай (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Гладкова, Красніца і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 19 гаспадарак, 33 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло (58 двароў) ва Ульянаўскім войтаўстве Магілёўскага старства эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць, мелася карчма на Мсціслаўскім гасцінцы. У 1635 г. 53 двары. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Сухары Чавускага павета, 46 двароў, 311 жыхароў, памешчыцкая ўласнасць. У 1849 г. 28 двароў, 158 жыхароў, у 1852 г. 26 двароў, 165 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 27 двароў, 198 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 30 двароў, 240 жыхароў. З 1918 г. ў Су-





харэўскай вол. З 20.8. 1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Чавускім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 45 двароў, 314 жыхароў. У вясковай школе навучаліся дзеці з вёсак Іванавічы, Дварэц, Навасёлкі. У 1929 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 25.12.1964 г. ў Магілёўскім р-не. У 1990 г. 41 гаспадарка, 64 жыхары, у складзе калгаса «Камуністычны маніфест» (цэнтр — в. Сухары). Размяшчаліся фермы авечкагадоўчая і буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з працяглай плаўна выгнутай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ. На У ад яе праходзіць другая, кароткая, прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**ІВАНАЎ ДВАРЭЦ** — вёска ў Сухарэўскім с/с, за 27 км на ПнУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Іванавічы і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 14 гаспадарак, 26 жыхароў (2007).

Вядома па рукапісных крыніцах у Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. вёска (18 двароў, 152 жыхары) у Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 37 двароў, 234 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Сухарэўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7. 1930), з 2.3.1931 г. ў Чавускім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 44 двары, 343 жыхары. Дзейнічала прац. школа 1-й ступені. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 25.12.1964 г. ў Магілёўскім р-не. У 1990 г. 21 гаспадарка, 51 жыхар, у складзе калгаса «Камуністычны маніфест» (цэнтр — в. Сухары). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ІЛЬІНКА** — вёска ў Княжыцкім с/с, за 9 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Магілёў, якая праходзіць побач з вёскай. 40 гаспадарак, 90 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце. У 1785 г. ў складзе маёнтка Забалацце ў Магілёўскім павеце, 13 двароў, 82 жыхары, меўся млын, уласнасць памешчыка і княжыцкага кармеліцкага кляштара. У 1858 г. ў вёсцы 58 жыхароў мужчынскага полу. У 1880 г. 30 двароў, 178 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 43 двары, 256 жыхароў. Дзейнічала школа граматы. У 1909 г. 50 двароў, 302 жыхары, дзейнічала школа (нар. вучылішча). На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1925 г. ў школе 50 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новая праца», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 26 гаспадарак, мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 70 гаспадарак, 172 жыхары, у складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Сумарокава). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, працаваў магазін. Планіроўка прамавугольная. Чатыры прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, перпендыкулярна перакрыжаваны кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**КАДЗІНА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 10 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф



раўнінны. На З цячэ р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Слабада і далей па шашы Магілёў—Чавусы. 626 гаспадарак, 1753 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ паводле рукапісных крыніц з 1604 г. як сяло ва Ульянаўскім войтаўстве Магілёўскага староства эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўладанне, налічвала 50 двароў, меўся вадзяны млын. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Сухары Чавускага павета, 23 двары, 154 жыхары. У 1846 г. мяст. Кадзін (387 жыхароў) у Магілёўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1884 г. засн. вінакурны з-д, на якім у 1890 г. было 10, а ў 1895 г. — 15 рабочых. У 1913 г. на вінакурным з-дзе ўстаноўлены паравы рухавік. Паводле перапісу 1897 г. існавалі аднайменныя сяло (48 двароў, 284 жыхары), карчма (1 двор, 9 чал.) і фальварак (1 двор, 8 жыхароў). У 1909 г. ў сяле 53 двары, 368 жыхароў, у фальварку — 1 двор, 4 жыхары. У 1912 г. ў сяле Кадзіна пераведзена з в. Лёўкаўшчына земская школа, якая дзейнічала там з 1907 г. У 1912 г. для школы пабудавана новае памяшканне. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 53 вучні. У жн. 1921 г. ў вёсцы створана с.-г. арцель (8 гаспадарак) і ў былым маёнтку — яшчэ адна арцель (6 гаспадарак). У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 104 двары, 500 жыхароў, на хутарах — 41 двор, 219 жыхароў. З 1928 г. дзейнічала сыраробнае прадпрыемства. У 1930 г. арганізаваны калгас «1 Мая», працавала кузня. У 1936 г. ў пач. школе 61 вучань, у іх ліку 25 піянераў, дзейнічала б-ка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі і абрабавалі вёску. Каля будынка школы ў брацкай магіле пахаваны 7 сав. воінаў, якія загінулі пры вызваленні вёскі. З 21.3.1983 г. цэнтр сельсавета. У 1990 г. 216 гаспадарак, 917 жыхароў, цэнтр цяплічнага камбіната «Магілёўскі». У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, кансервава-агароднінны з-д, лесапільня, аргахімлабараторыя, малочна-таварны комплекс, працаваў магазін, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, аддз. сувязі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сярэдняя школа, дзіцячы сад-яслі, б-ка, сталовая, аддз. ашчаднага банка, аддз. сувязі. У 2000-я г. на базе вёскі створаны аграгарадок. У 2007 г. цэнтр унітарнага камунальнага аграгандл. прадпрыемства «Фірма «Дняпро», дзейнічалі сярэдняя школа, аддз. сувязі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкамі вуліц. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З вядзецца забудова муравanymі жылымі дамамі. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. На Пд — гасп. сектар.

Радзіма беларускага пісьменніка Я.Усікава (1919—95).

**КАЗІМІРАЎКА** — вёска ў Пашкаўскім с/с. 8 гаспадарак, 24 жыхары (2007). Радзіма Героя Сац. Працы П.М.Аўсеенкі (1915—?).



*П.М.Аўсеенка.*

**КАЛАША** — былая вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 31 км на ПдЗ ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Грэза (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дасовічы і далей па шашы Магілёў—Бабруйск.

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Дасовіцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 14 двароў, 79 жыхароў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да

28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1973 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. пасёлак, 3 гаспадаркі, 7 жыхароў, у складзе саўгаса «Дасавічы». У 1994 г. вёска, 3 гаспадаркі, 4 жыхары. Традыц. сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**КАЛІНАВАЯ** (да 30.7.1964 г. Трыбухі) — вёска ў Палыкавіцкім с/с, за 8 км на Пн ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам, на У і Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Дняпро. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў, якая праходзіць побач з вёскай. 86 гаспадарак, 219 жыхароў (2007).


*І.М.Саламонікаў.*

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. сяло, цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 30 двароў, 195 жыхароў, шляхецкая ўласнасць, меліся млын і драўляная царква. Памешчык меў тут у 1876 г. 741 дзес. зямлі, млын і карчму. У 1897 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета, 38 двароў, 225 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін, школа граматы, царква. Непадалёку знаходзілася сядзіба, 2 двары, 29 жыхароў, вадзяны млын. У 1909 г. 51 двор, 264 жыхары. Дзейнічалі вінакурня, вадзяны млын, карчма, царк.-прыходская школа (адкрыта ў 1890). У маёнтку 1 двор, 1 жыхар. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой у 1919 г. перададзены нацыяналізаваны будынак. У 1925 г. ў школе было 45 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. створана садова-агародніцкае т-ва (5 гаспадарак). У 1926 г. 79 двароў, 422 жыхары. У 1928 г. дзейнічала сыраварня. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны пераможац», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 12 гаспадарак. У 1936 г. ў пач. школе было 46 вучняў, дзейнічала б-ка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях за вызваленне вёскі вызначыліся камандзір асобнай разведроты старшы лейтэнант К.С.Лініца, разведчык Д.А.Кунцоў, камандзір аддз. старшы сяржант В.І.Дагаполаў, якім прысвоены званні Героя Сав. Саюза. У 1990 г. 114 гаспадарак, 315 жыхароў, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Мікалаеўка 2). Размяшчаліся вытв. брыгада, свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы фермы, працаваў гандл. цэнтр, пач. школа, спарт. комплекс, дзіцячы сад-яслі. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, ад якой адыходзіць на ПнУ кароткая прамалінейная вуліца, злучаная з такой жа вуліцай, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, пераважна шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне, каля гандл. цэнтра, пабудаваны мураваныя двухпавярховыя, 4-, 8-, 12-кватэрныя дамы. Грамадскія будынкі размешчаны на паўн. ускраіне і сярод жылой забудовы. Вытв. сектар — на ўсх. і зах. ускраінах.

Вёска — радзіма Героя Сав. Саюза І.М.Саламонікава (1918—44), які вызначыўся ў сав.-фінляндскую вайну 1938—40.

**КАЛЯСІШЧА** — вёска ў Мастоцкім с/с, за 10 км на Пн ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд і Пн мяжуе з лесам. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Дняпро. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 18 гаспадарак, 31 жыхар (2007).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло Калясішчы ў Магілёўскім старостве Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 15 двароў, 96 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. ў Магілёўскім павеце, 35 двароў, 210 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 35 двароў, 210 жыхароў, уласнасць памешчыка. Меўся



хлебазапасны магазін. У 1909 г. 32 двары, 243 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Мастоцкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 48 двароў, 255 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баі каля вёскі ў чэрв. 1944 г. вызначыўся камандзір аддз. старшы сяржант М.Д. Чапралаў, які ўдастоены звання Героя Сав. Саюза. У 1990 г. 37 гаспадарак, 58 жыхароў, у складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Масток). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі фельч.-акушэрскі пункт, 8-гадовая школа. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных вуліц мерыдыянальнай шыротнай арыентацыі, забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**КАМЕНКА** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 39 км на ПдЗ ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Арлянка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Астраўшчына і далей па шашы Семукачы—Магілёў. 9 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Старабыхаўскім павеце. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 57 двароў, 427 жыхароў. У 1909 г. 65 двароў, 364 жыхары, працавала царк.-прыходская школа. З 20.8.1924 г. ў Косцінскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 91 двор, 521 жыхар. У 1930 г. арганізаваны калгас «9-ы з'езд ВЛКСМ», працавалі кузня і ваўначоска. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і наваколлі базіраваўся 61-ы партыз. атрад Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы. У 1990 г. 25 гаспадарак, 71 жыхар, у складзе саўгаса «Барок» (цэнтр — в. Заводская Слабада). З 1975 г. ў Заводскаслабодскім с/с. Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіроўка Г-падобная. Вуліца арыентавана з ПдЗ на ПнУ. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**КАМЕНКА** — вёска ў Брылёўскім с/с, за 11 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Чаромушкі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з канца 18 ст. У 1784 г. вёска ў Быхаўскім павеце, 16 двароў, 89 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 14 двароў, 94 жыхары. У 1909 г. 13 двароў, 54 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 31 двор, 140 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «КІМ». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 38 гаспадарак, 79 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Брылі). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. З 1975 г. ў Брылёўскім с/с. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з 2 завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.

**КАМІНТЭРН** — вёска ў Палыкавіцкім с/с, за 3 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны. На У цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 93 гаспадаркі, 236 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. першапачаткова як пасёлак, дзе была аднайменная калект. сельская гаспадарка (у 1926 г. 40 членаў),

якая ў 1929 г. пераўтворана ў калгас «Камінтэрн». Такую ж назву атрымала і вёска. З 20.8.1924 г. ў Карабанаўскім, з 21.8.1925 г. ў Чырванапольскім сельсаветах Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1930 г. Магілёўскай вобл. У 1932 г. вёска атрымала электрычнае асвятленне. У 1940 г. ў калгасе меліся 3 жывёлагадоўчыя фермы. Калгасніца Г.А.Маслава была ўдзельніцай Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Мікалаеўскім, з 22.7.1960 г. ў Палыкавіцкім с/с. У 1990 г. 141 гаспадарка, 418 жыхароў, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Мікалаеўка 2). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, паляводчая брыгада, дзярж. гатункавы ўчастак, працавалі фельч.-акушэрскі пункт, сярэдняя школа, клуб, б-ка, аддз. сувязі, дзіцячы сад, магазін, сталовая. У 2007 г. дзейнічаў фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 4 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнЗ, злучаных папярочнымі прамалінейнымі вуліцамі і завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**КАНСТАНЦІНАЎКА** — вёска ў Брылёўскім с/с, за 10 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн і З мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Любуж (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць паблізу вёскі. 21 гаспадарка, 32 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка», мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баі за вызваленне вёскі загінулі 128 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле на вясковых могілках. З 1975 г. ў Брылёўскім с/с. У 1990 г. 47 гаспадарак, 69 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Брылі). Планіровачна складаецца з 2 паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАПЕЙНАЕ** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На З, Пн і У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. Пастаяннага насельніцтва няма (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Навасёлкаўскім 2 (21.8.1925 г. перайменаваны ў Гуслішчанскі) с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Вендаражскім с/с. У 1990 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**КАРЧОМКА** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пд — штучнае возера, створанае запрудай на р. Альхоўка (прыток р. Жыварэзка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дабрасневічы і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 28 гаспадарак, 57 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. сяло ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў Магілёўскім павеце, 17 двароў, 139 жыхароў, уласнасць памешчыка, меліся млын і пабудаваная з дрэва царква. У 1858 г. 35 жыхароў мужчын-



скага полу. Памешчык меў тут у 1866 г. 640 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Вендаражскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 16 двароў, 127 жыхароў. Непадалёку быў аднайменны фальварак, 2 двары, 18 жыхароў, ветраны млын. У 1909 г. ў сяле 16 двароў, 174 жыхары, у фальварку 1 двор, 11 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1925 г. ў школе было 49 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 35 двароў, 233 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінскі шлях». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і наваколлі базіраваўся 121-ы партыз. атрад (з ліст. 1943 г. полк) Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы. На вясковых могілках у брацкай магіле пахаваны сав. воіны і партызаны. На зах. ускраіне, на могілках пастаўлены помнік землякам, якія загінулі ў Вял. Айч. вайну. У 1990 г. 41 гаспадарка, 160 жыхароў, у складзе калгаса «Герой працы» (цэнтр — в. Міхалева). Размяшчаліся майстэрні, ферма буйной рагатай жывёлы. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАСТРЫЦЫ** — вёска ў Мастоцкім с/с, за 15 км на Пн ад Магілёва і 10 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пд і Пн мяжуе з лесам. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Дняпро. Транспартныя сувязі па шашы Адэса—Санкт-Пецярбург, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 18 гаспадарак, 32 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1643 г. абруб, у Плешчыцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. уласнасць. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце. У 1785 г. в. Кастрыца-Слабодка (7 двароў, 50 жыхароў) у складзе маёнтка Заходы, уласнасць Магілёўскага каталіцкага архіепіскапства. У 1848 г. 11 двароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 29 двароў, 143 жыхары. Меўся хлебазапасны магазін. Непадалёку знаходзілася аколіца, 9 двароў, 46 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 23 двары, 161 жыхар, у аколіцы 5 двароў, 35 жыхароў. У 1913 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 40 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Заходскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Шклоўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 51 двор, 278 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Магілёўскім р-не, з 2.8.1954 г. ў Мастоцкім с/с. У 1990 г. 42 гаспадаркі, 97 жыхароў, у складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Масток). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай з завулкам вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, да абодвух канцоў якой з З адыходзяць 2 прамалінейныя кароткія вуліцы. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**КАТВІНА** — вёска ў Семукацкім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Куты, Вендараж, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 12 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Вялікабялевіцкім с/с Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. пасёлак, 21 двор, 90 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч.

вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Гарадзішчанскім, з 24.6.1960 г. ў Бокатаўскім, з 4.6.1965 г. ў Семукацкім сельсаветах. У 1990 г. 24 гаспадаркі, 44 жыхары, у складзе саўгаса «Бялевічы» (цэнтр — в. Вялікія Бялевічы). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КАЧУРЫНА** — вёска ў Брылёўскім с/с, за 15 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Каменка і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 30 гаспадарак, 65 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло, 23 двары, у Брылёўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета, дзярж. уладанне. У 1742 г. 14 двароў, мелася карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1847 г. ў складзе маёнтка Любуж Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 21 двор, 119 жыхароў. У 1857 г. уласнасць памешчыка. У 1880 г. 25 двароў, 166 жыхароў. У 1897 г. 32 двары, 213 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся сталярным промыслам. У 1909 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета, 50 двароў, 253 жыхары. Непадалёку, на хутары Брылі ў 1910 г. была адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені імя А.І.Герцэна, у якой у 1925 г. было 59 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 50 двароў, 297 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Барацьбіт». Для школы ў 1930 г. ўзведзены новы цагляны будынак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1975 г. ў Брылёўскім с/с. У 1990 г. 56 гаспадарак, 113 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Брылі). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрні, цэх механізацыі, лесапільня, працавала аддз. сувязі. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КІСЯЛЬКІ** — вёска ў Сухарэўскім с/с, за 20 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Каменка і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 36 гаспадарак, 88 жыхароў (2007).

Упершыню ўпамінаецца ў ВКЛ пад 1567 г. як сяло Кісялі Магілёўскай вол. Аршанскага павета, дзярж. уласнасць. У 1604 г. ў Брылёўскім войтаўстве Магілёўскага староства эканоміі, 35 двароў. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1834 г. ў сяле 80 жыхароў, непадалёку быў фальварак, 9 жыхароў. У 1848 г. сяло (16 двароў, 75 жыхароў) і фальварак (10 жыхароў), цэнтр маёнтка, меліся карчма, з-д буйной рагатай жывёлы, уласнасць памешчыка, у Чавускім павеце. У 1852 г. 16 двароў, 81 жыхар. У 1860 г. 18 двароў, 78 жыхароў. Памешчык меў тут у 1879 г. 204 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 25 двароў, 139 жыхароў. Непадалёку былі аднайменныя пасёлак (2 двары, 26 жыхароў) і фальварак (3 двары, 26 жыхароў). У 1909 г. ў сяле 25 двароў, 185 жыхароў, у пасёлку 4 двары, 16 жыхароў, у фальварку 5 двароў, 30 жыхароў, у аколіцы 4 двары, 27 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Сухарэўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Чавускім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 27.11.1924 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. было 34 вучні. Тут вучыліся дзеці з в. Кісялькі і хутара Зылеў-



скія. У 1926 г. 75 двароў, 364 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 25.12.1964 г. ў Магілёўскім р-не. У 1990 г. 55 гаспадарак, 108 жыхароў, у складзе калгаса «Камуністычны Маніфест» (цэнтр — в. Сухары). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, зернедрабільня, працавалі пач. школа, клуб, б-ка, магазін. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай з завулкам вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаецца вуліца амаль шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**КНЯЖЫЦЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 15 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам і цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Магілёў, якая праходзіць праз вёску. 130 гаспадарак, 305 жыхароў (2007).

Вядома з 1501 г., калі вял. князь ВКЛ Аляксандр аддаў вёску ў пажыццёвае валоданне сваёй жонцы Алене — дачцэ рус. цара Івана III. У 1560 г. сяло, цэнтр маёнтка, шляхецкая ўласнасць. У 1632 г. засн. кармеліцкі кляштар. У 1634 г. прыватнае ўладанне, дзейнічаў касцёл. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. мястэчка ў складзе маёнтка Галоўчына, 43 двары, 452 жыхары, уласнасць памешчыка, меўся вадзяны млын. У 1848 г. сяло (147 двароў) у Магілёўскім павеце Магілёўскай губ., меліся драўляныя царква, пабудаваны ў 1681 г. мураваны касцёл дамініканцаў. Праз сяло праходзіў Віленскі паштовы тракт. У 1861 г. 72 двары, 625 жыхароў, дзейнічаў вадзяны млын, з 1879 г. — вінакурны з-д, у якім у 1884 г. была ўстаноўлена паравая машына. Дзейнічалі царква, касцёл, сінагога. У 1861 г. адкрыта школа, для якой у 1890 г. пабудавана памяшканне. У 1880 г. 93 двары, 506 жыхароў, адзін раз на год — 1 кастр. — праводзіўся кірмаш, а па нядзелях — таржкі. Частка насельніцтва займалася кравецкім, кавальскім і шавецкім промысламі. Памешчык меў тут у 1881 г. 1363 дзес. зямлі, піцейны дом і млын. У 1897 г. колькасць двароў павялічылася да 117, жыхароў — да 691. Меліся 2 царквы, малітоўны дом, нар. вучылішча, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, 14 лавак, 2 заезныя дамы. Побач з мястэчкам была аднайменная сядзіба (2 двары, 31 жыхар), дзе працавалі вінакурны з-д і вадзяны млын. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У пач. 20 ст. меліся 2 вінакурныя з-ды і 8 вадзяных млыноў. Шырокія памеры прынялі выраб ільняной кудзелі, пянькі і ткацтва. Невялікія зямельныя надзелы, малая колькасць жывёлы і непасільныя падаткі прымушалі сялян займацца адыходным промыслам — часцей за ўсё лесанарыхтоўкамі. У 1909 г. ў мястэчку 60 двароў, 341 жыхар, у маёнтку 1 двор, 6 жыхароў, дзейнічалі вінакурны з-д і млын. На базе дарэв. адкрыта ў 1919 г. прац. школа 1-й ступені. З-за матэрыяльных цяжкасцей былі перабоі ў яе рабоце, і нават некаторы час яна не дзейнічала. У 1923 г. камсамольцы звярнуліся да Н.К.Крупскай з просьбай дапамаг-



*Касцёл святога біскупа Мікалая ў в. Княжыцы. 1681 г.*

чы адкрыць школу. Ініцыятыва была падтрымана, і восенню 1924 г. школа аднавіла сваю працу. 16.2.1924 г. створана с.-г. т-ва. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8. 1924 г. цэнтр сельсавета. 14.10.1924 г. адбылася выстаўка, на якой дэманстраваліся поспехі ў развіцці сельскай гаспадаркі раёна. У 1924 г. адкрыты б-ка, урачэбная амбулаторыя, хата-чытальня, у 1925 г. — нар. дом. У 1925 г. ў школе, якая насіла імя М.В.Гогаля, налічваўся 141 вучань, у іх ліку 26 піянераў. У 1920—30-я г. пры школе дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1925 г. створана кустарна-прам. арцель «Адраджэнне», дзейнічала крэдытнае т-ва. Паблізу, у Княжыцкай дачы, працавала смалакурня. У 1926 г. ў мястэчку 150 гаспадарак, 771 жыхар. У 1930-я г. местачкоўцы ўступілі ў калгас. У 1936 г. ў 7-гадовай школе было 347 вучняў, у іх ліку 175 піянераў, 5 камсамольцаў, дзейнічала б-ка, а ў 1938 г. 7-гадовая школа ператворана ў сярэднюю. З канца 1930-х г. вёска. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. каля вёскі часці Чырвонай Арміі вялі цяжкія абарончыя баі супраць ням.-фаш. захопнікаў. У час акупацыі партызаны разграмілі вал. ўправу гітлераўцаў, якая размяшчалася ў вёсцы. Вызвалена 28.6.1944 г. У брацкай магіле, што ў вясковым скверы, пахаваны 80 сав. воінаў, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. У гэты баях вызначыўся артыл. дывізіён пад камандаваннем Я.Т. Андрушчанкі, які адрэзаў ворагу шлях да адступлення. Я.Т.Андрушчанка быў удастоены звання Героя Сав. Саюза. У 1990 г. 162 гаспадаркі, 459 жыхароў, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Бракава). Размяшчаліся вытв. брыгада, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, зернедрабільня, ветэрынарны ўчастак, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі сярэдняя школа, муз. школа, бальніца, аддз. сувязі, клуб, аптэка, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 магазіны. У 2000-я г. створаны аграгарадок Сумарокава-Княжычы. У 2007 г. дзейнічалі сярэдняя школа, аддзяленне сувязі, клуб, б-ка, участковая бальніца, комплексны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1978 г. ў Магілёўскім філіяле ін-та «Белкалгаспраект». Планіровачна складаецца з працяглай, плаўна выгнутай вуліцы (частку вуліцы складае адрэзак шашы), арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, паралельна і перпендыкулярна да якой на ПдЗ праходзяць кароткія прамалінейныя вуліцы. На скрыжаванні асн. вуліц — невял. плошча, на Пд ад якой сквер. На плошчы і ўздоўж гал. вуліцы ўзведзены шэраг мураваных грамадскіх будынкаў. Забудавана вёска двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Уздоўж шашы ўзведзены мураваныя двухпавярховыя жылыя дамы. Гасп. сектар — на паўд.-зах. ускраіне.

Радзіма бел. хіміка, акадэміка АН БССР У.С.Камарова (нар. ў 1923) і бел. сав. пісьменніка В.Матэвушава (1915—74).

**КНЯЗЕЎКА** — вёска ў Нядашаўскім с/с, за 8 на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам, праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Шчацінка (прыток р. Вільчанка). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць побач з вёскай. 63 гаспадаркі, 123 жыхары (2007).

Упершыню ўпамінаецца пад 1604 г. як сяло ў Вяйнянскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. ВКЛ, дзярж. ўласнасць. У 1635 г. ў складзе Вільчыцкага фальварка Вяйнянскага войтаўства, у 1742 г. 5 гаспадарак, дзейнічала карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, 16 двароў, 166 жыхароў. У 1850 г. 30 двароў, 162 жыхары, у складзе маёнтка Вейна Чавускага павета, меўся шынок. Паводле перапісу 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 43 двары, 279 жыхароў. У 1909 г. 42 двары, 344 жыхары. У 1912 г. адкрыта земская школа, для



якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 80 вучняў з вёсак Князеўка, Быстрык, пас. Запруддзе, хутара Князеўка. З 20.8.1924 г. ў Амхаўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 78 двароў, 494 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «XVII партз'езд». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Нядашаўскім с/с. У 1990 г. 112 гаспадарак, 220 жыхароў, у складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Падгор'е). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, ёсць пач. школа, клуб, б-ка, магазін. У 2007 г. дзейнічалі фельч.-акушэрскі пункт і магазін. Планіровачна складаецца з працяглай вуліцы ламанага абрысу, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой у цэнтры далучаецца з З перпендыкулярна кароткая прамалінейная вуліца, на Пн паралельна да асн. праходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КОНЦЫ** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Жыварэзка (прыток р. Лахва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Навасёлкаўскім 2, з 21.8.1925 г. ў Гуслішчанскім сельсаветах Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.І.Чапаева. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Вендаражскім с/с. У 1990 г. 12 гаспадарак, 12 жыхароў, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). Размешчана ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай амаль шыротнай вуліцы, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — гасп. сектар.

**КОРКАЦЬ** — вёска ў Семукацкім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Семукачы, Заброддзе і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 26 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1745 г. вёска (6 двароў) у Быхаўскім графстве, уласнасць памешчыка. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. вёска ў Старабыхаўскім павеце. З 1878 г. дзейнічала дзягцярна-бяроставае прадпрыемства. У 1880 г. 12 двароў, 113 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Ґарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 21 двор, 151 жыхар. Паблізу быў фальварак Каркот (3 двары, 7 жыхароў). У 1909 г. 32 двары, 217 жыхароў. З 1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, 9.5.1923 г. перададзена Магілёўскаму павету. З 20.8.1924 г. ў Вялікабялевіцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 42 двары, 301 жыхар. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камунар Магілёўшчыны». Працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і наваколлі дыслацыраваліся 113-ы партыз. атрад (са студз. 1944 г. полк) Магілёўскай ваеннааператыўнай групы і Магілёўскі падп. райком КП(б)Б. У вёсцы дзейнічала падп. камсамольская арг-цыя. З 26.6.1954 г. ў Ґарадзішчанскім, з 22.8.1965 г. ў Семукацкім сельсаветах. У 1990 г. 44 гаспадаркі, 103 жыхары, у складзе саўгаса «Бялевічы» (цэнтр — в. Вялікія Бялевічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудава-

най двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**КОСЦІНКА** — вёска ў Махаўскім с/с, за 17 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на У і Пн мяжуе з лесам. Праз вёску праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Лазнёўка (прыток р. Паўна), якая тут пачынаецца. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Махава і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 91 гаспадарка, 127 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1633 г. сяло Касценкі (яна ж Сутокі) аддадзена Буйніцкаму кляштару. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. сяло ў Старабыхаўскім павеце. У 1854 г. ў складзе казённага маёнтка Дуброва-Косцінскае Быхаўскага павета. У 1880 г. 54 двары, 409 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася калёсным, сталярным, адыходным і кавальскім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. 66 двароў, 476 жыхароў, у Царк.-Асавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Меліся хлебазапасны магазін, школа граматы, царква. У 1909 г. 82 двары, 581 жыхар. У 1913 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 45 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 130 двароў, 770 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік», дзейнічалі кузня і ваўначоска, вялася здабыча торфу. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На вясковых могілках пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў у 1941 і 1944 гг. У 1990 г. 184 гаспадаркі, 360 жыхароў, у складзе саўгаса «Махава» (цэнтр — в. Махава). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, зернедрабільня, працавалі магазін, клуб, школа, фельч.-акушэрскі пункт. У 2008 г. дзейнічалі фельч.-акушэрскі пункт і магазін. Канал падзяляе вёску на паўн. (працяглая вуліца ламанага абрысу, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, да абодвух канцоў якой з ПдЗ падыходзяць кароткія прамалінейныя вуліцы) і паўд. (да прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, далучаюцца з ПдЗ 4 кароткія прамалінейныя вуліцы) часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**КОЦНІ** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ўсходзе мяжуе з лесам. На ПнЗ цячэ р. Арлянка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Забалоцце і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 25 гаспадарак, 59 жыхароў (2007).

Вядома з 18 ст. У 1784 г. вёска Коцня (Коцней) у Быхаўскім павеце, налічвала 20 двароў, 163 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце, 91 жыхар мужчынскага полу, дзейнічала карчма. У 1880 г. в. Кацні, 41 двор, 284 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася адыходным і ганчарным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета, 60 двароў, 370 жыхароў. У 1909 г. 76 двароў, 427 жыхароў. У 1912 г. адкрыта земская школа. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якой быў перададзены нацыяналізаваны будынак. У 1925 г. ў школе было 36 вучняў. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. ў Коцнінскім, з 1925 г. ў Хонаўскім сельсаветах. У 1933 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У 1936 г. ў пач. школе было 58 вучняў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1975 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. 54 гаспадаркі, 124 жыхары, у складзе саўгаса «Барок» (цэнтр — в. Завадская Слабада). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. У 2008 г. праца-



ваў магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСНАПОЛЛЕ** – вёска ў Палыкавіцкім с/с, за 2 км на Пн ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 19 гаспадарак, 48 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1828 г. вёска (15 жыхароў мужчынскага полу) у Магілёўскім павеце, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 7 двароў, 46 жыхароў. Побач былі аднайменныя фальварак (1 двор, 9 жыхароў), 4 сядзібы (6 двароў, 38 жыхароў), хутар (4 двары, 24 жыхары), яўр. калонія пры дарозе Магілёў—Палыкавічы (1 двор, 1 жыхар). У 1909 г. ў вёсцы 9 двароў, 59 жыхароў, у фальварку 1 двор, 4 жыхары, у 4 сядзібах 6 двароў, 34 жыхары, на хутары 1 двор, 10 жыхароў. Каля вёскі і каля хутара былі цагельныя з-ды. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 41 гаспадарку. У ліку калгаснікаў у гэты час былі 2 камуністы, 14 камсамольцаў. Першы старшыня калгаса Я.Ф.Казакоў быў у 1926—29 гг. сакратаром вясковай камсамольскай ячэйкі. З 21.8.1925 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. Калгасніца П.П.Вячыстая ў 1935 г. была дэлегатам II Усесаюзнага з'езда калгаснікаў-ударнікаў. У 1939 г. калгас з'яўляўся ўдзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. У 1920-я г. дзейнічала пач., а ў 1930-я г. — 7-гадовая школа, у якой у 1936 г. было 338 вучняў, у іх ліку 113 піянераў, 4 камсамольцы, мелася б-ка. У 1939 г. калгас перасяліў з хутароў 40 гаспадарак, ва ўсе дамы была праведзена электрычнасць, а ў 1940 г. — водапravод. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Партызаны разгромілі вал. ўпраўленне акупантаў, якое размяшчалася ў вёсцы. У баях за вызваленне вёскі загінулі 76 воінаў 95-й стралк. дывізіі 49-й арміі 2-га Бел. фронту. Сярод іх — Герой Сав. Саюза, камандзір узвода коннай разведкі старшы лейтэнант М.І.Яшын, які 27.6.1944 г. ў ліку першых фарсіраваў Дняпро, на чале ўзвода ўступіў у бой супраць фашыстаў і выбіў іх з умацаванняў, што садзейнічала поспеху наступлення асн. сіл. У 1990 г. 33 гаспадаркі, 118 жыхароў, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в.Мікалаеўка). Працавала 8-гадовая школа. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма Героя Сац. Працы І.В.Сяргеева (1909—?).



*І.В.Сяргееў.*

**КРАСНАЯ СЛАБАДА** – вёска ў Вендаражскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Рафалава, Вішоў і далей па шашы Магілёў—Мінск. 4 гаспадаркі, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Рафалаўскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 23 двары, 95 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Вендаражскім с/с. У 1990 г. 3 гаспадаркі, 9 жыхароў, у складзе калгаса «Герой працы» (цэнтр — в. Міхалёва). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**КРАСНІЦА 1** – вёска ў Дашкаўскім с/с, за 14 км на ПдЗ ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Буйнічы на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць побач

з вёскай. 27 гаспадарак, 43 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1880 г. тут знаходзілася паштовая станцыя на Магілёўска-Бабруйскай шашы, якая мела 14 коней. Паводле перапісу 1897 г. вёска (6 двароў, 51 жыхар) у Вендаражскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 8 двароў, 60 жыхароў. У 1915 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 79 вучняў з в. Красніца, хутароў Драчкова і Трасліўка. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. Магілёўскай вобл. У 1926 г. 23 двары, 144 жыхары. З 1928 г. працавала сыраробчае прадпрыемства. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Армія», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 15 вяскоўцаў. У 1990 г. 47 гаспадарак, 107 жыхароў, у складзе эксперыментальнай базы «Дашкаўка» (цэнтр — в. Дашкаўка). Размяшчаліся жывёлагадоўчая ферма, Магілёўская птушкафабрыка, вытв. аддзяленне, працавалі 8-гадовая школа, клуб, магазін, б-ка, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. дзейнічалі аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРАСНІЦА 2** — вёска ў Дашкаўскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Буйнічы на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць побач з вёскай. 16 гаспадарак, 33 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. вёска (6 двароў, 52 жыхары) у Вендаражскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. Паблізу пры Магілёўска-Бабруйскай шашы знаходзіліся фальварак Красніца (3 двары, 11 жыхароў) і паштовая станцыя Красніца (2 двары, 9 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 8 двароў, 73 жыхары, у фальварку 1 двор, 9 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 1924 г. ў Чарназёмаўскім с/с. У 1926 г. 13 двароў, 74 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 23 гаспадаркі, 52 жыхары, у складзе эксперыментальнай базы «Дашкаўка» (цэнтр — в. Дашкаўка). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.

**КРУГІ** — вёска ў Мастоцкім с/с, за 20 км на ПнУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Грыбаны і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 41 гаспадарка, 67 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1635 г. сяло (44 двары) у Плешчыцкім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. уласнасць. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Плешчыцы Магілёўскага павета, 37 двароў, 200 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Нічыпаровіцкай вол. Горацкага павета, 30 двароў, 204 жыхары. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 31 двор, 208 жыхароў. З 21.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. З сак. 1924 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Мастоцкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 62 двары, 419 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная Беларусь», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да



28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 83 гаспадаркі, 163 жыхары, у складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в.Грыбаны). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіроўка прамавугольная. Тры прамалінейныя, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ вуліцы, перпендыкулярна перакрыжаваныя кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**КУПЁЛЫ** — вёска ў Палыкавіцкім с/с, за 8 км на Пн ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў, якая праходзіць праз вёску. 95 гаспадарак, 227 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1743 г. сяло ў Аршанскім павеце. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. сяло Куўголы ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Трыбухі Магілёўскага павета, 20 двароў, 126 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. ў сяле Купёлы 63 жыхары мужчынскага полу. У 1880 г. 26 двароў, 150 жыхароў. Ва ўсіх дварах сяляне займаліся вырабам ільняной і пяньковай кудзелі і тканіны. У 1886 г. адкрыта школа граматы, ператвораная ў 1910 г. ў царк.-прыходскую, а ў 1917 г. — у земскую. Размяшчалася школа ў наёмным памяшканні. У 1897 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета, 39 двароў, 250 жыхароў, меўся хлебазапасны магазін. Непадалёку знаходзіліся сядзіба (1 двор, 5 жыхароў) і заезны дом. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. ў сяле 59 двароў, 291 жыхар, на сядзібе 2 двары, 10 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 50 вучняў, дзейнічаў драмгурток, а ў 1936 г. ў пач. школе было 116 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 88 двароў, 479 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Першамайскі заклік», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 12 гаспадарак. У 1940 г. калгас за дасягненні ў развіцці гаспадаркі занесены ў кнігу Пашаны Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі і разрабавалі вёску. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 127 гаспадарак, 322 жыхары, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Мікалаеўка 2). Размяшчаліся вытв. брыгада, жывёлагадоўчы комплекс, працавала пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, клуб, магазін. У 2007 г. дзейнічаў фельч.-акушэрскі пункт. Аснову планіровачнай структуры складаюць 3 прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ і злучаныя завулкам. Прамалінейныя вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі размешчаны: адна — уздоўж шашы, другая — на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылых будынкаў асн. забудовы. На паўд.-зах. ускраіне, непадалёку ад шашы — вытв. сектар.

Каля вёскі знаходзіцца радовішча суглінкаў і глін (разведаныя запасы 2,45 млн. м$^3$).

**КУТЫ** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 32 км на З ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На паўн. ускраіне пачынаецца і цячэ р. Сянна (Жыварэзка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вендараж, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 38 гаспадарак, 67 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1568 г. як сяло, якое «людьми прихожими засадили». З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. сяло ў Магілёўскім павеце. У 1785 г. ў складзе маёнтка Вендараж Магілёўскага павета, 15 двароў, 98 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. Паводле перапісу 1897 г. ў Вендаражскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 51 двор, 351 жыхар. У 1909 г. 60 двароў, 407 жыхароў. У 1920 г. адкрыта школа, для якой у 1914 г. пабудавана памяшканне. На базе дарэв. створана прац. шко-

ла 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 110 вучняў, дзейнічалі б-ка і драмгурток. У 1923 г. арганізавана аддз. першага ў наваколлі Вендаражскага каап. т-ва, затым была створана арцель «Кастрычнік». У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. вёска, 90 двароў, 576 жыхароў. У 1927 г. пачала працаваць смалакурня, у 1930 г. арганізаваны калгас «Сталінскі заклік». У 1938 г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 86 гаспадарак, 178 жыхароў, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы з завулкамі, арыентаванай шыротна і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛАВЕЦ** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 29 км на З ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Вендараж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пд мяжуе з лесам і пачынаецца р. Лучанка (прыток р. Жыварэзка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вендараж, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. Пастаяннага насельніцтва няма (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з пач. 20 ст. як сядзіба. У 1909 г. 12 двароў, 100 жыхароў, у Вендаражскай вол. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 9 двароў, 59 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У час акупацыі ў вёсцы дзейнічала камсамольская падп. арг-цыя. У 1990 г. 7 гаспадарак, 8 жыхароў, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**ЛАТАНАЎКА** — вёска ў Махаўскім с/с, за 27 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. На З і Пд мяжуе з лесам. На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Чарняўка (прыток р. Ржаўка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вял. Дубраўка і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Махаўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 14 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе саўгаса «Махава» (цэнтр — в. Махава). Планіровачна складаецца з кароткай вуліцы ламанага абрысу, забудаванай няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛАТРОШЧА** — вёска ў Кадзінскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Чарняўка (прыток р. Ржаўка). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Чавусы, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 7 гаспадарак, 10 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з пач. 20 ст. У 1902 г. тут адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе было пабудавана памяшканне. На базе дарэв. пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 35 вучняў. З 20.8.1924 г. ў Шчэжарскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 40 двароў, 265 жыхароў. У 1928 г. дзейнічала сыраварня. У 1929 г. арганізаваны калгас «Цыня», які ў 1934 г. атрымаў імя С.М.Кірава. Працаваў клуб. У 1936 г. ў пач. школе было 26 вучняў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Таранаўскім, з



2.8.1954 г. ў Дарскім, з 1985 г. ў Кадзінскім сельсаветах. У 1990 г. 20 гаспадарак, 44 жыхары, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Бракава). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛАХВА** — пасёлак у Княжыцкім с/с, за 22 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. На З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Княжыцы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 7 гаспадарак, 9 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. хутары, 8 двароў, 48 жыхароў. У сак. 1931 г. арганізаваны калгас «Іскра», які першапачаткова аб'ядноўваў 23 гаспадаркі, у т.л. з суседніх вёсак. З 1934 г. калгас абслугоўвала Магілёўская МТС. Дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 20 гаспадарак, 49 жыхароў, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Бракава). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін, сталовая, клуб. Планіровачна складаецца з 2 кароткіх прамалінейных паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**ЛЕЖНЕЎКА** (да 1960 г. вёскі Старая Лежнеўка і Новая Лежнеўка) — вёска ў Дашкаўскім с/с, за 20 км на Пд ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. Праз вёску цячэ р. Даска (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 75 гаспадарак, 177 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1601 г. ўпамінаецца ў Баркулабаўскай хроніцы як сяло Лежнева. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. сяло ў Магілёўскім павеце. У 1785 г. ў складзе маёнтка Старыя Буйнічы Магілёўскага павета, 8 двароў, 88 жыхароў; уласнасць памешчыка. У 1858 г. 98 рэвізскіх душ. 8 памешчыкаў мелі тут у 1872 г. 602 дзес. зямлі і млын. У 1880 г. 34 двары, 110 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кавальскім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. сяло Старая Лежнеўка (47 двароў, 309 жыхароў) у Вендаражскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. Побач знаходзілася в. Лежнеўка Новая (18 двароў, 120 жыхароў). У 1909 г. ў в. Старая Лежнеўка 50 двароў, 413 жыхароў, у в. Лежнеўка Новая 41 двор, 145 жыхароў. У 1912 г. адкрыта царк.-прыходская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. былі 52 вучні. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл.У 1926 г. ў в. Старая Лежнеўка 103 двары, 403 жыхары, у в. Новая Лежнеўка 260 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Відны шлях», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 46 гаспадарак. У 1939 г. свінарка калгаса Д.К.Міхаленка была ўдзельніцай Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 43 вяскоўцы. У 1990 г. 155 гаспадарак, 374 жыхары, у складзе калгаса «Чырвоная зорка» (цэнтр — в. Дашкаўка). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, працавала 8-гадовая школа, магазін, клуб, б-ка, дзіцячыя яслі. У 2008 г. працаваў клуб. У 1961 г. да вёскі далучана в. Няфёдаўка. Планіровачна складаецца з 2 крывалінейных, амаль паралельных і злучаных завулкамі вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, абапал ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З — гасп. сектар.

**ЛІПЕЦ** — вёска ў Махаўскім с/с, за 24 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПдУ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Будлянка (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Буда і далей па шашы Адэса—Санкт-Пецярбург. 58 гаспадарак, 98 жыхароў (2007).

Вядома з 17 ст. У 1633 г. ўпамінаецца як слабодка Ліпец Каралеўская ў Гарбавіцкай вол., дзярж. ўласнасць. У 1635 г. абруб у Пуцькаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. ў Асавецкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі, 20 жыхароў. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1854 г. вёска ў складзе казённага маёнтка Дуброва-Касцінскі Быхаўскага павета. У 1880 г. 44 двары, 286 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Царкоўна-Асавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 57 двароў, 384 жыхары. Меліся хлебазапасны магазін, вінная крама. У 1909 г. 60 двароў, 500 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 90 двароў, 557 жыхароў. Пачала дзейнічаць пач. школа. У 1931 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі вёску. За вызваленне вёскі загінулі 11 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле на могілках. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 117 гаспадарак, 226 жыхароў, у складзе саўгаса «Махава» (цэнтр — в. Махава). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. У 2008 г. працаваў магазін. Планіроўка прамавугольная. Тры прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, перакрыжаваны перпендыкулярна кароткімі прамалінейнымі вуліцамі і завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы вакол плошчы, утворанай ў цэнтры. На Пд і Пн — гасп. сектар.

**ЛУБНІШЧА** — вёска ў Княжыцкім с/с, за 20 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны. На паўн. ускраіне невялікае возера, з якога выцякае р. Лахвіца (прыток р. Лахва). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Мінск, якая праходзіць побач з вёскай. 54 гаспадаркі, 121 жыхар (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1667 г. сяло ў Аршанскім павеце, шляхецкая ўласнасць. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Галоўчына Магілёўскага павета, 19 двароў, 173 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1857 г. в. Лубніца ў Магілёўскім павеце. У 1895 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. в. Лубішча (58 двароў, 404 жыхары) у Княжыцкай вол. Магілёўскага павета. У 1909 г. 62 двары, 425 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 61 вучань, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых і драмгурток. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8. 1924 г. ў Княжыцкім с/с. У 1926 г. 91 двор, 490 жыхароў. 15.5.1931 г. арганізаваны калгас «Чырвоны баец», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 27 гаспадарак. У 1940 г. 62 двары, 267 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. Пасля вайны адноўлена. У 1990 г. 80 гаспадарак, 238 жыхароў, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Шчэгліца). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, зернедрабільня, вытв. брыгада, працавалі б-ка, аптэка, 2 магазіны. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, уздоўж берага возера, і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод



жылой забудовы. Гасп. сектар — на паўн. ускраіне.

**ЛУЖКІ** — вёска ў Пашкаўскім с/с, за 17 км на ПнЗ ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рэчкі 1 і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 20 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1667 г. сяло ў Аршанскім павеце. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1797 г. ў валоданні Княжыцкага дамініканскага касцёла. У 1817 г. 2 двары, у 1909 г. 8 двароў, 38 жыхароў, у Таўпечыцкай вол. Магілёўскага павета. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 35 двароў, 162 жыхары. У 1934 г. арганізаваны калгас імя С.М.Кірава, які пазней абслугоўваўся Пашкаўскай МТС імя 20-годдзя БССР. У 1938 г. ў калгас уваходзіла 41 гаспадарка, мелася 329 га ворыўнай зямлі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 11 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Рэчкі 1). Працаваў клуб. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, ад якой перпендыкулярна на ПдЗ адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЛЫКАВА** — вёска ў Сідаравіцкім с/с, за 17 км на Пд ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн і З мяжуе з лесам. На З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Ялец (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць побач з вёскай. 230 гаспадарак, 595 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1604 г. як заснаванае ў лесе сяло (26 двароў) у Вяйнянскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета, дзярж. уласнасць. У 1635 г. 59 двароў, у 1742 г. 38 двароў, мелася карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. 63 двары, 390 жыхароў, дварцовая ўласнасць. У 1834 г. 238 жыхароў. У 1850 г. ў складзе маёнтка Вейна Магілёўскага павета, 57 двароў, 347 жыхароў, уласнасць памешчыка, меўся шынок. У 1880 г. 69 двароў, 416 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся калёсным промыслам. У 1880-я г. адкрыта школа. У 1909 г. 105 двароў, 795 жыхароў, меліся царк.-прыходская школа, хлебная крама. У ліп.—жн. 1910 г. адбыліся сял. хваляванні супраць сталыпінскай рэформы. 22 чэрв. натоўп сялян (да 80 чал.) спрабаваў перашкодзіць правядзенню каморніцкіх работ па нарэзцы хутароў. У справу ўмяшалася паліцыя (пав. спраўнік з 30 коннымі стражнікамі). 26 чал. былі арыштаваны. 25 ліп. натоўп сялян (200 чал.) выступіў супраць выхаду з абшчыны багатых вяскоўцаў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, для якой у 1923 г. было пабудавана памяшканне. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1925 г. ў школе 102 вучні. У 1926 г. 152 двары, 1000 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1936 г. ў пач. школе быў 131 вучань з вёсак Лыкава, Барок і хутара Лыкава, мелася б-ка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі, разрабавана і часткова спалена. На могілках і ў брацкіх магілах, што на зах. ускраіне, пахаваны сав. воіны, якія загінулі ў баях у 1941 і 1944 гг. У цэнтры вёскі пастаўлены помнік вяскоўцам, якія загінулі ў барацьбе супраць фашызму. У 1990 г. цэнтр Магілёўскай птушкафабрыкі, 269 гаспадарак, 721 жыхар. У вёсцы працавалі фельч.-акушэрскі пункт, 8-гадовая школа, б-ка, дзіцячы сад-яслі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, грамадская лазня, клуб. У 2008 г. цэнтр прыватнага унітарнага прадпрыемства «Птушкафабры-

ка «Ялец», дзейнічалі комплекс дзіцячы сад—пач. школа, аддз. сувязі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1985 г. Беларускім н.-д. і праектным ін-там горадабудаўніцтва. Планіроўка прамавугольная. Складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкамі. На З да гэтых вуліц далучаецца прамалінейная вуліца амаль мерыдыянальнай арыентацыі, на Пн праходзяць 2 кароткія, плаўна выгнутыя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — вытв. зона. Побач новая вуліца, забудаваная муравanымі двухпавярховымі 4-кватэрнымі дамамі. Грамадскі будынкі размешчаны сярод жылой забудовы.

**ЛЮБАЎКА** — былая вёска ў Вяйнянскім с/с, за 4 км на Пд ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць побач з вёскай.

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1897 г. хутар (2 двары 21 жыхар) у Вяйнянскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 2 двары, 13 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Грабянёўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7. 1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 2.3.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 24.6.1960 г. ў Вяйнянскім с/с. Зараз у складзе саўгаса «Вяйнянскі цяплічны камбінат» (цэнтр — в. Вейна). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай мерыдыянальна ўздоўж шашы і забудаванай аднабакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У, за шашой — асфальтавы з-д.

**ЛЮБУЖ** — вёска ў Кадзінскім с/с, за 6 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, вакол лес. На З цячэ р. Дняпро, а на Пн — яе прыток р. Любуж. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць праз вёску. 46 гаспадарак, 101 жыхар (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1600 г. як сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. У 1713 г. тут побач былі фальварак і млын. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. дзейнічала карчма. У 1785 г. сяльцо (29 жыхароў), 2 млыны на р. Любуж, уласнасць памешчыка. У маёнтку быў 1 двор, 5 жыхароў, вінакурны з-д, млын, 2 сажалкі. У 1847 г. ў сяле 53 двары, у фальварку — 3 вадзяныя млыны, сукнавальня. Памешчык меў у 1856 г. ў Малым Любужы (яна ж Таранава) 442 дзес. зямлі, 2 млыны і заезны дом, а ў 1866 г. ў вёсках Любуж і Брылі — 2765 дзес. зямлі, 2 млыны і заезны дом. Паводле перапісу 1897 г. на сядзібе Любуж было 8 двароў, 27 жыхароў, 3 вадзяныя млыны, у в. Вялікі Любуж — 2 двары, 10 жыхароў, у аднайменнай латышскай калоніі — 13 двароў, 92 жыхары, у заезным доме Малы Любуж — 1 двор, 8 жыхароў, у аднайменным фальварку — 2 двары, 13 жыхароў. Уваходзілі гэтыя населеныя пункты ў Палыкавіцкую вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. на сядзібе Любуж было 3 двары, 13 жыхароў, млын, у фальварку Малы Любуж — 1 двор, 3 жыхары, млын, у заезным доме Вялікі Любуж — 1 двор, 8 жыхароў, у латышскай калоніі — 15 двароў, 96 жыхароў, у лясной канторы Вялікі Любуж — 1 двор, 3 жыхары, у заезным доме Малы Любуж — 1 двор, 4 жыхары. Непадалёку стаяла шашэйная будка (1 двор, 1 жыхар). За 1,5 км ад вёскі, на Кудзінскім Хутары была адкрыта школа, у якой у 1925 г. было 47 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. в. Новы Любуж (37 двароў, 190 жыхароў) і былы маёнтак (16 гаспадарак, 106 жыхароў). У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1984 г. ў Кадзінскім с/с. У 1990 г. 27 гаспадарак, 77 жыхароў, у складзе саўгаса «Кадзіна» (цэнтр — в. Кадзіна). Размяшчаліся дзярж. племянная станцыя, прафілакто-



рый «Сосны» Магілёўскага аб'яднання «Хімвалакно», лясніцтва, працавалі магазін, сельскае спажывецкае т-ва, сталовая, клуб, б-ка. У 2008 г. дзейнічалі магазін, міні-кафэ. Планіровачна складаецца з прамалінейнай з завулкам вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЙШЧЫНА** – вёска ў Семукацкім с/с, за 40 км на ПдЗ ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў–Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Малыя Бялевічы, Будзішча, Вендараж і далей па шашы Магілёў–Бабруйск. 17 гаспадарак, 28 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. як пасёлак. З 20.8.1924 г. ў Вялікабялевіцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. пас. Першы Май, 13 двароў, 43 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да ліп 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З сак. 1943 г. да вызвалення вёскі тут размяшчаліся Магілёўскі падп. райком КП(б)Б і штаб ваенна-аператыўнай групы. У вёсцы і наваколлі базіраваўся 113-ы партыз. атрад (са студз. 1944 г. полк). З 26.6.1954 г. ў Гарадзішчанскім, з 24.6.1960 г. ў Бокатаўскім, з 4.6.1965 г. ў Семукацкім сельсаветах. У 1990 г. 28 гаспадарак, 65 жыхароў, у складзе саўгаса «Бялевічы» (цэнтр – в. Вялікія Бялевічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАКАРАНЦЫ** – вёска ў Брылёўскім с/с, за 13 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў–Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПдЗ цячэ р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург–Адэса. 128 гаспадарак, 340 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло (47 двароў) у Брылёўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. сяло Макарына ў Палыкавіцкай вол. Мелася карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Палыкавічы Магілёўскага павета, 50 двароў, уласнасць памешчыка. У 1847 г. апрача жылых дамоў было 7 лазняў, 8 асецяў, 30 хлявоў. У 1897 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 41 двор, 279 жыхароў, меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, піцейны дом. У 1905 г. школа граматыператворана ў земскую, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1909 г. 69 двароў, 346 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 1924 г. ў Машанацкім с/с. На базе земскай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 82 вучні. У 1926 г. 90 двароў, 495 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Камінтэрн». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы разрабавалі вёску. Нанесеныя калгасу страты склалі 9940 тыс. руб. На фронце загінулі 143 вяскоўцы. З 1975 г. ў Бры-




*Мемарыяльная дошка на доме ў в. Майшчына, у якім размяшчаліся магілёўскія падпольны райком КП(б)Б і штаб ваенна-аператыўнай групы.*

лёўскім с/с. У 1990 г. 123 гаспадаркі, 284 жыхары, цэнтр калгаса імя А.В.Суворава. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, цэх па прыгатаванні вітаміннай мукі, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, працавалі клуб, магазін, пач. школа. У 2008 г. дзейнічалі аддз. сувязі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1979 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 4 прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны вакол плошчы, якая склалася ў цэнтры вёскі. На Пн — гасп. сектар.

**МАКАЎНЯ** — вёска ў Мастоцкім с/с, за 18 км на ПнУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнЗ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Рудзея (прыток р. Раста), якая тут пачынаецца. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Мацееўшчына, Кругі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 30 гаспадарак, 47 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло (53 двары) у Брылёўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі, дзярж. ўласнасць. У 1635 г. мелася карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Плешчын Магілёўскага павета, 61 двор, 469 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1834 г. 311 жыхароў, у 1847 г. 46 двароў, 253 жыхары, у складзе маёнтка Любуж Магілёўскага павета Магілёўскай губ., меўся заезны дом. У 1858 г. 46 двароў. Гаспадар маёнтка меў тут у 1866 г. 469 дзес. зямлі і 2 карчмы. У 1880 г. 57 двароў, 270 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася калёсным і кравецкім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета, 80 двароў, 506 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін і школа граматы. У 1909 г. 84 двары, 614 жыхароў. У 1910 г. школа граматы ператорана ў земскую, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З 2.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. З 1924 г. ў Машанацкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе земскай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 82 вучні з в. Макаўня, хутара Макаўня і пас. Русінка. У 1926 г. 136 двароў, 773 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пераможац». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1960 г. ў Мастоцкім с/с. У 1990 г. 71 гаспадарка, 123 жыхары, у складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Грыбаны). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі пач. школа, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з 2 размежаваных садам частак: паўн. (працяглая прамалінейная вуліца амаль шыротнай арыентацыі, ад якой на Пд адыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы) і паўд. (2 прамалінейныя вуліцы, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ і злучаныя завулкамі). Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**МАКРУСІНКА** — вёска ў Мастоцкім с/с, за 25 км на ПнУ ад Магілёва, 24 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На ПдУ цячэ р. Вар'я (прыток р. Рудзея). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кругі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 12 гаспадарак, 6 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з пач. 20 ст. У 1909 г. в. Макавінская Русінка (7 двароў, 41 жыхар) у Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ. З 20.8.1924 г. ў Машанацкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 7 двароў, 55 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўсту-



пілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 24.6.1960 г. ў Мастоцкім с/с. У 1990 г. 22 гаспадаркі, 50 жыхароў, у складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Грыбаны). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛАЯ ДУБРАЎКА** — вёска ў Махаўскім с/с, за 28 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 1. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вялікая Дубраўка і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 11 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. в. Дубраўка (46 двароў, 321 жыхар) у Царкоўна-Асавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Меліся хлебазапасны магазін і школа граматы. У 1909 г. 49 двароў, 388 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Кастрычнік», меліся кузня, вяровачная арцель. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 38 гаспадарак, 71 жыхар, у складзе саўгаса «Махава» (цэнтр — в. Махава). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У — гасп. сектар.

**МАЛЕЕЎКА** — вёска ў Брылёўскім с/с, за 14 км на У ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Брылі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 12 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1758 г. вёска ў Быхаўскім графстве. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1784 г. 24 двары, 220 жыхароў, гаспадарскі двор, млын, уласнасць памешчыка ў Быхаўскім павеце. Уладальнік маёнтка меў у 1851 г. 2937 дзес. зямлі, млын і 3 карчмы.

З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 20 двароў, 128 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік», дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1975 г. ў Брылёўскім с/с. У 1990 г. 16 гаспадарак, 40 жыхароў, у складзе калгаса імя Ільіча (цэнтр — в. Брылі). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, да якой з Пд, перпендыкулярна далучаецца другая кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У — гасп. сектар.

**МАЛІННІК** — пасёлак у Заводскаслабодскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць побач з вёскай. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Дасовіцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 20 двароў, 101 жыхар. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 2.6.1944 г. партызаны разграмілі ням. гарнізон, які размяшчаўся ў вёсцы. З 1973 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. 14 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе саўгаса «Дасовічы» (цэнтр — в. Дасовічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на

ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛОЕ БУШКАВА** — вёска ў Сухарэўскім с/с, за 24 км на ПнУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. На зах. ускраіне цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вялікае Бушкава, Кругі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 31 гаспадарка, 49 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло Бушкава ва Ульянаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета, дзярж. уласнасць. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. 16 двароў, 119 жыхароў, у складзе маёнтка Селішча, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 39 двароў, 290 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 46 двароў, 324 жыхары. У 1916 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Сухарэўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Чавускім, з 12.2.1935 г. ў Зарасцянскім с/с Дрыбінскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе земскай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 64 вучні з вёсак Малое Бушкава, Вялікае Бушкава, Зарэсце, пасёлкаў Узмошча, Сухараўка. У 1926 г. 78 двароў, 482 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны пуцілавец», дзейнічала кузня. У 1940 г. 102 двары, 546 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 40 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. 16.8.1959 г. Дрыбінскі р-н скасаваны і Зарасцянскі с/с увайшоў у склад Сухарэўскага с/с Чавускага р-на, з 22.1.1965 г. ў Магілёўскім р-не. У 1990 г. 55 гаспадарак, 108 жыхароў, у складзе калгаса «Парыжская Камуна» (цэнтр — в. Зарэсце). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых вуліц (адна працяглая, другая кароткая), арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛОЕ ЗАПАТОЧЧА** — вёска ў Семукацкім с/с, за 45 км на ПдЗ ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На паўд.-ўсх. ускраіне праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Арлянка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вялікае Запаточча, Кучын і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

За 0,2—0,3 км на З і Пн ад вёскі знаходзяцца курганныя могільнікі (9 і 6 насыпаў), якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вёска ўзнікла ў 1920-я г. ў выніку падзелу в. Запаточча (вядома з 18 ст.), якая ў 1926 г. налічвала 159 двароў, 963 жыхары, на 2 вёскі: Вялікае Запаточча і Малое Запаточча. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ленінская праўда». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 20 гаспадарак, 39 жыхароў, у складзе саўгаса «Колас» (цэнтр — в. Семукачы). Размяшчаліся вытв. брыгада і свінагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі і каналаў. Забудавана пераважна аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**МАЛОЕ ХОНАВА** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 37 км на ПдЗ ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З цячэ р. Арлянка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Завадская Слабада, Навасёлкі і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 15 гаспадарак, 35 жыхароў (2007).



Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. хутар Ханаў (5 двароў, 21 жыхар, млын) у Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Пазней хутар стаў называцца в. Малое Ханава. Пры ліквідацыі контррэв. мецяжу корпуса польск. легіянераў у пач. 1918 г. загінулі 5 чырвонаармейцаў, якія пахаваны на вясковых могілках. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 1924 г. ў Коцнінскім, з 1925 г. ў Хонаўскім сельсаветах. У 1929 г. арганізаваны калгас «XVII партз'езд». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях за вызваленне вёскі загінулі 4 сав. воіны, якія пахаваны на могілках. На фронце загінулі 62 вяскоўцы, у памяць аб якіх каля будынка школы пастаўлены абеліск. У 1990 г. 27 гаспадарак, 77 жыхароў, у складзе саўгаса «Барок» (цэнтр — в. Завадская Слабада). Працавалі пач. школа, медпункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай з завулкамі вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАЛЫ АСАВЕЦ** — вёска ў Махаўскім с/с за 25 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Будлянка (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Малая Дубраўка і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 61 гаспадарка, 99 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Старабыхаўскім павеце. У 1858 г. 68 жыхароў мужчынскага полу, у складзе маёнтка Пусты Асавец, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Царкоўна-Асавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 35 двароў, 238 жыхароў. У 1909 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. На базе земскай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 38 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях праўды». У хуткім часе былі пабудаваны калгасны двор, збожжасховішчы, кароўнік, канюшня. Мелася кузня, быў таксама збудаваны клуб. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Калгасная гаспадарка была разрабавана і знішчана гітлераўцамі. У 1990 г. 105 гаспадарак, 223 жыхары, у складзе саўгаса «Махава» (цэнтр — в. Махава). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, зернедрабільня, працавалі клуб, аддз. сувязі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, пач. школа. У 2007 г. дзейнічалі аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіроўка прамавугольная. Складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных завулкамі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны вакол плошчы, якая склалася ў цэнтры вёскі. На ПдУ — гасп. сектар.

**МАЛЫЯ БЯЛЕВІЧЫ** — вёска ў Семукацкім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Пячора (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Куты, Вендараж і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 34 гаспадаркі, 58 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Старабыхаўскім павеце. У 1857 г. сяло ў Быхаўскім павеце, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 29 двароў, 230 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім і адыходным промысламі. У 1886 г. адкрыта школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1909 г. ў Гарадзішчанскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 55 двароў, 366 жыхароў. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 70 вучняў, у іх ліку 34 піянеры, дзейнічала

б-ка. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 102 двары, 726 жыхароў. У ліст. ў 1929 г. арганізаваны калгас «Сцяг камунізму», які ў тым жа годзе атрымаў трактар. У 1931 г. калгас аб'ядноўваў 67 гаспадарак, У 1930-я г. пач. школа пераўтворана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. было 304 вучні, у іх ліку 96 піянераў, 8 камсамольцаў, дзейнічала б-ка. У 1940 г. 73 двары, 420 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і ваколіцах базіраваліся 113-ы партыз. атрад (са студз. 1944 г. полк) Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы і Магілёўскі падп. райком КП(б)Б. Гітлераўцы 26.2.1943 г. спалілі зажыва 41 жыхара з вёсак Малыя Бялевічы і Навабеліца. Яны пахаваны ў магіле на зах. ускраіне вёскі. У вер. 1943 г. гітлераўскія карнікі спалілі 69 двароў. У брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі, пахаваны 12 сав. воінаў, якія загінулі ў 1941 і 1944 гг. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 46 гаспадарак, 148 жыхароў, у складзе саўгаса «Бялевічы» (цэнтр — в. Вялікія Бялевічы). Размяшчаліся фермы свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы, працавалі аўтаматычная тэлеф. станцыя, магазін. фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, уздоўж ракі. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне — сад. Вытв. сектар — на ПнУ.

**МАСАЛЬШЧЫНА** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 28 км на З ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Вендараж і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1785 г. сяльцо, цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце, шляхецкая ўласнасць. Памешчык меў тут у 1862 г. 917 дзес. зямлі, вінакурны з-д і млын. З 1874 г. дзейнічала вінакурня. У 1897 г. сядзіба (2 двары, 56 жыхароў) у Княжыцкай вол. Магілёўскага павета. Апрача вінакурні дзейнічаў вадзяны млын. У 1909 г. маёнтак і фальварак, дзейнічалі цагельны з-д, млын, вінакурня, карчма. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Савецкая Беларусь». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і наваколлі базіраваўся 121-ы партыз. атрад (з ліст. 1943 г. полк) Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы. У 1990 г. 10 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе саўгаса «Вендараж». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МАСТОК** — вёска, цэнтр сельсавета, за 20 км на ПнУ ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. На У цячэ р. Дняпро. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць побач з вёскай. 273 гаспадаркі, 650 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1635 г. сяло (64 двары) у Брылёўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 18 двароў, млын, карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Палыкаўшчына Магілёўскага павета, 45 двароў, 212 жыхароў. У 1834 г. было 218 жыхароў, у 1847 г. 49 двароў, 309 жыхароў, у складзе маёнтка Палыкавічы, уласнасць памешчыка ў Магілёўскім павеце. Паводле перапісу 1897 г. 102 двары, 666 жыхароў, меліся хлебазапасны магазін, школа граматы, якая ў пач. 20 ст. ператворана ў нар. вучылішча, у якім у 1907 г. навучалася 48 хлопчыкаў. У 1912 г. для школы пабудавана памяшканне. У 1909 г. 178 двароў, 884 жыхары. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 80 вучняў, у іх ліку 18 піянераў, ме-



ліся харавы і драматычны гурткі. У былым маёнтку ў 1921 г. створана с.-г. арцель. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Лупалаўскага, з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 207 двароў, 1164 жыхары. У 1933 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна, мелася кузня, дзейнічалі торфазавод «Хвойны Масток» і цагельня. Пач. школа ў 1930-я г. ператворана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. было 289 вучняў, у іх ліку 83 піянеры, 5 камсамольцаў, дзейнічала б-ка. У 1940 г. 271 двор, 965 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1943 г. гітлераўцы спалілі 258 двароў, загубілі 227 жыхароў. У брацкай магіле, што на могілках, пахаваны 43 воіны 95-й стралк. дывізіі 49-й арміі, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. Камсамольцы Мастоцкага с/с сабралі ў час вайны 100 тыс. руб. на будаўніцтва самалёта «Мастоцкі калгаснік». У 1990 г. 325 гаспадарак, 868 жыхароў, цэнтр калгаса імя К.С.Заслонава. У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, майстэрні па рамонце с.-г. тэхнікі, устаноўка па прыгатаванні вітаміннай мукі, ветэрынарны ўчастак, лесапільня, працавалі 2 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, клуб, б-ка, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт. У 2008 г. цэнтр СВК «Масток—Дняпро», дзейнічалі сярэдняя школа, аддз. сувязі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1984 г. ў Бел. н.-д. і праектным ін-це горадабудаўніцтва. Планіроўка прамавугольная. Складаецца з 6 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных мерыдыянальна, уздоўж шашы, злучаных папярочнымі вуліцамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры вёскі размяшчаюцца мураваныя грамадскія і жылыя будынкі. На паўд.-ўсх. і усх. ускраінах — гасп. сектар. Радзіма Героя Сац. Працы П.Б.Пракапнёвай (1914—?).

За 2,5 км на З і ПдЗ ад вёскі размешчана Мастоцкае радовішча пяску.

**МАХАВА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 26 км на ПдУ ад Магілёва, 22 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на У мяжуе з лесам. На З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Паўна (прыток р. Дняпро), якая выцякае з возера, што ў цэнтры вёскі. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Старая Мілееўка і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 230 гаспадарак, 619 жыхароў (2007).



*П.Б.Пракапнёва.*

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. Пад 1585 г. упамінаецца ў Баркулабаўскай хроніцы. У 1604 г. сяло ў Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1781 г. ў Быхаўскім павеце, 41 двор, 314 жыхароў. У 1844 г. пабудавана драўляная царква. У 1858 г. 75 жыхароў мужчынскага полу. Уладальнік маёнтка ў 1862 г. меў 120 дзес. зямлі. У 1880 г. 40 двароў, 164 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Царкоўна-Асавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Меліся хлебазапасны магазін, царква, піцейны дом. У 1901 г. ўзведзены будынак і адкрыта царк.-прыходская школа, пераўтвораная ў 1916 г. ў земскую. Побач знаходзіліся фальваркі Махава (1 двор, 13 жыхароў), Махава 1 (1 двор, 16 жыхароў), Махава 2 і 3 (2 двары, 26 жыхароў). Меліся царква і заезны дом. У 1909 г. 44 двары, 365 жыхароў. На базе земскай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 64 вучні, дзейнічаў драматычны гурток. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў сяле 80 двароў, 512 жыхароў, у былым маёнтку 32 жыхары. З 1928 г. працавала сыраробчае прадпрыемства. У 1929 г. з'явілася радыё. У 1930 г. арганізаваны калгас

«Юны ленінец», працавалі кузня, цяслярская майстэрня, вырабляліся вязы і вяроўкі. Вёска расла за кошт перасяленцаў з суседніх хутароў. У 1930-я г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. было 289 вучняў, у іх ліку 60 піянераў, 3 камсамольцы, дзейнічала б-ка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле, што на вясковых могілках, пахаваны 75 сав. воінаў, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі. На фронце загінулі 434 вяскоўцы, на ўшанаванне памяці якіх каля будынка выканкома сельсавета пастаўлены помнік. У 1990 г. 262 гаспадаркі, 716 жыхароў, цэнтр саўгаса «Махава». У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, ферма буйной рагатай жывёлы, сталярна-цяслярскія майстэрні, млын, лесапільня, працавалі сярэдняя і муз. школы, 3 магазіны, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, сталовая, дзіцячы сад-яслі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, аддз. ашчаднага банка. У 2007 г. дзейнічалі комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 магазіны. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1982 г. Планіроўка прамавугольная. Складаецца з 6 прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкамі. На ПдЗ адасоблена праходзяць 3 вуліцы такой жа арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд пабудаваны шэраг двухпавярховых мураваных жылых дамоў. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. На Пн — гасп. сектар.

**МАЦЕЕЎШЧЫНА** — вёска ў Мастоцкім с/с, за 23 км на ПнУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПдЗ праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Кругі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 41 гаспадарка, 64 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Плешчыцы Магілёўскага павета, 33 двары, 233 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1834 г. 141 жыхар, у 1847 г. 21 двор, 123 жыхары, у складзе маёнтка Любуж. Паводле перапісу 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета, 33 двары, 235 жыхароў. У 1909 г. 39 двароў, 205 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 20.8.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня, пачаў дзейнічаць пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 78 двароў, 429 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Шлях праўды». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 72 гаспадаркі, 76 жыхароў, у складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Грыбаны). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, ветэрынарны ўчастак, зерняток, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой з ПдУ падыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.

**МАШАНАКІ** — вёска ў Брылёўскім с/с, за 10 км на У ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Макаранцы і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 62 гаспадаркі, 117 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло Машчаны ў Брылёўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. маёмасць,



64 двары. У 1667 г. дзейнічала царква. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Плешчыцы Магілёўскага павета, 40 двароў, 298 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1847 г. 37 двароў, 205 жыхароў, у складзе маёнтка Любуж Магілёўскага павета. Меліся заезны дом і царква. Гаспадар маёнтка ў 1871 г. меў тут 541 дзес. зямлі. У 1888 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у 1900 г. пабудавана памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ., 56 двароў, 404 жыхары. Меліся царква, царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, казённая вінная крама. У жн. 1905 г. пры ўдзеле членаў Палескага к-та РСДРП у вёсцы адбыўся мітынг, на якім сяляне патрабавалі паляпшэння ўмоў жыцця. У памяць аб мітынгу ў 1973 г. на будынку школы пастаўлена мемарыяльная дошка. У 1909 г. 72 двары, 456 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 78 вучняў, у іх ліку 21 піянер. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. да 9.12.1975 г. цэнтр сельсавета. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. З 1925 г. дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 116 двароў, 651 жыхар. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны партызан». У 1930-я г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. было 289 вучняў, у іх ліку 60 піянераў, дзейнічала б-ка. У школе навучаліся дзеці з в. Машанакі і хутароў Мішкаўка, Зылі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У брацкай магіле каля будынка клуба пахаваны 45 сав. воінаў, якія загінулі ў баі за вызваленне вёскі. У 1990 г. 112 гаспадарак, 233 жыхары, у складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Макаранцы). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, зернедрабільня, працавалі комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, клуб, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, 8-гадовая школа, бальніца, аптэка, магазін, б-ка. У 2007 г. цэнтр СВК «Макаранцы», працаваў магазін. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой далучаецца з Пд прамалінейная вуліца, а на Пн яе перакрыжоўвае другая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы драўляныя, індывідуальнага тыпу. У цэнтры жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. На Пд — гасп. сектар.

Радзіма Героя Сац. Працы З.В.Бандарэнкі (нар. ў 1937).

**МАЯК** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Магілёва, 1 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ ручай (прыток р. Жыварэзка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Навасёлкаўскім 2, з 21.8.1925 г. ў Гуслішчанскім сельсаветах Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 10 двароў, 41 жыхар. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Вендаражскім с/с. У 1990 г. 5 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**МІКАЛАЕЎКА** — вёска ў Семукацкім с/с, за 40 км на ПдЗ ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Малыя Бялевічы, Будзішча, Вендараж і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Рафалаўскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў

Магілёўскай вобл. У 1926 г. 36 двароў, 192 жыхары. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У ліку калгаснікаў у гэты час былі 2 члены партыі. У 1940 г. 11 двароў, 45 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і наваколлі базіраваўся 121-ы партыз. атрад (з ліст. 1943 г. полк) Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы. У вер. 1943 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску. З 26.6.1965 г. ў Семукацкім с/с. У 1990 г. 7 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе саўгаса «Бялевічы» (цэнтр — в. Вялікія Бялевічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай аднабакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.


*С.І.Слабадзян.*

**МІКАЛАЕЎКА 1** — вёска ў Палыкавіцкім с/с, за 6 км на ПнУ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На ўсх. ускраіне цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 98 гаспадарак, 220 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета, 62 двары, 401 жыхар, меліся школа граматы, 2 хлебазапасныя магазіны. У 1909 г. 87 двароў, 483 жыхары. Дзейнічалі царк.-прыходская школа, хлебазапасны магазін, карчма і паром цераз Дняпро. У 1910 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 47 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінуў 61 вясковец, у памяць аб якіх каля будынка клуба пастаўлена скульптурная кампазіцыя. У 1990 г. 142 гаспадаркі, 311 жыхароў, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Мікалаеўка 2). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі 8-гадовая школа, клуб, аддз. сувязі, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных вуліц (адна працяглая, другая кароткая), арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, да якіх з ПнЗ падыходзяць пад прамым вуглом 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы традыц., драўляныя, сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны ў цэнтры вёскі сярод жылой забудовы. У цэнтры і на паўд.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар. Каля паўд. ускраіны — сад.

**МІКАЛАЕЎКА 2** — вёска ў Палыкавіцкім с/с, за 5 км на ПнУ ад Магілёва, 4 км ад чыг. станцыі Магілёў 1. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На У цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 238 гаспадарак, 580 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 44 гаспадаркі. У ліку калгаснікаў у гэты час былі 2 камуністы. За высокія вытв. паказчыкі ў 1940 г. калгас быў занесены ў кнігу Пашаны Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі вёску. У баі за вызваленне вёскі загінулі 60 сав. воінаў. На фронце загінуў 61 вясковец, у памяць аб якіх за 3 км на Пд ад вёскі, злева ад дарогі Магілёў—Палавінны Лог, у 1970 г. пастаўлена двухфігурная скульптурная кампазіцыя. У 1990 г. 234 гаспадаркі, 587 жыхароў, цэнтр калгаса «Камінтэрн». У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, лесапільня, цэх па вырабе будаўнічых дэталей, зернедрабільня, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, працавалі магазін, б-ка, Дом культуры, пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт. У 2008 г. дзейнічалі аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і



забудовы распрацаваны ў 1974 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Планіроўка прамавугольная. Тры прамалінейныя, паралельныя паміж сабой вуліцы арыентаваны з ПдУ на ПнЗ і злучаны кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. На ПнУ ад гэтых вуліц адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, шчыльная. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. У цэнтры, вакол невял. плошчы, размешчаны мураваныя грамадскія будынкі. На паўд.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

Радзіма Героя Сац. Працы Т.С.Зубаравай (1916—94). Тут жыў і працаваў Герой Сац. Працы С.І.Слабадзян (1907—80).

**МІКАЛАЕЎКА 3** — вёска ў Палыкавіцкім с/с, за 5 км на ПнУ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 1. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На У цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 63 гаспадаркі, 136 жыхароў (2007).

Засн. ў 1939 г. перасяленцамі з суседніх хутароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 90 гаспадарак, 238 жыхароў, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Мікалаеўка 2). Размяшчаліся комплексная брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі клуб, б-ка. Планіроўка Т-падобная. Да асн. прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, далучаецца на Пн кароткая прамалінейная вуліца. Забудова двухбаковая, няшчыльная. Жылыя дамы традыц. драўляныя, сядзібнага тыпу. На зах. ускраіне — гасп. сектар, на паўн.-ўсх. ускраіне — сад.

**МІРНЫ** (да 1969 г. цэнтральная сядзіба птушкафабрыкі) — пасёлак у Сідаравіцкім с/с, за 18 км на Пд ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць побач з пасёлкам. 101 гаспадарка, 250 жыхароў (2007).

Калі ў сак. 1965 г. тут была засн. птушкафабрыка, для яе рабочых пачаў складвацца жылы пасёлак, які ў 1969 г. атрымаў назву Мірны. У 1990 г. 86 гаспадарак, 294 жыхары. У пасёлку працавалі аддз. сувязі, дзіцячы сад-яслі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з 3 кароткіх прамалінейных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных завулкамі. На Пн — адасоблены ўчастак забудовы. Жылыя дамы пераважна драўляныя, сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы.

**МІХАЙЛАЎСК** — пасёлак у Семукацкім с/с, за 40 км на ПдЗ ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Друць (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Малыя Бялевічы, Будзішча, Вендараж і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 15 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Вялікабялевіцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 5 двароў, 32 жыхары. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 37 двароў, 177 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў вер. 1943 г. спалілі 35 двароў, загубілі 2 жыхароў. У 1990 г. 33 гаспадаркі, 77 жыхароў, у складзе саўгаса «Бялевічы» (цэнтр — в. Вялікія Бялевічы). Размешчана авечкагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц (адна працяглая, другая кароткая), арыентаваных шыротна, злучаных завулкам і забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**МІХАЛЁВА** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 20 км на ПдЗ ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На

Пд размешчана вадасховішча, створанае запрудай на р. Альхоўка (прыток р. Жыварэзка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вендараж, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 117 гаспадарак, 330 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1858 г. ў вёсцы было 22 жыхары мужчынскага полу. Памешчык у 1866 г. меў тут 353 дзес. зямлі, а ў 1872 г. 4 памешчыкі мелі 1426 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. ў Вендаражскай вол. Магілёўскага павета, 9 двароў, 57 жыхароў. Побач знаходзіўся аднайменны фальварак, 4 двары, 14 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 10 двароў. 63 жыхары, у фальварку — 1 двор, 5 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 19.2.1925 г. створана с.-г. арцель «Новае жыццё». У 1926 г. 34 двары, 220 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і наваколлі базіраваўся 121-ы партыз. атрад (з ліст. 1943 г. полк) Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы. У 1990 г. 101 гаспадарка, 194 жыхары, цэнтр калгаса «Герой працы». У вёсцы былі размешчаны фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, вытв. брыгада, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, ветэрынарны ўчастак, лесапільня, ёсць магазін, комплексна-прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, 8-гадовая школа, фельч.-акушэрскі пункт. У 2008 г. цэнтр СВК «Міхалёўскі», дзейнічалі аддз. сувязі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1980 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 3 кароткіх, прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, да якіх на ПнЗ далучаецца кароткая прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры ўзведзены шэраг двухпавярховых 8-кватэрных дамоў. На У — гасп. сектар.

**МІШКАЎЦЫ** — вёска ў Брылёўскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Макаранцы і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 19 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло Мішкавічы ў Брылёўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 26 двароў, дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 10 двароў, мелася карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. 29 двароў, 146 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Нічыпаравіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 30 двароў, 192 жыхары, дзейнічаў хлебазапасны магазін. У 1909 г. 34 двары, 232 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Машанацкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны фронт», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1975 г. ў Брылёўскім с/с. У 1990 г. 39 гаспадарак, 81 жыхар, у складзе калгаса імя А.В.Суворава (цэнтр — в. Макаранцы). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных паралельных вуліц, злучаных завулкамі і арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — сад і гасп. сектар.

**МЯДЗВЁДАЎКА** — вёска ў Кадзінскім с/с, за 20 км на У ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнУ цячэ р. Рудзея (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Чавусы, якая праходзіць побач з вёскай. 59 гаспадарак, 129 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. сяло ў Чавускім павеце. У 1785 г. ў Ча-



вускім павеце, 28 двароў, 188 жыхароў, меўся млын. Паводле перапісу 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ. Меліся школа граматы, заезны дом. Побач знаходзіліся аднайменны хутар (1 двор, 4 жыхары), вадзяны млын, крупадзёрка і карчма (1 двор, 9 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 60 двароў, 435 жыхароў, дзейнічала школа (нар. вучылішча), у фальварку 1 двор, 5 жыхароў. У 1924 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. было 52 вучні з в. Мядзвёдаўка і хутара Гароднія. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 90 двароў, 553 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «XVIII партз'езд». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 73 гаспадаркі, 195 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Латрошча). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі пач. школа, клуб, магазін. У 2007 г. працаваў магазін. Планіроўка прамавугольная. Складаецца з 3 прамалінейных паралельных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, да якіх далучаюцца пад прамым вуглом кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры, сярод жылой забудовы, размешчаны грамадскія будынкі. На Пн — гасп. сектар, на Пд — сад.

**МЯЖЫСЕТКІ** — вёска ў Дашкаўскім с/с, за 16 км на ПдЗ ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Даска (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць праз вёску. 644 гаспадаркі, 1807 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. в. Мяжысітка ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. в. Мазісеткі ў складзе маёнтка Старыя Буйнічы Магілёўскага павета, 2 двары, 12 жыхароў. Два памешчыкі мелі тут у 1872 г. 608 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. вёскі Мяжысяткі (12 двароў, 88 жыхароў) і Старыя Мяжысеткі (24 двары, 172 жыхары) у Вендаражскай вол. Магілёўскага павета. У 1909 г. вёскі Мяжысеткі (90 двароў, 603 жыхары) і Старыя Мяжысеткі (14 двароў, 110 жыхароў). Дзейнічала земская школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 64, а ў 1936 г. 94 вучні, мелася б-ка. Дзейнічала смалакурня. З 17.7. 1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 40 вяскоўцаў. У 1990 г. 520 гаспадарак, 1591 жыхар, у складзе эксперыментальнай базы «Дашкаўка» (цэнтр — в. Дашкаўка). Размяшчалася бройлерная птушкафабрыка, працавалі дзіцячы сад-яслі, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, фельч.-акушэрскі пункт, магазін, сталовая, Дом быту, Дом культуры. У 2000-я г. на базе вёскі створаны аграгарадок. У 2007 г. дзейнічалі сярэдняя школа, б-ка, урачэбная амбулаторыя, комплексны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1980 г. ў ін-це «БелНДІгіпрасельбуд». Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнУ, да якой у цэнтры падыходзіць пад прамым вуглом кароткая крывалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частка забудовы вядзецца адна-, двух- і чатырохпавярховымі мураванымі дамамі. Грамадскія будынкі размешчаны ў цэнтры сярод жылой забудовы.

**НАВАБЕЛІЦА** — вёска ў Семукацкім с/с, за 35 км на З ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Будзішча, Вендараж і да-

лей па шашы Магілёў—Бабруйск. 11 гаспадарак, 15 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Вялікабялевіцкім с/с Магілёўскага р-на, з 20.2. 1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 20 двароў, 97 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і наваколлі базіраваліся 113-ы партыз. атрад (са студз. 1944 г. полк) і падп. райком КП(б)Б. З 26.6.1954 г. ў Гарадзішчанскім, з 4.6.1965 г. ў Семукацкім сельсаветах. У 1990 г. 21 гаспадарка, 37 жыхароў, у складзе саўгаса «Бялевічы» (цэнтр — в. Вялікія Бялевічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Дашкаўскім с/с, за 17 км на Пд ад Магілёва, 3 км ад чыг. станцыі Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Дняпро. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Быхаў, якая праходзіць праз вёску. 99 гаспадарак, 176 жыхароў (2007).

За 0,5 км на Пн ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра захаваліся 2 стаянкі эпохі мезаліту, што сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Старыя Буйнічы Магілёўскага павета, 28 двароў, 292 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1847 г. 37 двароў, 191 жыхар, у складзе маёнтка Салтанаўка. У 1880 г. 56 двароў, 351 жыхар. Меліся царк.-прыходская школа, паравы і вадзяны млыны. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся пянькова-ільняным, шавецкім і цяслярскім промысламі. У 1909 г. 108 двароў, 672 жыхары. У 1913 г. адкрыта земская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 110 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 95 двароў, 590 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Арлен», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 29 гаспадарак, мелася кузня, выбрабляліся колы, дзейнічала вяровачная вытв-сць. Кулакі жорстка расправіліся з дэпутатам сельсавета П.Шацілавым, якога забілі з абрэза на вачах жонкі і 4-гадовай дачкі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баі за вызваленне вёскі загінулі 18 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле на вясковых могілках. На фронце загінулі 22 вяскоўцы. У 1990 г. 165 гаспадарак, 344 жыхары, у складзе калгаса «Чырвоная зорка» (цэнтр — в. Дашкаўка). Размяшчаліся комплекс па вырошчванні цёлак, ферма буйной рагатай жывёлы, млын, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з 3 крывалінейных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, да якіх на У далучаецца крывалінейная з завулкам вуліца (адрэзак шашы) амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Вяйнянскім с/с, за 7 км на Пд ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на ПдУ мяжуе з лесам. На У цячэ р. Дзягцярка (Вільчанка), на якой зроблена запруда. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць побач з вёскай. 203 гаспадаркі, 512 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1566 г. сяло ў Магілёўскай вол., у часовым валоданні шляхціца. У 1604 г. ў Вяйнянскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., 56 двароў, дзярж. ўласнасць меўся вадзяны млын. У 1742 г. дзейнічала карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Вільчыцы Магілёўскага павета, 60



двароў, 352 жыхары, дварцовая ўласнасць. У 1850 г. 50 двароў, 296 жыхароў, уласнасць памешчыка, дзейнічаў шынок. У 1880 г. 56 двароў, 351 жыхар, хлебная крама. Апрача земляробства вяскоўцы ва ўсіх дварах займаліся вырабам ільняной і пяньковай кудзелі і тканіны. У вясковай школе (нар. вучылішча) у 1889 г. навучаўся 21 хлопчык. У 1897 г. 86 двароў, 580 жыхароў. У 1905 г. для школы пабудавана памяшканне. У 1909 г. 108 двароў, 672 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Грабянёўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе земскай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 104 вучні. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 182 двары, 1009 жыхароў. У маі 1931 г. арганізаваны калгас «Ударнік» (45 гаспадарак). Працавала кузня. У 1930-я г. пач. школа ператорана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. было 238 вучняў, у іх ліку 62 піянеры, 3 камсамольцы, дзейнічалі б-ка і радыёпрыёмнік. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баі за вызваленне вёскі загінула 20 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле, што ў цэнтры вёскі. На фронце загінулі 103 вяскоўцы, на ўшанаванне іх памяці за 150 м на З ад вёскі пастаўлены помнік. З 24.6.1960 г. ў Вяйнянскім с/с. У 1990 г. 166 гаспадарак, 563 жыхары, у складзе саўгаса «Вяйнянскі цяплічны камбінат» (цэнтр — в. Вейна). Размешчана вытв. брыгада, ёсць клуб, б-ка, магазін, фельч.-акушэрскі пункт. У 2008 г. дзейнічалі фельч.-акушэрскі пункт, 2 магазіны. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1984 г. ў ін-це «БелНДІгіпрасельбуд». Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ракой частак: зах. (3 крывалінейныя вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, злучаныя кароткімі прамалінейнымі вуліцамі і завулкамі) і ўсх. (2 крывалінейныя вуліцы). Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. Гасп. сектар — на З.

**НАВАСЁЛКІ** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 24 км на ПдЗ ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 25 гаспадарак, 50 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло (60 двароў) у Інструбіцкім войтаўстве Магілёўскага староства Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1635 г. 84 двары, мелася карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1843 г. ўласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. былі в. Навасёлкі 1 (98 двароў, 616 жыхароў, нар. вучылішча, у якім у 1907 г. навучаліся 42 хлопчыкі, 4 дзяўчынкі, хлебазапасны магазін), в. Навасёлкі 2 (53 двары, 378 жыхароў), сядзіба Навасёлкі 3 (3 двары, 24 жыхары). Апрача земляробства вяскоўцы займаліся кавальскім промыслам і вырабам посуду з дрэва. У ліп. 1905 г. адбылося выступленне сялян супраць памешчыцкага прыгнёту. Разагнаўшы ахову, вяскоўцы захапілі панскія лугі. На падаўленне хваляванняў былі выкліканы войскі. У 1909 г. ў Вендаражскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., у в. Навасёлкі 1 было 110 двароў, 734 жыхары, у в. Навасёлкі 2 — 67 двароў, 433 жыхары. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарый». У 1930-я г. пач. школа ператорана ў 7-гадовую. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Спалена і разрабавана гітлераўцамі. На фронце загінула 40 вяскоўцаў. У 1990 г. 25 гаспадарак, 50 жыхароў, у складзе саўгаса «Махава» (цэнтр — в. Махава). Размяшчалася комплексная брыгада саўгаса, працавалі фельч.-акушэрскі пункт, аддз. сувязі, б-ка, Дом культуры. Планіровач-

на складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

За 0,5 км на ПдУ ад вёскі размешчана радовішча пяску.

**НАВАСЁЛКІ 1** — вёска ў Пашкаўскім с/с, за 16 км на ПнУ ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Шклоў. Рэльеф раўнінны, на З праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі 2, Сафіеўка і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 10 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1667 г. сяло ў Мсціслаўскім ваяв., шляхецкая ўласнасць. У рус.-польскую вайну 1654—67 гг. спустошана ў выніку ваенных дзеянняў. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. сяло ў Магілёўскай акрузе. У 1848 г. ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ., дзейнічала мураваная царква, з'яўлялася ўласнасцю памешчыка. У 1858 г. 61 рэвізская душа. У 1880 г. ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета, 30 двароў, 192 жыхары. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам драўлянага посуду, лодак, рыдлёвак. Паводле перапісу 1897 г. 36 двароў, 220 жыхароў. Побач была сядзіба Навасёлкі 2 (3 двары, 24 жыхары). У 1909 г. 38 двароў, 259 жыхароў. Дзейнічала школа граматы, якая ў 1911 г. ператворана ў земскую. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 58 вучняў, дзейнічаў драматычны гурток. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. адкрыта хата-чытальня. З 20.8.1924 г. да 21.8.1925 г. цэнтр Навасёлкаўскага 1 СПС. У 1930 г. арганізаваны калгас «Дзесяцігоддзе». Меліся кузня і сталярная майстэрня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 30 гаспадарак, 61 жыхар, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Рэчкі 1). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, да якой на Пн далучаецца з ПдУ кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдУ — гасп. сектар.

**НАВАСЁЛКІ 2** — вёска ў Пашкаўскім с/с, за 14 км на ПнЗ ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сафіеўка і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 18 гаспадарак, 31 жыхар (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з канца 19 ст., калі побач з в. Навасёлкі ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. была сядзіба Навасёлкі 2, якая налічвала 3 двары, 24 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. да 21.8.1925 г. цэнтр сельсавета. У 1930 г. арганізаваны калгас «Пралетарый». Працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 38 гаспадарак, 91 жыхар, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Рэчкі 1). Размяшчалася свінагадоўчая ферма, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай з завулкам вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдУ — гасп. сектар.

**НЕЗАЎКА** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 34 км на ПдЗ ад Магілёва, 17 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Грэза (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Паплаўшчына і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 24 гаспадаркі, 31 жыхар (2007).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1758 г. вёска Нізаўка (10 двароў) у Быхаўскім графстве, уласнасць памешчыка. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў Быхаўскім павеце 21 двор, 186 жыхароў. У 1858 г. 105



жыхароў мужчынскага полу, меўся заезны дом. У 1880 г. 40 двароў, 242 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кравецкім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Глухаўскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 51 двор, 393 жыхары, дзейнічаў піцейны дом. У 1909 г. 71 двор, 305 жыхароў. 10.1.1921 г. створана с.-г. арцель «Вялікая ніва», у якую ўваходзіла 20 гаспадарак, а 5.7.1923 г. — другая арцель, у якую ўваходзіла 15 гаспадарак. Мелася пач. школа. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 95 двароў, 585 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя Ільіча, дзейнічала кузня. У 1940 г. 60 двароў, 268 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У кастр. 1942 г. гітлераўцы спалілі 59 двароў. На вясковых могілках пахаваны сав. воіны, якія загінулі пры вызваленні вёскі. Пасля вайны адбудавана. З 1975 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. 55 гаспадарак, 107 жыхароў, у складзе саўгаса «Дасовічы» (цэнтр — в. Дасовічы). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы і вытв. брыгада, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой пад прамым вуглом падыходзяць з ПдЗ 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — вытв. сектар.

**НЕХАЦІМ'Е** — былы пасёлак у Вяйнянскім с/с, за 12 км на Пд ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Заракацце і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса.

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Грабянёўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 24.6.1960 г. ў Вяйнянскім с/с. У 1990 г. 1 гаспадарка, 5 жыхароў, у складзе саўгаса «Вяйнянскі цяплічны камбінат» (цэнтр — в. Вейна). Традыц. драўляная сял. сядзіба з гасп. пабудовамі стаяла каля прасёлачнай дарогі.

**НІЗКАЯ ВУЛІЦА** — вёска ў Княжыцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны. На паўд. ускраіне цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Княжыцы і далей па шашы Магілёў—Мінск. 29 гаспадарак, 49 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. вёска (28 двароў, 166 жыхароў) у Княжыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. Побач быў фальварак. Працавала школа граматы. У 1909 г. 33 двары, 171 жыхар. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 41 двор, 235 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 42 гаспадаркі, 98 жыхароў, у складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Сумарокава). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай з завулкам вуліцы шыротнай арыентацыі, на Пн ад якой праходзіць кароткая прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На З — гасп. сектар. Вёска — радзіма народнага мастака Беларусі П.В.Масленікава (1914–95).



*П.В.Масленікаў.*

**НІКІЦІНІЧЫ** — вёска ў Княжыцкім с/с, за 19 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны. На Пн цячэ р. Лахвіца (прыток р. Лахва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Княжыцы і далей па шашы Мінск—Магілёў. 173 гаспадаркі, 498 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1697 г. сяло аддадзена Княжыцкаму дамініканскаму кляштару. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. 8 двароў, 77 жыхароў, у складзе маёнт-

ка Галоўчына, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета, 36 двароў, 246 жыхароў. Дзейнічала школа граматы. У 1909 г. 39 двароў, 249 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 45 двароў, 257 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «1 Мая», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 31 гаспадарку. Працавалі кузня, ваўнамойка, быў наладжаны выраб калёс і саней. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 74 гаспадаркі, 212 жыхароў, цэнтр калгаса «Беларусь». У вёсцы былі размешчаны вытв. брыгада, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, лесапільня, сталярна-цяслярскія майстэрні, млын, зернедрабільня, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі Дом культуры, б-ка, магазін, аддз. сувязі. У 2007 г. дзейнічалі Дом культуры, б-ка. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Сярод жылой забудовы размяшчаюцца мураваныя грамадскія будынкі. На Пн вядзецца будаўніцтва мураваных аднапавярховых аднакватэрных і двухпавярховых 8-кватэрных дамоў. На Пд — гасп. сектар, на У — сад.

**НОВАЕ ПАШКАВА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 9 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На У — невялікае возера. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Мінск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 196 гаспадарак, 663 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з пач. 20 ст. У 1909 г. в. Малы Пашкаў (13 двароў, 87 жыхароў) у Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 1.5.1924 г. 28 гаспадарак аб'ядналіся ў с.-г. арцель, якой было выдзелена 60 га зямлі. У гэтым жа годзе створана камсамольская ячэйка, якая арганізавала мастацкую самадзейнасць, чытку кніг і газет, наладзіла работу гурткоў па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. 4.1.1930 г. арганізаваны калгас імя С.М. Будзённага. У 1940 г. за дасягненні ў развіцці гаспадаркі калгас быў узнагароджаны ордэнам Леніна. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 106 гаспадарак, 462 жыхары, цэнтр калгаса імя В.Валадарскага. У вёсцы былі размешчаны вытв. брыгада, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, млын, лесапільня, устаноўка па прыгатаванні вітаміннай мукі, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, працавалі 3 магазіны, 8-гадовая школа (14 настаўнікаў), комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. дзейнічалі комплекс дзіцячы сад—базавая школа, аддз. сувязі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1978 г. ў Бел. н.-д. ін-це горадабудаўніцтва. Планіровачна складаецца з 2 (адна працяглая, другая кароткая) вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ і злучаных завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На больш працяглай вуліцы ўзведзены мураваныя двухпавярховыя 8-кватэрныя і двухпавярховыя двухкватэрныя жылыя дамы. Тут жа сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія мураваныя будынкі. На У — гасп. сектар.

**НОВАЯ КУЛЬТУРА** — пасёлак у Заводскаслабодскім с/с, за 30 км на ПдЗ ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на Пн і З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дубраўка і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. Пастаяннага насельніцтва няма (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Дасовіцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёў-



скай вобл. У 1926 г. 8 двароў, 56 жыхароў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1973 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. 5 гаспадарак, 7 жыхароў, у складзе саўгаса «Дасовічы» (цэнтр — в. Дасовічы). У 1994 г. 1 гаспадарка, 1 жыхар.

**НОВАЯ МІЛЕЕЎКА** — вёска ў Сідаравіцкім с/с, за 24 км на Пд ад Магілёва, 26 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ПнУ праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лазнёўка (прыток р. Дняпро), якая праходзіць праз вёску. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 62 гаспадаркі, 115 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. в. Мілеўка (58 двароў, 396 жыхароў) у Царкоўна-Асавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Меўся хлебазапасны магазін. Побач былі фальварак (2 двары, 37 жыхароў, вадзяны млын), сядзіба (6 двароў, 45 жыхароў) і пасёлак (2 двары, 8 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 60 двароў, 454 жыхары, у пасёлку 12 двароў, 155 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Слабодскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1930 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 63 двары, 335 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас імя Г.Дзімітрава. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 6.4.1973 г. ў Сідаравіцкім с/с. У 1990 г. 99 гаспадарак, 250 жыхароў, у складзе калгаса «Расія» (цэнтр — в. Сідаравічы). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Рака падзяляе вёску на 2 часткі: зах. (2 вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ і злучаныя завулкам) і ўсх. (на У ад працяглай крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца з адгалінаваннем часткі забудовы на ПдЗ). Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПдУ — гасп. сектар, на ПдЗ ускраіне — сад.

**НОВАЯ НІВА** — вёска ў Семукацкім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Семукачы і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 11 гаспадарак, 13 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Коцнінскім, з 21.8.1925 г. ў Хонаўскім сельсаветах Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 4 двары, 19 жыхароў. У 1931 г. арганізаваны калгас «1 Мая». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 4.6.1965 г. ў Семукацкім с/с. У 1990 г. 19 гаспадарак, 39 жыхароў, у складзе саўгаса «Бялевічы» (цэнтр — в. Вялікія Бялевічы). Размяшчалася авечкагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**НОВЫ ВЕНДАРАЖ** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 52 гаспадаркі, 167 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1024 г. ў Вендаражскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 10 двароў, 55 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 31 гаспадарка, 86 жыхароў, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін.

Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НОВЫ СІНІН** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Арлянка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Вендараж, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 14 гаспадарак, 33 жыхары (2007).

Засн. ў 2-й пал. 1920-х г. у выніку падзелу в. Сінін на дзве: Стары Сінін і Новы Сінін. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас «Пралетарская перамога». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 28 гаспадарак, 55 жыхароў, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**НЯДАШАВА** — вёска, цэнтр сельсавета, за 22 км на ПдУ ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На паўд. ускраіне цячэ р. Шчацінка (прыток р. Вільчанка). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 53 гаспадаркі, 99 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло ў Вяйнянскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўладанне. У 1635 г. ў складзе Вільчыцкага фальварка. У 1742 г. мелася карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі, у 1785 г. ў Чавускім павеце Магілёўскага намесніцтва, 10 двароў, 49 жыхароў, дварцовае ўладанне. З 1830 г. дзейнічала вінакурня. Мясц. памешчык у 1873 г. меў у розных месцах 2654 дзес. зямлі, 5 корчмаў, вінакурны з-д і вадзяны млын. Паводле перапісу 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 16 двароў, 121 жыхар. У 1909 г. 26 двароў, 192 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. створана с.-г. камуна «Чырвонаармеец». Першым яе старшынёй быў былы марак Чарнаморскага флоту, старшына С.С.Пінчук. Арцель мела 300 га ворыва, млын, існавала 5 год, затым была пераўтворана ў калгас «Чырвонаармеец», які меў кузню, слясарную і калёсную майстэрні. У 1926 г. ў вёсцы 45 двароў, 285 жыхароў. З 1928 г. працавала сыраробная арцель. Дзейнічала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце загінулі 47 вяскоўцаў. У памяць аб іх каля клуба ўзведзены помнік. Пасля вайны да 1969 г. ў вёсцы знаходзіўся дзіцячы дом. З 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1990 г. 133 гаспадаркі, 274 жыхары, у складзе саўгаса «Магілёўскі» (цэнтр — в. Амхавая). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, працавалі 2 магазіны, аддз. сувязі, клуб, б-ка, сярэдняя школа, бальніца, аптэка. У 2007 г. дзейнічалі сярэдняя школа, аддз. сувязі, участковая бальніца. Планіровачна складаецца з 2 працяглых паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, ад цэнтра якіх адыходзіць на ПдУ кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры, сярод жылой забудовы, размешчаны грамадскія мураваныя будынкі. Вытв. сектар — на У.

**НЯДАШАВА 2** — вёска ў Нядашаўскім с/с, за 21 км на ПдУ ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На паўд. ускраіне цячэ р. Шчацінка (прыток р. Вільчанка). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 16 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з пач. 20 ст. У 1909 г. пасёлак (26 двароў, 101 жыхар) у



Галянёўскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. З 20.8.1924 г. ў Амхаўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1933 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 51 двор, 250 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.7.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Нядашаўскім с/с. У 1990 г. 36 гаспадарак, 69 жыхароў, у складзе саўгаса «Магілёўскі» (цэнтр — в. Амхавая). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДБЕЛЛЕ** — вёска ў Кадзінскім с/с, за 17 км на У ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Чавусы, якая праходзіць праз вёску. 38 гаспадарак, 76 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. З 20.8.1924 г. ў Шчэжарскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 70 двароў, 376 жыхароў. У 1934 г. арганізаваны калгас імя І.У.Мічурына. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Таранаўскім, з 2.8.1954 г. ў Дарскім, з 24.6.1960 г. ў Вяйнянскім, з 1.3.1965 г. зноў у Дарскім, з 1985 г. ў Кадзінскім сельсаветах. У 1990 г. 39 гаспадарак, 73 жыхары, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Бракава). Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай, працяглай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якую шаша падзяляе па цэнтры на дзве часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У — сад і гасп. сектар.

Радзіма бел. сав. гісторыка, доктара гіст. навук, праф., засл. работніка вышэйшай школы Беларусі І.І.Саладкова (1906—96).

**ПАДБРОДДЗЕ** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 26 км на ПдЗ ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на Пн і ПдУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць побач з вёскай. 8 гаспадарак, 11 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. як пасёлак перасяленцамі з суседніх вёсак. З 1924 г. ў Дасовіцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 8 двароў, 50 жыхароў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1973 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. пасёлак, 16 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе саўгаса «Дасовічы» (цэнтр — в. Дасовічы). Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДБЯРЭЗЗЕ** — пасёлак у Заводскаслабодскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Вендрыж, на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. На Пн праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Залессе, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 5 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Навасёлкаўскім 2, з 21.8.1925 г. ў Гуслішчанскім сельсаветах Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.7.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Дасовіцкім, з 1973 г. ў Заводскаслабодскім сельсаветах. У 1990 г. 12 гаспадарак, 22 жыхары, у складзе саўгаса «Барок» (цэнтр — в. Заводская Слабада). Планіровачна складаецца з прамалінейнай ву-

ліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, трад. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАДГОР'Е** — вёска ў Нядашаўскім с/с, за 13 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 180 гаспадарак, 534 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Памешчык меў тут у 1865 г. 1497 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ., 39 двароў, 293 жыхары. У 1909 г. 57 двароў, 321 жыхар. У 1910 г. адкрыта земская школа, для якой у 1915 г. пабудавана памяшканне. На базе земскай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. былі 74 вучні. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 147 гаспадарак, 475 жыхароў, цэнтр саўгаса «Радзіма». У вёсцы былі размешчаны майстэрні, вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, лесапільня, працавалі магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 8-гадовая школа, дзіцячы сад-яслі, аддз. сувязі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. цэнтр КСУП «Саўгас «Магілёўскі», дзейнічалі комплекс дзіцячы сад—пач. школа, аддз. сувязі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1983 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, да якіх на Пд далучаецца прамалінейнай вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Частку забудовы складаюць двухпавярховыя мураваныя жылыя дамы. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. На ПдУ — гасп. сектар і сад.

**ПАДДУБ'Е** — вёска ў Семукацкім с/с, за 37 км на ПдЗ ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Бярозаўка, Вендараж, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. пасёлак (3 двары, 14 жыхароў) у Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. засценак, 14 двароў. 43 жыхары. З 17.7. 1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. вёска, 13 двароў, 75 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Прагрэс», дзейнічаў цагельны з-д. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Пры вызваленні вёскі загінулі 37 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле на паўд. ускраіне. У 1990 г. 15 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе саўгаса «Бялевічы» (цэнтр — в. Вялікія Бялевічы). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі.

**ПАЛАВІННЫ ЛОГ** — вёска ў Палыкавіцкім с/с, за 4 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 1. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На Пд цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 118 гаспадарак, 271 жыхар (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. аколіца (28 двароў, 159 жыхароў) у Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. ў аколіцы 9 двароў, 56 жыхароў, цагельны з-д, на аднайменным хутары 39 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа, у якой у 1925 г. было 52 вучні. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас імя У.І.Леніна які ў



1933 г. аб'ядноўваў 28 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1942 г. гітлераўцы спалілі вёску, загубілі 14 жыхароў. У баях за вызваленне вёскі вызначыўся камандзір аддз. разведкі сяржант І.П.Раманаў, які быў удастоены звання Героя Сав. Саюза. У 1990 г. 150 гаспадарак, 445 жыхароў, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Мікалаеўка 2). У вёсцы былі размешчаны вытв. брыгада, комплекс буйной рагатай жывёлы, працавалі пач. школа, магазін. Планіровачна складаецца з 2 плаўна выгнутых, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнУ і злучаных кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

За 0,5—0,8 км на У ад вёскі размешчана Ніжнепалавінналогаўскае радовішча пяску.

**ПАЛЕТНІКІ** — вёска ў Вяйнянскім с/с, за 3 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Дзягцярня (Вільчанка). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць побач з вёскай. 57 гаспадарак, 137 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1857 г. вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета, 21 двор, 93 жыхары. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. ў Вяйнянскай вол., 27 двароў, 115 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Грабянёўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 35 двароў, 189 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 46 гаспадарак, 129 жыхароў, у складзе саўгаса «Вяйнянскі цяплічны камбінат» (цэнтр — в. Вейна). Размяшчалася вытв. брыгада. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАЛНА** — вёска ў Сідаравіцкім с/с, за 32 км на Пд ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд і З мяжуе з лесам. На Пд цячэ р. Паўна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць побач з вёскай. 40 гаспадарак, 74 жыхары (2007).

За 3 км на ПдЗ ад вёскі размешчаны помнік археалогіі — курганны могільнік, які сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома ў Рас. імперыі з пач. 20 ст. У 1909 г. ў Грудзінаўскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. З 20.8.1924 г. ў Слабодкаўскім с/с Лупалаўскага, з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 4.6.1965 г. ў Сідаравіцкім с/с. У 1990 г. 74 гаспадаркі, 187 жыхароў, у складзе калгаса «Расія» (цэнтр — в. Сідаравічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У — гасп. сектар.

**ПАЛЫКАЎСКІЯ ХУТАРЫ** — чыг. станцыя на лініі Магілёў—Орша, у Палыкавіцкім с/с, за 6 км на Пн ад Магілёва. Рэльеф раўнінны. На Пд, З і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў, якая праходзіць побач. 65 гаспадарак, 174 жыхары (2007).

У пач. 20 ст. пасля заканчэння будаўніцтва чыг. Орша—Магілёў тут быў чыг. раз'езд, каля якога затым пачаў складвацца пасёлак. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У

1990 г. 44 гаспадаркі, 123 жыхары, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Мікалаеўка 2). Працавалі пач. школа, магазін. Планіровачна складаецца з вуліцы, размешчанай паміж шашой і чыгункай. На У размяшчаецца мураваны будынак чыг. станцыі. Побач — мураваныя двухпавярховыя 8- і 16-кватэрныя дамы. Астатняя забудова традыц. драўляная, сядзібнага тыпу.

**ПАЛЫКАВІЧЫ 1** — вёска, цэнтр сельсавета, за 8 км на Пн ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на З мяжуе з лесам. На У праходзяць меліярацыйныя каналы і цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў, якая праходзіць паблізу вёскі. 572 гаспадаркі, 1572 жыхары (2007).



*На Дняпры каля в. Палыкавічы 1.*

Вядома ў ВКЛ з 1501 г., калі ў ёй было некалькі крытых саломай курных хат. На У вёска межавала з балотам, на З — з дубовымі і ліпавымі лясамі. У 1560 г. сяло Палуйкавічы ў Магілёўскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1604 г. ў Брылёўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв. Непадалёку быў фальварак. У 1742 г. 60 двароў, 2 млыны, карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. сяло Палукевічна ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. цэнтр маёнтка Магілёўскага павета, 102 двары 848 жыхароў, млын, пабудаваная з дрэва царква, 2 сажалкі. У 1834 г. сяло і фальварак. У 1847 г. фальварак быў цэнтрам маёнтка, дзейнічалі вінакурны з-д, піваварня, аранжарэя з садам. У сяле было 79 двароў, 520 жыхароў. У 1858 г. 280 жыхароў мужчынскага полу. У 1864 г. адкрыта школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. навучалася 45 хлопчыкаў, у 1907 г. — 54 хлопчыкі і 6 дзяўчынак. Мясц. памешчык меў у 1871 г. 5731 дзес. зямлі, 3 карчмы, 2 паромы, 3 млыны. У 1880 г. 96





двароў, 577 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам ільняной кудзелі і тканіны, пянькі, а таксама кавальскім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. сяло, 142 двары, 950 жыхароў, цэнтр воласці, меліся хлебазапасны магазін, вінная крама, дом для ўчастковага фельчара. У сядзібе Палыкавічы былі 4 двары, 21 жыхар, 2 вадзяныя млыны, шпалерна-запалкавае прадпрыемства, цэхі па пляценні кошыкаў і абпальванні цэглы. У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У рэвалюцыю 1905—07 гг. адбыліся сял. хваляванні, у выніку якіх былі спалены шпалерна-запалкавая ф-ка (1905), дом і свірны памешчыка (1907). У 1908 г. для школы пабудавана памяшканне. У 1909 г. ў вёсцы 222 двары, 1114 жыхароў, на сядзібе — 2 двары, 10 жыхароў. Сярод матросаў з крэйсера «Аўрора», якія штурмавалі Зімні, быў вясковец Д.І.Новікаў. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 158 вучняў. 14.6.1919 г. старшыня Усерас. цэнтр. выканаўчага к-та М.І.Калінін на чале агітацыйна-інструктарскага поезда «Кастрычніцкая рэвалюцыя» прыбыў у г. Магілёў, а на наступны дзень наведаў вёску, дзе на сходзе з удзелам да 400 сялян расказаў аб становішчы на фронце, аб дэкрэтах сав. улады. У памяць аб наведванні вёскі М.І.Калініным у 1956 г. каля будынка праўлення калгаса пастаўлены яго бюст. 3.7.1920 г. выхадзец з вёскі В.М.Усаў у баі супраць белапалякаў 2 гадзіны стрымліваў наступленне ворага, за што быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. 300 двароў, 1679 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны баец». У 1932 г. вёска атрымала электрычнае асвятленне. У 1930-я г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. было 369 вучняў, у іх ліку 97 піянераў, дзейнічала б-ка. У 1940 г. за дасягненні ў развіцці гаспадаркі калгас быў занесены ў кнігу Пашаны Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. У студз. 1940 г. ўраджэнцу вёскі І.М.Саламонікаву за мужнасць і гераізм у баях супраць белафінаў прысвоена званне Героя Сав. Саюза. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы разрабавалі і спалілі вёску. 94 сав. воіны загінулі ў баях за вызваленне Палыкавіч і суседніх вёсак. Яны пахаваны ў брацкіх магілах на паўн. ускраіне вёскі і на могілках. На зах. ускраіне пахаваны жыхары Палыкавіч і суседніх вёсак (каля 8 тыс.), якіх у 1941—44 гг. загубілі акупанты. У памяць аб земляках, якія загінулі на фронце, каля будынка школы пастаўлены помнік. У 1990

*Капліца ў гонар святой Параскевы Пятніцы і святая крыніца каля в. Палыкавічы 1.*










*Ахоўны знак каля помніка прыроды рэспубліканскага значэння Палыкавіцкая крыніца.*



*Я.А.Юрчанка.*



*Р.А.Пускін.*

г. 513 гаспадарак, 1365 жыхароў, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Мікалаеўка 2). У вёсцы былі размешчаны вытв. брыгада, свінагадоўчы комплекс, ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, б-ка, Дом культуры са стацыянарнай кінаўстаноўкай, музей нар. славы, сярэдняя школа, конна-спарт. і муз. школы, яслі-сад, аддз. сувязі, сталовая, 2 магазіны, фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. цэнтр СВК «Палыкавічы», дзейнічалі сярэдняя школа, аддз. сувязі Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, міні-кафэ. Планіровачна складаецца з паўн. (3 прамалінейныя вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, перакрыжаваныя 3 вуліцамі шыротнай арыентацыі) і паўд. (да плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, далучаецца на Пн прамалінейная вуліца шыротнай арыентацыі) частак. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

За 1,5 км на У ад вёскі размешчана радовішча балотных жал. руд, прыдатных для вырабу фарбаў. За 1,1 км на У ад вёскі размешчана радовішча пяскоў. Каля вёскі помнік прыроды рэсп. значэння — Палыкавіцкая крыніца, вада якой мае лекавыя ўласцівасці, апісана В.Севярынам у «Запісках падрожжа па заходніх правінцыях Расійскай дзяржавы...» (1803—04).

Радзіма Героя Сав. Саюза Я.А.Юрчанкі (1919—81), які вызначыўся ў Вял. Айч. вайну ў баях пры фарсіраванні Дняпра каля Кіева ў 1943 г., і Героя Сац. Працы, механізатара калгаса Р.А.Пускіна (1929—78).

**ПАЛЫКАВІЧЫ 2** — вёска ў Палыкавіцкім с/с, за 5 км на Пн ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам, на зах. ускраіне праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў, якая праходзіць паблізу вёскі. 74 гаспадаркі, 133 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-я г. Тут, ва ўрочышчы Журавінка, з 1931 г. пачаў працаваць цагельна-ганчарны з-д імя Г.Дзімітрава. У 1930-я г. сяляне ўступілі ў калгас «XVII з'езд Саветаў». У 1939 г. сюды перасяліліся жыхары бліжэйшых хутароў і уро-



чышча было ператворана ў в. Палыкавічы 2. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі вёску, а маёмасць разрабавалі. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 99 гаспадарак, 304 жыхары, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Мікалаеўка 2). Размяшчалася вытв. брыгада, працавалі 8-гадовая школа, клуб, б-ка. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных завулкамі і забудаваных двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны ў цэнтры, сярод жылой забудовы. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**ПАЛЯВЫ** — пасёлак у Заводскаслабодскім с/с, за 28 км на ПдЗ ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На паўн. ускраіне цячэ р. Арлянка (прыток р. Лахва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Завадская Слабада і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 5 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Коцнінскім, з 21.8.1925 г. ў Хонаўскім сельсаветах Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Дасовіцкім, з 6.4.1973 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. 8 гаспадарак, 21 жыхар, у складзе саўгаса «Барок» (цэнтр — в. Завадская Слабада). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАНІЗОЎ** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 19 км на ПдЗ ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам, на Пд цячэ р. Жыварэзка (прыток р. Лахва). На паўд. ускраіне праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Навасёлкі і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 5 гаспадарак, 5 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1858 г. ў вёсцы 38 жыхароў мужчынскага полу. Памешчык І.Яблонскі, які валодаў вёскай да 1861 г., вызначаўся асаблівай жорсткасцю і распустай, здзекваўся з сялян. Паводле перапісу 1897 г. 22 двары, 153 жыхары. Непадалёку быў фальварак Панізова, 2 двары, 8 жыхароў. У 1909 г. ў Вендаражскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 26 двароў, 174 жыхары. У маёнтку Панізоўе быў 1 двор, 2 жыхары. Памешчыца Абніўская валодала тут 469 дзес. зямлі, у той час як сяляне ўсёй вёскі мелі толькі 153 дзес. Дзейнічала школа (нар. вучылішча). На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1936 г. было 40 вучняў, з іх 15 піянераў, працавала б-ка. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 42 двары, 233 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 19 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж), працаваў магазін. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, ад паўн. канца якой на ПнЗ пад прамым вуглом адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПАПЛАЎШЧЫНА** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 31 км на ПдЗ ад Магілёва, 16 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. На З праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Грэза (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць побач з вёскай. 21 гаспадарка, 32 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1676 г. маёнтак Паплаўшчына ў Аршанскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1758 г. вёска, 30

двароў, 96 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка, мелася карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1880 г. 28 двароў, 163 жыхары. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. У канцы 19 ст. адкрыта школа (нар. вучылішча), дзе ў 1889 г. навучалася 17 хлопчыкаў і 1 дзяўчынка. У 1897 г. ў Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., 40 двароў, 228 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. былі 32 вучні. З сак. 1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Дасовіцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 50 двароў, 295 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. Дзейнічала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1973 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. 43 гаспадаркі, 79 жыхароў, у складзе саўгаса «Дасовічы» (цэнтр — в. Дасовічы). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ амаль перпендыкулярна да шашы. Забудавана двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**ПАЎДНЁВЫ ЖАБІН** — пасёлак у Вендаражскім с/с, за 25 км на ПдЗ ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Вендараж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Жыварэзка (прыток р. Лахва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. Пастаяннага насельніцтва няма (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 28.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк камунізму» (цэнтр — в. Цішоўка). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай, прамалінейнай вуліцы арыентаванай з ПдУ на ПнЗ.

**ПАЎЛАЎКА** — вёска ў Мастоцкім с/с, за 11 км на Пн ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам, на зах. ускраіне цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 26 гаспадарак, 33 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1834 г. ў вёсцы 41 жыхар. Памешчык меў тут у 1842 г. 354 дзес. зямлі і карчму. У 1847 г. вёска (13 двароў, 44 жыхары) і фальварак (6 сямей дваровых, карчма, з-д буйной рагатай жывёлы) у складзе аднайменнага маёнтка Магілёўскага павета. У 1858 г. ў вёсцы было 27 жыхароў мужчынскага полу. Непадалёку была сядзіба, у якой у 1887 г. быў 1 двор, 9 жыхароў. На вінакурным з-дзе (засн. ў 1892) у 1895 г. працавала 12 рабочых, у 1913 г. дзейнічаў паравы рухавік. Паводле перапісу 1897 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 18 двароў, 116 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. 23 двары. Летам 1917 г. сяляне захапілі памешчыцкія лугі. Для абароны інтарэсаў памешчыка былі выкліканы казакі. З 9.5.1923 г. ў Сухарэўскай вол. Чавускага пав. Гомельскай губ., з сак. 1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Мастоцкім с/с Лупалаўскага, з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 32 двары. 175 жыхароў. Дзейнічала пач. школа. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 49 гаспадарак, 87 жыхароў, у складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Масток). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з 2 амаль прамалінейных вуліц шыротнай арыентацыі, якія перасякаюцца на У прамалінейнай вуліцай мерыдыянальнай арыентацыі. Ад асн. вуліц адыходзяць на Пд і Пн кароткія прамалінейныя вуліцы.



Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ПАЎЛАЎСК** — пасёлак у Семукацкім с/с, за 45 км на ПдЗ ад Магілёва, 10 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПнЗ мяжуе з лесам і цячэ р. Пячора (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Будзішча, Вендараж і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Вялікабялевіцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 9 двароў, 41 жыхар. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Гарадзішчанскім, з 22.7.1965 г. ў Семукацкім сельсаветах. У 1990 г. 11 гаспадарак, 26 жыхароў, у складзе саўгаса «Бялевічы» (цэнтр — в. Вялікія Бялевічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы шыротнай арыентацыі, забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЕРАМОГА** — вёска ў Семукацкім с/с, за 31 км на ПдЗ ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. на паўд.-ўсх. ускраіне праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Новы Сінін, Вендараж і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. Пастаяннага насельніцтва няма (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. на былых памешчыцкіх землях. З 20.8.1924 г. ў Коцнінскім, з 21.8.1925 г. ў Хонаўскім сельсаветах Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.Разіна. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 4.6.1965 г. ў Семукацкім с/с. У 1990 г. 7 гаспадарак, 10 жыхароў, у складзе саўгаса «Бялевічы» (цэнтр — в. Вялікія Бялевічы). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж Г-падобнай вуліцы.

**ПРОКШАНІЧЫ** — вёска ў Княжыцкім с/с, за 12 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Лахвіца (прыток р. Лахва). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мінск. 25 гаспадарак, 44 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1785 г. вёска (38 двароў, 190 жыхароў) у складзе маёнтка Масальшчына Магілёўскага павета, шляхецкая ўласнасць. У 1834 г. в. Пракшаніцы, у 1847 г. 22 двары, 141 жыхар. У 1858 г. 71 жыхар мужчынскага полу, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 38 двароў, 226 жыхароў. Мелася школа граматы. У 1909 г. в. Проксенічы налічвала 20 двароў, 319 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 20.8. 1924 г. ў Княжыцкім с/с. У 1926 г. 44 двары, 268 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 26 гаспадарак, 99 жыхароў, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Нікіцічы). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы і зернедрабільня. Планіровачна складаецца з амаль прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

Радзіма бел. сав. філосафа, чл.-кар. Нац. акадэміі навук Беларусі І.М.Ільюшына (1903—97).

**ПРЫСНА 1** — вёска ў Пашкаўскім с/с, за 9 км на З ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Мінск, якая праходзіць побач з вёскай. 110 гаспадарак, 230 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1750 г. сяло Прысна перайшло за даўгі ў валоданне

Княжыцкага дамініканскага кляштара. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Галоўчына Магілёўскага павета, 36 двароў, 282 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў Магілёўскім павеце, 114 рэвізскіх душ. Паводле перапісу 1897 г. ў Княжыцкай вол. Мгілёўскага павета, 66 двароў, 465 жыхароў. Дзейнічала школа граматы, якая ў 1914 г. ператорана ў земскую, у тым жа годзе пабудавана для яе памяшканне. У 1909 г. 81 двор, 509 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 103 вучні. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. ў Пашкаўскім с/с. У 1925 г. створана с.-г. т-ва. У 1926 г. 182 двары, 954 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «XVII партз'езд». У канцы 1920-х г. в. Прысна была падзелена на дзве: Прысна 1 і Прысна 2. У 1930-я г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. было 320 вучняў, з іх 147 піянераў, дзейнічала б-ка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 50 гаспадарак, 109 жыхароў, у складзе саўгаса імя В.Валадарскага (цэнтр — в. Новае Пашкава). Размяшчаліся Магілёўская абл. біялабараторыя, сортаўчастак, ферма буйной рагатай жывёлы і жывёлагадоўчы комплекс, працавалі фельч.-акушэрскі пункт, 8-гадовая школа, б-ка. Планіроўка прамавугольная. Тры прамалінейныя паралельныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, перакрыжаваны перпендыкулярна 3 кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. На паўн.-ўсх. і паўд.-ўсх. ускраінах — сад. У цэнтры вёскі — гасп. сектар.


*М.І.Кучынскі.*

Радзіма Героя Сав. Саюза М.І.Кучынскага (1911—95), які ў Вял. Айч. вайну, будучы камандзірам авіяэскадрыллі, зрабіў 210 баявых вылетаў, збіў 7 варожых самалётаў, знішчыў шмат тэхнікі і жывой сілы ворага.

**ПРЫСНА 2** — вёска ў Пашкаўскім с/с, за 10 км на З ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мінск. 31 гаспадарка, 59 жыхароў (2007).

Засн. ў канцы 1920-х г. у Магілёўскім р-не ў выніку падзелу в. Прысна на дзве: Прысна 1 і Прысна 2. У 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, які ў 1933 г. аб'ядноўваў 16 гаспадарак. Працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 106 гаспадарак, 330 жыхароў, у складзе саўгаса імя В.Валадарскага (цэнтр — в. Новае Пашкава). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі клуб, пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіроўка прамавугольная. Тры прамалінейныя паралельныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, перакрыжаваны перпендыкулярна 3 кароткімі прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ПУСТЫ АСАВЕЦ** — вёска ў Махаўскім с/с, за 31 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Будлянка (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Махава і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 24 гаспадаркі, 139 жыхароў (2007).

За 1 км на ПдУ ад вёскі, у лесе, размешчана гарадзішча, на вясковых могілках — курганны могільнік, якія сведчаць аб засяленні тутэйшых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1742 г. вёска (14 двароў у Асавецкім войтаўстве Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце Магілёўскай губ., 67 жыхароў мужчынскага полу, уласнасць памешчыка, дзейнічаў шынок. Гаспадар маёнтка ў 1877 г. меў тут 484 дзес. зямлі, ветраны млын. У 1880 г. 276 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным, кавальскім, шавецкім і кравецкім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Царкоўна-Асавецкай вол. Быхаўскага павета, 40 двароў, 244 жыхары. Меўся хлебазапасны магазін. Побач



знаходзіўся фальварак (1 двор, 25 жыхароў), дзейнічаў вадзяны млын. У былым маёнтку Пусты Асавец, на памешчыцкіх землях, 1.6.1920 г. створана с.-г. арцель «Саха і молат», якая аб'ядноўвала 22 гаспадаркі, а 11.12.1924 г. створана садова-агародніцкая арцель «Чырвоны сад» (11 гаспадарак). З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1929 г. арганізаваны калгас «Саха і молат». У 1940 г. 90 двароў, 350 жыхароў. У Вял. Айч. вайну ў жн. 1942 г. гітлераўцы спалілі 81 двор, загубілі 2 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 69 гаспадарак, 120 жыхароў, у складзе саўгаса «Махава» (цэнтр — в. Махава). Працавалі фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з 2 частак: усх. (плаўна выгнутая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ) і зах. (паралельна да прамалінейнай працяглай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі на ПнЗ праходзіць кароткая прамалінейная вуліца). На ПдУ адасоблена праходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПУШЧА** — вёска ў Семукацкім с/с, за 31 км на ПдЗ ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд і У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Стары Сінін, Вендараж і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 6 гаспадарак, 8 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Рафалаўскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 5.4.1935 г. ў Гарадзішчанскім с/с, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 27 двароў, 121 жыхар, працавалі кузня і ваўначоска. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1943 г. партызаны разграмілі паліцэйскі ўчастак, які размяшчаўся ў вёсцы. З 26.6.1965 г. ў Семукацкім с/с. У 1990 г. 25 гаспадарак, 36 жыхароў, у складзе саўгаса «Колас» (цэнтр — в. Семукачы). Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, ад паўд. канца якой адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ПЯРСЦІЛЫ** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 22 км на ПдЗ ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 2 гаспадаркі, 3 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1676 г. тут быў маёнтак, шляхецкая ўласнасць. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1858 г. сяло Пярсціл (148 жыхароў мужчынскага полу) у Быхаўскім павеце. З 20.8.1924 г. ў Дасовіцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 14 двароў, 59 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 6.4.973 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. 6 гаспадарак, 29 жыхароў, у складзе саўгаса «Дасовічы» (цэнтр — в. Дасовічы). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж кароткай Г-падобнай вуліцы.

**ПЯСЧАНКА** — вёска ў Княжыцкім с/с, за 26 км на З ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мінск. 28 гаспадарак, 57 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1743 г. сяло ў Аршанскім павеце. З 1772 г. ў Рас. імперыі, 26 двароў, уласнасць памешчыка. У 1785 г. 32 двары, 200 жыхароў, меліся вадзяны і 2 ветраныя млыны. У 1847 г. 15 двароў, 98 жыхароў, цэнтр маёнтка. Адзін памешчык меў у 1871 г. 1240 дзес. зямлі, другі ў 1875 г. — 250 дзес. зямлі. У 1897 г.

ў Нежкаўскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 14 двароў, 104 жыхары. Побач было яшчэ адно сяленне з такой жа назвай, якое налічвала 28 двароў, 174 жыхары, мелася мураваная царква (адкрыта не пазней 1880). У 1909 г. ў сяле 22 двары, 133 жыхары, у засценку 35 двароў, 183 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. ў Княжыцкім с/с. У 1930 г. арганізаваны калгас «Новы мір», які меў трактар, кузню. Дзейнічала пач. школа. У 1940 г. 89 двароў, 437 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1941 г. партызаны разграмілі тут паліцэйскі ўчастак, а ў 1943 г. каля вёскі адбілі насельніцтва, якое гітлераўцы накіроўвалі ў Германію. У студз. 1944 г. гітлераўцы спалілі 70 двароў, загубілі 52 жыхары. У 1990 г. 53 гаспадаркі, 119 жыхароў, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Мікіцінічы). Размяшчаліся фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, зернедрабільня, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц амаль мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных на Пн 2 завулкамі. На Пн адасоблены ўчастак забудовы — кароткая прамалінейная вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана пераважна двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Вытв. сектар — на паўн.-зах. ускраіне.

**ПЯТРОВІЧЫ** — вёска ў Нядашаўскім с/с, за 18 км на ПдУ ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Раста на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Чарняўка (прыток р. Рудзея). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дары і далей па шашы Магілёў—Чэрыкаў. 11 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1560 г. ў фрагменце інвентару, які быў складзены ў сувязі з правядзеннем агр. рэформы («рэвізіі»). Вёска ў гэты час была дзярж. уласнасцю. У 1563 г. 18 дымоў, аддадзена ў часовае валоданне шляхціцу. У 1580 г. ў пажыццёвым валоданні памешчыка. У 1604 г. ў Гарбавіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета, 40 двароў, дзярж. ўласнасць, меўся вадзяны млын. У 1635 г. 33 двары, у 1742 г. сяло і фальварак, у якім былі 6 двароў, млын, карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. дварцовая ўласнасць. Памешчык меў у 1865 г. ў вёсках Пятровічы, Падгор'е і Гарбавічы 6972 дзес. зямлі, 4 карчмы, вінакурны з-д, 3 вадзяныя млыны і паштовую станцыю. Паводле перапісу 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 45 двароў, 313 жыхароў, меўся заезны дом. У 1909 г. 44 двары, 197 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Амхаўскім с/с Лупалаўскага, з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Дзейнічала пач. школа. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Нядашаўскім с/с. У 1990 г. 19 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе саўгаса «Магілёўскі» (цэнтр — в. Амхавая). Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных 2 завулкамі. Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**РАКУЗАЎКА** — вёска ў Буйніцкім с/с, за 5 км на З ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Галынец на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Цішоўка і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 63 гаспадаркі, 104 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. хутар (6 двароў, 44 жыхары) у Княжыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. вёска, 18 двароў, 63 жыхары. У 1919 г. адкрыта школа, якая размяшчалася ў наёмным памяшканні, у 1926 г. ў ёй было 28, а ў 1936 г. — 65 вучняў, дзейнічала б-ка. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў



Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які ў 1933 г. аб'ядноўваў 16 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 66 гаспадарак, 182 жыхары, у складзе калгаса «Маяк камунізму» (цэнтр — в. Цішоўка). Размешчаны вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, дзейнічалі магазін, клуб. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц, арыентаваных з ПдУ на ПнЗ, да якіх на ПдУ падыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ — гасп. сектар.

**РАМАНАВІЧЫ** — вёска ў Кадзінскім с/с, за 19 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Чавусы, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 491 гаспадарка, 1330 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1560 г. сяло ў Магілёўскай вол., дзярж. уласнасць. У 1580 г. аддадзена ў пажыццёвае валоданне памешчыку. У 1604 г. ў Вяйнянскім войтаўстве Аршанскага павета, 65 двароў, карчма, млын. З 1772 г. ў Рас. імперыі, у 1785 г. ў складзе маёнтка Сухары Чавускага павета, 46 двароў, 330 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ. Меліся школа граматы, хлебазапасны магазін, заезны дом. У 1909 г. 72 двары, 516 жыхароў. У 1923 г. адкрыта пач. школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1925 г. ў школе было 50, а ў 1936 г. — 61 вучань, у іх ліку 25 піянераў, дзейнічала б-ка. У школе навучаліся дзеці таксама з хутароў Раманавічы і Малееўка. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 87 двароў, 610 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас, мелася кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 330 гаспадарак, 1138 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Шчэжар). Размяшчаліся вытв. аб'яднанне па птушкагадоўлі, вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, зернедрабільня, працавалі фельч.-акушэрскі пункт, клуб, б-ка, 2 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сталовая, магазін, аддз. сувязі, 8-гадовая школа і дзіцячы сад-яслі. У 2000-я г. на базе вёскі створаны аграгарадок. У 2007 г. цэнтр рэсп. унітарнага с.-г. вытв. прадпрыемства «Прыдняпроўская птушкафабрыка». Дзейнічалі сярэдняя школа, аддз. сувязі, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, 2 магазіны. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1985 г. ін-там «БелНДІгіпрасельбуд». Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ, злучаных 3 кароткімі вуліцамі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд узведзены шэраг аднапавярховых мураваных жылых дамоў.

**РАСТАПОЛЛЕ** — вёска ў Махаўскім с/с, за 30 км на ПдУ ад Магілёва, 31 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Чарняўка (прыток р. Рудзея). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Слаўгарад, якая праходзіць побач з вёскай. 1 гаспадарка, 2 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. фальварак (1 двор, 18 жыхароў) у Царкоўна-Асавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. Меўся вадзяны млын. У 1909 г. 22 двары, 183 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў, у складзе саўгаса «Махава» (цэнтр — в. Халмы).

**РОГ** — пасёлак у Семукацкім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на ПнУ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Коркаць, Вендараж і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 9 гаспадарак, 14 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з бліжэйшых хутароў. З 20.8.1924 г. ў Гарадзішчанскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл., з 24.6. 1960 г. ў Бокатаўскім с/с. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 4.6.1965 г. ў Семукацкім с/с. У 1990 г. 16 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе саўгаса «Колас» (цэнтр — в. Семукачы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі.

**РУБЕЖ** — вёска ў Семукацкім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Бярозаўка, Вендараж і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 1 гаспадарка, 1 жыхар (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з пач. 20 ст. У 1909 г. ў Паўлаўскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 33 двары, 211 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. З сак. 1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Вялікабялевіцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 10 двароў, 49 жыхароў. У 1920-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Гарадзішчанскім, з 2.8.1954 г. ў Вендаражскім, з 4.6.1965 г. ў Семукацкім сельсаветах. У 1990 г. 8 гаспадарак, 10 жыхароў, у складзе саўгаса «Бялевічы» (цэнтр — в. Вялікія Бялевічы).

**РУСІНКА** — вёска ў Мастоцкім с/с, за 22 км на ПнУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Грыбаны і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 10 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з пач. 20 ст. У 1909 г. пасёлак (7 двароў, 41 жыхар) у Нічыпаравіцкай вол. Горацкага павета Магілёўскай губ. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР. З сак. 1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Мастоцкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 16 двароў, 107 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная змена», працавала кузня, дзе выраблялiся сякеры. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 18 гаспадарак, 30 жыхароў, у складзе калгаса імя У.І.Леніна (цэнтр — в. Грыбаны). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з кароткай дугападобнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ, якая перакрыжоўваецца другой кароткай дугападобнай вуліцай, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ.

**РЫКІ** — вёска ў Сухарэўскім с/с, за 25 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ ручай (прыток р. Раста). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 30 гаспадарак, 51 жыхар (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1643 г. сяло ў Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета, дзярж. уласнасць. У 1742 г. 17 двароў, мелася карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Сухары Чавускага павета Магілёўскага намесніцтва, 40 двароў, 291 жыхар, уласнасць памешчыка. У 1834 г. ў вёсцы 111 жыхароў, у 1849 г. 28 двароў. 168 жыхароў, у 1852 г. 31 двор, 181 жыхар. Паводле перапісу 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 44 двары, 299 жыхароў. У 1909 г. 50 двароў, 238 жыхароў. У 1912 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З 20.8.1924 г. ў Суха-



рэўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Чавускага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе земскай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. былі 34 вучні. У 1926 г. 59 двароў, 357 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 25.12.1964 г. ў Магілёўскім р-не. У 1990 г. 57 гаспадарак, 113 жыхароў, у складзе калгаса «Камуністычны маніфест» (цэнтр — в. Сухары). Размяшчаліся фермы свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы, зернедрабільня. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, на З ад якой праходзіць крывалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд паміж вуліцамі — гасп. сектар.

**РЭПІШЧА** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 29 км на ПдЗ ад Магілёва, 18 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На З — праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Грэза (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 138 гаспадарак, 378 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. хутар (1 двор, 5 жыхароў) у Паўлавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 1 двор, 7 жыхароў. У пач. 1920-х г. сюды актыўна перасяляліся выхадцы з суседніх вёсак. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 112 гаспадарак, 381 жыхар, у складзе саўгаса «Дасовічы» (цэнтр — в. Дасовічы). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі магазін, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, аддз. сувязі, сталовая, Дом культуры, б-ка, мед. пункт, дзіцячы сад-яслі. У 2007 г. дзейнічалі комплекс дзіцячы сад—базавая школа, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных на Пн прамалінейнай кароткай вуліцай. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд забудова вядзецца мураванымі двухпавярховымі 8- і 16-кватэрнымі дамамі. Гасп. сектар — на паўд. ускраіне.

**РЭЧКІ** — вёска ў Пашкаўскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Шклоў—Магілёў. 302 гаспадаркі, 834 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1858 г. вёска (64 рэвізскія душы) у Магілёўскім павеце Магілёўскай губ., меўся шынок, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 21 двор, 140 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася вырабам посуду і іншых рэчаў з дрэва. Паводле перапісу 1897 г. ў Таўпечыцкай вол. Магілёўскага павета, 28 двароў, 183 жыхары. Меліся 2 хлебазапасныя магазіны, школа граматы, якая ў 1909 г. ператворана ў земскую, а ў 1911 г. для школы пабудавана памяшканне. Побач знаходзіліся пас. Рэчкі (6 двароў, 39 жыхароў) і фальварак Рэчкі (1 двор, 6 жыхароў). У 1909 г. 34 двары, 216 жыхароў. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся вырабам драўлянага посуду, лодак і рыдлёвак.

На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 113 вучняў, 2 дзес. зямлі, дзейнічаў драматычны гурток. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 55 двароў, 305 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Прамень прабуджэння». Пач. школа ў 1930-х г. ператворана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. было 390 вучняў, у іх ліку 150 піянераў, дзейнічала б-ка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.

1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана.

У 1990 г. 141 гаспадарка, 834 жыхары, цэнтр калгаса «Зара». У вёсцы былі размешчаны ферма буйной рагатай жывёлы, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, цэх па прыгатаванні камбікармоў, лесапільня, працавалі магазін, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, б-ка, сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт. У 2000-я г. на базе вёскі створаны аграгарадок. У 2007 г. цэнтр закрытага акц. т-ва «Агракамбінат «Зара», дзейнічалі сярэдняя школа, аддз. сувязі, Дом культуры, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1981 г. ў Бел. навук.-даследчым і праектным ін-це горадабудаўніцтва. Планіровачна складаецца з 2 вуліц (адна прамалінейная, другая плаўна выгнутая), арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкамі. Ад цэнтра ўсх. вуліцы адыходзіць на ПдУ кароткая прамалінейная вуліца.

**РЭЧКІ 2** — вёска ў Пашкаўскім с/с, за 18 км на ПнЗ ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Рэчкі 1 і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 7 гаспадарак, 12 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1858 г. вёска (64 рэвізскія душы) у Магілёўскім павеце Магілёўскай губ., дзейнічаў шынок, уласнасць памешчыка. У 1880 г. 26 двароў, 167 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім і шавецкім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Таўпечыцкай вол. Магілёўскага павета, 31 двор, 225 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін, школа граматы. У 1909 г. 36 двароў, 262 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 57 двароў, 295 жыхароў. У 1934 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», які ў 1940 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі, меў 302 га зямлі, 3 жывёлагадоўчыя фермы. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 17 гаспадарак, 28 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Рэчкі 1). Планіровачна складаецца з 2 (адна працяглая, другая — кароткая) паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ.

**САВАСЦЯНАВІЧЫ** — вёска ў Буйніцкім с/с, за 8 км на З ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Галынец на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты. На зах. ускраіне цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Цішоўка і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 91 гаспадарка, 227 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. в. Савасцьянава ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Сенькава Магілёўскага павета, 16 двароў, 72 жыхары, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. 64 рэвізскія душы, мелася карчма. У 1880 г. 27 двароў, 138 жыхароў. Ва ўсіх дварах сяляне займаліся вырабам ільняной і пяньковай кудзелі і тканіны. Паводле перапісу 1897 г. ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 35 двароў, 238 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін, школа граматы, пераўтвораная ў 1908 г. ў земскую, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. Непадалёку знаходзілася аднайменная сядзіба (1 двор, 5 жыхароў). У 1909 г. 40 двароў, 275 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 47 вучняў, дзейнічаў драмгурток. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 72 двары, 369 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Шлях да камунізму», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 40 гаспадарак. У ліку калгаснікаў былі 1 камуніст, 13 камсамольцаў. У 1932 г. вёска атрымала элек-



трычнае асвятленне. У 1940 г. 52 двары, 184 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У снеж. 1941 г. партызаны разграмілі паліцэйскі ўчастак, які размяшчаўся ў вёсцы. У крас. 1944 г. гітлераўцы спалілі 46 двароў, загубілі 16 жыхароў. У баі за вызваленне вёскі загінулі 45 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле на паўн.-ўсх. ускраіне. У 1990 г. 94 гаспадаркі, 274 жыхары, у складзе калгаса «Маяк камунізму» (цэнтр — в. Цішоўка). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі пач. школа, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, клуб, магазін. У 2007 г. дзейнічалі комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдУ на ПнУ, да паўн. канца якой падыходзіць з ПдУ прамалінейная кароткая вуліца. Забудавана двухбакова, шчыльна, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пд — гасп. сектар.

**САЛОМЕНКА** — былая вёска ў Палыкавіцкім с/с, за 4 км на Пн ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 1. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Шклоў.

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1834 г. 13 жыхароў. У 1847 г. ў складзе маёнтка Пашкавічы ў Магілёўскім павеце, 3 двары, 16 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 5 двароў, 39 жыхароў. Побач было сяльцо (1 двор, 6 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 8 двароў, 40 жыхароў, у сяльцы 1 двор, 5 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Карабанаўскім, з 21.8.1925 г. ў Краснапольскім сельсаветах Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 29 двароў, 140 жыхароў. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.7.1954 г. ў Мікалаеўскім, з 22.7.1960 г. ў Палыкавіцкім сельсаветах. У 1990 г. 8 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе калгаса «Камінтэрн» (цэнтр — в. Мікалаеўка 2).

**САЛТАНАЎКА** — вёска ў Дашкаўскім с/с, за 12 км на Пд ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Хватаўка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Быхаў, якая праходзіць праз вёску. 181 гаспадарка, 387 жыхароў (2007).

За 1 км на Пн ад вёскі 2 курганныя могільнікі, а за 1 км на Пд — 2 стаянкі эпохі неаліту, што сведчыць аб засяленні гэтых мясцін у далёкай старажытнасці. Вёска вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1784 г. засн. суконна-палатняная мануфактура, на якой у 1797 г. працавала 28 рабочых. У 1785 г. вёска ў складзе маёнтка Буйнічы Магілёўскага намесніцтва, меўся млын, уласнасць памешчыка. 23.7.1812 г. каля вёскі адбылася бітва 7-га пях. корпуса ген. Раеўскага з французскімі войскамі маршала Даву. Рус. салдаты некалькі разоў урываліся ў вёску, знішчылі каля 7 тыс. варожых салдат. Пакуль корпус М.М.Раеўскага скоўваў праціўніка, 2-я рус. армія генарала П.І.Баграціёна адышла за Дняпро і рушыла на Смаленск на злучэнне з асн. сіламі рус. арміі. У го-



*Наваколле в. Салтанаўка.*

нар гэтай бітвы ў 1912 г. ўзведзена капліца, а мастак Н.С.Самокіш напісаў карціну «Подзвіг салдат Раеўскага пад Салтанаўкай». У 1962 г. ў цэнтры вёскі ў гонар бітвы ўзведзены абеліск. У 1834 г. ў вёсцы было 45 жыхароў, у 1845 г. — 13 двароў, 71 жыхар, цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. Гаспадар маёнтка меў тут у 1875 г. 903 дзес. зямлі і 3 млыны. Паводле перапісу 1897 г. ў Вендаражскай вол. Магілёўскага павета, 25 двароў, 173 жыхары. Непадалёку быў адмыслова найменны фальварак (5 двароў, 28 жыхароў, вадзяны млын) і сядзіба (4 двары, 27 жыхароў). У 1909 г. ў вёсцы 27 двароў, 214 жыхароў, млын, у фальварку — 2 двары, 24 жыхары, млын. З 1913 г. дзейнічаў вінакурны з-д (6 рабочых).








*Мемарыяльная капліца каля в. Салтанаўка ў гонар бітвы расійскіх войск з французскімі ў вайну 1812 г. (1912): агульны выгляд і фрагменты.*

З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. створана с.-г. арцель, якая аб'ядноўвала 14 гаспадарак. У 1929 г. арганізаваны калагс «Чырвоны сормавец», працавалі вадзяны млын і вінзавод. У 1930 г. калгас атрымаў трактар, у 1933 г. аб'ядноўваў 40 гаспадарак. Сярод калгаснікаў у гэты час былі 3 камуністы, 1 камсамолец. У 1932 г. вёска атрымала электрычнае асвятленне. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спустошылі вёску, загубілі 25 жыхароў. У 1990 г. 190 гаспадарак, 597 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоная зорка» (цэнтр — в. Дашкаўка). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі пач. школа, дом для старых і інвалідаў, магазін. У 2007 г. дзейнічалі комплекс дзіцячы сад—пач. шко-



ла, клуб, магазін. Планіровачна складаецца з 2 падзеленых ракой частак: усх. (плаўна выгнутая вуліца — участак шашы мерыдыянальнай арыентацыі, перакрыжоўваецца ў цэнтры дугападобнай вуліцай амаль шыротнай арыентацыі) і зах. (2 кароткія вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ). Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ПнЗ — гасп. сектар.

**САФІЕЎКА** — вёска ў Пашкаўскім с/с, за 8 км на Пн ад Магілёва, 1 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. На паўн.-ўсх. ускраіне праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Шклоў, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 68 гаспадарак, 147 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1858 г. вёска (29 рэвізскіх душ) у Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. Паводле перапісу 1897 г. 24 двары, 176 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін, школа граматы. У 1909 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета, 59 двароў, 222 жыхары. Паблізу была аднайменная сядзіба, 2 двары, 23 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 65 двароў, 389 жыхароў. Дзейнічала пач. школа. У студз. 1931 г. арганізаваны калгас «Прамень абуджэння», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 47 гаспадарак. Сярод калгаснікаў былі 1 камуніст, 7 камсамольцаў. Працавала кузня. У 1939 г. ў калгас перасялена з хутароў 101 гаспадарка, пабудаваны клуб, дзіцячыя яслі, школа, магазін. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 96 гаспадарак, 239 жыхароў, у складзе калгаса «Зара» (цэнтр — в. Хаткі). Размяшчаліся вытв. брыгада, авечкагадоўчая ферма, працавалі 8-гадовая школа, б-ка, клуб. Планіровачна складаецца з 4 прамалінейных, амаль паралельных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі, злучаных завулкамі. Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**САФІЙСК** — вёска ў Сухарэўскім с/с, за 28 км на У ад Магілёва, 23 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Мсціслаў, якая праходзіць каля вёскі. 12 гаспадарак, 19 жыхароў (2007).

Засн. ў 19 ст. ў Рас. імперыі ў сувязі з перасяленнем сюды сялян з Ковенскай і Віленскай губерняў. Памешчык тут меў у 1878 г. 1801 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. вёска (34 двары, 221 жыхар) у Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 36 двароў, 200 жыхароў. У 1916 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. На базе земскай створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 53 вучні з вёсак Сафійск, Малыя Сухары, Сухары, Кіркоры, Бушкава, пас. Пласкоў і хутара Паплавы. З 20.8.1924 г. ў Сухарэўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Чавускага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 57 двароў, 352 жыхары. Вясной 1928 г. арганізаваны калгас, працавала кузня. Калгас атрымаў з Амерыкі ад літоўцаў-эмігрантаў падарунак — трактар. У 1936 г. ў пач. школе было 118 вучняў, дзейнічала б-ка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 22.1.1965 г. ў Магілёўскім р-не. У 1990 г. 32 гаспадаркі, 55 жыхароў, у складзе калгаса «Камуністычны маніфест» (цэнтр — в. Сухары). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працавала 8-гадовая школа. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ уздоўж шашы. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**СЕЛІШЧА** — вёска ў Княжыцкім с/с, за 16 км на ПнЗ ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. На У праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Бракава, Княжыцы і далей па шашы Магілёў—Мінск. 38 гаспадарак, 67 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1785 г. вёска (3 двары, 12 жыхароў) у складзе маёнтка Таўпечыцы Магілёўскага павета, уласнасць памешчыка. У 1909 г. вёска ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. З 20.8.1924 г. ў Бракаўскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 55 двароў, 321 жыхар. Дзейнічаў ветраны млын. У 1929 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, які ў 1933 г. аб'ядноўваў 15 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Княжыцкім с/с. У 1990 г. 61 гаспадарка, 154 жыхары, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Бракава). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і авечкагадоўчая, працавалі магазін, клуб. Планіровачна складаецца з 3 плаўна выгнутых вуліц, якія адыходзяць ад прасёлачнай дарогі з в. Бракава: адна — на ПнУ, дзве другія, амаль паралельныя паміж сабой — на ПнЗ. Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.

**СЕМУКАЧЫ** — вёска і чыг. станцыя на лініі Магілёў—Асіповічы, цэнтр сельсавета, за 45 км на ПдЗ ад Магілёва. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Альхоўка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Алень, Кучын і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 179 гаспадарак, 425 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1745 г. вёска (16 двароў) у Быхаўскім графстве, уласнасць памешчыка. У 1758 г. 25 двароў, 62 жыхары мужчынскага полу. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1784 г. вёска павялічылася да 31 двара, а насельніцтва — да 234 чал. У 1848 г. 68 двароў, мелася драўляная царква, у 1858 г. 171 жыхар мужчынскага полу. З 1860 г. дзейнічала вапнавая вытв-сць. У 1880 г. 86 двароў, 626 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным і кравецкім промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 129 двароў, 880 жыхароў. Меліся хлебазапасны магазін, піцейны дом, царква, школа граматы, якая ў 1907 г. пераўтворана ў царк.-прыходскую. У 1909 г. 156 двароў, 1108 жыхароў. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 65 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 1925 г. дзейнічала хата-чытальня. У 1926 г. 181 двор, 1157 жыхароў. У лютым 1930 г. арганізаваны калгас «Колас», у якім спачатку было 7, а ў 1931 г. — 140 гаспадарак, меўся трактар, з 1932 г. — стацыянарная кінаўстаноўка. У 1936 г. ў пач. школе было 145 вучняў, у іх ліку 42 піянеры. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і ваколіцы базіраваліся 113-ы партыз. атрад (са студз. 1944 г. полк) Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы і Магілёўскі падп. райком КП(б)Б. У 1943 г. гітлераўцы спалілі вёску. За вызваленне вёскі загінулі 56 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі. На фронце загінулі 90 вяскоўцаў. У памяць аб іх каля школы пастаўлены помнік. З 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1990 г. 179 гаспадарак, 425 жыхароў, цэнтр саўгаса «Колас». У вёсцы размяшчаліся вытв. брыгада, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, лесапільня, ферма буйной рагатай жывёлы, ветэрынарны ўчастак, працавалі 3 магазіны, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сярэдняя школа, аддз. сувязі, Дом культуры, аддз. ашчаднага банка, б-ка, сталовая, дзіцячы сад, аптэка. У 2007 г. дзейнічалі комплекс дзіцячы сад—сярэдняя школа, аддз. сувязі, клуб, б-ка, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1985 г. ў Бел. навук.-даследчым і праектным ін-це горадабудаўніцтва. Планіровачна складаецца з 3 вуліц (працяглая прамалінейная ў цэнтры і абапал яе, амаль паралельна — 3 кароткія прамалінейныя), арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ. Вуліцы злучаны завулкамі.



Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы на гал. (больш працяглай) вуліцы. На гэтай жа вуліцы ўзведзены мураваныя двухпавярховыя 4- і 8-кватэрныя дамы. На паўн.-ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

Радзіма аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў антыфашысцкага падполля і партыз. руху ў Беластоцкай вобл. ў Вял. Айч. вайну Д.К.Сукачова (1901—73).

**СЕНЬКАВА** — вёска ў Княжыцкім с/с, за 8 км на З ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў. Рэльеф раўнінны. На зах. ускраіне цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Мінск—Магілёў. 58 гаспадарак, 116 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1785 г. сяльцо (26 двароў, 125 жыхароў), цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1858 г. вёска, 70 жыхароў мужчынскага полу. Гаспадар маёнтка меў тут у 1882 г. 316 дзес. зямлі і млын. Паводле перапісу 1897 г. ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 37 двароў, 245 жыхароў. Непадалёку стаяў аднайменны фальварак. Дзейнічала школа граматы, якая ў 1908 г. ператворана ў земскую, размяшчалася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. ў вёсцы 41 двор, 309 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 39 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 1924 г. ў Княжыцкім с/с. 4.12.1924 г. створана садова-агародніцкая арцель «Звязда». У 1930 г. арганізаваны калгас, які пазней атрымаў імя К.Я.Варашылава. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 80 гаспадарак, 206 жыхароў, у складзе калгаса «Авангард» (цэнтр — в. Сумарокава). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. Планіровачна складаецца з працяглай крывалінейнай вуліцы з завулкам, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**СЕНЬКАВА** — вёска ў Палыкавіцкім с/с, за 3 км на У ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Магілёў 1. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Камінтэрн і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 9 гаспадарак, 21 жыхар (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1854 г. вёска (142 жыхары) у Магілёўскім павеце Магілёўскай губ., уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета, 21 двор, 115 жыхароў. У 1909 г. 32 двары, 107 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 97 двароў, 488 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вер. 1942 г. гітлераўцы спалілі 87 двароў, загубілі 14 жыхароў. У 1990 г. 13 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе калгаса «Камінтэрн». Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

Радзіма бел. мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі В.А.Грамыкі (нар. ў 1923).

**СІДАРАВІЧЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 25 км на Пд ад Магілёва і чыг. ст.



*Царква ў в. Сідаравічы. 2-я пал. 19 ст.*




Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Праз вёску цячэ р. Лазнёўка (прыток р. Паўна). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць побач з вёскай. 212 гаспадарак, 500 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1560 г. як сяло (67 дымоў) у Магілёўскай вол., дзярж. уласнасць. У 1568 г. аддадзена ў часовае валоданне шляхціцу. У 1604 г. цэнтр маёнтка, шляхецкая ўласнасць. У 1607 г. ўпамінаецца ў Баркулабаўскай хроніцы. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1848 г. 62 двары, дзейнічала драўляная царква. У 1858 г. вёска налічвала 420 жыхароў мужчынскага полу, меліся вадзяны млын, карчма, уласнасць памешчыка. Пасля пракладкі ў 1859 г. шашы Магілёў—Доўск у вёсцы размясцілася паштовая станцыя, якая мела 16 коней. У 1880 г. 112 двароў, 711 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася адыходным, рамізніцкім, кавальскім, бандарным і сталярным промысламі. Паводле перапісу 1897 г. ў Царкоўна-Асавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 168 двароў, 1122 жыхары, мураваная царква (адкрыта не пазней 1880), з 1868 г. школа (нар. вучылішча), у якой у 1889 г. навучалася 26 хлопчыкаў, у 1907 г. — 70 хлопчыкаў і 9 дзяўчынак. У 1900 г. для школы пабудавана памяшканне. У 1909 г. ў Грудзінаўскай вол. Быхаўскага павета, 177 двароў, 1361 жыхар. У 1918 быў сфарміраваны чырвонагв. атрад з 30 найбольш актыўных сялян і былых салдат. У маі 1920 г. ад рук ворагаў сав. улады загінуў першы старшыня Грудзінаўскага рэўкома С.П.Кандрычын (пахаваны на вясковых могілках). На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 122 вучні, у іх ліку 39 піянераў, мелася б-ка. У 1923—24 гг. ў выніку землеўладкавання была падзелена памешчыцкая зямля паміж беззямельнымі і малазямельнымі. У 1922 г. створана камсамольская ячэйка (13 юнакоў і дзяўчат). З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. арганізаваны піянерскі атрад, у 1925 г. адкрыта хата-чытальня. 5.11.1929 г. агульны сход сялян прыняў рашэнне аб арганізацыі калгаса «Камінтэрн», у ліст.—снеж. ў калгас уступіла 36, а да вясны 1930 г. — 64 гаспадаркі. Старшынёй быў выбраны рабочы шклоўскай папяровай ф-кі «Спартак» камуніст П.В.Цуканаў. Пач. школа ў 1930 г. ператворана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. было 320 вучняў, у іх ліку 84 піянеры, 18 камсамольцаў, дзейнічала б-ка. У Вял. Айч. вайну ў ліп. 1941 г. каля вёскі мужна змагаліся супраць гітлераўцаў байцы ўдарнага атрада 747-га стралк. палка 172-й стралк. дывізіі пад камандаваннем маёра Златаустаўскага і палітрука Берука. У памяць аб воінах гэтага атрада ў 1984 г. каля будынка сельсавета пастаўлены абеліск. У баях за вызваленне вёскі ў чэрв. 1944 г. загінулі 37 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле на могілках. 320 землякоў загінулі на фронце. У памяць аб іх каля будынка клуба пастаўлены абеліск. За мужнасць і адвагу, праяўленыя ў баях супраць ням.-фаш. захопнікаў, 279 вяскоўцаў узнагароджаны ордэнамі і медалямі, а ўдзельнік грамадз. вайны М.М.Топалеў быў узнагароджаны ордэнам Леніна, 3 ордэнамі Чырвонага Сцяга, ордэнам Багдана Хмяльніцкага і 12 медалямі. У 1990 г. 277 гаспадарак, 731 жыхар, цэнтр калгаса «Расія». У вёсцы былі размешчаны вытв. брыгада, цэх механі-

*Будынак былой паштовай станцыі ў в. Сідаравічы.*





зацыі, 2 фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, лесапільня, цэх па вырабе камбікорму, ветэрынарны ўчастак, сталярна-цяслярскія майстэрні, дзейнічалі гандл. цэнтр, Дом быту, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, Дом культуры, б-ка, музей рэв., баявой і прац. славы, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, сярэдняя і дзіцячая муз. школы, сталовая, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. дзейнічалі сярэдняя школа, аддз. сувязі, клуб, б-ка, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, кавярня. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1979 г. ў ін-це «Магілёўграмадзянпраект». Рака падзяляе вёску на зах. (2 паралельныя — кароткая з завулкам і працяглая вуліцы, арыентаваныя мерыдыянальна, уздоўж ракі) і ўсх. (2 паралельныя, плаўна выгнутыя — адна працяглая, другая кароткая вуліцы, арыентаваныя мерыдыянальна, уздоўж ракі) часткі. Забудавана пераважна двухбакова, драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы ў цэнтры ўсх. часткі. Тут жа ўзведзены мураваныя аднапавярховыя аднакватэрныя і двухпавярховыя 4-кватэрныя дамы. Гасп. сектар — на ўсх. ускраіне.

**СІДАРАЎКА** — вёска ў Нядашаўскім с/с, за 12 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 13 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло (20 двароў) у Вяйнянскім войтаўстве Аршанскага павета, дзярж. ўласнасць. У 1635 г. 15 двароў. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце. У 1785 г. 13 двароў, 74 жыхары, дварцовая ўласнасць. Была адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой навучаліся дзеці з в. Сідараўка, хутароў Сідараўка і Малая Зімніца. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 29 гаспадарак, 58 жыхароў, у складзе саўгаса «Радзіма» (цэнтр — в. Падгор'е). Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СІНІНШЧЫНА** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 34 км на ПдЗ ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Навасёлкі, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 3 гаспадаркі, 7 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Навасёлкаўскім 2, з 21.8.1925 г. ў Гуслішчанскім сельсаветах Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1954 г. ў Дасовіцкім, з 1973 г. ў Заводскаслабодскім сельсаветах. У 1990 г. 12 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе саўгаса «Барок» (цэнтр — в. Завадская Слабада). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СІНЮГА** — вёска ў Семукацкім с/с, за 40 км на ПдЗ ад Магілёва, 3 м ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Семукачы, Алень, Кучын і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 13 гаспадарак, 18 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Гарадзішчанскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Дзейнічала пач. школа. У 1929 г. арганізаваны калгас «1 Мая».

У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 22.7.1965 г. ў Семукацкім с/с. У 1990 г. 33 гаспадаркі, 54 жыхары, у складзе калгаса «Колас». Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, ад якой на Пн адыходзіць на У завулак. Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СІРОЦІНА** — былая вёска ў Княжыцкім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Княжыцы і далей па шашы Магілёў—Мінск.

Засн. ў 1920-я г. як пасёлак перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Бракаўскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Княжыцкім с/с. У 1990 г. 9 гаспадарак, 9 жыхароў, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Бракава).

**СЛАБОДКА** — вёска ў Сідаравіцкім с/с, за 25 км на Пд ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Праз вёску цячэ р. Лазнёўка (прыток р. Паўна). Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць побач з вёскай. 41 гаспадарка, 70 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1837 г. вёска (17 двароў, 104 жыхары), уласнасць памешчыка. У 1847 г. вёска ў складзе маёнтка Анеліна. Паводле перапісу 1897 г. ў Царкоўна-Асавецкай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 37 двароў, 268 жыхароў. Меўся хлебазапасны магазін. У 1909 г. ў Грудзінаўскай вол. Быхаўскага павета, 43 двары, 310 жыхароў. Сав. ўлада ўстаноўлена ў ліст. 1917 г. З 20.8.1924 г. да 6.4.1973 г. цэнтр сельсавета Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 88 двароў, 486 жыхароў. У вясковай школе вучыліся дзеці з вёсак Слабодка, Новая Мілееўка, Бароўка, хутара Слабодка. У 1929 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік», працавалі смалакурны з-д, кузня, сталярная майстэрня. У 1938 г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 99 гаспадарак, 201 жыхар, у складзе калгаса «Расія» (цэнтр — в. Сідаравічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, свінагадоўчая ферма, працавалі клуб, б-ка, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, пач. школа, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных паралельных вуліц мерыдыянальнай арыентацыі (2 вуліцы, злучаныя завулкамі, на З ад ракі, адна — на У). Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СМАЛЯКОЎ** — пасёлак у Вяйнянскім с/с, за 9 км на Пд ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На З цячэ р. Дзягцярка (Вільчанка), на якой зроблена вадасховішча. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Навасёлкі і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 17 гаспадарак, 37 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. як пасёлак перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Грабянёўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 20.6.1960 г. ў Вяйнянскім с/с. У 1990 г. пасёлак, 22 гаспадаркі, 75 жыхароў, у складзе саўгаса «Вяйнянскі цяплічны камбінат» (цэнтр — в. Вейна). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі.

**СМАЛЯРНЯ** — вёска ў Семукацкім с/с, за 40 км на ПдЗ ад Магілёва, 2 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. да-



розе праз вёскі Семукачы, Алень, Кучын і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 5 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. як пасёлак з суседніх хутароў. З 20.8.1924 г. ў Гарадзішчанскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 24.6.1960 г. ў Бокатаўскім, з 4.6.1965 г. ў Семукацкім с/с. У 1990 г. пасёлак, 10 гаспадарак, 20 жыхароў, у складзе саўгаса «Колас» (цэнтр — в. Семукачы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**СТАЙКІ** — вёска ў Дашкаўскім с/с, за 23 км на Пд ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Дняпро. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Быхаў, якая праходзіць праз вёску. 95 гаспадарак, 179 жыхароў (2007).

За 0,3 км на У ад вёскі на беразе р. Дняпро захаваўся курганны могільнік, які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. сяло ў Старабыхаўскім павеце. Паводле перапісу 1897 г. ў Глухаўскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ., 79 двароў, 438 жыхароў. Меўся піцейны дом. У 1903 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. У 1909 г. 70 двароў, 426 жыхароў, дзейнічаў млын. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 52 вучні. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. арганізавана с.-г. арцель «Чырвоны працаўнік», пераўтвораная ў 1929 г. ў калгас, які ў 1933 г. аб'ядноўваў 17 гаспадарак. Дзейнічалі кузня, шорная майстэрня, быў наладжаны выраб колаў і калёс. У 1926 г. 74 двары, 475 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. На фронце і ў партыз. барацьбе загінула 66 вяскоўцаў. У 1990 г. 177 гаспадарак, 418 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоная зорка» (цэнтр — в. Дашкаўка). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, устаноўка па прыгатаванні вітаміннай мукі, працавалі Дом культуры, магазін, пач. школа. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы (адрэзак шашы) амаль мерыдыянальнай арыентацыі, ад якой на З і У адыходзяць 2 кароткія прамалінейныя вуліцы. Забудавана пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы, абапал шашы. На паўн.-зах. ускраіне — гасп. сектар. Электрыфікавана і радыёфікавана.

**СТАРАЯ МІЛЕЕЎКА** — вёска ў Махаўскім с/с, за 25 км на Пд ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Праз вёску цячэ р. Паўна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Слабада і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 76 гаспадарак, 120 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Старабыхаўскім павеце. У 1880 г. сяло Мілеўка (44 двары, 198 жыхароў) у Царкоўна-Асавецкай вол. Частка жыхароў займалася кравецкім промыслам.



*Капліца на могілках у в. Стайкі.*

У 1909 г. 60 двароў, 326 жыхароў, у Гарадзішчанскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1919 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1925 г. ў школе было 38 вучняў. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 94 двары, 650 жыхароў. Дзейнічаў пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых, у якім у 1932 г. былі 72 навучэнцы. У 1930 г. арганізаваны калгас «Ударнік». Працавала кузня, быў наладжаны выраб калёс і вяровак. У 1936 г. ў пач. школе было 111 вучняў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 147 гаспадарак, 314 жыхароў, у складзе саўгаса «Махава» (цэнтр — в. Махава). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма і комплекс па адкорме буйной рагатай жывёлы, працавалі пач. школа, клуб, магазін, б-ка. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з двух частак, падзеленых ракой: паўд.-ўсх. (3 прамалінейныя паралельныя вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, злучаныя завулкамі) і паўн.-зах. (прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдЗ на ПнУ, ад паўн. канца якой на ПнЗ адыходзіць кароткая прамалінейная вуліца). Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі сярод жылой забудовы паўд.-ўсх. часткі. На ПнУ — гасп. сектар.

Радзіма П.Я.Пракопава (1909—80) — бел. сав. вучонага ў галіне агульнага земляробства і раслінаводства, чл.-кар. Нац. акадэміі навук Беларусі.

**СТАРОЕ ПАШКАВА** — вёска ў Пашкаўскім с/с, за 5 км на Пн ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Магілёў 1. Рэльеф раўнінны. На паўд.-ўсх. ускраіне цячэ р. Дубравенка (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мінск. 72 гаспадаркі, 154 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1880 г. сяло (13 двароў, 99 жыхароў) у Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета. Мелася царква. Апрача земляробства ва ўсіх дварах вяскоўцы займаліся вырабам ільняной і пяньковай пражы і тканіны. Побач быў маёнтак, дзе ў 1890 г. засн. мукамольны з-д (у 1900 г. 6 рабочых). Паводле перапісу 1897 г. с. Вялікі Пашкаў у Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 26 двароў, 171 жыхар. Дзейнічалі школа граматы, хлебазапасны магазін, царква. У 1909 г. 45 двароў, 203 жыхары. Побач былі ўладальніцкая сядзіба Вялікі Пашкаў (3 двары, 42 жыхары, паравы млын), сядзіба Вялікі Пашкаў (1 двор, 5 жыхароў, заезны дом), вёска Малы Пашкаў (1 двор, 2 жыхары), хутар Пашкаў (2 двары, 11 жыхароў), хутар Пашкаў 2 (7 двароў, 49 жыхароў). У 1910 г. адкрыта земская школа. 10.5. 1919 г. створана с.-г. арцель «Чырвоны двор», у якую ўваходзіла 27 гаспадарак. У 1920 г. будынак школы згарэў, пад школу быў перададзены ў 1922 г. былы царк. будынак. У 1925 г. ў школе 104 вучні, дзейнічаў драматычны гурток. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. 1.5.1924 г. 20 сем'яў аб'ядналіся ў с.-г. арцель, для якой райземаддзел адвёў 60 га зямлі. У 1925 г. створана сыраварна-масларобчая арцель (48 гаспадарак). У 1926 г. ў вёсцы 79 двароў, 417 жыхароў. 4.1.1930 г. 65 сем'яў арганізавалі калгас імя В.Валадарскага. Меліся трактар, кузня. У 1930-я г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. было 283 вучні, у іх ліку 101 піянер, 11 камсамольцаў, дзейнічала б-ка. У 1939 г. за дасягнутыя поспехі калгас быў удзельнікам Усесаюзнай с.-г. выстаўкі. З хутароў у 1939 г. калгас перасяліў 17 гаспадарак. Вёска атрымала электрычнае асвятленне, быў пабудаваны клуб. У 1940 г. калгас узнагароджаны ордэнам Леніна. Тут дзейнічала стаханаўская школа па жывёлагадоўлі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 11.2.1943 г. партызаны разграмілі гарнізон акупантаў, які размяшчаўся ў вёсцы.



За 600 м на ПдЗ ад вёскі гітлераўцы расстралялі больш за 10 тыс. мірных грамадзян з Магілёва і бліжэйшых вёсак — старых, жанчын, дзяцей. У баях за вызваленне вёскі загінуў 61 воін 290-й стралк. дывізіі, якія пахаваны ў брацкай магіле на могілках. У 1990 г. 92 гаспадаркі, 296 жыхароў, у складзе калгаса імя В.Валадарскага (цэнтр — в. Новае Пашкава). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі клуб, б-ка, магазін, 8-гадовая школа, дзіцячыя яслі, фельч.-акушэрскі пункт. У 2007 г. дзейнічаў клуб. Планіровачна складаецца з 3 прамалінейных паралельных вуліц (дзве працяглыя, пасярод іх — адна кароткая), злучаных завулкамі і арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. У цэнтры размяшчаецца сад. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры вёскі, паміж вуліцамі — гасп. сектар.

**СТАРЫНА** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 33 км на Пд ад Магілёва, 3 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Завадская Слабада і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. як пасёлак перасяленцамі з суседніх вёсак. З 26.7.1924 г. ў Амхаўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. хутары, 9 двароў, 67 жыхароў. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Нядашаўскім, з 1973 г. ў Заводскаслабодскім сельсаветах. У 1990 г. пасёлак, 11 гаспадарак, 18 жыхароў, у складзе саўгаса «Барок» (цэнтр — в. Завадская Слабада). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАРЫ СІНІН** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Магілёва, 6 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На зах. ускраіне цячэ р. Арлянка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Будоўля, Завадская Слабада, Гуслішча і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 13 гаспадарак, 24 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска Сінін у Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў Магілёўскім павеце, 12 двароў, 90 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1897 г. ў Вендаражскай вол. Магілёўскага павета, 38 двароў, 248 жыхароў. У 1909 г. 40 двароў, 333 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Вендаражскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7. 1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 77 двароў, 409 жыхароў. У 1926 г. 85 двароў, 419 жыхароў. У канцы 1920-х г. існавалі вёскі Стары Сінін і Новы Сінін. У сак. 1931 г. арганізаваны калгас «За суцэльную калектывізацыю», які ў 1931 г. аб'ядноўваў 65 гаспадарак. Працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 31 гаспадарка, 61 жыхар, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). Працавалі пач. школа, магазін. Планіроўка Г-падобная. Больш працяглая вуліца арыентавана з ПдУ на ПнЗ, уздоўж ракі. Ад яе адыходзіць на ПнУ кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТАШЫНА** — вёска ў Буйніцкім с/с, за 10 км на З ад Магілёва, 8 км ад чыг. ст. Галынец на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Савасцянавічы, Цішоўка і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 20 гаспадарак, 27 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1847 г. в. Сташын (яна ж Пясчанае), цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце, уласнасць памешчыка, які меў у 1874 г. 1047 дзес. зямлі, млын і карчму. Паводле перапісу 1897 г. ў Княжыцкай вол. Магілёўскага

павета Магілёўскай губ., 17 двароў, 147 жыхароў. Непадалёку быў засценак Сташын (ён жа Масянкі), 1 двор, 14 жыхароў. У 1909 г. ў вёсцы 22 двары, 169 жыхароў. У 1909 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. быў 41 вучань, дзейнічаў драматычны гурток. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1948 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. ў вёсцы 43 двары, 222 жыхары. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоны Сташын», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 14 гаспадарак. У 1940 г. 50 двароў, 251 жыхар. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы ў крас. 1944 г. поўнасцю спалілі вёску, загубілі 9 жыхароў. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 33 гаспадаркі, 67 жыхароў, у складзе калгаса «Маяк камунізму» (цэнтр — в. Цішоўка). Размяшчалася свінагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з прамалінейнай кароткай вуліцы, арыентаванай амаль мерыдыянальна, уздоўж ракі. Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СТУЖЫЦА** — вёска ў Нядашаўскім с/с, за 23 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Шарсцінка (прыток р. Шчацінка), на З — яе прыток р. Падол. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 32 гаспадаркі, 41 жыхар (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1604 г. як сяло (18 двароў), засн. ў лесе, у Гарбавіцкім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. сяло ў Чавускім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. з'яўлялася дварцовай уласнасцю. У 1858 г. 54 рэвізскія душы, меўся шынок. Паводле перапісу 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 34 двары, 252 жыхары. У 1909 г. 38 двароў, 306 жыхароў. У 1918 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. былі 54 вучні з в. Стужыца і хутароў Халмы, Нядашава, Стужыца. З 20.8.1924 г. ў Амхаўскім с/с Лупалаўскага, з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. хутары, 67 двароў, 427 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас «Чырвоная зорка». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 26.6.1954 г. ў Нядашаўскім с/с. У 1990 г. 78 гаспадарак, 144 жыхары, у складзе саўгаса «Магілёўскі» (цэнтр — в. Амхавая). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы, вытв. брыгада, працавалі б-ка, магазін. Планіровачна складаецца з 2 мерыдыянальнай арыентацыі вуліц (усх. прамалінейная, зах. — плаўна выгнутая), злучаных завулкамі. Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СУМАРОКАВА** — вёска ў Княжыцкім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. станцыі Магілёў 2. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па шашы Мінск—Магілёў, якая праходзіць праз вёску. 151 гаспадарка, 464 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. 17 двароў, 91 жыхар, у складзе маёнтка Забалацце Магілёўскага павета, уласнасць памешчыка і кармеліцкага кляштара. Меліся млыны, плаціна, 2 сажалкі. Паводле перапісу 1897 г. ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. Дзейнічала школа граматы. У 1909 г. 40 двароў, 236 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 49 двароў, 295 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Новы свет», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 51 гаспадарку. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 119 гаспадарак, 358 жыхароў, цэнтр калгаса «Авангард». У вёсцы былі размешчаны вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, працавалі 2 магазіны, сталовая, аддз. сувязі. У 2000-я г. створаны аграгарадок Сумарокава-Кня-



жыцы. У 2007 г. цэнтр с.-г. даччынага прадпрыемства «Авангард» Магілёўскага аддз. Бел. чыгункі. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, да якой на Пн далучаецца плаўна выгнутая вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ уздоўж ракі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры забудова вядзецца мураванымі аднапавярховымі 1-, 2-, 4-кватэрнымі дамамі. Грамадскія будынкі размешчаны ў цэнтры, сярод жылой забудовы. Вытв. сектар — на паўд.-усх. ускраіне, каля ракі.

**СУПАНІЧЫ** — вёска ў Сухарэўскім с/с, за 35 км на ПнУ ад Магілёва і чыг. станцыі Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сухары і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 18 гаспадарак, 25 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 1560 г. як сяло, 51 дым, у Магілёўскай вол., дзярж. уласнасць. У 1604 г. ва Ульянаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі, аддадзена ў часовае валоданне шляхціцу. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. сяло ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Сухары Чавускай акругі, 62 двары, 454 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1858 г. мелася карчма. У 1888 г. адкрыта царк.-прыходская школа, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. ў Чэрнеўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 54 двары, 367 жыхароў. У 1909 г. 63 двары, 470 жыхароў. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 57 вучняў з вёсак Супанічы і Ходнева. З 20.8. 1924 г. ў Зарасцянскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Чавускага, з 12.2.1935 г. Дрыбінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 90 двароў, 553 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Пралетарый». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 16.9.1959 г. ў Сухарэўскім с/с Чавускага, з 22.1.1965 г. Магілёўскага р-наў. У 1990 г. 55 гаспадарак, 86 жыхароў, у складзе калгаса «Парыжская Камуна» (цэнтр — в. Зарэсце). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, працавалі клуб, магазін. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ, да якой на Пд далучаюцца 2 прамалінейныя паралельныя вуліцы з завулкамі, арыентаваныя з ПдУ на ПнЗ. Забудавана традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**СУХАРЫ** — вёска, цэнтр сельсавета, за 27 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі



*Шаша Магілёў—Мсціслаў каля в. Сухары.*

па шашы Магілёў—Мсціслаў, якая праходзіць праз вёску. 218 гаспадарак, 581 жыхар (2007).

За 0,5 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Раста, размешчана гарадзішча, якое сведчыць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Вядома ў ВКЛ з 1560 г. як сяло ў Магілёўскай вол., дзярж. ўласнасць. У 1568 г. аддадзена ў часовае валоданне шляхціцу. У 1604 г. ва Ульянаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі. У 1737 г. мелася царква. З 1772 г. ў Рас. імперыі. Паводле статыстычнага апісання Магілёўскай губ. 1784 г. мястэчка (19 двароў, 93 жыхары, млын, драўляная царква, па нядзелях праводзіліся таргі) і вёска (85 двароў, 552 жыхары, цэнтр маёнтка Чавускага павета, уласнасць памешчыка). У 1856 г. памешчык меў тут 1697 дзес. зямлі, вадзяны млын і пiцейны дом. У 1878 г. працавала крупадзёрка. У 1880 г. ў мястэчку і сяле 133 двары, 730 жыхароў. Меліся крама, драўляная царква, сінагога. Частка жыхароў займалася шавецкім і кравецкім промысламі. У 1887 г. школа граматыператворана ў царк.-прыходскую, для якой у тым жа годзе пабудавана памяшканне. Паводле перапісу 1897 г. мястэчка (53 двары, 406 жыхароў, 2 крупадзёркі, 13 лавак, царк.-прыходская школа, царква, малітоўны дом, 2 піцейныя дамы) і сяло (105 двароў, 682 жыхары). У пач. 20 ст. пабудавана з цэглы Успенская царква,



*Царква ў гонар Успення Прасвятой Багародзіцы ў в. Сухары. Канец 19 — пач. 20 ст.*

якая зараз з'яўляецца помнікам эклектычнай архітэктуры з элементамі псеўдавізантыйскага стылю. У 1909 г. ў мястэчку 64 двары, 500 жыхароў, паштовае аддз., казённая вінная крама, у сяле — 113 двароў, 814 жыхароў, хлебазапасны магазін. Побач былі аднайменныя сядзіба (2 двары, 9 жыхароў) і фальварак (1 двор, 12 жыхароў, вадзяны млын).

У студз. 1918 г. непадалёку ад вёскі чавускія чырвонагвардзейцы разграмілі атрад польскіх легіянераў і захапілі вял. трафеі. У сак. 1918 г. ў сувязі з набліжэннем фронту сфарміраваны партыз. атрад. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 132 вучні, з іх 19 піянераў. 1.5.1924 г. створана с.-г. т-ва. У гэтым жа годзе пачалі дзейнічаць с.-г. крэдытнае т-ва, б-ка, хата-чытальня, бальніца, у 1925 г. — нар. дом. З 20.8.1924 г. цэнтр сельсавета ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Чавускім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. Вяскоўцы актыўна ўдзельнічалі ў асваенні новых земель у іншых раёнах краіны. У 1925 г. было створана перасяленчае т-ва «Праўда» з 15 сямей, якія выехалі ва ўсх. раёны СССР. У 1926 г. ў мястэчку 46 двароў, 222 жыхары, у сяле 131 двор, 902 жыхары. У 1928 г. пачало дзейнічаць сыраробчае прадпрыемства. У 1929 г. арганізаваны калгас «Камуністычны маніфест». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. За вызваленне вёскі загінула 114 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле ў цэнтры вёскі. Сярод пахаваных — Герой Сав. Саюза М.К.Цярэшчанка, на ўшанаванне памяці якога ў 1965 г. на будынку школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка. На фронце загінулі 154 вяскоўцы. На ўшанаванне іх памяці ў 1977 г. каля будынка выканкома сельсавета пастаўлены абеліск. З 25.12.1964 г. ў Магілёўскім р-не. У 1990 г. 223 гаспадаркі, 525 жыхароў, цэнтр калгаса «Камуністычны маніфест». У вёсцы былі размешчаны вытв. брыгада, май-



стэрні па рамонце сельгастэхнікі, лесапільня, зернедрабільня, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, ветэрынарны ўчастак, працавалі камбінат быт. абслугоўвання, 4 магазіны, аддз. ашчаднага банка, аддз. сувязі, клуб, б-ка, дзіцячы сад-яслі, сярэдняя школа, участковая бальніца, амбулаторыя, аптэка. У 2000-я г. на базе вёскі створаны аграгарадок. У 2007 г. цэнтр СВК «Сухарэўскі», дзейнічалі сярэдняя школа, аддз. сувязі, клуб, б-ка, участковая бальніца, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва. Да вёскі ў 1939 г. далучаны пасёлкі Альхавец, Сасновец, у 1955 г. — Рэставы. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1978 г. ў Магілёўскім філіяле ін-та «Белкалгаспраект». Планіровачна складаецца з 2 вуліц (адна прамалінейная, другая — адрэзак шашы — плаўна выгнутая), арыентаваныя з ПдЗ на ПнУ, дзе яны злучаюцца і перакрыжоўваюцца кароткай, плаўна выгнутай вуліцай амаль мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На скрыжаванні вуліц сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. Вытв. сектар — на Пн і Пд.

**СЯЛЕЦ** — вёска ў Дашкаўскім с/с, за 8 км на Пд ад Магілёва, 4 км ад чыг. ст. Буйнічы на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на ПдЗ мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць праз вёску. 163 гаспадаркі, 692 жыхары (2007).

Вядома па рукапісных крыніцах з 17 ст. У 1662 г. сяло ў Аршанскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1785 г. ў складзе маёнтка Старыя Буйнічы Магілёўскага павета, 21 двор, 275 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1866 г. адзін памешчык меў тут 309 дзес. зямлі, другі — 305 дзес. У 1880 г. 50 двароў, 250 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася сталярным, кравецкім, шавецкім і кавальскім промысламі. У 1897 г. сёлы Сялец (7 двароў, 42 жыхары), Сялец-Янава (11 двароў, 76 жыхароў, заезны дом), Сялец 1 (5 двароў, 38 жыхароў), Сялец 2 (87 двароў, 612 жыхароў, малітоўны дом). Меліся вадзяны млын, паштовае аддз. У 1909 г. ў сяле 93 двары, 295 жыхароў, у сяленні Сялец — 7 двароў, 50 жыхароў, у аколіцы Янавы Сялец — 7 двароў, 46 жыхароў. У 1918 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1925 г. ў школе было 79 вучняў, з іх 20 піянераў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. — у Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. да 22.7.1960 г. цэнтр сельсавета. У 1925 г. адкрыта хата-чытальня. Актыўную работу разгарнула ячэйка па ліквідацыі непісьменнасці і малапісьменнасці сярод дарослых. З 1928 г. дзейнічала сырадробчая арцель. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, які ў 1933 г. аб'ядноўваў 32 гаспадаркі. У 1930-я г. ў вёсцы дзейнічалі 7-гадовая і пач. школы. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Партызаны ў 1943 г. разграмілі вал. ўпраўленне акупац. улад, якое размяшчалася ў вёсцы. Гітлераўцы спалілі і абрабавалі вёску. За вызваленне вёскі загінулі 123 сав. воіны, якія пахаваны ў брацкай магіле на паўд.-ўсх. ускраіне. На фронце загінулі 149 вяскоўцаў, на ўшанаванне памяці якіх каля будынка клуба пастаўлены абеліск. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 200 гаспадарак, 927 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоная зорка» (цэнтр — в. Дашкаўка). Размяшчаліся майстэрні, вытв. брыгада, 2 фермы буйной рагатай жывёлы, лесапільня, працавалі 2 магазіны, б-ка, клуб, аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, пач. школа. У 2007 г. дзейнічалі аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы (адрэзак шашы) амаль мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны сярод жылой забудовы. На З — гасп. сектар.

**ТАРАНАВА** — вёска ў Кадзінскім с/с, за 14 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лу-

палава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 95 гаспадарак, 230 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1667 г. сяло ў Аршанскім павеце, шляхецкая ўласнасць. У 1682 г. цэнтр маёнтка Таранавічы, меўся палац, перавоз цераз р. Дняпро (за 4 км ад вёскі), 41 сял. двор; па ўказу вял. князя ВКЛ сяло адабрана ад Кіева-Пячэрскага манастыра. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Любуж Магілёўскага павета. У 1858 г. мелася карчма. Паводле перапісу 1897 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 20 двароў, 127 жыхароў. Дзейнічалі школа граматы і хлебазапасны магазін. У 1909 г. 26 двароў, 176 жыхароў, у Вяйнянскай вол. Магілёўскага павета. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 49 двароў, 283 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоны сцяг», які ў 1939 г. аб'ядноўваў 53 гаспадаркі, працавала кузня, вырабляліся колы, вазы, сані. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях за вызваленне вёскі загінулі 18 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле на ўсх. ускраіне. У 1990 г. 54 гаспадаркі, 103 жыхары, у складзе саўгаса «Кадзіна» (цэнтр — в. Кадзіна). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных вуліц, злучаных завулкамі і арыентаваных шыротна, да якіх на У далучаецца плаўна выгнутая вуліца мерыдыянальнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На У — гасп. сектар.

**ТАЎПЕЧЫЦЫ** — вёска ў Княжыцкім с/с, за 21 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны. На У праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Бракава і далей па шашы Магілёў—Мінск. 29 гаспадарак, 45 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1667 г. маёнтак у Аршанскім павеце Віцебскага ваяв., шляхецкая ўласнасць. У 1743 г. сяло ў Аршанскім павеце. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. сяло Таўпечын у Магілёўскім павеце. У 1785 г. сяльцо Таўпечыцы-Нікапаль (15 двароў, 113 жыхароў), цэнтр маёнтка ў Магілёўскім павеце, уласнасць памешчыка, меўся млын. Памешчык меў тут у 1878 г. 677 дзес. зямлі, карчму і вадзяны млын. У 1880 г. 33 двары, 253 жыхары. Дзейнічалі школа (нар. вучылішча, адкрыта не пазней 1884) і драўляная царква. Апрача земляробства вяскоўцы займаліся сталярным і пяньковым промысламі, вырабам тканіны з воўны. У 1884 г. засн. слясарна-кавальская майстэрня. У 1912 г. пабудавана памяшканне для школы. На базе земскай адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 87 вучняў. Дзейнічала б-ка. У 1924 г. адкрыта хата-чытальня. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 99 двароў, 541 жыхар. У 1929 г. арганізаваны калгас «10 гадоў Кастрычніка». У 1930-я г. пач. школа ператорана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. было 199 вучняў. У 1940 г. 80 двароў, 394 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1944 г. гітлераўцы спалілі 70 двароў, загубілі 50 жыхароў. У 1990 г. 49 гаспадарак, 114 жыхароў, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в. Бракава). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з 2 амаль прамалінейных паралельных вуліц, злучаных завулкамі і арыентаваных з ПдУ на ПнЗ. Забудавана пераважна двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**ТУМАНАЎКА** — вёска ў Дашкаўскім с/с, за 10 км на Пд ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Буйнічы на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на З і Пн мяжуе з



лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сялец і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 15 гаспадарак, 22 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. в. Туманаўка 1 (15 двароў, 112 жыхароў) і пас. Туманаўка 2 (9 двароў, 56 жыхароў). У 1909 г. ў Туманаўцы 1 было 16 двароў, 121 жыхар, у Туманаўцы 2 — 7 двароў, 34 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. ў Сялецкім с/с. У 1918 г. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 59 вучняў. 4.12.1924 г. адкрыта хата-чытальня. У 1926 г. ў Туманаўцы 1 было 36 двароў, 180 жыхароў, у Туманаўцы 2 — 20 двароў, 108 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя І.В.Сталіна. У канцы 1930-х г. вёскі Туманаўка 1 і Туманаўка 2 былі аб'яднаны ў адну в. Туманаўка. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У ліст. 1943 г. гітлераўцы спалілі 15 двароў, закатавалі і спалілі 38 яе жыхароў, якія пахаваны ў магіле на паўд.-ўсх. ускраіне. У 1990 г. 36 гаспадарак, 86 жыхароў, у складзе калгаса «Чырвоная зорка» (цэнтр — в. Дашкаўка). Размяшчалася ферма па адкорме буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**УГАЛЛЕ** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 33 км на ПдЗ ад Магілёва, 7 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На паўн.-ўсх. ускраіне цячэ р. Арлянка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Стары Сінін, Вендараж і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 19 гаспадарак, 34 жыхары (2007).

Вядома ў ВКЛ з 18 ст. У 1745 г. вёска (6 двароў) у Быхаўскім графстве. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. в. Уголы ў Старабыхаўскім павеце. У 1784 г. 7 двароў, 62 жыхары, уласнасць памешчыка. У 1858 г. ў Быхаўскім павеце, 35 жыхароў мужчынскага полу. У 1909 г. ў Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета, 37 двароў, 153 жыхары. З 20.8.1924 г. ў Вендаражскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 45 двароў, 285 жыхароў. Дзейнічала пач. школа. У 1929 г. арганізаваны калгас «Пралетарый», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6. 1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 46 гаспадарак, 93 жыхары, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з крывалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**УКРУЖЖА** — вёска ў Семукацкім с/с, за 35 км на ПдЗ ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Новы Сінін, Вендараж і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. Пастаяннага насельніцтва няма (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1784 г. ў Быхаўскім павеце, 2 двары, 16 жыхароў, уласнасць памешчыка. Паводле перапісу 1897 г. ў Гарадзішчанскай вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 9 двароў, 67 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 18 двароў, 95 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя В.І.Чапаева. Працавала кузня, дзейнічаў торфазавод, быў створаны гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 1955 г. ў Семукацкім с/с. У 1990 г. 4 гаспадаркі, 6 жыхароў, у складзе саўгаса «Бялевічы» (цэнтр — в. Вялікія Бялевічы). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж прасёлачнай дарогі.

**ФОЙНА** — вёска ў Мастоцкім с/с, за 12 км на ПнУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупа-

лава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць на зах. ускраіне вёскі. 30 гаспадарак, 49 жыхароў (2007).

На паўд.-ўсх. ускраіне размешчана гарадзішча, за 3 км на З ад вёскі — стаянка эпохі позняга мезаліту (6—5 тыс. да н.э.), якія сведчаць аб засяленні гэтых месц у глыбокай старажытнасці. Вёска вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1604 г. сяло ў Брылёўскім войтаўстве Аршанскага павета. Меўся млын. У 1635 г. сяло Хвойна, 35 двароў, дзярж. уласнасць. У 1785 г. ў складзе маёнтка Палыкавічы, 27 двароў, уласнасць памешчыка. У 1834 г. 136 жыхароў. У 1847 г. 32 двары, 190 жыхароў. У вёсцы ў 1880-я г. дзейнічалі казённыя вінная і хлебная крамы. Паводле перапісу 1897 г. ў Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 28 двароў, 222 жыхары. Непадалёку знаходзілася паштовая станцыя (2 двары, 14 жыхароў). У 1909 г. 34 двары, 202 жыхары. У 1918 г. адкрыта школа, якой быў перададзены нацыяналізаваны будынак. У 1925 г. ў школе было 56 вучняў, дзейнічаў драмгурток. З 1923 г. ў Сухарэўскай вол. Чавускага павета РСФСР. З сак. 1924 г. ў БССР, з 20.8.1924 г. ў Мастоцкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 49 двароў, 278 жыхароў. У 1930 г. арганізаваны калгас імя К.Я.Варашылава, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 67 гаспадарак, 149 жыхароў, у складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Грыбаны). Размяшчаліся майстэрні, фермы свінагадоўчая і буйной рагатай жывёлы, працавалі магазіны. У 2007 г. дзейнічаў магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПнУ на ПдЗ пад вуглом да шашы і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**ХАЛМЫ** — вёска ў Махаўскім с/с, за 25 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На Пн цячэ р. Шарсцянка (прыток р. Шчацінка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Нядашава і далей па шашы Магілёў—Слаўгарад. 71 гаспадарка, 713 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1633 г. с. Халмы (яно ж Слабодка) аддадзена Буйніцкаму манастыру. У 1759 г. ў Аршанскім павеце, 14 двароў, належала Баркулабаўскаму жаночаму манастыру. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1777 г. ў Чавускім павеце. У 1854 г. 18 двароў, 151 жыхар, у складзе казённага маёнтка Дуброва-Косцінскі Чавускага павета, дзярж. уласнасць. Мелася драўляная царква (адкрыта не пазней 1880). У 1897 г. ў Вендаражскай вол.

*Будынак былой паштовай станцыі ў в. Фойна.*







Магілёўскага павета, 2 двары, 16 жыхароў. У 1909 г. 5 двароў, 15 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. хутары, 8 двароў, 73 жыхары. У канцы 1920-х г. адкрыта пач. школа. У 1930 г. арганізаваны калгас «Перамога», працавала кузня, дзе выраблялiся колы, спіцы, дугі, калёсы. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 160 гаспадарак, 320 жыхароў, у складзе саўгаса «Махава» (цэнтр — в. Махава). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, зернедрабільня, працавалі клуб, магазін, б-ка. У 2007 г. працаваў магазін. Планіроўка прамавугольная. Складаецца з 7 прамалінейных, амаль паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных папярочнымі прамалінейнымі вуліцамі. Забудавана пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На Пн — гасп. сектар.

**ХАРОШКІ** — вёска ў Сухарэўскім с/с, за 22 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. На зах. ускраіне цячэ р. Раста (прыток р. Проня). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 45 гаспадарак, 89 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло (20 двароў) у Бардзілаўскім войтаўстве Магілёўскага староства-эканоміі Аршанскага павета Віцебскага ваяв., дзярж. ўласнасць. У 1742 г. 18 двароў, мелася крама. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Сухары Чавускага павета, 28 двароў, 209 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1849 г. 28 двароў, 175 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 50 двароў. У 1909 г. 48 двароў, 284 жыхары. У 1918 г. адкрыта школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. З 21.4.1918 г. ў Сухарэўскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. РСФСР. З сак. 1924 г. ў БССР. З 20.8.1924 г. ў Сухарэўскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 21.7.1930), з 2.3.1931 г. Чавускага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1925 г. ў школе было 40 вучняў, дзейнічаў гурток па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. У 1926 г. 76 двароў, 442 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баях за вызваленне вёскі і наваколля загінулі 40 воінаў 878-га і 882-га стралк. палкоў 290-й стралк. дывізіі, якія пахаваны на вясковых могілках. Сярод іх — Герой Сав. Саюза капітан Ю.М. Двужыльны, пад камандаваннем якога стралк. батальён паспяхова фарсіраваў рэкі Проня і Бася і ў жорсткім баі вызваліў вёскі Суслаўка і Папоўка. Загінуў у гэтым баі. З 22.1.1965 г. ў Магілёўскім р-не. У 1990 г. 58 гаспадарак, 128 жыхароў, у складзе калгаса «Камуністычны маніфест» (цэнтр — в. Сухары). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі б-ка, магазін, клуб. У 2007 г. працаваў магазін. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі і забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На ўсх. ускраіне — гасп. сектар.

**ХАТКІ** — вёска ў Пашкаўскім с/с, за 13 км на ПнЗ ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Палыкаўскія Хутары на лініі Магілёў—Орша. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Сафіеўка і далей па шашы Магілёў—Шклоў. 36 гаспадарак, 84 жыхары (2007).

Засн. ў 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. У 1926 г. 25 двароў, 142 жыхары. У 1934 г. арганізаваны калгас «Новае жыццё», які абслугоўвала Пашкаўская МТС імя 20-годдзя БССР. У 1940 г. калгас аб'ядноўваў 43 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У баі за вызваленне вёскі загінулі 18 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле на ўсх. ускраіне вёскі. У 1990 г. 40 гаспадарак, 113 жыхароў, у складзе калгаса «Зара»

(цэнтр — в. Рэчкі 1). Размяшчаліся вытв. брыгада, зерняток, камбікормавы завод, жывёлагадоўчы комплекс, машынны двор. Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**ХВАШЧОЎКА** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 20 км на З ад Магілёва, 12 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На Пд праходзяць меліярацыйныя каналы, злучаныя з р. Сянна (Жыварэзка). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Пясчанка, Галубоўка і далей па шашы Магілёў—Мінск. Пастаяннага насельніцтва няма (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. У 1785 г. ў складзе маёнтка Пухаўшчына Магілёўскага павета, 14 двароў, 90 жыхароў, шляхецкая ўласнасць. У 1897 г. ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 10 двароў, 21 жыхар. З 20.8.1924 г. ў Рафалаўскім, з 24.9.1926 г. да 23.8.1937 г. ў Хрыпялёўскім нац. польскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 16 двароў, 86 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Шлях сацыялізму», працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У вёсцы і наваколлі базіраваўся 121-ы партыз. атрад (з ліст. 1943 г. полк) Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы. З 26.6.1954 г. ў Вендаражскім с/с. У 1990 г. 14 гаспадарак, 31 жыхар, у складзе калгаса «Герой працы» (цэнтр — в. Міхалёва). Размяшчаліся ферма буйной рагатай жывёлы і гасп. двор. Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХІМНІЦА** — пасёлак у Семукацкім с/с, за 44 км на ПдЗ ад Магілёва, 5 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на З мяжуе з лесам. На паўд. ускраіне цячэ р. Альхоўка (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Семукачы, Кучын і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 9 гаспадарак, 17 жыхароў (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Гарадзішчанскім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 24.6.1960 г. ў Бокатаўскім, з 4.6.1965 г. ў Семукацкім с/с. У 1990 г. 21 гаспадарка, 44 жыхары, у складзе саўгаса «Колас» (цэнтр — в. Семукачы). Размяшчалася вытв. брыгада. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХОДНЕВА** — вёска ў Сухарэўскім с/с, за 34 км на ПнУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Зарэсце, Сухары і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 6 гаспадарак, 7 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Чавускім павеце. У 1785 г. ў складзе маёнтка Сухары Чавускага павета, 19 двароў, 139 жыхароў, уласнасць памешчыка. У 1852 г. 16 двароў, 79 жыхароў. Паводле перапісу 1897 г. ў Гладкаўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 23 двары, 143 жыхары. У 1909 г. 26 двароў, 181 жыхар. З 21.4.1918 г. ў Сухарэўскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. РСФСР. З сак. 1924 г. ў БССР, з 20.8.1024 г. ў Зарасцянскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Чавускага, з 12.2.1935 г. Дрыбінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 34 двары, 225 жыхароў. У 1929 г. арганізаваны калгас «Прамень святла», у які першапачаткова ўвайшло 7 гаспадарак. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіра-



вана ням.-фаш. захопнікамі. За вызваленне вёскі загінула 8 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле на ўсх. ускраіне. 16.9.1959 г. Дрыбінскі р-н скасаваны і Зарасцянскі с/с увайшоў у склад Сухарэўскага сельсавета Чавускага р-на, з 22.1.1965 г. ў Магілёўскім р-не. У 1990 г. 24 гаспадаркі, 35 жыхароў, у складзе калгаса «Парыжская Камуна» (цэнтр — в. Зарэсце). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ і забудаванай традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ХРЫПЯЛЁВА** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 27 км на ПдЗ ад Магілёва, 13 км ад чыг. ст. Вендрыж на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Будзішча, Вендараж і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 29 гаспадарак, 70 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 16 ст. У 1565 г. сяло Хрыпялёва ў складзе маёнтка Княжыцы Аршанскага павета, шляхецкая ўласнасць. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. 13 двароў, 101 жыхар, у складзе маёнтка Галоўчына Магілёўскага павета, уласнасць памешчыка. У 1871 г. адзін памешчык меў тут 120 дзес. зямлі, другі — 135, трэці — 199 дзес. зямлі. Паводле перапісу 1897 г. былі фальварак Хрыпялёва (2 двары, 11 жыхароў), аколіца Хрыпялёва 1 (24 двары, 134 жыхары) і засценак Хрыпялёва 2 (4 двары, 27 жыхароў). З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 55 двароў, 242 жыхары. У 1931 г. арганізаваны калгас імя Ф.Э.Дзяржынскага, працавалі нафтавы млын, кузня, ваўначоска, дзейнічала пач. школа. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У чэрв. 1942 г. партызаны разграмілі вал. ўправу акупантаў. У вёсцы і наваколлі базіраваўся 121-ы партызанскі атрад (з ліп. 1943 г. полк) Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы. Каля могілак у брацкай магіле пахаваны воіны, якія загінулі пры вызваленні вёскі. У 1990 г. 52 гаспадаркі, 114 жыхароў, у складзе саўгаса «Вендараж» (цэнтр — в. Вендараж). Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі 8-гадовая школа (13 настаўнікаў), клуб, б-ка, аддз. сувязі, магазін. У 2007 г. дзейнічалі фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы амаль мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. На паўн. ускраіне — гасп. сектар.

**ЦЕЦЕРАЎНІК** — вёска ў Сухарэўскім с/с, за 27 км на ПнУ ад Магілёва, 27 км ад чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Супанічы, Сухары і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 3 гаспадаркі, 4 жыхары (2007).

Засн. ў пач. 1920-х г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Зарасцянскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Чавускага, з 12.2.1935 г. Дрыбінскага р-наў, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1926 г. 16 двароў, 92 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Кастрычнік». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 26.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 16.8.1959 г. Дрыбінскі р-н скасаваны і Зарасцянскі с/с увайшоў у склад Сухарэўскага с/с Чавускага р-на, з 22.1.1965 г. ў Магілёўскім р-не. У 1990 г. 16 гаспадарак, 25 жыхароў, у складзе калгаса «Камуністычны маніфест» (цэнтр — в. Зарэсце). Размешчаны вытв. брыгада і авечкагадоўчая ферма. Планіровачна складаецца з прамалінейнай вуліцы, арыентаванай з ПдЗ на ПнУ.

**ЦІШОЎКА** — вёска ў Буйніцкім с/с, за 3 км на ПдЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. На ПнЗ праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 433 гаспадаркі, 1052 жыхары (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 18 ст. У 1777 г. вёска ў Магілёўскім павеце Магілёўскай

губ. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў складзе маёнтка Буйнічы Магілёўскага павета, 8 двароў, 39 жыхароў. У 1873 г. засн. запалкавая ф-ка, у 1878 г. — мылаварня. У 1880 г. 43 двары, 126 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася кавальскім промыслам. Паводле перапісу 1897 г. ў Цішоўцы 1 57 двароў, 489 жыхароў, мылаварня, цагельны з-д, 2 кузні, 2 крупадзёрка, 6 лавак, заезны дом, малітоўны дом, у Цішоўцы 2 — 39 двароў, 254 жыхары, кузня, заезны дом, у Цішоўцы 3 — 10 двароў, 71 жыхар. Непадалёку былі фальварак (4 двары, 19 жыхароў) і ўрочышча Дальнія Цішоўкі, яно ж Машанец (2 двары, 14 жыхароў). У 1909 г. ў Цішоўцы 1 было 50 двароў, 418 жыхароў, у Цішоўцы 2 — 53 двары, 295 жыхароў, у Цішоўцы 3 — 9 двароў, 77 жыхароў, у фальварку Цішоўка — 1 двор, 14 жыхароў. Земскія школы адкрыты ў 1911 г. ў Цішоўцы 2, у 1916 г. ў Цішоўцы 1, размяшчаліся ў наёмных памяшканнях. У 1920 г. створана малочная арцель. На базе земскай у Цішоўцы 1 пачала дзейнічаць прац. школа 1-й ступені. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1924 г. будынак былой сінагогі перададзены для хаты-чытальні. У 1930 г. арганізаваны калгас. З 1937 г. калгас спецыялізаваўся на насенняводстве, выпрабаванні новых гатункаў с-г. культур. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы спалілі вёску. У баях за вызваленне вёскі загінулі 68 сав. воінаў, якія пахаваны ў брацкай магіле на могілках. На фронце загінулі 39 вяскоўцаў, на ўшанаванне памяці якіх у цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. Пасля вайны адбудавана. У 1990 г. 301 гаспадарка, 1052 жыхары, цэнтр калгаса «Маяк камунізму». У вёсцы былі размешчаны вытв. брыгада, майстэрні па рамонце сельгастэхнікі, лесапільня, цэх па прыгатаванні вітаміннай мукі, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, ветэрынарны ўчастак, працавалі магазін, аддз. сувязі, аддз. ашчаднага банка, дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, б-ка, сярэдняя школа, муз. школа, фельч.-акушэрскі пункт, грамадская лазня. У 2007 г. цэнтр камунальнага с.-г. прадпрыемства «Цішоўка», дзейнічалі сярэдняя школа, аддз. сувязі, клуб, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных, паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПнУ на ПдЗ і злучаных завулкамі. На Пд да іх далучаецца плаўна выгнутая вуліца амаль шыротнай арыентацыі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры сярод жылой забудовы размешчаны грамадскія будынкі. На ПдУ — гасп. сектар.

**ЧАРНАБЕЛЬ** — вёска ў Заводскаслабодскім с/с, за 32 км на ПдЗ ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Дашкаўка на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Дасовічы і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 7 гаспадарак, 20 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г. перасяленцамі з суседніх вёсак. З 20.8.1924 г. ў Дасовіцкім с/с Магілёўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. пасялкоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіраваны ням.-фаш. захопнікамі. З 6.4.1973 г. ў Заводскаслабодскім с/с. У 1990 г. 10 гаспадарак, 17 жыхароў, у складзе саўгаса «Дасовічы» (цэнтр — в. Дасовічы). Планіровачна складаецца з кароткай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі, забудаванай двухбакова, няшчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**ЧАРНАЗЁМАЎКА** — вёска ў Дашкаўскім с/с, за 14 км на Пд ад Магілёва, 11 км ад чыг. ст. Буйнічы на лініі Магілёў—Жлобін. Рэльеф раўнінны, на Пн і У мяжуе з лесам. Побач з вёскай праходзіць чыгунка. Транспартныя сувязі па шашы Магілёў—Бабруйск, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 23 гаспадаркі, 57 жыхароў (2007).



Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. засценак (7 двароў, 44 жыхары) пры Магілёўска-Бабруйскай шашы. У 1909 г. 16 двароў, 60 жыхароў, у Магілёўскім павеце Магілёўскай губ. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1926 г. 23 двары, 143 жыхары. У 1929 г. арганізаваны калгас «Чырвоная іскра», які ў 1933 г. аб'ядноўваў 42 гаспадаркі. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Партызаны ў 1943 г. разграмілі вал. ўпраўленне акупантаў, якое размяшчалася ў вёсцы. Гітлераўцы спалілі вёску. Пасля вайны адбудавана. На фронце загінула 13 вяскоўцаў. У 1990 г. 11 гаспадарак, 32 жыхары, у складзе эксперыментальнай базы «Дашкаўка» (цэнтр — в. Дашкаўка). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены ўздоўж чыгункі.

**ЧАРНАЗЁМАЎКА**, пасёлак у Дашкаўскім с/с, за 14 км на Пд ад Магілёва, 9 гаспадарак, 24 жыхары (2007). У 1994 г. 8 гаспадарак, 27 жыхароў.

**ЧАРОМУШКІ** (да 21.1.1969 г. пасёлак Дзярж. конегадоўчага завода) — вёска ў Кадзінскім с/с, за 3 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінна-ўзгорысты, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць паблізу вёскі. 155 гаспадарак, 397 жыхароў (2007).

Засн. ў канцы 1950-х г. на месцы цэнтр. сядзібы Вільчанскай МТС. Уваходзіла ў Дарскі, з 1985 г. ў Кадзінскім с/с. Пасля засн. Дзярж. конегадоўчага з-да населены пункт развіваўся як жылы пасёлак гэтага прадпрыемства. У 1990 г. дзейнічала дзяржплемпрадпрыемства па вырошчванні племянных бычкоў. Працавалі магазін, дзіцячы сад, аддз. сувязі, аўтаматычная тэлеф. станцыя, фельч.-акушэрскі пункт, лясніцтва, райплемстанцыя. У 2008 г. дзейнічалі аддз. сувязі, фельч.-акушэрскі пункт, магазін. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1985 г. ін-там «БелНДІгіпрасельбуд». Планіровачна складаецца з плаўна выгнутай вуліцы, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ, якую на Пн і Пд перасякаюць 2 прамалінейныя кароткія вуліцы. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. У цэнтры размешчаны грамадскія будынкі. Тут жа вядзецца жыллёвае будаўніцтва двухпавярховымі мураванымі дамамі і дамамі тыпу катэджаў. На Пн — гасп. сектар.

**ШАПЧЫЦЫ** — вёска ў Мастоцкім с/с, за 9 км на У ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на З і Пд мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса, якая праходзіць непадалёку ад вёскі. 43 гаспадаркі, 68 жыхароў (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. Паводле перапісу 1897 г. вёска (43 двары, 324 жыхары) у Палыкавіцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ. У 1909 г. 60 двароў, 401 жыхар. У 1910 г. адкрыта земская школа, для якой у 1911 г. пабудавана памяшканне. З 20.8.1924 г. ў Мастоцкім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. адкрыта прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 45 вучняў, 2.12.1924 г. створана с.-г. арцель. У 1926 г. 75 двароў, 478 жыхароў. У лютым 1930 г. арганізаваны калгас імя С.М.Будзённага, які ў 1931 г. аб'ядноўваў 63 гаспадаркі, працавала кузня. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 87 гаспадарак, 163 жыхары, у складзе калгаса імя К.С.Заслонава (цэнтр — в. Масток). Размяшчаліся вытв. брыгада, ферма буйной рагатай жывёлы, працаваў магазін. У 2007 г. працавала міні-кафэ. Планіровачна складаецца з працяглай прамалінейнай вуліцы мерыдыянальнай арыентацыі з завулкамі, да цэнтра якой з З падыходзіць кароткая прамалінейная вуліца. Забудавана двухбакова, традыц. драўлянымі да-

мамі сядзібнага тыпу. На паўд.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

За 3,8 км на ПнЗ ад вёскі размешчана Шапчыцкае радовішча пясчана-жвіровага матэрыялу.

**ШАРАЕЎКА** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 25 км на З ад Магілёва, 15 км ад чыг. ст. Галынец на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на У мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Рафалава, Вішоў і далей па шашы Магілёў—Мінск. Пастаяннага насельніцтва няма (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1897 г. хутар (2 двары, 17 жыхароў) у Княжыцкай вол. Магілёўскага павета. У 1909 г. 4 двары, 21 жыхар. З сак. 1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1931 г. арганізаваны калгас «Энергія». У 1940 г. 11 двароў, 59 жыхароў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. Гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 7 жыхароў. У 1990 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе калгаса «Герой працы» (цэнтр — в. Міхалёва). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ШЧЭГЛІЦА** — вёска, у Княжыцкім с/с, за 19 км на З ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 2. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне цячэ р. Лахва (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Прокшанічы, Княжыцы і далей па шашы Магілёў—Мінск. 37 гаспадарак, 88 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1663 г. сяло ў Аршанскім павеце Віцебскага ваяв. З 1772 г. ў Рас. імперыі, 19 двароў, 109 жыхароў, меліся млын і карчма. У 1777 г. сяло ў Магілёўскім павеце. У 1785 г. 22 двары, 151 жыхар, цэнтр маёнтка, шляхецкая ўласнасць, мелася пабудаваная з дрэва царква. У 1805 г. ўзведзена новая драўляная царква. У 1848 г. 29 двароў. Памешчыкам Цімафеевым і Федаровічам належала ў 1872 г. 1142 дзес. зямлі. У 1880 г. 33 двары, 217 жыхароў. Ва ўсіх дварах вяскоўцы займаліся вырабам ільняной і пяньковай кудзелі і тканіны, а таксама посуду і іншых быт. рэчаў з дрэва. У 1880 г. засн. смалакурны з-д. Паводле перапісу 1897 г. ў Княжыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 58 двароў, 410 жыхароў. Дзейнічалі царк.-прыходская школа, для якой у 1910 г. пабудавана памяшканне, хлебазапасны магазін, заезны дом. Побач была аднайменная сядзіба (1 двор, 1 жыхар). У 1905 г. адкрыта казённая вінная крама. У 1909 г. 53 двары, 418 жыхароў. Меўся вінакурны з-д. У маёнтку, што знаходзіўся непадалёку, быў 1 двор, 4 жыхары. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, якой у 1921 г. было перададзена нацыяналізаванае памяшканне. У 1925 г. ў школе было 78 вучняў, дзейнічалі драмгуртох, б-ка. У 1925 г. створана садова-агародніцкае т-ва, якое аб'ядноўвала 15 гаспадарак. У 1930 г. арганізаваны калгас «Авангард» (у 1933 г. аб'ядноўваў 17 гаспадарак). У гэтым жа годзе для школы пабудавана новае памяшканне. Працавалі кузня і ваўначоска. У 1930-я г. пач. школа ператворана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. было 207 вучняў, у іх ліку 79 піянераў. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. На фронце і ў партыз. барацьбе загінулі 25 вяскоўцаў. На ўшанаванне іх памяці ў цэнтры вёскі пастаўлены абеліск. У 1990 г. 76 гаспадарак, 162 жыхары, у складзе калгаса «Беларусь» (цэнтр — в. Мікіцінічы). Размяшчаліся вытв. брыгада, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, зернедрабільня, працавалі 8-гадовая школа, раённая вочна-завочная сярэдняя школа, фельч.-акушэрскі пункт, б-ка, магазін, Дом піянераў і школьнікаў. У 2007 г. дзейнічаў фельч.-акушэрскі пункт. Планіровачна складаецца з працяглай, ламанага абрысу вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай двухбакова, шчыльна, тра-



дыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**ШЧЭЖАР 1** — вёска ў Кадзінскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На Пд цячэ р. Чарняўка (прыток р. Рудзея). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 137 гаспадарак, 337 жыхароў (2007).

Вядома ў ВКЛ з пач. 17 ст. У 1604 г. сяло (61 двор) у Гарбавіцкім войтаўстве Аршанскага павета, дзярж. уласнасць. У 1742 г. мелася карчма. З 1772 г. ў Рас. імперыі. У 1785 г. ў Чавускім павеце, 49 двароў, 320 жыхароў, дварцовая ўласнасць. У 1858 г. 169 рэвізскіх душ, меўся шынок. У 1880 г. 89 двароў, 585 жыхароў. Частка вяскоўцаў займалася калёсным і кравецкім промысламі. У 1886 г. адкрыта школа граматы, ператвораная ў 1902 г. ў царк.-прыходскую. У 1897 г. ў Галянёўскай вол. Чавускага павета Магілёўскай губ., 107 двароў, 693 жыхары. Дзейнічалі паравы млын (з 1894), хлебазапасны магазін, піцейны дом. Побач былі аднайменныя вартоўня (1 двор, 1 жыхар) і заезны дом (1 двор, 6 жыхароў). У 1909 г. 131 двор, 860 жыхароў, дзейнічаў смалярна-дзягцярны з-д.

На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 118 вучняў, дзейнічалі харавы гурток, хата-чытальня, пункт па ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослых. З 17.7.1924 г. ў Лупалаўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 2.3.1931 г. ў Магілёўскім р-не, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас, пач. школа ператворана ў 7-гадовую, у якой у 1936 г. было 300 вучняў, у іх ліку 87 піянераў, 5 камсамольцаў, дзейнічала б-ка. У 1920-я г. вёска Шчэжар падзялілася на вёскі Шчэжар 1 і Шчэжар 2. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 150 гаспадарак, 349 жыхароў, цэнтр калгаса «Перамога». У вёсцы былі размешчаны вытв. брыгада, механічны двор, лесапільня, установка па прыгатаванні вітаміннай мукі, фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая, ветэрынарны ўчастак, працавалі аддз. сувязі, сярэдняя школа (23 настаўнікі), дзіцячы сад-яслі, Дом культуры, фельч.-акушэрскі пункт, комплексны прыёмны пункт быт. абслугоўвання насельніцтва, магазін. Праект планіроўкі і забудовы распрацаваны ў 1980 г. ін-там «Магілёўграмадзянпраект». Мясц. дарога падзяляе вёску на паўд.-зах. (2 прамалінейныя паралельныя вуліцы — адна працяглая, другая кароткая, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ, і злучаныя завулкам) і паўн.-ўсх. (3 прамалінейныя паралельныя паміж сабой вуліцы, арыентаваныя з ПдЗ на ПнЗ і злучаныя завулкам) часткі. Забудавана двухбакова, шчыльна, пераважна драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. Грамадскія будынкі размешчаны вакол плошчы, утворанай у цэнтры, і сярод жылой забудовы. Гасп. сектар — паміж дзвюма часткамі вёскі, абапал дарогі.

**ШЧЭЖАР 2** — вёска ў Кадзінскім с/с, за 16 км на ПдУ ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны. На ўсх. ускраіне цячэ р. Чарняўка (прыток р. Рудзея). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Шчэжар 1 і далей па шашы Магілёў—Мсціслаў. 22 гаспадаркі, 36 жыхароў (2007).

Засн. ў 1920-я г., калі з в. Шчэжар былі ўтвораны вёскі Шчэжар 1 і Шчэжар 2. З 20.8.1924 г. да 16.7.1954 г. цэнтр сельсавета. У 1934 г. арганізаваны калгас імя Л.М.Кагановіча. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У 1990 г. 52 гаспадаркі, 118 жыхароў, у складзе калгаса «Перамога» (цэнтр — в. Шчэжар 1). Размяшчаліся вытв. брыгада і ферма буйной рагатай жывёлы. Планіровачна складаецца з 2 прамалінейных паралельных паміж сабой вуліц, арыентаваных з ПдЗ на ПнУ і злучаных завулкам. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўд. ускраіне — гасп. сектар.

**ШЫЛАЎ ВУГАЛ** — вёска ў Сідаравіцкім с/с, за 33 км на Пд ад Магілёва і чыг. ст. Лупалава на лініі Магілёў—Крычаў. Рэльеф раўнінны, на Пд мяжуе з лесам. Па паўд. ускраіне цячэ р. Паўна (прыток р. Дняпро). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз в. Паўна і далей па шашы Санкт-Пецярбург—Адэса. 43 гаспадаркі, 84 жыхары (2007).

За 0,5 км на ПдЗ ад вёскі знаходзіцца курганны могільнік, які сведчыць аб засяленні гэтых месц у далёкай старажытнасці. Вёска вядома ў Рас. імперыі з пач. 20 ст., калі яна ўваходзіла ў Грудзінаўскую вол. Быхаўскага павета Магілёўскай губ. З 20.8.1924 г. ў Слабодскім с/с Лупалаўскага р-на Магілёўскай акругі (да 26.7. 1930), з 2.3.1931 г. Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 4.6.1965 г. ў Сідаравіцкім с/с. У 1990 г. 76 гаспадарак, 219 жыхароў, у складзе калгаса «Расія» (цэнтр — в. Сідаравічы). Размяшчаліся фермы буйной рагатай жывёлы і свінагадоўчая. Працуе магазін. Планіровачна складаецца з ламанага абрысу вуліцы амаль шыротнай арыентацыі, якую ў цэнтры пад прамым вуглом перакрыжоўвае кароткая крывалінейная вуліца. На ПдУ адасоблена размешчана амаль прамалінейная вуліца, арыентаваная з ПдУ на ПнЗ. Забудавана двухбакова, шчыльна, традыц. драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу. На паўн.-зах. ускраіне — гасп. сектар.

**ЯЗЕРШЧЫНА** — былы пасёлак у Княжыцкім с/с, за 26 км на ПнЗ ад Магілёва і чыг. ст. Магілёў 1.

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1897 г. пасёлак (8 двароў, 68 жыхароў) у Таўпечыцкай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., меліся ветраны млын, царква. У 1909 г. 12 двароў, 145 жыхароў. З 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. З 20.8.1924 г. ў Княжыцкім с/с. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У 1940 г. 35 двароў, 203 жыхары. У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. У маі 1944 г. гітлераўцы поўнасцю спалілі вёску, загубілі 10 жыхароў. У 1990 г. 8 гаспадарак, 19 жыхароў, у складзе калгаса імя М.І.Калініна (цэнтр — в Бракава).

**ЯМІШЧА** — вёска ў Семукацкім с/с, за 33 км на ПдЗ ад Магілёва, 9 км ад чыг. ст. Семукачы на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пн мяжуе з лесам. Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Семукачы, Алень, Кучын і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. Пастаяннага насельніцтва няма (2007).

Вядома ў Рас. імперыі з 19 ст. У 1880 г. сяльцо, 3 двары, 9 жыхароў. З 20.8.1924 г. ў Концінскім, з 21.8.1925 г. ў Хонаўскім с/с Магілёўскага р-на, з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. У 1930-я г. вяскоўцы ўступілі ў калгас. У Вял. Айч. вайну з ліст. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. З 24.6. 1954 г. ў Дасовіцкім, з 4.6.1965 г. ў Семукацкім с/с. У 1990 г. 2 гаспадаркі, 3 жыхары, у складзе саўгаса «Бялевічы» (цэнтр — в. Вялікія Бялевічы). Традыц. драўляныя сял. сядзібы з гасп. пабудовамі пастаўлены каля прасёлачнай дарогі.

**ЯМНІЦА** — вёска ў Вендаражскім с/с, за 18 км на ПдЗ ад Магілёва, 5 км ад чыг. станцыі Галынец на лініі Магілёў—Асіповічы. Рэльеф раўнінны, на Пд і У мяжуе з лесам. На ўсх. ускраіне праходзіць меліярацыйны канал, злучаны з р. Лахва (прыток р. Друць). Транспартныя сувязі па мясц. дарозе праз вёскі Дабрасневічы, Цішоўка і далей па шашы Магілёў—Бабруйск. 13 гаспадарак, 23 жыхары (2007).

За 0,5 км на З ад вёскі на правым беразе р. Лахва захаваўся курганны могільнік, які адносіцца да канца 11 — пач. 12 ст., належаў крывічам. Гэты помнік археалогіі сведчыць аб засяленні тутэйшых месц у далёкай старажытнасці. Вёска вядома ў ВКЛ з 17 ст. У 1680 г. сяло ў валоданні Магілёўскага езуіцкага калегіума. У 1699 г. побач быў маёнтак. З 1772 г. ў Рас. імпе-



рыі. У 1785 г. ў Магілёўскім павеце Магілёўскага намесніцтва, 21 двор, 182 жыхары, уласнасць Магілёўскага езуіцкага кляштара, дзейнічаў вадзяны млын. У 1846 г. ў складзе аднайменнага казённага маёнтка, 25 двароў, 189 жыхароў. У 1880-я г. дзейнічалі млын, вінакурны з-д. Паводле перапісу 1897 г. ў Вендаражскай вол. Магілёўскага павета Магілёўскай губ., 54 двары, 362 жыхары. Мелася вінная крама. У 1908 г. адкрыта земская школа, якая размясцілася ў наёмным памяшканні. У 1909 г. 60 двароў, 405 жыхароў. З 26.4.1919 г. ў Гомельскай губ. РСФСР, з 3.3.1924 г. ў БССР, з 17.7.1924 г. ў Магілёўскім р-не Магілёўскай акругі (да 26.7.1930), з 20.2.1938 г. ў Магілёўскай вобл. На базе дарэв. створана прац. школа 1-й ступені, у якой у 1925 г. было 38 вучняў. Дзейнічала смалакурня. У 1926 г. 82 двары, 473 жыхары. У 1934 г. арганізаваны калгас «17 гадоў Кастрычніка». У Вял. Айч. вайну з ліп. 1941 г. да 27.6.1944 г. акупіравана ням.-фаш. захопнікамі. 20.6.1944 г. партызаны разграмілі гарнізон акупантаў, які размяшчаўся ў вёсцы. З 26.6.1954 г. ў Вендаражскім с/с. У 1990 г. 52 гаспадаркі, 88 жыхароў, у складзе калгаса «Герой працы» (цэнтр — в. Міхалёва). Размяшчалася ферма буйной рагатай жывёлы, працавалі ўчастковая бальніца, аптэка, магазін, 8-гадовая школа, клуб, аддз. сувязі. У 2007 г. дзейнічала ўрачэбная амбулаторыя. Планіровачна складаецца з ламанага абрысу вуліцы з завулкамі, арыентаванай з ПдУ на ПнЗ і забудаванай драўлянымі дамамі сядзібнага тыпу.

**КРЫНІЦЫ І ЛІТАРАТУРА**

Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф. 1, воп. 1, спр. 445; ф. 4, воп. 28, спр. 67, 102, 196, 238; ф. 6, воп. 1, спр. 335, 543, 2498, 2901; ф. 30, воп. 1, спр. 1385; воп. 2, спр. 621, 1122, 1093, 1385, 6125, 6126; ф. 31, воп. 1, спр. 23/17, 23/19, 23/21, 843; воп. 11, спр. 1341; ф. 32, воп. 1, спр. 23/21; ф. 35, воп. 4, спр. 96а; ф. 42, воп. 1, спр. 1156, 930, 942, 1127, 1756, 1842, 2130, 4121, 4130, 4224, 4255; воп. 2, спр. 422, 4125—4128, 4130, 4133, 4136, 4139, 4140, 4146, 4150, 4152, 4153, 4156—4159, 4162—4166, 4169, 4171, 4176, 4177, 4179, 4181, 4183, 4184, 4186, 4187, 4191, 4193, 4196, 4199, 4201—4203, 4206—4208, 4211, 4213—4215, 4217, 4220, 4222—4227, 4229, 4231, 4232, 4237, 4239, 4241—4245, 4248—4252, 4254, 4256, 4258—4261, 4263, 4292, 4297; ф. 46, воп. 1, т. 2, спр. 519, 4184; ф. 48, воп. 1, спр. 2162, 2315, 2733, 2881, 2962, 3412, 3818, 4928, 4999, 5020, 5028, 5030, 5063, 5162, 5174; ф. 50, воп. 3, спр. 122, 5174; ф. 60, воп. 1, спр. 445; ф. 102, Д-4, спр. 41; ф. 141, воп. 1, спр. 252; ф. 258, воп. 1, спр. 63; воп. 2, спр. 12; ф. 334, воп. 1, спр. 367, 447, 470, 500; воп. 2, спр. 33, 35, 37, 470; ф. 338, воп. 1, спр. 119, 140, 221; ф. 448, воп. 1, спр. 140; ф. 1024, воп. 1, спр. 640, 681, 715, 831; ф. 3500, воп. 4, спр. 96, 96а, 96б.
Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, КМФ-5, воп. 1, спр. 467а, 2504, 2505; ф. 30, воп. 2, спр. 6126; ф. 42, воп. 2, спр. 4120; ф. 142, воп. 1, спр. 36; ф. 694, воп. 4, спр. 5725, 5728; ф. 1290, воп. 1, спр. 1341; ф. 1291, воп. 1, спр. 18445; ф. 1297, воп. 1, спр. 1410, 18712, 19712; ф. 1731, воп. 1, спр. 46; ф. 1781, воп. 26, спр. 1397, 1400; ф. 2001, воп. 1, спр. 81; ф. 2014, воп. 1, спр. 9, 9а, 30, 195, 196, 246, 255, 261, 306, 319; ф. 2072, воп. 1, спр. 5, 7, 91, 106, 158, 170; ф. 2151, воп. 1, спр. 1, 61, 128; ф. 2189, воп. 1, спр. 225, 234, 296; ф. 2221, воп. 1, спр. 9, 15—17, 19, 20, 22, 23, 65, 66.
Дзяржаўны архіў Магілёўскай вобласці, ф. 26., воп. 2, спр. 5; ф. 42, воп. 3а, спр. 422; ф. 48, воп. 1, спр. 5030; ф. 812, воп. 1, спр. 410, 412; ф. 1598, воп. 1, спр. 376, 410; ф. 2026, воп. 1, спр. 1; ф. 2504, воп. 1. спр. 235; ф. 2874, воп. 1, спр. 235; ф. 2877, воп. 1, спр. 265; ф. 6620, воп. 1, спр. 8.
Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў, ф. 389, воп. 1, спр. 41, 50, 65; ф. 1355, воп. 1, спр. 719.
Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў, ф. 577, воп. 19, спр. 81, 96, 678, 693, 744, 752, 764, 767, 1341, 1471; ф. 822, воп. 11, спр. 866а, 883а; воп. 12, спр. 2589, 2619; ф. 823, воп. 2, спр. 1631; ф. 1290, воп. 11, спр. 1341, 1347, 1353, 1375, 1378; ф. 1350, воп. 312, спр. 94—96; ф. 2290, воп. ПП, спр. 1375.




Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў г. Санкт-Пецярбурга, ф. 577, воп. 19, спр. 4, 53, 69, 81, 676, 703, 707, 711, 753, 766, 693, 1537, 1548.
Архіў Расійскай акадэміі навук: Пецярбургскае аддз., ф. 30, воп. 2, спр. 30, 113; ф. 52, воп. 1, спр. 5; ф. 87, воп. 1, спр. 5.
Дзяржаўны гістарычны архіў Літвы, ф. ДА, спр. 92, 3236, 3280, 3722, 3802; КМФ-1, воп. 2, спр. 467; ф. 1276, воп. 1, спр. 584.
Дзяржаўны гістарычны архіў Украіны, ф. 575, воп. 1, спр. 244.
Аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі ў Санкт-Пецярбургу, ф. Эрм., спр. 278/3; ф. IV, 768.
Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта, ф. 4, спр. 4914, 12026.
Аддзел рукапісаў і рэдкіх кніг Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літвы, ф. 16, спр. 131.
Бібліятэка Чартарыйскіх у Кракаве, РА, спр. 4568, IV.
Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8, ч. 3. СПб., 1848.
Приложение к Трудам редакционных комиссий... Т. 6. СПб., 1860.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1861 г. Могилев, 1861.
Памятная книжка Виленского учебного округа на 1874 г. Могилев, 1874.
Дембовецкий А.С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн 2—3. Могилев, 1884.
Волости и важнейшие селения Европейской России. Вып. 5. СПб., 1886.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1889—1890 учебный год. Могилев, 1889.
Фабрично-заводская промышленность: перечень фабрик и заводов. СПб., 1897.
Календарь для духовенства Могилевской епархии на 1899 г.
Могилев, 1899.
Список фабрик и заводов Европейской России. СПб., 1903.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1905 г. Могилев, 1905.
Памятная книжка Могилевской дирекции народных училищ на 1907—08 учебный год. Могилев, 1907.
Список населенных мест Могилевской губернии. Могилев, 1910.
Памятная книжка Могилевской губернии на 1911 г. Могилев, 1911.
Романов Е.Р. Белорусский сборник. Вып. 8. Вильна, 1912.
Список фабрик и заводов Российской империи. СПб., 1912.
Календарь-справочник Могилевского земства на 1917 г. Могилев, 1916.
Соха и молот. 1919. 16 сент.
Спіс прамысловых прадпрыемстваў БССР. Вып. 2. Мн., 1935.
Крестьянское движение в Белоруссии после отмены крепостного права (1861—1862 гг.): док. и материалы. Мн., 1959.
Сацыялістычная праца. 1939. 6 ліст.
За камуністычную працу. 1961. 24 чэрв.; 1974. 18 мая; 1978. 28 сак.; 1979. 30 жн.
Крестьянское движение в России в 1881—1889 гг.: сб. док. М., 1960.
Хохлов А.Г. Красная гвардия Белоруссии в борьбе за власть Советов (март 1917 — март 1918 гг.). Мн., 1965.
Солодков Т.Е. Борьба трудящихся Белоруссии против царизма (1907—1917 гг.). Мн., 1967.
Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці. Мн., 1975.
Мелешко В.И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.). Мн., 1975.
Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии, 1941—1944. Мн., 1984.
Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі: Магілёўская вобл. Мн., 1986.
Административно-территориальное устройство БССР: справ. Т. 1—2. Мн., 1985—87.
Ветераны ленинской партии. Мн., 1987.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

## УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ НА КАРТАХ РАЁНАЎ

### НАСЕЛЕНЫЯ ПУНКТЫ

**Паводле адміністрацыйнага значэння**

 Цэнтр вобласці

 Цэнтры раёнаў

 Цэнтры сельсаветаў

**Паводле тыпу паселішча**

| | |
|---|---|
| БЫХАЎ | Гарады |
| Дрыбін | Пасёлкі гарадскога тыпу |
| *Слабада* | Сельскія населеныя пункты |
| *Лудчыцы* | Населеныя пункты, назвы якіх супадаюць з назвамі чыгуначных станцый |

### МЕЖЫ

 дзяржаў

 абласцей

 раёнаў

 заказнікаў

### ШЛЯХІ ЗНОСІН



Чыгункі, чыгуначныя станцыі, прыпынначныя пункты

**Аўтамабільныя дарогі**

 Аўтамагістралі

 з удасканаленым пакрыццём

 з пакрыццём

 без пакрыцця

 Грунтавыя дарогі

 Палявыя і лясныя дарогі

 Масты, плаціны

**Скарачэнні, прынятыя на картах раёнаў**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| вдсх. | вадасховішча | запав. | запаведнік | Нов. | Новы |
| Верх. | Верхні | кан. | канал, канава | р-н | раён |
| вобл. | вобласць | Красн. | Красны | Стар. | Стары |
| воз. | возера | Мал. | Малы | Чырв. | Чырвоны |
| Вял. | Вялікі | Ніж. | Ніжні | | |

абл. — абласны
агр. — аграрны
агульнаадукац. — агульнаадукацыйны
аддз. — аддзяленне
адм. — адміністрацыйны
адм.-гасп. — адміністрацыйна-гаспадарчы
адм.-тэр. — адміністрацыйна-тэрытарыяльны
акупац. — акупацыйны
акц. т-ва — акцыянернае таварыства
арг-цыя — арганізацыя
артыл. — артылерыйскі
арх. — архітэктурны
археал. — археалагічны
асн. — асноўны
афіц. — афіцыйны
аўтадарога — аўтамабільная дарога
б. — былы (пры назве)
БДУ — Беларускі дзяржаўны універсітэт
бел. — беларускі
біягр. — біяграфічны
б-ка — бібліятэка
быт. — бытавы
в. — вёска (пры назве ў адз. ліку)
вайск. — вайсковы
вал. — валасны
ваяв. — ваяводства
вер. — верасень
ВНУ — вышэйшая навучальная ўстанова
вобл. — вобласць (пры назве)
воз. — возера (пры назве)
вол. — воласць (пры назве)
выд. — выданне
выд-ва — выдавецтва
вытв. — вытворчы
вытв-сць — вытворчасць
выяўл. — выяўленчы
вял. — вялікі
Вял. Айч. вайна — Вялікая Айчынная вайна
ВКЛ — Вялікае княства Літоўскае
вярх. — вярхоўны
Вярх. Савет — Вярхоўны Савет
г. — горад/гара (пры назве ў адз. ліку)
г. — год (1921 г.), гады (1950-я г.)
гг. — гады (1830—31 гг., 1935 і 1937 гг.)
газ. — газета
гал. — галоўны
гандл. — гандлёвы
гар. — гарадскі
гарсавет — гарадскі Савет
гасп. — гаспадарчы

гв. — гвардзейскі
геагр. — геаграфічны
ген. — генеральны
ген. — генерал (пры імені)
ген.-лейт. — генерал-лейтэнант
ген.-маёр — генерал-маёр
ген.-палкоўнік — генерал-палкоўнік
герм. — германскі
гіст. — гістарычны
г.п. — гарадскі пасёлак (пры назве)
грамадз. — грамадзянскі
губ. — губернскі
губ. — губерня (пры назве ў адз. ліку)
дакум. — дакументальны
дзярж. — дзяржаўны
дзес. — дзесяціна
дэп. — дэпутат
еўрап. — еўрапейскі
жал. — жалезны
жн. — жнівень
З — захад (напрамак)
засл. — заслужаны
засн. — заснаваны
зах. — заходні
з-д — завод
індустр. — індустрыяльны
ін-т — інстытут
каап. — кааператыўны
каап. — кааперацыйны
калект. — калектыўны
кастр. — кастрычнік
кн. — кніга (пры назве)
кн. — князь (пры імені)
крас. — красавік
к-т — камітэт
культ. — культурны
культ.-асв. — культурна-асветны
ліп. — ліпень
літ. — літоўскі
ліст. — лістапад
л-ра — літаратура
манум. — манументальны
маш.-буд. — машынабудаўнічы
МТС — машынна-трактарная станцыя
муз. — музычны
мяст. — мястэчка (пры назве)
мясц. — мясцовы
н. — нарадзіўся
найб. — найбольш(ы)
навук. — навуковы
навуч. — навучальны
надрук. — надрукавана
наз. — называецца
нам. — намеснік
нар. — народны
нар.-гасп. — народна-гаспадарчы
нац. — нацыянальны
нац.-вызв. — нацыянальна-вызваленчы
нач. — начальнік
н.-д. — навукова-даследчы
н.с. — новы стыль
н.э. — наша эра
ням. — нямецкі
ням.-фаш. — нямецка-фашысцкі
пав. — павятовы
паветр. — паветраны
падп. — падпольны
пал. — палавіна
пам. — памочнік
парт. — партыйны
партыз. — партызанскі
патрыят. — патрыятычны
пас. — пасёлак (пры назве)
пас. — пасялковы
пaўд. — паўднёвы
паўн. — паўночны
пач. — пачатак
пач. — пачатковы
Пд — поўдзень (напрамак)
ПдЗ — паўднёвы захад
ПдУ — паўднёвы ўсход
пед. — педагагічны
перыяд. — перыядычны
пл. — плошча
Пн — поўнач (напрамак)
ПнЗ — паўночны захад
ПнУ — паўночны ўсход
правадз. — правадзейны
прам. — прамысловы
прам-сць — прамысловасць
праф. — прафесар
прафес. — прафесійны
прафс. — прафсаюзны
прац. — працоўны
пях. — пяхотны
р. — рака (пры назве)
р-н — раён
р.п. — рабочы пасёлак (пры назве)
рас. — расійскі
рус. — рускі
рэв. — рэвалюцыйны
рэліг. — рэлігійны
рэсп. — рэспубліканскі
с. — старонка
с. — сяло (пры назве ў адз. ліку)
сав. — савецкі
Сав. Армія — Савецкая Армія
сак. — сакавік
сапр. — сапраўдны
сац. — сацыяльны
сацыяліст. — сацыялістычны
с.-г. — сельскагаспадарчы

СВК — сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў
СВП — сельскагаспадарчае вытворчае прадпрыемства
с.-д. — сацыял-дэмакратычны
слав. — славянскі
снеж. — снежань
спец. — спецыяльны
спарт. — спартыўны
с/с — сельсавет (пры назве ў адз. ліку)
с. ст. — стары стыль
ст. — стагоддзе (пры лічбе)
ст. — станцыя (пры назве)
стараж. — старажытны
стралк. — стралковы
студз. — студзень
сухап. — сухапутны
сял. — сялянскі
т-ва — таварыства
традыц. — традыцыйны
тэлегр. — тэлеграфны
тэлеф. — тэлефонны
тэр. — тэрыторыя
тэхн. — тэхнічны
У — усход (напрамак)
узбр. — узброены
укл. — уключна
укр. — украінскі
ун-т — універсітэт
унутр. — унутраны
усх. — усходні
фаш. — фашысцкі
феад. — феадальны
ф-ка — фабрыка
ф-т — факультэт
фельч.-акушэрскі — фельчарска-акушэрскі
харч. — харчовы
царк. — царкоўны
цэнтр. — цэнтральны
чал. — чалавек (пры колькасных паказчыках)
чл. — член
чл.-кар. — член-карэспандэнт
чыг. — чыгуначны
чыг. пст. — чыгуначны паўстанак (пры назве)
чыг. ст. — чыгуначная станцыя (пры назве)
чэрв. — чэрвень
шматнац. — шматнацыянальны
эканам. — эканамічны
юрыд. — юрыдычны
яўр. — яўрэйскі

# ЗМЕСТ

